



*Беларуская проза XX стагоддзя*

Кудраўца цікавіць уся сукупнасць праяў духоўнага, грамадскага жыцця чалавека, цікавіць чалавек у складаных, апасродкаваных сувязях з сучаснасцю і з мінулым, цікавіць чалавечая асоба ў працэсе пошукаў, у станаўленні. Герой Кудраўца шукае самога сябе, свайго месца ў жыцці, шукае сэнсу жыцця і прызначэння чалавека. Можа, ён часта памыляецца, але ўрэшце знаходзіць свой шлях — шлях сумленнага служэння людзям, свайму народу.

*Міхась Мушынскі*

# Анатоль Кудравец

# Позня яблыкі

*Выбранае*

Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1999

Нараджаемся мы простымі людзьмі,
а паміраць нам трэба было б як багам.

*Дзюла Йеш*

# I

Калі выходзіць з Клубчы ў Ліпніцу, то адразу па левую руку будзе калгасны машынны двор. Доўгія гады тут на галяку, збіўшыся ў кучу, нібы так было цяплей, стаялі трактары, камбайны, сеялкі... Трошкі наўзбоч, ля пачарнелых ад пылу і чаду лазовых кустоў, як парудзелыя косці невядомых дагістарычных істот, валялася рознае жалезнае ламачча — паламаныя культыватары, граблі, бароны. Нярэдка трапляла сюды і зусім новае, пафарбаванае ў вясёлыя заводскія колеры прычындалле да розных машын,— тое, чаму калгасныя механізатары не маглі прыдумаць разумны ўжытак. Праз якога паўгода і прычындалле гэта цяжка было адрозніць ад усёй старой іржавай непатрэбшчыны.

Так было некалі, а правільней, яшчэ гадоў дзесяць таму, пры Заборскім. Цяпер тут вялізнай літарай «П» усталі зборныя цэментовыя павеці — разумная палёгка для людзей і тэхнікі. Праўда, жалезнага ламачча не паменела; проста яго пачалі скідваць у кустах за сценамі павеці — далей ад дасужага вока.

За машынным дваром будуць могілкі — дзесяткі два рассыпаных па пясчаным пагорку чорна-каравых старых бяроз, абнесеных невысокім дашчаным плотам. Плот, а болей рознае кустоўе, што заўсёды добра расце на магілах і ля іх, надзейна схавалі крыжы, помнікі і металічныя абгародкі, і толькі падышоўшы блізка, можна ўпэўніцца, што гэта не лясок.

Скажам проста: месца для могілак выбрана не самае лепшае, а можа, і горай таго. Нябожчыкам, хоць ім цяпер нібыта ўжо і ўсё роўна, не пашанцавала. Хто гэта хавае людзей у самым сяле? Тут усё ўсякае — то «мацько», то «госпадзі», то куры, то сабакі, а мёртвыя любяць ляжаць спакойна, і вушы ім не заткнеш.

Так лічыць Ігнат Сцяпанавіч і шмат чаго можа дадаць у абарону сваёй праваты. Узяць хаця б восень сорак другога, калі партызаны бралі валасны гарнізон, а быў

ён у старой школе, лічы, у цэнтры сяла, і меў, ні многа ні мала, шэсцьдзесят чалавек. Сіла — дай божа. Немцы таксама былі не дурні, ведалі, што тут, на мяжы Царабольскіх лясоў, якія партызаны адразу абжылі, дзесяць — пятнаццаць чалавек — нішто.

Як выйшла пасля, дык і шэсцьдзесят было тое ж нішто: якія-та партызаны стануць цярпець такую скулу пад бокам, на самым хаду. Дарогі ў глыб раёна хоць і гразкія, ведама, лес ды балота, затое можна дастаць і да Асіповіч і да Бабруйска. Там шаша, там чыгунка. Таму партызаны і паставілі кулямёт на рагу могілак. Месца пахватное; гэта цяпер павеці, зернесушылка ды майстэрня з запраўкай адгарадзілі могілкі ад сяла, а тады ўсё было відна, як на талерцы. І да школы метраў трыста, не болей. Школа — гэта ўжо так, на крайняе, там хлопцы самі ведалі, што рабіць, а кулямёт у засадзе, калі раптам пабягуць сюды. А пабегчы павінны: сюдой прасцей выскачыць на дарогу ў раён, да сваіх.

Так яно і сталася. Вартавога знялі ціха і закідалі школу гранатамі, але тыя, што былі ў суседніх са школай хатах, павыскоквалі і пачалі адстрэльвацца. Убачылі, што адбіцца не ўдасца, сталі адыходзіць на могілкі. Была ўжо раніца, туман раскалыхаўся, і белыя постаці немцаў і паліцэйскіх — як выскачылі, так і прынялі бой, якая тут ужо форма,— відны былі добра, як белыя грыбы. Вось тут і сказаў сваё кулямёт. Злосці было і ў яго, і ў тых, што па баразнах бульбы перабягалі сюды. Пашчапалі крыжоў шмат. Было два мармуровыя помнікі — і тым дасталося. Дзе ўжо тут: зняўшы галаву, па валасах не плачуць. Аднаго з немцаў кулямётчык расстраляў, можна сказаць, у апошнюю секунду: той дапоўз па канаве праз дарогу да могілак і прыўстаў на калена, каб разануць з аўтамата... А двум усё-такі ўдалося вырвацца з сяла. Пакуль ішоў бой ля школы, яны пазахлеўю дабеглі ў канец пасёлка, але кінуліся не ў бок могілак, а правей, па лагчыне. Разлік быў правільны. Гэта самая кароткая дарога да лесу, і яна не праглядвалася з сяла, калі забыцца, што перад лесам рабілася круцейшай. Яно і ўзлобак той можна было абысці балотцам, што і зрабіў адзін з іх. А другі пайшоў напрасткі. Можа, рашыў, што ўжо адбегся далёка, а можа, і страх гнаў хутчэй у лес. Але як толькі ён вылез з лагчыны і паказаўся ва ўвесь свой рост, грымнуў стрэл. Аказваецца, яго даўно цікаваў

партызан, паклаўшы вінтоўку на жэрдку плота. Калі ведаць, што ў самога цябе не стрэляць ззаду, ды прыстроіцца на што цвёрдае, можна добра прыцэліцца.

Той адзін, што ўцёк, быў ліпніцкі Стась Мастоўскі. Ён дабраўся да раёна і сказаў, што гарнізона ў Клубчы няма ўжо і нават школа, дзе ён размяшчаўся, згарэла.

Скрозь чорнае сіта надмагільных бяроз угары свіцілца парудзелая бляшаная дзежка воданапорнай вежы. Без гэтай дзежкі не змаглі б жыць сваім тлумна кароткім канвеерам насельнікі трох шырокіх, раскірэчаных на зямлі свінарнікаў. Зноў жа, навошта было іх тут ставіць? Хіба месца кругом мала? Заборскаму так захацелася — Заборскі так зрабіў. Яму што? Ні бацькоў, ні сваякоў ягоных тут не было, а цяпер і падаўна не будзе. Прыехаў і паехаў.

Далей за могілкамі і бліжэй да дарогі пад вострым чарапічным дахам стаіць двухпавярховая будыніна, складзеная з чэсаных стрыжнёвых бёрнаў на чысты, «нямецкі» вугал, без моху, але так, што цяжка ўгледзець паз між тых бёрнаў. Будыніна пачарнела ад часу, дажджу і снегу, бёрны пабіла трэшчынамі, цёмна-зялёныя плешыны моху папаўзлі па некалі густа-чырвонай рабрыстай чарапіцы. Здаецца, што прастаяла гэта будыніна тут увесь свой век, ды некаму ўздумалася забіць дошкамі дзверы і акно на другім паверсе, і зроблена гэта было абы-як, сырымі дошкамі, і яны паспелі з часам пабрацца чарнатой, парассыхаліся, а плешкі цвікоў заржавелі.

Але гэта здаецца толькі на першае вока і калі глядзець здаля, з дарогі. А калі падысці бліжэй і прыгледзецца, то адразу ўбачыш, што гэта зусім не так. Падмурак зеплены як бы ўпохапкі. Месцамі гэта вялікія каменні-галышы, звязаныя цэментовым растворам, і відно, што раствору не шкадавалі і хляпалі абы-як,— пырскі пазастывалі шурпатымі наростамі; месцамі цэлыя латкі падмурка з колатых каменняў, павырываных са старой кладкі. З аднаго боку двухстворкавыя дзверы моцныя, шчыльныя, на завесах з тоўстага ліставога жалеза з фігурнымі разводамі, а з другога боку не то дзверы, не то вароты, збітыя з першых, што трапілі пад руку, дошак. І збіты яны даўно і цяпер пачарнелі і рассохліся.

І прыбудоўкі няма. Пра тое, што некалі яна была, сведчаць святлейшыя пляміны на сцяне паабапал дзвя-

рэй і вышэй, аж на другі паверх, і зведзены на конус, як у даху, абрыс яго.

Гэта здагадкі выпадковага чалавека, які ўбачыў будынак і якому раптам закарцела б падзівіцца на яго зблізку, а Ігнат Сцяпанавіч расказаў бы шмат болей.

Урэшце, яго і прасіць доўга не трэба, бо ў будынку гэтым калгасны млын і прывад для пілы-цыркуляркі, а начальнік усяго гэтага — Ігнат Сцяпанавіч. Гуляць у маўчанку ён ніколі не любіў і не любіць.

— Вапшчэткі, кожны мае што сказаць, трэба толькі знайсці пункт ахвоты ці другое што важнае,— гаворыць Ігнат Сцяпанавіч, чапляючы замок на прабой рассохлых дзвярэй. Чапляе замок ён з паспешлівасцю, нібы за дзвярыма не меней як склад стратэгічнай зброі, і Ігнат Сцяпанавіч не мае права паказаць яго нават самаму блізкаму чалавеку.

Гаворыць гэтыя словы Ігнат Сцяпанавіч да Валеры. Стала няпісаным законам, што са школы Валера ішоў не пасёлкам, разам з усімі школьнікамі, а заварочваў сюды. Далей яны пойдуць разам да Ліпніцы, як гэта бывае часта, можна сказаць, ледзь не кожны дзень.

— Узяць хоць бы Туміловічавага Сідара. Ён ніколі болей двух слоў сказаць не ўмеў, ды і тыя — «дай закурыць», а калі можна было, то і саўсім маўчаў. Хаця і работа ў яго была такая: сторож ды ноччу. А з кім можна ноччу гаварыць? Хіба з сабакам, калі трэцца ля нагі. А як у пяцьдзесят шостым годзе, а зіма тады снегу дала шмат, ля цялятніка намяло па самыя кроквы, вот па гэтай гары ваўкі і залезлі на страху. Знайшлі саламяную латку, разгрэблі яе і — усярэдзіну. Пяцярых цёлак зарэзалі. Прыйшлі цялятніцы раніцай карміць, а тыя ляжаць з выпушчанымі каўбамі. Ды і то, відаць, перабунтаваў нехта, бо маглі б усіх перарэзаць.

Знайшлі Сідара, а ён сабе спіць на печы. «Дзе ты быў і што бачыў? Во табе тэлефон — дакладвай старшыні, як усё сталася». Сідар і так не жывы быў, калі ўбачыў, як распарадзіліся ваўкі, а хто ж пазычыць смеласці сказаць пра гэта старшыні, але дзявацца няма куды. Узяў у рукі тэлефон і гаворыць у трубку: «Дык во, Сямён Марцінавіч, учора гэта нічога ніякага, а сёння — нá табе во што...» Старшыня нічога не разумее, а гэты зноў сваё: «Дык во, Сямён Марцінавіч, учора нічога ніякага, а сёння нá табе — во што...» Разы са тры паўтарыў, пакуль

той не ацверазіў яго матам. «Што такое «во што»?» Толькі тады Сідар знайшоўся і са злосцю крыкнуў: «Не ведаеце, што такое «во што»?.. Дык наце! Ваўкі ноччу пяць цёлак зарэзалі — во што!» Як ён тады жыў застаўся, мала хто здагадваўся. Судзіць збіраліся за халатнасць, што не ўпільнаваў дзіркі той. Заборскі чалавек быў крутога нораву, і яно так часта бывае: учора нічога ніякага, а сёння на табе...— у голасе Ігната Сцяпанавіча прабіваецца заклапочанасць, нават злосць.

— Нешта я лесу даўно не бачу ля млына. Ці дошкі ўжо нікому не трэба? — пытаецца Валера, азіраючыся кругом.

— Каму трэба, каму не трэба. Сёння завярнуў на сваім «газіку» Ганчаронак, старшыня. Зайшоў усярэдзіну, аблазіў усё, пашчупаў, дзе што як. Пытаецца: «3 годзік яшчэ бабулька гэта нам паслужыць ці не?» Кажу: «І болей паслужыць, калі з галавой...» Словам, ніякіх дошак. Ёсць сталярны цэх, хай там і разбіраюцца. А тут толькі зярно малоць. Вапшчэткі, яно і праўда: у іх там вертыкальныя пілы, станкі розныя, а не проста голая кацёлка, як у нас...

— Значыць, дзядзька Ігнат, аб'екту нашаму прыходзіць канец? — па-свойму растлумачыў сітуацыю Валера.

Валера сказаў «нашаму» не проста так. Ігнат Сцяпанавіч даўно навучыў яго хадзіць ля пілы, запускаць жорны, і Валера падмяняў Ігната Сцяпанавіча, калі была ў гэтым пільная патрэба.

Ігнат Сцяпанавіч не сказаў нічога. Паклаў ключ у кішэню і па раскіслай зямлі пайшоў на дарогу. Валера ішоў услед.

— А чаму-та вы сёння не на матацыкле? — зноў спытаў Валера, скіроўваючы думкі Ігната Сцяпанавіча на іншае.

— Вапшчэткі, нешта матор стаў барахліць. Хаця з маторам можна было б прыдумаць што... сам бачыш, на Яворскай грэблі такая каша — танк патопіш, сунуўшы... А матацыкл, скажу табе, калі здаровы,— і па гразі, і па снезе валачэ, як звер.

«Звер» — гэта трохсільны драндулет Мінскага велазавода, самая першая мадэль, якую цяпер наўрад ці ўбачыш дзе-небудзь нават у музеі. Ігнат Сцяпанавіч узяў яго цераз сельпо, як толькі яны пайшлі ў прадажу. «Вап-

шчэткі, машына не ўступае заграічным маркам»,— упарта сцвярджаў ён, калі хто-небудзь заводзіў гаворку пра тое, што матацыкл надта трашчыць і не дае спаць не толькі сабакам, а і людзям.

Ігнат Сцяпанавіч зрабіў для яго прычэп на веласіпедных колах і чаго толькі ні ўхітраўся цягаць на ім — дровы, мяхі з мукой і цэментам, скрынкі з гусямі і парасятамі, нават жэрдзе. Але не было нічога страшнейшага на свеце, чым бачыць, як Ігнат Сцяпанавіч вязе з дальняй дзялянкі сена. Разагнаўшы свой мотафургон у ляску (там дарога ішла ўніз), ён вырываўся на роўнае і, набіраючы ўсё большую хуткасць і сеючы за сабой ашмоцце сена, як тарпеда, нёсся да сяла. Здавалася, няма такой сілы, якая магла б спыніць гэтую шалёную тарпеду, спераду якой, сагнуўшыся ў тры пагібелі, дабравольным смяротнікам сядзеў Ігнат Сцяпанавіч. Палохаючы да смерці сонных курэй, Ігнат Сцяпанавіч імчаў міма свайго двара і аднаму яму вядомай сілай спыняў свой мотафургон дзе-небудзь ля трэцяй ці чацвёртай хаты. Потым доўга адчапляў прычэп і, упрогшыся ў яго сам, дабаўляў сена дамоў...

А што ў Яворскае балота цяпер лепей не совацца, гэта чыстая праўда: гразі там па вушы.

Ігнат Сцяпанавіч спыняецца на дарозе, дастае з кішэні металічны партабак з гончым сабакам на крышцы, з другой кішэні дастае піпку, натоптвае махоркай. Дастае запалкі, раскурвае піпку. Усё гэта робіць з маўклівай засяроджанасцю на сваім занятку. Нарэшце глыбока зацягваецца, пускае дым, гаворыць ціха, як сам сабе:

— Камень на адным месцы і той абрастае, а пачні качаць яго туды-сюды — у порах рассыплецца.

— Усё ж цэнтр калгаса: кантора, школа, сельсавет,— разважае Валера, падкідваючы плечуком разбухлую ад сшыткаў і падручнікаў сумку. Ён нібы хоча суцешыць Ігната Сцяпанавіча.

— Ты навучыўся гаварыць, як некалі Заборскі. Любіў такое: «Усё павінна быць у адным кулаку...» І пасцягваў усё, што паспеў. Вунь, ачапіў могілкі з усіх бакоў,— Ігнат Сцяпанавіч ківае назад.— Стаяў млын у Ліпніцы і хай бы стаяў. Дык не, захацелася сарваць...

Млын і сапраўды раней быў у Ліпніцы, і рух жыццю яго даваў паравік, што стаяў у прыбудоўцы з такіх жа чэсаных і добра падагнаных бёрнаў, як і ўвесь будынак.

Вялізныя, метра паўтара ўпапярок, камяні жорнаў цяжка шаргацелі на другім паверсе. Паўз камяні да глыбокага, збітага з дзюймовых дошак каша вяла крутая лесвіца. Калі на дварэ стаяла паганая пагода, мяхі з зернем згружаліся ў сярэдзіну млына і па гэтай лесвіцы дабаўляліся наверх. Разварочвацца з мехам было тут не надта зручна, асабліва калі трэба было размінуцца дваім, мала прасторы, але што паробіш. Пры добрай пагодзе мяхі дабаўляліся адразу да каша па лесвіцы, што ішла звонку паўз сцяну.

Чахкаў паравік, шырокі брызентавы пас гнаў яго сілу галоўнаму валу, той верхняму каменю жорнаў. Камень спачатку павольна, быццам нехаця, зрушваўся з месца, потым ішоў хутчэй і хутчэй, пакуль не набіраў свой размераны шматтонны кругавы гон, ад якога дрыжалі, хадзілі ў бакі дубовыя апорныя стойкі, глуха гулі і ўздрыгвалі сцены. Адчувалася, што сілы ў паравіку нашмат болей, чым ён яе выказвае, і калі б даць яму волю, ён бы давёў, што гэта такое. Але людзям трэба была яго разумная сіла, і яны бралі яе, даючы яму разгону столькі, колькі трэба было ім.

Любіў Ігнат Спяпанавіч пакінуць качагарку і выйсці ў цемнату ночы, падзівіцца, як узлятаюць угору, нібы жывыя, і тут жа мітусліва паміраюць зыркія іскры. Колькі трэба іх, гэтых іскраў, каб прымусіць жорны круціцца? І глухі голас млына здаваўся Ігнату Сцяпанавічу раўнамерным уздыханнем здаровага чалавека, які робіць цяжкую, але па сіле, работу і робіць яе ў ахвоту. «У-у-ух! У-ха-ха! У-у-ух! У-ха-ха!..»

Сыпалася мука з жолаба ў падстаўленыя мяхі, хораша пахла, серабрыла белым пылам бровы і вусы дзядзькоў, і яны задаволена ўсміхаліся, засяроджаныя на нейкіх сваіх думках, абзываліся моцным крыкам, каб перамагчы шум і грукат, які глушыў усё вакол.

Паравік адслужыў сваё, і ніщто ўжо не магло вярнуць яго да жыцця. Ігнат Сцяпанавіч зразумеў гэта першы чым хто. Пад Новы год ужо засыпалі апошні мех — малолі ячмень для свінарнікаў,— як раптам зашыпела нешта ў катле, пайшла пара, затапіла ўсё, і нічога нельга было ўбачыць ні ў качагарцы, ні за сцяной, у млыне.

Ігнат Сцяпанавіч заліў агонь у топцы, адправіў мужыкоў дамоў і сам пайшоў: у распалены кацёл не палезеш. Прыйшоў назаўтра, праверыў і нос апусціў: па-

цяклі трубы. Каб яшчэ адна, дзве, а то адразу пяць... І астатнія... пазногцем стукаеш — угінаюцца. Нібы папяровыя.

Вясной паравік зацягнулі на металалом, а будынак рашылі перакінуць сюды, у Клубчу. Рашылі. Рашыў старшыня, усё той жа Заборскі, мужык нервовы і нецярплівы да ўсіх, акрамя хіба сябе ды яшчэ двух чалавек у калгасе: галоўнага рахункавода і галоўнага агранома. Галоўным рахункаводам быў Мікіта Гонта — мужчына даўгі і худы, з мучніста-нездаровым абабленым тварам, чалавек, злосны на ўсё на свеце. А які гэта старшыня будзе сварыцца са сваім рахункаводам ды калі ў таго яшчэ такі звяглівы нораў?

Ігнат Сцяпанавіч ведаў Мікіту яшчэ хлопцам. Вялікі задавака быў, ніводных танцаў не прапускаў, і, лічы, ніводныя не абыходзіліся без бойкі, калі прыходзілі хлопцы з суседніх вёсак. І біліся, было, страшна, і сам ён біўся да краю, трэба было, то і колле ішло ў ход, і шворны. Было так, што счапіўся ён і з Ігнатам адзін на адзін, а прычынай стала сястра яго Каміла. Прыгожая дзяўчына была, уся бялявая, светлы чысты твар нібы свеціцца з сяродку, аж хочацца паглядзець, што гэта там такое дзіўнае жыве. Ігнату захацелася правесці яе з танцаў, і яна пайшла ахвотна: якой дзеўцы не хочацца, каб яе правёў хлопец. А хлопец — як той паляўнічы: не правёў дзеўку, не прыціснуў,— лічы, упустую трапаў ногі.

Мікіта дагнаў іх на вуліцы, недалёка ад свайго двара, і загадаў Каміле ісці дамоў, але Ігнат папрасіў, каб Каміла не спяшалася: яны перагавораць і ўсё добра будзе. Лета, вечар такі харошы, дыхай — не надыхаешся...

Але дарма. Мікіта прыкрыкнуў на сястру, і яна пайшла, неахвотна пайшла, але ці ж не паслухаешся брата. Мікіту хацелася большага. Ён узяў Ігната за руку, як абцугамі ўзяў, і сказаў тое ж самае, што і Каміле: «І ты ідзі дамоў,— і дадаў яшчэ: — І каб я цябе болей ля сястры не бачыў».

Ігнат Сцяпанавіч і цяпер не любіць, калі злосць засцілае людзям вочы і яны не ўмеюць нічога кругом сябе бачыць, а тады не любіў яшчэ болей. Быў малады і сілу ў целе меў крэпкую. Гэта толькі здаецца, што тапор — інструмент лёгкі, а калі ты дзержыш яго ў руцэ кожны

дзень, то і рука гэта чуе. Ды і так — мех на восем пудоў сам браў з зямлі сабе на плечы і праз усё сяло нёс.

— А чаму? Ты мне можаш расказаць? — спытаў ён у Мікіты. Стаялі яны блізка адзін да аднаго, і левай рукой Мікіта трымаў Ігнатаву правую, і замахнуцца правай яму самому было лацвей.

— А таму! — адказаў Мікіта і праўда матануў правай, і калі б Ігнат не прысеў, мог бы дастаць да носа. Не дастаў, крутануўся сам, як вярцёлка. Прысядаючы, Ігнат вырваў сваю руку і абняў Мікіту, зашчаміўшы яго рукі. І зжабіў так, што таму і дыхаць нечым стала. Пастаялі так, абняўшыся, і Ігнат усё болей сціскаў свае рукі і чуў, што ім ёсць куды сціскацца. Нарэшце Мікіта прахрыпеў:

— Пусці!

Было гэта якраз ля глухой сцяны нейчага хлява, там шумна ўздыхала карова. Паўз іх прайшлі дзве парачкі, зірнулі на іх, засмяяліся: «Хлопцы цалуюцца».

Адпускаць Мікіту адразу Ігнат не захацеў.

— Што ж ты так не шануеш сваю сястру? — спытаў.— Ёй жа замуж скора выходзіць, а ты з ёй, як з маленькай.

— Не твой клопат,— адказаў Мікіта і зноў прахрыпеў: — Пусці!

— Клопат, вядома, твой большы, і я цябе пушчу, толькі каб ведаў, што магу перакуліць і прыставіць на галаву да сцяны, і будзеш стаяць, як куль, слухаць, пра што думае карова, пакуль хто назад на ногі не пераверне,— сказаў яму Ігнат і надта проста ўсё гэта мог прарабіць.

З тых танцаў Мікіта запаважаў яго. Праўда, Каміла неўзабаве паехала на Украіну да цёткі і не вярнулася назад, а як наразалі панскую зямлю, Мікіта пры землямерах хадзіў. Дапамагаў наразаць участак і Ігнату. Мог бы, канечне, не такой балоцістай выбраць, але нічога, быў там і пагурак, і лужок.

І да вайны Мікіта быў рахункаводам у Клубчы, вярнуўся на гэта месца і пасля вайны, а як да Клубчы далучылі Ліпніцу — стаў называцца галоўным. Калі ні сустрэнешся з ім — вечна плачацца на слабасць здароўя і кожны год ездзіць у санаторыі, а руку сцісне, то можна падумаць, сукравіцу хоча з яе выціснуць.

Неяк на сходзе, калі гаварылі пра нарыхтоўку сена

за ракой, а касцоў было мала, Ігнат Сцяпанавіч вазьмі ды і падкажы, што мужыкоў не так ужо і мала, калі сабраць разам і брыгадзіраў, і конюхаў, і кладаўшчыкоў, і, можа, нават галоўнаму рахункаводу будзе здаравей думаць пра сваё здароўе з касой на лузе, чым лежачы без штаноў на пяску недзе ля мора.

— Урэшце,— гаварыў далей Ігнат Сцяпанавіч,— рэчка і ў нас глыбокая, калі паспрабаваць дастаць дно ў Гнілой яме, то і не дастанеш. А бераг там пясчаны і пясок мучністы, хоць у шкляную круцёлку, якой у бальніцы час мераюць, насыпай,— чым табе не пляж. А пагода якраз такая, што сена хапай ды хапай, ды калі раздзецца да пояса, а можна і болей, хто там падглядаць будзе, то можна такі загар зрабіць, што негры пазычаць прыйдуць. Вунь я тры дні пасядзеў на даху, перакрываючы кароўнік, то зачарнеў так, што жонка карасінам хацела адмываць, думала, у каланіцу недзе ўбіўся.

Шмат тады смяяліся ў клубе, хоць гаварыў Ігнат Сцяпанавіч сур'ёзна, і сур'ёзны, аж зялёны, стаў сам Мікіта. І сам Заборскі слухаў уважліва, а пасля і кажа:

— Правільна гаворыць наш загадчык млына, трэба ўсіх мужчын кінуць на касьбу, і жанчын ім на падмогу — сушыць, грэбці і стагаваць усё, а там і праўда, можа, папрасіць у раёне пуцёўку і адправіць яго ў дом адпачынку. Работнік ён чэсны, працавіты, можна сказаць, перадавы.

«Яго» — гэта значыць самога Ігната Сцяпанавіча.

Гаворыць так старшыня і пазірае на галоўнага рахункавода: што той скажа.

— А чаму ж не, Сямён Марцінавіч, папросім пуцёўку, і, я думаю, нас уважаць, асабліва калі зробіце званок вы,— адказвае той, скеміўшы, куды паварочвае старшыня ход справы.

Але Ігнат Сцяпанавіч не гэта хацеў сказаць. Устаў зноў:

— Я гавару тут не за сябе, няма часу мне раз'язджаць па дамах адпачынку, работа не хоча стаяць, вунь і касіць трэба памагчы. А каб не прапала пуцёўка, якую выпісаў сабе Мікіта, пакуль будзем касіць ды стагаваць, аддаць яе Косціку Санько. Чалавек калгасу надта патрэбны, столькі год пры кавадле стаіць, а во прычапілася хвароба і не хоча адпускаць. У бальніцы трохі падлячылі, а хай бы шчэ і ля мора пагрэўся. Мікробы — стварэнні кап-

рызныя, але калі і ім добра прыпячы пад хвост... Кажуць, яны не любяць сонца і мора. Трэба памагчы мужыку, а сваё ён аддасць заўсёды. Бо трэба думаць пра здароўе ўсіх, а не толькі таго, хто ўмее ставіць пячатку на пуцёўкі.

Пачулася шмат тады галасоў: «Правільна, трэба мужыка ставіць на ногі».

Тады і Заборскі сказаў:

— Што ж тут будзем базар разводзіць? Аддадзім пуцёўку Санько, хай набіраецца сілы, бо яго работу, і праўда, ніхто за яго не зробіць.

Мікіта тады так зіркнуў на Ігната, хоць вазьмі ды адкупіся чым. А што тут адкупляцца... Не паспеюць чалавеку крэсла падставіць, як ён ужо гатоў, прысвоіў сабе, прыкаваў сябе да яго, і невядома, што большае — ён ці яно. І ўжо не мысліць сябе без яго, гатоў за хлеў з ім хадзіць.

Яшчэ адзін чалавек за сталом ціхенька ўсміхаўся сабе, хаваючы вочы ў паперы. Гэтага чалавека Заборскі таксама слухаўся, а можа, і баяўся. Быў гэта галоўны аграном, правільней, аграномка. Яна-та рэдка калі пярэчыла старшыні, але калі ўжо наважыць на чым, то ніхто не пераломіць. Разы са два было счапіліся яны са старшынёй, той нават крычаць пачаў на яе, але яна так асадзіла яго, што Заборскаму і сказаць нечага было:

— Вы, Сямён Марцінавіч, можаце на сваю жонку крычаць, калі вам гэтага хочацца, толькі не на мяне.

Яна калупнула ў самае балючае. Бяда ў тым, што і на жонку сваю старшыня не мог накрычаць, бо жыла яна з дарослымі дочкамі за шэсцьдзесят кіламетраў, у Бабруйску, пільнавала новы дом свой, а ён жыў тут, у калгасе, прысланы — ні зяць, ні прымак, і з аграномкай яму трэба было сустракацца кожны дзень. І не толькі сустракацца, а і рашаць, дзе што сеяць, дзе што ўбіраць і ўсё такое іншае. Пасля яны паладзілі, і без яе Заборскі ніколі не выязджаў па калгасе. Бачылі іх разам і ў полі, і на лузе, і пад лесам і нагаворвалі рознае, але Ігнат Сцяпанавіч сумняваўся ў тым. Хаця жанчынка яна была незамужняя, кругла дзябёлая, быстрая, але строгая і з дыпломам.

Калі б добра ўсім падумаць, то нявapта было перацягваць млын у Клубчу, тым болей што стаяў ён у Ліпніцы на пагурку, між трох пасёлкаў, і электралінія ішла

недалёка. Але старшыні так захацелася: хай будзе на цэнтральнай сядзібе, усё роўна сюды запланавана перамясціць усе малыя пасёлкі як неперспектыўныя. І аграномка прыняла бок старшыні: «Што ні кажыце, асноўныя фермы тут, бліжэй будзе вазіць муку».

І тады Ігнат Сцяпанавіч трохі засумняваўся ў ёй, хоць і бацьку яе некалі ведаў. Добры пчаляр быў, калод з дваццаць меў у лесе, партызанаў падлечваў, а канца вайны не дачакаў: знайшлі нежывога з прастрэленай галавой ля адной з калодаў. Калода была блізка ад дарогі, і страляў нехта ў патыліцу і зблізку: аж валасы падсмаліў. Няйначай паліцэйскіх работа.

— А як жа з тымі фермамі, што ў Ліпніцы: там жа таксама і кароўнік, і цялятнік, ні многа ні мала — сто галоў? — спытаў Ігнат Сцяпанавіч.

— З цягам часу і фермы перакінем сюды,— сказаў Заборскі. Сказаў, як адсек, для яго ўсё было ясна.

— І трамвай, можа, пусціце? — зноў не ўцерпеў Ігнат Сцяпанавіч.

— Які трамвай? — не зразумеў старшыня.

— А каб даярак ды цялятніц вазіць сюды з Ліпніцы. Сваіх жа вы тут наўрад ці наберыцёся.

— Там будзе відаць, каго куды вазіць, а вы лепей падумайце, як скарэй перавезці млын і пусціць у работу.— Заборскі надзіва тады рахманы быў — ні голас падняць, ні рукой па стале. Можа, таму, што за сталом сядзеў з раёна хлопец, хоць малады, але ўсё ж з раёна.

— Я ўжо адзін раз перавозіў гэты касцёлак і збіраў, хай цяпер гэта зробіць хто лепшы,— адказаў Ігнат Сцяпанавіч.

— Які касцёлак? — не зразумеў Заборскі.

— А той, што вы хочаце перавозіць,— сказаў Ігнат Сцяпанавіч. Сказаў і пайшоў са сходу: што тут ваяваць, усё ўжо зваявана.

Пра касцёлак і са старэйшых клубчанскіх мала хто добра памятаў, а адкуль гэта ведаць Заборскаму? Ён і аб'явіўся тут не таму, што надта хацеў сюды ехаць, а таму, што прыслалі. А той парой, як ішла гаворка пра млын, лічы, што і сам ён чуў сябе пенсіянерам і пазіраў ужо на свой Бабруйск.

Млын перацягнулі, падвялі электрычнасць, паставілі шчыток з рубільнікам, і Ігнат Сцяпанавіч зноў застаўся начальнікам над ім. Папрасіў Заборскі.

— Я ад работы не адмаўляюся,— сказаў тады Ігнат Сцяпанавіч.— Буду ездзіць і сюды, бо я да тэхнікі душой прыстаўлены, а жорны трэба, каб круціліся.

Заборскага і папраўдзе ўскорасці адправілі на пенсію, але ён паспеў яшчэ прэміраваць Ігната Сцяпанавіча ботамі.

Выйшла гэта даволі нечакана і дзіўна, бо прэміравалі тады пастухоў — Лёўку Сяргейчыкавага і Мішу Крота, і раптам ні з таго ні з сяго яго, Ігната. А боты добрыя, кірзавыя, Ігнат Сцяпанавіч іх тры гады насіў, з імі не страшна было лезці ў любое балота. Уручыў боты сам Заборскі, Ігнат Сцяпанавіч перакінуў іх цераз плячо і хацеў быў ужо ісці, а той і кажа: «Гэта не проста прэмія, а аванс наперад». Ігнату Сцяпанавічу давялося затрымацца, сказаць нешта. Ён і сказаў:

— Боты мне трэба, я два разы ездзіў у раён, нават у райза заходзіў, да самога Храпкі, але і той пабаяўся дакляраваць. Знашу гэтыя — можна будзе купіць новыя, раз пачалі выпускаць іх, то не так проста перастаць рабіць гэта.

## II

Яны ішлі па сцежцы ўзбоч дарогі: высокі і трохі сутулаваты Ігнат Сцяпанавіч — у куфайцы, падпаясанай рэменем, у кірзавых ботах, шапцы, і Валера — худы, рослы, з вялікімі блакітнымі вачыма на далікатным, як у дзеўчаняці, твары, абсыпаным укруга носа рудымі скалкамі вяснушак.

І адзін, і другі ішлі лёгка, і толькі сутуласць выдавала, што чалавек у куфайцы старэйшы, хаця на колькі старэйшы — на дзесяць, на дваццаць год — здалёк сказаць было цяжка.

А было аднаму семдзесят, а другі хадзіў у дзевяты клас.

Ішлі і гаварылі між сабой. Ігнат Сцяпанавіч, узмахваючы старой брызентавай сумкай, якую дзяржаў у руцэ, Валера, паддаючы плечуком рэмень заўсёды перагружанай чорнай сумкі. Цяжкая сумка сцягвала рэмень з плечука, і, каб вярнуць яго на месца, Валера час ад часу торгаў правым бокам угору.

Гаварыў болей Ігнат Сцяпанавіч. Валера слухаў, але ні ў яго, ні ў Ігната Сцяпанавіча не было адчування,

быццам тут нешта не так ці павінна быць па-іншаму. Ігнату Сцяпанавічу хапала тых нямногіх слоў, якія не-не ды і падкідваў Валера, і яго ўвагі да ўсяго, пра што гаварылася. У гэтай увазе было нешта большае, чым звычайная павага школьніка да старэйшага чалавека, хай сабе і суседа.

Валеру добра было слухаць Ігната Сцяпанавіча, сачыць за ходам яго думкі, якая часам рабіла такія нечаканыя петлі, як заяц, скідваючы след, што цяжка было ўлавіць яе далейшы працяг. Але ён заўсёды быў, хоць і трымаўся болей на сваёй унутранай логіцы, часам зусім нечаканай. Ігнат Сцяпанавіч пераскокваў цераз дзесяцігоддзі, не заўважаючы гэтага, але ўсё, пра што ён гаварыў, няхай і было гэта даўно, жыло ў яго ўяўленні так непасрэдна, быццам адбывалася не далей як учора. Здавалася, для Ігната Сцяпанавіча час сам па сабе, як нейкая канкрэтная мерка ўсяго жывога, як быццам не існаваў, а жыў, як адзнака, пэўны прызнак прадмета гаворкі. Ігнат Сцяпанавіч не заўважае, што субяседнік на сорак ці болей гадоў маладзей за яго і не можа ведаць ні таго, пра што гаворка, ні месца, дзе гэта адбывалася. Ён гаворыць пра самога сябе, ён сам жыве ў тым часе, і ўсё астатняе жыве там.

— Вапшчэткі, як пара года мяняе лічыну зямлі, так і людзі любяць нацягваць на сябе новыя транты. І транты гэтыя бываюць такія пацешныя, што чалавеку часам брыдка робіцца за самога сябе. Як калі піць доўга, а пасля, ацверазеўшы, паглядзець на сябе ў люстэрка. Моды праходзяць, а ўсё застаецца. І аднойчы прачнуўшыся і з чыстай галавой паглядзеўшы на неба, чалавек раптам адкрывае для сябе тое, што трэба было б ведаць даўно: што сонца ўсходзіць якраз там, дзе ўсходзіла і пяцьдзесят гадоў таму назад, калі ты яшчэ бегаў без штаноў. Праўда, тады, можа, там стаяў лес і балбатаў цецерукамі і іншымі птушкамі, а цяпер поле, як лысіна. Бо калі яно ёсць, то не трэба старацца знішчыць яго. Пачынаюць з малога, а канчаецца вялікім, ад гэтага нікуды не ўцячэш. Іншаму здаецца, што Зямля прападзе, калі ён не пераверне на ёй усё дагары нагамі, а выходзіць наадварот. У гісторыю ўсе ідуць пешша, і яна сама выбірае сабе палюбоўнікаў.

— Не ведаю, як пра гісторыю. А мода...— бліснуў вачыма Валера.— Моды таксама ўсякія... Мода на шта-

ны, на сукенкі... А вазьміце ракеты, спадарожнікі, атамныя караблі — таксама мода. Сёння чалавек залез у атам, як во,— Валера паказаў на свежы гурбячок зямлі, нашаткаваны кратом,— крот гэты ў зямлю — і капаецца там, як у сваёй хаце. Таксама мода.

Ігнат Сцяпанавіч кінуў касым вокам на гурбячок зямлі, пра які гаварыў Валера, пыхнуў дымам.

— Вапшчэткі, крот заўсёды карэнні падрывае, гэта ты правільна падмеціў. А я хачу сказаць, што толькі дзівакі лічаць, быццам усё пачынаецца і канчаецца імі і быццам свая пядзя самая вялікая. Дапусцім, сёння мала хто і ў Ліпніцы памятае тую пару, калі гэта быў не млын, а касцёлак,— Ігнат Сцяпанавіч матануў галавой назад, адкуль яны толькі што выйшлі.

— Касцёл? — не паверыў Валера.

— Касцёлак,— паўтарыў Ігнат Сцяпанавіч.— І службу ў ім праўлялі, і нябожчыкаў адпявалі. Толькі стаяў ён на тых, што за сёмай брыгадай, польскіх могілках. Іх па акрузе шмат сядзела — паляк не паляк, шляхта не шляхта. Панаязджалі, яшчэ як некалі дзяліліся Польшча з Расіяй. Зямля заўсёды цягне да сябе людзей. І яны: людзі як людзі, хаця, скажу табе, гонару надта шмат, як у сабакі блох. Стараліся цану сабе дзяржаць. Яно зноў жа: чалавек без цаны — нічыйны чалавек, ніколі не ведаеш, што ён табе заверне.

А яны каторыя паўрасталі тут крэпка. Усе адзін да аднаго толькі так: «пан», «пане». Няхай сабе, кожны чалавек павінен неяк абзывацца. Я сам не люблю, калі да цябе падыходзіць з бычынымі вачыма і не ведаеш, чаго ён хоча: «здрастуй» сказаць ці на рогі пасадзіць. У іх «пан», у нас «таварыш», але многія былі тут распасцёрліся даўно — і зямля, і лес, і парабкі. Сам пан, а кроме «быдло» другіх слоў не ведае. Ну гэтыя збеглі разам з палякамі ў дваццатыя гады. А з імі і нашы Яворскія і Казановічы. Парабкі і арганізавалі тады кааператыў, ці, іначай, «камунію». А чаму не арганізаваць: і дом на месцы, і стайні, і аўчарні. Сады былі, сажалкі. Яно, можа, і быў бы са ўсяго гэтага які толк, каб разумны хто ўзяў гэта ў рукі, а то падахвоціўся Рыгор Захожы. Ён парабкаваў доўга ў Яворскіх, праўда, болей ля коней быў, на стайні. А на гэта шмат мужчыны не трэба. Праўда, пасля служыў у чырвоным войску. Вярнуўся з войска і нічога лепшага не прыдумаў, як зноў у двор пайсці, у

стайню. Коней стала меней, і самога пана не было, але была дачка. Яна яшчэ да рэвалюцыі злюбілася з парабкам, той і ўкраў яе ноччу праз акно. Бацька пазлаваўся, пазлаваўся, а ўсё ж даў лесу, яны і пабудавалі сабе хату цераз дарогу ад бацькавага двара, во як будзем ісці — за ляском, па левую руку.

Рыгор прачуў, што кругом ствараюць камуніі і самі парабкі гаспадараць, аб'явіў камунію і тут. Камунія — гэта добра, але і ў камуніі рабіць трэба. І араць, і сеяць, і скаціну пільнаваць. Зямля чалавекам дзержыцца, адступіўся чалавек — і ўсё на закат пайшло. А чалавек Рыгорка быў не надта граматны ў гэтым. Прывык ля коней — «но!» ды «но!». Коні гэта не заўсёды любяць, а людзі і падаўна. «Но!» — то можна і паслухаць, а есці трэба. І пайшлі — то баран, то авечка... Словам, пагналі Рыгорку з начальства. Выдзелілі яму зямлі. Садзіся, Рыгорка, і ваюй, варушыся. Але ён не доўга і сядзеў там: хату толькі і паспеў паставіць, а тут калгас пачалі збіраць, ён і пераехаў на пасёлак. «Што, кажа, я буду там абстройвацца, а пасля зноў перавозься. Дык ужо адным ходам». Яно так і праўда.

Можна сказаць, ён першы і запісаўся ў калгас. Пайшло яшчэ чалавек з дзесяць. А за старшыню выбралі Габрыеля Васілеўскага, з Куціня. Тут шмат каго панаехала, як пачалі зямлю наразаць. Ведама, зямля харошая, дагледжаная. І лесу шмат. Прыйшоў Габрыель тады і да мяне:

— Давай, Ігнат, у калгас. Што ты будзеш на хутары сядзець. Ды і трэба. Пойдзеш ты, за табой астатнія пойдуць. На цябе шмат хто ківае.

— Ну і хай ківае,— кажу.— А я хачу паглядзець, што вы будзеце рабіць, як апошнюю Казановічаву авечку пад нож пусціце.

То, ведаеш, здаецца, чалавек чалавекам, а тут пачырванеў, як бурак. Пасля мы сышліся з ім, ён і за кума быў у мяне, Соню хрысціў.

— Ты з гэтым не жартуй. А то за такія жарты можна далёка ўгадзіць,— гаворыць, аж слінай пырскае ў вочы. Была такая хвароба ў яго, шмат сліны ў роце збіралася, дык што ж ты людзей ёю страшыш.

— Ты во што, Габрыель,— кажу яму,— слінай на мяне не пырскай, а лепей паспрабуй які парадак у калгасе зрабіць. Вапшчэткі, калгас — справа добраахвотная: ха-

чу іду, хачу — не. А што авечкі, то праўда. Чаму-та ў вас, у калгасе, яны хварэюць, і вы іх прыразаеце, як тыдзень — то авечка, а ва ўсіх астатніх людзей яны жывуць здаровыя.

— Лёгка табе гаварыць. Паспрабаваў бы сам на маім месцы.

— На тваім месцы я не быў і, па ўсім, не буду. Няма ў мяне такога імпэту. Раблю тое, што ўмею. Мне б са сваімі рубанкамі і іншым інструментам управіцца. А што сказаў пра авечак — запомні, гэта не адзін я бачу.

Ён-та і сам гэта ведаў, але каму ж прыемна, калі табе твае на вочы ўскідваюць. Потым прыслалі Вержбаловіча. Габрыель рады быў, што нарэшце скінуў начальніцкі клопат з галавы. Клопат клопатам, а і турмы стаў баяцца. Саўсім асмялелі людзі, несці пачалі. І не ў калгас, а з калгаса. І не толькі ноччу, а і днём. А ў Габрыеля смеласці духу не было, каб заступіць дарогу. Камандаваць таксама трэба талент мець. Гэта не тое што на кароў: пугай замахнуў — яны і пайшлі. Людзі. Ён раз пайшоў, а два ў галаве панёс, а ты кумекай, што куды... А касцёлак раскідалі ўжо пры Вержбаловічу.

— Як... раскідалі?..

— Як і трэба раскідаць: з верху да нізу... Спачатку раскідалі, потым збіралі. Вапшчэткі, я сам бурыў яго, гэты касцёлак. Ты і цяпер паглядзі на дах, ён і тут прастаіць гадоў дваццаць, а то і болей, калі крокввы не пакрышацца... А тады... Трэба было зняць кожную чарапічынку, спусціць уніз, пакласці ды цэлыя перавезці. Пусці каторага, дык ён наробіць такога...— Ігнат Сцяпанавіч засоп, цмокнуў піпкай, але яна ўжо патухла. Спыніўся, дастаў запалкі.

Дарога ўзнялася на ўзлобак, адкрыла вачам прастору срабрыстага нізіннага разлогу, які, нібы строгай лініяй цыркуля, быў абрэзаны ўдалечыні цёмна-сіняй сцяной лесу.

— Я табе скажу,— пайшоў гаварыць ён далей, прыкурыўшы зноў.— Вержбаловіч — чалавек быў прыкметны і відны не толькі ў Ліпніцы, а і на цэлы раён. Таму і прыслалі, хоць ён і з-пад Віркава. Віркаўцы, ведаеш, людзі зацятыя і адчайныя. Па-мойму, дык пра іх шмат чужога гаварылі. Хто дзе ўкраў каня — віркаўцы, а калі двух ці трох — дык і саўсім яны. А тут трэба разабрацца. Што дружныя як адзін, дык гэта праўда.

Даў ён мне ў помач Васіля Мацака і Ляксандру Шалая. Прывёў і кажа: вось табе, Ігнат, памочнікі. «Дзякуй»,— кажу. Лепшага памочніка, як Васіль, і шукаць не трэба. І не надта высокі ростам быў, ну, метр семдзесят пяць, а плечы, як зруб у калодзежы, і сіла... Усе дзівіліся, адкуль яна ў яго была такая. Мацак дык Мацак. Было так, на Вялікадня пачалі качаць яйкі, а сабралася чалавек пятнаццаць, калі не браць лішніх... Качаюць. І Васіль сярод іх — не завадатар, а і не апошні хвост. А завадатарам быў Гараўскі Юзік. Вышэйшы трохі за Васіля і здаровы. Выйдзе касіць — каса дзесятка, і вузей двух метраў пракос не гнаў. А тут зрабілася цераспалосіца з чаргой, каму качаць: Васіль кажа, мне, той — мне... Там і выйгрышу два яйкі, а можа, і меней, але ж азарт. Гульня гульнёй, а перайшло ў сур'ёзнае, загрудкі счапіліся.

— Добра, будзем біцца,— кажа Васіль.

— Як?

— Як хочаш. Толькі б'ём па аднаму разу.

— А не пашкадуеш?

— Не пашкадую... Мужчыны будуць суддзямі.

На тым і парашылі: надта заеліся абодва.

Юзік біў першы і ўдарыў пад шчэлепы, думаў адразу зваліць. І не ўладзіў. Васіль адкінуўся метры на два, але на нагах устояў. З рота пацякла кроў, ён і не выціраў яе, відаць, не чуў, што яна цячэ.

Уразвалку, як бы шчупаючы зямлю, пайшоў назад, стаў на сваё старое месца. Нехта з мужчын выцер яму кроў.

— Дык, гета, хіба ж так б'юць,— сказаў да Юзіка, той таксама стаяў на сваім месцы, як і ўгаворваліся. Мацак як быў з боку ад Юзіка, так і сакануў рубам далоні па шыі. Здаецца, і не замахваўся, а проста так, нібы страшачы, ускінуў рукой, а Юзік з капытоў і ўставаць не хоча... Паднялі яго, вады далі. З паўгода пасля хадзіў з крывой шыяй, чым толькі ні расціраў, пакуль на месца паставіў. А Васіль пасля прызнаваўся мне: «Ці ж я на поўную сілу біў? Ды я б, гета, калі юкнуў...» І праўда, ён ужо калі юкне, то юкне, на нагах ніводзін не ўстоіць. Меў чалавек сілу нечаканую. Лічы, што і жыць застаўся, яшчэ як з палякамі ваявалі, у дваццатым, таму, што сілу гэтую меў. Калі перапраўлялася наша войска цераз Бярозу, перабіла яму левую руку і сарвала з моста.

Ён ляцеў і зачапіўся здаровай рукой за пярочную бэльку. Зачапіўся і завіс. Унізе вада нясецца, як шалёная, мост на мелкім не ставяць, а большага сам ён нічога зрабіць не можа, паранены. Рука так прыстала да дрэва, што чуць адарвалі. Цэлы тыдзень потым фельчар расціраў яе — не хацела разгінацца. А было і такое, што ён сагнуў вялікі палец крукам і сказаў: не разагняце. Некалькі чалавек хацела гэта зрабіць, і не выйшла. Шомпалам разгіналі і не разагнулі — шомпал гнецца, а палец сабе стаіць.

Яны ўсе, Мацакі, былі крэпкія, як дубы, хоць і жылі бедна. І працаўнікі былі цягавітыя, ды што ты без зямлі, болей парабкавалі. А як наразалі зямлю, ім далі вунь там, па той бок лесу, за бродам... Яны скора абраслі — і хату, і хлеў, і гумно паставілі, ведама, работы не баяліся, а лесу ніхто не пільнаваў. І сад насадзілі, а тут трэба перабірацца на пасёлак. Перабраліся, а сад застаўся. І доўга яшчэ стаяў. Адну старую яблыню дык, можа, гадоў з пяць таму вецер зваліў... Лес кругом абступіў, а яна стаяла. Салодкія яблыкі раслі на ёй...

— Жытнікі, паласатыя такія,— падказаў Валера.

— Ага, як парасяты ў дзікай свінні. Васіль некалі парабкаваў у Казановіча, а ў таго быў гарбаты брат, Ігнась, садоўнік харошы і чалавек ціхі. Усё хадзіў па лесе і шчапіў яблыні. Убача дзічок — прышчэпіць. Усе Казановічавы з'ехалі пасля рэвалюцыі, а ён застаўся, за садам глядзеў. Яго ніхто і не чапаў.

— Яшчэ такая яблыня ёсць у рагу за Стаськовай пасекай, у ельніку,— напомніў Валера.— Яблыкі сакаўныя, але з гарчынкай.

— Здзічэла, няйначай... Вапшчэткі, і чалавек дзічэе сярод чужых, і дрэва таксама.

— Ага... Я летась у грыбы пайшоў. Позняй восенню, лісце ўжо асыпалася. Надумаўся і пабег... Грыбоў не набраў, а на яблыню напароўся. Іду па ельніку, дамоў ужо сабраўся, і раптам — яблык пад нагамі, потым яшчэ... Думаю: адкуль яны тут, можа, нанасіў хто. Бывае ж, што вожык валачэ ды згубіць... Гляджу далей, а там уся зямля ўсыпана імі ўперамешку з лісцем. Тады ўжо і яблыню ўбачыў. Заціснулі яе елкі, як яна, бедная, і вырасла: тонкая, высокая, галіны з лапкамі ваююць.

— Вапшчэткі, во як яно ёсць... Жыў гарбаты панок, і ці ўспомніў бы хто пра яго, каб сам не напомніў...

Калі пашукаць па лесе, шмат дзе яшчэ можна сустрэць яго работу. Рабіў чалавек яе, на яго, як на дзіця, пазіралі: ходзіць з ножыкам, забаўляецца... А вунь яно як выходзіць... Кажын чалавек хоча нечым праславіцца.

Дык вось: я, Мацак і Ляксандра Шалай. Ляксандра таксама хлопец быў ніштo, і кавалак сілы меў, толькі мітуслівы надта, і галасок тонелькі. Калі не ведаеш, то і за бабскі можна прыняць. Ад такога голасу якой сур'ёзнасці можна чакаць: піскам пагоду не паправіш. Значыцца, палезлі мы ўтрох на дах касцёлка. Паглядзеў Васіль на тую марудную работу, што чакала нас, і кажа: «Што мы, Ігнат, будзем гетай вашабойскай работай рукі займаць... Возьмем колікі, павыбіваем кліны, падважым адну кроквіну, другую і спусцім гэты дах на зямлю, к чортавай матары...»

Падважыць можна было і спіхнуць можна было, ды які толк... Кажу: ідзі, Васіль, падганяй падводы, а мы тут з Ляксандрам чарапіцу здымаць будзем. Сама цяжка было пачаць, узарваць бляшаную аблямоўку, што ішла па вільчыку, а як вільчык агаліўся — там пайшло лягчэй. Мы мяшок прыспасобілі, як кашэль, звязалі двое лейцаў, перакінулі цераз лату, рычаг такі зрабілі. Я загружаю мех чарапіцай, а Ляксандра спускае яго ўніз. Выгрузіць — і зноў падае мне ўгору...

Я табе скажу, каб не Вержбаловіч, ці палез бы я на той касцёлак. Усё ж Божы дом, хай і не нашага Бога, і хай веры ў мяне ў яго не было. Бог богам, а калі сам не зробіш — ніхто не паможа. Ды Вержбаловіч пад'ехаў да мяне, што і адступаць не было дарогі. Хто, кажа, акрамя цябе, усё гэта такім парадкам зробіць? Калі б, кажа, трэба было толькі разбурыць яго, касцёлак гэты, тут лёгка каго знайсці, але ж трэба і сабраць усё назад. У раёне я дамовіўся, паравік даюць, і схаваем мы яго пад гэты чарапічны дах. Заместа крыжа трубу паставім, во як яно будзе. І з рэлігіяй трэба ваяваць...

Рабілі мы гэтую работу ноччу. Як я не сарваўся ўніз — і сам не ведаю. Усталі людзі раніцай, зірнулі на касцёлак, а ён стаіць без галавы, кроквы прасвечваюцца. А чарапіца ўжо там, на пагурку, дзе млын павінен стаяць...

— Бурыць заўсёды проста,— зазначыў Валера, паддаўшы плечуком сумку.

Ігнат Сцяпанавіч толькі цмокнуў губамі і замёр,

прыслухоўваючыся да нечага, пасля павярнуў галаву да Валеры:

— Я табе скажу, і пабурыць, калі гэта зроблена з галавой і сур'ёзна... Здаецца, што там такое: ніводнага жалезнага цвіка, толькі сця́жкі на балтах, быццам усё само сабой, а не падступіцца... Я два дні прыглядаўся да яго і з таго, і з другога боку заходзіў, перш чым палезці наверх.

— Ну а... калі б гэта было цяпер, у нашы дні, і прыйшоў бы да вас... старшыня і папрасіў: «Ігнат Сцяпанавіч, памажы...» Ці палезлі б вы, як тады, га?

Ігнат Сцяпанавіч маўчаў, нібы не чуў пытання, з насцярожлівай напружанасцю чакаў нешта пачуць.

— Пастой, Валера, давай паслухаем...— узняў руку.

Задраўшы галаву ў неба, разявіўшы рот, абсыпаны сівой шчацінай, застыў нерухома, як паляўнічы сабака, слухаючы звера.

Валера таксама прыслухаўся. Недзе, здаецца, з высокага неба ішоў працяжны тоненькі звон. Не, гэта была не песня першага жаўрука, не пчалінае зумканне...

Перад імі ляжала шырокае, цёмнае, нібы прытуманенае пылам поле. Пракідаліся на ім шкельцы — лужынкі, і яны блішчэлі, іскрыліся. Поле спускалася ўніз, у шырокі разлог, і ішло далей, да лесу. Нешта хвалявала, трывожыла Ігната Сцяпанавіча — ці то само поле, ці гэта трывожлівае вясенняе зумканне,— быццам ён толькі што ачуняў і зноў адчуў шчасце жыць і ведаць радасць гэтага жыцця. Ісці па гэтай шорсткай, закрамянелай сцежцы, слізгацца па лёдзе, абсыпаным потам вясновых кропель, і слухаць звон, што нясецца з неба.

Ігнат Сцяпанавіч доўга шукаў прычыну гэтага звону ўгары, пакуль не здагадаўся апусціць вочы ўніз, долу, і тады ўбачыў, што гэта звініць, паміраючы, снег. Зімой тут намяло яго вялікую гурбу, снег растаў, і засталася толькі празрыстая і тонкая, як аконная шыба, ледзяная стрэшка. Яна адпацела ў цяпле, з яе ледзяной кары зрываюцца кроплі вады, капаюць і звіняць, нібы ажыўшыя пчолы ў вуллі. Тонкі, пранізлівы пчаліны голас.

З надыходам вясны Ігнат Сцяпанавіч адчуваў сябе птушкай, якой трэба ляцець у далёкі край. Яна не ведае, куды ляцець і чаго ляцець, але патрэба палёту жыве ў ёй, як само жыццё. Ён быў чалавек — не птушка, але

гэта адчуванне жыло ў ім. І цяпер сціснулася, зашчымела сэрца.

Ігнат Сцяпанавіч бліснуў хітраватым вокам на Валеру, спытаў:

— Вось ты хочаш ведаць, што б я рабіў, каб цяпер папрасілі зрабіць тое самае з касцёлкам, як тады... А я спярша хачу спытаць гэта ў цябе. Калі б табе прыйшлі і сказалі такое, што б ты рабіў?

— Я? — Валера падумаў.— Канечне, не палез бы...

— А цікава ведаць: чаму?

— Ну, хаця б таму, што пад млын можна было пусціць які-небудзь з панскіх будынкаў ці зрабіць новы зруб... Ды і... вы ж гаворыце, што рэдкай рукі майстры яго будавалі... Хай бы стаяў...

— Вапшчэткі, галава ў цябе думае як быццам правільна... А вось ты камсамолец, і табе трэба з Богам нешта рабіць, ну, з той самай рэлігіяй... Як ты тут будзеш?

— Ну, растлумачваць людзям трэба... Лекцыі чытаць, кіно паказваць. Чалавек павінен сам да гэтага прыйсці...

— Сам-то яно сам, канечне. Але гэта цяпер, калі з Богам усе на «ты», можна і сам, а тады... Я, вапшчэткі, і цяпер, калі б прыйшоў той жа Вержбаловіч і сказаў, палез бы... Надта цікава было ўсё гэта... паглядзець, які з усяго гэтага млын выйдзе... А млын, які млын паставілі! Пяць сельсаветаў хлебам карміў. А Вержбаловіч... не ўсім прыйшоўся па нутры. Надта проці выступалі Мастоўскія. Іх было двое братоў і швагер трэці. Яны і меркавалі, каб каторы сеў на гэта месца. Быў Габрыель, а чаму б і ім катораму не пакамандаваць. Міша быў самы меншы, а Стась і швагер Васіль былі ў тых гадах і па сем класаў мелі. Класы класамі, ахвота ахвотай, ды трэба яшчэ, каб і людзі надумаліся пазваць. Сядзелі яны на хутары, туды пад Брадзец, і злазіць з яго не хацелі. І ў калгасе, і на хутары: тут табе і лес, і луг, і поле. І скаціна дзе хоча, і сам дзе хочаш. Яно і сляпому відна: куды ні пайдзі — усюды сваё: і сваё — сваё, і калгаснае — сваё.

Сход праводзілі на выгане перад Казановічавым дваром. Двор у яго быў добры: стайня, аўчарня, два свірны, гумны і дом пакояў на дванаццаць, пад'езд парадны на круглых яловых слупах, шырокія дзверы, закругленыя вокны. На франтоне напісалі: «Калгас «Чырвоны прамень». Добрую назву прыдумалі. Усім падабалася. У пан-

скім доме і размясціліся кантора калгаса і дзіцячы сад. Забраў два пакоі Вержбаловіч, бо прыехаў ён не адзін — з жонкай і трыма дзяцьмі. Жонка зноў грубая была, раджаць збіралася, а як без сваёй хаты? Кругом смелы чалавек быў. Пазней ужо, як мы здружыліся, я і пытаюся неяк: «Як гэта ты так адразу з сям'ёй? А калі б не выбралі старшынёй?» А яно і такое магло быць. «Ну і што,— гаворыць,— папрасіўся б у калгас, няўжо зямлі пашкадавалі б, не прынялі?»

Прыняць-то прынялі б, ды і з раёна прыехаў чалавек, сход праводзіць, што ні бяры — падмога, але так вось — звязаць усё ў вузел, дзяцей, бабу на падводу і, як цыган, у свет,— тут рызыка патрэбна. Праўда, і жонка яго, Люба, лёгкая на нагу кабета была. Не паспелі згрузіць клункі з падводы, а яна ўжо пайшла камандаваць па пакоях: тут гэта павесіць, тут гэта паставіць, гэта ўзяць, гэта аддаць. Жывот выставіла наперад, прэ, як танк.

Мастоўскія крык вялікі на сходзе ўсчалі, аж няёмка слухаць было. «Хіба ў нас сваіх няма, што абавязкова чылых трэба?!» — «А хто тут не чылы? — спытаў тады Мацак.— Усе мы чылыя, грызёмся, як сабакі, а парадку няма. Шмат у нас развялося такіх: што зарве — тое і цягне». Ён нібыта і не казаў пра Мастоўскіх, а глотку ім заткнуў.

Вержбаловіч адразу дысцыпліну ўзяў строгую і сказаў пра гэта на тым жа сходзе. «Я вам па-бальшавіцку гавару, без дысцыпліны дабра не будзе. Дык давайце разам яго шукаць. А што кажаце, чылы, дык глядзіце. Я большасць з вас ведаю, ды і вы мяне, мусіць, трохі ведаеце».

Яно і праўда так было, шмат хто яго ведаў. Ведалі яшчэ, што вучыўся ён у Мінску на камуністычных курсах. Праўда, тады нікому і няўцям было спытаць, чаму ён, іх не скончыўшы, вярнуўся на работу. А папраўдзе, дык яму давялося ўцякаць з тых курсаў. Каб гэта ведалі Мастоўскія, не прамінулі б спытаць, гвалт падняць.

Ён расказаў мне пра гэта гады праз два. «Чырвоны прамень» тады ўжо крэпка дзяржаўся ў раёне, і на працадзень пачалі даваць — і хлеб, і бульбу, нават яблыкі. Вержбаловіча прынялі ўсе, і тыя, хто не хацеў любіць. Убачылі: чалавек гаворыць і робіць, а не тое што ў свой хайлук цягне. Відно, што і на курсах ён быў такі ж гарачы. Любіў усюды праверыць, ці моцна завінчана, а не, дык і перавінціць па-свойму.

Кажа, сабраліся неяк у вольны вечар у пакойчыку, і няшмат было, чалавек восем. Вершы, байкі, а пасля на рэлігію выйшлі. Тады гэта абавязкова было. Пасля кулака ды сусветнага імперыялізму рэлігія была вораг найпершы. Пачалі ўспамінаць, як богаслужэнне ішло, якія малітвы чыталіся, псалмы. Голас Хведар грубы меў, у адным канцы пасёлка падасць — у другім на пасцелі не ўлежыш. Вазьмі ён і зацягні на ўсю сілу: «Судзі мяне, Божа, і справу маю ты вядзі супраць народа без сэрца! Ад людзей крывадушных і несправядлівых вызваль ты мяне! Бо ты — Бог, абарона мая. Чаму ты мяне адцураўся?»

І яшчэ другія псалмы і малітвы: памяць яго шмат што дзяржала. Пасмяяліся ўсе, пажартавалі, а назаўтра выклікае яго да сябе начальнік курсаў і зачытвае пісьмо, у якім чорным па беламу напісана, што курсант Вержбаловіч мала што сам верыць у Бога, дык і іншых змушчае на гэту веру. І яшчэ шмат чаго рознага было напісана на той паперы... Начальнік курсаў чалавек быў чэсны, са старых бальшавікоў, ён і параіў няшчаснаму бязбожніку: «Гэта папера ляжыць у мяне на стале і хай ляжыць, а я цябе са ўчарашняга дня не бачыў. Ты захварэў і паехаў некуды ў сяло... А з песнямі разбярыся, дзе якія спяваць. І з рэлігіяй. І каму што спяваць. Зразумеў?» Як тут ужо было не зразумець... Во якім макарам вярнуўся ён назад у свой раён, а адтуль — да нас...

Памаўчалі. І зноў першы падаў голас Ігнат Сцяпанавіч:

— Я павінен табе сказаць так: на зямлі кожны мусіць церабіць сваю сцежку сам. Адно важна не зблудзіць, ведаць, у які бок ісці. Як ноччу ў лесе...

А старшыня ён рэдкі быў. Як толькі ўсюды і паспяваў... Яшчэ птушка і не ціўкне, а ён ужо на нагах, марафоніць па брыгадах — ці ў полі, ці ля канюшні. І вясёлае тут, і сур'ёзнае. Сам убачыў ён ці хто падказаў, што нехта буракі крадзе з калгаснага поля. І хітра робіць: бурак забярэ, а націну адрэжа і назад у зямлю ўторкне. Яна і сядзіць, пакуль жоўкнуць не пачне. І невядома, калі гэта зладзейства робіцца: днём — відна, ноччу — вартаўнік ходзіць. Буракі раслі па адзін бок дарогі, а па другі бок быў авёс. Хведар і прыкмеціў у аўсе нявідную сцежку, і залёг на ёй у баразне. Тры ночы ляжаў, а чацвёртай дачакаўся. Чалавек так прывык хадзіць гэтай

дарогай, што не глядзеў пад ногі і зачапіўся за самога старшыню. І пакаціўся: сам у адзін бок, а мех з буракамі ў другі. Хацеў быў уцячы, але куды ты ўцячэш. Столькі пільнаваць і ўпусціць...— Зноў невялічкая паўза, нібы роздум, а далей пра іншае:

— Ці было яшчэ такое, што выйшлі касіць. Трава паспела, пагода млее — тут у магіле не ўлежыш, не тое каб дома па закутках аціраццa. Узяліся дружна, як адзін. Але нехта прыдумаў, каб усім, хто на ўдарнай касавіцы з касой ходзіць, пісаць па дню дваццаць пяць. Яно правільна, ударную работу трэба пад увагу падводзіць, але адно: стане ў пракос Юзік Гараўскі — гектар на роўным зваліць, ці той жа Мацак, ці, вапшчэткі, і я,— меншай касы, як дзевятка, у рукі і няёмка браць было. А той жа Міколка, ён калі і стараецца, болей пяцідзесяці сотак не выскубе, а калі так сабе, то і сорак, ці Сцёпа Мастоўскі: то закурыць, то вады папіць. І ўсім дзень дваццаць пяць. Косім так дзень, косім другі, а на трэці, пад абед, горача было вельмі, я і галёкнуў: «Кідай, хлопцы, косы ды пайшлі ў цянёк: усё роўна дзень дваццаць пяць». Так і зрабілі. Перакурылі гарачыню пад кустамі, а трохі дух спаў — зноў узяліся за косы. Было гэта пад выхадны. Якраз кіно прывезлі, сабраліся ўсе ў зале ў тым жа Казановічавым доме.

Паглядзелі кіно, пачалі ўставаць, каб дамоў ісці, а Вержбаловіч і кажа: «Пачакайце, яшчэ не ўсё паказалі». І праўда, зноў засвяцілася прасціна на сцяне, а на ёй чалавек намаляваны: нос, як шворан, і ў зубах папяроса, як аглобля. Нібыта і не падобны на мяне, а словы мае: «Кідай, хлопцы, касіць, усё роўна дзень дваццаць пяць!» Вапшчэткі, я тады яшчэ піпкі не ведаў. Усе рагочуць, а мне які смех, хоць пасля і выйшла па-мойму: брыгадзір пачаў замяраць, і хто колькі скасіў, столькі і пісаў, а то ўзялі: махай не махай — дзень дваццаць пяць...— Ігнат Сцяпанавіч хмыкнуў, раскінуў рукамі. Было відаць, што ўспамін гэты і цяпер сядзіць недзе блізка ў душы.

— Ну, а буракі? Хто краў буракі? — напомніў Валера.

— Хто краў?..— перапытаў Ігнат Сцяпанавіч. Ён нібы вяртаўся да памяці з нейкай сваёй далёкай адлегласці.— Хто... Вапшчэткі, Вержбаловіч нікому гэтага не сказаў. Нават пра тое, што сам пілнаваў у баразне, не

расказваў. Толькі мне неяк прызнаўся, што чалавек гэты была жанчына.

У мяне было падазрэнне... Жыла тут у нас Сабіна з Закуплення. Мужык рана памёр, малое на руках. Прыкметная сабой жанчына, праўда, дзікая. Ідзе і вочы баіцца ад зямлі адарваць. А зірне — прашывае наскрозь. Загаварылі неяк пра яе, я і кажу: ваўкаватая яна, вапшчэткі. Доўга маўчаў Вержбаловіч, а пасля так, з горыччу: «Ваўкаватая... Што мы пра людзей ведаем? Толькі тое, што ён пакажа... Ей яшчэ і трыццаці няма, а ўжо ўдава, і дзіця, і маці хворая...» Вапшчэткі, ён ведаў пра яе болей і, мусіць, тое, чаго не мог ведаць я. А яна там была ці не яна — не будзем гадаць. З-за даўнасці пары ці трэба шавяліць гэты попел. Ён і сам не хацеў пералапачваць усё гэта. Было пасля, што і ва ўдарніцы выйшла па льну, аж два гады запар, а Люба яго ўсё роўна не хацела прызнаваць яе. У баб на ўсё свой нюх і свая мерка. Асабліва калі гэта датычыць іхняга ж брата ды калі яшчэ рэўнасць падмяшаць. Не ведаю, які там быў пачатак, але неяк я сунуўся быў да Хведара, рашыць нешта трэба было, і чую, як за дзвярыма Люба крычыць: «Ды пасадзі ты яе сярод вуліцы і праз два гады прыедзь, яна будзе сядзець, як лялька,— ніхто яе не зачэпіць.— Перадыхнула і яшчэ: — Такую ўдарніцу я і з гразі зляплю...» Я зразумеў, што гэта яна пра Сабіну, і сказаў бы, што гэта кругом няпраўда была. Ды хіба ж будзеш даказваць чужой жонцы? Тут і са сваёй не заўсёды хопіць цярпення саўладаць. Але гэта сямейнае...

Праз лес ішлі моўчкі. Дарога перасякала балоцістую нізінку, справа і злева рудая вада, з вады тырчаць купіны асакі і чорнагаловіку. Трактары і грузавыя машыны парэзалі свежы насып на глыбокія каляіны, трэба будзе гнаць грэйдэр і каток, абы падсохла трохі.

З лесу дарога крута павяла ўгору, на шырокае поле. Адсюль добра праглядалася нізіна з меліярацыйнымі каналамі. Злева рабым частаколам браўся бярэзнік, далей у чорных веніках прысад ішлі хаты Ліпніцы.

Ігнат Сцяпанавіч прывычным вокам акінуў панараму, якая шырока адкрылася, зазначыўшы сабе, што яшчэ гадоў шэсць назад Ліпніцу адсюль не ўбачыў бы, хоць і хацеў бы. Не давалі кусты, што ішлі па берагах рэчкі, Казановічаў лясок.

— А сур'ёзнае пайшло з Мастоўскімі, і адрыгнулася

аж у вайну,— павёў сваю гаворку далей Ігнат Сцяпанавіч.— Яно адразу, як толькі Вержбаловіч прыехаў, было відно, што ціха не будзе, а далей — болей.

На праўленні пастанавілі перацягнуць усіх з хутароў да гурту, на пасёлак... Калгас любіць, каб усё ў кучы было. Яно-то так, але давядзі кожнаму, што так трэба. Не проста гэта скрануцца з месца, дзе ўжо абжыўся, агледзеўся, прывык. Хай людзі далёка, дык лес блізка. Угаворы ўгаворамі, а сабраў Вержбаловіч брыгаду з чатырох хлопцаў, прыдаў ім дзве падводы. Прыязджаюць на хутар і пытаюцца: «Помач трэба?» Хто ўсё гэта разумеў, гаварыў адразу: «Трэба». Хлопцы памагалі і спусціць дах, і разабраць хату, і перавезці яе на пасёлак. А хто не разумеў, у таго было і такое: пайшоў касіць, ці жаць, ці яшчэ што, вяртаецца дамоў, а ў хаце сярод белага дня цёмна. Аказваецца, дах спусцілі і прыставілі да сцяны, засланілі вокны. Вось і глядзі цяпер, як быць далей: пераязджаць ці не пераязджаць.

На хутар да Мастоўскіх з хлопцамі прыехаў і сам Вержбаловіч, там ледзь не дайшло да бойкі. Іх сустрэў Стась з сякерай у руках. «Паспрабуй сунься каторы, галаву знясу»,— дакляраваў ім і, вапшчэткі, пайшоў бы на гэта. Дзікі чалавек быў у злосці. Але тым разам ніхто з хлопцаў не стаў нічога даказваць яму... Адно Хведар сказаў: «Мы паедзем, а ты добра падумай. Я табе па-бальшавіцку гавару: трэба пераязджаць». Пастаялі так яны адзін перад адным, паглядзелі ў вочы адзін аднаму і разышліся. Разышліся, каб калі-небудзь зноў сысціся. Болей ні Вержбаловіч, ні хлопцы на хутар да Мастоўскіх не прыязджалі. Ды і патрэбы ў гэтым не было. Праз месяц ці праз два Сцяпан сам арганізаваў абоз з чатырох падвод, і яны за адзін дзень перакінулі ўвесь двор на пасёлак. І адзін, і другі не ўмелі адступаць, але што паробіш: сіла перагнула сілу...

Хведар радуецца, як дзіця. «Бач, самі пераехалі, а ты баяўся. Я табе па-бальшавіцку гаварыў: адзін і ў ка́шы няспорны. Нікуды яны не дзенуцца, усё будзе добра. І па-мойму выйшла. Мы яшчэ пасмяёмся з гэтых хутарскіх».

— Вапшчэткі, у кашы, можа, і няспорны,— кажу яму,— а за вуглом ды калі яшчэ з ломам... Гумно нехта ж падпаліў? Смех — бяду качае, і весела таму, хто смяецца пасля.

У калгасе ўсё кіпела, як на скаварадзе, і ішло на лепшае. Стараліся людзі, як на сваім, і відзён быў знак работы. І нарыхтоўкі здавалі, і працадзень не пусты быў. Фінская вайна пачалася, некаторых мужчын забралі, цяжэй стала разварочвацца, а ўсё адно ў пару паспявалі. І Хведар узяўся дом ставіць. «Дакуль я ў панскіх пакоях сядзець буду? І цесна, і людзі смяюцца: сядзеў адзін пан, цяпер сеў другі»,— апраўдваўся ён, а што тут апраўдвацца. Пра паноў — дык гэта жарты. Што гэта за чалавек, які не ўмее падвесяліць сябе? А сям'я вырасла. Люба ўмудрылася падкінуць яму адразу двойню — хлопчыка і дзевачку. Пабабіла іх старая Юрчонкава. Тут ужо без сваёй хаты няможна. А людзі глядзяць з другога боку: чаму ты не хочаш, як усе, на зямлі асядаць, карэнне пускаць? Хата трэба. І раптам ноччу загарэлася гумно з жытам. Добра, што агонь не паспеў разгуляцца і сажалка блізка была, бо ўвесь двор фукнуў бы...— Ігнат Сцяпанавіч прыціх, засяродзіўся. Валера таксама маўчаў.

Калі зірнуць на дарогу з Клубчы ў Ліпніцу здаля, то можа здацца, што яна зусім роўная і значыць небакрай амаль адной лініяй, ды і ўся прастрань паміж сёламі выдае бадай што роўняддзю, і толькі хіба лес замінае, каб захацеў угледзець сяло з сяла. Але варта выправіцца ісці, як адразу ўбачыш, што дарога ўвесь час то падымаецца ўгору, то спадае ўніз і пагоркі гэтыя не маленькія — хаваюць за сабой і чалавека, і машыну.

Недзе за паўкіламетра ад Ігната Сцяпанавіча з Валерам то паказвалася на ўвесь рост, то зусім прападала купка людзей; пяць постацей наперадзе, а воддаль яшчэ адна, большая, у ярка-чырвонай спартыўнай куртцы і вязанай чырвонай шапачцы.

Гуртом ішлі пяцікласнікі і шасцікласнікі, а ў чырвонай куртцы і шапачцы ішла дзесяцікласніца Адасёва Волька. Яна не-не ды і азіралася назад, быццам хацела праверыць, ці ідуць Ігнат Сцяпанавіч і Валера.

Ігнат Сцяпанавіч з Валерам былі якраз за лесам, калі чырвоная куртачка прыпынілася, прысела на адно калена, стала папраўляць нешта на назе; можа, з замком боціка зрабілася што. Зноў бліснула вачыма ў іх бок і доўга пазірала так.

— Вапшчэткі, Валера, ты цвёрда ўпэўнены, што Волька не да цябе азіраецца? — спытаў Ігнат Сцяпанавіч.

— Чаму гэта да мяне? Я ёй нічога не вінен,— злосна адказаў Валера, і Ігнат Сцяпанавіч зразумеў, што трапіў як у сука.

— У іх гэта як у дзяцей, часта бывае так: ты думаеш пра адно, а яны рашаюць другое, і выходзіць, быццам ты сам падахвоціўся. Вунь Надзя Мітрафанава, магазіншчыца, думаеш, як узяла ў рукі Мішу Крываротага? Сам ён з Бору, і не тое што піў — мок у гарэлцы да такой лініі, што жонка адступілася і выгнала з хаты, а сама з дзіцем засталася. А ён пасля гэтага ўзяў яшчэ большы разгон. Чалавек без дысцыпліны — ніжэйшая інстанцыя, бо ніякіх рэсурсаў не мае, і тут сам Бог не памочнік. Лічы, прапашчы, кончаны, але калі трояк ці пяцёрка шамацяць — таварышы знойдуцца. А ён — трактарыст, не без грошай, а там і да Надзі: «Адамкні магазін». Яна возьме і адамкне, а пасля і забрала яго да сябе ў хату. Кажа, сэрца забалела глядзець, што п'е, а не закусвае.

Людзям пацешна: здурнела, няйначай. Чакаюць усе: ці на шмат хопіць яе закускі. А Міша жыве ў яе тыдзень, другі. І што цікава: канчае работу і адразу ідзе да яе дамоў. Першае, гэта яна адрэзала яго ад таварышаў, як ваўкі адразаюць ад кучы слабага на сілу лася. Сунуліся яны былі за ім у хату, а Надзя стала на парозе: «Хлопчыкі, нельга, у яго рэжым». Патапталіся яны на двары і пайшлі. Горай за ўсё, што і магазін зачынены.

Пайсці пайшлі, а цікаўнасць, як грэх, цярэбіць душу: што гэта яна такое прыдумала, каб усё іхняе стала яму няміла? І падцікавалі пад акном. І што ўбачылі? Прыходзіць ён у хату, а на пліце ўжо вада гарачая стаіць. Надзя зконаўкай над тазам, палівае, ручнік падае. Памыўся, надзеў чыстае — за стол. А там разам з усім і паўлітра стаіць. Сеў ён за стол і пазірае на Надзю. А яна: «Выпі, Міша... Я па сабе ведаю: бывае, што хочацца. І я з табой вып'ю...» — «Ну, калі і ты са мной...»

Ёй хочацца... За ўсё жыццё, можа, паўчаркі і ўзяла на душу. Прыгубіла чарку, сядзіць, есць з ім, гавораць. Але дзіўна другое: і Міша дзве стограмоўкі выпіў — і ўсё. З-за стала ўстаў, а пляшку пакінуў. Гэта каб калі хто так сказаў, не паверылі б... А тут на свае вочы...

Вапшчэткі, потым узяла яна яго і паехалі ў раён, універсальны магазін рашылі наведаць. Прымералі яму касцюм, чаравікі. Пацягнула яна яго ў аддзел, дзе ўсё дзіцячае: давай выберам касцюмчык. «А як жа, Міша,—

кажа яму,— ён жа ў школу сабраўся, а гэта такое свята». Гэта пра яго сына. І расказвае пра сябе, як ёй некалі хацелася сукеначку, а маці не было за што купіць. Ён жа, Міша — до-о-обры куль саломы, мешалка трэба, каб выбіць што, а тут, кажа, мне і горла звязала.

Вярнуліся дамоў, яна зноў жа: сабрала вузел гасцінцаў і выпраўляе: «Схадзі, Міша, занясі. Сваімі вачыма пабачыш, можа, яшчэ што трэба».— «Дык хіба што давай разам сходзім?» — хацеў ён узяць яе з сабой. Сумняваўся ў сабе, як там усё павернецца. Але яна не далася: «Што ты, Міша, як жа я пайду...» Адзеўся ён, абуўся і пайшоў. Вярнуўся пад вечар і тут ужо сам папрасіў выпіць. А ўжо за сталом Надзі прызнаўся, што і там была пляшка, але ён не ўзяў. І вунь ужо двое хлопчыкаў з Надзяй знайшлі, а ты, вапшчэткі, кажаш...

— Мяне гэтым не купіш. І нечага ёй на мяне азірацца. Хай на свайго Галузу азіраецца.

— Гэта каторы, Сцяпанаў?

— Не, Косцікаў.

— Бацька ж маленькі, з-за матацыкла не відно.

— І сынок такі. Але выдатнік.

— Глядзі ты... Значыць, няма ў яе на яго надзёжы?

— А якая тут надзёжа трэба? Кончыць свае дзесяць, паедзе, паступіць — і ўсё.

— І куды яна рашыла паступаць?

— У інстытут культуры.

— А што гэта такое?

— Ну, песні, танцы, самадзейнасць розная.

— Дык гэта ж цікава. Але і смеласць трэба на людзі выходзіць.

— У яе хопіць гэтага,— Валера ўхмыльнуўся.— Але яна ўжо цяпер пачала рыхтавацца да экзаменаў. І падзяліла: з Галузам — гісторыю, са мной — літаратуру, сачыненне.

— А ты хацеў, каб і гісторыю з табой?

— Са мной? Дык яны ж у дзесятым, а я толькі ў дзевятым...

— Сур'ёзная дзеўка.

— А то не сур'ёзная,— і Валера энергічна таўхануў плечуком угору, нібы даючы знак, што гаворка трохі зацягнулася.

— Вапшчэткі, я б табе параіў пачаць насіць сумку на левым плечуку,— даволі нечакана прапанаваў Ігнат

Сцяпанавіч.— Ты носіш яе на правым і ўсё падбіваеш і падбіваеш угору. І сам скрывіўся ўправа, і плячук торгацца пачаў.

Валера зірнуў на Ігната Сцяпанавіча, усміхнуўся:

— Нічога, выпрастаюся.

Дарога набліжала да Ліпніцы. Прагупалі па бетонным мосце, перакінутым над меліярацыйным каналам. Мост глуха паўтарыў іхнія крокі. Сівая халодная вада імкліва неслася па прамым трохметровым жолабе.

Ігнат Сцяпанавіч запаволіў крок, сказаў:

— Вапшчэткі, толькі дурні могуць думаць, што недзе нешта ёсць, што не мела свайго імя. Папраўдзе ўсё інача. Калі яно ёсць, то як жа яно можа не мець свайго імя, а?

Валера ўскінуў здзіўленыя вочы на Ігната Сцяпанавіча. А яны ішлі якраз па той зямлі, дзе некалі да калгасаў стаяў двор Ігната Сцяпанавіча. Было гэта даўно, і Валера пра гэта не ведаў.

— Як я думаю, дык гэта ж яшчэ на тваіх вачах вунь там, траха не дабіраючы канавы, стаяў дуб?— сказаў Ігнат Сцяпанавіч, матнуўшы галавой направа, туды, дзе, гарбацячыся чорна-рудой зямлёй, паўз дарогу ішоў бераг канала. Сказаў і спаймаў сябе на тым, што паказаў трохі не туды: дуб стаяў проці развілкі дарогі, а да развілкі яны яшчэ не дайшлі.

— Ага,— весела падхапіў Валера.— Я тады ў другі клас хадзіў. Помню, сядзім мы на ўроку, а Павел Нічыпаравіч расказвае нешта пра партызанства сваё, як яны хадзілі ўзрываць масты... Ён, аказваецца, падрыўніком быў. Увайшоў у самы смак. Расказвае і паказвае, як гэта яны ціхенька падпаўзлі да моста, знялі вартавых, падклалі тол... Мы ўсе затаіліся, як мышы, раты паразяўлялі, і раптам як гухне, аж шыбы захадзілі. Мы ўсе і папрысядалі за партамі, а Коля Цэдрык шэпча:

— Во, яшчэ адзін!

— Дык тут жа мастоў блізка няма,— засумняваўся нехта.

— Як няма? А ля лесу! — не здаецца Коля.

— Дык ён жа маленькі!

— Ну і што, што маленькі...

Шэпчам і пазіраем на Паўла Нічыпаравіча. І саўсім нам няўцям, што гэта ніякая не вайна, што яна была вунь калі... А Павел Нічыпаравіч і сам нічога не ведае.

Кажа: «Мусіць, самалёт паляцеў». Прыйшлі дамоў і толькі тады дазналіся, што меліяратары пень гэтага дуба ўзарвалі, а пасля два дні трактарамі карэнне выдзіралі.

— Дзіва што, такі дуб быў. Тры мужчыны браліся за рукі, і толькі так можна было абняць. Хведаркаў Адась з брацэнікам два дні шаркалі пілой, пакуль звалілі. Папацелі, як на лесанарыхтоўках некалі. Вапшчэткі, да вайны і ў вайну кругом яго рос бярэзнік. І не малады быў, а дуб над ім стаяў, як галава над плячыма. Нават цёмнай ноччу, бывала, выйдзеш у канец пасёлка, прыгледзішся, і відна галава гэта.

— Хто гэта сёння скажа, што там дуб стаяў! — Валера павёў вачыма ў той бок, куды паказваў Ігнат Сцяпанавіч.

— Ага,— нібы ўзрадаваўся Ігнат Сцяпанавіч.— Там і елкі былі, і хвоі. А поле ішло паласой між дарогай і лесам... Каменем можна было дакінуць з канца ў канец баразны...

Нешта падобнае на ўсмешку паказалася на твары Ігната Сцяпанавіча. Валера прымеціў гэта, але прамаўчаў. Любяць гэтыя старыя калупацца ў мінулым, як дзік у мурашніку. Залезе, што і самога не відаць, адно пацяруха ляціць угору.

Ігнат Сцяпанавіч таксама маўчаў, мераў дарогу далей, а тая ўсмешка не хацела пакідаць яго твар.

Падышлі да будынка старой, скасабочанай пуні, што чакала свае чаргі, каб хто раскідаў на дровы. Павярнулі направа — і ўбачылі Вольку. Яна стаяла, прысланіўшыся плячыма да чорных, патрэсканых бярвенняў, павярнуўшы галаву ў іх бок. Шэрыя вочы яе весела ўсміхаліся. Валера няўзнак таргануў правым плячом угору.

— Вы як усё роўна змоўшчыкі якія,— сказала Волька, адштурхнуўшыся ад сцяны і прыстройваючыся ісці поруч. Ростам яна была трошкі меншая за Валеру, ішла пругка і лёгка, як танцавала, нібы і не было пяці кіламетраў са школы. Нешта ад свавольнай дзікай казы.

— Шмат ты разбіраешся,— хмыкнуў Валера.

— Каб не разбіралася, не гаварыла б,— адказала Волька, пазіраючы на Ігната Сцяпанавіча, нібы чула ў ім свайго саюзніка.

— Вапшчэткі, можна лічыць, што так і было. Калі трэба рашаць што важнае, без гэтага ніяк нельга. Трэба з розумам: дурня і ў царкве б`юць.

— А я табе што казала? — узрадавалася Волька.

— Што ты казала?

— Каб падаждаў мяне, а то... Як вы кажаце, дзядзька... Дурня і ў царкве б'юць? — Волька засмяялася. Валера замахнуўся на яе сумкай, яна кінулася ўцякаць, Валера даганяць. Так са смехам і дурыкамі і ўскочылі ў канец сяла.

## III

Гэты скупаваты на ўраджай лапік колішняй Казановічавай зямлі выдзелілі яму са старэйшым братам Міхайлам у дваццаць пятым годзе.

Міхайла жанаты ўжо быў, меў двое дзяцей, і яго сакатуха Арына хадзіла грубая трэцім, а Ігнат толькі што вярнуўся з Бабруйска. Чорная, тонкага сукна падзёўка з шырокім каракулевым каўняром, галіфэ, боты з высокімі халявамі, спецыяльнасць сталяра — вось, відаць, і ўсё тое галоўнае, чым ён быў тады. Трэба яшчэ дадаць і слова «вапшчэткі», якое залішне часта пачало пракідацца ў яго гаворцы, хоць сам ён гэтага і не заўважаў,— пачалі заўважаць людзі.

Можа б, ён і застаўся назаўсёды на мэблевай фабрыцы, калі б не бацька. «Неча бадзяцца па свеце, аціраццa ля чужых вуглоў, трэба бліжай да зямлі дзяржацца»,— сказаў тады бацька, даючы на абзавядзенне Міхайлу карову і дзве авечкі. «І табе цялушку дам, як жэнішся... вапшчэткі»,— дакляраваў і Ігнату, важка паўтарыўшы новае для сябе Ігнатава слова.

З землямерамі хадзіў тады Мікіта Гонта. Уробленай зямлі было скупавата на ўсіх, і ім з Міхайлам дазволілі пашырацца аж пад бярэзнік: уздзірайце аблогу, колькі зможаце. І ўзадралі. Паставілі хату — адну на дваіх, толькі перагарадзілі дашчанай перагародкай з дзвярыма, каб не выходзіць на двор, калі захочацца зайсці аднаму да другога. Скідалі хлеў, гумно, пасадзілі садок. Хата стаяла ўздоўж дарогі, і два акны заўсёды бачылі, хто куды едзе ці ідзе. Пад вокнамі рабіна, дзве ліпы, гародчык з кветкамі. Арына надта ўпадала па кветках, і яны цвілі ў яе да самай позняй восені. Па другі бок дарогі, над сажалкай, сеў Андрэй Цукора. З ім яны і трапілі на тыя танцы ў Курганок.

Трапілі зусім выпадкова. Памагалі траляваць лес Ан-

дрэеваму цясцю, павячэралі і ехалі дамоў. У канцавой хаце наярваў гармонік, чулася скрыпка, біў бубен. Андрэй прытрымаў каня:

— Можа, зазірнём?

— А чаму і не зазірнуць. Зазірнём. Толькі каб Ганна твая не загневалася,— адказаў Ігнат.

Усяго паўгода, як Андрэй быў жанаты, і жонка была адсюль, з Курганка.

— Мы скажам, што шукалі табе нявесту,— засмяяўся Андрэй.

— Вапшчэткі, можна і так,— пагадзіўся Ігнат.

Прывязалі каня да плота, падкінулі сена і зайшлі ў хату. Моладзі было поўна, і на іх ніхто не звярнуў увагі. Хаця яны і не лезлі наперад: збіраліся не на танцы, а ў лес: валёнкі, кажухі, рукаўкі. З Андрэем паздароўкаліся два хлопцы, загаварылі: адкуль, куды напроці ночы. Андрэй сказаў як пра сур'ёзную задачу: «Прыехалі чалавеку дзеўку выбіраць»,— і паказаў на Ігната. Смех смехам, а хлопцы загаварылі напраўду:

— Дзевак такіх і няма. У Шпака хіба толькі, праўда; старэйшая замужам ужо, сярэдняй нешта сёння не відно, а самая меншая, Марына, у кутку ля акна стаіць, семкі грызе.

Тады і Ігнат убачыў яе: невысокенькая, паглядная, і каса ніжэй пояса. Нібы тая вавёрка, якую сёння бачылі ў лесе. Смелая была такая вавёрка, сама падбегла да саней. Стала ў снезе на заднія лапкі, пярэднія ўгары, ля грудак, вушкі чуйна наструнены, хвосцік закручаны — як на карцінцы. Стаіць і пазірае на іх вочкамі-зярняткамі. Ніякіх табе клопатаў, здаецца, усё жыццё — адна ўцеха скакаць з галінкі на галінку, грызці арэхі ды спаць у хайлуку, накрыўшыся хвосцікам.

І гэта, ля акна: грызе сабе семкі, стрыжэ вачыма па хаце. Зірнула на іх, вочы пабеглі далей.

З тым яны і паехалі: наперадзе ноч, а дарога праз лес, кіламетры чатыры.

У наступную суботу пасля абеду зноў запрэглі каня. Цяпер ужо ехалі, маючы пэўны намер. Андрэй ахвотна ўзяў на сябе ролю свата. Ён і коніка падварушваў, хоць той і сам бег спорным трушком, уцякаў ад марозу.

Пад'ехалі да Шпаковага двара, прывязалі каня да шулы, зайшлі ў хату, быццам пагрэцца. Шпачыха ляжала на печы, сам Шпак сядзеў на лаве ля акна: акруглая

густая русая барада, маленькія вочы пад густымі бровамі. Марына збіралася ў сяло на танцы. Якое сяло, калі хлопцы самі прыйшлі ў хату! І не прыйшлі — прыехалі з-за лесу.

Андрэй сеў на лаву ля гаспадара, павёў гаворку пра скаціну, пра пагоду: злосная і снежная выдалася зіма.

Ігнат падсеў да «вавёрачкі». І цяпер яна нагадвала яму таго непаседлівага звярка. Тоўстая каштанавая каса, вялікія карыя вочы — жывыя, усмешлівыя і як быццам старэйшыя за яе самую. Ім і семнаццаці яшчэ не было, а здавалася, ведалі нашмат болей і не хацелі таіць таго, што ведалі. Ігнату падабалася і гэта. Вочы нібы падначвалі яго, падахвочвалі, клікалі некуды, дзе ён яшчэ не быў. І зусім не хацелася думаць ні пра мароз, ні пра снег, і ісці некуды з гэтай цёплай хаты не хацелася, і калі праз нейкі час Андрэй спытаў:

— Ну што, трохі абагрэліся, можа, і па коніку? — гэта было пытанне-пароль, Ігнат адказаў:

— Мне тут добра, я б ужо і асцепяніўся.

— Ну, тады выйду падкіну каню,— сказаў Андрэй.

Падкінуў каню, накрыў яго посцілкай і вярнуўся ў хату з літроўкай у руцэ. Цяпер ужо і Марына ўбачыла, што хлопцы заехалі не проста пагрэцца і ад іх так лёгка не адмахнешся. Было падобна на запоіны, і яна ўспыхнула чырванню, схапіла з крука паўкажушак, пачала спяшаючыся апранаць яго, але яе спыніў спакойны матчын голас. Маці злезла з печы і збірала закуску на стол:

— Куды ж гэта ты, дачушка? Людзі на парог, а ты за парог?

— Ну, людзі ж не ў пустой хаце застаюцца... Ім і з вамі будзе цікава.

— З намі як з намі, але трэба, каб і ты была,— сказаў стары Шпак, і Марына павесіла кажушок назад на крук. І ўвесь вечар сядзела за сталом, як чужая.

Пайшлі на танцы, былі яны ў той жа канцавой хаце. Танцы як танцы, але пад канец Марына шмарганула за дзверы і пабегла дамоў. Ігнат дагнаў яе ўжо ля самага двара.

— Вапшчэткі, чаго гэта ты? — спытаў.

— Нічога.

— Сказала б, разам бы пайшлі...

— А чаму я павінна казаць табе?

— Ну...

— «Ну» — гэта на каня, а ў нас з табой нічога не памяшалася. Ты — сабе, я — сабе.

Гэта была праўда. У іх яшчэ нічога не памяшалася, нічога між імі як быццам і не адбылося, але Ігнат ужо не мог не думаць пра яе.

«Вавёрачка, хвосцік банцікам»,— смяяўся Андрэй, едучы назад, цмокаў раз-пораз на каня, хоць той і сам церабіўся спорным трушком па наезджанай дарозе. Маўклівы лес навісаў з бакоў, хаваючы дарогу ад зорнага неба, Ігнат панура маўчаў, насупіўшы бровы.

Праз два дні ягоны конь зноў стаяў ля Шпаковага двара. Гэты раз Марына сустрэла Ігната як свайго. Ігнату нават падалося, што яна чакала яго і была рада, што ён прыехаў.

І яшчэ колькі разоў прыязджаў Ігнат у Курганок — і адзін, і з Андрэем, і ніколі не ведаў, як сустрэне і як праўдзе яго Марына, такая яна кожны раз была розная. Бачыў бы, што чужы, нецікавы ёй,— кінуў бы ездзіць: сіллю ласкі не выпрасіш. Дык не. І каня прылашчыць: «Віславухенькі, дурненькі ты мой!» — прыціснецца шчакой да цёплай храпы, можа і да лесу ў санях праехаць. А бывае, што і з хаты на двор не выйдзе. А потым ледзь і саўсім не пабурылася ўсё.

Стараўся сват і перастараўся.

У адну з ядрана-марозных нядзельных раніц зірнуў Ігнат у акно на дарогу і ўбачыў, што ля рабіны стаіць прывязаны конь, а высокі хлопец у даўгім белым кажуху нясе з саней бярэмя сена. Ля саней пераступаюць, грэючыся і размінаючы ногі і раз-пораз кідаючы позіркі на вокны хаты, захутаная ў белую вязаную хустку дзяўчына і яшчэ адзін хлопец у ярка-рыжай, відаць з лісы, шапцы.

Госці былі з Курганка. У дзяўчыне Ігнат пазнаў старэйшую Марыніну сястру Галю, высокі хлопец у белым кажуху быў яе мужык Пятрок, а хлопец у лісінай шапцы быў Марынін браценік, жыў ён недзе далей, за Курганком.

— Бацька з паясніцай злёг, папрасіў, каб да доктара з'ездзілі, ці самога прывезлі, ці мазі якой. Прыехалі ў Клубчу, а Капскага няма дома, з'ехаў некуды. Сабраліся вяртацца назад, ды Галя ўспомніла: «Недзе ж тут недалёка жыве наша будучая радня». І праўда: для старца міля — не круг, і, бачыш, вось мы ўжо і тут,— тлумачыў Пятрок Ігнату прычыну раптоўнага з'яўлення тут усёй

іхняй кампаніі. Тлумачыў, пасміхаючыся ў рыжыя абвіслыя вусы, мераючы шырокімі крокамі не надта прасторнае Ігнатава жытло, мала непакоячыся аб тым, павераць яго байцы ці не паверацць. Канечне, байцы гэтай ніхто не паверыў. Было ясна, што стары Шпак прыслаў разведку: паглядзець, што за людзі набіваюцца ў радню.

І Міхайла, і Арына былі дома. Яны зайшлі са сваёй палавіны, паздароўкаліся, і, пакуль Ігнат раздзяваў і рассаджваў гасцей — каго на канапу, каго на табурэтку,— Арына накінула на стол скацерку, пачала насіць міскі з ядой. Міхайла схадзіў праз дарогу па Андрэя з Ганнай, і неўзабаве ўсе сядзелі за сталом. Пашкадавалі, што госці спяшаюцца, а то трэба было б скочыць за лес па маці і бацьку.

Запраўляў за сталом Андрэй: як чалавек свой і як чалавек, на плячах якога ляжалі нялёгкія сватоўскія абавязкі. І пілі, і елі, і гаманілі, і госці ўжо адчувалі сябе як свае, асабліва Галя. Яна адразу перайшла з Арынай на другую палавіну, каб паняньчыцца з малым. Пачалі ўжо гаварыць пра тое, каб збірацца дамоў: зімовы дзень кароткі, а дарога няблізкая, калі Андрэй прынёс яшчэ адну цёмную літровую пляшку. Наліў усім і стаў настойваць, каб усе выпілі сватавай на лёгкую дарогу.

Першы паднёс да рота сваю чарку Пятрок, паднёс, адставіў, уважлівым позіркам абвёў застолле. За сталом усё было сур’ёзна і чынна, як і павінна быць. За гаманой выпіваць нават гэту сватаву чарку не спяшаліся. І Пятрок прапанаваў выпіць за здароўе самога свата, толькі той абавязкова павінен выпіць першы. Сват аднекваўся не доўга: што ні кажы, работа ў яго няпростая, і хоць людзі кажуць, што свату заўсёды першае — і чарка, і... але ён рашуча чокнуўся з Петраком, зрабіў два глыткі, папярхнуўся і, вылупіўшы вочы, кінуўся на двор. Услед за ім вываліліся на двор і госці.

— Дык гэта ты рашыў спецыяльна так пачаставаць гасцей?..— трос Андрэя загрудкі Пятрок. Галя, спяшаючыся, закручвала на галаве хустку, брацэнік яе ў лісінай шапцы разварочваў каня...

— Ды я, ды што вы, хлопцы! — апраўдваўся Андрэй.— У цемнаце ў склепе... стаялі пляшкі і з гарэлкай, і з газай... Ды во і яна... сапраўдная...

Доўга давялося ўгаворваць гасцей, даказваць, што ніхто нічога такога не замышляў, проста чалавек пера-

блытаў, за што і паплаціўся... Свату сватава, не салодкае, дык горкае...

Ой, сват, сват, сват,
Не бяры мяне за зад...—

спявала праз месяц на сестрыным вяселлі Галя, смела наступаючы на захмялелага Андрэя, і той ніякавата ўсміхаўся, адступаў, азіраючыся то на сваю жонку, то на Петрака, рады, што ўсё так добра скончылася з яго сватаўствам. Высокая, стройная целам і вясёлая была старэйшая Шпакова дачка. Як і не пакінула дома трое дзяцей — песні, прыпеўкі, жарты. І Пятрок хоць бы што: гуляй, баба.

Марына ж была росту невялічкага, але быстрая, тут ёсць — тут няма. То туды бяжыць, то туды: і карова, і свінні, і прасці, і ткаць, і агарод, і поле — то гуркі, то жыта, то бульба, то лён... Ні дня, ні хвіліны вольнай, а ўсё рабілася непрыкметна, як само сабой. І насіла, і раджала дзяцей лёгка. Збоку, здаецца, і не відно нічога, хіба што пакруглее трохі, як бы паправіцца, у паясніцы раздасца, ды шчокі пасвятлеюць: то цёмныя, смуглыя, а гэта вясенняя бледнасць ляжа на іх.

«Хітрая ў цябе, Ігнат, баба,— смяяліся мужчыны.— Сёння бегае, як дзевачка, а заўтра, глядзіш, гатова — дачку няньчыць».

Што праўда, то праўда, на гэта была скорая. Зрабілася дрэнна ёй, пачаліся схваткі, пакуль ён збегаў па бабку, пакуль прывёў, яна ўжо гатова, аблагодзілася. Так было з Соняй, так з Гуняй. Адно ведай, мужык, запасайся віном ды сустракай баб — у водведкі ідуць...

Умела баба рабіць работу і любіла рабіць скора. Тут узялася, тут зроблена. Ігнату падабалася бачыць, як яна жне. На жніво яна заўсёды адзявалася, як на свята: белы крамны каптанік з чырвонай вышыўкай на рукавах і на грудзях, чорная з чырвонымі брыжамі па беражку спадніца, белыя балеткі. Касынка гладка аблягла лоб, ражкі пайшлі назад — пад валасы.

На жніве і ўкусіла яе гадзюка. Было гэта ўжо пры Вержбаловічу, яны ўжо былі на пасёлку, а жалі на Яворскіх дворышчы. Зямля там была добрая, тлустая, і жыта выгнала ў рост чалавека.

І тады Марына гнала свой загон першая. Разагнулася паглядзець, як жнуць астатнія бабы, абвяла вокам поле, шырока і роўна займала яно прастору аж да лесу, і

рознакаляровыя хусткі жней мільгалі на ім, як камяньчыкі пад вясёлай рачной вадой: то пакажацца, то прападзе. Змахнула пот з ілба і пайшла пад вішнёўнік, што густым здзічэлым кустом рос паўз дарогу. Там у цяньку стаяў гладыш з хлебным квасам. Нагнулася, працягнула руку да гладыша і пачула, як нешта кальнула ў лытку. Азірнулася, і сэрца ёкнула: у крапіву рабым матузом вільнуў востры хвост гадзючы. Яна схапіла нейкую рагаціну, каб дагнаць той хвост, але гадзюкі ўжо не было, і тады крыкнула жанкам:

— Бабачкі, гадзюка!

Збегліся бабы, пасадзілі яе на сноп, перасцігнулі фартухом нагу вышэй раны, пад каленам, пабеглі па каня.

Ігнат якраз быў дома, заканчваў рамы пад веранду ў калгасныя яслі, калі ўбегла ў двор перапалоханая Вержбаловічава Люба:

— Хапай, Ігнат, каня ды скоранька на поле. Марыну гадзюка ўкусіла, у бальніцу трэба.

На шчасце, і калёсы былі вольныя на дварэ, і конь на выгане, і збруя ў калёсах. Умомант Ігнат запрог каня, і калёсы затарахцелі па дарозе. Бабы ўжо вялі спалатнелую Марыну ў сяло. Яе паклалі на канюшыну ў драбіны, і Ігнат, стаўшы ва ўвесь рост у перадку, пагнаў падводу ў Клубчу. Гнаў, а сам увесь час кідаў трывожны позірк то на Марынін твар, то на ногі. Таўсцела, набракала сінім укушаная нага, і шэрым, мёртвым рабіўся твар.

— Падаждж трошкі, пацярпі, Марыначка. Ужо скора, скора будзем у доктара,— прыгаварваў ён, суцяшаючы сябе і яе, а сам бесперапынна тузаў за лейцы, хоць конь і так ляцеў што было сілы.

— Но! Но! Но!!!

Капскі быў дома, і гэта выратавала Марыну.

— Ты каго мне прывёз? Я пытаюся: каго ты мне прывёз?! — убачыўшы змярцвелы Марынін твар, закрычаў на Ігната доктар, насоўваючыся сваёй шырокай дзесяціпудовай тушай.

— Жонку, бацька... Гадзюка ўкусіла...

— Жонку, разява. Жонку... Нябожчыцу — во каго ты мне прывёз.— Пухлая доктарава рука трымала маленькую Марыніну руку, нашчупвала пульс.— Яшчэ некалькі мінут і...— Капскі не дагаварыў, загадаў: — Нясі хутчэй у хату...

Ігнат лёгка падняў з канюшыны зусім абвялую жонку, занёс у прыёмны пакой, паклаў на невялікую канапку. Капскі ўжо ішоў да іх, трымаючы ў руках шпрыц.

— Ды я ж, бацька...— спрабаваў нешта сказаць Ігнат пасля ўколу, калі знясіленая Марына забылася выратавальным сном.

— Бацька... Скажы свайму бацьку, Сцяпану скажы, хай здзярэ з цябе во гэтыя крамныя порткі ды дубовым пугаўём, каб пырскі... пырскі каб паляцелі... Нагу палюдску перавязаць не ўмееце. Сэрца, сэрца магло не вытрымаць... А баба ж харошая... А, харошая? — перапытаў, строга зірнуўшы на Ігната. Стаў прыкурваць папяросу, і Ігнат убачыў, што тоўстыя пальцы яго дрыжаць. Гэта ў заўсёды спакойнага Капскага! Мужчыну за шэсць дзесяткаў, шырокі, як стол, столькі ўсяго пабачыў на сваім вяку, што здавалася, нішто ўжо не можа вывесці яго з раўнавагі.

Доктар тым часам падышоў да шкапчыка з лякарствамі, адчыніў дзверцы. Дастаў шырокую нізкую пляшку з нейкім чыстым лякарствам. Наліў у невялікую шкляначку, што стаяла тут жа на сподачку, выпіў. «Вапшчэткі, і доктару трэба лякарства»,— падумаў Ігнат. Капскі зірнуў на яго цераз плячо, наліў зноў у шкляначку:

— Яно, відаць, і табе паўшпрыца не зашкодзіць,— і падаў шкляначку Ігнату. Ігнат узяў лякарства, спытаў:

— А яно не горкае?

— Пі! — загадаў Капскі.

Ігнат глынуў лякарства і застыў з разінутым ротам, пазіраючы на доктара: гэта быў чысты спірт. Капскі глянуў праз акно на мокрага, як выцягнуты з вады пацук, каня і сказаў:

— Ты хоць назад ужо не гані яго...

— Ды ўжо ж... як жа,— прадыхнуў нарэшце Ігнат.— Вялікі дзякуй вам, бацька.

— Яму скажы дзякуй,— адказаў грубым голасам Капскі, кінуўшы галавой на каня.— А жонку праз тры дні прыедзеш забярэш. Толькі глядзі мне, беражы яе... Ты ж, мусіць, хочаш, каб яна яшчэ табе дзяцей нараджала?

— А як жа без дзяцей?

— То-та. Ну, што, яшчэ паўшпрыца возьмеш? — паглядзеў Капскі на Ігната. Ігнат ужо асмялеў, ведаў, што гэты здаровы шырокі чалавек не пусціць яго ў крыўду.

— Калі на тое пайшло, бацька, то можна было б і болей.

— Ну, болей я табе не дам. А гэта пойдзе, як лякарства, бачу, перагарэў ты шмат, пакуль дабавіў яе сюды.— Ён наліў яшчэ раз у чарачку, выпіў сам, наліў Ігнату.— Дык праз тры дні,— паўтарыў Капскі, і шырокая спіна яго схавалася за дзвярыма ў суседні пакой, але тут жа дзверы адчыніліся зноў.

— Я чуў, ты майстравы столяр?

— Вапшчэткі, як глядзець. Вось у Бабруйску, на фабрыцы майстры...

— Што мне твой Бабруйск,— скрывіў твар Капскі.

— А што трэба? — Ігнат адчуў нялоўкасць, нібы ён загадзя адмаўляўся нешта зрабіць.

— А трэба — шафа. На ўсю сцяну — з дзверцамі, палічкамі, шуфлядкамі. І ўсё гэта пад шклом, каб усё відаць было, а?

— Гэта можна. Толькі дуб харошы трэба.

— Няўжо для Капскага ва ўсім раёне добрага дуба не знойдзецца?..

— Вапшчэткі, думаю, што знойдзецца.

— Я таксама думаю, што знойдзецца,— і Капскі зачыніў дзверы.

Ігнат адвязаў ад частаколу каня і пусціў па дарозе: хай ідзе, як ведае. Той плёўся нага за нагу, потым пайшоў спарней, а за лесам і пабег — спачатку з горкі, калі пачаў даставаць па нагах перадок, а там і сваёй ахвотай.

— Маладзец, ажыў,— пахваліў сам сабе каня Ігнат, лежачы на канюшыне. Дарога дамоў заўсёды жаданая і карацейшая.

Конік бег лёгка, узбіваючы пыл капытамі. Ён расцякаўся над зямлёй і пах, як пахне мука, якую сыплюць на лапату пад булку, перш чым садзіць яе ў печ. Была стомленасць ва ўсім целе і пустата ў галаве. «Чалавеку, які тануў і якога выцягнулі, ёсць шмат пра што расказаць»,— падумаў Ігнат.

## IV

І цяпер, праз гады, не раз думкі вярталі Ігната Сцяпанавіча да тых далёкіх ваенных дзён. І кожны раз падзеі тыя праходзілі перад вачыма так жыва, быццам усё гэта было не болей як учора. Рабілася аж балюча ад жывасці

гэтай памяці. I разам з тым кожны раз Ігната Сцяпанавіча не пакідала адчуванне, быццам у гэтых успамінах не хапае нейкага маленькага, але важнага звяна. Ці то ён не памятае яго, ці яго не было, хаця і павінна было быць, і калі б яно было, усё магло б пайсці па-іншаму: не так страшна, не так несправядліва.

I яшчэ было адчуванне, што звяно гэта нейкім чынам звязана з ім, Ігнатам Сцяпанавічам, і ад *яго* залежала правільна распарадзіцца ўсім, а ён не распарадзіўся. I цяпер ён стараўся знайсці, дзе ён даў слабіну, і не знаходзіў.

Не сказаць, каб вайна звалілася на Ліпніцу так ужо нечакана, нібы пра тое, што яна можа быць, ніхто і не здагадваўся. Чакаць яе не чакалі, а што яна не за гарамі, многія прадчувалі, хоць уголас пра гэта не гаварылі. Думалася: а можа, і цяпер абыдзецца. Свет неспакойны, але пачаць вайну — значыць і сваю галаву пад даўбешку падставіць. А каму разумнаму гэтага хочацца? Хоць яно і дурняў нямала, калі пачытаць газеты ды паслухаць радыё. Той жа Гітлер і яго кампанія... Словам, калі што вялікае пачнецца, мала каму паздаровіцца.

Але адно, калі ўсё гэта робіцца недзе далёка, і іншае, калі снарады пачнуць калупаць твой гарод. Канечне, шкода людзей, канечне, фашысты — яны фашысты і ёсць, і ратаваць свет ад іх трэба... Вунь з Клубчы, Серады старога сын, быў у Іспаніі і вярнуўся назад. Прыязджаў да бацькі. Нічога, жывы, здаровы.

З'ездзіў Вержбаловіч у Мінск, прабыў там дзён пяць. Вярнуўся як заўсёды, што слова, што работа — не сядзіцца чалавеку. «Давай, хлопчыкі, давай». А спытаў Ігнат:

— Вапшчэткі, як там сталіца глядзіць на жыццё? — адказаў:

— Строга глядзіць. Час, сам бачыш, кругом неспакойны.

Пайшло з сяла некалькі чалавек у армію. Пазвалі і Ігната. Памаршыраваў трохі пад Бабруйскам. «Устань! Лажыся! З калена!» — і бліжэй да граніцы.

На фінскай з Ліпніцы пабываў Ляксандра Шалай, ды ён і вярнуўся ўскорасці, як толькі мір заключылі. Накульгваць стаў на левую нагу. Ён і заўсёды быў фарсісты і задзірысты, а цяпер дык і зусім важна расхаджваў па

сяле ў гімнасцёрцы, новых дыяганалевых галіфэ. Яно-то і была прычына: чалавек вярнуўся *адтуль*, ён на свае вочы бачыў і ведае, што да чаго. І раненне атрымаў.

— Калі што якое давядзецца, хоць яно і страшна, скажу вам, мы ім нюхаўку падатром, бо куды ж іначай,— гаварыў Ляксандра ўпэўнена, як толькі мужыкі збіваліся дзе-небудзь у кучу і пачыналася гаворка пра тое, што робіцца на свеце. «Яны» — меліся на ўвазе ворагі. Канкрэтна ён іх не называў, імі маглі быць немцы ці яшчэ хто з гэтых самых фашыстаў. Мужчыны курылі,ківалі галовамі: усім хацелася верыць, што так яно і будзе, калі што — дык па нюхаўцы.

— Ну вот, ты, Ляксандра, гаворыш: «Калі давядзецца...» — загаварыў неяк Стась Мастоўскі. Было гэта ля кузні, хто сядзеў на круглым млынавым камені, хто на драбінах неадрамантаваных калёс.— Дык праўда: калі давядзецца, то з кім? Ты з усіх нас быў бліжэй да вайны.

— Куды ўжо бліжэй... Нага і цяпер ніяк не расходзіцца,— адказаў Ляксандра. Яму спадабалася, што гэты задавака Мастоўскі стаў глядзець на жыццё як чалавек...— А калі давядзецца, то, на маю думку, патэнцыяльна нам давядзецца ваяваць з немцамі.

— Як гэта — патэнцыяльна? — прысвіснуў Стась.— Ты што, газеты не чытаеш? Не ведаеш, што ў нас гавораць пра немцаў?

— Чытаю і думаю,— зазлаваў Ляксандра.— А патэнцыяльна гэта тое, што фашысты — наш найпершы вораг. А дзе гэты вораг сядзіць?

— Усюды сядзіць, куды ні кінь.

— Усюды-то ўсюды, а ў Германіі найболей, во што я скажу.

— Ну, калі так, дык туга нам будзе.

— Чаму гэта туга? — Ляксандра аж саскочыў з драбін.

— А таму, што сіла ў іх вялікая... Вазьмі тую вайну, і то як было, а цяпер... Гэта не проста так выйшаў касой памахаць.

— Ты во што... сіла. На сілу таксама ёсць сіла... Думаеш, у яго, у Манергейма, не было сілы?.. Ты гэта перастань...— прыгразіў Ляксандра.

— Я і перастаў,— Стась крыва ўсміхнуўся.— Чаго ты падскочыў? Усё роўна, як я пра Маню Болбасаву што такое сказаў... Цьфу! — І Стась плюнуў пад ногі.

— А таго я падскочыў, каб ты думаў, што гаворыш. Болбасы — людзі як людзі, і Маня таксама, можа, не раўня каторым хутаранскім. А сумнявацца ў нашай сіле мы нікому не дазволім.— «Мы» Ляксандра прагаварыў з асаблівым націскам, каб усім было ясна, што сябе ён прылучае да «іх», можа, у першую чаргу.

— Я і не сумняваюся ў нашай сіле. Я кажу, што і ў яго сіла вялікая. А Маня... Падабаецца яна табе, дык і хадзі на здароўе.

З ім, са Стасем, проста так не размінешся. Гэта было ясна як днём. І Ляксандра, можа, упершыню па-сапраўднаму адчуў нявыгаднасць сітуацыі, у якую яго ставіла параненая нага. Была б яна здаровая, ён бы па-іншаму пагаварыў з гэтым Стасем. І Маня... Якая твая сабачая справа, да каго я хаджу. Бачыш, ён дазволіў: «Падабаецца, дык і хадзі на здароўе!..»

Вержбаловіч рэдка калі ўлазіў у такія гаворкі, а калі і ўлазіў, то больш для таго, каб сказаць сваё: вайна вайной, а вунь яшчэ бульба не ўся пасеяна, ды і сады трэба было б падмаладзіць, гэтыя фінскія маразы палову дрэў прарэдзілі. Але яму вельмі не спадабаліся і словы Стася Мастоўскага, і тое, як яны былі сказаны.

— Ты плюеш так, як быццам ведаеш нешта такое, чаго ніхто не ведае. Глядзі, даплюешся,— паабяцаў ён Стасю.

— Ты мне, можа, і плюнуць забароніш? — паказаў і яму зубы Стась.— Павестка на руках. І мяне просяць да ваенкамата. Нешта дадуць у рукі. Пайду паслужу.

— Пляваць плюй, але выбірай, куды пляваць... Розум трэба мець,— ужо лагадней сказаў Вержбаловіч.

— Дай Божа табе розум, а мне грошы,— засмяяўся Стась.

— І праўда, мужыкі, работу рабіць трэба,— закругліў гэту няпростую гаворку Вержбаловіч і, можа б, забыўся пра яе, ды і астатнія мужчыны, можа б, забыліся, калі б бліжэйшыя падзеі не ўзялі такі нечаканы паварот, што не ўспомніць пра яе было немагчыма.

Ігнату ён расказаў пра ўсё. Праўда, было гэта шмат пазней, калі вайна ўжо кацілася далёка за Ліпніцай, можа, дзе пад Смаленскам.

Сядзелі яны за сталом у Ігнатавай хаце, Вержбаловіч на канапе, Ігнат, расчырванелы пасля лазні, расшпіліўшы каўнер нацельнай кашулі, на табурэтцы напроці.

Гарэла лямпа. На стале была пляшка гарэлкі, кіслыя гуркі ў місцы, скаварада з салам, ляжаў хлеб. Ігнат як наліў па паўшклянкі, так яно і стаяла не выпітае.

— Да прыкладу, я табе скажу, што вайна застала мяне ля Беластока. Мы прынялі бой, і нам трэба было адступаць. Я быў пры гармаце, чацвёрты нумар, а яе разбіла. Нікуды не дзенешся, адступаць дык адступаць. Ішлі на Гродна, разам з бежанцамі. Вайна — заўсёды вайна, тут без смерці немагчыма. І раптам нас параганяе машына, палутарка. Бачу, у кузаве Мацвей Міpановіч з Цераболі. Ты яго павінен ведаць, яго хата — недалёка з краю, а бацька яго ў дваццатым, як палякі стаялі на Бярозе, быў у войску. Вельмі адчайны быў мужчына, адчайны і храбры. Дык з сынам яго, Мацвеем, трапілі мы ў адну часць, ён пры штабе, а я ля гарматы... Усё ж землякі. Я сам ужо ледзь валакуся. І гарачыня, і ўтома, і не спалі двое сутак. Пазнаў я машыну, крычу: «Мацвей, пачакай!» Пазірае ён на мяне і не пазнае. Ухапіўся я за борт, дык ён прыкладам па пальцах, як не патрушчыў. «Нельга,— крычыць,— ваеннае імушчаства вязу». А сам, бачу, аж азвярэў. Я і адпусціў рукі, што тут гаварыць, імушчаства дык імушчаства. Едзь, маць тваю так. А тут нямецкія самалёты над дарогай адзін за адным, толькі і шукаеш якую-небудзь ямку, каб схавацца. Адседзішся і далей. У салдата свая задача — ваяваць. І што ты думаеш, кіламетраў праз пятнаццаць бачым: ляжыць на баку машына, сейф раскарожаны, каўбы выпушчаны, і вецер паперы ганяе — ведамасці нейкія. Прамое пападанне бомбы. Ад Мацвея адно мокрае месца. Я так скажу: страх заўсёды бяжыць паперадзе чалавека, толькі не трэба яго далёка адпускаць ад сябе, прападзеш, як муха.

— Гэта праўда: страхам хату не накрыеш. А далей што было? — спытаў Вержбаловіч. Сухарлявы смуглаваты твар яго яшчэ болей абцягнула скура, пад вачыма цёмныя ямкі.

— І далей тое ж. Адступалі, напароліся на засаду, камандзіра забіла. Сабраліся мы ў кучу, параіліся: што рабіць далей. Рашылі дабірацца дамоў, а жыццё дасць каманду. І во, на досвітку сёння, як злодзей, пастукаў я ў шыбу, жонку перапужаў да смерці — такі страшны быў, чорны, аброслы. Цяпер адмыўся трохі.

— Гразь адмыецца. Чуў ці не: Стась Мастоўскі ў

паліцыі ў Бярэзані аб'явіўся. Пайшоў, як і ты, па прызыву, а вынырнуў у паліцыі.

— Вапшчэткі, можа, няпраўда. Хлопец ён рызыковы, але каб вось так, у паліцыю...

— Не ведаю, сам з ім не гаварыў.— Вержбаловіч памаўчаў, паўтарыў задуменна: — Не ведаю... Шкадую, што хату сваю не паспеў давесці. Думаў, сёлета ўлезу.

— Паспееш з хатай.

— Куды «паспееш». Такая сямейка. Калі што якое, куды яны?

— А хоць бы і да мяне, месца хопіць.

— Месца, можа, і хопіць, але... Словам, пабачым.— Вержбаловіч падняў чарку.

— Вапшчэткі, можна і так.

Чокнуліся, выпілі.

— Я табе скажу,— Вержбаловіч нагнуўся над сталом,— за ракой, у Цераболі, хлопцы шаволяцца, сюды наязджалі пару разоў.

— Хто?

— Нашы, з раёна. Лапа Багдан, Арцюх Цыбулька. Трохі з акружэнцаў. Я адазваў Багдана ўбок, пытаюся: «Што рабіць далей?» Як ні кажы — сакратар выканкома. Што рабіць... Запасіць зброю дзе можна. І пакуль што не вытыркацца асабліва, дома радзей бываць. Пацiху збіраць сваіх людзей. Гэта ён мне і сказаў пра Мастоўскага... Так што май на ўвазе. Гэта і цябе датычыць.

— Вапшчэткі, мая зброя са мной. Камандзіра забіла, дык наган яго я забраў... І яшчэ... А немцы як?

— Адзін раз прайшла танкетка і, не спыняючыся, парэзала з кулямёта частакол ля школы, пабіла ўсе вокны. Там, ведаеш, над дзвярыма, вісеў маленькі вылінялы чырвоны сцяжок. Дык яны па ім і часанулі. Другі раз заехалі дзве параконныя фуры з чатырма салдатамі. Спыніліся на калгасным двары, ля свірна. Нікога са сталых не было, адны хлапчукі. Салдаты доўга тлумачылі хлапчукам, што трэба ключ, адамкнуць свіран. Пасля збілі замок прыкладам. У адным з засекаў быў авёс, знайшлі і пустыя мяшкі. Награблі мяшкоў з дзесяць, ускінулі на фуры і паехалі. Словам, прыглядаюцца.

— Прыглядаюцца. А можа, і часу яшчэ не набралі. Месца не галаўное,— адказаў Ігнат.

Гаворка гэта ішла позняй восенню, а зрабілася ўсё праз зіму, летам. Партызаны за ракой не проста сталі

мазоліць вока немцам, а селі папярок горла. Сабралася іх там некалькі атрадаў, і яны пачалі ўказваць немцам, па якіх дарогах ездзіць, а па якіх не, па якіх ездзіць ноччу, а па якіх днём. Усё цярпелася, пакуль было малапрыкметна: там забілі паліцэйскага, там абстралялі фуражыраў, укралі старасту — гэта яшчэ куды ні было, вайна ёсць вайна... А калі разбілі адну ды другую ўправу, а пасля дабраліся і да раённага цэнтра, і разагналі гарнізон там, і абвясцілі савецкую ўладу, стала зразумела, што так усё не абыдзецца.

Усё перавярнулася аб два дні. Перад тым прыехаў Багдан Лапа з двума партызанамі. Прыехалі вечарам, пастукаліся да Вержбаловіча, адышлі за прысады. Лапа быў хмуры, сур'ёзны. Сказаў: «Пачынаецца блакада партызанскай зоны. Усю зону фашысты блакіраваць наўрад ці змогуць, тэрыторыя надта вялікая, цэлы раён, а пушчу пастараюцца аблажыць. І не толькі пастараюцца. Ужо цяпер бяруць у клешчы — адтуль, з боку Бярэзані, Магілёва. У сёлы прыбываюць вайсковыя часці з артылерыяй, танкеткамі. Наводзяць «парадак»: расстрэльваюць камуністаў, савецкі актыў. Так што трэба падумаць, як быць вам».

— Як быць нам... З вамі. Куды вы, туды і мы,— адказаў Вержбаловіч.— У спакоі нас усё адно не пакінуць. Толькі што рабіць з сем'ямі?..

— У спакоі вас не пакінуць, гэта праўда. Тым болей што...— Лапа не стаў дагаворваць, што такое гэта «тым болей», бо ўсе гэта ведалі.

У Ліпніцы лічы што з самай вясны быў створаны свой маленькі партызанскі атрад. Шалай Ляксандра — камандзір, Вержбаловіч — камісар, Ігнат, Васіль Мацак, Ахрэм Меляшкевіч, Мікола Юрчонак, яшчэ некалькі чалавек, у каго была зброя. Меркавалася, што гэта будзе ядро сапраўднага атрада. Рабілася ўсё ў тайне, але ці шмат што схаваеш ад суседзяў? Ды і што хаваць?..

— Словам, сутак двое вы яшчэ маеце. А сем'і... Сем'ям трэба затаіцца. Няма куды іх браць. Ды і не павінны кратаць іх,— закончыў сваю думку Багдан. З тым і паехаў.

Назаўтра Вержбаловіч перагаварыў з мужчынамі. Рашылі дабірацца ў Церабольскія лясы.

З Ліпніцы выйшлі яшчэ завідна, кустамі, цямнець пачало ўжо за лесам. Ланцужок з пяці чалавек — Верж-

баловіч, Шалай, Ігнат, Ахрэм Меляшкевіч і Васіль Мацак — на адным плячы торба з харчамі, на другім вінтоўка, толькі Хведар з наганам,— ішоў не дарогай, а сцежкамі. Клубчу абмінулі стараной, падышлі да ракі. Тут у кустах была прыхавана лодка: і Вержбаловіч, і Шалай не адзін раз карысталіся ёю. Пераплыў цераз раку — і ты ўжо ў партызанскай зоне. Так было раней, а як цяпер? Неспакой і трывога чулася і ў гаворцы, і ў настроі Багдана. Усё гэта перадалося і ім.

Лодка была на месцы, і Шалай хацеў адразу грузіцца. Вержбаловіч не пусціў: «Не спяшайма. Давайце паслухаем».

Прыселі пад капу сена. Рака ціхая, нібы застыла ў сонным чаканні нечага. Так бывае перад навальніцай. Не гуляе, маўчыць рыба. Толькі камары звіняць, не адцерабіцца. Далёка за лесам па той бок ракі вылазіла чырвоная поўня. Выкацілася да верху зламанай ветрам сасны. Вада густая, чорная, з бурштынавым водсветам. Лес перакуліўся ў ваду, і цяжка сказаць, дзе ён быў сапраўдны — уверсе ці ўнізе.

Недзе далёка закугакала сава. Мужчыны пераглянуліся, нібы гэта кугаканне казала нешта кожнаму з іх.

Пацягнуў аднекуль вецер. Над самай вадой, клубячыся, як дым, пайшлі грывы туману. І, відаць, нікога б не здзівіла, калі б з-за павароту ракі з гэтага туману раптам выпаўз старажытны струг з людзьмі ў вострых шлемах, у латах, з даўгімі, настаўленымі ўгору пікамі...

Медны паўмісак месяца завіс над верхам зламанай сасны. Туман перапоўз за раку, на нізкі бераг. Лісты лотаці ляжаць на вадзе, блішчаць, як рыбіна луска. Зноў закугакала сава.

— Ну што, хлопцы, пайшлі? — спытаў Хведар і наважыўся ўжо ўставаць, але ўбачыў перасцярожліва ўскінутую ўгору руку Васіля Мацака. Усе пачалі прыслухоўвацца.

І праўда: за ракой у лесе нараджаўся ледзь чутны роўны гук, быццам недзе далёка і высока ў небе ішоў самалёт. Здавалася, гук не набліжаўся, але і не прападаў; як узнік, так і цягнуў сваю аднастайную ноту. Не, гэта быў не самалёт. Тады што?.. Машыны?

Хвілін праз дзесяць гук трохі набраў сілу, і відно стала, што ён не такі ўжо і роўны — то спадае, нібы праваьваецца ў яму, то ўзмацняецца да звону. І паціху набліжаецца, запаўняючы сабой наваколле.

— Танкетка,— прашаптаў Ігнат. Ніхто нічога не адказаў яму, усе застылі, нібы па камандзе, а гук усё болей мацнеў і шырыўся. Цяпер ужо зразумела было, што чуўся не адзін, а колькі матораў, што ідзе калона.

Першай ішла танкетка, ішла яна з запаленымі фарамі, пакалыхваючыся, нібы мацаючы дарогу выкінутымі далёка ўперад агнямі. Ля зламанай сасны танкетка нырнула ў катлавіну, святло фар матлянулася ўніз, дастаўшы да другога берага ракі, асвяціла ваду, зноў матлянулася ўгору, захапіўшы вершаліны кустоў якраз там, дзе была капа з ліпнёўцамі, пасунулася ўздоўж ракі і пайшла, папаўзла далей, у глыб лесу.

За танкеткай папаўзлі дзве вялікія машыны з салдатамі ў кузавах. Густы голас матораў чуўся яшчэ доўга.

«Наце вам і старажытны струг, і людзей у шлемах»,— падумаў Ігнат. Яго шкуматнуў за рукаў Ляксандра і зноў паказаў вачыма за раку. Маўкліва, нібы гэта было ў сне, да сасны набліжаўся строй узброеных людзей. Цьмяна блішчэлі металічныя каскі, аўтаматы. Туман поўз па беразе ракі, і было ўражанне, што гэта з яго выходзяць, нібы вырастаюць, постаці: спачатку толькі галовы, потым па пояс, потым на ўвесь рост. Іх было чалавек трыццаць. Ішлі яны ў калоне па адным, ішлі цяжкім мерным крокам. Прайшлі паўз сасну і прапалі ў чарнаце лесу.

Вось табе, таварыш Лапа, і двое сутак.

— Вапшчэткі, трэба было выбірацца ўчора,— прашаптаў Ігнат.

Вержбаловіч нічога не адказаў, толькі скрыгатнуў зубамі.

Рашылі вяртацца дамоў, прыхавацца, перачакаць.

І быў другі дзень.

Ігнат у той дзень касіў у Стаськовай пасецы. У баку ад дарогі, а калі што — кусты і лес побач. Вайна вайной, а скаціну карміць трэба. Карове не скажаш: «Пададжджы, пакуль прагонім фашыстаў, пакуль усё аціхне». Навёў касу, узяў брусок. Выбіраўся на цэлы дзень. Так цяпер рабілі ўсе мужчыны: косіць дзе-небудзь у кустах ці якую іншую работу робіць, а вушы, як у зайца, наструнены ў адзін бок: што там, у сяле. А надвечар — чакае пасланца з дому.

Марына прыбегла перад захадам сонца. Расказала, што неўзабаве, як Ігнат пайшоў з двара, у хату зайшлі

Вержбаловіч і Шалай. Вержбаловіч пры нагане, Шалай з вінтоўкай. Шалай бачыў, як на досвітку Стась Мастоўскі задамі краўся дамоў. І вось яны хацелі ўтрох узяць яго. Пашкадавалі, што не заспелі Ігната, пайшлі ўдвух. Стася не знайшлі: ці ўцёк, ці, можа, Шалай абазнаўся, хоць той божыцца, што бачыў Стася. «Ды я яго сляпы пазнаю». У хаце была толькі старая Мастоўская, дык Шалай на яе накрычаў, гразіўся, што ўсё роўна, хоць з-пад зямлі дастане сына.

Ігнат не ведаў чаму, але яму вельмі не спадабалася ўсё гэта. Раз Шалай клянецца, што бачыў Стася, відаць, так яно і было. Чаго ён прыходзіў? Харчоў узяць? Дык жа сядзіць на паліцэйскім пайку. Разнюхаць што? Скарэй за ўсё разнюхаць.

Болей касіць Ігнат не стаў, пайшлі дамоў.

Па дарозе сказаў Марыне:

— Пакуль што дома мне рабіць нечага. Збяры торбу, пакладзі булку хлеба, сала, яшчэ чаго. Заўтра цёмначы пайду да Грыпы, пабуду колькі дзён. Там мяне і знойдзеце. Дзецям скажаш, што сена кашу. А цяпер зайду да Хведара.

— Добра,— пагадзілася Марына.— Такі нязнаны час настаў. Пабудзь у Грыпы, там табе будзе зацішней.— Грыпіна была стрыечная Марыніна сястра і жыла на хутары за Курганком.

Вержбаловіч быў дома. Выйшлі пад ліпы, селі на лавачку, закурылі.

Першы загаварыў Хведар, нібы працягваючы раней пачатую гаворку:

— Ці ўцёк, ці Ляксандра абазнаўся. Адна старая была дома.

— Вапшчэткі, дрэнь справа,— прагаварыў Ігнат, памаўчаўшы.

— Што «дрэнь»?

— Дрэнь тое, што не ўзялі, а раз не ўзялі — дрэнь, што пайшлі.

— Гэта чаму?

— Помсціць будзе...

— Ах, помсціць... Можа, трэба пакланіцца яму, на калені стаць перад ім?

— На калені, вапшчэткі, не трэба. Не трэба... Ну, а што б вы зрабілі, калі б узялі? Расстралялі?

— Чаму расстралялі? Дапрасілі б... Хоць бы ведалі,

што яны замышляюць. І наогул... Людзі мы ці не людзі? На сваёй мы зямлі ці так, усё яшчэ ў парабках ходзім?

— На зямлі-то на сваёй... Але, як я мяркую, Хведар, сіла не ў наш бок, і дома нам заставацца нельга. Нам усім, а табе, вапшчэткі, яшчэ болей. Ты камуніст, старшыня. І Ляксандру таксама. Трэба прыхавацца, і дайжа сёння.

Тым вечарам ніхто ў Ліпніцы не ведаў, што тады, як Ляксандра Шалай крычаў у сенцах у Мастоўскіх, Стась быў побач. Ён згледзеў у акно, што Вержбаловіч і Шалай ідуць у двор, выскачыў у сенцы, і старая перакуліла на яго столітровую дубовую дзежку, у якой ставілі на зіму капусту і якую старая толькі ўчора вымыла.

— Не трэба панікаваць,— адказаў хмура Хведар і раптам ускінуў галаву, бліснуў вачыма.— Як краты, па норах. А?

— Вапшчэткі, па норах. Не як краты, а па норах. А ці не пра гэта і Лапа гаварыў. Покі што не вытыркацца, абаждаць. Калі сячэ кулямёт, а ты ляжыш на роўным, не высоўвай галавы, як касой зрэжа. Я гэта добра ведаю. Трэба выждаць свой час, свой момант.

— Што ты мне пра кулямёт, як быццам я сам не бачу,— успыліў Хведар. Трохі памаўчаў і ўжо больш спакойна:— А прыхавацца трэба... Трэба. Дзе я цябе, калі што якое, знайду?

— У Грыпіны, у Марынінай сястры. Пайду касіць сена,— Ігнат кісла ўсміхнуўся, устаў. Устаў і Хведар. Разыходзіцца абодвум не хацелася. Стаяла парная ноч. Па нізіне, над сажалкай, слаўся белы туман. На балоце аднастайна-нястомна, як заведзены, цягнуў сваю скрыпучую песню драч. Песня тая разлягалася ў наваколлі, і было ў ёй нешта трывожнае, як папярэджанне. Мужчыны доўга моўчкі слухалі, потым Хведар сумна ўсміхнуўся:

— Колькі іх тут па нашых балотах, а здаецца, сёння чую першы раз.

— Вапшчэткі, нейкі сёння ў яго голас не свой.

— Ага, ідзе і крычыць... Быццам не можа без крыку...

Хведар працягнуў руку Ігнату:

— Да заўтра.

— Да заўтра. Хаця, вапшчэткі, можа, заўтра і не ўбачымся.

Яны моцна паціснулі адзін аднаму рукі і разышліся.

І ідучы па грэблі цераз алешнік і па мосце, і ўвайшоўшы ў пасёлак, Ігнат чуў аднастайны скрыпучы голас. І балюча было яго слухаць, і хацелася чуць.

Назаўтра Ігнат устаў яшчэ цёмна. Прынёс з хлява загорнуты ў замаслены брызент наган, праверыў яго пры лямпе. Меркаваў: браць ці не браць з сабой. Загарнуў назад, пайшоў у канец сотак, дзе стаяла старая асіна, сунуў у дупло — было яно вышэй яго галавы,— прысыпаў трухой. Адсюль ён заўсёды знойдзе спосаб узяць. Калі ішоў у хату, падалося, быццам недзе пратарахцелі калёсы — ці то па мосце, ці так дзе. Доўга ўслухоўваўся, але нічога такога больш не пачуў, адно ўздыхала на двары ля хлява карова ды загаласіў на тым канцы певень.

Зайшоў у хату, узяў у руку торбу. Марына стаяла ля печы, як бы чакала нечага.

— Ну, чаго ты? — Ён вярнуўся і нялоўка, як няўмека, вольнай рукой прыгарнуў яе да сябе. Яна ўсхліпнула, уткнулася тварам яму ў плячо.

— Не трэба. Што ты выдумляеш,— прагаварыў ён нарочна строга, адхінуў яе ад сябе.— Усё будзе добра.

Калі ён выходзіў з хаты, яна перахрысціла яго ўслед. Сам-та ён у Бога не верыў, але... памажы яму...

Ігнат узяў з застрэшка касу ў руку і пайшоў у канец сотак, пад асіну, азірнуўся на сяло. Туман ужо трохі аб'ехаў і дзяржаўся густа хіба па канаве і на грэблі. Трэба было паспяшаць. Недзе за бліжэйшымі кустамі нібыта мільгануў шэры цень. Ігнат падумаў, што гэта нехта з мужчын. Можа, як і ён, выбраўся з касой. Але як толькі Ігнат падышоў бліжэй, цень рашуча ступіў з-за куста. Гэта быў нямецкі салдат з аўтаматам у руках.

— Цурук! — весела, відаць, радуючыся ўражанню, якое зрабіў сваёй нечаканасцю, загадаў ён і кіўнуў галавой на сяло.

— Я касіць... траву касіць,— Ігнат паказаў касу і павёў рукамі так, як гэта робяць, калі косяць.

— Цурук! — цяпер голас быў грубейшы. Ігнат павярнуў назад на соткі. Салдат ішоў за ім.

Ігнат зайшоў у свой двор, заторкнуў касу пад страху, аддаў торбу жонцы — яна стаяла на ганку, нібы ведала, што ён вернецца,— і пайшоў на вуліцу. Салдат знакам паказаў яму, што трэба ісці ў бок калгаснага двара.

Ля кузні ўжо было чалавек пятнаццаць. Гараўскі, Юрчонак, Іванькаў, Мацак з таго пасёлка. Зарэцкі, Ме-

ляшкевіч — з гэтага. Стаялі сярод мужчын і стары Анай, і гарбаты Ігнась Казановічаў.

«Значыць, заграблі ўсіх, каго заспелі, а не толькі...» — падумаў Ігнат. Пад «не толькі» ён меў іхнюю групу. Калі грабуць усіх, то, можа, усё не так і страшна. Сляпая аблава.

Хаця не. Прывялі Ляксандру Шалая. Быў ён босы, у сваіх заўсёдных дыяганалевых галіфэ, у споднян кашулі. Завязкі на калашынах штаноў ён ці не паспеў завязаць, ці яму не далі гэта зрабіць, і яны, мокрыя і чорныя ад пылу, шлёгалі па нагах. Кашуля расхрыстана на грудзях, вылезла са штаноў, рукі звязаны ззаду.

Услед за ім ішоў салдат, на плячы дулам уніз ён нёс Шалаёву вінтоўку. Крокі на два далей ішла старая Маланка, Ляксандрава маці,— маленькая, сухенькая. Яна несла ў руках сынаў пінжак. Як толькі Ляксандра і салдат прыпыніліся ля кузні, яна падышла да сына, накінула пінжак яму на плечы. Ляксандра са шкадаваннем і неяк жаласна зірнуў на маці, варухнуў плячыма, пінжак з'ехаў на траву. Ляксандра сказаў:

— Вазьмі, мама, мне ён болей не спатрэбіцца.

— Як ты можаш так казаць, сынок,— Маланка ламала рукі, пазіраючы на мужчын, нібы пыталася ў іх адказу. Але ніхто ёй нічога не сказаў.

— Вазьмі, табе ён яшчэ згадзіцца,— загадаў Ляксандра хрыплым голасам. Маланка падняла пінжак з зямлі і засталася стаяць з ім у руках.

Вержбаловіча прывёў Стась Мастоўскі. Рукі ў Хведара таксама былі звязаны за спіной, але сам ён быў паголены, у чыстай кашулі, у чаравіках. І твар яго быў спакойны, быццам ён ужо даўно чакаў нечага гэткага. Ззаду за Мастоўскім ішла Вержбаловічава Люба. Яна ціха, без слоў, плакала, абхапіўшы твар рукамі. Абапал яе, учапіўшыся ручанятамі ў спадніцу, церабіліся двухгадовыя двайняты — дзяўчынка і хлопчык. Услед за маткай, насупіўшыся, як ваўчаняты, і, як ваўчаняты, бліскаючы цёмнымі вочкамі, ішлі сярэднія Вержбаловічавы Міша і Алік. Старэйшай, Ніны, не было дома. Хведар не вытрымаў жончынага голасу, павярнуўся да яе.

— Люба, не трэба. Я прашу цябе, не трэба.

Падышлі да кузні. Хведараў і Ігнатаў позіркі сустрэліся. Хведар ледзь бачна паківаў галавой. Што ён хацеў

гэтым сказаць, Ігнат не ведаў і не ўведае ніколі, адно ясна, што хацеў сказаць многае.

Стась быў адзін сярод немцаў. Дзесяць нямецкіх салдат, афіцэр і ён, Стась Мастоўскі. Чорны фрэнч з белай перавязкай цераз руку, чорнае галіфэ ў ботах — усё гэта, здавалася, даўно было пашыта на паліцэйскага, і нарэшце ён надзеў яго і выйшаў перад сялом, каб усе палюбаваліся. Ён вельмі доўга чакаў гэтай хвіліны, і вось яна прыйшла.

Ён прайшоўся перад мужчынамі, выстрайваючы іх у адзін рад, а нямецкі афіцэр тым часам глядзеў на аднаго, на другога, на трэцяга... Позірк яго затрымаўся на маладжавым, па-дзіцячы светлым твары Ігнася Казановіча. Заціснуты між мужчынамі, ён выдаваў на хлапчука, які нечага апынуўся тут. І афіцэр раптам зрабіў хуткі, як выпад, крок наперад, схапіў Ігнася за вуха і павёў са строю. Ігнасеў твар імгненна наліўся чырванню. Ігнась матануў галавой, стараючыся вырвацца, але аблітая пальчаткай рука трымала моцна. І толькі вывеўшы Ігнася перад усімі, афіцэр згледзеў востры, схаваны пад пінжаком горб, што нявечыў чалавека, рабіў яго як не ўдвая карацейшым. Як ад нечага брыдкага, адарваў руку ад вуха, грэбліва трапануў ёй, атрасаючы, кіўнуў галавой у бок ад строю. Але Ігнась ці не зразумеў гэтага кіўка, ці не захацеў разумець і стаў назад да мужчын, толькі з краю.

— Стась, навошта ты выстраіў нас усіх тут, перад імі? — спытаў у Мастоўскага стары Анай і кіўнуў галавой на салдат. Высокі, сухі, як трэска, у шэрых, суравога палатна штанах, белай выпушчанай кашулі, босы, ён, як і Ігнась, вылучаўся ў гэтым радзе здаровых маладых мужчын.

— Навошта? Каб паказаць...— пачаў быў Мастоўскі, але афіцэр не даў яму дагаварыць. Ён павярнуўся да Мастоўскага і, каверкаючы рускія словы, сказаў, нібы прачытаў словы малітвы:

— Скажы ім, што сёння мы забіраем камуністаў і камандзіраў, а заўтра... А заўтра, калі яны не захочуць памагаць нам, забяром усіх.

— Дык вось, адказваю, і не толькі яму,— Стась кіўнуў на старога Аная,— а ўсім. Пан афіцэр гаворыць, што сёння мы забіраем камуністаў і камандзіраў, а заў-

тра, калі не будзеце памагаць новай уласці, за імі пойдуць усе.

— Вапшчэткі, а куды Хведара і Ляксандру? — спытаў Ігнат.

— Там разбяромся, каго куды.

«Разбяромся...» Бачыш, як ты загаварыў...

— Вапшчэткі, як гэта так, Стась... Свае ж людзі.

— Некалі былі свае, а цяпер... І ты таксама, Вапшчэткі...— Яны пазіралі ў вочы адзін аднаму. І нічога свайго ў вачах аднасяльчаніна Ігнат не ўбачыў.

Мастоўскі падышоў да Ляксандры, як не піхнуўшы яго жыватом, той аж хіснуўся назад.

— Дык што ты гаварыў учора ў нашай хаце? Калі прыходзілі з ім? — Мастоўскі кіўнуў на Хведара. Шалай маўчаў.— Мову адабрала ці памяць? Дык я магу напомніць.

Шалай ускінуў галаву, прагаварыў, выдзяляючы кожнае слова:

— Шкода, што мы яго не заспелі... Але мы яго ўсё роўна дастанем.

— Ты сказаў: «Але мы яго ўсё роўна дастанем і расстраляем», так? — Мастоўскі пазіраў у вочы Ляксандру.

Той аблізаў сухія губы:

— «Расстраляем» учора не было, але сёння я б гэта сказаў.

— Усё правільна,— прагаварыў з пагрозай Мастоўскі.

Ён падышоў да афіцэра. Той нешта сказаў, і Мастоўскі вярнуўся да мужчын.

— Пан афіцэр усіх вас адпускае. Можаце ісці дамоў. Касіць сена, гадаваць дзяцей.— Нешта накшталт усмешкі прайшло па ягоных губах.— А вы,— ён павярнуўся да Вержбаловіча і Шалая,— на падводу!

Ніхто з мужчын не скрануўся з месца. Глядзелі, як Вержбаловіч і Шалай доўга не маглі сесці: заміналі звязаныя рукі. Нарэшце яны ўмасціліся ў задку, спусціўшы ногі, цесна прыціснуўшыся адзін да аднаго, быццам звязаныя разам.

Мастоўскі і два нямецкія салдаты ўскочылі на гэту падводу, астатнія немцы расселіся яшчэ на дзвюх, і страшны абоз рушыў. Галасіла, білася ў істэрыцы Люба, яе адпойвалі вадой. Плакала ціхімі слязамі Маланка. Плакалі жанчыны. Мужчыны панура маўчалі.

Мастоўскі ўдарыў лейчынай па кані, падвода пакацілася хутчэй. Вержбаловіч ускінуў галаву, нешта крыкнуў, але да кузні даляцела толькі адно слова: «Мужчыны...»

Пасля абеду з Клубчы прыйшоў чалавек. Ён сказаў, што Вержбаловіча і Шалая немцы расстралялі і іх можна забраць.

Вержбаловіч і Шалай ляжалі на сонцы ля школы. Білі па грудзях, і кашулі ў абодвух набраклі ад крыві. На свежую кроў кінуліся мухі. Людзі баяліся падыходзіць, пазіралі здалёк на забітых і ішлі дамоў — далей ад страшнага месца. Пад абед каля школы паказаўся Капскі. Шырокі, тоўсты, ішоў ён цяжка, твар быў мокры ад поту. Забітыя як упалі, так і ляжалі: Хведар падламаўшы пад сябе правую, звязаную руку, Шалай упёршыся галавой у сцяну, падбародкам у грудзі. Свяціла сонца.

Капскі перацягнуў Ляксандру ў цень, паклаў роўна на траву, перацягнуў Хведара, паклаў побач. Развязаў ім рукі, прыкрыў твар і грудзі посцілкай.

Забіраць іх з Ліпніцы паехалі Анай і старая Юрчонкава. Анай даводзіўся родным дзядзькам Ляксандру, а старая Юрчонкава бабіла Вержбаловічавых двайнят. «Нам ужо нічога не страшна на гэтым свеце, а на тым — бог бацька»,— гаварыў Анай, мосцячыся на сене ў перадку падводы, на якой даўно ўжо сядзела ў вялікай чорнай хустцы на галаве маўклівая, быццам нежывая, старая Юрчонкава.

Мужчыны падзяліліся: адны пайшлі на могілкі капаць дзве магілы, а Ігнат з Цімохам Зарэцкім рабілі дамавіны. Чакаць не сталі, пакуль прывязуць забітых, каб зняць меркі. Рабілі, як жывым, навырост, каб не цесна было. Даўно Ігнат не браў у рукі свае сталярскія інструменты, даўно на яго двары не было такога густога смалновага паху. Не ведаць бы такой радасці ніколі.

Перагаворваліся рэдка і больш пра клопат — паднесці дошкі, прымераць, падагнаць, абпілаваць... А то маўчалі. Думалі.

Усякіх смярцей нагледзеўся Ігнат, як адступаў з Беластока,— дзеці, бабы, старыя... Страшней за ўсё бомбы і калі чалавек не ўмее разумець, што гэта такое. Стаіць як укопаны ці бяжыць, вытарашчыўшы ад жаху вочы, замест таго каб кінуцца на зямлю. Затаіцца, пераляжаць...

Салдацкая смерць — справа звычайная. Смерць салдату быццам бы ўжо самім законам запісана. Хто, як не салдат, можа і павінен заступіць дарогу ворагу. І не проста заступіць — знішчыць яго, каб і звання не засталося. А калі іначай нельга — то і памры. Памры, а не дапусці здзеку над людзьмі.

Канечне, паміраць нікому не хочацца. Але і тут у салдата свая мерка. Ён павінен умець забіць ворага. Перасіліць, перахітрыць, абдурыць і забіць. А самому застацца, каб рабіць работу далей і радавацца ўсяму, што ёсць на свеце жывое. Для гэтага цябе і строю вучылі, і вінтоўку далі ці да гарматы прыставілі. Ты — салдат, ты павінен... Не ты на яго зямлю прыйшоў, а ён на тваю. Са смерцю прыйшоў. І тут у цябе павінен быць спосаб, каб не даць забіць сябе... Павінен. Дык як жа так сталася, што двух ужо, Хведара і Ляксандры, няма? І ўсё выйшла так проста. Узялі, як авечак з хлява. Ці даўно Ляксандра гаварыў: «Мы яшчэ паваюем. А калі на большае не выйдзе, то хоць сваё жыццё размяняю: смерць на смерць». Бачыш, і гэтага не паспеў зрабіць. І Хведар таксама. Прыехалі, скруцілі рукі, паставілі ля сцяны і расстралялі. І памагаў свой жа, сусед. І каму памагаў... «Дай божа табе розум, а мне грошы...» «Некалі былі свае, а цяпер...» «І ты таксама, Вапшчэткі...» «Там разбяромся...» Разбяромся...

— Вапшчэткі, калі браць папраўдзе, то і я павінен быў ляжаць разам з імі,— сказаў Ігнат, апусціўшы рукі з рубанкам на дошку, якую габляваў.

— Гэта не шмат розуму трэба, каб дадумацца да такога,— панура адказаў Цімох.— Мог і ты быць, і я, і астатнія.

— Хведар з Ляксандрам заходзілі па мяне, як ішлі да Мастоўскага, а я якраз перад тым касіць выбраўся,— вёў далей сваё Ігнат. Цімох уважліва паглядзеў на яго, падышоў бліжэй, навіс гарбаносым тварам над ім, прашаптаў, як прашыпеў, над вухам:

— Табе хочацца зямлю парыць? Дык я табе скажу: твой час яшчэ прыйдзе, не бойся. Можна сказаць, усё толькі пачынаецца, і трэба думаць...

— Я і думаю,— упарта паўтарыў Ігнат, і ў гэты час цішыню ад Яворскага лесу ўзарваў адчайны высокі крык. Ён паўтарыўся некалькі разоў, аціх, і ўслед за гэтым

пачулася галашэнне. Ліпніца сустракала падводу з забітымі.

Хавалі іх гэтай жа ноччу: ніхто не ведаў, што будзе заўтра, а чакаць можна было ўсяго. Ясна свяціў поўны месяц, белай луской свяцілася кара бяроз, цьмяны матавы бляск ляжаў на высокіх мармуровых помніках, і здаля здавалася, што гэта не помнікі, а аграмадныя здані нябожчыкаў. Дзіўна і жудасна было бачыць сярод гэтай застылай маўклівасці людзей, што цёмнымі ценямі снавалі між магіл. Зняможана ўсхліпвалі заплаканыя жанчыны. Моўчкі, з рэдкімі словамі, рабілі абавязковую ў такіх выпадках жалобную работу мужчыны. Гулка стукалі малаткі, якімі забівалі вечкі дамавін, шоргалі лапаты, засыпаючы магілы, і людскі ланцужок пацягнуўся назад у сяло. А ў балоце, нібы падражніваючыся, перабіваючы адзін аднаго, дралі глоткі, аж стагнала наваколле, два драчы. І рабілі гэта, здавалася, з вялікай ахвотай, нібы з насмешкай. «Драч, драч! Драч, драч!» Хоць пазатыкай ім глоткі.

Гэтай жа ноччу Ігнат з Цімохам пайшлі з Ліпніцы. «Час круты, а Бог два разы міласціну не дае. Трэба самім думаць. У Ліпніцы пакуль што рабіць няма чаго»,— сказаў Марыне.

Ісці рашылі ў Лянёўку, да Цімохавага швагра, а там відна будзе. Некага павінны знайсці.

На гэты раз торба ў Ігната была цяжэйшая, чым раніцой. Разам з харчамі і махоркай ляжала там і куфайка, і пара бялізны. Схадзіў і ў канец сотак пад асіну, злазіў у дупло. У Цімоха таксама быў добры хатуль.

Мінулі грэблю, падняліся паўз курганы да абсад, прыпыніліся закурыць. Якраз пад тымі ліпамі, дзе заўчора вечарам стаялі Ігнат з Вержбаловічам. Старыя дрэвы чорнай хмарай навісалі над мужчынамі, трывожна шапталіся. У вокнах Казановічавага дома цьмяна блішчэлі агні. Адтуль час ад часу даляталі галасы: пасля могілак людзі сабраліся там.

Неба на ўсходзе пачало бялець. Мужчыны, не згаворваючыся, зірнулі ў той бок і адначасова, як па камандзе, рушылі ў дарогу. Толькі не на Клубчу, а направа, праз сярэдні пасёлак у лес. Абодва ведалі, што заставацца дома нельга, але ніводзін не ведаў, што чакае іх наперадзе і праз колькі часу яны вернуцца сюды, пад гэтыя ліпы. І ці вернуцца наогул. Ішла вайна...

І праз гады яна працягваецца.

Пра ўсё можна ўспамінаць, але не ўсё застаецца ў памяці. І добра, што не застаецца. Якая памяць зможа ўмясціць *тыя* гады — дзень за днём, гадзіна за гадзінай?.. Тыя дарогі, і невядомасць, і адчай, і голад, і холад, што былі на гэтых дарогах, і самі дарогі, што пралягалі і па Беларусі, і далей, і назад...

## V

Быў чысты ліпеньскі надвячорак, калі на невялічкай двухпутнай станцыі трохі прытармазіў свой цяжкі шматвагонны бег вайсковы састаў і з прачыненых дзвярэй першага пульманаўскага вагона на мокры пясок — тут нядаўна прайшоў дождж — вылецелі адзін за адным два рэчавыя салдацкія мяшкі, і ўслед за імі саскочыў, узараўшы ботамі размяклы грунт, сутулаваты высокі салдат.

З акна паравоза за ўсім гэтым сачыў машыніст. Ён бачыў, як салдат саскочыў, як устаў на ногі і павярнуў галаву ў бок паравоза. Машыніст памахаў салдату рукой. Той, шырока ўсміхаючыся, ускінуў угару сціснутую ў кулак правую руку — салют!

Цягнік пайшоў далей набіраць страчаны разгон. Паўз салдата з цяжкім зямным стогнам праплывалі платформы з танкамі, гарматамі, цяплушкі, у расчыненых дзвярах якіх стаялі салдаты і нешта крычалі таму, на зямлі. А ён пазіраў на іх з вінаватай усмешкай, пазіраў і тады, калі хвост цягніка завярнуў і прапаў за цёмным акрайкам лесу.

Састаў ішоў на ўсход, туды, дзе яшчэ была вайна. А вайна была з Японіяй. Салдат жа прыехаў дамоў.

Ён знёс у кучу абодва мяшкі, дастаў з кішэні піпку, натаптаў яе махоркай, паспрабаваў распаліць агнём з трафейнай запальнічкі, але кволы агеньчык цягнуўся ўгору, махорка не хацела ўгарацца, і салдат не вытрымаў — дзьмухнуў на агеньчык і дастаў з кішэні запалкі. Раскурыў піпку, зацягнуўся і рашыў агледзецца.

Усёй станцыі толькі і было, што драўляны дом на высокім, у пояс чалавеку, каменным падмурку па адзін бок пуцей і вадакачка з чырвонай цэглы — па другі. У гэты перадвячэрні час абмытыя нядаўнім даждժом рэйкі блішчалі, як напятыя струны, то ўспыхваючы, то атуха-

ючы. Далей за станцыйным будынкам, ля самага лесу, пад дубамі, стаялі яшчэ дзве хаты.

«Вапшчэткі, ацалелі, выжылі»,— здзівіўся салдат, разварочваючыся і пераводзячы позірк па другі бок чыгункі, за лагчыну, забітую алешнікам, чаромхай і лазой. Там павінна была быць вёска. Яна там і была: за грывамі кустоў на пагурку праглядаўся цьмяны ланцужок хат.

«І ты выжыла!» — узрадавана матануў галавой салдат і ўзяўся за лямку мяшка, каб закінуць за плечы, але ўбачыў, што з будынка станцыі выйшаў чалавек у форме чыгуначніка і ідзе да яго. Чалавек падыходзіў бліжэй, і абыякавы спакой, потым здзіўленне, потым недавер на яго твары змяніліся адкрытай радасцю. Апошні дзесятак метраў ён не ішоў, а бег, прыпадаючы на правую нагу.

Цяпер і салдат пазнаў чыгуначніка і не захацеў чакаць на месцы, кінуўся насустрач. Чыгуначнік быў Андрэй Цукора. Андрэй доўга не хацеў з'язджаць са свайго наседжанага хутара над сажалкай, але Вержбаловіч пачаў наставаць, і ён зняўся, пераехаў. Але не ў Ліпніцу, а сюды, бліжэй да станцыі, нанова адбудаваўся тут. Пакуль абжыўся, і нагу скалечыў. Залез на высокую елку секчы сучча на плот і, можна сказаць, агаліў яе ўсю, заставалася, можа, сукоў з пяць, і тут не разлічыў удару: сякера зрыкашэціла ад сука і ўпілася ў калена.

— Ігнат?! Браток? Жывы? — закрычаў Андрэй, раскінуўшы рукі, абхапіў, сціснуў салдата ў абдымках.

— Жывы, Андрэй, жывы! І ты, вапшчэткі, таксама...— узрушана гаварыў салдат, ляпаючы свата па худых плячах.

— Прыехаў?

— Ага. Прыехаў.

— Насаўсім?

— Здэцца, насаўсім.

— Аж не верыцца...

— А ты думаў: усё ўжо, прапаў курылка?

— Не хацеў думаць, ды сам ведаеш, які час. А ты як пайшоў, так і прапаў.

— Вапшчэткі, ты гэта праўду сказаў: столькі было кругом рознага. Прызнацца, і я не планаваў, куды вайна завярнула. Выйшлі з Цімохам да яго швагра, сышліся з партызанамі. А потым сталася так, што ўтварыліся пад Віцебскам «вароты», можна было праходзіць за лінію фронту і назад, мы і перакінуліся туды. А адтуль паш-

тальёна не пашлеш: перадай прывет ад нашага Ігната. Там мяне снарад і перавярнуў з ног на галаву. І думкі не было, што жывы буду: і асколкі, і кантузія. Але дактары падключылі медыцыну, паправілі, і я пайшоў ваяваць далей. Скажы, як там мае?

— Жывыя, здаровыя... сам убачыш. А ты малайцом во, вярнуўся,— заспяшаўся гаварыць Андрэй, але Ігнат нічога падазронага не пачуў у гэтай паспешлівасці, стаяў, расслабіўшы ў радаснай усмешцы рот, быццам і сам усё яшчэ не разумеў шчасця, якое выпала яму: вярнуцца дамоў.

— То пайшлі да мяне,— Андрэй узяў за лямку мяшок, пацягнуў на сябе. Мяшок быў не такі лёгкі, каб проста так закінуць за плячо. Пажартаваў: — У цябе тутака золата, не іначай.

— Яно і не золата, і не дзешавей. Выпраўляючы ў дарогу, хлопцы падабралі слясарны інструмент і ўсё такое іншае, тут згадзіцца.

— Яшчэ б не згадзілася. Цяпер іголка ў хаце, як некалі піла ці сякера ў лесаруба. А ўжо такое ды для спецыяльнасці...

Ігнат узяў другі мяшок, і яны пайшлі.

Па шырокім бервяне, якое было некалі падвалінай раскіданага ў пачатку вайны моста, перайшлі цераз ручай. Па правую руку непралазнай неразбярыхай раслі крушына і вербалоз, па левую, трошкі адступіўшы ад дарогі, пануры ельнік. Парэзаная калясьмі дарога бралася па пяску ўгору. На ёй і запыніў мужчын голас зязюлі. Ён пачуўся зусім блізка, як з дубовай бочкі.

— Ку-ку! Ку-ку-ку! Ку-ку-ку!..

Зязюля, здаецца, аддалялася, але голас яе быў усё такі густы і чысты.

— Ку-ку! Ку-ку-ку!.. Ку-ку-ку!

— Ведаеш, як даўно я не чуў яе? — спытаў Ігнат і ішоў, паварочваючы галаву ўслед за голасам, каб лепей чуць.— Можна сказаць, ужо і забыўся, што яна ёсць на свеце.

— І тут таксама было не да іх,— задуменна адказаў Андрэй.

Зязюля змоўкла, а Ігнат яшчэ доўга стаяў, услухоўваючыся, чакаючы пачуць яшчэ, але голасу болей не было. Андрэй паблажліва, як да хворага, усміхнуўся да Ігната, прагаварыў:

— Пайшлі. Цяпер у цябе будзе шмат часу, яшчэ наслухаешся.

— А, вапшчэткі, і праўда,— усміхнуўся Ігнат.

У Андрэя была невялікая, але ўтульная хата на дзве палавіны, хлеў і садок пры ёй. Ва ўсім адчувалася руплівае вока гаспадара, цяга да парадку і завершанасці, і Ігнат зноў падумаў пра тое, як Андрэй доўга не хацеў з'язджаць з хутара. Там таксама быў такі ж парадак і дагледжанасць. Каля двара, адгароджанага ад вуліцы новым, з акоранага маладога сасонніку частаколам, Ігнат раптам прыпыніў ход, а пасля і спыніўся:

— Вапшчэткі, гэта непарадак: ехаць тысячу і болей кіламетраў і, заместа таго каб спяшацца дамоў, ісці ў госці.

— Пайшлі,— Андрэй рашуча адчыніў варотцы, тым самым паказаўшы, што ён не дапускае і думкі, што тут можна зрабіць неяк іначай.— Не так шмат у цябе сватоў, каб думаць: зайсці ці не. Ды і не быў жа ты ў мяне вунь колькі, і вечар насоўваецца. Ехаў тысячу кіламетраў, то тут ужо дабярэшся.

Усё гэта была праўда, і Ігнат не стаў упарціцца.

Андрэева Ганна ўзрадавалася Ігнату, як бацьку роднаму. І плакала, і смяялася, але гэта не замінала ёй завіхацца ля стала, як гэта бывае заўсёды, калі госця доўга чакаюць і ён нарэшце прыходзіць.

Ганна і цяпер была, як некалі: гэтакая ж быстрая і шчырая, з раптоўнымі перакідкамі ад смеху да слёз, але і смех і слёзы гэтыя, здаецца, не закраналі прыроднай душэўнай дабраты і раўнавагі, што і рабіла яе адыходлівай і кампанейскай. З Андрэем яны паразумеліся хутка, адчулі, што нібы наканавана ім быць адно пры адным, але гады ішлі, а яны ўсё ніяк не маглі займець дзіця. Гэта засмучала і нявідным гнётам ціснула на абаіх. «Вайна, па ўсім, не зрабіла тут ніякіх паправак»,— падумаў Ігнат, дастаючы з рэчавага мяшка бляшанку свіной тушонкі і прысуседжваючы яе да місак на стале. Але Андрэй узяў бляшанку са стала і пачаў рашуча засоўваць назад у Ігнатаў мяшок.

— Не трэба. Дзецям занясеш.

— Дзецям яшчэ ёсць,— заўпарціўся Ігнат, не даючы Андрэю зрабіць гэта. Так яны ладна часу ваявалі рукамі, пакуль не ўмяшалася Ганна і таксама цвёрда:

— Ігнат, у нас ёсціка што есці, і на стале, бачыш,

не гола, а гэта занясі дзецям. Мы ж удваіх і абое на рабоце. Занясі, яй-богу,— папрасіла яна. І Ігнат паслухаўся.

Андрэй узяў у руку шклянку:

— Давай вып'ем за цябе, Ігнат, за тое, што вярнуўся. Гэта галоўнае. Колькі людзей не прыйшло, страх падумаць. У нас на сяле — з пяці хат добра калі ў дзве вярнуліся, і тыя — хто без рукі, хто без нагі. А ты — слава Богу. А ўсё астатняе, што можа быць...— Андрэй перахапіў перасцярожлівы, неспакойны Ганнін позірк і паспяшыў закончыць: — Ага, а ўсё астатняе... самае нішто.

Перахапіў гэты позірк і Ігнат, але ўзняў сваю шклянку:

— Ну што ж, вапшчэткі, ты праўду кажаш. Як бы там ні было, на вайну ідуць паміраць, хоць кожны спадзяецца на свайго Бога. І шчаслівы той, хто вярнуўся. Як падумаю, колькі разоў пераглядаліся са смерцю, дык не верыцца, што так палюбоўна разышліся. Узяць хоць бы тады, як пры гармаце быў. Лясне — і ўсё тут. Калі снарад ляціць на цябе, тут ужо не падправіш. Не скажаш яму: «Вазьмі трохі лявей ці бліжэй». А бачыш, як выйшла. І адну гармату разбіла, і другую перакуліла, а я застаўся. Першы раз траіх накрыла, другі — дваіх. Во якая алгебра. Праўда, як перайшоў у артылерыйскія майстэрні, экспазіцыя перамянілася. Там ужо болей была работа, вайна адступіла далей. І во, бачыце, прыехаў. Так ужо яна распарадзілася,— і Ігнат з нейкай ударнай рашучасцю выпіў. Знайшоў відэльцам скрыль сала, укінуў у рот.

Сядзелі, закусвалі, успаміналі, як было тут, як было там.

Ганна таксама выпіла гарэлкі, і хоць смеласці ёй ніколі не трэба было пазычаць, была смялейшая, чым заўсёды.

— Ігнат, вось ты толькі адтуль, з Германіі. А як у іх тамака?

— Што «як»? — перапытаў Ігнат.

— Як яны жывуць? Вось у нас павярталіся некаторыя, каго пабралі немцы, калі ўжо адступалі. Дык яны кажуць, што тамака ў іх бабы, акрамя камбінашак, ніякіх кашуль не носяць. Ці праўда гэта?

Андрэя аж падкінула на лаўцы. Ён крута зіркнуў на жонку: «Пра што ты, баба, думаеш?», сказаў:

— Ты болей не дадумалася, пра што спытаць?

— Дык вось, яны так і казалі, што тамака бабы, акрамя камбінашак, ніякіх кашуль не носяць,— паўтарыла ўжо Андрэю Ганна, але было зразумела, што адказваць на гэта пытанне трэба Ігнату. Ігнат азадачана пацёр рукой па шчацэ, нібы правяраў, ці добра паголены, хоць паголены быў чыста.

— Мушу сказаць, што мне тут цяжка што можна расказаць. Нібыта гэта не па маёй часці.

— Як да баб, дык па вашай часці, а як для баб — то не па вашай! — Ганнін твар заружавеўся. Відаць было, што яна і саромеецца гаварыць пра гэта, але ёй і надта хацелася ведаць, як яно там, у «іх».

Андрэю гэта яўна не падабалася, але на гэты раз ён змоўчаў.

— Вапшчэткі, я не тое што саўсім нічога не магу сказаць, а тое, што магу сказаць, мала. Мы рабілі сваю работу, я — работнік аружэйных майстэрняў, ну, там прыцэльная бланка, інструмент паваротнага механізма, шчыт там, дапусцім, а гэта...

— Пры чым тутака паваротны механізм? Ты быў у Германіі?

— А адкуль жа я, як не адтуль?

— Дык і раскажы, як тамака... Хаця... Усе вы аднакавыя. Дабіся ад вас праўды.

Ігнат і цяпер не зусім разумеў, што іменна хоча пачуць Ганна, і пачаў трохі здаля:

— Вапшчэткі, я не люблю туману. А калі ты, Ганна, хочаш адкрытага,— тут Ігнат нават голас узвысіў,— дык магу сказаць па-вашаму, па-бабску... Не ведаю, што яны і як на сябе адзяваюць, з карункамі там, махрамі ці без гэтага. Трэба сказаць, што і ім не тая пара была, каб паказваць усе гэтыя гафты і яшчэ што такое. Калі за вокнамі барабаняць чужыя танкі, а свае салдаты ўцякаюць, хто куды можа, мала хто адважыцца выйсці на вуліцу, каб пахваліцца новай сукенкай. Хоць як па-мойму, то бабы ўсюды аднакавыя і заўсёды знойдуць задачу паказаць сваё. Важна толькі, у які парадак яе паставіш.

— Так ужо і аднакавыя,— не то засмяялася, не то зазлавала Ганна.— Калі б былі ўсе аднакавыя, то не было б усякіх... розных.

Ігнат зразумеў, што капануў трохі не ў той бок, і павярнуў назад.

— Занялі, значыць, мы гарадок, ну, можа, як нашы Асіповічы, бо Бабруйск ужо нашмат большы. Занялі нашы, мы прыйшлі пасля, мы — тыл, баявое забеспячэнне, рамонт, майстэрні. Баёў вялікіх там, лічы, што і не было, і ў нас работы няшмат... І аднаго разу выйшлі мы ў горад, увальніцельную далі нам: памочніку начальніка майстэрні Івану Навасельцаву і мне. Цікава паглядзець, што за горад, калі яшчэ давядзецца. Гарадок акуратны, чысты, як на карцінцы. Яго і не бамбілі, і не абстрэльвалі: яны пабаяліся ў кацёл трапіць, адступілі, а мы занялі. Домікі прыціснуты адзін да аднаго, дахі ўсё больш вострыя, чарапіцай крытыя, як наш млын. І ні жывой душы: гарадок як вымер. Ідзём па вуліцы, аўтаматы, канечне, пры нас, але не па сабе трохі: не можа быць, каб горад быў, а людзей не было. Ведаем, што яны ёсць і, канечне, бачаць нас, але не паказваюцца. Быццам трапілі ў якое бязлюднае мёртвае царства.

Іван Навасельцаў хлопец высокі, стройны і граматны. Ён і па-нямецку добра ўмеў і гаварыць, і чытаць. Як сказаў ён пасля, дык і з немцамі сустракаўся яшчэ да вайны, прыязджалі нейкія спецы да іх на завод. Ходзім. Ён чытае, пераказвае мне, дзе якая крама, цырульня, але ўсё роўна непрыкаяна на душы. І яшчэ, скажу я вам, бачыў я, як немцы пакідалі нашы гарады і што ад іх пакідалі, і нейкая злосць бярэ на іх, нават на гэты гарадок: вось жа чысценькі, цэленькі, і вокны, і вітрыны. Гэта я пра сябе. А загад суровы: не чапаць нічога, інача́й... А што іначай — штрафны батальён. І вось Навасельцаў спыніўся перад адным двухпавярховым домам, што ён там прачытаў, не ведаю, але ўсміхнуўся неяк хітра і пытаецца ў мяне:

— Зойдзем?

— А што гэта? — пытаюся ў сваю чаргу.

— Нешта вясёлае,— гаворыць ён. І па-нямецку назву гэтаму дому.— Зойдзем, га?

Не разумею, праўду ён гаворыць ці брэша. Брэша, відаць, але бачу — надта яму цікава ведаць, што за гэтымі дзвярыма. А дзверы прыгожыя, па краях абшыты чырвонай меддзю, жалезныя выкрунтасы розныя, і ўсё гэта так мудрона пераплецена, нібыта гэта і не метал, а, дапусцім, лаза. Нашто Максім, наш каваль, можа зра-

біць нешта такое, папацеўшы, а тут не ведаю, што б ён сказаў. За жалезам — фігурнае шкло цёмна-жоўтае. Скажу, што і мяне інтарэс узяў, хоць я і старэйшы за яго, і загад маем катэгарычны: у іхнія дамы ні богу нагой, каб нічога такога. Было, што і прападалі людзі нізавошта: зайшоў і не выйшаў, адкуль ты ведаеш, хто за тымі дзвярыма. І пад трыбунал можна пайсці. А што такое трыбунал, калі вайна на згон ідзе, перамога, лічы, наперадзе свеціць, аркестры скора марш зайграюць. Ды зноў жа, быць там і ні вокам не зірнуць ні ў адну хату,— ніхто не паверыць, во як ты,— Ігнат павярнуўся да Ганны.

— А што я? — засмяялася Ганна.— Я — баба. Мне ўсё цікава.

Ігнат дастаў піпку, хацеў закурыць, але Андрэй прытрымаў за руку, паказаў на чаркі. Выпілі. Ігнат зноў узяўся за піпку. Набіў яе, прыпаліў, зацягнуўся і нібы павесялеў, кінуў вясёлым вокам на Ганну.

— Кажу Навасельцаву, ладна, хоць ты і выдумляеш, але дзе наша не прапала, пайшлі.

Заходзім за гэтыя дзверы, а там прыхожая, дзве канапы мяккія, столік на нізкіх ножках. Выходзіць жанчына, пажылая, але акуратная, чысценькая. Навасельцаў сказаў ёй нешта. Яна пайшла і вярнулася назад з двума альбомамі. Вапшчэткі, пачалі мы глядзець альбомы, фотакарткі. Прыгожыя дзяўчаты такія, маладыя, каторая так сядзіць, каторая так, каторая курыць, каторая так смяецца...

— А адзетыя ў што? — дабівалася свайго Ганна.

— У тое, у чым маці нарадзіла.

— Саўсім?!

— І саўсім, а калі і ёсць што такое, то таксама як саўсім.

— А бо-о-о! — успляснула рукамі Ганна.— Тут во бывае, летам, калі пакупацца захочацца, дык і то шукаеш месца, каб ніхто ніколі...

— Во, а ты кажаш: ніякіх кашуляў, акрамя камбінашак,— засмяяўся Андрэй.

— Ай, што ты ведаеш,— нязлосна адмахнулася ад мужа Ганна.— Ну і што далей?

— Я як убачыў гэтыя фотакарткі, адразу ўстаў: «Пайшлі, Ваня, нечага нам тут...» Але ён зноў: «Ігнат Сцяпанавіч, раз ужо зайшлі, паглядзім». А што тут глядзець? — Ігнат паморшчыўся, махнуў рукой. Было ві-

даць, што яму не надта падабалася і сама гэта гісторыя, і тое, што ён пачаў расказваць пра яе. Ды куды ўжо дзенешся, пачаў...— Падышла якраз жанчына гэта. Навасельцаў і кажа: «Ідзіце, Ігнат Сцяпанавіч, а я пабуду тут». Вапшчэткі, можна было і не пайсці, калгас — справа добраахвотная... Словам... павяла яна мяне наперад па калідоры. Падвяла да дзвярэй, паказала галавой, моў, ідзі. Я яшчэ сумняваўся, але яна весела так падштурхнула наперад. Ну, што ж, адступаць няма куды, можна сказаць, сам напрасіўся. Адчыніў я дзверы, зайшоў. Маленькі пакойчык, ложак, столік, пару крэслаў. За столікам бокам да мяне дзеўчанё сядзіць... аблакацілася на столік. І зусім голенькае. Зірнула на мяне, спачатку нібы спалохалася, але тут жа заўсміхалася, загаварыла нешта, залапатала, паказвае: смялей, маўляў, раздзявайся. А я... ведаеш... боты, шынель, пілотка... Столькі дарог, дым, бруд... Вайна — гэта табе не прагулка ў Курганок на танцы. Вапшчэткі, быццам убачыў сябе збоку. І яно, дзеўчанё... Як Соня мая, можа, трошкі большая... І так мне не па сабе стала, так брыдка, быццам хацеў зладзейства якое над сабой і над усім светам учыніць. І злосць на фашыстаў гэтых. Гэта ж трэба да такога людзей давесці... Павярнуўся я — і назад за дзверы... А Навасельцаў сядзіць за столікам, гаворыць з той жанчынай. «Вапшчэткі,— кажу яму,— пайшлі адсюль, і чым скарэй, тым лепей». А самога аж калоціць.

— З такам і пайшлі? — не то з радасцю, не то з жалем спытаў Андрэй.

— Ага,— хмура адказаў Ігнат.— Навасельцаў папрасіў прабачэння ў гаспадыні таго завядзення, дастаў з сумкі бляшанку тушонкі, пакінуў на століку, і мы пайшлі. Пасля мы з ім ніколі пра гэта не гаварылі і не расказвалі нікому. Каму раскажаш? А тады выйшлі, я і кажу яму: «Ну што, схадзілі ў госці?» Ён і гаворыць мне: «Я адразу ведаў, што тым усё скончыцца. Але, Ігнат Сцяпанавіч, і гэта трэба бачыць».— «Бачыць-то бачыць. А раптам ім уздумалася б правакацыю супраць нас арганізаваць, як бы ты на гэта паглядзеў?» — «Супраць правакацыі я і застаўся ў калідоры...» — «Ну, а калі б я... Ну, вапшчэткі, гэта самае... Вайна, калі я бачыў тую жанчыну... Ну, а калі б я, што тады?» — «Вайна ёсць вайна, а мы — людзі...» А пасля расказвае: «Я спытаў у гаспадыні: «А як жа мы расплочвацца будзем?» Маркі

што, маркі ўжо былі нішто. І яна адказала яму: «Вы пераможцы, і вы першыя зайшлі... Мы вас абслужым бясплатна». Ну і раззлаваўся я тады на яго. Пераможцы... Маць вашу... Пазахлеўю пайшлі... Калі б не быў ён такі малады, то і я на сур'ёзнае што мог пайсці... А хлопец надта цікаўны да ўсяго быў. Усё нечага яму не хапала, некуды цягнула. Усё яму хацелася ведаць. Але з месяц, можа, прайшло пасля таго, мы пераязджалі на новае месца, і наляцелі аднекуль самалёты, бамбіць пачалі. Адна бомба накрыла іхнюю машыну. Чаго ён застаўся сядзець у машыне, калі ўсе ў канавах ляжалі, не ведаю. Вось такія, Ганна, камбінашкі. Скажыце лепей, як там мае? Даўно вы іх бачылі? — спытаў Ігнат пра сваё.

— Не сказаць каб даўно... Жывуць... Пабачыш сам,— неспакойна, быццам вінаваты ў нечым, адказаў Андрэй.

— Ты б яшчэ наліў,— падказала яму Ганна, пазіраючы на мужчын напружаным позіркам.

— Не, мне досыць! — спыніў Андрэеву руку з пляшкай Ігнат.— Ты, вапшчэткі, здэцца, маеш нешта сказаць мне і не адважваешся. То давай!

— Ну што ж,— пачаў Андрэй.— Калі б не сустрэліся мы з табой, то хай бы лепей хто іншы сказаў табе ўсё гэта, а раз так сталася, мушу сказаць я. На маю долю выпала быць тваім сватам, дык, відаць, да канца. Дома ў цябе не ўсё ладна. Як яно і што, сам пабачыш.

— Сам пабачу — гэта ясна. Жывыя ўсе — дзеці, Марына?

— Жывыя...

— Дык што? Другі мужык у хаце?

— Быў. Цяпер, здаецца, няма. Марына адправіла яго. Адправіла, як прыйшло пісьмо ад цябе.

— Ясна,— Ігнат сціснуў зубы, завастрыліся, акамянелі жалвакі на сківіцах.— Ясна. А хто ён?

— З партызанаў. Стаяў у тваёй хаце, быў цяжка паранены, доўга не мог паправіцца. Так і...

— Прыжыўся,— дакончыў ужо сам Ігнат.

— Не прыжыўся, калі адправіла,— рашуча ўмяшалася Ганна.

— Так, што ж мне цяпер рабіць? — ціха спытаў Ігнат.

— Што рабіць? Дамоў ісці,— зноў загаварыла Ганна.— Дамоў. У цябе дзеці, трое іх. І яны чакаюць бацьку. А самі разберыцёся. Разберыцёся як-небудзь. Мала што

ёсціка на свеце, мала што людзям бачыцца. Трэба самому паглядзець, разабрацца.

— Вапшчэткі, гэта так. Трэба будзе разбірацца,— спакойна сказаў Ігнат, так спакойна, што Ганна здзіўлена зірнула на яго: ці не падалося гэта ёй. Ігнат глыбока зацягнуўся, выпусціў дым, сказаў Андрэю вясёла-сумным голасам: — Вось табе, брат, і «ку-ку-ку». Першая зязюля, першая радасць.

— Што за «ку-ку-ку»? — перапытала Ганна.

— Так,— узмахнуў рукой Андрэй.— Ішлі са станцыі і пачулі зязюлю.

— Ну і што?

— Нічога,— сказаў ужо Ігнат.— Я так даўно не чуў, як яны кукуюць. І вось пачуў... Заўсёды яны кукуюць у два выдыхі, дуплетам: «Ку-ку!», а гэтая з трайным заваротам — «Ку-ку-ку». Аж дзіўна.

— Ну і хай сабе,— нічога не магла зразумець Ганна.

— Канечне, хай сабе. Проста гэта мая першая зязюля дома. Дык што, вапшчэткі, сёння мне, відаць, выбірацца ў дарогу няварта?

— Пра якую дарогу ты гаворыш? Ноч на дварэ,— зазлаваў нечага Андрэй.

Ігнат, супакойваючы яго, ляпнуў па плячы і пакінуў так руку, потым устаў з-за стала.

На дварэ і сапраўды была ўжо ноч. За гародамі ляжала балотца, цякла рэчка, і адтуль цягнула свежасцю.

Ігнату ўспомніўся вечар з Хведарам Вержбаловічам, і той драч, і звон путаў, і трывога, што была ў душы і на зямлі. На нейкі час яму падалося, быццам нічога з той пары не змянілася, і ўвогуле не было нічога, што гэта доўжыцца ўсё той жа вечар. Але здавалася гэта ўсяго нейкае імгненне, а потым прыйшла суровая чыстая цвярозасць і разуменне непазбежнасці таго, што было пасля той ночы. І той няўдалы пераход да партызанаў, і немцы з Мастоўскім, і начныя могілкі... І тое, што ўсё так сталася і пайшло далей,— і іхнія блуканні з Цімохам, партызаны, пераход лініі фронту, раненне, шпіталь і зноў фронт, і Германія, і гэта вяртанне дамоў, і тое, чым сустрэў яго дом. І адчуванне віны перад Хведарам і Ляксандрам, быццам ва ўсім тым, што сталася і як сталася, вінаваты быў ён, Ігнат. Быццам ён быў вінаваты ў тым, што ім скруцілі рукі і павезлі ў Клубчу. Павезлі, каб зглуміць, у зямлю загнаць.

Па сцежцы, чуючы расяны холад ад блізкіх загонаў бульбы, Ігнат прайшоў уніз, да рэчкі. Там стаяў густы, як кісель, туман. Ён затапіў усю нізіну, ідучы па рэчцы паўкругам, а вышэй яго цямнеў чорны грэбень лесу. Густа пахла прывялай травой і нечым вельмі знаёмым. Быццам недзе тут, на лугавіне ля рэчкі, сцішыўся статак кароў. Іх толькі што падаілі жанчыны і пакінулі пастуху, а самі зараз будуць ісці ў сяло, пазавязваўшы вёдры зверху ад мух і пылу чыстай белай палатнінай. Трэба толькі пачакаць трошкі — і ўгледзіш іх. І сярод іх Марыну. Касынка завязана цераз лоб на патыліцу, каб схаваць, падабраць пад яе валасы. Ідзе, лёгка пераравальваючыся на сваіх невялічкіх крэпкіх нагах. Вядро ў правай руцэ, левая для раўнавагі адстаўлена ўбок, яна ўзмахвае ёй, і грудзі пад белай вышыванай кофтай уздрыгваюць у такт узмахаў. Ігнат аж застагнаў ад гэтага такога жывога ўспаміну. Успаміну, які так часта прыходзіў да яго...

Пастаяў яшчэ на вышыні ля альховага куста, нібы і ўзапраўду чакаючы, што з туману з вясёлым гоманам шырокім строем пакажуцца спакойныя ўлагоджаныя жанчыны. Ігната гэта заўсёды здзіўляла. Збіраецца каторая на дойку — сварыцца, крычыць, злуецца, а пабыла з каровай, пагаварыла, падаіла і быццам ужо зусім інакшая стала — падабрэла, адтала душой. Ідзе назад, весела перагаворваецца, і твар свеціцца дабрынёй і ласкай. Нібыта карова — сам поп-бацюшка: выслухаў, суцешыў, розуму навучыў. З мужыком будзе сварыцца, крычаць, кіпець, а да каровы — з цяплом, з добрым словам, з ласкай. Бо ведае: накрычы — і можаш без малака пайсці. Так бы вось і з людзьмі, адзін да аднаго. З жывёлай навучыліся гаварыць, а між сабой развучыліся.

Ніхто з туману не паказаўся. Потым раптам за спіной застагнала зямля, задрыжэла, і, праразаючы ноч сляпучым клінам агню, праз станцыю прайшоў цяжкі эшалон — зноў туды, на ўсход. І Ігнат пазайздросціў усім, хто быў у гэтым эшалоне: яны ведалі, куды едуць.

Ігнат вярнуўся назад да Андрэевага двара, сеў на лавачку пры варотах. Ехаў дамоў — усё было ясна: прыходзь, закасвай рукавы і за працу. Бо кругом яе — рабі, не пераробіш. Мужык ваюе — зямля плача.

Усё ў яго было спланавана задоўга да таго, як узараў ботамі мокры пясок на сваёй станцыі. Скідаць прыбудоўку да стопкі — пад майстэрню. А пакуль прыбудоў-

ка — можна будзе і ў хаце адвесці куток. Ён там і быў некалі — па правую руку ад дзвярэй, ля акна. І відна, і зручна — і ўнесці, і вынесці. А свежая сасновая ці кляновая стружка ніколі не шкодзіла здароўю. І во ўсе твае планы. Сабаку пад хвост. Андрэй па-пустому не стаў бы плот гарадзіць. Не той чалавек. І тое добра, што сустрэліся, добра, што хоць папярэдзіў. Другі хто мог бы прамаўчаць. Каму хочацца чужыя прарэхі трэсці. Сам прыйдзеш і ўбачыш. Прыйдзеш і ўбачыш: «Дзіньдобры! Вапшчэткі, гэта я!» «А хто такі ты? Тваё месца ўжо занята...»

Сядзеў Ігнат, перадумваў, чаму ўсё так выйшла. Здаецца, усё было як у людзей. Ну, не без сварак, не без таго, каб часам не сказаць крутое слова. Крутое слова — не крывое. Ужо навошта галубы — палюбоўная птушка, а і то, бывае, грозяцца адзін на аднаго, а гэта ж людзі. Не так паглядзеў, не так ступіў... Не тое, не так... Табе здаецца — не тое ці не так, а мне — што яно якраз тое самае. Кожны бачыць жыццё па-свойму, асабліва калі чалавекі гэтыя — мужык і баба. Але ж пасля, калі нешта ў галаве ёсць і калі сышліся разам не проста так, не з чужога лесу і не людзей смяшыць, можна дагаварыцца. Проста сказаць: гаршчок аб гаршчок — і з радні вон... Адны чарапкі пасыплюцца. А дзеці — не чарапкі. І зноў жа. Мажа, здаля і відней, што ў абодвух насы крывыя, але ж і з крывымі насамі людзі ўмудраюцца жыць і цалуюцца нават. Гэта калі розум у кучу, а не ўраздроб.

Ён ведаў, што бывае і так, нават часта бывае, калі мужык з жонкай расходзяцца, але заўсёды лічыў, што яны не шмат думалі перад тым, як сысціся, а яшчэ меней, як разысціся.

Дапусцім, разышліся са сваімі Адам Яблонскі і Валодзя Цэдрыкаў, дык яно адразу было відаць, што толку там наўрад ці шмат будзе. Трэба было мець Адамаву фанабэрыю, каб браць у жонкі Лёлю і яшчэ думаць, што нешта путнае з гэтага выйдзе. Яна — баба як стог, ідзе — зямля ўгінаецца, а ён — заморак, смаркач ля яе, адно што капялюш на валасах. У Цэдрыкавага, здэцца, і лепей было. Ён мужчына пад столь, да бервяна заўсёды з камля заходзіць, не баіцца, Люда нашмат меншая, а пражылі пяць гадоў у кучы і дзяцей не нажылі, як і Адам з Лёляй. А пасля як падказаў хто: памяняліся, і ўсё стала

як трэба. І ў тых дзеці пайшлі і ў тых. Мужчыны яшчэ смяяліся: не там шукалі. А тут, здаецца, і там, і тое...

Сядзеў Ігнат, цмокаў піпкай. Выйшаў Андрэй, прысеў побач:

— Пайшлі спаць, Ігнат, з дарогі... А там усё абляжацца.

— Вапшчэткі, яно так. Дарогі хапіла, назбіралася. Паўсвету абышоў. Той жа мой Навасельцаў гаварыў: «Мы, Сцяпанавіч, павінны зразумець сваю місію. Паў-Еўропы прайшлі — калі гэта бывала. І не проста так, а каб ачысціць ад фашызму, каб ніколі болей такога ніхто не памышляў». Але самому небараку да гэтай місіі саўсім трошкі не хапіла. Нейкіх двух месяцаў.— Ігнат засвяціў піпкай твар, нос, вочы, і Андрэю падалося, што Ігнатавы вочы нават як быццам вясёлыя.— Тут ты праўду кажаш: абляжацца. А не абляжацца — утопчам. Ага, утопчам. Пайшлі. Ночы цяпер кароткія: не паспее добра зачарнець — глядзіш, што зноў на віднае пайшло.

І яшчэ не адразу заснуў Ігнат. Думалася, успаміналася...

Трывожны сон знясіліў пад самую раніцу, калі ўжо зусім заднела за вокнамі, але трывога не пакідала і ў сне, жыла ў ім, як асколак у здаровым целе. Чуў, як устала Ганна, як прагнала карову, як уходжвалася ля печы, як пабегла на працу.

Снедалі з Андрэем — засяроджана, моўчкі. Словы здаваліся лішнімі. Ігнат папрасіў Андрэя, каб той перадаў дзецям кансервы:

— Ці сам будзеш у Ліпніцы, ці мо каторае з дзяцей загляне да цябе. Скажы, што ад ваенкамата, а пра мяне нічога не гавары. Пакуль што я яшчэ на фронце, а там відна будзе.

А сам думаў яшчэ болей. Слязьмі пачынаецца вайна, слязьмі не канчаецца. Панасыпае магіл, напладзіць сірот ды ўдоў, што не плакаць, здаецца, няма ніякай сілы. Хоць бы для таго, каб душу абмыць і пайсці жыць далей. Плач не плач, а жыць трэба: добрага сабаку і таго кормяць за службу. А ў чалавека рукі ёсць, і яны не толькі для вінтоўкі прыстаўлены, хоць іншы быццам толькі яе і ўмее дзяржаць.

Пакінуў у Андрэя і адзін мяшок свой: з усімі слясарнымі інструментамі, старанна закручанымі ў прамасленую крамніну. Папрасіў яшчэ тапарышча: тапор ён так-

сама прывёз з сабой, ведаў, куды едзе. Насадзіў тапор, абгарнуў анучай, сунуў у мяшок.

— Дык куды цяпер? — спытаў Андрэй.

— Рабіць работу. Сякера і тое-другое ў мяне ёсць, а рукам работа трэба...

— Яшчэ б не трэба...— задуменным голасам сказаў Андрэй.— Работы хопіць. А дзеці, дзеці як?

— Даўжэй чакалі, пачакаюць яшчэ...

— Пачакаць-то пачакаюць, а ўсё ж я раіў бы табе падумаць...— Андрэй не стаў дагаворваць, пра што раіў бы падумаць Ігнату. Ігнат усміхнуўся нейкай дзіўнай не то жаласнай, не то з'едлівай усмешкай:

— Вапшчэткі, і бацюшка раіў грэшніцы падавацца ў рай, а тая ўсё роўна ў пекла заблудзіла.— Ён працягнуў руку.— Бывай. Падамся ў бок Бабруйска. Сёлы там большыя, значыць, і работы больш.

«І сёлы большыя, і далей ад дому»,— дадумаў сабе Андрэй, але сказаць нічога не сказаў.

Паціснулі рукі, і Ігнат пайшоў па сяле — даўгі, сутулаваты, з салдацкім мяшком на правым плечуку. Мяшок гэты ніяк не цягнуў уніз, а нібыта нават праміў высокія плечы. І з мяшка, зашморгнутае вяроўкай, як ствол вінтоўкі, вытыркалася новае бярозавае тапарышча. Ігнат аддаляўся, а тапарышча белай латкай доўга яшчэ віднелася на шэрым полі шыняля.

## VI

Работу Ігнат знайшоў у той жа дзень, па абедзе. Ішоў, перакідваючы мяшок з аднаго плечука на другі, праз адно, праз другое, праз трэцяе сяло. І адно, і другое, і трэцяе назваць сялом мог толькі той, хто некалі добра ведаў іх. Дзве-тры бог ведае чыёй літасцю ўцалелыя хаты, а больш зямлянкі, скляпы. Нібы з самай зямлі вытыркаецца комін, з коміна кволіцца дымок, тут жа грэюцца ў пяску куры, гуляюць дзеці.

І сваё кіпела на душы ў Ігната, а гэтыя малюнкі дадавалі страшнейшага. У каторы раз прыпамінаўся той чысценькі, акуратны, не кранутьі бомбамі і снарадамі нямецкі гарадок, па якім яны гулялі з Навасельцавым. Злосці на той гарадок не было, было адчуванне вялікай несправядлівасці: па якому праву маглі людзі ўчыняць такія разбурэнні і разбой на гэтай ціхай зямлі? Такі

разбой, што ідзеш во колькі кіламетраў і не знойдзеш сяла, дзе б усё было, як павінна быць у сяле: і хаты, і хлявы, і сады.

Нарэшце-такі знайшлося. Стаяла яно на перасячэнні шашы з ракой, на яе вышэйшым беразе — некалькі нізкіх цагляных домікаў, астатняе ўсё драўлянае. За ракой, як бачыла вока, ішла шырокая заліўная пойма, яшчэ далей — лес.

Сяло дзялілася на некалькі вуліц. Недзе ў баку ад галоўнай вуліцы цюкалі два тапары, і Ігнат завярнуў туды. Тут будавалі хату. Зруб яшчэ быў толькі падведзены пад вокны, і наверсе, асядлаўшы бервяно, сядзелі два голыя па пояс мужчыны — адзін старэйшы, вусаты, з сівізной на скронях, другі маладзейшы, з чорнымі як смоль валасамі, абодва ў салдацкіх штанах, з тапарамі. Ігнат падышоў, прывітаўся.

— Злазьце, хлопцы, перадыхніце, пад старасць не адрыгнецца.

Злезлі ўніз, паселі на бервяно. І толькі цяпер Ігнат убачыў, што ў вусатага замест левай рукі — култышка, адхапіла руку там, адкуль павінна пачынацца далонь. Другі, здаецца, зусім цэлы. Салдацкія боты з кірзавымі халявамі стаялі тут жа, пад сцяной.

— Столькі год у ботах, без аддыху,— сказаў маладзейшы, пераняўшы Ігнатаў позірк.— Хай ногі трохі вецер пачуюць.

Ігнат кіўнуў галавой: ён-та добра разумеў гэтую ахвоту падставіць ветру ці сонцу жывое цела. Зірнуў на белыя салдацкія ногі: адна была здаровая, другая пераплецена малінавымі рубцамі. Відаць, добра пашчапала, сшывалі з астаткаў...

Што трэба салдату для знаёмства? Пара зацяжак ды колькі слоў: дзе ваяваў, дзе ранілі, як жыў застаўся. А калі яшчэ ваявалі на адным фронце, дык і зусім радня.

Аказалася, што будуюць хату Васіліне, сястры маладзейшага мужчыны. Да вайны і ў вайну сядзела кабета з двума дзецьмі ў суседнім сяле недалёка адсюль, пакуль пры адной з карных акцый фашысты не спалілі ўсё сяло. Добра, што сама з дзецьмі паспела схавацца ў лесе. Мужык загінуў недзе ў той жа Германіі, і жанчына знайшла месца тут, пры сястры. Бліжэй ля радні, усё-такі смялей: і сястра тут, і брат.

Неўзабаве падышла і гаспадыня хаты — высокая

жанчына з прадаўгаватым прыемным тварам, які з бакоў, як дужкамі, атулялі гладка расчасаныя на два бакі прамыя чорныя валасы. Нешта мудра-пакутніцкае, нібы ў святой, было ў гэтым зажураным славянскім твары, і Ігнату адразу чамусьці ўспомніліся згарэлыя вёскі, праз якія ён ішоў сёння.

Жанчына прынесла абед, яна варыла яго ў сястры ў печы. Сказала і Ігнату, каб ён здзяваў шынель і прысаджваўся.

Ігнат сказаў, што ў мяшку ў яго таксама завязаны тапор і ён яшчэ ніякага задання сабе не прыдумаў...

— Тады Васіліна прыдумае табе заданне,— сказаў вусаты нібы жартам, а стала ўсур'ёз. Ігнат сеў абедаць.

Вусаты хоць і з култышкай быў, а мог і абчасаць бервяно, і на вугле сядзеў добра. У маладзейшага яшчэ не было таго спрыту, і рука меры не ведала, як закалупіць часам тапаром, хоць бервяно выкідай, але ў тры тапары работа пайшла спарней. Праз тыдзень ужо паклалі бэлькі, а там і кроквы ўсцягнулі.

За тапаром Ігнату было лягчэй: работа ёсць работа. А ноччу, застаўшыся адзін, не мог саўладаць з болем, які распаленым кавалкам жалеза пёк у грудзях.

Чамусьці часцей за ўсё ўспамінаўся адзін выпадак, які здарыўся адразу, як пажаніліся. Ён прывёз Марыну, і яна адразу знайшла сябе, быццам тут усё жыццё і жыла. Што са скацінай, што з кроснамі, калі паспела і навучыцца — зусім жа дзяўчо яшчэ, адна каса толькі...

Каса... Паглядзеў неяк на маладзенькіх трактарыстак у раёне, на іх кароткія, роўненька падрэзаныя валасы, захацелася, каб і яна зрабіла так. «Ты што, здурнеў? Як я без касы?.. Ім, камсамолкам тваім, куды тыя косы пры машыне? Яшчэ ўкруціць каторую куды. А як жа я ў сяле без касы?»

Не зрабіла па-добраму, зрабіў па-дурному. Падышоў з нажніцамі да соннай і шахнуў. Ды так высака, што валасы і вушэй не закрывалі. Некалькі месяцаў хустку не скідала з галавы, людзей саромелася. А ўжо гвалту было, хоць дамоў не паказвайся. І праўда, па-дурному зрабіў. Каму яны мазолілі вочы, тыя валасы? А як вымые ў палыновым шчолаку ды высушыць, усю падушку ўкрывалі, а пахлі як... Мусіць, недзе і цяпер ляжыць тая каса ў прыскрынку сярод розных шпулек ды нітак...

Хата ў Васіліным сястры была прасторная, можна

сказаць, вялізная, і яна адпусціла сястры з дзяцьмі адну палавіну. Можна было і Ігнату спаць там, на канапе, але ён не захацеў. «Ці шмат салдату трэба: ахапак сена пад бок, шынель на бок — і спі на здароўе».

Сена было ў хляве, шынель у мяшку, ночы прахладныя, але не такія, каб мерзнуць. Васіліна знайшла падушку і пасцілку — што болей трэба? Хоць ён і не на вайне, не на перадавой. Рай, ды годзе.

Рукі скора прывыклі да тапара, толькі душа месца не знаходзіла.

Сцішыўся неяк Ігнат са сваімі думкамі, чуе: рыпнулі вароты.

— Ці ёсць тут хто жывы? — пачуўся Васілінін голас.

Голас хацеў казацца весялейшым, смялейшым, чым звычайна.

— Ды ўжо ж ёсць,— адказаў Ігнат.

— Прыйшла паглядзець, ці добра табе тут. Ці не трэба чаго? — Голас ішоў усё адтуль, ад варот.

— То паглядзі... Лескі во тут, паўз шулу,— Ігнат зашамацеў сенам, падаючыся бліжэй да лесак.— Давай руку, а то заблудзішся.

— У такой цемені і праўда можна заблудзіцца,— Васіліна падала руку.

— Тут во падушка, тут пасцілка, тут і шынель,— Ігнат падвёў жанчыну да сваёй пасцелі.

Васіліна абмацала яе, але стаяла, не садзілася:

— Нічога. Здаецца, жыць можна.

— Раз жыву, то можна. І аднаму можна, а ўдваіх...— Ігнат пацягнуў Васіліну за руку, і яна мякка, як надламаная, апусцілася ля яго на пасцілку. Ён прыгарнуў яе за плечы, знайшоў губы. Яны таксама не супраціўляліся, але калі ён пачаў расшпільваць гузікі кофтачкі, нібы ток які прайшоў па жанчыне, яна нібы ачнулася і ў парывістым адчаі кінулася да яго...

Пасля яна яшчэ некалькі разоў прыходзіла да яго. І ўсё ў іх было, як і павінна быць у мужчыны і жанчыны, але адпускаў ён яе лёгка, як калі б паміж імі і не было нічога. Апошні раз яна доўга ляжала ля яго, маўчала. Ён ведаў, што яна не спіць, але яму не хацелася гаварыць. Ён знайшоў шынель, натаптаў піпку, прыпаліў. Ніколі не рабіў гэтага на сене, а тут закурыў.

— Ты, Ігнат, мусіць, хворы. Здаровы мужчына не можа быць такім,— сказала тады яна.

— Якім «такім»?

— Такім... халодным. Ты б хоць прытварыўся, ці што?

— Чаго не ўмею, таго не ўмею.

— Ад цябе холад, як ад лядоўні... Нават тады, калі... калі ў чалавека ўсё гарыць...

— Ты болей сюды не прыходзь,— сказаў ён.— Не прыходзь.

Яна гаварыла праўду, і ён таксама сказаў праўду.

— Я не прыйду. Я пасля першага разу думала не прыходзіць, але... Я бачыла, якая адзінокая твая душа, як табе цяжка... і хацела...

— Зрабіць ёй лёгка?

— Не лёгка — лягчэй... Не для сябе... Я ведаю, ты тут доўга не забавішся...

— Шмат у вас, у баб, сэрца, калі б да яго яшчэ і розум...

— І кім бы вы ля такога сэрца? Парабкамі?

— Вапшчэткі, можа, і парабкамі, а ўсё-такі...

Хату ўжо канчалі лаціць. Ігнат сядзеў на самым версе, калі адчуў, што з другога боку вуліцы на яго пазірае хлапчук гадоў сямі. Ён даўно ўжо стаяў там. Пастаяў, схадзіў некуды, зноў вярнуўся. Хлапчукам заўсёды цікава паглядзець, як дзе што робіцца. Але гэты даўно стаіць. Босы, у палатняных штоніках, кашуля, пінжачок, чорная торбачка, з такімі ў школу ходзяць. Хлапчук стаяў адвярнуўшыся і пазіраў на буслінае гняздо, што сплюснутым капелюшом сядзела на ліпе ў суседнім двары.

Пара ішла на восень, маладыя буслы акрыліліся і недзе пужалі на пойме жаб, аддаўшы свой дом у поўнае карыстанне вераб'ям, і тыя аж заходзіліся ў крыклівым азарце даказаць нешта свету. Гэтым разам крык быў неспакойны, трывожны. Ігнат павёў вачыма па ліпе і ўбачыў прычыну баязлівага птушынага неспакою: гэта быў вялікі чорны кот. Ён дабраўся ўжо да спіленых верхніх сукоў дрэва, на якіх цяпер сядзела гняздо-шапка. Хлапчук размахнуўся, і пушчаны ім камень шчоўкнуў у кару перад самым носам ката. Кот з перапуду прысеў на лапах, аж прыліп да дрэва, потым крутануўся, як вавёрка, і з вышыні, распластаўшыся ў паветры, сiгануў у гарод, на граду капусты. Хлапчук засмяяўся і зноў

зірнуў сюды, на Ігната. І Ігнат адчуў, як млявая цеплыня пацякла па ўсім целе. Задам, мацаючы нагамі латы, спусціўся бліжэй да страхі, потым па лесках, ужо хутчэй, а там цераз двор, па трэсках, на вуліцу. Хлапчук стаяў на месцы, пазіраў на Ігната сур'ёзнымі, як у дарослага, вачыма, і Ігнат не змог ісці спакойным крокам, кінуўся да яго:

— Лёнік, сынок!..

Ён падхапіў сына на рукі, прыціснуў да сябе, чуючы птушыную лёгкасць худога цела. Сын зморшчыўся, закруціўся, вызваляючыся:

— Пусці, баліць...

— Што баліць?

— Спіна баліць.— І ўжо калі Ігнат паставіў яго назад на зямлю, вінавата ўсміхнуўся.— Я лавіў у канаве ўюноў, а Антось Яблонскіх падкраўся з-за кустоў і з рагаткі. Бачыш? — Ён павярнуўся да Ігната спіной, задраў пінжачок, а разам з ім і кашулю, агаліўшы цела: уся спіна была пасечана закарэлымі, як зажываючая кароста, ранкамі.

— Чым гэта ён так?

— Жарствой... У рагатку насыпаў ды як шарахнуў...

— Ды за гэта ведаеш што паложана?

— Яны сваё з'елі. Мы падпільнавалі іх — Антося, Стася іхняга, Пецю Зінінага — і так укінулі, што надоўга запомняць.

— А за што гэта вы так?

— Ваюем... Як партызаны з немцамі.

— І хто ж немцы, а хто партызаны?

— А мы мяняемся. Тыдзень яны, тыдзень мы.

— Нікудышная гэта вайна... А як жа ты тут апынуўся?

— Цябе шукаў.— Лёнік узняў вочы на бацьку і хутчэй загадаў, чым папрасіў: — Пайшлі дамоў. Мы цябе даўно жджом.

Ён стаяў перад бацькам — босы, з чорнымі ад пылу, пазбіванымі нагамі, у абтрапаных штоніках, вялікая, даўно не стрыжаная галава на тонкай доўгай шыі, вялікія шэрыя вочы, зацятая ўпартасць на твары.

— Даўно? — нібы засумняваўся Ігнат.

— Ага. А як дзядзька Андрэй прынёс кансервы, толькі пра цябе і думаем...

— Вапшчэткі, дык гэта, выходзіць, ён падказаў, што я тут?

— Нічога ён не падказваў. Проста мы ўсе здагадаліся, што ты ёсць, а дамоў ісці не хочаш... Я пад'язджаў з ім за грэблю і прызнаўся, што пайду шукаць цябе. Ён тады і сказаў, каб я ішоў па дарозе на Бабруйск. Я і пайшоў. Я ўжо другі дзень тут.

— Другі дзень?

— Ага. Вы тады яшчэ толькі пачыналі прыбіваць латы.

— Дзе ж ты начаваў?

— На поплаве, у стозе. Там іх чоршта.— Лёнік паказаў галавой за раку.— Ну, пайшлі, тата.

— Добра, сынок, пойдзем, толькі паабедаем. Ты ж, мусіць, галодны?

— Ага... Але можна і так. Там бручка за сялом расце.

— Бручка бручкай...— Ігнат зірнуў на сваіх напарнікаў. Тыя як сядзелі ўгары, так і засталіся там.

— Што, сын знайшоў бацьку? — спытаў вусаты.

— Вапшчэткі, так. Сын бацьку, а бацька сына. Дык вы ўжо, хлопцы, закончыце самі, а я мушу ісці...

— Ды ўжо ж, ідзіце шчасліва.

Васіліна зразумела ўсё, як толькі ўбачыла іх. Скоранька сабрала на стол, Лёніку дала малака, хлеба. Лёнік еў, прагна глытаючы збольшага пражаваныя кавалкі, запіваў малаком, а яна з сумам і болем пазірала на яго, і дзве буйныя слязы нібы самі сабой выкаціліся з вачэй.

— Ну, гэта ты дарма,— зазлаваў Ігнат.

— Дзякуй табе, Ігнат, за помач. Не ведаю толькі, як буду...

І зноў ён зазлаваў, не даў ёй дагаварыць:

— А так — і ўсё тут... Думаў, разам закончым, ды хлопцы ўжо самі...

Васіліна дагнала іх ужо на вуліцы, працягнула Ігнату торбачку з нечым ладным і цвёрдым у ёй.

— Што ты выдумляеш? — Ігнат не хацеў браць торбачку.

— Вазьмі, яй-богу, вазьмі. Тут сала і хлеб... Ты ж бачыш, у нас ёсць, а ў вас... Вазьмі...

— Ну, чаго ты стаіш? Бяры ды пайшлі,— вырашыў усё Лёнік. Ігнат зірнуў на сына, потым на Васіліну, узяў торбачку, развязаў, пераклаў сала і хлеб у свой мяшок, торбачку аддаў назад.

Ігнат з сынам прайшлі кіламетраў з пяць, калі іх дагнаў вайсковы «студабекер», ён ішоў у раён. Ігнат закінуў у высокі кузаў мяшок, пасобіў залезці Лёніку, залез сам. Стаялі, абапёршыся аб кабіну, і вецер дзьмуў у твар, ірваў валасы. Ужо калі пад'язджалі да раённага цэнтра, Лёнік павярнуў галаву да бацькі, папрасіў:

— Толькі ты не бі маму.

— А чаму ты думаеш, што я буду біць яе?..

— Не ведаю. Вунь Хведаркаў Вова таксама вярнуўся і пачаў ганяць сваю Маню. Вып'е, а пасля ганяе. Яна ўзяла і павесілася.

Ігнат нічога не сказаў сыну.

— Што яшчэ новае ў нас? Як дзед і баба?

— Якія дзед і баба? — не зразумеў Лёнік.

— Якія? Твае дзед і баба. Вапшчэткі, іх жа ў цябе засталося толькі двое. Дзед Сцяпан і баба Агапа.

— Дык яны ж даўно памерлі. Шчэ летась. Дзед зімой, а ўвесну баба яго адмяніла. А дзядзька Міхайла яе адмяніў. На яго прыйшло пісьмо, што забілі. Як хавалі бабу, я бачыў, мы былі з мамай, а да дзеда яна адна хадзіла.— Усе гэтыя навіны Лёнік паведаміў адным дыхам, з радасцю, што першы расказвае бацьку пра ўсё.

Ігнат болей ні пра што не пытаўся. «Трэба было яшчэ пакруціцца па свеце, можа, яшчэ што-небудзь зарабіў бы пачуць... І Андрэй таксама маладзец... Хаця што маладзец... Хопіць яму і таго, чым абрадаваў...»

І яшчэ падумаў Ігнат пра тое, як усё не па парадку ідзе ў гэтым жыцці. З дому пайшоў кругом свой, а вяртаецца кругом сірата. І гэта за нейкія тры гады. І далей. Учора нічога не ведаў пра бацьку і маці, пра брата, і ўсе яны былі жывыя, і ён быў з імі. А сёння ўжо ўсё. Застаўся Ігнат Сцяпанавіч адзін... Хаця стоп, Ігнат Сцяпанавіч, стоп. Чаму адзін? А сын? А дочкі?

## VII

З даўніх часоў ідзе завядзёнка галасіць, калі чалавека праводзяць на вайну ці сустракаюць назад. Завядзёнка бабская, схавацца ад яе не схаваешся, але калі прыйсці дамоў ноччу, то, можа, ніхто гэтага крыклівага салюту ўсчынаць не будзе. Саўсім не па нутры быў гэты салют Ігнату, гэта калі ўсё добра і здорава, а тым болей цяпер,

пры ўсім тым, што ёсць, і таму прымеркаваў ён заявіцца ў Ліпніцу, калі сяло будзе ўжо спаць.

З раёна кіламетраў з пяць пад'ехалі на падводзе, потым ішлі пеша. Лёнік церабіўся поплеч, стараўся патрапляць у нагу з бацькам, хоць было гэта няпроста — у таго нага была нашмат шыршая. Лёнік расказваў, як сустракалі Мікалая Бабеню. Са станцыі ў Ліпніцу яго прывезла санітарка на падводзе, бо хадзіць сам ён мог толькі на мыліцах, носячы пабітую нагу, як вялікую, абматаную бінтамі ляльку. Сабралася ўсё сяло, прынеслі патэфон, пласцінкі, падвыпілі. Спявалі, танцавалі, а пасля плакаць пачалі. Дзіва што, адны бабы. З мужчын быў толькі стары Анай, ён насіў пошту, ды сам Мікалай. Тры нагі, дзве мыліцы — не шмат натанцуеш. Хведаркаў Вова вярнуўся пасля ўжо, а дзядзька Цімох яшчэ пазней.

Ліпніца спакойна спала, калі яны ўвайшлі ў сяло. Чорныя хаты, бухматыя кусты і дрэвы за платамі, і цішыня, быццам на ўсё сяло ніводнага сабакі. На нейкі час Ігнату падалося, што ўступае ён, як гэта часта бывала ў вайну, у чужое сяло, і цяпер цішыня — не што іншае, як падманлівая цішыня насцярожліва прыціхлых людзей. Ніхто не спіць, кожны чуйна ўслухоўваецца ў ноч, якая зараз узарвецца галасамі многіх вайсковых людзей, кароткімі камандамі, гулам матораў; зарыпяць вароты, заляскаюць дзверы, зацепляцца агнямі, нібы пралупляючыся, вокны хат.

Жыло гэта адчуванне ўсяго нейкую хвіліну, а пасля зноў усё стала як было: і цішыня, і цемра, і востры пах крапівы і кропу, і мокры пыл — усё, чым заўсёды пахла вуліца Ліпніцы гэтай парой, вярнулася назад.

Ігнат азіраўся па баках, адзначыўшы сабе, што і хаты цэлыя, і хлявы, і калодзежы панатапырвалі ўгору стрэлы там, дзе былі і да вайны.

Лёнік маўчаў. Шлэпаў босымі нагамі па мяккай зямлі, час ад часу шмыгаў носам. І толькі калі падышлі да іхняга канца і ў цемры раптам бліснуў і прапаў, а потым зноў бліснуў асцярожны агеньчык, ён усклікнуў радасным голасам:

— Чакаюць! Я ж табе казаў, што чакаюць!

Ён першы павярнуў на двор у адчыненыя вароты, нібы паказваючы бацьку, куды ісці, першы прабег праз

сенцы і зайшоў у хату, пакінуўшы адчыненыя дзверы, дачакаўся, калі зойдзе бацька, і ўрачыста крыкнуў:

— А во і мы!

Ігнат скінуў з пляча мяшок, паклаў ля парога.

Марына сядзела за машынкай тварам да дзвярэй і нешта шыла. На стук дзвярэй адарвала галаву ад машынкі, доўга пазірала то на мужа, то на сына, быццам не верыла, што гэта маглі быць яны, і раптам з крыкам «Ігнат!..» кінулася да дзвярэй. Прыпала да мужавых грудзей, затрэслася ў плачы, прыгаворвала: «Ігнат! Ігнат!..»

Адзеравянелай рукой гладзіў Ігнат яе плечы, і сам праз навалач слёз бачыў толькі вялізную ружовую пляму ўкруга лямпы, і пляма гэта то збягалася, рабілася зусім маленькай, то шырылася, займаючы ўсю хату.

Потым круг гэты паіначыўся, пасвятлеў, і з яго выплылі і закрылі сабой такія знаёмыя і такія родныя твары дачок.

Дочкі не кінуліся да яго, проста пасталі перад ім, у доўгіх зрэбных кашулях, як паўскоквалі з пасцелі пасля сну. Яны і сароміліся яго, а можа, і баяліся. Здаецца, колькі часу таго мінула, як яго не было, а як павырасталі. Асабліва Соня. І Гуня... Марына адхінулася ад яго, нібы ўступаючы месца, даючы дарогу дочкам, і тады яны кінуліся да бацькі, і ён згроб іх рукамі, цалуючы твары, валасы...

— Тата, татачка!..

— Ну во, і сустрэліся... І я тут, вапшчэткі, во... дома... Ну, не плачце... Усё будзе... неяк усё будзе.

Ігнат абдымаў іх, чуў пад сваімі рукамі іх худыя, кволыя плечы, вострыя храсткі і адчуваў, як нешта гарачымі бязлітаснымі абцугамі сціскае яго сэрца, нібы ён сам быў вінаваты, што яны такія худыя і што яны ў гэтых грубых зрэбных кашулях.

— Нічога, нічога... Усё будзе добра...— прыгаворваў ён, не жадаючы, каб хто бачыў яго мокрыя вочы.— Ага, усё будзе, усё будзе...

— Вы ж з дарогі і, мусіць, галодныя саўсім,— спытала Марына.

— А няўжо ж не галодныя,— адказаў і за сябе і за бацьку Лёнік і, стараючыся быць злосным, абвёў усіх позіркам.— Я ім бацьку прывёз, а яны... Эх, вы!

— Зараз, Лёня,— сур'ёзна і нібы вінавацячыся, ад-

казала брату Соня і прапала за шалёвачнай перагародкай — адзявацца. За ёй шмыгнула туды і Гуня.

— Ага, мы зараз,— спахапілася і Марына, зірнуўшы на сына, быццам ён тут быў за галоўнага і быццам толькі яго каманды і чакалі ў хаце.— Прысаджвайся, Ігнат, і ты, Лёнік, пасядзі, а мы зараз... Думала, кончу табе штаны, і мала што не паспела, паясніцу трэба памераць.

Марына адкаціла швейную машынку ў куток, ускінула наверх шытво.

— Уцалела? — спытаў Ігнат, пазіраючы на машынку. Ён сам закопваў яе на сотках — станок асобна, галоўку асобна. Калі хто і дабярэцца, то хай не ўсё разам.

— Ага, уцалела,— устрапянулася, узрадавалася Ігнатаваму пытанню Марына.— Праўда, прыржавела ў двух месцах, але не страшна, дасталі ў пору, пачысцілі. Змазалі... Шыла ж і партызанам, і сабе, і цяпер... Засталася адна такая на ўсю Ліпніцу.— Марына гаварыла, а сама тым часам пайшла за перагародку, дастала з куфра скацерку, пачала засцілаць стол і раптам зніякавела. Як застыла над сталом.

— Ну ты, мама, як не ведаеш, што сабралася рабіць! — па-даросламу сур'ёзна падказаў Лёнік.

— Ага, сынок, як не ведаю, што раблю,— адказала Марына сыну.— Ад радасці не ведаю, што раблю.— Марына зірнула на Ігната, чакаючы, што скажа той. Ігнат моўчкі разглядаў фотакарткі ў рамцы на сцяне. І Марына падабрала губы, рашуча выпрамілася і заспяшалася, як гэта яна рабіла заўсёды, калі трэба было зрабіць хутчэй работу.

Спалі Ігнат з Лёнікам на «вялікім» ложку, што стаяў між вокан на вуліцу, Марына з дочкамі за перагародкай. Зроблены быў гэты ложак з таўстых, сухіх, як звон, сасновых дошак. Сушыў іх Ігнат спачатку пад павеццю на дварэ, потым на печы. Доўга падбіраў дрэва, браў на клей, пускаў пад фуганак. І сталася так, нібы спінкі былі выпілены з адной, на ўсю шырыню ложка, сасны. Пасля, як работа была скончана і ложак пакрыты лакам, Ігнату самому няпроста было выйсці вокам на лінію, дзе адна дошка тачылася з другой.

Рабіўся вялікі ложак, як нарадзілася Гуня і стала цесна на «малым». Той таксама стаяў тут, між вокан, а цяпер стаіць за перагародкай, на ім і ляглі спаць Марына

з Гуняй, Соня лягла на печы. Рабіўся вялікі ложак на дваіх, але не было цесна на ім, калі Марына клала з сабой «прыспаць» і трэцяга чалавечка — спачатку Гуню, а пасля і Лёніка.

Сёння Лёнік папрасіўся легчы з бацькам: «мужчыны з мужчынамі, бабы з бабамі». На тым і парашылі, і рашэнне гэта падабалася Ігнату.

Хоць спаць ляглі і позна, але як толькі засвіціліся шэрым вокны, Ігнат прахапіўся. Устаў асцярожна, каб не пабудзіць сына, выйшаў на двор, закурыў. Сяло яшчэ спала, і, нібы спрасоння, абзываліся ў дварах пеўні.

Ігнат выйшаў на вуліцу, дайшоў да канца яе. Калгасны двор квола цямнеў на пагорку за грэбляй збоішчам пабудоў, схаваных за абсадай высокіх дрэў. Лявей, на фоне шэрага неба, над лініяй бярэзніку, выразна, нібы абмалёваная хімічным алоўкам, выступала бухматая галава дуба. А яшчэ лявей, над курганамі, як згубленая птушкай перына, цягнулася ўгору воблачка бярозавай кроны. Ігнату пацяплела ад думкі, што ўсё тут засталося на месцы, як і тады, калі яны з Цімохам пайшлі з Ліпніцы.

Па ледзь прыкметнай расянай сцежцы, абагнуўшы Анаевы соткі, абгароджаныя плотам у дзве жэрдкі, выйшаў у рог лесу. Сеў на пень, паклаўшы рукі на калені. Лес рос на вышэйшым, і сяло ляжала, як на абрусе: адзін пасёлак, другі, трэці. За трэцім пасёлкам таксама браўся лес, і за ім ярка чырванела неба — скора павінна было ўзыходзіць сонца. Лес ажываў птушынымі галасамі. Папаўзла ўніз страла Цімохавага калодзежа, пасля зноў, як ствол гарматы, нацэлілася ў неба. У некага зарыпелі вароты — выпусцілі на двор карову. Недзе бразнула бляшанае вядро. Ліпніца пачынала свой дзень.

«Ну што ж, трэба пачынаць і нам,— падумаў Ігнат.— Вапшчэткі, трэба пачынаць...» — сказаў уголас, як да некага, хто быў побач, хоць нікога наўме не меў і сам не ведаў, што і з чаго пачынаць. «Задала ты мне, жытка, задачку, задала...» — падумаў яшчэ, скрыгатнуў зубамі.

І раптам быццам нешта ўспомніў Ігнат. Выбіў даўно патухлую піпку аб пень, запхнуў у кішэню і рашучым крокам, нібы баючыся спазніцца, пайшоў краем лесу ў канец сваіх сотак. Ішоў і цягнуў галаву, узіраўся наперад. Убачыў за кустамі кучу бярвення, прыцішыў крок. Гэта ж ужо ў вайну навазіў яго — збіраўся прыбудаваць ка-

нец да хлява. Не паспеў, не да таго стала. Адно паспеў абкарыць, скласці ў штабель. І, бач, засталіся цэлыя, не парасцягвалі, не папалілі. І, здаецца, не пагнілі. Не пагнілі. Абышоў кругом штабель, піхнуў нагой адно бервяно, другое. Нічога, нічога... Ніжнія трохі грыб пабіў, а астатнія, па ўсім відно, здаровыя... Значыцца, так. Хлеў хлевам, хлеў пачакае...

Асіна з дуплом, у якім некалі хаваў наган, была таксама жывая. Ігнат пагладзіў рукой яе мокрую шорсткую кару, паківаў галавой і праз соткі, па бульбянай баразне, рашуча пакіраваў да свайго двара. Вярнуўся сюды ён хвілін праз дваццаць з тапаром у руках.

Загрымела, скочваючыся ўніз, падважанае колікам верхняе бервяно, грузна лягло на пярочкі. Ігнат папляваў на рукі, ускінуў тапаром — раз, другі, трэці. Уторкнуў тапор, узяў у рукі першы адбіты аскабалак. Ён радаваў вока чысцінёй здаровага, добра высахлага дрэва, заласціста-белымі скразнымі лініямі разарваных валокан. Пацягнуў носам і пачуў пах жывой смалы.

Ігнат любіў работу з дрэвам. З яго, калі пастарацца, заўсёды можна зрабіць нешта такое, што будзе даспадобы ўсім. Але сёння ён адчуваў асаблівую замілаванасць да гэтага кавалачка мёртвай драўніны, як да нечага далікатнага, кволага, нібы гэта было нешта жывое. І гэта шурпатая мяккасць толькі што расколатага дрэва,— ён чуў яе пальцамі, і востры пах, нібы смала і цяпер, як жывая кроў, цякла па жылах дрэва,— усё тое, на што ён раней не звяртаў увагі, навяло яго на думку аб вялікай справядлівасці таго, што ён застаўся жывы і што ён дома і можа рабіць сваю работу.

Ігнат адкінуў убок аскабалак, зноў узяў у рукі тапор і не выпускаў, аж пакуль не прыбег Лёнік зваць снедаць. Лёнік глядзеў на два роўненькія, як пад шнур, абчасаныя бярвенцы, і яны ўявіліся яму дзвюма даўжэзнымі ўсміранымі рыбінамі, што, прыціснуўшыся бакамі, ляжалі на падкладзеных калодках.

У абед, калі Ігнат устаў з-за стала, Марына асцярожна сказала:

— Можа, сабраць што на стол, на вечар?

— А што будзе вечарам? — Ігнат нібы не разумеў, пра што гаворыць жонка.

— Свята як-ніяк, можа, зойдзе хто.

— Не надта вялікае свята, каб крычаць пра яго.

— Людзям дарогу ў хату не заступіш, ім цікава паслухаць, паглядзець...

— А то яшчэ не наглядзеліся за вайну... рознага цікавага...

— Гарэлка ёсціка, і на стол знойдзецца... Кансервы твае шчэ цэлыя, не адкрывалі.

— Кансервы... Вапшчэткі, дзеці вунь худыя, як шкілеты...

— Не памруць дзеці. Дасюль не памерлі і цяпер жывыя будуць,— упарцілася, вяла сваё Марына.

— Няма калі расседжвацца. А каму захочацца ўбачыць — убачыць. Убачыць і паслухае,— з гэтымі словамі Ігнат пайшоў з хаты.

— Жытка — таксама работа, і ад яе нікуды не збяжыш,— сказала Марына. Думала, што сказала гэта сама сабе, для сябе. Але Ігната гэтыя словы дасталі ў дзвярах, і ён тарганууся, павольна разварочваючыся на парозе, нібы раздумваючы, як быць далей. Вярнуўся, стаў перад Марынай:

— Вапшчэткі, я ніколі... нікуды і ні ад чога... не збягаў... І ты гэта ведаеш... І сёння ні ад чога не збягаю і не пабягу. Запомні... А тое-сёе ведаць хацеў бы...

Ён высіўся над ёй на цэлую галаву і гаварыў гэта ціха, з глухім роздыхам. Яна думала, яна чакала, яна хацела, каб ён размахнуўся і ўдарыў яе, і ёй было б лягчэй. Яна прасіла яго сваімі вострымі ўпартымі вачыма, але ён не пашкадаваў яе, павярнуўся і пайшоў на двор.

Пад вечар у канец сотак, адкуль чулася мернае ўпартае чахканне тапара, падышоў Цімох. Ігнат якраз канчаў часаць бервяно. Разагнуўся, узняў успацелы, разагрэты работай твар нібы насустрач ветру і ўбачыў суседа. Тапор нязвычна глыбока ўпіўся ў бервяно.

— Здароў, сусед!

— Здаровенька-а-а!..

Абняліся, счапіліся, нібы бораючыся.

— Здаровенька і здаровенькі, хай табе здароўе множыць,— казаў расчулена Цімох, адступіўшы трохі назад, каб яшчэ раз, ужо здаля, акінуць вокам Ігната.— Варочаеш, як мядзведзь,— Цімох кіўнуў галавой на кучу абчасаных, акуратна складзеных на коліках рад на рад бярвенняў.— Няйначай, за адзін дзень хочаш абудавацца?

— Вапшчэткі, яно і так не шкодзіла б. Калі па-сур'ёзнаму, дык і тыдня аддаваць на яе шмат. Хачу трысцен да стопкі прывязаць, пад майстэрню. Каб было дзе і варштат паставіць, інструмент прыстроіць, каб і пад рукой, і ад чужога вока далей. Каб і не ў хаце, і не на холадзе...

— Вядома, што так. Але як жа ты адзін?

— На зямлі нічога, а вышэй трэба будзе шукаць падмогі.

— І на зямлі ўдвух спраўней, а на вуглу тым болей... Во што: дачасаць бёрны ты ўправішся сам, а там я пасоблю. Гэта не работа — аднаму. А цяпер забірай свой інструмент і пайшлі да нас. Там Клаўдзя з Марынай вячэру ўжо згатавалі.

Цень незадаволенасці лёг на Ігнатаў твар:

— Бабы ёсць бабы. Калі наважыцца што, будзе дабівацца да канца. Казаў жа ёй: не трэба, не хачу.

— Ты во што, Ігнат, ты на Марыну дарэмна так строга сёння. Гэта мая задумка. Я заву цябе ў сваю хату і хацеў бы, каб ты мяне паслухаў. І яшчэ, Ігнат. Можа, гэта мая віна, што так выйшла, быццам цябе жывога пахавалі. Гэта я напісаў, што цябе забіла. Памятаеш той прарыў пад Ленінградам, і як мы беглі ў атаку, і як перад табой узарваўся снарад і цябе, як сноп, перавярнула і кінула. Усё ж гэта было на маіх вачах. Ці думаў я, што пасля гэтага можна застацца жывым? Я і напісаў пра гэта...

— Вапшчэткі, я і сам думаў, што ўжо ўсё, гамон. А во — жывы. Жывы,— паўтарыў Ігнат, быццам сумняваючыся ў тым, добра гэта ці дрэнна.

— Вайна так перамяшала і падчысціла ўсё, што не хацець радавацца таму, што застаўся жывы і вярнуўся да дзяцей,— проста грэх. Як казаў Вержбаловіч: не пабальшавіцку. Дык во, пасядзім, пагамонім, успомнім маладое. Бяры тапор і пайшлі.

— Вапшчэткі, Цімох, ты ламаеш маю планіроўку жыцця, ды ўжо, відаць, трэба будзе падначаліцца.— Ігнат нацягнуў гімнасцёрку, зашпіліў рэмень.

— А з майстэрняй зробім так. Возьмем заўтра на брыгадзе каня, перакінем бёрны, а там і зруб скідаем. Далей ужо будзеш даводзіць сам, бо, думаеш, доўга табе дадуць быць дома? Глядзі, што Змітра праведае заўтра. Не заўтра, дык паслязаўтра.

— Таму-та я і хачу скідаць скарэй, каб было ад чаго пачынаць.

Цямнела. Зусім нізка, як не над галовамі, з картавым крыкам прашалясцелі крыллем дзве качкі і, ускінуўшыся над ельнікам, заціхлі.

— Няўжо тут дзе начуюць? — спытаў Ігнат.

— На гэтым балотцы за выжарамі і днююць і начуюць. Іх тут некалькі вывадкаў. А што ім: ціха, спакойна.

— Хіба няма каму падварушыць?

— І каму, і чым... Хіба ты во... Твая ж дубальтоўка цэлая?

— Не паспеў яшчэ праверыць, але Марына казала, бытта ёсць.

— Пазавеш на разговіны,— засмяяўся Цімох.

— Нікуды не дзенешся, давядзецца, раз ужо ты перадаў мне тайну іхняга начлегу.

Іх даўно ўжо чакалі. На стале былі кіслыя гуркі, крышаная рэдзька, сподачак з парэзаным салам, сырыя яйкі. Бульбу адсыпалі з чыгуна, як толькі яны зайшлі ў хату, і яна дымілася над сталом белай парай. Тут жа стаяў графін з гарэлкай, і ля яго, як строгі вартаўнік, сядзеў высокі і прамы, увесь сівы дзед Анай. Ён устаў насустрач Ігнату, ступіў на хату. Абняліся без слоў, пастаялі так колькі хвілін. Было ў старога два сыны, Мікола і Ляксей, і абодва не вярнуліся, і Ігнату цяжка было што казаць тут.

Цімохава Клаўдзя паздароўкалася за руку і зрабіла гэта проста, нібы Ігнат не болей як учора быў у гэтай хаце. Цяжэй было з Поляй, суседкай. Абшчапіла Ігната, як свайго, пацалавала, не спяшаючыся адпускаць, агледзела з галавы да ног:

— Дайце хоць на чужога мужыка налюбавацца.

Сказала гэта весела, потым усхліпнула, заплакала. У яе і заўсёды слёзы ад смеху недалёка хадзілі, а цяпер тым болей. Яе Ахрэм, здаровы мужчынішча пад сто кіло, не вярнуўся з магілёўскага лагера, дайшоў там з голаду. Пакінуў з двума дзяцьмі на руках: скачы, баба. Добра, што хоць хлопец большы: і дроў насячэ, і за сястрой прыглядзіць.

І яшчэ адзін чалавек быў пры гэтай сустрэчы і выдаваў самым спакойным. Марына. Яна нібы толькі і думала пра тое, каб ва ўсіх былі лыжкі, шклянкі ды было як падступіцца да стала.

Не хацеў Ігнат, не збіраўся ўстройваць свята — не той настрой быў, не тыя думкі, а ўбачыў радасць, з якой яго чакалі тут, у чужой хаце, і адчуў, як пераціснула горла.

— Вапшчэткі, зноў жа, скажу так, што хоць я і не веру ў Бога, і ведаю, што яго няма, а іншым разам думаеш, што, можа, ён і ёсць. Колькі разоў думалася, каб вярнуцца дамоў ды сабрацца разам, па-суседску. Думалася і не верылася, што некалі такое будзе... Ажно во яно...— Ігнат павёў рукой вакруга сябе.

І першае слова было яго: за тых ліпнёўскіх мужыкоў, што паклалі галовы, ваюючы за сваю зямлю. Успомніў Вержбаловіча, Шалая, Анаевых хлопцаў, Ахрэма, Міхайлу — брата свайго, Васіля Мацака, гэтакага здаравілу, здавалася, век зносу яму не будзе, знайшоў нейкі шалёны снарад аж у Чэхіі... Ногі занясуць, дзе галаве легчы... Ці ўзяць Габрыеля Васілеўскага. Перажыць вайну, пайсці на рыбу і не распарадзіцца шашкай толу, бікфордавым шнуром і запалам. Ды няхай бы яна, гэта рыба, плавала яшчэ сто гадоў, хаця і есці таксама хочацца. А Капскі. Усіх лячыў, усіх ратаваў, колькі павыцягваў куляў ды асколкаў з жывога цела, колькіх партызанаў, лічы, склаў з розных частак, склаў, сшыў і пусціў: «Жыві, чалавек», і жывуць людзі, а сам заразіўся крывёй — і ўсё, і згарэў, як свечка... Ці той жа Ігнась Казановічаў. З панкоў, а чалавек які. Гэта ж трэба: вайна кругом, а ён яблыні шчэпіць. І забілі немцы, як для пацехі. Едуць па дарозе, бачаць: на рагу лесу чалавек, калупаецца з ножыкам ля дрэўца. Торба пры баку, дубцы з яе вытыркаюцца. Што ім падумалася, а можа, і нічога не падумалася? Злажыўся з карабіна і стрэліў. І ўсё тут. А чалавек як стаяў з ножыкам у руцэ, так і лёг. Як казяўку тую. Захацелася раздушыць — і раздушыў... Успомніў бацьку і маці, каб не вайна, можа б, доўга жылі яшчэ, і выпіў рашуча, як п'юць атрутнае зелле — раз і назаўсёды. І ўсе выпілі ў ціхай, маўклівай згодзе.

— Вапшчэткі, чалавек родзіцца, каб верыць у сваё нешта, якога ён, можа, і сам не ведае, а на вайне часта і ўведаць не давядзецца, часу не хапае. Насільная рука забірае людзей у самай пары, і таму на вайне шчасце ёсць ужо тое, што цябе не забіла, бо нават калецтва бярэцца як дарунак. А ўжо як мінула ўсё страшнае, пакінула цябе жыць, тады пачынаеш думаць пра тое,

што можа быць і іншае шчасце, і іншае жыццё, дзе неабавязкова трэба думаць пра тое, каб страляць і хацець некага забіць. Бо ў кожнага чалавека ёсць недзе свая радзіна, у каго маці, бацька, дзеці ці яшчэ, можа, хто, хто пільна жджэ цябе і пра каго заўсёды баліць душа. І тады прыходзіць і не дае спакойна спаць думка пра тое, хто ты і што ты і чаго ты блудзіш недзе, як бяздомны сабака, а не вяртаешся туды, адкуль пайшоў. І не дасць яна табе волі жыць, пакуль не вернешся, на свае вочы не ўбачыш, як яно што і што трэба рабіць далей...

Ігнат і сам не ведаў, чаму яму раптам захацелася гаварыць пра ўсё гэта, і гаварыў ён ціха і нібы сам сабе, але слухалі яго з жаднай увагай, а на вачах Марыніных закруціліся, а пасля і пабеглі па шчоках слёзы.

Выпілі яшчэ па чарцы і зашумелі, загаманілі ўсе, слухаючы і не слухаючы адно аднаго. Дайшло і да песні. Поля заспявала: «Мае вочы чорныя, чорныя...» Любіла гэту песню надта. Заводзіла яе і да вайны, але толькі цяпер Ігнат убачыў, што вочы ў яе і праўда чорныя, як смуродзіна, і што яна спявае добра, толькі ў голасе чулася ці то вінаватасць, ці то крыўда: «Ой вазьму я сваю долю, у лузе закапаю...» Дзе ж ты яе закапаеш, бабка...

## VIII

Яшчэ ўпоцемку, толькі падасць голас які-небудзь дурны певень, Ігнат гупаў нагамі на падлогу. Закурваў ужо на двары і курыў не спяшаючыся, ведаў: увесь дзень — яго і ўвесь — наперадзе. На двары заўсёды была работа, якую можна было рабіць цёмначы: ці паднесці з рога лесу жэрдкі, ці адпілаваць канец бервяна, ці яшчэ што. Гэта толькі спачатку, пасля хаты, здаецца, што кругом цёмна. Вочы прывыкаюць, і можна рабіць усё.

Як і планавалася, праз тыдзень пры стопцы стаяла разгароджаная на дзве палавіны прадаўгаватая прыбудоўка. Ігнат спяшаўся паставіць яе, баяўся, што калі не зробіць цяпер, адным хватам, то пасля будзе цяжэй. Адну палавіну прыбудоўкі ён намеціў пад склад, пад матэрыялы і нічога не рабіў там, а другую з двума невялікімі вокнамі — пад саму майстэрню. Галоўнае было паставіць сцены і схавацца пад страху. Гэта паспелі зрабіць з Цімохам за тры дні, пагода якраз спрыяла, і матэрыял быў пад рукамі. Астатняе ўжо — вокны, дзверы,

столь — рабіў сам. Шкло на адно акно ўзяў са старой рамы, што валялася на гары, другое пакуль што забіў. Не было толькі дошчак на падлогу, але такой бяды. Абкапаў падваліны, каб не паддзімала, у валёнках ды яшчэ пры печцы можна будзе трываць і зімой.

Як бы там ні было, а майстэрня стаяла: з варштатам, з інструментамі — і сталярнымі, і слясарнымі. Усе гэтыя пілкі, малаткі, ціскі, абцужкі, напільнічкі, свярдзёлкі, гэблікі віселі на сценах, ляжалі на палічках, у шуфлядах старога, паточанага шашалем камода, які Ігнат прывалок з сянец сюды.

Быў канец дня. За старой асінай, за выжарамі густа, як ад пажару, палымнела неба: там толькі што села сонца. Ігнат сядзеў на парозе майстэрні, адкінуўшы галаву да вушака, пазіраў на двор, курыў і стомлена, быццам не рады сам сабе, усміхаўся.

— Ну што ж, Ігнат Сцяпанавіч. Завод ёсць, патрэбны заказы,— як да чужога чалавека, сказаў уголас, але з парога ўставаць не спяшаўся. Дома не было ні дзяцей, ні Марыны, быў ён адзін і адзін думаў, як быць далей.

Жыццё ў іхняй хаце ішло роўна, звычайна: рабілі кожны сваю работу, елі, спалі, гаварылі. Дзеці — у школу, ён — з сякерай, Марына — з кашом, то ў калгасе, то дома. Нібыта ўсё як у людзей. Але тым часам ішло жыццё, як у сне, без смеху, без радасці. Зацятая цішыня даўкім каменем вісела над усімі.

Як і ў першую ноч пасля вяртання, Ігнат спаў з Лёнікам на вялікім ложку, Марына з дочкамі за перагародкай. Была ў гэтым нялюдскасць нейкая, якую адчувалі ўсе, нават Лёнік. Калі спачатку, як толькі сцямнее і павячэраюць, ён першы залазіў у бацькаву пасцель, лажыўся ад сцяны і цікаваў адтуль, ці скора ляжа бацька, то цяпер ён усё часцей спаў на печы. Часта «ў госці» да яго туды прыходзілі Соня і Гуня. Падвесіўшы лямпу пад бэльку, яны рабілі там урокі, а пасля і заставаліся на ўсю ноч. Доўга шавяліліся, бубнелі, не могучы мірна падзяліць, што падаслаць, чым накрыцца. Марына не вытрымлівала, падымала на іх голас. Ігнату было радасна чуць гэта варушэнне, несур'ёзныя сваркі, і ён ціха, як злодзей, усміхаўся сам сабе на сваёй пасцелі. Праўда, часам і сам далучаў свой голас: «Вапшчэткі, можа б, вы ўжо ўкарагодзіліся!»

Ігнат нечакана адкрыў у сабе такое, чаго, лічыў, у

яго не было, ды яно, ён быў упэўнены, і непатрэбна было мужчыну. Яго раптам пацягнула да дзяцей, яму хацелася гаварыць з імі, а калі і не гаварыць, яму добра было ведаць, што яны побач. Стаіць каторае, пазірае, як ён ваюе тапаром. Ці збірае каторае трэскі, нясе ў хату. Ці ўсе разам зарганізуюць якую гульню на двары са сваім дзіцячым крыкам-шчэбетам. Колькі разоў ён лавіў сябе на тым, што перапыняў сваю работу і глядзеў, як яны дурэюць, носяцца.

Калі б не вайна, Соні трэба было хадзіць у шосты клас, а яна толькі ў трэцім. Але вучыцца, стараецца, быццам так і трэба. Трэба. А куды дзявацца, калі так сталася. Душа добрая, адкрытая, уся на віду. Што ёсць — усё тут. Гуня скрытнейшая, не адразу заявіць пра сябе. Лёнік таксама чалавек сур'ёзны, упарты. Мужчына. Вайна ўсіх навучыла сталасці...

Думаў Ігнат пра дзяцей, шкадаваў іх. Думаў пра сябе, пра тое, што сам стаў нейкім размякчаным, як воск ля агню, шукаў апраўдання гэтаму.

Канечне, гэтыя ўсякія слёзныя перажыванні не робяць мужчыну, але ён радаваўся, што адкрыў іх у сабе. Гэта яго тайна, і ніхто не павінен ведаць пра яе. Ён ніколі не думаў, што ў ім самім назапашана столькі такога ўсякага. Гэта было як адкрыццё, быццам ён доўгі час лічыў сябе смяртэльна хворым, а пасля сабраліся дактары і сказалі, што гэта няпраўда, што страшны дыягназ не пацвердзіўся. Ён падумаў пра тое, што такое, мусіць, павінна быць і ў кожным чалавеку. Тады чаму яго так мала відно? Чаму людзі так старанна закопваюць у сабе тое, чаго самі прагнуць? Не ўмеюць паказаць яго на людзі? Не хочуць? Кожны затойваецца ў сабе і ўсё сваё добрае стараецца замкнуць на ключ. Замкнуць можна, ды колькі хопіць сілы дзяржаць усё гэта пад замком? І ці варта дзяржаць?

Трэба быў мох на стопку. Ускінуў Ігнат стрэльбу на плячо, пайшоў пагледзець, дзе можна надраць. Мох адно, а яшчэ пацягнула пахадзіць па лесе.

Мох нагледзеў адразу за выжарамі. Невялікая балацявіна з лапік мо, а было таго моху — хоць вёскай вазі: чысты, доўгі, як лён. І мясціна пад'язная — на кані можна ўлезці.

Пайшоў далей па лесе. Чым болей хадзіў, тым болей дзівіўся, як папёрла ўгору маладняк. Асабліва на ўскрай-

ках, у лагчынах, на расцяробах. Быццам лес адплочваў людзям за іх настырнае ўмяшанне ў яго парадкі. «Вы хацелі мяне паціснуць і паціснулі і думалі: усё ўжо, а — не! Я — тутака. Жыву, расту, шыруся. Пачынайце спачатку».

Стаяла тая пара, калі ў зялёны летні колер восень паволі пачынае ўплятаць свае жоўтыя ніткі. Іх яшчэ мала, іх яшчэ забівае зелень, але мінуць два тыдні — і яны адваююць сабе добрую палову зеляніва, а яшчэ праз два тыдні запануюць кругом. Гэта была пара, калі лісце крапівы бярэцца белымі плямамі і пачынае пакрысе чарнець, яно і пячэцца ўжо слабей; яшчэ нядаўна ярказялёныя мярэжкі папараці пачынаюць блякнуць, а непаседлівы жаўцяк пачынае чырыкаць па-восеньску сумна і сіратліва. І гэта тады, калі не ўсе арэхі яшчэ выспелі, на кустах маліны шмат буйных салодкіх ягад, а хмель толькі завязаўся ў зялёныя вузялкі. Восень у лесе ідзе знізу.

Прыпыніўся закурыць ля прадаўгаватай зялёна-бурай купіны. Паверсе яе, бы малюсенькія пікі на высокіх тоненькіх ножках, выкінуў угору спелыя галоўкі зязюльчын лён. Ігнат узяў адну галоўку, падкалупіў яе пазногцем, і на руку пасыпаўся далікатны жоўта-зялёны пылок. Пайшоў далей, забыўшыся — чаго. Спыняўся, уражаны адкрыццём: колькі той зёлкі, а мае свой кубелец і накрыўку для яго, а пад ёю, як у скрыні мука, пылок... Ішоў Ігнат па лесе і раптам адчуў, як у нос тхнуў кволы пах цвітучага дзікага гарошку. Ажно спыніўся, азірнуўся кругом: нідзе нічога няма, толькі прывялае лісце пад нагамі. А пах стаяў, не даваў спакою. Узняў Ігнат вочы: ажно гэта перад ім маладая асінка, гэта яе недаўгавечнае лісце так пахне...

Ступаў Ігнат па мяккім моху, па сухім крохкім шыгаллі, слухаў галасы птушак і адчуваў, як на душу яго кладуцца спакой і лагода. Быццам была рана, смылела агнём, а гэта прамылі яе, змазалі ёдам, забінтавалі, і сцішыўся боль, закалыхаўся, і, здаецца, стала яшчэ лепей, як калі цела было здаровае.

З такім улагоджаным настроем і павярнуў Ігнат дахаты. Пасля ён расказаў пра ўсё Марыне. Яна сядзела на слончыку пры градзе, перабірала цыбулю.

Ігнат стаяў напроці.

— Ведаеш, іду ўскрай балота, туды, пад Курганок,

за Гараўскіх дворышчам. Думаў, можа, качку спужаю дзе. І раптам чую крык, аж лес ляшчыць. Крычыць баба: «Людзі, памажыце! Людзі!..»

Чорт яго ведае, можа, звер які, некалі было, што і мядзведзя бачылі, а цяпер ваўкоў шмат. Бягу, стрэльбу ўжо ўзяў напагатову. Падбягаю, качаюцца на імху двое, баба ўнізе, ён наверсе. Яна крычыць як не свая. Грабянуў я яго па шыі, ён і носам у купіну... Баба ўскочыла, спадніцу ніжэй — ды ходу. І на кош з журавінамі забылася... Што яе пагнала ў журавіны такой парой, яны хоць і буйныя, а зялёныя саўсім. «Журавіны вазьмі!» — крычу ёй. Вярнулася, вочы хавае. Саўсім маладая яшчэ. «Не хавай, кажу, вачэй, хіба ты вінавата? Адкуль сама будзеш?» — «З Вяленніка».— «А яго ведаеш?» — «А няўжо ж не ведаю. Наш, Язэпа Курціка сын. Толькі вы яго не біце болей, дзядзька. Ён нічога, ды во здурнеў нешта»,— ужо яна просіць мяне. Ага, не чужыя, значыць, недалёкія. Падняў я яго, скалануў. Так, апоўзлік. Пралупіў ён вочы. Ну, жыў будзе. Не глядзі, што ротам пазірае, а абсядлаў бабу і дамагаецца свайго... Што тут будзеш рабіць? «Эх ты, кажу, мужчынам хочаш быць ля бабы! Не дагаварыўся з галавой, не лезь да с..., сукін сын!» Бацька ж талковы чалавек быў. Даў яму выспятка, адправіў: «Ідзі і не хваліся нікому, бо калі прыйду ў сяло...» Кавалер, маць тваю так...— Ігнат закончыў свой расказ, засмяяўся, але зірнуў на Марыну і прыхлупіў смех. Яна сядзела, паклаўшы рукі на прыпол, і пазірала знізу на Ігната. І такія чужыя, напружана пільныя былі яе вочы. Здавалася, што яна не разумее, хоць і стараецца зразумець тое, пра што ён расказвае, чаго смяецца. Пад вачыма цёмныя, як падмаляваныя сажай, цені.

— Ты што гэта так?..— сумеўся Ігнат.

Марына як бы схамянулася, вяртаючыся да самой сябе, сумна ўсміхнулася, але вачэй не адвяла, і позірк яе не памякчэў. Сказала:

— Жывому жывое.— І без пераходу, як даўняе, набалелае: — А мы з табой, Ігнат, і далей так жыць будзем?

— Як «так»? — хмура перапытаў Ігнат.

— А так... Паасобку спаць, па-рознаму есці, савацца, як ваўкі, адзін паўз аднаго.

— Ты гаворыш так, што выходзіць, да ўсяго іншага, нібыта яшчэ я і вінаваты. Так гэта трэба разумець? —

Ігнат хацеў сказаць гэта груба, як ён цяпер гаварыў звычайна з Марынай, і не змог, нешта памяшала.

— Ніхто цябе не вініць, Ігнат, ніхто. Скажы толькі, каму мне павініцца?

— Вось гэта не ведаю.

— А я думала, ведаеш. Дзе ты быў гэтыя гады?

— Вапшчэткі, не пад спадніцай хаваўся.

— Нам трэба пагаварыць, Ігнат, прыйсці да нечага. Я болей так не магу. І дзеці не могуць. Адзін ты...

— Мне лягчэй чым каму. Мне гэта дайжа надта лёгка. Лёгка і весела.

— Не лёгка, Ігнат, але не дай бог табе зведаць, што перажылі мы за гэтыя гады... Ды што перажылі, усе перажывалі, але каб не Цімох, каб ён не напісаў пра тое, як вы разам беглі па полі і як цябе падкінула і перавярнула снарадам, як ён яшчэ прыпыніўся, а ты ляжаў мёртвы, калі б ён гэтага не напісаў...

— А табе, мусіць, якраз гэта і трэба было.

Марына аж скаланулася ад гэтых слоў, на вочы набеглі слёзы, але яна перасіліла сябе, прыкусіла губу.

— Не гэта нам трэба было, і не гэтага чакалі... тры гады. А ты... Як ты мог столькі маўчаць?

— Ага, вароне за хвост прывязаў пісьмо сваё, і давай, мілая, нясі цераз фронт, туды, у Ліпніцу, можа, хто падбярэ... Дык во што, Марына, раз без гэтага не абысціся... Раскажы спачатку, як гэта ўсё ў цябе так проста выйшла, а пасля будзем думаць, што мне гаварыць...

— Проста... Саўсім проста...— Марына паківала галавой, пасядзела і раптам загаварыла ціхім і зусім спакойным голасам, нібы чытала па памяці даўно завучаны ўрок. Пазірала міма Ігната, за плот, дзе была дарога цераз пасёлак, грэбля, калгасны двор...

— Было гэта якраз на Тройцу. Папрасіліся Соня і Гуня збегаць да тваіх, тады яшчэ і мама была жывая, і бацька. Хочацца ім збегаць, немаведама як хочацца. Ведаюць: баба так не выпусціць, хоць што-небудзь з сабой дасць. А ў нас тут беднасць, і не галодныя, і не сытыя. Бульбы яшчэ з мяшок было, хавала яе тут, у падполе. Варылі патрошкі — са шчаўем, з бацвіннем. Прыбраліся дзяўчаты, банты ў валасы пазавязвалі, просяцца: «Мы скоранька, мама, толькі туды і назад. Дарогу мы ведаем, не бойся». А што тут дарога: поле, лес, а там і яны, старыя. Іншае мяне трывожыла: каб усё добра было. Час

такі, кладзешся спаць, а не ведаеш, як устанеш. Як чула маё сэрца. Пайшлі яны пасля снедання, сонца ўжо з абеду, а іх няма. Я месца сабе не знаходжу, выбегу ды і выбегу ў канец пасёлка: можа, ідуць ужо. І тут пачалося. Партызаны адсюль, з цэнтра, а тыя адтуль, з трэцяй брыгады. Спачатку вінтоўкі, кулямёты, а пасля самалёт вызвалі. Відаць, ведалі, што партызаны тут і што штаб іхні размясціўся ў канторы. Скінуў ён бомбы, адной разваліў рог дома, адна ў садзе ўзарвалася. Завярнуўся і зноў сюды, і саўсім нізенька, здаецца, каміны пазварочвае. Мы з Лёнікам сядзім у яме на сотках, я як на іголках. Думаю, хай бы старыя не пусцілі іх, хай бы пакінулі ў сябе. Кажу Лёніку: «Пасядзі тут адзін, а я пагляджу, дзе сястрычкі». І зноў бягу ў канец пасёлка. І бачу: па дарозе паўз прысады ідуць яны, пабраліся за рукі і ідуць. На галаве ў адной белая хустачка, у другой чорная, у Соні ў руцэ вузельчык. І тут зноў самалёт, і якраз над імі, ляціць і строчыць, відно, як кулі ў пяску перад імі, як жалуды, покаюць, толькі пыл узрываецца.

Праляцеў самалёт, і яны пазіраюць, як ён зноў разварочваецца. Божачка мой, што рабіць? Бегчы — дзе ты дабяжыш, ляжаць — дзе ты ўлежыш... І тут выскачыў з-пад ліп партызан, падбег да іх, зграб у ахапку і назад пад ліпы, а самалёт за імі. Я і вочы заплюснула: думаю, усё, усім адно. Куды яны схаваюцца ад гэтай пачвары? Самалёт пастрачыў, пастрачыў і паляцеў. Бой перасціх, і я кінулася цераз грэблю: дзе яны, што з імі, ці жывыя? Жывыя. І вядзе іх той партызан, а сам злы, як не свой: «Ты што гэта, маці, думаеш? Куды дзяцей пасылаеш?» — і матам. А я кінулася да іх, абдымаю, цалую і сама ад радасці не ведаю, дзе я, на якім свеце.

Марына змоўкла, сашчапіла рукі.

— А далей? — глуха спытаў Ігнат.

— А далей... Перайшоў ён стаяць да нас. На аперацыю ідуць — на тыдзень, на два,— дзеці яго праводзяць, з аперацыі ўжо заўсёды да нас. А ў самога нікагусенькі не засталося на гэтым свеце: сям'ю ўсю немцы расстралялі, жонку і двое дзетак, ён застаўся адзін, як палец. Звалі яго, як і цябе, Ігнатам.

— Хоць гэтым суцешыла... Значыць, сабраліся дзве сіраты і ты пашкадавала яго?

— Не я яго, ён мяне, ён нас пашкадаваў. Незадоўга да прыходу нашых пайшлі яны на аперацыю, і быў

страшны бой. Шмат партызанаў палягло тады. Прывезлі і яго, параненага. Ніхто веры не даваў, што ён выжыве, так была пабіта галава. Тры месяцы кармілі з лыжачкі, пакуль косці пазрасталіся, пакуль стаў падобны на чалавека. Акрыяў трохі, стаў у двары памагаць. Дроў прывязе, папіліць, паколе, агарод загарадзіў. Раны пазагойваліся, і твар стаў не такі страшны, як быў спачатку. Вайна пакацілася далей, вярнуўся Цімох. Расказаў, як усё было ў тым вашым баі. І не веру, і не хочацца верыць, але ж во ён — жывы сведка, сусед, хіба ён будзе выдумляць. І зноў жа: калі б быў жывы, няўжо не знайшоў бы знаку абазвацца, падаць голас... А трое дзяцей... Так ён і застаўся тут і быў, аж пакуль не прыйшло пісьмо ад цябе. Адно-адзіненькае за ўсю вайну...— Марына выцерла вочы чыстым бокам фартуха.

— Можа, і мне паплакаць разам з табой? Пажаліцца на тое, як я пабурыў вашы планы. Павінен быў памерці, ды застаўся жывы. І мала што застаўся жывы, яшчэ і дамоў прыцёгся... Вапшчэткі, а які ён быў... мой намеснік?

— Намеснік? — Марыну як ударылі.

— Ну, а як жа я яго мушу называць... Тым болей што і імя ў яго маё...— Ігнат пацішыў голас: — Я гэта пра тое, што, можа, картачка якая засталася, каб я зірнуць мог.

Марына памаўчала, потым пачала гаварыць, нібы ўспамінаючы:

— У яго было іх тры ці чатыры. Парцізанскія, знятыя яшчэ да таго, як яго пакалечыла. Соня была выпрасіла адну, але я загадала вярнуць, як ён адыходзіў. Лішняе ўсё гэта.

— Як для каго... Ты во што мне яшчэ скажы.— Ігнат перадыхнуў, паглядзеў на вуліцу, на дарогу, быццам яму важна было не тое, пра што ён хацеў спытаць, а тое, што ён мог зараз убачыць за плотам. А там было пуста.— Скажы, ты крэпка ўпадабала яго?..

Марына, як спуджаная, бліснула вачыма на Ігната.

— Ён добры быў... Сэрца ў яго было добрае... І да дзяцей ласкавы. Хаця тыя ж дзеці. Як пачулі, што ты жывы, перамяніліся і да яго... То, здавалася, усё, як да свайго, а тут як адрэзала. «А дзе тата? А чаму мы не шукаем яго? Можа, трэба напісаць куды?..»

Марына ўзняла вочы, яны былі зусім сухія.

— Не пазірай на мяне так строга, Ігнат. Не вінавата я душой перад табой. Не замужжа мяне павяло, дзеці павялі. Адно сёння скажу: далей так жыць, як мы жывём, я не магу. І не хачу. Думай як хочаш і што хочаш, але рашай.— Яна ўстала і скорым рашучым крокам пайшла ў хату.

І Ігнат убачыў, што паходка ў яе такая ж лёгкая, як і некалі. І першы раз пасля вяртання жаласлівасць да жонкі гарачым клубком варухнулася ў яго грудзях. Прыйшло адчуванне, што і ён у нечым вінаваты. Але было ў душы і такое, што ўпарцілася, не давала так вось адразу прыняць гэтую новую рэальнасць, у якую кінула яго. Патрэбен быў час, каб перагарэла адно і на тым месцы вырасла нешта другое. І калі Марына вярнулася з начоўкамі і пачала збіраць у іх цыбулю, ён сказаў:

— Ты, Марына, мяне не падганяй. У кожнай болькі свая пара, і трэба, каб усё перабалела.

Марына нічога не адказала, толькі ніжэй схілілася над начоўкамі, і рукі яе захадзілі хутчэй.

Яшчэ адзін важны клопат меў на душы Ігнат. Пра яго ён нікому не заікаўся, ды і каму заікнешся. Пакуль быў заняты самім сабой, работай, у якую кінуўся, нібы ў вір галавой, гэты клопат існаваў як цьмяны напамінак пра нешта, што трэба зрабіць, але пра што ніхто не спытае, калі і не зробіш. Пасля гаворкі з Марынай, гаворкі, якая як быццам і нічога не мяняла і ўсё ставіла на свае ногі, клопат гэты нібы выйшаў з ценю на светлае. Ігнат з прыкрасцю падумаў пра сябе: як гэта яго хапіла столькі часу не рабіць тое, што трэба было зрабіць адразу, як толькі вярнуўся.

Столькі ўжо дома, а схадзіць да Вержбаловічавых часу не выбраў. У першы ж вечар, як вярнуўся, Марына сказала, што сядзяць яны ў той хаце, якую не паспеў дабудаваць Хведар. На Ігнатава пытанне: «А жывуць як?» — адказала коратка: «Жывуць, як усе».

Дома было яшчэ дзве бляшанкі кансерваў. Ігнат узяў адну, закруціў у газеціну і пайшоў. Першы раз пасля вяртання ішоў па сяле сярод белага дня і шмат чаму дзівіўся. А перш за ўсё траве. На вуліцы і ў дварах яна ўздымалася густой высокай шчоткай, бяры касу і касі... Дзяцеліна, трыпутнік, спарышнік... Яны заўсёды любілі вуліцу. А гэта ж люцікі, кураслеп... Нават слёзкі пера-

кінуліся з лугу сюды... Былі б каровы, свінні — так бы не раскашавалі тут. А то курыцу рэдка дзе ўгледзіш. Заставалася здзіўляцца і таму, што вайна пакінула саму Ліпніцу. Хаты стаяць, як стаялі і да вайны. А што хаты? Адна трасіруючая ў страху — і задыміла, закурылася.

Люба ішла з агарода, несла кош толькі што накапанай бульбы. Убачыла Ігната, паставіла кош на зямлю, выцерла рукі аб прыпол.

— А я ўжо думала, што пабаішся і зайсці,— сказала грубаватым голасам, усміхнулася жаласна, і дзве буйныя слязінкі, як нехаця, выкаціліся з вачэй і засталіся на вейках. Яна скаланула галавой, нібы збіваючы іх, і рашуча ступіла насустрач Ігнату. Паздароўкаліся, пацалаваліся, і Люба зноў заміргала, адвярнулася.

— Вапшчэткі, не тое што баяўся, а цяжка было. Заўсёды былі недзе блізка ўтрох, іх даўно няма, а я во... А баяцца... Чаго мне баяцца. Баяцца мне нечага, ды і не з рукі. Ты мяне ведаеш. Я люблю адкрыта глядзець людзям у вочы, і свае хаваць мне няма прычыны. Ды тут, сама ведаеш, вярнуўся, і пайшло адно на другое, столькі ўсякага рознага... А дамок, гляджу, харошы, крэпка стаіць,— Ігнат вывернуў гаворку на лягчэйшае.

Зрублены на чысты вугал з добрага смалістага лесу, пад гонтай, дом моцна і стройна стаяў на высокім каменным падмурку. Калі б не франтоны, зашытыя паспешліва і старымі дошкамі, і не два акны ад агарода, таксама забітыя дошкамі, глядзеўся б як лялька.

— Домік нічога, калі б яшчэ давесці да толку... Сам так спяшаўся, так яму хацелася скарэй скончыць ды пагуляць з людзьмі ў сваім доме. Ты ж ведаеш, мы ўсё на калёсах — то ў адным калгасе, то ў другім. А прыехалі сюды, ён сказаў: «Усё, хопіць цыганіць па свеце. Пабудуем свой дом, сад пасадзім...» Сад пасадзіў яшчэ на пустым участку, пасля пачалі будавацца. Пабудаваў, і яму пабудавалі...— Люба сказала гэта ціха, без слёз, як даўно перабалелае.

— А чаму вокны пазабіваны? — спытаў Ігнат.

— Рам няма. Як самалёт разбамбіў Казановічаў дом і пачалі расцягваць яго — хто дзверы, хто вокны, каму дровы, каму што, Алік гаварыў: давай, мама, і мы возьмем рамы, там жа столькі вокан было... Ён ужо і памераў, якраз падыходзілі, але я не дала... Бацька б з тапаром стаяў, каб ніхто нічога не ўзяў, а тут дзеці самі... Не

пусціла... Жывём пакуль што ў адной палавіне. Зойдзеш у хату?

— А ўжо зайду, чаму не зайсці. А заадно і вокны пагляджу, мерку прыкіну. Цяпер-то не выйдзе, а зімой зраблю рамы. А гэта на во, укінеш у чыгун дзецям. Яно небагата, але салдацкае...— Ігнат аддаў кансерву, якую ўвесь час трымаў у руцэ.

Люба ўзяла кансерву ў дзве рукі, прыціснула да грудзей, не сказала ні слова, адно толькі ўважлівым позіркам паглядзела Ігнату ў вочы, крута павярнулася і пайшла да дзвярэй.

## IX

Дарогу назад Ігнат выбраў так, каб пайсці паўз калгасны двор. Казановічавага дома, у якім да вайны размяшчалася праўленне, не было. Ад яго застаўся толькі падмурак, пары са дзве гнілых дубовых падвалін ды кучы раскіслай гліны — там, дзе некалі стаялі абкладзеныя белай кафляй печы. Свірны і стайні стаялі на сваіх месцах, сад прапаў зусім. Пасля страшнай зімы саракавога года ўсё думалася, што ацалеў: вясной дрэвы ўкрыліся лістом, некаторыя нават цвілі. Пасля пачалі ўсыхаць. Сухія дрэвы паспілоўвалі на дровы, гэта правільна — які толк з вымерзлага саду. Непрыемна ўразіла Ігната іншае: большая палова старой ліпавай абсады таксама была выразана. Навошта было такі глум рабіць? На дровы? Дык іх жа кругом, куды ні глянь — толькі сячы ды цягай.

Дома спытаў у Марыны:

— Калі гэта паспелі ліпавую абсаду выразаць і навошта?

— Тады ж, у вайну. Хто на начоўкі, хто на дзежачку-ліпаўку, хто на сявеньку, а хто на дровы,— адказала спакойна Марына.

— Вашпчэткі, так, раз ужо пачалі, то рэж, палі, нішчы — вайна ўсё спіша! — мармытаў ён сабе пад нос, нервова ходзячы па хаце з кута ў кут.

Магчыма, ён скора і забыўся б пра тыя спілованыя ліпы: спілавалі — ну і спілавалі! — але праз дзень Лёнік прыбег са школы і, як пра вялікую радасць:

— Віцік Полін яшчэ адну ліпу шахнуў. Усю дарогу

быў заваліў, але цяпер ужо ўсё прыбраў. Толькі самае маленькае галлё засталося.

Ігнат не вытрымаў, рашыў зараз жа пайсці і расказаць хлопцу, што можна рабіць, а што няможна.

— Куды ты ідзеш? З дзецьмі біцца? — спрабавала спыніць яго Марына.— Сама, як ёсць, і іх двое. І абшыць, і абмыць, і накарміць. Што б яна рабіла без Віціка?

Ігнат зірнуў уважлівым позіркам на жонку, раздумваючы, як быць, і ўсё ж пайшоў.

Поліна хата стаяла праз тры двары. Парэзаная на круглякі ліпа ляжала пад плотам на вуліцы. Адразу відно было, што не мужчынская рука хадзіла ля дрэва — і слабая, і няўмелая. Колькі там таго сука, а замахвалася на яго разоў тры-чатыры і сякеру пускала не па самым ствале, сукі тырчаць, як у смаленай свінні вушы.

Ішоў Ігнат хоць накрычаць, навучыць хлопца, каб так болей не рабіў, а ўбачыў гэту слабасільную няўмелую работу, і расхацелася што-небудзь гаварыць. Прайшоў бы далей па сяле, калі б на двары не ўбачыў Віціка і Раю, меншую Поліну. Пастаўшы абапал табурэткі, яны елі памідоры — маленькія зялёныя шарыкі, можна сказаць, завязь, якая па позняй пары не магла ўжо ні вырасці, ні паспець. Бралі гэтыя зялепухі-памідоркі, мачалі ў буйную соль і з галодным жадным хрустам — аж ляцелі сінія пырскі з рота — елі. Памідоры і соль. У Ігната ажно галаву павяло ўбок ад аскомы і страху, як убачыў гэта.

— Без хлеба? — спытаў, заварочваючы ў двор.— У вас жа жываты будуць балець!

— З хлебам было б смачней, а бульба яшчэ варыцца,— засмяяўся Віцік. Рая таксама заківала галавой: рот быў забіты зеленню.

На двор з хаты выйшла Поля.

— Ігнат?! — здзівілася яна.

— Ага, бачыш, вапшчэткі...— развёў ён рукамі, кіўнуў на табурэтку.

— Што ты зробіш? — махнула рукой.— Дык, можа, у хату зойдзеш? — не то спыталася, не то запрасіла Поля.

Ігнат пайшоў за ёй. Чыста вымытыя сенцы. Высокі, даўняй работы камод ля сцяны. У другой хаце таксама чысціня і прахалода. Пад рамкамі з фотакартачкамі падвешаныя на нітках сярэбраныя кардонныя рыбкі, зай-

чыкі. Некалі да вайны чаплялі такія на навагоднюю ёлку ў калгасным клубе.

— Бач ты, зберагла! — падзівіўся Ігнат.

— Ага, засталіся,— проста адказала Поля.

На комінку ў чыгунку на трыножцы варылася бульба.

— Прысядзь,— мякка папрасіла Поля.— Калі яшчэ зойдзеш? Пачаставала б, дык няма хлеба. А можа, вып'еш? Бульба зараз будзе гатова.— Поля старалася гаварыць весела, але давалася ёй гэта цяжка.

— Пра што ты гаворыш... Ды і ведаеш, я ніколі не быў падкі да яе... А чаго гэта дымам чутно? — Ігнат падышоў да печы.

— Куды ж яму дзявацца... Комін трэснуў, не ведаю, як і зіму перазімую.

Па коміне ледзь не ад самай столі ішла глыбокая задымленая трэшчына. Праз яе і выбівала дым на хату.

— Вапшчэткі, пра гэта трэба было летам думаць. Цяпер печ не станеш раскідаць.

— Думала, можа, па́ленай дастану дзе-небудзь,— не паталаніла. Так і выйшлі на восень.

— Трэба зрабіць добры замес гліны і забіць шчыліну, пакуль дажджы не пайшлі. А налета краем трэба перакладаць комін.

— Куды ні глянь — усё краем,— сумна-пакорліва згадзілася Поля.

— Я табе і раю: накапай гліны, а пасля скажаш мне. Хіба ж можна так? — грубавата адказаў Ігнат.

На двары не вытрымаў, спытаў у Віціка, кіўнуўшы на ліпавыя кругляки:

— Навошта ты яе спілаваў?

— На дровы.

— Хіба мала кругом алешніку?

— Ліпа бліжэй. І ўсе так робяць,— Віцік з непаразуменнем паціснуў плячыма.

— Усе кінуцца тапіцца — і ты за імі?

— Я не такі дурны...

Як і гаварыў Цімох, доўга адседжвацца дома Ігнату не далі. Неяк пад вечар на двор завітаў старшыня калгаса Змітрок Мялешка. Больш тыдня яго не было на месцы: ездзіў у вобласць, адтуль аж пад Гродна і во — вярнуўся. Вярнуўся не адзін — прыгнаў коней.

Марудлівы, медзведзяваты, з пастаяннай санлівасцю

на твары, сваю няпростую старшынёўскую службу ён спраўляў даволі паспяхова. Заўсёды прыходзіў да чалавека так, быццам даўно ўжо дамовіўся з ім пра тое, што трэба было зрабіць, нібыта ўсё ўжо было абгаворана і дагаворана, заставалася толькі малое нешта — удакладніць ці напомніць. І пакуль чалавек, ашаломлены гэтым нечаканым і бесцырымонным націскам, прыкідваў выгаду ці нявыгаду прапановы, з якой прыйшоў старшыня, маракаваў, як быць, пагаджацца з ім ці сварыцца, той ужо пляваў на недакураную папяросу, старанна прытушваў агонь і, схаваўшы недакурак у белы, з трафейнага дзюралю партабак, ішоў далей. І выходзіла так, што спрачацца, даказваць нешта і не было калі, і не было каму.

Да вайны Змітрок быў брыгадзірам у трэцяй брыгадзе. Калі прыйшлі немцы і ўсім стала зразумела, што яны ствараюць **свае** органы ўлады, партызаны папрасілі Змітрака пабыць старастам. Ён згадзіўся і прабыў у чыне новага начальніка паўгода. Можа, быў бы ён старастам і яшчэ нейкі час, калі б аднойчы ноччу не завітала ў сяло група партызанаў з суседняй партызанскай зоны. Яны разбудзілі старасту з хуткасцю і недвухсэнсоўнасцю законаў ваеннага часу, вывелі на двор і затрэбавалі падводу, хлеба і бульбы. Было іх чатыры чалавекі, і былі яны стомленыя і галодныя, рука ў аднаго ў свежаакрываўленай перавязцы. Усё гэта староста бачыў, і яму было шкода хлопцаў. Але яму было шкода і сябе, каб вось так па-дурному падстаўляць сваю галаву пад дула аўтамата. Націснуць курок не штука, а хто потым раскажа, што і табе не хацелася паміраць, тым болей ад сваёй рукі, што і ў цябе быў аўтамат, і ты мог бы, як кожны сапраўдны мужчына...

Падводу і мяшок бульбы ён хлопцам даў, а праз дзень сам прыйшоў у атрад. Адгаворваць яго ніхто не стаў, тым болей што і патрэба ў яго старастоўстве адпала: Ліпніца поўнасцю перайшла пад партызанскі кантроль.

— Прыгнаў кабылу і чатырох коней. Паехаў у вобласць і — на табе! — сустракаю знаёмага камандзіра часці, з ім і махнуў у Гродна. Коні выбракаваныя, на вайсковую службу нягожыя, але нам яшчэ паслужаць, а кабыла добрая, чатырох гадоў няма. Яе-то ледзь выпрасіў — на абзавядзенне, на расплод,— выкладваў свае навіны Змітрок.— Зайшоў у хату, а Хрысціна і кажа, што

ты вярнуўся, ажно і праўда. Ты, бачу, час попусту не губляў, паспеў ужо і будыніну зляпіць.

— Вапшчэткі, рашыў месца для работы ўзаконіць. Цяпер-то яшчэ нічога, а пойдуць дажджы, снег, а з сырым дрэвам не шмат толку дабярэш, ды і інструменты ржавеюць,— адказаў Ігнат і адчыніў дзверы ў майстэрню. Змітрок павёў вачыма па сценах, зірнуў на столь і павярнуўся на выхад, пачаў пляваць на папяросу.

— Я ўжо збіраўся напытваць майстравога чалавека, каб паглядзеў паравік, чаго там бракуе. Млын краем трэба запускаць, а калі б і цыркулярку пацягнуў, то і саўсім як паны жылі б... Дык ты хіба заўтра і прыцаніся, што там як, а пад абед і я падыду. Бульбу трэба хапаць, пакуль пагода дзержыць.— Усё гэта Змітрок гаварыў, ідучы па двары да варот і пазіраючы на неба, быццам яно ў любую хвіліну магло сапсаваць абедню.

— Вапшчэткі, я таму і падганяў сябе са сваёй работай, нібыта ведаў, што нехта пра мяне ўспомніць,— не то жартам, не то ўсур'ёз сказаў Ігнат.

— Не надта каб было каго ўспамінаць. Ты ды я, ды мы з табой, ды яшчэ колькі чалавек — вось і ўсе нашы мужчыны,— адказаў Змітрок, працягваючы руку.— Камандзір гэты мой сказаў, што скора мужыкоў павінна прыбавіцца, пачалі адпускаць.

— Хто жывы, рана ці позна акажацца,— сказаў Ігнат. Змітрок кіўнуў галавой і пайшоў у канец сяла, важка, нібы прыціскаў нешта на дарозе, ступаючы вялікімі, у цяжкіх ялавых ботах нагамі.

Ігнат пазіраў услед, пакуль Змітрок не завярнуў за плот, пайшоў сам у хату. З майстэрняй ён разабраўся, хацелася нейкай іншай работы. Колькі ж таптацца на сваім двары?

— Ты на качак? — спытаў Лёнік, убачыўшы, што бацька бярэ стрэльбу, патроны.

— На качак.

— А можна і мне з табой?

— Можна, сын, можна. Толькі ты будзеш заганятым. Пінжачок адзень, каб камары не з'елі.

— Заганятым дык заганятым,— узрадаваўся Лёнік.

На балотца яны выйшлі разам: бацька з аднаго боку, сын — з другога. Ігнат прыхаваўся за кустом, узбоч чыстай лагчынкі, у якую пераходзіла балотца. Па яго пры-

кідцы ў гэты бок павінны цягнуць узагнаныя качкі, калі толькі яны ёсць тут.

Лёнік закрычаў, плёхнуў палкай па вадзе, яшчэ і яшчэ раз, і тры качкі ўскінуліся з асакі і пайшлі над балотцам. Яны ляцелі нізка, здавалася, зачэпяцца за куст, за якім стаяў Ігнат, і ён не толькі пачуў шолах іх маленькіх крылляў, а адчуў на твары раптоўны ветрык, што прайшоў за імі. Ён стрэліў услед, калі птушкі матлянуліся ўгору, угледзеўшы яго. Стрэліў, мала спадзеючыся на ўдачу, і не столькі ўзрадаваўся, колькі здзівіўся, што адна качка пайшла ўніз і, працягваючы адчайна махаць крыллем, шлёпнулася ў траву. Ігнат падбег на тое месца, дзе ўпала птушка, і доўга не мог знайсці яе. Нават паміраючы, качка старалася зашыцца далей у траву, і яе рабенькае пер'е цяжка было прыкмеціць у сутонні першага прыцемку.

Ігнат выблытаў птушку з травы. Шраціна трапіла ў шыю. Падбег Лёнік:

— Ну што, тата, папаў?

— Як бачыш, рука не падвяла. А гэта ўжо нешта...— Ігнат перадаў качку сыну.

Лёнік асцярожна, двума пальцамі ўзяў птушку за маленькія жоўтыя лапкі, падняў перад сабой. Вочы ў птушкі былі расплюшчаныя і здзіўленымі нежывымі кружочкамі пазіралі на свет. Па шыракаватай, белай на канцы, нібы вышараванай пяском, дзюбе цякла кроў. Радаснае ўзбуджэнне на твары хлапчука змянілася спалохам. Цяпер ён пазіраў на птушку шырока раскрытымі вачыма, нібы стараўся зразумець, што ж адбылося. Толькі што яны з бацькам прыйшлі сюды, толькі што ён пляснуў палкай па вадзе, потым закрычаў, загалёкаў, стараючыся нарабіць як можна болей шуму і страху, і, мусіць, нарабіў, бо сарваліся з месца і ўскінуліся ўгору над балотцам качкі, хоць яны ўжо былі атабарыліся тут нанач. Яны ляцелі, як звязаныя адной ніткай: куды адна — туды і ўсе, і ў адно імгненне прапалі за кустамі. Потым грымнуў стрэл. Лес аж скалануўся, пасыпалася лісце. І во — адна птушка мёртвая.

Лёнік ускінуў вочы на бацьку:

— Нашто ты яе так?

— Як «так»?

— Насмерць!..

— А як жа гэта біць не насмерць?

— А каб была жывая! — крыкнуў у роспачы Лёнік.
— Жывую не зловіш і ў чыгун не пакладзеш.
— І няхай бы не злавілі,— ён ледзь не плакаў.
— Ну, вот што... Давай яе сюды.— Ігнат забраў птушку ў сына, спяшаючыся, сунуў у паляўнічую торбу. Ён пачынаў злавацца. Не на сына, на самога сябе, што так лёгка паддаўся яго просьбе ўзяць з сабой. Закінуў стрэльбу за плячо, сказаў хмура:
— Каб я яшчэ калі-небудзь...
— Я і сам не пайду...
Вярталіся дамоў моўчкі, паперадзе бацька, за некалькі крокаў ззаду сын, абодва насупленыя, натапыраныя.
Пройдуць гады, сын падрасце, а потым і вырасце, завядзе сваю сям'ю, будзе матацца па свеце, зрэдку наязджаючы да бацькі, не раз і не два будзе бачыць, як бацька ладуе патранташ, збіраючыся на паляванне, але ні разу не папросіцца пайсці разам; і бацька таксама ні разу не захоча паклікаць яго з сабой.
Марына сустрэла іх на двары. І ў гэтай шэрай цемнаце яна ўбачыла, што між сынам і бацькам нешта адбылося, але дапытвацца нічога не стала, загадала коратка:
— Пайшлі вячэраць. Бульба стыне.
Аддаючы жонцы качку і кінуўшы вокам на дзверы, якія толькі што зачыніў за сабой сын, Ігнат сказаў:
— Толькі скубі, каб ён не бачыў, а то наробіць ляманту.
Марына ўзяла мёртвую птушку, паклала на лаўку.
— Дзіця яшчэ: душа жаласлівая, не тое што...— яна не дагаварыла, пайшла ў хату.
— «Не тое што...» Што «не тое»? Хто «не тое»? І хто «тое»? Хто? Дзеці? Вапшчэткі, няхай сабе: дзеці ёсць дзеці. «Жаласлівая душа...» А хто яшчэ? Хто?! Нажалелі...— Ігнат палез па піпку, прысеў на калодку.
Не першы раз думаў так сам сабе Ігнат, і цвёрдай была яго ўпэўненасць у правасце той жорсткай лініі, якую ўзяў дома і якой трымаўся...
А як іначай. Кожны павінен мець у душы дысцыпліну, і нішто не вольна рушыць яе. Зрушыш адно — паваліцца другое. Рубель — датуль рубель, пакуль неразменены, размяняў — і пасыпаліся капейкі. Усюды павінна быць дысцыпліна, а ў сям'і асабліва. Асабліва ў сям'і. Тут камандзіру не пажалішся і на ваду не пасадзіш... Сам і камандзір, і кара...

Разважаў так Ігнат, але адчуваў, быццам не ва ўсім была праўдзівая гэта ягоная праўда. Быццам нешта важнае абмінала яна. Неяк спаймаў сябе на думцы, што яна, гэта праўда, не чапала таго, што было між ім і Васілінай. Таго, што было між імі, нібы не існавала. Не помнілася. А раз не помнілася, значыць, і не было. Раз не кранула душы... А можа, так і ў іх, у Марыны?.. Думаў так, і хацелася верыць, што так яно і было ў сапраўднасці. Колькі разоў лавіў сябе Ігнат на тым, што крадком, быццам рабіў нешта нядобрае, недазволенае, падглядаў за жонкай. І прыемнае цяпло, што яна засталася такая ж маладжавая, як была і раней, хоць нарадзіла і падняла трое дзяцей, цешыла яго, пакуль ён не ўспамінаў пра тое, што адбылося, пакуль яго не было.

Ён адчуваў ненармальнасць таго жыцця, якім яны жылі цяпер, але перасіліць сябе не мог.

Ішоў час, міналі дні, і незаўважна мянялася, адтавала Ігнатава душа. Ён хацеў заставацца такім, якім вярнуўся, з той жа зацятай злосцю на жонку, лічыў, што так і патрэбна, але бачыў, што далей так быць не можа.

Важданіна з паравіком намячалася немалая. Трэба было замяніць каласнікі, знайсці другія дзверы ў топку: гэтыя былі расколаты на дзве часткі. Нехта сарваў манометр, можна падумаць, захацеў у самагонны апарат паставіць. Вычысціць калодзеж, забіты абрэзкамі дошак, друзам, мазутай. Калодзеж — гэта ўжо дробязь, тут патрэбны рукі ды сіла. Ага, і помпы для падкачкі вады няма, трэба шукаць...

Змітрок, як і абяцаў, аб'явіўся пад абед. Ігнат да тае пары ўжо аблазіў усё, прашчупаў кожную гайку, кожны болт, выцер рукі ад іржы і мазуты і, прысеўшы на тоўстую дубовую калоду, на якой шчапалі распал і якая стаяла ў кутку ля топкі, на акрайку газеты складаў спіс, што трэба было зрабіць, каб паравік задыміў і пачаў круціць жорны.

— Ну, што ты скажаш? — спытаў Змітрок, угледзеўшы ў паўцёмным кутку Ігната.

— Скажу, што трэба брацца за работу,— адказаў Ігнат, дапісваючы сваю бухгалтэрыю.— Трэба брацца за работу, толькі дзе што ўзяць? — І ён працягнуў Змітраку газету.

Змітрок падышоў да замурзанага акна, доўга ўчытваўся ў Ігнатаву пісаніну, не вытрымаў, вярнуў:

— На сваю нумарацыю. Можна падумаць, што любоўнае пасланне бабе прыдумляеш. Сам накруціў баранкаў, сам і чытай.

— Ага, рука ў мяне такая, закручвае літары, як рубанак стружку. Бывае, назаўтра дык і сам не разбяру, хоць прасі каго, каб раскруціў,— адказаў Ігнат, забіраючы газету.— Дык вось, першае — каласнікі, потым дзверцы, потым манометр, потым помпа...

— І ўсё? — не паверыў Змітрок.

— Не ўсё, але астатняе можна зрабіць самім.

— Тады пайшлі да мяне абедаць.

— Ты так гаворыш, нібыта ўсё гэта ўжо ляжыць у цябе ў хляве.

— Не ляжыць, але бачу, што ўсё гэта можна знайсці. Пайшлі.

— І што: усякі раз будзеш мяне абедам карміць?

— Зарана не радуйся. Лічы, што гэта пазыка. Не пусціш млын — мусіш вярнуць. Разам з няўстойкай.

— Вапшчэткі, хоць яно і рызыкова, але пайшлі. Усё-такі сёння ядзім твой абед... А там пабачым.

— А там... Помніш, у Барку перад вайной таксама быў паравы млын. Ён і ў вайну малоў партызанам жыта, пакуль немцы не разбамбілі. Трэба пахадзіць добра ля яго, мне здаецца, там што-небудзь можна знайсці. Каня я табе даю — ваюй: у раён — дык у раён, у вобласць — дык у вобласць. Зразумеў?

— Што тут незразумелага. Раён — куды ні было, там да вайны мяне хто-ніхто ведаў, павінен успомніць, а вобласць — гэта акруга не майго маштабу, тут ужо будзеш маракаваць сам.

— Як-небудзь падладзімся. Нельга, каб млын стаяў, а людзі дралі зярно ў жорнах. За пуск — два пуды жыта.

— Добра,— пагадзіўся Ігнат. Яны ішлі па сяле.— Толькі мне памач трэба будзе.

— Хочаш папрасіць каго з мужчын?

— Не. Вержбаловічавых хлопцаў хачу ўзяць.

— Дзеці ж яшчэ. Што яны табе пасобяць? Ды і школа...

— Калі пасля школы, калі ў нядзелю...

— Рашай сам. Але больш жыта не дам.

— Неяк памірымся.

Думаў Ігнат запусціць паравік за тыдзень, а змог зрабіць гэта толькі за месяц. Каласнікі выдраў з паравіка

ў Барку, адтуль і дзверцы прывёз. Пасля адправіў самога Змітрака: едзь, шукай манометр, помпу, а заадно, калі пашанцуе — цыркулярныя пілы, пасы... Ваяваць дык ваяваць, а калі танцаваць, дык і круціцца.

Ігнат з Мішам і Алікам тым часам узяліся чысціць калодзеж. Чаго там толькі не было! Падаставалі цяжкія, набрынялыя чарнатой абрэзкі дошак, выцягнулі болей за сотню вёдзер каламутнай маслянай жыжкі, вёдзер дваццаць чорнай ад мазуты глеістай зямлі, пакарожаны станкавы кулямёт і яшчэ шмат рознага жалезнага ламачча.

Выцягваў вёдры ён сам, а выліваць у канаву насілі напераменку — то ён, то хлопцы. Як не стала вады, адправіў хлопцаў уніз з лапатамі. «Капайце, там недзе ў пяску гаршчок з золатам павінен быць. Знойдзем — старшыня прэмію дасць»,— падбадзёрваў сваіх памочнікаў.

І хлопцы, і ён былі мурзатыя, як чэрці, і завадзіліся так, што ледзь перастаўлялі ногі. Здавалася, каб трэба было выцягнуць яшчэ з дзесятак вёдзер — не змаглі б. Але гэта ўжо быў той момант, калі лапата калупнула чысты белы пясок — і нібы адкрылася заслонка. Нешта зашыпела, і ямка паволі пачала напаўняцца вадой. Хлопцы дабраліся да жылы.

Была нядзеля, сонца стаяла яшчэ высакавата над лесам, а работа ўжо была зроблена. Ігнат сеў з хлопцамі на плашку ля калодзежа, закурыў.

— Ну, вось і дакапаліся... да золата,— сказаў, пазіраючы ўніз.

— Дакапаліся,— паўтарыў Міша, і Ігнат убачыў, што і гэта сказаць яму было цяжка...— Дакапаліся.— Міша глянуў на Ігната і засмяяўся.— А вы, дзядзька, жылаваты. Гэта столькі перацягаць... Мы з Алікам, накопваючы, стаміліся... Праўда, Алік?

Алік моўчкі кіўнуў галавой.

— Вапшчэткі, на жылах чалавек дзержыцца. На жылах ды на ўпартасці. А яна і ў вас сядзіць, малайцы.

Хлопцы нічога не сказалі, толькі нібы цень прабег па іх скуластых, прыгожа чарнявых тварах. Яны зірнулі адзін на аднаго і ўсталі:

— Дык мы пойдзем?

Ігнат кіўнуў галавой.

— Пяском рукі пашаруйце,— крыкнуў услед. Хлопцы азірнуліся, кіўнулі галовамі, але як ішлі, так і пайшлі.

Чысціць калодзеж яны пачалі раніцай, і Ігнат успомніў, як пад абед паклікаў іх: «Давайце, хлопцы, перакусім». Дастаў з сумкі, разгарнуў белую палатняную анучку, у якой быў акраец хлеба, цыбуліна, пара гуркоў і шматок сала. Яшчэ таго, Васілінінага. Хлопцы зірнулі на сала, праглынулі сліну, пераглянуліся, і Ігнат зразумеў, што яны даўно не бачылі яго...

Заняты сваёй новай работай, Ігнат нібы забыўся, што ў яго ёсць дома і дзеці, і жонка. Снедаў, браў з сабой полудзень, вяртаўся назад, вячэраў, кідаўся ў пасцель. І так кожны дзень.

Сёння Ігнат ішоў дамоў раней, чым тыя дні, і ішоў з думкай пра тое, што добра было б цяпер у лазню ды на палок з венікам. Раніцай не сказаў, каб вытапілі, а дарма. Але ступіў на свой двор, і адразу пачуў кіславаты пах нядаўна залітых вадой галавешак, і ўзрадаваўся, як даўно не радаваўся: вось падумаў пра лазню і яна ёсць.

— Я ўжо хацела Лёню пасылаць, каб ішоў хутчэй,— сустрэла яго Марына.— Сподняе там. Дзеці памыліся і пабеглі ў кіно.

І праўда: недзе ля школы пачынаў лапатаць рухавік.

Даўно Ігнат не хваста́ўся з такой дзікай асалодай. Рабіў некалькі заходаў на палок, час ад часу боўтаючы галаву ў ражку з халоднай вадой.

Прыйшла Марына, раздзелася.

— Давай пашарую спіну,— сказала так, як гаварыла некалі, як гаварыла заўсёды. Палівала з конаўкі летняй вадой, да тугога рыпення шаравала ліповым вехцем.

Калі Ігнат выйшаў адзявацца, паддала духу, пахвасталася сама, пачала мыцца.

Напаўадзеты Ігнат сядзеў у прылазніку, курыў. Марына плёскалася ў начоўках.

— Ігнат, пашаруй і мне плечы,— размяклым голасам папрасіла з-за прачыненых дзвярэй. Баба заўсёды знойдзе свой голас.

— Вапшчэткі, я ўжо адзеты.

— Хіба раздзецца цяжка?.. Сюды ўжо ніхто не прыйдзе...

Ігнат скінуў нацельную кашулю, споднікі, але для перасцярогі ўзяў дзверы на зашчапку...

Гэтым разам Марына паслала пасцель разам на вялікім ложку. Доўга не спалі. Даўно паснулі дзеці, а яны ўсё гаварылі прыглушанымі галасамі. Трэба было выгаварыцца за тую зацятую маўчанку, што душнай удаўкай захліснула абаіх.

Гаварылі пра тое, як жыць далей, і гаварыла болей Марына. Набліжалася зіма, трэба цёплая адзежа дзецям. Соні дык і лепшае што пашукаць, пад дзеўку падбіраецца. Парасяты за лета і восень выраслі ў даўгіх, прагных да карыта подсвінкаў. Цяпер-то нічога талковага на іх няма, але калі пакарміць месяцаў са два — кабанчыка можна было б і закалоць. Закалоць — ды ў горад, на базар. А карміць... бульба ёсць, трэба жалудоў назбіраць. Іх сёлета чоршта на дубах. Свінні і так ядуць іх, а калі высушыць, ды змалоць, ды абмяшаць з бульбай... Свінку можна будзе закалоць пазней, пасля Каляд, ды падумаць і пра кароўку. Як жа без кароўкі...

Марына пыталася ў Ігната: можа, зробім так, можа, гэтак, але відно было, што ў яе ўсё даўно прадумана, усё спланавана. І ён адчуў прыкрасць да сябе, што дасюль жыў дома як не мужчына, як не гаспадар, як не ў сваёй сям'і і не ў сваёй хаце. Ведаў яшчэ, што далей так жыць не будзе.

З гэтым ён і заснуў.

Ліпа падала. І падала страшэнна марудна. Спачатку яна ўздрыгнула, скаланулася ўсім сваім голлем, нібы хацела атрэсці з лісця астаткі ранішняй расы, уніз пасыпаліся буйныя кроплі, зашархацелі па лістах, запокалі па зямлі, узрываючы пыл, і пачуўся пах, як летам на дарозе пасля першых дажджавых кропель.

Потым пайшла назад, у той бок, адкуль пілілі і дзе абапал ствала, адскочыўшы, стаялі Ігнат і Соня. Але ход ліпы раптам спыніўся, і яна, зашчаміўшы намёртва пілу, стала паварочвацца на пні, цягнучы за сабой пілу, якую Ігнат адчайна тузаў за ручку, каб выцягнуць з распілу, але гэта яму ніяк не ўдавалася. Соня вялікімі круглымі вачыма пазірала то на бацьку, на яго марныя намаганні выслабаніць пілу, то на спіленую ліпу, якая стаяла на пні, нібы і не была спілена, навісаючы цяжкой высачэзнай кронай над імі, віноўнікамі яе смерці, і не хацела падаць. Яна нібы дражнілася з імі: «Наце вось, з'ешце;

вы спілавалі, думалі, што гэта і ўсё, а я стаю, як стаяла, і буду стаяць, колькі захачу».

Ігнат таксама разгубіўся, адпусціў ручку пілы і пачаў шарыць вачыма кругом, шукаючы якую-небудзь жэрдку, каб папхнуць ліпу ўгары, скрануць з месца. Паблізу нічога не было, тады ён схапіў тапор, размахнуўся раз, другі, стараючыся ўбіць яго вастраўём у прапіленую шчыліну, але і гэта зрабіць было немагчыма: шчыліны не было, быццам яны і не пілілі,— была суцэльная чорная патрэсканая кара, як і на іншых некалькіх ліпах, што яшчэ стаялі ўкруга саду, і з гэтай чорнай кары, нібы ўрослыя ў сярэдзіну дрэва, тырчалі канцы пілы.

Ігнат схапіў камень і пачаў лупіць ім па абуху, каб загнаць сякеру ў разрэз, і сякера нарэшце ўпілася ў шчыліну, зайшла на колькі сантыметраў. Ігнат усё бэхаў каменем па абуху, левай рукой падважваючы сякеру за тапарышча. І ліпа нарэшце павольна, нехаця пайшла назад, разяўляючы шчыліну.

— Уцякай! — крыкнуў Ігнат дачцэ, выхапіўшы сякеру і пілу і адскочыўшы ўбок. Соня таксама адскочыла ад камля і стала, не ведаючы, куды бегчы. І тут ліпа пачала цяжка разварочвацца, агаляючы белы, як сыр, пень, і пайшла на Соню.

— Убок! — немым голасам закрычаў Ігнат, але дачка ўжо не чула яго. Што было сілы, яна кінулася бегчы далей ад гэтай страшнай велізарнай ліпы. Бегла і ўсёй сваёй душой, усім сваім трапяткім целам чула, як ліпа даганяе яе, займае сваёй шырачэзнай, як хмара, цяжкой кронай і вось-вось накрые.

— Убок!!! — загаласіў Ігнат, і голас яго зліўся з глыбокім уздыхам і трэскатам паваленага на зямлю дрэва. Доўга яшчэ хадзілі, шавяліліся, супакойваючыся, галіны і лісты на ёй.

Соня ляжала на траве, у самым версе ліпы. Ігнат падбег, падняў дачку, паставіў на ногі.

— Ты жывая? Жывая? — пытаўся, яшчэ не верачы ў шчасце, шчупаючы яе рукі, ногі. Дачка была жывая.

— Жывая, тата, і мне нічога не баліць,— бадзёра адказала яна, яшчэ не разумеючы таго, што была на краі смерці і што нейкае шчасце пакінула яе жыць. Але яна бачыла перапалоханы бацькаў твар, бачыла, як ён трывожыцца, перажывае за яе, і гэта радавала яе. Бацька любіць яе! Яна гэта ведала, яна гэта зразумела!

— І праўда, нідзе не зачапіла? — дапытваўся Ігнат.
— Праўда, тата. Толькі трошкі па нагах,— яна паказала чырванаватыя пісягі на лытках.
— А-а, гэта не страшна. Такое можа быць, калі сцебануць лазіной, а калі крапівой, то яшчэ горай будзе... Праўда?
— Праўда, тата. Мне нісколечкі не баліць, яй-богу... Толькі пячэ.
— Давай я разатру, і ўсё пройдзе. Сядзь на траву.
Соня села на траву, выцягнуўшы перад сабой ногі. Ігнат узяў у руку тонкую, з сухой пасіveранай скурай лытку, стаў цiскаць, расціраць пальцамі пабітае месца. Потым узяўся за другую нагу, стаў расціраць яе, і раптам страх скалануў яго ўсяго: а яно ж, гэта дзіцянё, магло быць ужо мёртвым. Па яго неразумнай, сляпой дурасці. Ён адпусціў даччыну нагу на траву, пазіраючы невідушчымі вачыма перад сабой. Дачка заўважыла гэты яго няўцямны позірк:
— Чаго ты, тата?
— Нічога, дачка, нічога.— Ён паволі вяртаўся на зямлю.— Скажы, а чаго ты ўпала? Можна лічыць, што цябе і не закранула.
— Не ведаю. Мусіць, зачапілася...
— Ну як, не баліць?
— Не-а.
— Тады пайшлі дамоў.
— А ліпа?
— Чорт з ёй, з гэтай ліпай...
— Гэта ты з-за мяне? Дык не думай, мне, яй-богу, не баліць. Я магу пілаваць.
— Хай ляжыць.
Ігнат узяў пілу, сякеру, і яны пайшлі. Ужо калі падыходзілі да пасёлка, ён раптам папрасіў дачку:
— Давай мы не будзем пра гэта нікому гаварыць, га?
— Добра, давай не будзем,— хітра зірнуўшы на яго, адказала дачка. Яна радавалася, што між імі ёсць і гэтая тайна.
Няма больш мяккага, больш далікатнага, больш безабароннага дрэва, як ліпа. Што хочаш можна з яе зрабіць: і вулей выдзеўбаць, і ступу, і кадоўбчык, і начоўкі выразаць, і міску, і лыжку, і лапці сплесці, і сявалку сшыць, і подсітак. І тапара на яе зашмат, так лёгка паддаецца яна рукам чалавека. І зноў жа: не дурань вы-

браў ліпу, каб выразаць Бога для царквы — на чалавека падобнага святога — і выстаўляць яго, каб усе бачылі.

Усё гэта ведаў Ігнат. Цярпеў, глядзеў, як адну за адной скідалі з пня ліпы з Казановічавай абсады, не ўтрымаўся, сам захацеў пагрэцца ля святога агню. І як мог да такога дадумацца?! Што праўда, то праўда: перш чым пакараць, Бог адбірае розум.

Два месяцы праляжала тая ліпа, ніхто не хацеў кратаць, а пасля прапала ў адзін дзень, як і не было.

## X

На досвітку, у цемнаце сенцаў, Ігнат намацаў пад бэлькай шыла, доўга шоргаў ім па бруску — счышчаў чарнату, вайстрыў. На бруску падправіў і нажы — свой, паляўнічы, і хатні, што зрабіў некалі са старой касы. А як трохі зашарэла ў вокны, Марына расцерла ў місцы бульбы з мукой, пайшла ў хлеў. Скора на дварэ пачулася рохканне кабана. Ігнат выйшаў на ганак з лейцамі ў руцэ.

— Ці ўправішся адзін? Можа, схаджу па Цімоха.

— Не трэба. Смаліць пазаву, а тут... ужо як-небудзь, не першы раз.

Кабан быў нішто, пудоў на дзесяць. Калі б пакарміць яшчэ з месяц, то, відаць, набраў бы і ўсе дванаццаць. Але і бульбы не было і мукі.

Кабан уткнуўся лычам у міску. Ігнат пачухаў яго за вухам, даў асвойтацца, падвёў лейчыну з пятлёй за правую нагу, зашмаргнуў, абвёў кругом левай, узяў канец у левую руку, правай згроб у кулак шчаціну на хібе. І цяпер кабан не паказаў трывогі. Зарохкаў, узняў лыч, нібы хацеў праверыць, што тут ля яго робяць, і зноў уторкнуў лыч у міску. Шырока ўпёршыся нагамі, Ігнат ірвануў лейцы ад сябе, падсекшы кабану пярэднія ногі, а правай тузануў кабана за шчаціну на сябе. Той як стаяў, так і лёг на бок, усе чатыры нагі сутаргава замахалі ў паветры, шукаючы што-небудзь цвёрдае. Цвёрдая была толькі ўмёрзлая зямля пад бокам, але чалавек наваліўся ўсім сваім цяжарам зверху і не даваў магчымасці ні павярнуцца, ні вылузнуцца. І тады кабан завішчэў што было сілы, адчуўшы ўсёй сваёй істотай, што гэта не гульня нейкая, не жарцікі...

Адчайны віск гэты ўзарваў цішыню сяла за нейкую

секунду да таго, як халодны востры метал з нясцерпным раптоўным болем увайшоў у грудзіну, пад левую лапатку, і глыбей, і ўжо для кабана не стала нічога на свеце, акрамя гэтага халоднага вострага металу, які шырыўся, рос, разрываючы ўсё ўсярэдзіне. Кабан разявіў рот, каб уздыхнуць яшчэ раз, на ўсе грудзі, закрычаць яшчэ мацней, ён і ўздыхнуў, але закрычаць у яго ўжо не стала сілы.

Ён ужо не чуў, як праз некалькі хвілін з яго грудзей дасталі гэты востры метал і, каб не збягала кроў, у маленькую ранку ўваткнулі абматаную кудзеляй драўляную палачку; як яго пацягнулі за заднія ногі па двары за хлеў, у зацішак; як паклалі ўсімі чатырма нагамі на зямлю, якую ён толькі што стараўся намацаць і якая, калі б ён намацаў яе, можа, выратавала б, павінна была выратаваць яго; як у раскрыты рот паклалі невялікі круглы камень; як яго абкладвалі сухой саломай, нібы хацелі, каб яму цяплей было; як потым чыркнулі запалкай і паднеслі да саломы агонь, і салома доўга не хацела гарэць, але ўсё ж пасля трэцяй запалкі заняўся маленькі шматок жоўтага агню. Агонь паціху распаўзаўся ў бакі, пакуль нарэшце не хлыпнуў угору, ледзь не высмаліўшы вочы чалавеку, і да паху паленай саломы далучыўся і папоўз па сяле едкі чарствы пах паленай шчаціны. Кабану ўжо было ўсё роўна.

Смалілі куля́мі. Ігнат яшчэ восенню навытрасаў іх паўзастаронка, ведаў, прыгадзяцца ці страху перакрыць, ці на што іншае.

Смалілі ўдвух з Цімохам, але тут работу вёў Цімох, Ігнат быў у яго за падручнага, і гэта роля яму падабалася. Ён сачыў, каб былі пад рукой кулі́, каб не затухаў агонь, бо Цімоху трэба будзе прыпальваць салому, а як прыйшліся першы раз, знялі шчаціну, і кабан учарнеў, каб была гарачая вада абмыць тушу, каб былі нажы скрэбці.

— Вапшчэткі, добра высмаліць кабана таксама трэба ўмець,— падхвальваў суседа Ігнат. Ігнат і сам умеў смаліць і смаліў не адзін раз, але не заўсёды хапала ў яго цярпення во так, як Цімох, заціснуўшы ў адной руцэ пучок саломы, а ў другой нож, у каторы раз пядзь за пяддзю абходзіць, здавалася б, ужо высмаленую да саламянай жаўцізны тушу.

— А што тут умець,— панура адказаў Цімох. Ён заўсёды быў пануры, і нават жывая работа ля кабана не

паправіла яго настрою.— Трэба толькі цярпенне мець. І жарам смаліць, а не полымем. Жар шкуру змякчае, полымя сушыць.

Недзе гадзін у адзінаццаць абсмалены, выскрабены, вымыты кабан ляжаў нагамі ўгару на шырокай лаве. Разбіралі таксама на двары, але разбіраў гаспадар, гэтага ён нікому не перадавяраў. Цяпер ужо Цімох хадзіў у яго ў падручных — падхопліваў і кідаў у вялізныя начоўкі кавалкі мяса, здор, насіў у сенцы сцегнякі, сала.

Ужо седзячы за сталом, выпіўшы два ці тры стограмовікі гарэлкі і добра пажвавеўшы языком, Цімох раптам спытаў:

— А ці чуў ты, што хлопчыкі зноў аказаліся?

— Вапшчэткі, ты пра каго? — перапытаў Ігнат.

— Бытта не цяміш, пра каго? — скрывіў абраслыя рэдкімі валасамі губы Цімох.— Усё пра іх жа, пра бандытаў. У Дулебах у аднэй удавы... хаця што аднэй, ты павінен ведаць, Аркадзі Воранавага, ён з лагера з Магілёва не вярнуўся, кабана забралі.

— Яго-то ведаў. Некалі на аблаву разам выязджалі,— адказаў Ігнат.

— Пагаворваюць, што з імі як бытта Стась Мастоўскі.

— Стась? А яго не ўзялі там, ля Гончы?..

— Шайку ўзялі, а ён і яшчэ двое ўцяклі.

— Жывучы, як уюн, усюды выслізне. А цікава было б паглядзець на яго цяпер. І пагаварыць. Што б ён сказаў? — Ігнат не быў п'яны, і словы яго не былі п'яныя.

— Ты гэта сур'ёзна? — не паверыў сабе Цімох.

— А чаму ты думаеш, што несур'ёзна. Няхай бы расказаў, што думаў тады і што думае сёння?

— Усё, што мог, ён ужо сказаў. А я вось пра што: раз так, то ён можа паказацца і тут,— Цімох кінуў позірк на сцяну, дзе ў Ігната вісела стрэльба.

— А чаму ж не можа? Можа,— адказаў Ігнат.— Што ні кажы: радзіна.

А вечарам зняў стрэльбу са сцяны, змазаў, прачысціў ствалы, выбраў з патранташа два патроны з кулямі, загнаў у патроннік. Стрэльбу і патранташ павесіў назад на сцяну.

Лёг спаць. Марына ўходжвалася з каўбамі, але неўзабаве лягла і яна.

Ноч стаяла месячная, у хаце было відна, як днём.

І прыснілася Ігнату ліпа. Яна падала... Падала так павольна, так нехаця, што здавалася, ніколі канца не будзе гэтаму падзенню і канца не будзе страху, з якім Ігнат не хацеў гэтага падзення і чакаў яго... Цяжкая чорная крона ліпы, як хмара, засланіла сабой калгасны двор, усё неба і цяпер ішла на Ігната, і ён не вытрымаў, закрычаў... Закрычаў і прачнуўся, як прачынаўся ўжо не раз.

Ляжаў на пасцелі, варочаючы ў галаве нядаўні сон. І ў сне бачылася ўсё так ясна, як адбывалася і папраўдзе, калі ён, узяўшы ў памочнікі дачку, наважыўся спілаваць тую ліпу, пад якой яны апошні раз курылі з Вержбаловічам. Не хацеў, каб яе спілаваў хто іншы. А што яе нехта зваліў бы, сумнення не было: з усёй абсады жывымі заставаліся ўсяго некалькі дрэў. А гэта была самая тоўстая, самая высокая і самая прыгожая.

Закашляўся Лёнік. Набегаўся, бач, расхрыстаны, наглытаўся снегу.

Устала Марына, дастала з печы чыгунок з завараным маліннікам, дала выпіць. Кашаль суняўся, і Лёнік, пахныкаўшы трохі, заціх.

Марына хацела ўжо класціся, але кінула вокам у акно. Ад варот да хаты ішоў чалавек.

— Ігнат, нехта ідзе па двары,— прагаварыла яна трывожным шэптам.— І за шулой ля варот нехта стаіць.

Ігнат нібы чакаў гэтага: слізгануў рукой па сцяне і са стрэльбай у руцэ стаў да прасценка між вокнамі. «Як скоранька пранюхалі»,— мільганула думка і тут жа другая: «Нічога, у патранташы патронаў хопіць».

— Сенцы зашчэплены? — спытаў, паклаўшы палец на губы: ціха.

— Зашчэплены,— прашаптала Марына. Яны стаялі ля сцяны, пазіраючы з-за вушака ў акно. Чалавек быў у цёплай паддзёўцы, у зімовай шапцы, у ботах. Зброі не было відно. Ён ступіў на ганак, падышоў да дзвярэй, пастаяў трошкі, узяўся за клямку — дзверы былі зачынены з сярэдзіны. Чалавек асцярожна пастукаў клямкай. Ігнат падштурхнуў Марыну да акна, паказаў абазвацца. Сам кінуў вокам у другое акно, на вароты. З-за шулы вытыркаўся тонкі ствол вінтоўкі.

— Хто там? — спытала Марына.

— Можа, хлеба дасцё, гаспадыня? — спытаў чалавек, павярнуўшыся да акна, але не сыходзячы з ганка. Гэта

быў цёмны мужчына з вусікамі. Голас малады, ціхі, з ноткамі стомленасці.

— Хлеб ёсціка,— адказала Марына. Якраз толькі ўчора спякла хлеб, пяць булак. Адну з'елі, а чатыры ляжалі пад ручніком на стале. Марына зірнула на Ігната, ён кіўнуў галавой.

Марына разрэзала булку, узяла палавіну, памкнулася была ісці да дзвярэй, але Ігнат пацягнуў за руку, паказаў на акно. Дні два таму Лёнік лавіў начоўкамі вераб'ёў і незнарок выціснуў ніжнюю шыбу. Патрэбнай шыбы не знайшлося, і Ігнат замест шкла паставіў фанерыну. Марына адхінула фанерыну, цвікі не ўтрымалі яе, і яна паляцела на снег. Прасунула булку на двор. Чалавек узяў хлеб.

— Можа, яшчэ і цыбулі трошкі? — усё тым жа ціхім стомленым голасам папрасіў чалавек.

Марына падышла да печы, дзе віселі дзве ладныя пляцёнкі цыбулі, адарвала ад адной хвост, адчыніла шкафчык, узяла кавалак сала далоні на дзве і прасунула ўсё ў выбітую шыбу, з якой цягнула холадам. Чалавек узяў цыбулю і сала, паклаў у вялікую чорную сумку, што была пры баку і дзе ўжо ляжаў хлеб.

— Дзякуй, гаспадынька. Дрэнна толькі, што нас баяцца,— сказаў усё гэтак жа сумна.— Баяцца нас не трэба. Усім хочацца жыць. Калі б мы хацелі... але мы нікога не кратаем... не кранулі... Хіба толькі есці...

— Вайна ўжо даўно скончылася, а вы не даіцё спакойна жыць. Чаго вы хаваецеся ад людзей і ходзіце па начах? — сказала Марына.

— Гэта так... ходзім...— Чалавек адступіў ад акна, потым вярнуўся, падняў са снегу фанерыну, прыладзіў яе на старое месца і ўжо тады пайшоў да варот. З-за шулы выйшаў другі, з вінтоўкай, і яны пайшлі па вуліцы, але не ў канец, а ў сяло.

— Мяне аж трасе ўсю, бр-р-р,— сказала Марына. У яе зуб на зуб не трапляў.

— Лезь на печ, пагрэйся.

— Мяне трасе не столькі ад холаду, як ад усяго. Думаю, хай бы скарэй усё скончылася, хай бы скарэй ён пайшоў.

— Усё адно лезь на цёплае. Вапшчэткі, я і сам не ведаў, чым гэта ўсё завершыцца і ці завяршылася. Адно ведаў: пакуль патроны ёсць, яны ў хату не ўвойдуць.

— Што ты са сваёй стрэльбай... У іх вінтоўкі ды, можа, і аўтаматы...

— Канечне, аўтамат ёсць аўтамат, але і мая... А Галус не абазваўся.

— Ага, што гэта ён? Ці нажраўся свежыны... Ты думаеш, што гэта можа быць яшчэ не ўсё? — спытала Марына ўжо з печы.

— Будзе ўсё, калі яны здадуцца.— Ігнат закурыў. І раптам здзіўленым, ажыўшым голасам дадаў: — А яны ведалі, што мы надысь кабанчыка закалолі. Ве-е-едалі.

— Як ты думаеш, куды яны пайшлі?

— «Куды» ці «да каго»?

— Хіба гэта не адно і тое?

— Вапшчэткі, можа, і так...— Ігнат пыхнуў малінавым агеньчыкам піпкі.— Людзі, а без галоў. Вайна даўно забурылася, бераг адзін, і трэба што ёсць сілы прыбівацца да яго. Трэба мець смеласць паглядзець праўдзе ў вочы.

— Гэта цяпер адзін бераг, а колькі іх у вайну было? Што ні дзень — то бераг, што ні ноч — то другі.

— І тады, вапшчэткі, адзін быў, адзін. То што катоpыя шукалі нейкай сваёй выгады, гэта іншае. Яны заўсёды шукалі і шукаць будуць. І ў адной сям'і не заўсёды і не ўсё гладка бывае: там пасварыліся, там не паладзілі, але калі бацьку б'юць, некалі ляжаць на печы ці з-за плота пазіраць. Тут закасвай кулакі — і ў бойку. А раз награшыў, будзь добры — адчытайся за грахі. Гэта ўжо закон.

Снег выпаў пад раніцу. Спорны, мяккі.

Ігнат выйшаў на ганак, доўга ўслухоўваўся ў глухую цішу, якая лягла на сяло. Ні голасу, ні гуку. Нібы ўсё спала. Абышоў хлеў, хату. За вуглом хаты ўбачыў чужыя сляды. Сляды былі таго чалавека, што прасіў хлеба. Перш чым пайсці па двары, ён зайшоў ад лесу, паслухаў пад вуглом. Пад страхой снег не схаваў слядоў.

«Добры сняжок, добрая пароша... Трэба збегаць пашукаць ліскаў»,— падумаў як пра даўно рошанае, але зрабіць што ўсё нешта не давала. А не давала зіма. Спачатку дало снегу, ішоў цэлы тыдзень, здавалася, і канца не будзе. Навaліла вышэй платоў, ні пеша, ні на кані ў лес было не ўбіцца. Потым крута павярнула на адлігу з ледзяной сечкай, з аблівакай. Пасля ўзяўся мароз.

Паверх снегу зрабілася такая ледзяная кара, што не толькі сані, а і чалавека дзяржала, хоць на каньках коўзайся. І во, лічы, першы сняжок пасля таго выпаў.

Разоў колькі яны выходзілі з Галусам на паляванне, але болей так: ногі наб'еш — і ўсе трафеі. Праўда, з тыдзень таму дзвюх вавёрак падстрэліў і куніцу. Яшчэ з дошчачак не зняў, сохнуць ля коміна. А заўчора паехаў прывезці дроў, ускінуў стрэльбу на сані. Ужо выязджаючы з возам са Стаськовага Рога, убачыў, як у полі мышкавалі дзве лісы. Прыгожыя, чэрці. Рыжыя, аж гараць... Паспрабаваў падманіць, пад'ехаць на кані — не падпусцілі. Адбегліся метраў на сто пяцьдзесят і як наўмысля: глядзі, Ігнат, і кусай сябе за локці, пачалі навыперадкі насіцца па полі — толькі рыжыя хвасты, як мётлы. Паглядзеў на іх гульню, паказаў Галусу: палюбуйся і ты, ваяка. Але той не бачыў іх і не чуў і ніяк не мог уцяміць, чаго ад яго хочуць. З тым і вярнуліся.

Праз дзірку ў варотах, каб маглі схавацца куры, вылез з хлява Галус. Абтросся ад сянной пацярухі, тыцнуўся халоднай пысай у гаспадарову руку.

— Ну што, вапшчэткі? Праспаў гасцей? Ці рашыў услужыць ім? — спытаў Ігнат. Сабака радасна завіляў задам, завішчаў, гаўкнуў, затанцаваў кругом гаспадара, стараючыся лізнуць у твар.

— Я табе пра адно, а ты пра другое... Ты пра сваё... Дык што, сходзім сёння на ліскаў? Сходзім... Ну, дос, дос,— закончыў Ігнат строга, цярэбячы сабаку за вушамі.

Сабака быў высокі, на тонкіх крываватых лапах, з шырокай мускулістай грудзінай. Такія шырокія грудзі ў гончых чыстай крыві бываюць рэдка, але Галус быў чысты ганчак. Ігнат перакупіў яго ў Цыбулькі з Усох і не шкадаваў. Ужо ў два гады ён і зайцаў след браў, і за лісой ішоў. Цяпер яму было тры, і любілі яго ў доме ўсе, асабліва Лёнік.

Пасля вячэры, калі ўсе збіраліся разам, Лёнік садзіўся верхам на Галуса. Той звычайна ляжаў ля печы, паклаўшы галаву на лапы, разумнымі бурштынавымі вачыма цікуючы за Ігнатам. Узяўшы ў рукі вялікія, як лісты лапушніку, абвіслыя вушы, Лёнік пачынаў расцягваць іх, як гармонік. Сам пытаўся ў сабакі і сам адказваў за яго:

— Бацька дома?

— Дома.
— Гармонь нова?
— Нова.
— Пайграць можна?
— Можна.
— Тум-та, тум-та-та!

Ён цягаў сабаку за вушы, то разводзячы іх у бакі, то прыціскаючы да галавы, і Галус спакойна цярпеў гэтую музычную экзекуцыю, пакорліва боўтаў галавой то ў адзін бок, то ў другі. Ні разу не было такога, каб ён агрызнуўся ці нават паказаў зубы. Водзіць галавой у бакі, а сам сочыць вачыма за гаспадаром: ці бачыць той. Ба-а-ачыць, ну і добра...

Ігнат адпёр вароты, выскуб з тарпы ахапак сена, укінуў у яслі карове, пайшоў у хату. Галус прашмыгнуў у цёмную, не астылую за ноч духату першы, ледзь не зваліўшы з ног гаспадара.

Ігнат узяў вёдры, пайшоў вады да калодзежа. Зруб абледзянеў так, што засталася толькі маленькая, як прайсці вядру, праламка. За ноч яе скавала, нават вочапам нельга было праткнуць. Ігнат прынёс жардзіну, абабіў лёд укруга праламкі, павыцягваў крыгі. Набраў вады і толькі хацеў несці, як убачыў Полю. Твар устрывожаны, заплаканы, растрапаныя валасы так-сяк укрыты суконнай хусткай. Падышла, паздароўкалася.

— Я па цябе, Ігнат. Зайдзі ў хату.

— А што такое? — Ігнат адчуў, што сёння, відаць, не ў аднаго яго была неспакойная ноч.

— Сам убачыш. Толькі не глядзі, што я такая...— Поля папраўіла, прыгладзіла валасы, тужэй зацягнула хустку.

Зайшлі ў сенцы. Поля прынесла з хаты лямпу. Тут усё было перавернута, параскідана. Усе дзверцы камода з верху да нізу парасчыняны, на паліцах пaперакульваныя пляшкі, бляшанкі, раскатаныя сувоі палатна, ручнікі, абрэзкі матэрыі. Дзежкі і цабры параскіданы па ўсіх сенцах. У кубёлку было жыта. Цяпер яно кучкай ляжала на падлозе. Адна маснічына ўзарвана і адкінута ўбок, у дзірцы жаўцеў пясок.

— Дык што ж гэта робіцца, Ігнат? Як гэта далей жыць? Прыйшлі сярод ночы, паўспорвалі з пасцелі ўсіх — і мяне, і дзяцей, перавярнулі ўсё дагары нагамі.

— Хто?..— спытаў Ігнат, хоць пра гэта можна было не пытацца.

— Хто... Каб я ведала. У хаце былі двое. Адзін у ботах, з аўтаматам, а другі без нічога, у паддзёўцы, з чорнай сумкай. Трэцяга, з вінтоўкай, я ўгледзела пасля ўжо. Ён стаяў ля варот, за шулой.

— І што ім трэба было?

— Мёд і самагонка. «Дзе мёд?» А які сёлета ўзятак, які мёд? Адно вядзерца толькі і накачалі з трох вулляў, дык жа ўсё адразу на базар павезла. Паўлітровую баначку пакінула на лякарства, дзіця прастудзіцца ці так што якое, і тую знайшлі, во там, у кутку, у камодзе за палатном стаяла. Знайшлі, узрадаваліся, як дурні. Праўда, той, што з сумкай, саўсім малады яшчэ, чарнявы такі. Ён і маўчаў. Звярэў другі, з аўтаматам. «Ёсць, аказваецца, ёсць, а казала: няма. Значыць, і гарэлка ёсць. Мы ведаем, што ёсць». Шукайце, кажу. Мёд знайшлі, можа, і гарэлку знойдзеце. Не знайшлі. У хлеў два разы хадзілі. І мяне цягнулі. Пайшлі, гавораць, пакажаш, дзе схавана. Жджыце, пайду. І Віцік ля мяне тут: «Не ідзі, мама». Перапаролі ўсё сена, думала, хлеў спаляць.

— Больш нічога не ўзялі?

— Два ручнікі. Мыцца ім таксама трэба, каб вы кроўю сваёй абмыліся.

— Ты ім сама адчыніла?

— Хто ім адчыняў? Рванулі так, што разагнулі зашчапку.

Ігнат паклаў узарваную маснічыну на месца, сабраў у куток цабры і дзежкі, спыніўся ля камода.

— А дзеці дзе?

— У хаце. Сядзяць папераpуджаныя.

Хата была выстуджана, як лядоўня. Віцік і Рая сядзелі на печы, паўкручваўшы ногі ў посцілкі, натапыраныя, як прусакі.

— Ну, чаго панатапырваліся? Хіба ў школу не думаеце ісці? І ў печы не паліцца... Ты што гэта, гаспадыня? — Ігнат павярнуўся да Полі.

— Я ўжо рашыла: раз такое, хай сядзяць дома.

— Вапшчэткі, што гэта за «хай сядзяць»? — Скамандаваў: — Ну-ка, скоранька мыцца, адзявацца, перакусіць — і ў школу. Усё будзе добра. І ты, Віцік... Нібыта і не мужчына.

— Я зараз, дзядзька Ігнат,— адказаў Віцік, надзяваючы рубашку.

Ігнат пайшоў з хаты. Поля выйшла за ім. Ігнат патрымаў у руцэ разагнутую зашчапку, паківаў галавой. Яму цяжка было ўзняць вочы на Полю, цяжка было сустрэцца з яе позіркам, быццам ён быў вінаваты за ўсё тое, што адбылося тут гэтай ноччу. У яго не ўстроілі такое зладзейства, у яго далікатна прасілі. Яго баяліся. І ён даў ім усё, што прасілі. А тут рабілі што хацелі і як хацелі. Бо не было каму даць ім па зубах. Ахрэм не дасць. Яго няма. Як магло не быць і яго, Ігната. А яны вярнуліся. Не, не вярнуліся! Яны нікуды не хадзілі! Яны жылі тут. І цяпер жывуць. І просяць. І не толькі просяць — патрабуюць. І бяруць...

У Полі былі глыбокія чорныя вочы, і яны чакалі нечага, пыталіся пра нешта такое, пра што не асмельвалася спытаць яна сама і чаго вельмі баяўся Ігнат.

— Трэба зрабіць новую зашчапку. Я зраблю.

— Добра, Ігнат. Хіба ж можна ў хаце так, без нічога? Хлеў і той запіраюць.— Нешта яшчэ не давала ёй спакою, Ігнат хацеў спытаць што, але Поля сама ўскінула галавой, засмяялася: — Ведаеш, шукалі гарэлкі — не знайшлі. Не для іх гналася. А прыйдзі ты — адразу знойдзецца. Зробіш зашчапку — і прыйдзі...

— Вапшчэткі, ты гэта, Поля, дарма. Каб я... за гарэлку... ты гэта дарма так пра мяне...— Ігнат бліснуў на Полю напружаным позіркам. Але яна не адвяла ўпартых вачэй.— І яшчэ я не сказаў табе... яны былі сёння і ў мяне,— сказаў Ігнат глухім голасам.

Полін твар выцягнуўся.

— І што?

— Нічога... Папрасілі хлеба, цыбулі... Я ля сцяны са стрэльбай... Думаю: ці так, ці гэтак. Будзеце лезці — хоць аднаго пакладу. І паклаў бы.

— І што, ты ім даў... хлеба?..

— Даў. Даў! — сказаў Ігнат са злосцю, крута павярнуўся і пайшоў.

## XI

Вярнуўся дамоў Ігнат хмуры. Сказаў Марыне:

— Вазьмі булку хлеба, сала, занясі Полі. Госці яе таксама не абышлі.

— Я так і падумала: не можа быць, каб толькі да нас...

— Да нас, да вас, да іх...— прамармытаў Ігнат, знімаючы са сцяны патранташ.

Пераглядаў прыпасы, раскладваючы асобна патроны з карцеччу, на лісу, на зайца, на птушку. Патронаў было мала. Дастаў з куфра скрыначку, у якой дзяржаў гільзы, порах, шрот, пачаў набіваць новыя.

Галус ляжаў ля печы, усклаўшы галаву на лапы, пазіраў то на гаспадара, то на вокны, за якімі прыкметна набракала сінькай неба.

...Снег пружыніста, як мох, прасядаў пад нагамі, крухмальна рыпеў пад бахіламі. Ісці было лёгка: падыспадам чулася крэпкая, як зямля, залубянелая кара.

Ігнат перасек поле, дзе заўчора гулялі лісы. Хоць бы чый след. Пайшоў лугам. Галус шнырыў наперадзе, то задзіраючы галаву ўгору, нюхаючы паветра, то апускаючы ўніз, у снег. Пакуль што нічога вартага сур'ёзнай увагі не было, і ён займаў шыршы прасцяг, снаваў чаўнаком туды-сюды, усё болей і болей распальваючы сябе.

Са свайго сабачага вопыту ён ведаў, што недзе тут, у гэтых кустах ці, можа, далей трохі, ёсць гэтыя зайцы і лiскі. Яны хітрыя, пазашываліся ў снег, затаіліся і думаюць, што іх ніхто не знойдзе, не павыпорвае. Выпарам. Які малады і пахучы снег! Ён п'яніць, як малако. Здурнець можна ад радасці. І паветра густое, як у лесе. І гэта насцярожаная цішыня. Быццам усе загадзя ведалі, што яны прыйдуць сюды на паляванне, і прыціхлі, затаіліся. Але яны недзе зусім побач, гэтыя лiскі і зайцы, можа, каторы ўжо сочыць за імі з-пад куста, гатовы ўскочыць і даць лататы. Сам гаспадар, сам Ігнат Сцяпанавіч, сказаў: «Шукай. Шукай-шукай». А раз ён так сказаў, значыць, яны ёсць. Трэба шукаць...

Ігнат ішоў расслабленым крокам. Стрэльба з узведзенымі куркамі ляжыць на сагнутай левай руцэ, правая прытрымлівае за ложу. Старая паляўнічая звычка, каб ні звер, ні птушка, хоць і вырвецца з-пад ног, не засталі знянацку: рывок — і ложа ля пляча.

Акуратненькія, прыгожыя, як лісты канюшыны, лісіныя сляды сустрэліся аж ля Петрусёвага дворышча. Відаць, звер толькі што прайшоў, у каторых слядах яшчэ асыпаўся снежны пыл. Галуса не было відаць, і Ігнат свіснуў: «Цю-у! Цю-у!»

Праз якую хвіліну захаканы, з высалапленым языком сабака быў ля ног. Ігнат дастаў з паляўнічай торбы скібку хлеба, выставіў руку. Галус асцярожна ўзяў хлеб у зубы, адышоўся і лёг на снег. Еў і адданымі вачыма пазіраў на Ігната. З'еў, падабраў крошкі, падышоў зноў. Ігнат пагладзіў па загрыўку, паказаў на лісіны след, сказаў:

— Шукай!

Галус тыцнуў носам у след, прабег метраў з дваццаць па ім, то апускаючы, то падымаючы пысу, і раптам павярнуў назад. Сеў недалёка, пачаў церабіцца, кідаючы вінаватыя позіркі на гаспадара.

— Шукай! — ужо строга загадаў Ігнат. Галус зноў выйшаў на след, прайшоў яшчэ метраў з дзесяць, спыніўся ля маладзенькай бярозкі, падняў нагу, пазначыўшы тое месца, і павярнуў назад, сеў.

«Што гэта з табой сёння? Дома чужых людзей не пачуў, а тут...» — зазлаваў Ігнат. Падазваў сабаку, узяў за нашыйнік, вышмаргнуў папругу са штаноў і, склаўшы ўдвая, пачаў вучыць, прыгаворваючы:

— Дык будзеш ганяць? Будзеш ганяць? На табе! Во табе! Во табе! На табе! Вапшчэткі, не хочаш ганяць? Дык я цябе падганю! На табе! Во табе! На табе! Во табе!

Галус екатаў, тузаўся, спрабуючы вырвацца, але Ігнатава рука была моцная. Нарэшце і яна расслабілася, і сабака вырваўся. Адбегся, сеў, стаў залізваць пабітыя бакі. Залізваў і екатаў, плакаўся. Плакаўся і вінавата пазіраў на гаспадара.

— Паекачы мне, паекачы, то яшчэ дабаўлю! — гаварыў Ігнат, натоптваючы піпку. Доўга не мог упаліць махорку: дрыжалі рукі.— Паплачся мне, паплачся,— паўтараў больш для сябе, чым для сабакі. І праўда, яму было не па сабе. Хіба гэта работа — біць сабаку? Такім парадкам не шмат чаму навучыш. Хаця зноў: не пабяжыш жа сам па следзе.

— Ну! — падаў зноў голас Ігнат, стараючыся ў голасе схаваць сваю неправату. Галус яшчэ пасядзеў трохі, потым пакорліва ўстаў, скалануўся ўсім целам, атрасаючыся ад снегу, выйшаў на след і прапаў у кустах. Хвілін праз пяць зацахліў: «Ах! Ах! Ах!»

— Ну во. Выходзіць, што і ты не можаш без прымусу рабіць сваю работу,— сказаў уголас Ігнат, зноў жа болей для таго, каб апраўдацца самому. Прайшоў трохі напе-

рад бліжэй да лесу, стаў пад невысокім раскідзістым дубком, што рос на рагу прагаліны. Прагаліна глыбокім вострым клінам уразалася ў ельнік, і варта Галусу завярнуць звера назад, ён нікуды не дзенецца, выскачыць на адкрытае.

На нейкі час сабака сціх, потым голас яго пачуўся зноў, толькі цяпер лявей і глыбей у лесе. «Бач ты, таксама не дурная, не хоча вылазіць на чыстае, палезла ў гушчар»,— падумаў Ігнат пра лісу, добра ўяўляючы той глухі, забіты ламаччам лапік маладога густога ельніку, куды павёў след. Правае крыло лапіка займае асочнае балота, а левае пачынае стары лес. Добра ўяўляў ён і лісу, як яна лёгка ідзе між дрэў, мінаючы купіны і лаўжы. Прыпыніцца, прысядзе, наструненымі вушамі ловячы голас сабакі, нават можа падпусціць сабаку блізка, каб пасля матануць у другі бок. Няпроста будзе Галусу выгнаць яе адтуль: трэба браць большы круг і ўсё па тым жа гушчары, каб завярнуць сюды. Заверне.

Вапшчэткі, што ні кажы, сабака добры. Нездарма Паўла Шамаль аддаваў за яго сваю суку і дзвесце рублёў: «Ад-д-дай мне яго, я з ім н-на в-ваўка б-б-буду хадзіць, а т-табе і сс-сукі стане на з-зайцоў і ва-вёрак». Разумнік знайшоўся. Ігнат прыслухаўся: сабакі не было чуваць. Пэўне, згубіў след. Нешта з ім не тое сёння. Хаця ў чалавека не заўсёды спытаеш, а гэта ж сабака. І не спытаеш, і сам ён сказаць не ўмее.

А працаўнік ён добры. З ім можна і на ваўка, і на каго хочаш ісці. І да двара добры. Ужо нашто Марына строгая да сабак, а яго ўпадабала: і накорміць, і пагрэцца пусціць у хату.

Але дзе ж гэта ён, чаму маўчыць? Гэта ўжо Ігнату не падабалася. Няйначай, згубіў след і зараз прыбяжыць з вінаватымі вачыма.

Кругом было ціха, як у глухую ноч. Белы, аж вочы адбірае, снег, кантрастна чорныя, як абвугленыя, кусты. Зверху сарваўся камяк снегу, разбіўся аб шапку, трапіў за каўнер. Ігнат перасмыкнуў плячыма: мокрае пацякло па спіне. Галуса не было чутна, і Ігнат не вытрымаў, пайшоў па следзе сам.

След вёў спачатку акрайкам кустоў, паўз поле, потым павярнуў цераз балота ў бок лесу. Тут ужо Галус набраў свой звычайны гон, ішоў роўнымі ладнымі скачкамі. Яго

разлапістыя сляды добра значыліся збоч лісінага ланцужка.

І тут, на балоце, стары снег быў цвёрды, як утаптаны. Ігнат лёгка ішоў вершкі і сам не прыкмеціў, як пабег. Бег, быццам папраўдзе даганяў каго. Нейкая невядомая трывога гнала яго наперад. Замест таго каб стаяць у засадзе, як заўсёды, і чакаць, калі звер выйдзе на яго, ён сам бег па следзе, як ганчак. Услед за ганчаком.

Балота канчалася, і Ігнат прыпыніўся, прыслухаўся, ці не пачуе знаёмае «Ах! Ах! Ах!». Вакол стаяла мёртвая цішыня. За балотам след, як Ігнат і меркаваў, павярнуў у гушчар. Прадраўшыся праз лазу і крушыну, Ігнат палез у малады ельнік. Самая гушчыня была ўскрай, паўз балота, далей пайшло радзейшае, і Галус зноў перайшоў тут на свой размашысты бег.

Ужо з паўгадзіны ішоў Ігнат па следзе, добра ўгрэўся, расшпіліў верхнія гузікі куфайкі. Перад ім стаяла некалькі старых елак, далей праглядала прасветліна, ці не старая высечка, і Ігнату раптам цюкнула нечаканая думка: «Вапшчэткі, здурнеў я, няйначай. Бягу ўслед за сабакам. Даганяю яго?..»

Думка была такая простая, што Ігнат аж прыцішыў крок, і падышоўшы да старых елак, і зусім спыніўся. Рашыў закурыць. Палез у кішэню па капшук, дастаў піпку, узяў у пальцы махоркі. Уціскаў махорку і пазіраў перад сабой. У прагал між шэрымі стваламі, праз шчотку маладняку метраў за дзесяць наперадзе ўбачыў невялікую паляну. На ёй нешта мітусілася, рухалася, нібы качаўся вялізны шэры клубок. Адтуль чулася глухаватае незадаволенае гырканне.

Гэта былі ваўкі.

Як стаяў, так і застаўся стаяць Ігнат, толькі сунуў піпку ў кішэню і развярнуўся трохі ўправа, прыўзняў стрэльбу на руцэ і, прыціснуўшы ложу да бока, не цэлячыся, шарахнуў з двух ствалоў у гэты жывы клубок. Пераламаў стрэльбу, грабянуў пальцамі гільзы на снег, убіў замест іх два патроны з карцеччу, зноў ірвануў ложа да пляча.

На паляне нікога не было.

Тады ён падабраў гільзы, заткнуў у патранташ, выйшаў на паляну. Збэрсаны, узарваны многімі лапамі да зямлі снег, клочча поўсці — шэрай, воўчай, і рыжай, Галусавай, і кроў... І нашыйнік, што быў на Галусу і за

які Ігнат усяго з паўгадзіны таму дзяржаў яго. І болей нічога.

Ігнат падняў нашыйнік, патрымаў у руках, сунуў у торбу. Павольна абышоў паляну, прыглядаючыся да слядоў. Ваўкоў было аж шэсць штук, і кожны павёў след у свой бок.

«Няўжо ніводнага не дастаў? Быць не можа! Хаця, канечне, была б гэта карцеч, а то ж ішоў на лісу. І ўсё роўна: біў жа з дзесяці метраў...»

Ігнат прайшоў метраў з пяцьдзесят па адным следзе. Ніякага знаку крыві. Вярнуўся назад. Прайшоў па другім. Зноў: чысты снег і вялізныя — з перапуду,— метраў па чатыры, скачкі.

Сляды чатырох ваўкоў вялі ў адзін бок. Метраў праз сто ельнік расступіўся перад невялікай лугавінай з рэдкімі асінкамі і кустамі лазы. Выскачыўшы на яе, звяры сышліся разам і адзін за адным, ледзь не след у след, пайшлі ў глыб лесу.

На пятым следзе крокаў за сорак ад паляны Ігнат убачыў кроў. Чырвоныя, як рассыпаныя журавіны, кроплі. Крокаў праз дваццаць яшчэ некалькі чырвоных шарыкаў — і ўсё. Відаць, рана не страшная, недзе калупнула трохі.

Выйшаў на апошні след, лаючы сябе: дурань, трэба было перазарадзіць. У тым крывавым ап'яненні, з якім ваўкі рвалі на кавалкі беднага сабаку, яны нічога не чулі і не пачулі б... І тут ён убачыў кроў. Не некалькі кропель, а добрую пляму, крокаў праз дзесяць — яшчэ.

«Ага, табе-то я ўгадзіў,— са злосным задавальненнем падумаў Ігнат.— І добра ўгадзіў!»

Звер ішоў на трох нагах, амаль не чапляючы снег чацвёртай — пярэдняй левай. Відаць, была перабіта лапатка: лапа столькі крыві не дасць.

Прайшоўшы з паўкіламетра, воўк прылёг пад елкай. Яго пачало тузаць. Свежыя кавалкі рванага, толькі што праглынутага з поўсцю мяса. Нібыта было калі перабіраць!

На месцы лёжкі ўвесь снег набрыняў крывёю. Пакуль выйсці з лесу, воўк лажыўся яшчэ два разы, пакідаючы пасля сябе вялікія крывавыя плямы. Кроў не паспявала замярзаць. Відаць, звер чуў блізка чалавека, уставаў і ішоў далей. Па вялізных, на ўсю чалавечую руку, слядах было відно, што гэта быў стары мацёры воўк.

«Вапшчэткі, цяпер-то ты ад мяне нідзе не дзенешся. Не, я цябе дастану, куды б ты ні завярнуў,— з помслівай упэўненасцю думаў, паўтараў па-рознаму гэтую думку Ігнат, і гэта было, бадай, адзіным суцяшэннем, якое ён мог знайсці для сябе. Цяпер ён ведаў, што калі б не набіў Галуса, калі б не прымусіў яго ісці за лісой, той быў бы з ім і быў бы жывы. Галус чуў, што паблізу пахадзілі ваўкі, і таму не хацеў ісці за лісой.— Доўга ты не наскачаш на трох лапах, у мяне не пагуляеш. Ты сваё атрымаеш, галубок. За ўсё трэба плаціць — гэта ты павінен быў бы ведаць. І чым большы ўзятак, тым большая, галубок, плата...»

Ельнік скончыўся раптоўна, адкрыўшы чыстую прастору поля, пасярод якога на пагурку стаяла старая вялікая груша. На гэту грушу і кіраваўся воўк. Ігнат убачыў яго адразу, як толькі выйшаў з лесу. Воўк таксама ўбачыў яго. Між імі было крокаў дзвесце. Яны стаялі і пазіралі адзін на аднаго: звер, стоячы на трох лапах, павярнуўшы галаву назад, насустрач чалавеку, і чалавек са стрэльбай у руках, зараджанай патронамі з карцеччу.

У звера была перабіта пярэдняя нага, ён сцёк крывёй, яго ўвесь час тузала, хоць ужо і не было чым тузаць. Усё тое жывое, цёплае, з пахучай крывёй мяса, якое ён паспеў урваць, калі яны ўсе разам накінуліся на сабаку, ужо засталося на снезе. Але ўсё роўна нутро выварочвала, гнала з сябе густую зялёную слізь.

Ваўку хацелася толькі аднаго — паляжаць. Паляжаць, і тады, можа, да яго вернецца сіла, якая ўбывала разам з вытузанымі кавалкамі мяса і крывёй, што заставаліся на снезе. Але звер ведаў, што спакойна паляжаць яму не дасць гэты чалавек. Чалавек не проста ідзе за ім. Чалавек ідзе, каб забіць яго. І таму звер стараўся не падпускаць яго блізка.

Да ваўка было крокаў сто пяцьдзесят, страляць было далёка, ды і патрэбы не было ў гэтым. Было відно, што сілы пакідаюць звера.

«Нікуды ты, галубок, не дзенешся. Нікуды. Ты сваё ўзяў, цяпер мусіш заплаціць»,— гаварыў сам сабе Ігнат, набліжаючыся да ваўка. Гаварыў, нібы хацеў пераканаць у нечым самога сябе, у справядлівасці таго, што робіць і што зараз зробіць.

Воўк прылёг на адкрытым, падпусціўшы чалавека яшчэ бліжэй, але потым устаў і пакуляўся ўгору, да

грушы. Ля грушы зноў лёг. Ігнат ішоў туды ж. Гэты раз воўк падпусціў крокаў на сто, узняў галаву, паглядзеў на паляўнічага, перайшоў на другі бок грушы, быццам схаваўся за дрэва, і зноў лёг.

Ігнат зрабіў паўкруг і зайшоў з таго ж боку. Цяпер да ваўка было крокаў семдзесят, і Ігнат ускінуў стрэльбу. Воўк не ўлежаў, устаў на ногі, і тут Ігнат стрэліў. Звера, як спружынай, падкінула ўгору метры на два, але апусціўся на зямлю ён на ногі. Пахістаўся з боку на бок, здаровая пярэдняя нага падламалася, і ён торкнуўся пысай у снег і прываліўся да грушы. Так і застаўся стаяць.

Ігнат пераразарадзіў ствол і з узведзенымі куркамі пайшоў да грушы. Воўк не варушыўся. Ігнат падышоў метраў на пяць. Воўк стаяў, як жывы; быццам капаўся лапамі ў снезе і на нейкае імгненне сунуў пысу ў раскапанае — паглядзець ці панюхаць, што там.

З грушы сарваўся камяк снегу, упаў на спіну ваўку і, рассыпаўшыся, застаўся ляжаць белым пылам. Ігнат зайшоў ад грушы і піхнуў ваўка ствалом. Звер быццам нехаця паваліўся на бок. Жоўтае, як з замутненага бурштыну, вока пазірала на чалавека з зацятай панурасцю. У кутку яго блішчэла сляза. Ігнату стала ніякавата.

Гэта пэўна быў важак. Серабрыста-шэры, шырокая, прастрочаная сівізной чорная паласа ўздоўж спіны. Адтапыраная ў ярасці верхняя губа адкрывала магутныя, вострыя, як шылы, зубы. У ваўку было не меней двух метраў. Левая лапатка і ўвесь бок пад ёй былі ў крыві.

Ігнат перадыхнуў. Звычайнай радасці паляўнічага — што ні кажы, улажыў такога ваўка! — ён сёння не адчуваў. У вушах стаяла жаласнае Галусава екатанне, помніўся вінаваты пагляд яго вачэй. Помнілася і тое, як чакаў яго апошняга стрэлу воўк, павярнуўшы галаву насустрач смерці. Пазіраў на яго і нібы пытаўся: «Што, ідзеш дабіваць?» Няма паскудней дабіваць, біць трэба адразу і насмерць. Але, бач ты, зваліў такога звера! Можа, узяць і другога ваўка — таго, чыю кроў бачыў на снезе раней?

Ён не стаў доўга затрымлівацца каля грушы. Хай воўк ляжыць; каня з саньмі ён возьме потым, а цяпер трэба ісці за другім.

Пара была пад абед. Праз кудлатыя і белыя, як воўна, воблакі спрабавала прабіцца сонца, але яго значыла па-

куль сліпучая жоўтая пляма. Жоўтыя бліскі клаліся на снег, сляпілі вочы.

Дома Ігнат есці не стаў, адно выпіў кубак крутога ўзвару. Акраец хлеба са шматком сала закруціў у палатніну і паклаў у торбу. Палову хлеба скарміў Галусу перад тым, як той пайшоў па лісіных слядах, астача з салам засталася... З якой бы ахвотай праглынуў усё гэта Галус цяпер і якімі ўдзячнымі вачыма глядзеў бы ў вочы гаспадару! «Бацька дома? — Дома.— Гармонь нова? — Нова.— Пайграць можна? — Можна». Пайгралі, вапшчэткі.

Ігнат не пайшоў назад на тую злашчасную паляну, а ўзяў наўскасяк, праз ельнік, каб выйсці на даўгую забалочаную лугавіну, якая, то сыходзячы на нішто, то разбягаючыся шырокай поймай, цягнулася аж у штыль. На поле, адкуль яны прыйшлі з Галусам і за якім хоць і далекавата было сяло і людзі, воўк наўрад ці пойдзе. Ён павінен прабірацца ў штыль. Раз не пайшоў з тымі чатырма, то павінен самастойна прабірацца ў гэты глухі лясісты куток. Ігнат пэўна ведаў, што ваўкі жывуць у тым баку. Недзе там, у карчах, павінна быць іх логава. І бабы восенню гаварылі, што бачылі там ваўкоў. Па ўсім, гэта не прышлыя — сваёй гадоўлі.

Меркаваў Ігнат правільна. След ваўка ён убачыў адразу, як толькі выйшаў на лугавіну. І тут стары снег быў цяжкі, зляжалы. Ён прыдушыў траву, абгладзіў, як не зраўняў з зямлёй, купіны, і толькі паклычаныя ветрам ды аброслыя шэранню кусцікі калянай асакі невысокімі гурбячкамі дзе-нідзе выступалі на гэтай белай посцілцы ды ў ацяжараным спакоі стаяў высокі, абраслы снегам трыснёг. Ён ішоў суцэльнай паласой далёка наперад, як забыты і не зжаты загон жыта, і Ігнат падумаў: «Вапшчэткі, трэба будзе летам дабіцца сюды з сярпом: такая страха ў хлевушок прападае». Думка гэта мільганула, як мільгае знічка на начным летнім небе, ажывіўшы яго на якое імгненне і пакінуўшы такім, якое было дагэтуль.

З левага боку, па вышэйшым, рос стары ельнік. Нават адсюль, знізу, ён выдаваў глухім і дрымучым. Гэта была Старына, пачатак Церабольскіх лясоў, хоць самі Церабольскія лясы былі адсюль кіламетраў за пятнаццаць, за ракой. Па правы бок пракідаліся рэдкія каравыя бярозкі, чэзлыя хвойкі з незайздроснымі, нібы абскубленымі вяр-

шынямі-хвосцікамі, лішні раз падкрэсліваючы, што месца гэта мала хто добры можа любіць.

Трохі далей расло некалькі старых вербалозін. Ігнат аспомніў іх яшчэ з даўніны. Адну нядаўна разадрала, астатнія трымаліся дружнай кучмастай сямейкай.

Воўк ішоў балотам. Дзве ці тры невялічкія, з капейку, чырвоныя кропкі на снезе яшчэ раз пасведчылі, што звер быў паранены. Ён два разы садзіўся, відаць, залізваў рану, але далей бег роўным спакойным трушком. Відаць, пярэпалах пасля Ігнатавага стрэлу прайшоў, і ён чуў сябе тут упэўнена.

З балацявіны след павярнуў у ельнік і, зрабіўшы паўкіламетровую дугу па гушчары, зноў вывеў на рэдкае. Ігнат пакруціў галавой: звер выбірае дарогу як хоча, а чалавек, як нявольнік, мусіць пятляць за ім.

Крыві на снезе болей не было, і хутчэй дурная ўпартасць, чым разумная сіла, вяла Ігната ўслед за ваўком: куды ж ты, падла, завернеш? Можа, пакажаш логавішчы, дзе жывяце?

Заняты гэтымі думкамі, Ігнат не адразу ўбачыў глыбокія, прысыпаныя сённяшнім снегам ямкі, што размераным ланцугом ішлі паралельна воўчаму следу. А звярнуў увагу, калі спатыкнуўся разы са тры на іх.

Гэта былі чалавечыя сляды, і чалавек ішоў даўно, яшчэ да аблівахі, па глыбокім снезе. Падумаў: «Адкуль яны тут? Каго гэта і чаго магло занесці ў гэту заглуш? У дровы? Сушняку ды буралому тут чорт-та, але ж паспрабуй дастань яго адсюль, выцягні на дарогу. Ды і чаго лезці, калі бліжэй дроў поўна. Сена? Таксама не відаць, каб дзе стаяў стажок ці ляжалі копы...»

Сляды паказвалі на вялікага грузнага чалавека. Некага ж загнала. А можа, як і ён, услед за зверам ішоў хто? Канечне, за зверам, другой прычыны не было. Тады хто? Шамаль? Толькі ён мог дапяць сюды. Але чаму не зайшоў да яго, да Ігната? Чаму не аб'явіўся ў Ліпніцы?

Павел Шамаль жыў у Селішчы. Калі адсюль браць напрасткі, то кіламетраў пяць, не меней, а па дарозе — то і ўсе сем. Талковы паляўнічы, можа, адзін такі на раён. І звера ведае, і біць умее. Ужо калі ўзяў на мушку, то ўзяў. Хоць зайца, хоць лісу. У гэтым ён, відаць, і яму, Ігнату, не паддасца. Можа, у чым-небудзь іншым, а ў гэтым... Ігнат не пераацэньваў сябе, але ведаў, што лепшага паляўнічага, чым ён сам, у раёне няма. Ды і па

вобласці яшчэ трэба паглядзець. Калі ўжо называць двух паляўнічых, то, канечне, ён ды Павел.

Мужчына для Ігната быў той, хто ўмеў трымаць стрэльбу ў руках. Стрэльба павінна быць у кожнага. Як, дапусцім, тапор ці піла. Што за мужчына без стрэльбы? Дапусцім, як ты пойдзеш на зайца ці хаця б на таго цецерука, калі баішся стрэльбы ці слаба прызвычаіўся да яе?

Сустракаліся яны з Паўлам рэдка, і ніколі не заходзіла ў іх гаворка пра тое, хто які з іх паляўнічы, але кожны з іх добра ведаў сілу другога і з маўклівай мужчынскай сур'ёзнасцю паважаў яе. Кожны раз, калі паляўнічыя сцежкі заводзілі Ігната куды-небудзь пад Селішча, ён не ленаваўся зрабіць круг, каб зайсці да Паўла. Пасядзець, пакурыць, пагаманіць. І Павел таксама не абмінаў Ігнатавай хаты.

«Значыць, Павел? Не-а... Надта вялікія сляды. Вялікія... І нібы раскоўзаныя. Быццам чалавек увесь час ішоў слізгаючыся. Слізгаючыся... А чалавек, вапшчэткі, быў не адзін. Было іх некалькі. І ішлі яны, патрапляючы след у след...»

Пад невысокенькай, прыціснутай снегам елачкай цямнелася нейкая чорная кропка. Ігнат звярнуў убок, капануў бахілам снег. Прыгарка ад бульбіны, спечанай на вуголлі.

«Хто гэта выбіраецца з дому і загадзя пячэ бульбу на вуголлі? На вуголлі бульбу пякуць толькі ў лесе. А хто гэта, выбіраючыся ў лес, бярэ з сабой сырую бульбу? Ці ў Паўла не было акрайца хлеба — сабе і сучцы?»

Цяпер Ігнат ужо і сам ішоў, стараючыся патрапляць у чужыя сляды, нібы прымяраючы свой крок, і гэта яму было няцяжка рабіць, з чаго ён зрабіў вывад, што мужчыны, якія прайшлі тут, былі высокія. Чамусьці ў яго нават не ўзнікла думкі, што гэта маглі быць жанчыны.

Крокаў праз трыццаць пад бахілам зноў зачарнелася: яшчэ адна прыгарка...

На гэтым месцы воўк крута павярнуў направа. Там, за вербалозавымі кустамі, было Гушчава дворышча. Некалі Ігнат памагаў яму пераязджаць у сяло. Цяпер ад былога двара засталіся толькі дзве яблыні. Воўк не захацеў ісці па балотцу, палез на чыстае. «Чаму? Нешта пачуў? Нешта... А можа, некага?..»

Цяпер Ігнату тое-сёе рабілася зразумелым. Можа, не

зусім зразумелым, але ён падумаў пра тое, што і тут паляўнічы нюх не падвёў яго. Вывеў на след...

Ён прайшоў яшчэ трохі за ваўком, нібы прыглядаючыся да следу, спыніўся, дастаў капшук. Натоптваў піпку, а сам чэпкім вокам азіраў месца, куды яго занесла. Балотца тут канчалася, правільней, яно адсюль пачыналася — з крыніцы, што выбівалася з-пад карча старой нахіленай елкі. Круглы год узбівала яна фантанчыкам белы пясок і парушынкі смецця — кавалачкі кары, травінкі. Ігнат быў тут разы са тры і ўсякі раз не мог не напіцца халоднай, аж ламала зубы, чыстай вады. Да крыніцы было крокаў трыццаць, але сёння ён туды не пойдзе.

Калі адсюль павярнуць налева ўгору, то неўзабаве выйдзеш на лісіныя норы. Далей будуць партызанскія зямлянкі. Іх тут пяць ці шэсць. Па ўсім — чалавечыя сляды вялі туды, да зямлянак.

Ігнат яшчэ раз павёў позіркам укруга сябе.

Лес стаяў хмуры і трывожна насцярожаны. Нерухомы, ён нібы спаў, сагрэўшыся ў снегавой адзежы. Здавалася, гэта назаўсёды, навек і нішто ніколі не парушыць гэту глухую, надоўга, маўклівасць. Рабілася няўтульна на душы ад гэтага адчування.

Раптам недзе ўгары на адной з бліжніх елак пачало зачынацца нейкае непрыкметнае варушэнне, рух,— нібы нехта асцярожна дыхнуў ці падумаў дыхнуць, але гэтага было дастаткова, каб уся наваленая на яе тоўшча снегу раптам шухнула ўніз, узарвалася снежным пылам. Елка нервова ўздрыгнула, як ад патрасення, цяжкія лапкі хапатліва захадзілі ў бакі, і спатрэбіўся ладны час, каб усё зноў аціхла, супакоілася ў ранейшай засяроджанай акамянеласці. Але цяпер ужо было зразумела, што пад снежным кажухом затаілася жыццё, яму надакучыла быць у гэтым халодным здранцвенні, і яно толькі чакае свайго моманту, каб заявіць аб сабе...

Ігнат адчуваў, што яму трэба ісці адсюль і чым хутчэй ён гэта зробіць, тым будзе лепей. Але ж не мог ён пабегчы, як гэты воўк. І не хацеў.

І ён падставіў спіну старому ельніку, чыркануў запалкай і стаў раскурваць піпку.

І тут грымнуў стрэл. Стралялі з баявой вінтоўкі, і стрэл быў такі аглушальны, што з елак і кустоў пасыпаўся снежны пух. Ігнат таргануўся ўгору, выгнуўся спі-

ной і застыў, нібы ў чаканні нечага. Запалка паляцела ў снег.

Спачатку Ігнат падумаў, што яго забілі. Ён нават нібыта адчуў кулю недзе між лапатак. Потым ён падумаў, што яго паранілі і таму ён стаіць і не падае. Потым ён зразумеў, што яго і не забілі, і не паранілі, што ён жывы, бо ён дакладна чуў, як куля прайшла недзе збоку і вышэй галавы.

І тады разам з радасцю, што ён жывы і цэлы, прыйшла і злосць, што з яго пажартавалі. Папужаць хацелі. Заспець на нечым брыдкім. Можа, нават спаймаць на трусасці. Ігнат такіх жартаў не любіў. Хочаш пагаварыць — выходзь на адкрытае. А не так, з-пад карча... Ён чыркануў другой запалкай, прыпаліў махорку, пусціў дым і адразу, нібы вырашыўшы нешта важнае для сябе, пайшоў услед за ваўком.

За Гушчавым дворышчам воўк, зрабіўшы ладны круг, увайшоў зноў у лес, але цяпер Ігнат не палез за ім, а пайшоў далей, на дарогу ў Селішча.

## XII

Павел быў дома, калоў дровы. Узрадаваўся, убачыўшы Ігната, пайшоў насустрач.

— Такая пароша, а ты трэскі шчапаеш? — спытаў Ігнат, паціскаючы яго гарачую ад тапарышча руку.

— Не шмат, як відно, і т-ты в-выхадзіў.

— Вапшчэткі, выхадзіў. Праўда, мог болей, але і таго досыць, таму і завярнуў да цябе. Запрагай каня, ды паедзем. Ваўка трэба забраць.

— Д-ды ну? — не паверыў Павел.

— Праўда.

— І д-дзе ты яго?..

— А во там, ля старога Віткоўскіх дворышча.

— Глядзі т-ты... Але ж нешта не ў настроі ты. І д-дзе сабака?

— На ваўка памяняў,— крыва ўсміхнуўся Ігнат.

— Не мані.

— Праўду кажу...

— Т-такога сабаку...

— Вапшчэткі, сабака быў добры... Але нічога не паробіш. Не мы смерць выбіраем, а смерць нас выбірае — во якое права.

Павел убіў сякеру ў калоду.

— Раз т-такое, то я зараз.

Праз якіх пару хвілін Павел выйшаў з хаты ў кажушку, падпяразаным рэменем, з бескуркоўкай у руцэ. Прайшлі на канюшню, зашчамілі ў сані сівога шустрага канька, умасціліся самі на саломе, паехалі. Конік лёгка бег па дарозе, а Ігнат вёў расказ пра свой сённяшні дзень, пра тое, як Галус не хацеў ісці за лісой і ён набіў яго, як дагнаў старога ваўка, як ішоў па слядах маладога.

— Дык к-куды, кажаш, м-малады пацягнуў? — перапытаў Павел.

— У штыль... Ведаеш Гушчава дворышча? То яно застанецца ўправа, а гэта лявей, за крыніцу.

— Д-дзе лісіныя норы?

— Ага... Прыходжу, а там нехта пабываў ужо, праўда, раней, да гэтай аблівахі. Я падумаў, хіба, можа, ты? — Ігнат гаварыў спакойным, нават абыякавым голасам, а сам пільнаваў за Паўлам, што той скажа.

Той адказаў адразу і проста:

— Н-не, я нікуды не вылазіў увесь м-месяц. А там... Мо хто с-сушняку хацеў н-нагледзець?

Ігнат пайшоў напрамую. Расказаў пра начных гасцей, пра стрэл у штылі.

Павел доўга маўчаў, потым спытаў са злосцю:

— Ч-чаго цябе папёрла т-туды, у штыль? Н-надаела галаву н-насіць на плячах?

— Вапшчэткі, не надаела. Толькі я меркаваў так: раз яны лічы што ў адкрытую прыйшлі да мяне, то нешта ж хацелі. Хлеба, цыбулі — гэта адно... А другое... Вось я і рашыў пашукаць іх і сказаць, каб выходзілі. Што яны там выседзяць? Здавацца трэба. Бо калі не здадуцца — перастраляюць. Як цецерукоў.

— Т-ты гэта ўсур'ёз? — Павел паглядзеў на Ігната, як на ненармальнага.— Т-ты думаеш, яны самі не ведаюць, што м-можна выйсці? Н-нешта ж не пускае іх.

— Што не пускае? Страх ці няведанне. Калі сказаць ім, што нічога страшнага тут няма, трэба выходзіць да людзей, калі з людзьмі жыць мысліш.

— А т-ты ведаеш, хто т-там? Нешта ж ён мысліў, ідучы ў паліцыю. М-можа, там у катарага рукі па локці ў к-крыві? Можа, той жа М-мастоўскі...

— Гэты, вапшчэткі, усё можа... Хаця стралялі ўсё-такі, каб не папасці, а?

— Сёння не п-папалі, заўтра пападуць...

Ігнат не сказаў нічога, і на тым гаворку спынілі.

Конь пачаў трывожна чмыхаць і храпці яшчэ далёка ад грушы, а пад'ехалі метраў на дваццаць — зусім заўпарціўся, палез задам на передок саней, вылузваўся з хамута. Давялося ўзяць за аброць і як не сіллю цягнуць бліжэй. Рычэла, шчэрыла зубы, натапырыўшы на спіне поўсць і кідаючыся туды-сюды ля саней, сучка.

Павел падышоў да ваўка, узяў рукой за загрывак, прыўзняў.

— Н-ну, брат, і ламіна. Саўладаць з т-такім — н-не дай бог.

— Я яму добра ўгадзіў. Паглядзі.

Ігнат паказаў на змёрзлую ў суцэльную скарынку левую лапатку, на акрываўленую галаву: у галаву ён пацэліў ужо тут, напаследак.

— Малайца. Т-такога зваліць — рэдкая ўдача.

Ігнат дастаў з торбы Галусаў нашыйнік.

— Во яна... удача.

Ваўка ўзвалілі на сані, ускінулі наверх саломы, уселіся самі. На дварэ пачынала шарэць, пайшоў снег, і трэба было спяшацца.

Было ўжо зусім цёмна, калі прыехалі ў Ліпніцу. Ігнат падвёў каня з санямі пад самы ганак. Расчынілі дзверы і праз сенцы ўвалаклі ў хату змёрзлага, як дуб, ваўка.

— Яй-божачкі, воўк? — вачам сваім не паверыла, ускінула рукамі Марына.

Ваўка прыставілі да стала. Прыцярушаная снегам спіна яго горбілася ледзь не ўровень з дошкамі. Перакрыўленая сутаргай, закасаная верхняя губа адкрывала жоўтыя зубы. Здавалася, што звер жывы, толькі затаіўся.

З бояззю, але ўсё бліжэй падступалі да ваўка дзеці. Соня і Гуня пазіралі на звера з гідлівай цікаўнасцю. Лёнік быў смялейшы за ўсіх, ён ужо разы два скубянуў ваўка за хвост.

— Укусіць! — прыстрашыў яго бацька.

— Не ўкусіць, паглядзі,— Лёнік смела дакрануўся пальцамі да каляных чорных валаскоў на воўчай пысе. І тут пачулася тое, чаго даўно чакаў Ігнат. Спытала Марына:

— А дзе та Галус, нешта не чуваць?

— Вапшчэткі, Галуса няма,— вінавата і не адразу ад-

казаў Ігнат.— Во ён замест Галуса,— Ігнат кіўнуў на ваўка.

— Разарвалі?! А божа ж мой!..— загаласіла, як па чалавеку, жонка.

Ігнат прыкрыкнуў на яе:

— Ціха, не лямантуй. Іх там цэлая гайня была. Пакуль я падаспеў, во што пакінулі.— Ігнат дастаў з торбы ўсё той жа нашыйнік, перадаў Лёніку: — На, дзяржы... Будзеш гадаваць другога Галуса.— Павярнуўся да жонкі: — А нам з чалавекам прыстрой перакусіць: і наездзіліся, і намёрзліся.

— Дзе мяркуеш лупіць яго? — спытаў Павел.

— А вот тут,— Ігнат паказаў на бэльку ля печы. У бэльку быў убіты вялікі жалезны крук, за які некалі вешалі калыску.

Ігнат прынёс з сянец вераўчаныя лейцы, расшчапіў зверу шчэлепы, зашмаргнуў мёртвым зашмаргам за пысу і зубы. Пыса выскалілася, нібы ў апошняй бяссільнай злосці. Лейцы перакінулі цераз крук, падцягнулі ваўка ўгору. Падвешаны, ён выдаваў яшчэ большы: нос быў ля самай столі, а хвост ляжаў на падлозе.

— Ну што ж, браце воўча, пачнём апошнюю аперацыю,— з сумным смехам прагаварыў Ігнат.— Сёння наша рахуба. Ты думаў, што ваша ўзяла, а выйшла невялічкая папраўка...

Назаўтра чакаць снедання Ігнат не стаў. Укінуў акраец хлеба, сала ў торбу, надзеў цёплую паддзёўку, узяў стрэльбу, патроны.

— Калі хто будзе пытацца — пацёгся недзе на зайцоў,— сказаў Марыне. Дадаў: — Зайду да Змітрака, а ад яго, відаць, у раён.

Марына акінула яго позіркам:

— Усе ведаюць, што на зайцоў ты не так адзяваешся.

— Мала што хто ведае.

— Папрасі каня. І, можа, купіў бы што дзецям.

— Як-небудзь іншым разам.

Ігнат прайшоў па сяле ў канец, павярнуў на поле, прыглядаючыся да снегу. Стрэльба ляжала на левай руцэ, правая — на курку. Так дайшоў да лесу, а там павярнуў налева. Ішоў берагам, пакуль не абагнуў сяло. Па сцежцы цераз балота выйшаў да млына. Чаму захацелася завярнуць на млын, Ігнат і сам не ведаў, але завярнуў недарма. Абышоў кругом.

Быў яшчэ прыцемак, але санны след, што вёў не з дарогі, а з поля, Ігнат убачыў добра. Туды, у поле, выходзіла закратаванае і застаўленае з сярэдзіны дашчаным шчытом акно. Ля яго нехта пахадзіў з ломам: і рама, і краты былі выдраны жыўцом. Выдзіраць была прычына: якраз перад тым змалолі дваццаць пяць пудоў жыта з суседняга калгаса «Іскра». Па муку іскраўцы павінны былі прыехаць сёння. Мяшкоў з мукой не было: нехта апярэдзіў. Можа, гэта тыя самыя «нехта»?

Ігнат пайшоў па старшыню.

Змітрок выслухаў яго моўчкі, моўчкі адзеўся, моўчкі ішоў па вуліцы. Агледзеў выдраныя краты, прайшоў па санным следзе: метрах у пяцідзесяці ад млына ён выходзіў на наезджаную ўледзянелую дарогу.

— Падымі руку і апусці. І скажы: прапала,— сказаў ён нарэшце глухім, нібы яшчэ сонным голасам.

— Падняць і апусціць руку — не штука. А ўсё-такі...— Ігнат чакаў, што скажа Змітрок.

— А ўсё-такі,— Змітрок паглядзеў Ігнату ў вочы,— зараз запражом каня, і ты адсюль прама ў раён. Гэта ўжо сур'ёзна. Раскажаш усё, ■ там скажуць, што рабіць далей. Зразумеў?

— Не дзіця, пара што-ніщто разумець.

Запрэжаны ў лёгкія санкі малады конік бег спорным трушком, і дваццаць кіламетраў да раёна не здоўжыліся.

Палазы віскатліва рыпелі на марозе, хадзілі ў бакі па раз'езджанай дарозе. Такая язда хіліць на дрымоту, але Ігнату не драмалася. Быў час шмат аб чым падумаць. А больш за ўсё вярцеліся думкі вакол падзей апошніх дзён, у якія ён быў укручаны, як свярдзёлак у бервяно: і не адкручваць назад, і не вырваць. Заставалася адно — круціць далей. Начныя госці, лісіны след, Галус, ваўкі, раскоўзаныя чалавечыя сляды, чорныя бульбяныя прыгаркі, стрэл у штылі... Цяпер млын... Адважыцца на такое мог вельмі рызыковы чалавек. «Можа, хлеб ёсць, гаспадынька?» Якраз так прасілі хлеба салдаты-акружэнцы ў пачатку вайны, прабіраючыся па тылах услед за лініяй фронту. Якраз так прасілі хлеба яны з Цімохам на Віцебшчыне, пакуль не сустрэлі партызанаў...

«Можа, хлеб ёсць?..» Які «хлеб», якое «можа»? Якое яны маюць права? І зноў жа: чаму так сталася? Сустрэліся б яны ў вайну — усё зразумела: вораг ёсць вораг. Адкуль жа гэтая мяккасць у яго цяпер? Трэба было ўба-

чыць тое, што яны натварылі ў Полі, трэба было пачуць голас кулі ля галавы, каб вярнулася сапраўдная злосць?.. Хацелася думаць, што ўсё гэта несур'ёзна. Нічога сабе жарты...

«І ты ім даў хлеба?» Даў, даў! Таго хлеба, якога не здагадаўся занесці яе дзецям.

Ён адчуваў, ён быў упэўнены, што ў штылі за ім сачылі, ён быў на мушцы. Там можна было яго прыхлопнуць, можна было. А што далей? Чалавек не вярнуўся з палявання, яго пойдуць шукаць, абавязкова пойдуць. І знойдуць усё. Не, лепей ціха. А можа, ён нічога і не ўбачыў? А калі ўбачыў ды калі мае розум, будзе трымаць язык за зубамі. А калі не мае розуму, калі дурны? Тады што?.. Тады будзе тое, што ёсць. Мала што вы хацелі, мала што вы хочаце... На кожнае хоцькі заўсёды знойдзецца абруч, а абруч цяжка разарваць, нават калі вялікую сілу прылажыць.

Лейтэнанту Галабурдаву было трохі болей за дваццаць, але і гэтага веку стала на вайну. Дайшоў да Германіі, прывёз адтуль некалькі асколкаў у целе і даволі пустую і незразумелую прымаўку «Хэндэ хох унд зыбэнзыбэн», якую паўтараў без усякай на тое патрэбы. Існі ў запас не захацеў — папрасіўся ў міліцыю.

Работа ў міліцыі заўсёды клопатная — то ўкралі, то забілі, а ты разбірайся,— але жыць можна было б, калі б не гэтыя хлопчыкі. Банду ўзялі летась пад Галынкай: два былі забітыя ў перастрэлцы, пяцёра здаліся, а трое вылузнуліся. І вылузнуліся толькі таму, што не былі «дома», як бралі ўсіх. Лейтэнант ведаў усіх трох. Нехта Севярын з Браншчыны, Стась Мастоўскі з Ліпніцы і яго «ад'ютант», яго цень Любамір. Колькі месяцаў пасля Гончы маўчалі, а гэта падалі голас. І на што толькі спадзяюцца?.. Хаця «на што»... Ні на што...

Лейтэнант ехаў разам з Ігнатам. Сядзеў на гэтых санях таксама немалады маўклівы сяржант Сілівончык, на саломе ляжалі аўтаматы, стрэльбы. Услед за іхнімі санямі ішлі другія, на тых было чатыры чалавекі, таксама ўсе пры зброі.

Ехалі ў штыль, да партызанскіх зямлянак. Маўчалі, калі не лічыць колькіх скупых слоў, якімі перакінуліся лейтэнант і Ігнат.

— Скажыце, а чаму вы не прыйшлі да нас учора? Адразу, як па вас стрэлілі? — спытаў лейтэнант.

— Учора не мог. Ваўка цёмначы прывёз. Ды, вапшчэткі, адкуль я мог ведаць, хто страляў,— адказаў Ігнат.

— Воўк ваўком... А тут... яны прыходзяць да вас сярод ночы, вы выносіце ім хлеба, цыбулі, замест таго каб... У вас жа стрэльба, і вы добры стралок. Можа, у вас з Мастоўскім якое сродства? — наставаў лейтэнант.

— Далёкімі суседзямі былі, у адным калгасе былі, а да сродства, дзякуй Богу, не дайшло, а цяпер, відно, і ніколі не дойдзе. А стрэльба ёсць, во яна,— Ігнат паказаў вачыма на салому.— Стрэльба ёсць, і страляць з яе ўмею... Але страляць з-за вугла, не ведаючы, у каго... Адно — адкрытая гаворка, вочы ў вочы, а другое, як сабаку, з-за вугла... Людзі ж мы, а не абы-хто...

— Адкрытая... У вас адкрытая, у іх закрытая... Хіба ж так дагаворышся? — ухмыльнуўся лейтэнант.

— Не ведаю... Як па-мойму, дык іх трэба ўзяць. Узяць і судзіць... Каб усе ведалі...

— Возьмем... Не сёння, дык заўтра, а возьмем,— лейтэнант стукнуў кулаком па біліне.

Да партызанскіх зямлянак паспелі завідна. Падыходзілі з трох бакоў з самай строгай перасцярожлівасцю.

Зямлянкі былі пустыя. У трох ніхто не жыў з тых часоў, як іх пакінулі партызаны. Чацвёртая была ператворана ў адхожае месца. У пятай, самай вялікай, яшчэ не паспеў выветрыцца даўкі дух нядаўняга людскога прыстанішча. На нарах — свежая, не перацёртая салома, у жалезнай печцы — пакрытае шызым попелам вуголле, ля парога — сухія дровы. Відно было, што зямлянку пакінулі нядаўна, дзень ці два назад. Пра гэта гаварылі і сляды, што вялі ад зямлянкі да крыніцы.

Ігнат і лейтэнант Галабурдаў стаялі ля сучкаватай, нахіленай у бок балотца елкі. Расла яна на невялікім грудку, з-пад якога, як з нішы, прыхаванай навіслым карэннем, і выцякала крынічка — маленькі, вымыты ў пяску сподачак, заліты празрыстай вадой. Са сподачка праз вузенькую вымоіну вада адразу ішла пад снег, хаваючы ад нявопытнага вока сваю жывую неспакойную сілу.

— Цяпер яны зноў затояцца месяцы на два,— прагаварыў з жалем Галабурдаў.

— Лічы, да вясны. Ага, да вясны. Я ішоў за ваўком. Ён павярнуў направа вунь там,— Ігнат паказаў на старыя

вербалозы.— Яно можна было і мне туды, але калі памужчынску, то надта карцела дазнацца: якому-та добраму чалавеку не сядзіцца ў цяпле, каго занесла сюды? Былі падазрэнні, што гэта мог быць і Стась Мастоўскі.

— І вы адзін?..

— Вапшчэткі, некалі на самым пачатку вайны камандзір мой, лейтэнант Зелянкоў, гаварыў: на танк ідуць у адзіночку. А ў мяне да Стася свая прэтэнзія. Ды і са стрэльбай я, два ствалы. А з дому выходзіў яшчэ і з сабакам. Гэта тут усё пераігралася.

— Магло і болей пераігрworld. Хэндэ хох унд зыбэнзыбэн!

— Магло? А можа, і магло,— Ігнат пашкроб патыліцу.— Я табе скажу, гэта цяпер тут стала людна, а некалі, аж да самай вайны, тут дайжа і мядзведзі вадзіліся. Невялічкія, рыжыя, у нас іх мурашнікамі завуць. І адзін раз было так: пайшлі нарыхтоўваць дровы Сырамалот Ясь і Пац Міхайла, абое з Ганаратава, суседзі. Што нарыхтавалі, а гэта разышліся яшчэ нагледзець сушняку. Сырамалот ідзе і бача вялікі муравейнік, а з яго, з сярэдзіны, нібыта нехта смецце выкідвае. Падажджэ ды і падкіне ўгору, падажджэ і падкіне. Быццам баба на ветры проса вее. Ясь чалавек цікаўны, ды і кожнаму захацелася б зірнуць, што там такое творыцца. Наблізіўся да муравейніка, аж там усярэдзіне, як дзіця ў кучы пяску, мядзведзік, мурашак цярэбіць. Закапаўся, што і галавы не відно, ды і работа цікавая. Ясь змікіціў адразу: добры кажушок жонцы будзе. Вырашыў чалавек накрыць мядзведзіка ў яме, якую той сам сабе выкапаў. Ясь быў мужчына кіло на восемдзесят, а колькі там таго мядзведзіка. Для парадку ён цюкнуў яго абухом па цемю, а пасля і сам наваліўся ззаду. І што выйшла? Відаць, слаба цюкнуў, ці абух каўзануўся па касці, у мядзведзя на лобе яна цвёрдая, як метал. Мала хто любіць, каб яго абдымалі ззаду, а звер тым болей. Мядзведзік не захацеў стаяць спіной да чалавека, павярнуўся мордай. Так здаваўся маленькі, з авечку, а як устаў на ногі, дык і да барады дастае. Смуродам дыхае. І што пагана — лапы наравіць пусціць у работу. Ясь адпіхнуў некалькі разоў, але бача, што не паласа, крык падняў. Добра, што Міхайла адышоўся не надта далёка. Падбягае, а яны качаюцца па зямлі, бараюцца, чалавек і мядзведзь. Мядзведзь такі дабраўся лапай да Ясевай патыліцы, грабянуў і шкуру

разам з валасамі, як рукаўку, на нос уздзеў. Міхайла чалавек бывалы, без нажа ў лес не ходзіць. Ён і варсануў мядзведзю пад лапатку. А пасля давай Яся ратаваць. Вывернуў назад валасы, парваў нацельную кашулю, перавязаў збольшага — ды да амбулаторыі.

— Усё гэта так,— засмяяўся лейтэнант Галабурдаў і спытаў сур'ёзна:— А быў бы гэты Ясь адзін, га?

— Мядзведзь задраў бы яго. Як піць даць задраў,— прагаварыў Ігнат з цвёрдай, ледзь не вясёлай упэўненасцю.— Гэта ж мядзведзь, звер. Калі папусціўся ў самым пачатку, усё, гамон. Ды і так. Каму гэта падабаецца, каб з жывога шкуру здзявалі і на кажух пускалі? А на танк ідуць у адзіночку, лейтэнант.

Лейтэнант Галабурдаў з цёплай цікаўнасцю паглядзеў на Ігната, сумна ўсміхнуўся:

— І ўсё-такі лепей ісці з гарматай.— У вясёлых вірлатых вачах яго стаяла заклапочанасць: ён не ведаў, што дакладваць капітану, свайму начальніку.

## XIII

Ігнат сядзеў за сталом, абедаў. Рэдка калі выпадала абедаць дома і гэтак спакойна, бо ўсё болей на бягу, усухамятку — ці на млыне, ці ў полі, ці ў лесе...

Капуста добра ўмлела ў горача напаленай печы, адтуль густа пахла смажаным мясам, але мяса Марына сёння не дала, пакідае на Вялікдзень. Яна так рашыла, хай так і будзе. Бог — Богам, а людзі — людзьмі. Хочацца зрабіць сабе свята — вось і робяць, шукаюць дзе толькі можна.

Хата была вымыта, выскаблена, ярка свяціліся свежапабеленая печ і столь, ясна блішчэлі вокны чыстымі шыбамі. Ігнат еў і праз гэтыя чыстыя шыбы пазіраў на вуліцу. Сад, за садам плот, за плотам дарога, Цімохаў двор... Адтуль парывамі замахвала дымам: Цімох паліў на сотках леташні бульбешнік. Бульбешнік то ўгараўся, белыя клубы кідаліся ўгору, то сырое націнне хлупіла агонь, і тады шлейфы дыму паўзлі з сотак на вуліцу.

«Жмот. Шкадуе лінуць газы, сам хлупіцца і людзей хлупіць»,— нязлосна падумаў Ігнат пра суседа, калі вецер зноў завярнуў у гэты бок і чарната папаўзла цераз вуліцу ў агарод. Папаўзла, засланіўшы ўсё, нават бліжэйшая да акна яблыня відна была толькі знізу, ад зямлі.

Дым зараз жа растаў, нібы асеў на зямлю, і тады Ігнат убачыў на вуліцы напроці свайго дома двух чалавек. Адзін з аўтаматам, другі з карабінам на плячы, яны спакойна зразалі дарогу да яго, Ігнатавых, варот. Першага, высокага, Ігнат пазнаў: гэта быў Стась Мастоўскі. Другі быў незнаёмы. Яны ішлі ў яго двор і пазіралі на яго хату.

Ігнат з'ехаў з табурэта, матануў за дзверы. Марына канчала мыць падлогу ў сенцах.

— Мяне няма дома,— кінуў ён здушаным голасам, сігануў па драбіне на гару, адкінуў драбіну ад сцяны да сярэдняй бэлькі.

Марына нічога не разумела, адчула толькі, што здарылася нешта нечаканае. На ганку пачуліся галасы, і ўслед за імі ў сенцы зайшлі Стась Мастоўскі і малады, з чорнымі вусікамі хлопец.

— Не чакалі? — спытаў Стась з нервовай ухмылкай, таргануўшы правым кутком губ. Губа ў яго торгалася і да вайны, а цяпер, здаецца, стала торгацца яшчэ болей.

— Не чакалі,— больш здзіўлена, чым спалохана, адказала Марына, перавёўшы позірк са Стася на другога чалавека. Гэта быў зусім яшчэ хлапчук з далікатным, як у дзяўчыны, тварам і светлымі блакітнымі вачыма. «Колькі ж табе гадоў?» Марына пазнала яго. Гэта ён прасіў у яе хлеба. Толькі ноччу ён выдаваў нашмат старэйшым.

Яна стаяла над вядром з бруднай вадой, з мокрай анучай у руках, з закасанымі па локаць рукавамі, з падаткнутай спераду, каб не захлюпацца, спадніцай. Улавіла напружана-засяроджаны позірк Стасевых вачэй на сваіх аголеных нагах і спуджана-імгненны, як бляск маланкі, позірк яго напарніка. Выкруціла анучу над вядром, выцерла рукі аб фартух, правёўшы імі ад паясніцы ўніз, і фартух разам з падалом спадніцы нібы самі сабой саслізнулі ўніз, схаваўшы ногі.

— Не чакалі,— паўтарыла, расцягваючы словы.— Але раз прыйшлі, заходзьце ў хату.

— Дзе Ігнат? — рэзка, як на допыце, спытаў Стась.

— На рабоце, дзе ж яму быць,— Марына прачыніла дзверы ў хату, першая ступіла цераз парог.

— А нам перадалі, што ён пайшоў дамоў,— сказаў Стась, пераступаючы за ёй у хату. За ім зайшоў і яго напарнік.

Стась аббег быстрым вокам хату, усунуў галаву за перагародку, зірнуў на печ, падышоў да стала, крута павярнуўся да напарніка:

— Любамір, правер на гары. Ён толькі што быў тут, бач, не паспеў яшчэ і капусту даесці.

— Шмат ты ведаеш, хто паспеў, хто не паспеў. Калі б па-людску, можа, і вас магла б пакарміць.— Марына яўна нарывалася на сварку.

— Недаедкі нам не трэба,— зноў гэтак жа рэзка сказаў Стась.

— Недаедкі?! — Марына, здавалася, старалася дайсці да сэнсу гэтага слова, хаця сама прыслухоўвалася да таго, што рабіў Стасеў напарнік у сенцах. Вось ён прыставіў драбіну да сцяны, падняўся на дзве прыступкі, спыніўся — ці не хоча, ці баіцца лезці вышэй.— Тады вы не галодныя.

— Няўжо вы думаеце, што мы будзем чакаць, пакуль нас пакормяць.— Стась зрабіў націск на слове «вы».

— Вы не чакаеце, вы «просіце»?

Стась бліснуў вачыма, губа яго тарганулася, але ён нічога не паспеў сказаць: вярнуўся ў хату напарнік. Сказаў коратка, як адсекшы:

— Там нікога няма.

Стась стаяў спіной да дзвярэй, прагаварыў хрыпла:

— Шкода, што размінуліся... Хаця, можа, яшчэ ўбачымся? А? — Гаварыў нібы сам сабе, але пазіраў на Марыну. Павярнуўся да напарніка.— Ідзі да дзядзькі, хай зробіць вячэру.

Хлопец стаяў, не хацеў ісці.

— Любамір, я ж табе казаў: трэцяя хата з левага крыла, вунь ліпы відны. Скажы, што я зараз прыйду.

Хлопец яшчэ нешта раздумваў, потым крута павярнуўся і выйшаў. Яго постаць з тонкім, як прутох, ствалом карабіна за шыяй мільганула паўз акно.

— Што ты маеш да Ігната? — спытала Марына.

— Я хацеў спытаць у яго самога: што ён мае да мяне? Чаго ён ходзіць у мяне па пятах? Вынюхвае, выследжвае...

— Можа, хацеў сказаць, каб не бадзяліся па лясах, а ішлі здавацца, калі хочаце...— Марына не дагаварыла. Яна супакоілася, адчула, што бяда прайшла стараной.

— Мала што мы хочам...— нервовая ўхмылка зноў скрывіла Стасеў твар.— Адхацелі...

— Хай ужо ты... А навошта гэта дзіцянё водзіш за сабой?..

— А ты ведаеш, што такое застацца аднаму?

Марына маўчала.

— Ды і не такое ўжо яно і дзіцянё, як табе здаецца... Хаця... Маленькі сабачка да старасці шчанюк...— Стась засмяяўся.

— Божа мой, які ты... І тут нават...

— Я такі... І перадай свайму Ігнату, што трэці раз не прамахнуся...

— Трэці?..

— У сорак другім не крануў, хаця мог. І должан быў па законах новай уласці. Думаеш, я не ведаў, што ён быў з Вержбаловічам і Шалаём? І ляжаў бы ён з імі, калі б я не пашкадаваў... Не прамахнуўся. І цяпер...— Стась гаварыў усё гэта спакойна, нібы расказ гэты даваў яму радасць.

Марынін твар зрабіўся белы, як папера.

— Дык гэта ты страляў у яго?..

— Я, я страляў, але Любамір перамяшаў.

Марына доўга пазірала на Стася, не могучы вымавіць ні слова, ноздры яе нервова ўздрыгвалі.

— Вон! Вон з хаты! Вон!!! — раптам закрычала яна, затупала нагамі. Яна ўжо не памятала сябе.

— Ціха! Не крычы! — Стась ступіў крок наперад, схапіў яе за рукі, прыцягнуў да сябе. Марыне ў нос ударыў пах недагледжанага, даўно нямытага мужчынскага цела, даўно нездзяванай з цела потнай адзежы — знаёмы пах свінога гайна.

— Пусці! — крутанулася яна, вырываючыся. Яе аж калаціла.

— Не крычы, а то падумаюць немаведама што...— крыва ўсміхнуўся Стась, расчапляючы свае рукі.— Гэта я так, пажартаваў...

— Табе вайны было мала для жартаў, каб яшчэ і цяпер?!

— А гэта ўжо не тваёй галавы справа,— вялым голасам адказаў Стась.— І наогул, загуляўся я тут з табой. А мне яшчэ да дзядзькі трэба зайсці, велікоднага пірага паспытаць,— працягваў гаварыць Стась.— Ён хоць і не родны, а ўсё-такі дзядзька. І пірага даўно ўжо я не еў.— Стась паправіў на плячы аўтамат, пайшоў да дзвярэй, але вярнуўся.— Добрая ты баба!

Марына паматала галавой:

— Такая добрая, што ты прыйшоў у хату, каб забіць яе мужыка?!

— Мужык адно, ты другое... А ведаеш што... Вазьмі ў мяне грошы? А? Вазьмі.— Стась адшмаргнуў раменьчык на сумцы, дастаў загорнуты ў газету ладны пачак чырвоных трыццатак.— Вазьмі, у мяне іх шмат. І не бойся, ніхто пра гэта ведаць не будзе. Вазьмі! — Ён соваў у рукі Марыне грошы, яна адбівалася ад іх.

Стась засунуў грошы назад у сумку, выйшаў на двор.

Марына ўзбегла па драбіне на гару. Ігната там не было, але дзве дошкі франтона былі адціснуты знізу...

Ігнат ведаў, што ў яго распараджэнні ўсяго некалькі хвілін, і скарыстаў іх. Добра саслужыў стары ржавы тапор, які валяўся тут з даваеннага часу. Далей было проста: з гары на паддашак, адтуль на зямлю ў агарод, паўз глухую сцяну хаты за хлеў і па сотках у бок лесу. Бег, прыгнуўшыся, і ўвесь час чакаў, што зараз паласне чарга. Не паласнула. Ужо ўскочыўшы ў бераг лесу, убачыў ля курганоў спутанага каня. Хаваючыся за кустамі, дабег да яго, распутаў, ускочыў на спіну. Падганяючы і напраўляючы путам, вылецеў на дарогу ў Клубчу. Ніколі так не слалася дарога пад ногі каню, і ні адзін конь, здавалася, ніколі так не разумеў Ігната.

— Давай, галубок, давай! — гаварыў Ігнат, узмахваючы ў такт галопу рукамі, як крыллем, забыўшыся пра тое, што называе каня па імю. Конь быў з паркі, якую прывёў Змітрок з-пад Гродна. Кабыла Галубка і конь Галубы, а парка Галубая — за сталёвую з прымессю чорнага воласу масць. У артылерыстаў яны хадзілі ў пары, цягалі параконную фуру, прывыклі адзін да аднаго і тут, выйшаўшы на калгаснае жыццё, любілі хадзіць разам. Іх не разбівалі, калі трэба была парка, але калі трэба было зрабіць што-небудзь адной конскай душой — што паробіш... Так было і гэтым разам: Галубку запрэглі вазіць бульбу ад капцоў, а Галубы гуляў...

— Давай, Галубок, давай!..— паўтараў Ігнат, ашчаперыўшы нагамі гарачыя конскія бакі, і сам як не ляжаў на ім, прыпадаючы да шыі.

На кані і ў сядле ездзіць можна, толькі добра налаўчыўшыся, а без сядла, ды без прывычкі, ды галопам, ды яшчэ ладныя кіламетры... Хто рашыўся на такое,

доўга ўспамінаць будзе. Будзе ўспамінаць гэту сваю паездку і Ігнат, але гэта будзе пасля, на другі і трэці дзень, калі будзе хадзіць ураскірэчку, нібы падвесіўшы гладыш між ног. А цяпер ён падганяў коніка і шаптаў яму ласкавыя словы:

— Вапшчэткі, нам трэба паспець, Галубок, абавязкова трэба паспець. Толькі б хлопцы былі на месцы...

Хлопцы — лейтэнант Галабурдаў і шэсць салдат — былі якраз на пляцы перад сельсаветам. Быў той час, калі, перш чым распусціць людзей па хатах на начлег, лейтэнант даваў інструктаж. Сёння ён выстраіў усіх для таго, каб сказаць, што заўтра рэлігійнае свята, Вялікдзень, на якое яны як работнікі органаў не маюць такога поўнага права, як усе астатнія, паколькі ніяк не могуць ліквідаваць банду, якая сядзіць, можа, дзе-небудзь у блізкім лесе і не дае магчымасці чэсным людзям спакойна працаваць, а калі трэба, то і спраўляць свята. Банда, можа, толькі і чакае гэтага дня, каб папсаваць нервы ўсім, і ў першую чаргу ім.

Слова «банда» лейтэнант ужыў болей для постраху і каб усе па-сапраўднаму зразумелі важнасць таго факта, чаго яны тут знаходзяцца. Сам ён быў упэўнены, што банды той усяго два чалавекі — Мастоўскі і Любамір, яго «ад'ютант». Так у адзін голас гаварылі бандыты, якіх узялі ў лесе ля Гончы, так гаварыў трэці, Севярын, што тады ўцёк, а пасля прыйшоў сам.

Тры дні таму паступілі звесткі, што бачылі двух узброеных людзей у лесе ля Клубчы. Бачылі іх тры розныя чалавекі. Можа, гэта былі яны, можа, не яны. Хутчэй за ўсё яны. Ішлі адкрыта, не ўцякалі, але і да людзей блізка не падыходзілі. Рашылі здацца? Тады чаго ходзіце па лесе? Асмялелі?..

Пасылаючы сюды, капітан сказаў: «Усё, досыць. Я не ведаю, колькі іх там, але я ведаю, што яны ёсць. А іх не павінна быць. Мы павінны ведаць, што іх няма. Людзі павінны ведаць, што бандытаў няма, і спаць спакойна. Можаш — прывядзі, не можаш прывесці — прывязі. Пара. Яны дзесяць разоў маглі прыйсці з павіннай ці пусціць сабе кулю ў лоб. Збаяліся? Не захацелі? Усё, пара, досыць!.. Толькі я ўвесь час павінен ведаць, дзе вы, і нашы людзі ў сёлах павінны ведаць, дзе вас шукаць».

Галубы вынес Ігната да сельсавета якраз у той час,

калі лейтэнант збіраўся аддаць каманду «Разыдзісь!». Усе пазіралі на чалавека, што скакаў да іх па вуліцы.

Лейтэнант пазнаў чалавека на кані, а ўбачыўшы яго расчырванелы, мокры ад поту твар, зразумеў, што проста так гнаць каня той не будзе.

Спатрэбілася ўсяго некалькі хвілін, каб яны выскачылі з сяла: Ігнат на кані, а ўслед за ім, выцягнуўшыся ланцужком, сем чалавек на чале з лейтэнантам. І цяпер Ігнат не стрымліваў каня, але той ішоў роўнай рыссю, быццам разумеў, што хутчэй нельга — людзі не паспеюць за ім, і цішэй нельга — людзі могуць спазніцца.

Пад'ём на пагорак, спуск у лагчыну, кусты, сасоннік. Лес прабягалі з апошнімі промнямі сонца, і калі б быў час і людзі маглі спыніцца на якую хвіліну, то яны ўбачылі б, як залацістыя промні прыгожа прашываюць лес, абліваючы гладкія сасновыя ствалы золатам; промні дрыжаць, нібы туга напятыя ніткі, і потым нячутна, знясіленыя сваім бязважкім цяжарам, кладуцца на зямлю, а ўвесь лес поўніцца птушынымі галасамі.

У людзей не было гэтай лішняй хвіліны. Яны задыхаліся ад хуткага бегу, пот сляпіў ім вочы, і яны радаваліся, што сонца не гарачае, і добра, што яно не спяшаецца заходзіць, пакідае ім болей светлага часу.

За грэбляй ля рабіны Ігната чакаў Лёнік.

— Яны ў Міколкі! — выкрыкнуў ён, як толькі бацька параўняўся з рабінай.

— Гэта трэцяя хата па левай руцэ,— сказаў Ігнат лейтэнанту, спыняючы каня. Салдаты пабеглі наперад, абцякаючы каня, а Ігнат падхапіў Лёніка на каня, пасадзіў перад сабой і пагнаў далей.

За грэбляй, не паказваючыся з кустоў, лейтэнант даў знак спыніцца. Усе цяжка дыхалі.

— Вы свабодны,— сказаў ён Ігнату.— Дзякуй вам. Каня... хаця не, конь няхай будзе дзе-небудзь паблізу. А мы... Корбут, Ігнатовіч, за мной, па вуліцы, адсеч ад лесу. Сілівончык,— ён зірнуў на немаладога сяржанта,— Сілівончык і астатнія, гародамі паўз хлявы, акружыць двор. І — ціха, паспрабуем захапіць знянацку. І — берагчы галовы. Хэндэ хох унд зыбэн-зыбэн. Ну, пайшлі!

Першы двор ад вуліцы быў адгароджаны шчыльным плотам з сухіх яловых дручкоў, потым ішоў стары рэдзенькі штыкетнік, за якім у глыбіні сотак адзінока стаяла нізкая нежылая хата, потым быў Міколкаў двор,

абнесены сасновым частаколам. Хоць Міколку і звалі так па-дзіцячы далікатна за скупы рост, але чалавек ён быў учэпісты, рабіў усё капітальна, як навек.

Увесь канец вуліцы лейтэнант з салдатамі прабеглі на адным дыханні і на пачатку Міколкавага частаколу напароліся на самога гаспадара. Ён пабываў у Ігната, у Цімоха, нікога дома не знайшоў і цяпер не ведаў, што рабіць: у хату вяртацца не хацеў і далёка адыходзіцца таксама. Ён зусім не здзівіўся, убачыўшы ўзброеных людзей, быццам чакаў іх.

— П'юць,— сказаў адразу, нібы ў яго ўжо спыталі.

— Дзе? — спытаў лейтэнант, акідваючы вачыма двор. Да Міколкавага хлява, прыгнуўшыся, прабеглі сяржант з салдатамі.

— Другое акно па вуліцы. Стол стаіць пры самым акне...

— Акрамя іх у хаце яшчэ хто-небудзь ёсць?

— Не. Жонка і дачка адразу ўцяклі, як пачулі іх. Ну, і я во...

— Вас-то я бачу...— Лейтэнант бліснуў чорнымі вачыма на Міколку.— Дзверы адны?

— Двое. Другія ў двор, скаціне даваць і так...

— Вокны?

— Чатыры на вуліцу, тры ў гародчык, з таго боку, адно на хлеў, як і дзверы.

— Так...— Лейтэнант яшчэ раз зірнуў на Міколку.— Вам тут нечага рабіць. Давайце туды,— ён матнуў галавой у канец пасёлка.— Корбут, Сілівончык, за мной! Пазачыняць аканіцы: адзін з аднаго боку, другі — з другога. Пастка дык пастка. Хэндэ хох унд зыбэн-зыбэн. Толькі самім не высоўвацца.

— Таварыш лейтэнант, а можа, адразу гранату ў акно? — падаў ідэю адзін з салдатаў.

— Што вы, хлопцы... Вы ж разнясеце ўвесь дом,— затрывожыўся Міколка.

— І дом, і... Паспрабуем дагаварыцца, можа, здадуцца самі, без бою... Ну...

## XIV

Ні Стась, ні Любамір не заўважылі, што дом акружаны, не пачулі яны, і як зачыніліся аканіцы на вокнах у другой палавіне дома. Міколка гаспадар быў добры,

усё, што павінна было быць змазаным, было змазана, што не павінна рыпець — не рыпела. Яны добра выпілі і спакойна закусвалі.

За акном, цераз вуліцу, за чорнай зямлёй агародаў, нібы перавернутая зубамі ўгору піла, стаяў лес, і над ім вялікім ірдзяным кругам вісела сонца. Яно завісла над самымі зубамі цёмнай пілы, быццам баялася парэзацца. Барвовы бляск лёг на буры, успацелы ад гарэлкі Стасеў твар, і ён засвяціўся, як паліваны гаршчок.

— Якое вялікае сонца,— сказаў Любамір і нервова ўсміхнуўся.

І тут у хаце пацямнела, нібы з аднаго боку на неба насунулася чорная хмара. Стась як адкусіў гурка, так і застыў, нібы да яго патыліцы прыставілі дула пісталета. Тут жа ён крутануўся, зірнуў на акно за печчу. Там, дзе было акно, стала цёмна.

— Аблажылі! — толькі і сказаў, хапаючы аўтамат. Акінуў вачыма хату. Печ стаяла пры глухой сцяне. Праз адчыненыя дзверы ў другую палавіну відаць быў ложак з гарой падушак.

— Бяры падушкі і сюды, на печ,— глуха, напаўголаса загадаў Любаміру, а сам стаў спіной да печы. Акно было перад ім, дзверы — справа.

— Навошта? — не разумеў Любамір.

— Рабі, што кажуць...

У гэты час аканіцы паволі, як самі сабой, пачалі зачыняцца. У хаце зрабілася яшчэ цямней, і Стась як стаяў з аўтаматам ля жывата, так і ўдарыў з яго трошкі вышэй падаконніка. Аканіцы адскочылі назад... Стала святлей. Стась матануўся да дзвярэй, узяў на зашчапку.

Любамір тым часам перанёс і ўскінуў на печ чатыры ці пяць падушак...

— Што ты робіш?! — закрычаў ён на Стася, калі той даў другую чаргу ў акно.— Мы ж прыйшлі здавацца...

— Я ім здамся! Бяры карабін і на печ... Гэта наш апошні бастыён...

— Ста-ась,— прастагнаў Любамір. Голас яго дрыжаў.— Я думаў, што ты хоць цяпер... Мы ж з табой угаварыліся...

— Каму сказаў! — глуха прагаварыў Стась, павярнуўшыся да яго. Дула аўтамата было настаўлена ў Любамíраў жывот. Любамір узяў карабін і палез на печ.

Чарга праз вуглавое акно нікога не зачапіла. Ледзь

не ўсю яе ўбіла ў папярочную сцяну, што дзяліла дом на дзве палавіны, але тры кулі пашчапалі сцяну над сталом — якраз там, дзе колькі хвілін таму сядзеў Любамір. Адна зачапіла графін з самагонкай. Гарэлка заліла падлогу, расплылася на ёй цёмнай плямай. І тады Стась кінуўся ад печы і секанyў у адказ. На гэту чаргу з двара не азваліся, але ў хаце стала цёмна: зачыніліся аканіцы і таго акна, ля якога яны сядзелі. Стась стаў на зачынак, паглядзеў на печ. Любамір сядзеў у кутку, выпраставшы ногі. Падушкі загароджвалі прастору ад дзвярэй і ад акна, з двух другіх бакоў былі сцены.

— Малайчына,— сказаў Стась.— Можна дзяржаць бой.

— Табе трэба бой?! — з ціхай злосцю спытаў Любамір.

Стась уважліва паглядзеў на свайго маладога напарніка.

— Пра што ты думаеш?

— Я жыць хачу... Я не магу болей, не хачу...

— Думаеш, яны табе дадуць жыць? — Стась кіўнуў галавой за сцяну.— Табе, паліцаю... Паліцаю, здрадніку... Вайна скончылася... і ты павінен быў падняць свае белыя ручкі ўгору. А ты пайшоў у банду. І трэці год гуляеш з ёй... Падумай, хлопчык...

— Я падумаў... Я нікога не забіў, нікога не прадаў...— упарта вёў Любамір.

— Ты нават так загаварыў? Хочаш сказаць, што ты чысценькі? Не-е-е, брат... Ты — здраднік! Як я ненавіджу іх усіх! І цябе разам з імі.

— Чужой крыві на маёй душы няма... А ў паліцыю мяне прымусілі пайсці...

— Можа, я прымусіў? — прашаптаў, скрывіўшы губы, Стась. Ён умошчваўся на печы, каб трымаць пад абстрэлам акно на вуліцу і дзверы.

— Не, тады ты не прымушаў... Ты пасля... пасля...— Любамір не дагаварыў.

— Што «пасля»? — перапытаў Стась. Ён стаяў на каленях, прыпёршыся плячыма да сцяны, галавой у столь, і варта было яму павярнуцца ўправа, як чорнае вочка аўтамата пазірала на Любаміра...

— Ты пасля... Ты дзяржаў мяне як заложніка... Ты баяўся застацца адзін... Ты і цяпер баішся... Стась, давай здадзімся, яшчэ не позна...— Гэта была адчайная просьба, ледзь не слёзы.

— Хлопчык, хто гэта ідзе дамоў здавацца? — усмешка, як грымаса, перакасіла Стасеў твар.— Дамоў ідуць ці як героі, ці як...— ён не дагаварыў.— Позна... Позна, мой хлопчык. І канчай пра гэта... Канчай, а не то я...

— Я канчаю... Я канчаю, але ты ведай, ведай... Я не хлопчык...— Любамір не дагаварыў. Бразнула клямка ў дзвярах на вуліцу, нехта, відаць, хацеў адчыніць дзверы. Стась прыўстаў на каленях і з-за коміна ўдарыў туды з аўтамата.

Гэтай ноччу Ліпніца не спала. Страляніна ля Міколкавай хаты зноў вярнула ўсіх да ваенных часоў, узварушыла ўсё ў памяці. Кожны ўспамінаў сваё, і кожны хацеў, каб гэта хутчэй скончылася.

Ігнат прылёг быў, не разуваючыся, на канапе, ляжаў, курыў. Устаў, выйшаў на двор. Да раніцы было яшчэ далёка. Едка пахла гноем — толькі ўчора выкінуў з хлява. Гатовая да сяўбы зямля чакала плуга.

Ігнат доўга ўзіраўся ў бок Міколкавага двара. Наперадзе ясна азначаліся ліпы Цімохавай прысады, далей было цёмна. І калі цішыню разарвала прыглушаная аўтаматная чарга — стралялі з хаты,— не вытрымаў, пайшоў у той бок.

— Хто тут швэндаецца? — спыніў яго на рагу Міколкавага двара насцярожаны голас лейтэнанта Галабурдава.

— Вапшчэткі, гэта я,— адказаў Ігнат.

— Не спіцца?

— Стральба не дае. Можа, пагаварыць з імі, каб здаваліся?

— Я ўжо гаварыў. Пустое. Хаця...— лейтэнант махнуў рукой.— Гавары.

— Стась, гэта я, вапшчэткі, і паслухай, што я маю табе сказаць,— пачаў Ігнат, затуліўшыся за вугал дома. Цішыня ночы была адказам яму, і ён стаў гаварыць далей. Не гаварыў, а крычаў, каб пачулі ў хаце.— Ва ўсім ёсць свой канец, і ён заўсёды прыходзіць, любім мы гэта ці не, і калі ў цябе застаўся элемент розуму, ты перастанеш шчапаць хату і прызнаешся: «Хлопцы, я здаюся». Бо на тым свеце наўрад ці хто набярэцца цярпення гаварыць з табой так чэсна, як тут, хоць ты і адрокся сваіх, пайшоў да немцаў, служыў ім, уцякаў з імі, і зноў вярнуўся назад, каб туляцца па лясах. Калі ўзяць галаву ў рукі, то каму ты, вапшчэткі, цяпер трэба? Нікому і нідзе.

Пасля таго як ты прадаў немцам Хведара і Ляксандру, я шукаў цябе, я ведаў, што мы сустрэнемся, і бачыш, так яно і выйшла.— Ігнат перадыхнуў, але тут пачулася аўтаматная чарга, з дзвярэй паляцелі трэскі.

— Што ты чэшаш, як маленькі, хіба так адзічэў ужо, што нічога не шкода? Твайму ж дзядзьку жыць у гэтай хаце. Некалі ты хацеў, каб людзі думалі, што ты смелы, а цяпер акрамя як праз аўтамат і слова сказаць не ўмееш. Я гэта, вапшчэткі, гавару для таго, каб ты помніў, што вайна на злосці дзержыцца, і ты дарэмна хочаш распаліць яе ва ўсіх за тое, што загнаў сябе ў такі тупік, калі трэба ці падняць рукі ўгору, ці зрабіць другое што якое смелае. Лейтэнант Галабурдаў абяцае вам жыццё і справядлівы суд, і самі вы ведаеце, што дабравольная здача дае болей права на памілаванне, чым пустая стральба. І думаць пра гэта засталося вам няшмат, бо калі хлопцы каго пачалі выкурваць, то ўжо выкураць.

Ігнат змоўк, і тады пачуўся хрыплаваты Стасеў голас:

— Ну вось што, агітатар, пагаварыў і заткніся. Ты ведаеш сваё, у мяне — сваё. Бачу, дарма я некалі пашкадаваў цябе.

— Вапшчэткі, ты і ўзапраўду забіў бы мяне?

Маўчанне, потым адказ:

— Трэба было.

— Хацеў бы я ведаць: а за што?

— За ўсё...

— «Усё» — гэта нішто. «Усяго» разам не бывае...

— Надта вялікія вы мудрацы былі... І надта вам хацелася пастрыгчы ўсіх пад свой грэбень...

— Дык ты знайшоў нямецкі... І стрыг, колькі мог, а не думаў, што ён кругом жалезны. Што разам з валасамі і галовы стрыжэ.

— Вайна ёсць вайна. А вы і ў міры хацелі маёй смерці.

— А гэта, вапшчэткі, няпраўда. Ты гэта ведаеш... Яна і цяпер нікому не трэба.

— Тады што вам трэба?

— Каб ты перастаў страляць. Сваімі стрэламі ты ўзарваў усё сяло... Ты не думаеш нават пра тое, што недзе не спіць твая маці, слухае, як табе тут весела...

На нейкі час павісла цішыня, потым раздаўся глухі Стасеў голас:

— Ты маёй маці не кратай... Яна ўсё ведае. А што

не ведае, я сам ёй раскажу... Сам! — Стась сарваўся на крык, мацюкнуўся і зноў паласнуў з аўтамата.

Ігнат не захацеў болей нічога гаварыць.

Аўтамат змоўк, выплюнуўшы чарговую порцыю гільз і парахавога смуроду, і зноў стала ціха. Ціха ў хаце, ціха на дварэ. Толькі ходзікі на сцяне працягвалі настойліва паўтараць адно і тое ж пытанне: «Ці так? Ці так?..»

Тры дні таму Стась заходзіў дамоў. Прайшлі ноччу з агародаў, доўга слухалі цішыню, баючыся засады. Любамір застаўся на двары, Стась зайшоў у хату. Дзверы былі не запёртыя, маці чакала яго.

— Стась, гэта ты? — першае, што пачуў ён, зачыніўшы за сабой дзверы.

— Я,— глуха адказаў ён. Ён з зімы не заходзіў дамоў. Кружыў недалёка, а дамоў не заходзіў.

— Я ведала, што ты прыйдзеш,— сказала яна і без падказкі пачала завешваць вокны, запаліла лямпу. Стась паклаў аўтамат на лаўку, а сам цяжка сеў ля стала. Быў ён зарослы, і твар выдаваў чорным, хоць валасы не былі такімі.

— Можа, я пастаўлю вады, памыешся? — спытала маці.

— Не, вады не трэба, а калі б зварыла бульбы, мы паелі б.

— Ты не адзін?

Стась незразумела ўсміхнуўся:

— На двары ёсць яшчэ адзін... чалавек. Я яго пазаву трошкі пазней. А пакуль я хачу пакінуць табе грошай.

Маці распальвала на прыпечку агонь. Яна наліла ў чыгунок вады, паставіла на трыножку.

— Куды я з імі? Ды і... нашто яны мне?

— Не бойся, гэта не чые-небудзь. Проста мы канфіскавалі...

— Чаго ўжо мне баяцца. Я і так жыву і пражыву. А як вы? Было два сыны, зяць, застаўся адзін і той...

— Я хачу пакінуць табе грошай,— з грубаватай упартасцю паўтарыў Стась.— Хачу, каб ты магла купіць што-небудзь. Хоць бы з адзежы.— Ён зірнуў на каляную, як луб, пашытую з плашч-палаткі спадніцу, што была на маці.— Неабавязкова ж заўтра ісці ў магазін і неабавязкова самой.

— Не трэба мне грошы,— адказала маці, абіраючы бульбу.— Я ўся змучылася, думаючы пра цябе.

Стась бачыў, што яна стамілася, вельмі стамілася. Бачыў ён і тое, што яго прыход у сваю хату не прынёс радасці. Ды і хіба мог ён сёння прынесці радасць?..

— Я хацела ведаць, што ты думаеш рабіць далей? — усё тым жа стомленым голасам спытала маці, падымаючы вочы ад чыгунка з бульбай.

— Я ж табе кажу: я прынёс табе грошай...

— А сам? — у голасе маці чуліся слёзы.

— Пагляджу.— Стась як сеў ля стала, так і сядзеў. Яму цяжка было не толькі паварушыць рукой ці нагой, яму цяжка было гаварыць.

— Чаму ты не хочаш павініцца, сынок?

— Баюся.— Ён гэта не сказаў, ён прашаптаў.

— Няўжо гэта страшней за смерць?

— Што смерць... Смерці баяцца толькі дзеці...— Стась паківаў галавой.

— Сюды ж ты не пабаяўся прыйсці?..

— І баяўся, і баюся... Але куды ж я пайду?.. І я хачу ведаць, што ў цябе будуць грошы.

— Павініся, Стась. Кругом жа людзі...

Грошай яна не ўзяла. І цяпер недзе не спіць. Ходзіць пазахлеўю, шоргае сваёй спадніцай. Ці стаіць, прыцiснуўшыся да плота, услухоўваецца, што ў гэтым канцы. А што... у гэтым... канцы?.. Тут ціха. Толькі гэтыя ходзікі... Хоць ты вазьмі ды з аўтамата... Ці ўзяць гранату — і ўсё разам, адным махам... А? Стась зірнуў на Любаміра. Той спаў, заціснуўшыся ў куток, цмокаючы губамі.

Развідняла быстра. Пасвятлела раптоўна, засерабрылася неба, зачарнеліся, нібы агаліліся, дрэвы.

З Ігнатавага двара добра быў відзён Міколкаў хлеў. Ігнат бачыў, як па ім, па самым вільчыку, ішоў у поўны рост чалавек. Ён ішоў з дальняга, ад лугу, канца і ў руках нёс нешта доўгае. Не дайшоўшы пару метраў да канца хлява, прапаў на тым баку, потым залёг, высунуўшыся па грудзі, прымасціў перад сабой на вільчык сваё «нешта». Гэта быў кулямёт, Ігнат добра бачыў яго.

— Канец,— сказаў ён уголас.— Цяпер-то будзе канец.

Сюды, на гэты край хлява, дзе ўладкаваўся кулямётчык, выходзіла сцяна, упрытык да якой стаяла печ у Міколкавай хаце. Чалавек з кулямётам застыў, і Ігнатава

нутро сцялася, быццам страляць павінны былі ў яго самога. Цішыня ўзарвалася доўгай чаргой. Потым была яшчэ адна чарга, потым яшчэ і яшчэ.

«Б'е па пазах. Граматна б'е,— падумаў Ігнат.— Цяпер-то дастане».

Любаміру здалося, што ён толькі задрамаў, хаця ён заснуў і праспаў гадзіны дзве, не меней. Нават і не спаў: праваліўся ў глухое небыццё і вярнуўся. Кругом было ціха, і не хацелася прачынацца. Апошняе, што чуў Любамір, былі перагаворы Стася і таго мужыка, што выйшаў на іхні след зімой.

«Вапшчэткі, ты і ўзапраўду забіў бы мяне?» — «Трэба было».— «Хацеў бы я ведаць, а за што?»

Не пара было пра гэта думаць, але Любаміру падабаўся гэты прыглушаны разважлівы голас. Чуліся ў ім праставатая наіўнасць і сіла. «Хацеў бы я ведаць, а за што?» Ці не гэта сіла і выводзіла з сябе Стася.

«...а за што?»

Любамір і зімой спрабаваў дабіцца ад Стася, чаму ён так не любіць гэтага ўпартага небаязлівага мужыка. Трусаваты ніколі не адважыўся б адкрыта, сярод белага дня выследжваць іх. Адзін, у такім дзікім месцы... Калі б Любамір не вырваў карабін, Стась застрэліў бы яго тады. Пасля ўжо ўхмыльнуўся: «А гэта ж яго свежынай ты разгавеўся...»

«Дык за што...» — «Ты гэтага не зразумееш».— «Няхай не зразумею, але за што?..» — «Яны заўсёды ў мяне на дарозе стаялі... Вержбаловіч, Шалай і ён». — «Вержбаловіча і Шалая няма... Дапусцім, не стала б і яго, гэтага...» — «Вапшчэткі...» — «Не стала б і Вапшчэткі... і што далей?» — «А далей — не твой клопат...» — «Ты зайздросціў ім. І цяпер зайздросціш. Ты не можаш дараваць ім сваёй слабасці».

У Стася стала торгацца губа. Яна торгалася заўсёды, як толькі ён пачынаў злавацца. Але Любамір доўга маўчаў дагэтуль і цяпер хацеў сказаць усё.

«Ты думаў, што сіла — гэта ўсё».— «А ты гэтага не думаў?» — «Некалі і я думаў. Але яно не так. Ёсць яшчэ нешта...»

Яны засталіся ўдвух у лесе і стараліся не гаварыць пра тое, што балела болей за ўсё і пра што кожны ўвесь час думаў. Але ўсяму ёсць канец. І цярпенню таксама.

«Ты, хлопчык, загаварыў так, быццам спасцігнуў такое, да чаго не дайшоў і я, быццам ты стаіш на другім беразе ракі...» — «Стась, мы банкруты... У нас няма іншага выхаду, як...» — «Паспрабуй толькі...» — «Трэба здавацца».— «Я табе сказаў...» — «Гэта ты можаш».— «Магу...»

Любамір расплюшчыў вочы і ўбачыў шырокую Стасеву спіну. Той сядзеў, спусціўшы ногі з печы, павярнуўшыся тварам да комінка. На комінку ў шклянцы з жытам дагарала свечка. Кволы шматок полымя цьмяна асвятляў печ, запаўняючы прастору буйнымі ценямі. Пахла воскам. Ля свечкі ляжалі рассыпаныя трыццацірублёўкі. Стась браў іх па адной, падносіў да агню. Грошы загараліся не адразу, але гарэлі весела і асвятлялі не толькі печ, а і ўсю гэту палавіну хаты. І Стасеў цень з вялізнай галавой і масіўнымі плячыма лажыўся на столь, ламаўся на сцяне. Даждаўшы, калі агонь зойме ўсю купюру, Стась кідаў яе дагараць, а сам браў наступную. Ужо ладная горка попелу ўзвышалася на комінку.

— Навошта ты ўсё гэта? — ціха спытаў Любамір. Стась сабраў астатнія трыццаткі, паднёс да агню. Яны загарэліся, а свечка ўсхліпнула і патухла. Стась патрымаў нейкі час грошы ў руцэ, кінуў на комінак і тады павярнуўся да Любаміра:

— А ты думаў, я ім пакіну?..

Нічога такога Любамір не думаў.

Грошы дагарэлі, у хаце стала цёмна. Але гэта было толькі нейкі першы час. Потым азначыліся, быццам пранрэзаліся, і падступілі бліжэй лінія коміна і побач з ёй Стасеў сілуэт. Сталі відны пярочная сцяна хаты, прамавугольнік акна. Святло ішло праз зачыненыя аканіцы. Значыць, на двары наступаў дзень.

І тут яны пачулі лейтэнантаў голас. У ранішняй цішы ён гучаў асабліва звонка, нібы лейтэнант быў не на двары, а недзе тут, у хаце.

— Эй вы там, на печы... Здавайцеся, а то будзе позна! Даю вам яшчэ тры мінуты...

Стась уздрыгнуў, пацягнуў да сябе аўтамат, які ляжаў тут жа, з левай рукі. Любамір заварушыўся ў кутку, пасунуўся на край.

— Ты гэта куды?! — Стась павярнуўся ўсім целам да Любаміра.

— Туды...— Любамір кіўнуў на дзверы.

— Ану назад! — Гэта была не пагроза, гэта быў загад.

Любамір зіркнуў на Стася і, як паслухмяны школьнік, палез назад. І пацягнуў за сабой карабін.

— Дык вось, хлопчык, мы не паспелі дагаварыць з табой. Столькі разам, а сказаць усё не паспелі,— працягваў далей Стась, старанна выгаворваючы кожнае слова.— А сказаць ёсць што. Ты сказаў, што я дзяржаў цябе як заложніка. Гэта праўда, мы даўно заложнікі. Ты — мой, я — твой. Мы з табой — дзве палавінкі, дзве розныя палавінкі аднаго і таго ж. Жыццё — гэта кроў, бруд, гэта зямля, гэта гной. Гэта мая палавінка, мая. І я не хацеў пускаць цябе сюды... Ты такі мяккі, такі ласкавы... Такі граматны... У цябе такія вочы... Гэта твая палавінка. Чыстая палавінка. Я думаў, што яна і мая трошкі. І я бярог яе. І таму ты не трапіў ні ў адну з блакад, ні на адну ліквідацыю — туды, дзе стралялі і забівалі, забівалі і вешалі. Таму ты і застаўся чысценькі. Чысценькі, як дзіця, якое абгадзілася і якое падмылі. Толькі не думай, што я рабіў гэта проста так, за твае блакітныя вочкі... Ці за тое, што ты — сірата... Няшчасная сірата няшчасных бацькоў. Я думаў, я хацеў, я спадзяваўся прыйсці калі-небудзь на тваю палавінку... прыйсці пагрэцца, пагрэцца ля твайго агню. Дурань, дзе шукаў агонь...

— Перастань,— прашаптаў Любамір, адсоўваючыся ў самы куток. Кароткі французскі карабін ляжаў у яго на назе дулам у Стасеў бок. Любамір са страхам пазіраў на Стася. Той ніколі так не гаварыў з ім.

У гэты час за сцяной ударыў кулямёт. Ён біў аднекуль зверху, па пазах, і прашываў сцены наскрозь. Некалькі куль упілося ў комін, пасыпалася гліна, адна зачапіла Стася. Той тарганууся, падскочыў, але застаўся сядзець на месцы, куля чырканула па галаве над вухам. Ён заціснуў рану рукой, застагнаў — кроў цякла між пальцаў.

— Дастаў-такі... Дастаў... Дык вось... Я думаў, што ёсць палавінкі... Палавінак няма. Усё — г...но, і ўсё змяшалася ў кучу. Бездапаможны выблядак нейкага панка з пакаёўкай... Далікатны, добранькі, прыгожы трус... і чалавек...

— Ты... чалавек... Перастань! — закрычаў Любамір, прыціскаючы ложу карабіна да сябе. Ствол яго мала што не дастаў да Стасевых грудзей.

— Ты што гэта? Ты гэта што? — прашаптаў Стась,

але страху ў яго голасе не было. Стась быццам нават спрабаваў усміхнуцца.— Я хацеў, каб ты ведаў, што...

Любамір націснуў на курок. Стась выпрастаўся і стаў валіцца. Але валіўся не на хату, а да Любаміра, на печ.

Ізноў над сялом навісла цішыня.

Ціха было і ля Міколкавага двара. Усе чакалі стральбы ў адказ, але яе не было. Потым пачуўся глухі, як у бочцы, стрэл.

— З карабіна...— не то сказаў, не то спытаў у лейтэнанта сяржант.

— Пачакаем яшчэ мінут дзесяць,— прагаварыў лейтэнант. Бяссонная ноч лягла шэрай павуцінай на яго твар, вочы пачырванелі.

Лейтэнант кінуў позірк у адзін канец сяла, у другі. І ў адным канцы і ў другім відны былі людзі. Сонца ўжо адскочыла ад лесу і цяпер вісела ў шэрым небе, абяцаючы добры дзень.

— Ну што, паспрабуем? — сказаў лейтэнант.

Сяржант кіўнуў галавой. Яны стаялі за вуглом дома.

Лейтэнант махнуў рукой салдатам за хлявом. Сяржант тым часам асцярожна падняў клямку і, рэзка піхнуўшы дзверы прыбудоўкі, ускочыў усярэдзіну. Ціха. Толькі чутна было, як недзе ў хаце на сцяне чэкалі ходзікі.

— Эй вы, хто яшчэ жывы, здавайцеся! — крыкнуў сяржант.

Зноў цішыня. Тулячыся за сцяной, сяржант працягнуў руку да клямкі, рвануў пасечаныя кулямі дзверы на сябе. Дзверы расчыніліся. З хаты пацягнула смуродам нечага паленага і чалавечага калу.

Цяпер чэканне гадзінніка чулася на ўсю хату, быццам хата была даўно пустая і гадзіннік адбіваў нечы мёртвы час. Здавалася, ён усё болей спяшаўся, разганяў свой ход і чым далей — тым хутчэй...

Лейтэнант асцярожна выглянуў з-за вушака на печ. Злямчаныя, пастаўленыя рубам падушкі. Лейтэнант угнуў галаву, як бык, і ступіў цераз парог. Адначасова з ім, адціраючы лейтэнанта ўбок плячом, ступіў і сяржант.

Ціха.

Абагнулі печ.

Наверсе скрываўленых падушак і прасцін, звесіўшы ногі на зачынак, ляжаў Стась. Правая рука адкінута ўбок,

на падушку. Тут жа, на падушцы, ляжаў і аўтамат. Здавалася, скручаныя смерцю кароткія пальцы і цяпер не хацелі расставацца са зброяй. На падушцы, на якой ляжала закінутая галава, лужына крыві. На выступе коміна чорна-жоўты агарак свечкі, попел. Палілі паперу. Штук з дзесяць недагарэлых ражкоў чырвоных трыццатак. Палілі грошы.

— Гэты гатоў,— сказаў лейтэнант.— Хэнде хох унд зыбэн-зыбэн. А дзе ж другі?

Адступілі на хату і ўбачылі Любаміра. Ён хацеў схавацца ў падпечак, плечы працісну́ў у акенца, а далей пралезці не мог. Так і застаўся: галава пад печчу, зад на хату.

— Так і будзеш сядзець, ваяка? Вылазь! — скамандаваў лейтэнант, піхнуўшы нагой у сцёртую падэшву бота.

— Не магу...— прастагнаў той з падпечча. Закруціў задам, заездзіў ботамі па падлозе, спрабуючы выбрацца назад.— Не магу. У мяне рука перабіта...

— Памажыце яму,— лейтэнант кіўнуў салдатам.

Салдат прысеў на калена, узяў за ногі Любаміра. Пацягнуў на сябе — той застагнаў, але не зрушыўся з месца. Салдат сашчапіў зубы, пацягнуў з новай сілай, і Любамірава цела павольна пайшло на хату. Жмурачыся ад святла, Любамір стаў на ногі, правай рукой абцягваючы ўніз гімнасцёрку: яна загалілася, пакуль салдат выбаўляў яго з падпечча. Тонкія белыя пальцы дрыжалі. Левая рука вісела, як палена, гімнасцёрка вышэй локця закарэла ад крыві. Любамір дрыжачай рукой абцягваў гімнасцёрку, губы яго то разыходзіліся ў жаласную ўсмешку, то сходзіліся назад, вочы вінавата шукалі другія вочы і не маглі знайсці.

— Карабін мой там, за печчу... У ім чатыры патроны, праверце,— сказаў Любамір, звяртаючыся да лейтэнанта.

— Якая розніца, колькі там патронаў?..

— Чатыры... а дзевяць тут, у кішэні... Мне іх выдалі разам з карабінам, у сорак трэцім. Пятнаццаць. Яны былі ў мяне ўсю вайну. І толькі цяпер, у лесе, адзін раз стралялі з карабіна. Страляў ён, у гэтага, як яго... Але я перабунтаваў...— Любамір кіўнуў на печ.— А другі раз, сёння, страляў я, у яго...

— Хацеў адкупіцца? — спытаў лейтэнант.

— Хацеў жыць...
— А чаго пад печ палез?
— Са страху...
Сяржант панурымі напружанымі вачыма пазіраў на палоннага, на яго боты, спалатнелы дзіцячы твар, тонкія сухія губы з чорнымі вусікамі над імі і раптам узарваўся:
— Маць тваю... Ну, гэты няхай... Туды яму і дарога, а ты?!. Чаго палез? Пятнаццаць патронаў, пятнаццаць патронаў... Бацькі не было штаны спусціць?..
— У мяне нікога няма — ні бацькі, ні маці... Усіх вайна накрыла...
— Рука перавязана?
— Не да гэтага было...
— Пятнаццаць патронаў... Дайце бінт...
— І вады...— папрасіў палонны. Ён захістаўся і, каб яго не падтрымалі, упаў бы. Яго падвялі да лаўкі, пасадзілі, далі вады. Ён прагна, разліваючы ваду на гімнасцёрку, выпіў, адкінуўся плячыма да сцяны, заплюшчыў вочы. Так і сядзеў з заплюшчанымі вачыма, пакуль сяржант разразаў рукаў гімнасцёркі, змазваў рану ёдам, забінтоўваў.
У хату пачалі ісці людзі. Зайшоў Ігнат. Паглядзеў на мёртвага Стася, на недагарэлыя грошы, паківаў галавой:
— Вапшчэткі, вось і ўсё, і маеш... «Дай табе Бог розум, а мне грошы...» Ажно і яны не спатрэбіліся...

## XV

Работы напаўзалі адна на другую, і не было сілы паспець з усімі, хоць ты дзень надтачы ці ноч падоўжы. І да вайны Ігнат Сцяпанавіч рабіў самапрадкі, а вайна яшчэ болей перамяшала ход жыцця, прымусіла людзей навучыцца абшываць і адзяваць сябе, і без самапрадак тут было зусім немагчыма. Заказаў было шмат, і Ігнат Сцяпанавіч пілаваў, габляваў, тачыў да позняй ночы. Уставаў досвіткам, піпку ў зубы і ўпрагаўся ў работу далей, урастаючы нагамі ў стружкі. Вочы баяцца, а рукі робяць, і скора яго самапрадкі пралі ніткі ў кожнай ліпніцкай хаце, і не толькі ў ліпніцкай...
Думаў Ігнат Сцяпанавіч, што адваяваў сваё, што адышла яго вайна разам з перастрэлкай у Міколкавай хаце, ажно не. Напамінала яна аб сабе начамі, прыходзіла ў сутаргавай гарачцы трывожных сноў. То снілася,

што вядуць яго расстрэльваць, і расстрэльваць павінен Стась, і ён страляе — ззаду, пад левую лапатку, і Ігнат Сцяпанавіч чуе пякучы цяжар кулі, што ўвайшла ў цела, і валіцца на зямлю. Валіцца і толькі тады пачынае разумець, што ўсё гэта не папраўдзе, а ў сне... А то сасніў сваю магілу — прадаўгаваты ўтравянелы гурбячок на ціхай паляне ў лесе, зноў жа недзе там, у штылі. І так шкода было самога сябе: ён ляжыць у магіле, а кругом усё зелянее, цвіце, буяе... Некалькі дзён не мог пазбавіцца адчування, што недзе там у лесе і праўда ёсць яго магіла, хоць схадзі ды правер...

Стары хлеб з'елі, новага трэба было яшчэ даждаць, а без хлеба ні з касой, ні з рубанкам.

Сабраў Ігнат грошы, паехаў у Бабруйск. Папрасілася і Поля разам.

Выстаялі дзень у чэргах, пуды па два купілі, пазапіхвалі ў мяшкі. У вагон убіцца не змаглі — ехалі на даху, дзержачыся за вентыляцыйныя трубы. Добра, што труб гэтых было шмат. Па ўсім цягніку ляжалі такія ж, як яны, жанчыны, мужчыны, з мяшкамі, лясёнкамі. Недалёка ад Ігната з Поляй ляжала жанчына з-пад Свіслачы. Лясёнку прывязала за трубу, рукамі ўчапілася ў рагі. Гаварылі, каб не заснуць ды не забурыцца ўніз, а пасля прыціхлі. І непрыкметна задрамалі: блізілася раніца.

Задрамаў быў і Ігнат, але раптам як хто штурхануў пад бок. Расплюшчыў вочы і ўбачыў, што над жанчынай нагнуўся нейкі мужчына. Вось шахнуў фінкай па рагах лясёнкі, яны і засталіся ў руцэ ў жанчыны. Яна нічога не чула, спала. Лясёнка з хлебам была ў руках у мужчыны. Ён і не пазіраў на жанчыну, ён сачыў за Ігнатам, які ляжаў ля другой трубы, іх позіркі сустрэліся, і Ігнат убачыў, што гэта не мужчына — дзяцюк гадоў васемнаццаці. Насцярожаныя, халодныя ў сваёй рашучасці вочы. І левая і правая рукі ў Ігната былі заняты: адна з мяшком, другой дзержыцца за трубу...

— Пакладзі назад,— прагаварыў Ігнат глуха, паспеўшы падабраць нагу для прыжка.

Ускінула галаву і Поля. Дзяцюк нейкі час раздумваў, потым кінуўся ўцякаць. Уцякаў, а лясёнку з рукі не выпускаў, Ігнат кінуўся за ім:

— Стой, маць тваю!..

Іхні вагон быў у галаве цягніка, і цяпер яны беглі ў хвост, пераскокваючы цераз людзей, мяшкі, лясёнкі...

Людзі са страхам пазіралі на двух ненармальных, што беглі па вагонах.

Цягнік ішоў у полі. Прамільгнула маленькая рачулка, колы вагонаў глуха прабарабанілі па нейкім мосціку, і тут да Ігната даляцеў адчайны Полін крык. Азірнуўся: цягнік набліжаўся да маста цераз раку.

— Лажысь! — крыкнуў Ігнат дзецюку, падаючы на дах вагона. Глянуў назад: на цягнік наплывалі чорныя кроквы маста.

А дзяцюк з лясёнкай у руцэ працягваў бегчы. Яго постаць добра бачылася ў светлым краі неба, і Ігнату падумалася, што, можа, ён так і праскочыць.

— Лажысь! — зноў закрычаў Ігнат, і ў гэты час чорная касая пярэчка чырканула дзецюку па галаве. Ён падскочыў, быццам збіраўся даць нырца ў раку, распластаўся ў паветры і шлёпнуўся на дах вагона. Раскаціліся і пасыпаліся, як боб, уніз буханкі хлеба з развязанай лясёнкі.

Цягнік доўга стаяў на наступнай станцыі. Прыйшла міліцыя, доктар, знялі забітага з даху вагона, занеслі ў маленькі станцыйны будынак. Ударам у яго была знесена верхняя палова чэрапа. Смерць, як сказаў доктар, прыйшла імгненна. Хаця якое можа быць неімгненна: паўгалавы няма і замест мазгоў студзяністая шэрая каша. Ніякіх дакументаў пры забітым не знайшлі, адно — прышыты да падкладкі куфайкі чахол ад фінкі. Не для забаўкі прышываў і, відаць, не першы раз паказваў яе.

Допыт міліцыянер здымаў тут жа: што, як, чаму?

Плакала жанчына з-пад Свіслачы, паўтарала: «Чым жа я дзяцей карміць буду?..» У яе іх было трое, і на ўсіх іх сабралі людзі буханак пяць хлеба. Дадаў туды і Ігнат свае дзве.

Плакала Поля, цярэбячы пальцамі рагі хусткі. Такі малады хлопец, яму б жыць ды жыць, а гэта во згрузілі на нейкай станцыі — дзе яго радня, дзе хата?..

Пасля ўжо, калі ішлі са сваёй станцыі дамоў, яна расказвала Ігнату: «Учапілася я ў мяшкі, дзяржу іх і сама дзяржуся за трубу і бачу, як ты даганяеш яго. І што мяне таўханула глянуць наперад, аж на паравоз наязджае чорная рама маста. Зірнула назад: вы ўсё яшчэ бежыцё, нічога не бачыце... І тады я закрычала...»

Гэты крык Ігната і выратаваў.

На паўдарозе да Ліпніцы Ігнату стала дрэнна. Спа-

чатку кінула ў холад, потым у жар, стала не хапаць дыхання, чужымі, ватнымі зрабіліся ногі, і сам увесь стаў чужы, вялы. Ігнат ведаў, што гэта такое. Гэта была яна, кантузія. І так доўга яна не чапала яго, як шкадавала... Трэба было паспрабаваць недзе адляжацца...

Метрах у ста ад дарогі стаяла сціpта саломы, звярнулі туды. Поля забрала Ігнатаў мяшок. Ігнат ледзь пераставуляў ногі. Ён чакаў, ён ведаў, што вось-вось павінен пачацца прыступ...

Поля хуценька наскубла саломы, зрабіла пасцель, палажыла Ігната. Расшпіліла паддзёўку, кашулю, паслухала сэрца: яно білася як шалёнае.

— Вапшчэткі, ты ўжо думаеш, можа, саўсім перастала біцца? — з натугай прамовіў Ігнат. Ён ляжаў, адкінуўшы галаву. Папрасіў, цяжка варочаючы языком: — Ты не глядзі на мяне, адвярніся.

На губах яго выступіла пена, яго пачало кідаць. Потым ён доўга ляжаў, заплюшчыўшы вочы. Поля расціpала яму грудзі — кругамі, займаючы болей і болей. Спачатку рука яе была халодная, сухая, потым разагрэлася, памякчэла. Ігнату прыемна было чуць гэтую крэпкую руку на сваім целе, ён адчуваў, што яму робіцца лягчэй дыхаць, пацягнула на сон. Не заўважыў, як праваліўся ў забыццё, а калі расплюшчыў вочы, Поля ўсё гэтак жа масажыравала яго грудзі. Рабіла яна гэта цішэй і мякчэй, і вочы яе пазіралі некуды далёка. На верхняй губе бліш-чэлі канаплінкі поту.

— Са мной што-небудзь было? — спытаў, цяжка расціскаючы зубы. Язык не слухаўся.

— Нічога... Спачатку кідаўся, а пасля заснуў.

— Значыць, пранесла... А ў цябе пот,— ціха сказаў Ігнат. Поля павярнула да яго твар, усміхнулася.

— Во тут,— Ігнат дакрануўся пальцамі да Полінай губы, сцёр пот, паказаў Полі мокрыя пальцы.

— Смелая твая Марына,— сказала Поля.

— Чаму гэта смелая?

— Не баіцца адпускаць аднаго...

— Яна нічога не ведае... Не ведае, што з-за прыпадкаў я і не пісаў. Баяўся: схопіць разам і не адпусціць. То ўжо хай так, па-ваеннаму: пайшоў — і не вярнуўся.

— ...Я не пра тое. Не баіцца адпускаць з чужымі бабамі...

— А тут, вапшчэткі, мусіць, так: бойся не бойся, а ад свайго не ўцячэш.

Поля нічога не сказала.

Потым была сярэдзіна лета, самая гарачыня. Поля папрасіла, каб Ігнат пасобіў нарабіць цэглы. Паленай на ўсю печ не знайшла, добра, што хоць на комін прывезла, а ў хаце і сырэц будзе ляжаць.

Рабілі цэглу тут жа, ля плота на вуліцы. Гліна была добрая, густа-чырвоная, і ляжала неглыбока — меней метра. Мясілі зноў жа на месцы, у той жа раскапанай яме. Нялёгкая гэта работа мясіць гліну, і мясілі паперам енна — то ён, то Поля.

Ігнат прысеў перакурыць на рог лаўкі, на якой ляжала і форма для цэглы. Высока падабраўшы спадніцу, каб не выпацкаць, Поля важка пераступала нагамі, з натугай выцягваючы іх з густога чырвонага цеста. Гліна не бралася за ногі, значыць, была вымешана.

— Зірні, Ігнат, ці не гатова? — спытала Поля, адкідваючы тыльным бокам рукі пасму валасоў з ілба.

Ігнат узняў вочы і... папярхнуўся дымам. Ён убачыў не гліну, а загарэлыя да бурага, нібы вытачаныя з сарцавіны старога дуба, мускулістыя, моцныя лыткі, над імі — такія ж загарэлыя, акруглыя, як маленькія сподачкі, калені, адкуль пачыналася безабаронна белае, трывожнае...

— Што ты ў мяне пытаеш? Сама не чуеш? — глуха, з цяжкасцю адвёўшы вочы ад ямы, прагаварыў Ігнат.

— Я-та чую, але ж ты мужчына. Ты лепей павінен ведаць,— цяжка дыхаючы, ціха сказала Поля.

— Мужчына... Знайшла бацюшку. Добра будзе, вылазь.

Поля ўзялася за край ямы, лёгка выскачыла наверх, стала перад Ігнатам.

— А ногі, вапшчэткі, у цябе спраўныя. Іх бы ў хромавыя боцікі ці ў лодачкі...

— Во мае боцікі, Ігнат. На ўсе ўдовіны гады пашытыя,— з горыччу, гатовай перабіцца на слёзы, прагаварыла Поля. А ногі яе ў палавіну лытак і праўда нібы былі абшыты нечым замшавым, цёмна-шакаладным... Поля пазірала на Ігната, і яго працінала наскрозь прыхаваная раптоўным бляскам чарната яе вачэй.

Адчуў, як перасохла ў роце.

— Вапшчэткі, тады я табе пашыю. Пабачыш, я гэта змагу...

— Не трэба, Ігнат. Не трэба.— Поля падышла да начовак з вадой, уставіла туды адну нагу, потым другую — і вось ужо боцікаў як і не было... Ігнат глядзеў, як Поля мыла ногі, і чуў, як востра малоціць у грудзях сэрца. Адвёў вочы ўбок і... убачыў ката, які асцярожна і роўненька, як па вільчыку хаты, ішоў па толькі што выкладзеных на дошку яшчэ зусім мокрых цаглінах. Там, дзе ён ужо прайшоў, на цаглінах заставаліся акуратныя неглыбокія сляды.

— Апсік! — нечакана для самога сябе пужнуў ката Ігнат, і той, нібы і сам адчуваў, што рабіў вялікую шкоду, пырснуў убок, на траву, з травы — на плот і далей, у гарод.

Ні Ігнат, ні Поля не сталі заціраць яго сляды. Цагліны так і высахлі, так і пайшлі на печ.

І выйшла так, што ішоў Ігнат надвячоркам дамоў з касой, дабіваў выдзелены дальні шнур. Поля з Віцікам накладвалі воз сена на сваёй дзялянцы. Скасілі самі, і Поля, і Віцік умелі дзяржаць касу, высушылі, згрэблі, а воз скласці не могуць — плыве сена, як мыла ў мокрых руках. Поля падавала. Віцік стаяў наверсе.

Ігнат раскідаў воз, пачаў спачатку. Падаваў, сам камандаваў, куды класці. Поля прымала. Перад тым адправіла сына дамоў:

— Бяжы, сынок. Наабірайце бульбы, пастаўце варыць. Каб была гатова, пакуль мы прыедзем.

— Ты ж Раісе загадала, яна зварыць,— занатурыўся Віцік.

— Памажы ёй.

— Сама ўправіцца — не маленькая.— Сын не хацеў ісці, хацеў даждацца, пакуль уціснуць воз і можна будзе праехаць наверсе.

— Можа, і не маленькая, а ты большы. Бяжы,— настоіла на сваім Поля.

— Заўсёды нешта выдумаеш...— Сын падсмыкнуў угору штаны і нехаця пайшоў.

Воз атрымаўся шырокі, прысадзісты. Уціскалі яго, калі ўжо сцямнела і туман папоўз па нізіне. Ігнат закруціў вяроўку за парубель, зашмаргнуў пятлёй.

— Можа, лейцы падаць, зверху відней дарога? — сказаў Полі.

— Што ты, яшчэ перакулюся,— засмяялася яна.

— Тады давай памагу злезці.

Поля спускалася ззаду воза, дзержачыся рукой за парубель, і Ігнат злавіў яе, не дапусціўшы да зямлі. Поля і сама не вырывалася, з цёплай расслабленасцю застыўшы ў крэпкіх, як абцугі, Ігнатавых руках. Ён знайшоў яе губы, потым падняў на рукі і панёс да бліжэйшай капы.

— Куды ты? Гэта ж Анаева сена! — прашаптала Поля.

— А мо стары не пакладзе забароны,— адказаў Ігнат.

— Ой, Ігнат... І даюся, і баюся,— шаптала Поля і тулілася да яго...

На наступны дзень Ігнат сказаў, што ў хаце душна і ён пойдзе спаць на сена. Якраз перад гэтым ускінуў капы дзве на гару ў майстэрню. Узяў з сабой пасцілку, падушку, кажух. Марына кіўнула галавой: Ігнат любіў спаць на дварэ.

Усякая радасць ведае сваю пару, і калі добра паразмысліць, дык кожнаму трэба было б дзяржацца гэтай пары. Калі добра паразмысліць... А во нойдзе на чалавека, накоціць, як хвароба, закруціць, нібы ліст у вадавароце, каб пасля выкінуць дзе-небудзь на спакойным, як таго ж ліста — пакамечанага, пажаванага, знясіленага... Што гэта такое? І адкуль яно? І чаму такую сілу мае над чалавекам? І чаму не хоча слухаць ніякага розуму? Хаця што тут розум? Хіба ўвесь розум не скіраваны на тое, каб скарэй пражыць дзень, даждаць вечара, калі можна будзе зноў убачыць яе, пачуць яе, адчуць яе — гарачую, адзыўчывую... Розум... Усё ж кругом стараецца, каб перабунтаваць гэту сустрэчу, не даць, каб яна была. А як жа ёй не быць?..

Пасля, калі міне час, супакоішся сам, суціхнуць людзі, а людзям што: пажывіліся нечым вясёлым або горкім — і рады, і больш нічога не трэба,— пасля, калі ўсё адыдзе, перабаліць, можна спакойна раздумацца. Але зноў жа не пры народзе, не на віду, а зашыўшыся, як звер, у глухамань, каб ніхто не чуў і не бачыў. Воўк сам залізвае свае раны.

Гэта будзе пасля... А пакуль што кожны вечар Ігнат ішоў спаць на сена, а пасля, як заціхне сяло, крадком дабіраўся ў рог лесу, каб адтуль цераз соткі вярнуцца да

Полінага хлява. Тры разы стукнуць костачкамі па бервяне, пачуць такі ж трайны, толькі глушэйшы стук з сярэдзіны. Значыць, яна там, яна чакае, вароты прачынены, каб рыпеннем сваім не навесці каго на іхнюю тайну...

Ігнат не лічыў сябе крайнім чалавекам, лічыў, што ён, можа, толькі болей спакойны, чым каторыя. Нават не спакойны... Чалавек павінен умець дзяржаць сябе ў руках. Баба можа даць сабе расслабку, слёзы там пусціць ці нават у голас пайсці, а мужчына ёсць мужчына. Пахвалі — не заскача, у нос дай — не заплача. Чаму воск нядоўга дзержыць форму? Бо мяккі надта, чуць прыгрэла — і папоўз. Ці ўзяць, хаця б для прыкладу, Мялляна Гараўскага. Рослы, светлавалосы, відны, калі паглядзець збоку, а — слабак. Бо не проста ж так празвалі «Мяллян мяккі». У хаце — жонкі баяўся, увесь век цераз качаргу скакаў, на людзях — людзей баяўся і з голасу нячутны. Гэта ж яшчэ пры панах было, і жыў ён тады на пагурку, па правую руку, як ісці на Селішча. І трэба было нешта ўзараць, ці не раскарчаваны загон пад жыта. У самога сіла ёсць, што трэба вывернуць — вывернуў, і саху мае, а тут плуг патрэбен, і добры плуг. І такі плуг быў у яго ж брата Хведара. Той хоць і маладзейшы на тры гады быў, а хітры. Прыйшоў Мяллян да Хведара плуга прасіць. Доўга ў парозе таптаўся, пакуль на лаўку адважыўся прысесці, чакае, якое братава рашэнне будзе. А той і кажа: «Яно-то плуг ёсць, і брат ты мне, і чалавек добры, і даць трэба было б,— а не дам!» Вось так: «А не дам!» Пашкадаваў, пабаяўся, каб нарог не затупіў. І пайшоў Мяллян з тым. Які та мужчына стаў бы ведаць брата пасля такога? А Мяллян нічога. Уцёрся рукавом і стаў жыць далей, як нічога і не было.

Гэта калі гаварыць пра мужчын. А калі браць жанчын, тым болей. Тут без строгасці нельга. Як толькі даў патачку — на шыю сядуць. Пакуль разбярэшся, што куды, дык і позна: не ты возам правіш, а табой кіруюць. А то і едуць на табе.

З жанчынамі трэба строга. Толькі пры строгасці можа быць парадак жыцця. Ігнат гэта ведаў цвёрда і жыў, лічы, увесь свой сталы век з гэтым правілам.

Праўда, цяпер гэты парадак перабунтавала Поля. Ігнат гэта адчуваў, хоць і не хацеў прызнавацца. Яго нібы падмянілі. Нібы ў яго кроў нехта намяшаў чужой крыві

і душу новую ўставіў — такі непадобны на самога сябе стаў.

Ніколі Ігнат не чуў столькі ласкавых слоў і ніколі сам не ўмеў сказаць іх. А тут гаварыў і верыў таму, што гаварыў, і верыў таму, што гаварылася яму і пра яго. І толькі адно сцінала сэрца, прымушала камянець усяго, гэта тое, што ўсё робіцца крадком, нібы благое што, нібы не як у людзей. А што тут не благое, што добрае?.. Пра гэта трэба было думаць, пра гэта нельга было не думаць... Але ўсё гэта адыходзіла, забывалася, калі Поля была побач, калі чулася яе дыханне, чуўся ёлкі травяны пах яе валасоў...

Абое ведалі, што доўга так быць не можа, што некалі ўсё гэта павінна скончыцца, але ні Поля, ні Ігнат пры сустрэчах, як згаварыўшыся, не ўспаміналі пра гэта. Ігнату падабалася далікатнасць, з якой Поля абыходзіла гэтую турботу, не заўважала тое, што насілася ў паветры. Рабіў выгляд, што не заўважае гэтага і сам. Заўсёды цвярозы і разважлівы, заняты ў сабе, ён раптам нібы страціў і волю сваю, і розум. І махнуў рукой: хай усё ідзе як ідзе...

## XVI

Ігнат завярнуў у двор да Полі пасля абеду. Ішоў з млына з паляўнічай торбай на плячы і завярнуў. Людзей на вуліцы не было, ды Ігнат і не таіўся, ішоў, як і трэба ісці чалавеку.

Поля дома была адна.

— Дзеці пабеглі ў арэхі, а маё сэрца як чула, што ты прыйдзеш,— сказала яна, убачыўшы яго на парозе. І ўся засвяцілася смуглым тварам.

Ігнат палез у торбу, дастаў чорныя боцікі на маленькіх абцасіках, паставіў на слончык. У хаце свежа запахла хромам.

— Вазьмі, памерай.

— Што ты, Ігнат, і не думай,— перапалохалася Поля.— Забірай назад.

— Ну, во што... Я сказаў, што пашыю, і пашыў, а ты памерай. А далей як хочаш,— грубаватым голасам сказаў Ігнат. Ён бачыў, што боты Полі спадабаліся.

Поля кінула быстрым вокам на Ігнатаў схуднелы

твар, на яго насупленыя бровы. Не то вінаваtасць, не то пяшчота прайшла па яе твары. Яна заспяшалася.

— Добра, Ігнат, я зараз.

Прыцiснуўшы боты да грудзей, яна выскачыла ў сенцы. Лінула ў начоўкі вады, памыла ногі, дастала з камода панчохі. Скоранька нацягнула іх, абула адзін бот, потым другі. Былі яны якраз па назе, мяккія халяўкі шчыльна аблягалі лыткі. Так і стала перад Ігнатам, павярнулася кругом.

— Не ціснуць? — спытаў, улавіўшы бляск яе вачэй.

— Як па мерцы.

— Ну, то і добра. Насі здарова...— Ён пайшоў да дзвярэй, але Полін голас прымусіў спыніцца:

— Ігнат!..

Ён павярнуўся. Яна вінавата ўсміхнулася:

— Проста так... адразу і пойдзеш?

Ігнат паглядзеў на яе сумнымі, затуманенымі вачыма, ступіў крок назад:

— Што ты са мной робіш?

— Я з табой?! — усклікнула Поля.— Ты паглядзі, што ты зрабіў са мной?! — Яна стаяла побач, пазірала на яго такімі блізкімі чорнымі вачыма, і Ігнат прагаварыў, як прастагнаў:

— Эх вы... бабы... бабы-чалавекі!..

Тайна дваіх — ніколі не будзе тайнай дваіх. Тым болей калі гэта сярод людзей, калі гэта ў сяле.

І ніхто яшчэ не разгадаў бабу да канца, як яна ёсць, ды і наўрад ці разгадае. Як на вадзе, ніколі не ведаеш, адкуль што бярэцца. Тут ціха, а тут забурліла, захадзілася, і чакай, калі сама аціхне, супакоіцца.

І хоць ніхто нічога пэўна не ведаў, але зноў прыціхла ў Ігнатавай хаце. І зноў мала што гаварылі за сталом, хіба тое, без чаго можна было і абысціся, пра што можна было і не гаварыць, што ўсе бачылі і так: пра пагоду, пра вядро вады, што трэба было прынесці, ды яшчэ пра што...

Лета скончылася, настала восень, ночы пайшлі ядраныя, зорныя.

Пракраўся Ігнат аднойчы да Полінага хлява, стукнуў тры разы па бервяне — цішыня. Паўтарыў сігнал яшчэ раз — зноў цішыня. Вароты таксама былі запёрты, хаця ўчора Поля нічога не казала...

Не заснуў тую ноч Ігнат на сваёй гары: і мулка было, і холадна. Рознае лезла ў галаву...

Пераэкыў дзень, дачакаўся вечара. І зноў на яго стук ніхто не абазваўся.

Калі трэцім вечарам выйшаў на двор і закурыў, з хаты выйшла Марына. Паглядзела на неба, усыпанае зорамі, сказала:

— Холадна стала на дварэ, я забрала пасцель і паслала табе ў хаце.

Сказала, як гавораць да дзіцяці, якое не хоча разумець, што яму жадаюць дабра. Тон голасу быў такі спакойны, што толькі дурань мог сказаць што-небудзь папярок. Ігнат змоўчаў. Было зразумела: яго высачылі і цяпер даюць права на ганаровую капітуляцыю.

Марына дачакалася, пакуль ён дакурыў, выбіў піпку, прытаптаў попел. Сказала:

— Пайшлі ў хату.— Голас быў такі ж спакойны, можа, толькі мякчэйшы. «Ну, што ты думаеш? Куды ты ад нас дзенешся?» І праўда: куды ён ад іх дзенецца?

— Пайшлі,— яшчэ цішэй папрасіла Марына.

— Ідзі. Я прыйду пазней,— адказаў Ігнат. Не мог ён вось так адразу, нібы нічога не адбылося...

З тыдзень ці болей Ігнат амаль што не бываў дома: з цёмным ішоў на млын, у цемнаце, пасля поўначы вяртаўся. Разоў колькі дык заставаўся і пераспаць якіх гадзіны тры-чатыры на тапчане ў закутку качагаркі, ля бока разагрэтага паравіка. Мліва сабралася шмат: і са свайго калгаса, і ад суседзяў, і людскога. Мяшкамі быў застаўлены ўвесь ніжні паверх, і трэба было разгружацца.

Не спалася гэтымі начамі Марыне. Выходзіла на двор, у канец пасёлка, падоўгу стаяла, пазіраючы ў той бок, дзе цёмнае неба размывала невялічкая, як полымя свечкі, жоўтая пляма і адкуль чуўся глухі, нібы з-пад зямлі, раўнамерны гул. Млын працаваў, круціў свае жорны, сыпаў у мяхі пахучую цёплую муку.

Не вытрымлівала, разы са два падыходзіла да Поліна́га двара, затойвалася. Глухая цішыня і чарната насцярожаных вокан сустракалі яе, і яна скоранька паварочвалася і ішла дамоў. А раніцай завязвала ў хусцінку місачку з яшчэ гарачымі блінамі і печаным салам, пляшку малака, аддавала дзецям, каб па дарозе ў школу занеслі бацьку. Яны з радасцю браліся за гэты клопат.

Па дарозе з млына ля елачак, што густой шчоткай браліся за канавай, і перастрэла Ігната аднойчы Поля. Ігнат нават не здзівіўся, калі яна ступіла з-за елачак на чыстае і пайшла побач з ім. Пажартаваў:

— Не страшна так позна хадзіць?

— Мне цяпер нічога не страшна,— ціха адказала Поля.

— А я, вапшчэткі, думаў іншае.

— Што ты думаў? — Полін голас заставаўся такі ж ціхі.

— А тое думаў, што бывае, напачатку людзі смелыя і вясёлыя, а пасля...

— Што «пасля»? — устрапянулася Поля.

— ...а пасля вочы ў зямлю і дзверы на зашчапку... Ты мяне не ведаеш, і я цябе ведаць не хачу, так?..— Ігнат прыпыніўся пасярод дарогі, павярнуўся да Полі. Цяпер яны пазіралі ў твар адно аднаму, і нават у цемнаце Ігнат бачыў, як блішчэлі Поліны вочы.

— Не так, саўсім не так,— прашаптала Поля.— Але...— Полін голас набраў смеласць і сілу,— але я хацела сказаць табе, папрасіць цябе, каб ты болей не прыходзіў ка мне.

Ігнат нейкі час памаўчаў, прагаварыў расслабленамякка, ледзь не жаласна:

— Вапшчэткі, няўжо ты думаеш, што я буду ламацца ў запёртыя дзверы?..

— Не, Ігнат, не...— заспяшалася гаварыць Поля.— Дзверы маёй хаты заўсёды адчынены для цябе... І цяпер, божа мой, каб можна было... Але свята... яно заўсёды такое кароткае і заўсёды канчаецца...

— Свята? Якое? Вялікадня, Тройца ці, можа, Першамая? — усміхнуўся Ігнат.

— Вялікадня не выйшла, і Першамая таксама... На Май усе ідуць з песняй, з музыкай, а мы... А Тройца — у самы раз. І ў цябе тройца, і ў мяне, і ўсе мы — ты, я і Марына... кругом тройца... Але я рада, ты не ведаеш, якая я шчаслівая, што было гэта свята, што ты мне ўстроіў яго.

— Нічога я не ўстройваў, і ніхто не ўстройваў,— зазлаваў Ігнат.— Яно было, яно ёсць, і гэта наша, і нікому да яго няма справы... А не прыходзіць... Чаму не прыходзіць? Чаму? Вапшчэткі, я буду прыходзіць... І ты

сама не бойся сказаць ці наказаць, калі трэба што. І сама заходзь. І ў вочы глядзець не бойся, вапшчэткі...

— Ігнат!..— толькі і змагла прашаптаць Поля, рванулася да яго. Яны доўга стаялі абняўшыся, потым Поля рашуча адарвалася ад Ігната, крута павярнулася і пабегла па дарозе. Ігнат пазіраў услед, аж пакуль крокі яе не сціхлі зусім. Тады палез у кішэню па піпку...

Калі гэта было... Ігнату часам здаецца, што папраўдзе нічога і не было такога, а проста ён прыдумаў усё гэта сваёй хворай галавой. Калі нечага добрага хочацца, заўсёды ж можна прыдумаць.

А паехала з Ліпніцы Поля гадоў дзесяць таму. Да гэтага нічога нікому не гаварыла, а тут прыехаў Віцік, укінула падушкі ў машыну і паехала. А хата засталася. Нават вокны забіваць не стала, толькі дзверы прымкнула на замок, а ключ перадала Марыне.

— Навошта ты нам прынесла ключ? — спытала Марына.— Пакінула б каму-небудзь бліжэй.— У Марыніным голасе не было злосці, як не было і радасці. Яна ведала Полю. Ведала, што ўсё роўна тая зробіць так, як наважыла, але не сказаць сваё не магла. Даўно ўляглася бура, што пранеслася над іхнімі дварамі, даўно знайшло свае берагі тое, што гатова было пабурыць усё. Жылі жанчыны між сабой дружна, пасаблялі адна адной, калі што трэба было ці то вясной, ці летам, ці восенню, пазычаліся адна ў адной, быццам ніколі нічога і не стаяла між імі.

— А каму я пакіну? Хто ў мяне тут ёсціка? — спытала ў сваю чаргу Поля.— Каму?

Пыталася Поля ў Марыны, а пазірала на Ігната. Ёй было тады ўсяго толькі пяцьдзесят, а хто не ведаў, і меней даў бы. Апошнія гады ёй на дабро пайшлі, на спакой. Смуглы твар нібы пачысцеў, і вочы грэліся затоеным унутраным цяплом. Дачка была замужам і добра жыла, у сына таксама, здаецца, усё ладзілася, а што яшчэ трэба маці?

Ігнат не змог доўга пазіраць на Полю, палез шукаць піпку. Вечарам перад тым Поля пазвала суседзяў да сябе ў хату. Выпілі, загаманілі. Толькі гарэлка і разварушыла трохі. Цімох зазначыў сумна:

— Во, яшчэ аднаго двара не стане.

— Чаму не стане? Тут вам не здзесь: двор жа застаецца,— спрабаваў жартаваць Віцік.

— Вапшчэткі, гэта, лічы, ужо не двор, а дворышча,— адказаў яму Ігнат.— Дворышча... Сяло, як зубы ў роце. Дзержацца, пакуль усе крэпкія і разам. А выкрышыўся адзін — і пайшлі за ім. Во табе і «тут», во табе і «здзесь».

Віцік прыехаў забіраць маці на сваёй машыне. Быў пры ім і маленькі прыёмнік. Ён прынёс яго ў хату, доўга настройваў — усё ў ім галасіла, трашчала, выла, пакуль не прарвалася забытая даўняя песня. Некалі ўсе яны ведалі яе, спявалі, і цяпер так добра было ўспомніць яе.

Поля слухала яе ды і завяла сваю: «Мае вочы чорныя...» Калі дайшла да слоў: «Мяне, хлопцы, не чапайце...», Марына не вытрымала, засмяялася:

— Ну, цяпер-та, можа, ужо чапаць не будуць.

За сталом ніхто не засмяяўся, а Ігнат устаў і выйшаў на двор.

Стаяў на дварэ, курыў, час ад часу кідаючы вокам на асветленыя вокны, за якімі чулася песня. Вяла яе, як і пачала, адна Поля, і толькі пры паўторы да яе прысуседжваўся сваім хрыплаватым, нібы надтрэснутым галасам Цімох. Спявак ён быў нікудышны і мала што пасабляў Полі, але ўсё-такі гэта быў не адзін, а два галасы.

Ой, пайду я паслухаю,
Хто ў лузе мармыча...
Гэта доля мяне кліча,
Гэта доля мяне кліча —
Не пайду.

Гэта доля мяне кліча... Вось так, кліча, валачэ на свет, хоць плач, хоць спявай. Прыехала на машыне, пасадзіла сына за шафёра, каб лягчэй было... Тут вам не здзесь... Не пайду... Ідзеш, бабка, сама ідзеш...

Яна даспявала песню да канца, і доўга ўсе сядзелі, суцішыўшыся, думаючы пра сваё...

Поля паехала, а ключ пакінула, і паспрабуй не думай пра яго. Гады тры прастаяла так хата, быццам забыліся на яе ці адцураліся. Ніхто не прыязджаў.

Аднаго разу Ігнат адамкнуў замок, зайшоў. Было гэта летам, пад жніво. Страшным, нежылым духам патыхнула на яго: сухой прэллю, заляжалым пылам. Праз шчыліны ў падлозе павылазіла маліна — прабілася з агарода, з-за сцяны. Злізаны нагамі зачынак, з комінка вываліліся некалькі цаглін, і ўвесь ён ледзь не абурыўся, дзяржаўся толькі на сагнутым жалезным прэнце. У сенцах на сцяне вісела ўкрытая плесняй брызентавая сумка — з ёй Віцік

некалі бегаў у школу. На акне старая, пабітая зеленаватымі кропкамі алюмініевая фляжка з закруткай. Некалі насілі ў ёй ваду, малако. Заторкнутая пад бэльку старая, абсыпаная ржой, злізаная па рубчык каса. На цвіку вялікія нажніцы — стрыгчы авечак. Калі тых авечак дзяржалі?

Стаяў Ігнат пасярод сянец, вёў вачыма кругом, і было ў яго такое адчуванне, быццам ён трапіў у нейкі інакшы свет. Усё тут было знаёмае, усё ён ведаў, і ўсё здавалася такім чужым, незнаёмым. Быццам усё гэта ён ужо некалі бачыў і ведаў, нібы гэта было ў цяжкім сне, а пасля забыўся, і цяпер усё зноў прыйшло і пачало ажываць. І чым болей ён глядзеў, тым болей яму не хацелася бачыць.

Ён палез на гару. Скручаныя, запыленыя, абчапляныя павуцінай ніты, бёрды, чаўнакі, цэўкі...— усё гэта пазаціскана за кроквы між латаў. Самапрадка. Яго работы. А ножка адна зламаная. Чаму гэта Поля не сказала, што ножка зламалася?.. Ігнат падумаў пра гэта з крыўдай, быццам самапрадка яшчэ магла спатрэбіцца Полі, а яна не хацела, каб Ігнат паправіў яе.

З гэтым адчуваннем ён злез з гары, зайшоў зноў у хату.

І тут яго позірк зачапіўся за цагліну, што вывалілася з комінка і ляжала ля печы. На цагліне глыбока і ясна відны былі два кацiныя сляды. Быццам цагліна была яшчэ сырая, і кот толькі што ступаў па ёй. Колькі год прайшло з той пары, як было гэта, людзі паехалі, печ пабурылася, а сляды засталіся. Ігнат узяў цагліну ў рукі, з ёй выйшаў на двор, прысеў на ганку. Сядзеў, курыў і думаў, і цяжка было перарваць ход гэтых думак.

Колькі разоў чалавек можа быць? Адзін? Учора жыў, сёння жывеш, заўтра... Будзе добра ўсё — будзе і заўтра, а не так складзецца лёс — што ж, добра, што было «ўчора» і было «сёння»... А колькі разоў успамінаеш і нібы жывеш наноў, і баліць душа яшчэ болей, чым некалі. Хаця што «болей»... Тады было жыццё, а цяпер... душа... Адна голая душа.

У крапіве, якая густа і высока, як на балоце, узялася ля ганка, нешта зашамацела. Ігнат павёў туды вачыма і ўбачыў вожыка. Той стаяў, наставіўшы ўгору чорны, пабялелы на кончыку лычык. Чмыхаў, уздрыгваючы ўсім целам, пазіраў на Ігната. Нібы яго цікавіла, чаго прый-

шоў гэты чалавек. Звярок, відаць, даўно прыжыўся тут і адчуваў сябе гаспадаром.

Ігнат узяў вожыка ў рукі — той і не ўцякаў, нават і не скруціўся ў клубок, спакойна сядзеў на далоні, задраўшы ўгору лычык...

— Ну што, вапшчэткі, баішся, каб я не пакінуў цябе без жытла? — прагаварыў уголас Ігнат, гладзячы звярка па калючках.— У мяне і ў думках няма рабіць гэтага. Я таксама тут чужы... Лічы што за стоража. Паглядзеў і пайшоў. Хоць і цяжка глядзець на ўсё гэта. Але так ужо ўсё яно ўстроена. Думаеш пра адно, робіш адно, а выходзіць вундзека што. Пайшлі людзі — прыйшоў ты... Прыйдзе яшчэ хто, калі прыйдзе, што будзеш рабіць ты? Не ведаеш? І я не ведаю. Хоць зямля — вунь яе колькі. Жыві, брат,— адзін на ўсе соткі. І не на адны...

Ігнат пусціў вожыка на зямлю, але той не спяшаўся ісці, стаяў, нібы чакаў чаго. Ігнат узяў сваю цагліну, пакруціў у руцэ, яшчэ раз падзівіўся: як дакладна захаваліся адбіткі кацiных лап, паклаў цагліну на ганак: куды ён яе панясе? Падняў вочы на неба. На захадзе клубіліся, збіраліся ў кучу хмары. Магло і дождж нацягнуць. А калі апусціў вочы ўніз — вожыка не было.

Прыйшоўшы дамоў, напісаў пісьмо Полі, каб прыехала і прадала хату. Навошта яна гніе?

Месяцы два пасля пісьма было ціха. Ігнат думаў ужо, што так ніхто і не акажацца. Ну і хай сабе. Чаго ты перажываеш, нервы рвеш?..

Ён быў на млыне, калі прыляцеў на веласіпедзе Валера і сказаў, што прыехала цётка Поля з Віцікам. Ігнат асядлаў свой матацыкл і патарахцеў дамоў.

Машына стаяла ля яго двара. Поля і Марына сядзелі на лавачцы пад ліпай, гаманілі між сабой. Быццам учора рассталіся, а сёння зноў сустрэліся. Віцік ішоў па сцежцы паўз плот ад свайго двара.

Поля як і не змянілася, толькі паблякла тварам, пасвятлела. І нейкі задаволены сыты бляск засвяціўся ў вачах.

— Здраствуй, Ігнат Сцяпанавіч,— праспявала працяжна, падаючы руку.

— А ўжо, вапшчэткі, дзіндобры,— адказаў ён, аглядаючы Полю зверху ўніз.— Няйначай, як саўсім гарадская стала. Як сарвалася адсюль — ні табе з прыветам, ні ў госці.

— Не ведаю, Сцяпанавіч, якая стала, а адвыкла ўжо ад сяла.

— Да аўса конь скора прывыкае,— усміхнуўся Ігнат, прысеў на лавачку.

— Не, і праўда, мне там добра,— нібы апраўдваючыся, сказала Поля і зірнула на Віціка. Ён якраз падышоў, падаў Ігнату руку, сказаў:

— А чым дрэнна: горад, батарэі грэюць, аўтобусы бегаюць, тэлевізар паказвае, магазіны прадаюць. Тут вам не здзесь.

Ігнат стрэльнуў вачыма на Віціка. Нішто не мяняе чалавека. Здаецца, і гады ўжо, і на заводзе столькі, і работы, відно, не баіцца, машыну за так не возьмеш, а як ляпне іншы раз — вушы б не чулі. «Тут вам не здзесь...» Не ўцерпеў:

— Вапшчэткі, калі, да прыкладу, я не завязу ў твой магазін, ну, не я — дык калгас наш ці іншы які, то трасцу ты там што вытаргуеш.

Віцік не пакрыўдзіўся, засмяяўся:

— Ага, тут ты, дзядзька Ігнат, правільна падмеціў: не пакладзеш — не возьмеш, не возьмеш — не ўгрызеш...

Ігнат адкінуўся галавой да частаколу, прыжмурыў вочы:

— Вапшчэткі, гэта нядаўна ў нас такая аказія выйшла. Прыехаў да Сымоніхі зяць, з гарадскіх, яркі такі, як дзяцел. Куртка на аўчыне, чаравікі, транзістар — усё, можна сказаць, як у цябе. Нібы ў таго салдата на перадавой, адной вінтоўкі хіба няма, а так — з ходу ў бой. Цешча ўкруга зяця і так, і гэтак, зяцёк, сынок. Што цешчы, абы дачцэ добра было, а дачка не жаліцца. І кабанчык у хлеўшку рохкае, дурань, не ведае, што час яго адмераны. Зяць любіць узяць. І Сымоніха рада. Кабанчыка ўсё роўна калоць трэба, а тут і вы возьмеце, і мне застанецца, ці шмат на старыя зубы трэба. «Заколеш?» — пытаецца ў зяця. «А чаму б і не». Хлопец не з труслівых, другой просьбы не стаў дажыдаць. «А зможаш?» — гэта яна ў яго. «Ці змагу? Сяло горад вучыць. Колькі там таго кабана».— «А ўсё ж, можа, каго папрасіць для падмогі, падзяржаць, утаманіць...» — «Не перажывай, маці, спраўлюся сам». Ну што ж, чалавек гаворыць, чалавеку верыць. Адкуль ёй ведаць, што ён ля свіней калі і хадзіў, то хіба на базары. Прынесла яна швайку, вяроўку, тазік — кроў спусціць: які-та зяць

крывянкі не любіць? Вапшчэткі, пагладзіў зяць кабанчыка за вухам, той і лёг. Сымоніха бачыць: і праўда, чалавек кумекае, з чаго пачынаць, пайшла ў хату, каб гвалту не чуць. Свіння як дасць голасу — нідзе не схаваешся. Хвілін праз колькі прыходзіць у хату і зяць. «Што, ужо закалоў? Дык нешта ж надта скора, і голасу не чутно было?» — пытаецца Сымоніха. «Зараз будзе»,— гаворыць зяць і пасміхаецца. І тут за акном як вухне! Выскачылі ў двор — хлевушок без даху, дзверы сарваны, і дым адтуль валіць. Што такое? А зяць не дурань, прывык рыбу глушыць. Прывязаў порцыю толу кабанчыку за шыю, прысмаліў бікфордаў шнур ад папяросы, а сам у хату, свежыны чакае. Добра, што зарад пайшоў убок, толькі паўгалавы кабану адарвала, а магло ж быць і па-іншаму. Во табе і сяло горад вучыць, і тут вам не здзесь,— Ігнат засмяяўся.

— Ай, ты заўсёды скажаш,— махнула рукой Марына.— Думаеш, ён такі ўжо малакроўны, зяць яе, што не мог дадумацца да нечага талковага, а адразу толам?

— Вапшчэткі, схадзі і сама паглядзі. Хлевушок і цяпер стаіць распяты, а Сымоніха адчуралася і свіней, і каровы. І правільна: завядзі парася, прыедзе ён другі раз, то і хату можа ўзняць над сялом.

— Ну, трэба быць чыстым дурнем, каб з толам на кабана,— сур'ёзна зазначыў Віцік.

— Ты б, вапшчэткі, з двухстволкі, га? — Ігнат усё не мог перастаць смяяцца.

— А што? Я кожны год езджу да цешчы на такую работу. Ствол у вуха — і ўсяго клопату. Ні табе страху, ні табе віскату. Бяры і смалі.

Ігнат паглядзеў на Віціка, выцер вочы, устаў:

— Вапшчэткі, нам смаліць яшчэ як быццам пара не выйшла, а вось у хату, за стол, а, жонка?

Марына заслала на стол белы абрус, стала бегаць у кладоўку і назад, і кожны раз на стале большала талерак. Госці прыехалі не з пустымі рукамі — і гарэлку прывезлі, і каўбасу, кансервы. Гэта ўсё прынёс з машыны Віцік, ён і памагаў Марыне ля стала: адкрыў кансерву, нарэзаў каўбасы, накроіў хлеба. Ігнат і Поля сядзелі на канапе, Ігнат курыў, слухаў Полю, час ад часу ўстаўляючы сваё што. Думаў пра тое, як мала трэба, каб перамяніць чалавека. Жыла баба ў сяле, здавалася, навечна зраслася з зямлёй і краем гэтым, а паманілі ў горад, пакармілі

белым хлебам — і ўжо ўсё. Ці, можа, не ўсё? Можа, гэта толькі яму здаецца?

— Ты кажаш, вапшчэткі, добра табе... І што ты там у сваім «дабры» робіш? — спытаў у Полі, зірнуўшы на яе рукі. Зграбныя, крэпкія, толькі белыя, быццам і не лета на дварэ. Некалі ж умелі і мех падняць, і касу дзяржаць, і яшчэ шмат што рабіць.

— Мама ў нас дома за гаспадыню,— адказаў за маці Віцік.— Работа — не бі ляжачага. Хіба што зварыць абед ці вячэру ды калі дзяцей прыгледзіць — у школу, са школы. Хаця яны і самі сабе гаспадары. А вечарам ужо збіраемся ўсе разам.

— Вязаць навучылася: там шалік, там світарок — дні бягуць, не паспееш азірнуцца,— падхапіла ўслед за сынам Поля.— Можна і адпачыць на старасці.

— І колькі ты думаеш адпачываць? — зноў спытаў Ігнат.

Марына пільна зірнула на яго, улавіўшы ў голасе калючыя ноткі. Зірнула, але нічога не сказала — далей праціралла ручніком чаркі.

— А мне ўжо спяшацца няма куды,— усміхнулася Поля, і нейкая вінаватасць пачулася ў яе голасе.

Няма куды спяшацца... А што тады рабіць, калі няма куды спяшацца? І як гэта так: няма куды спяшацца? Хаця, можа, яно і праўда... Раней бы не сядзела ты на канапе, не пазірала б, як там збіраюць на стол, сама б завіхалася. А гэта сын чысціць каўбасу, а яна сядзіць рукі склаўшы. Госця? Госця. А ўсё-такі... Ці забылася, як гэта робіцца, ці хоча забыць. Не, не вытрымала. Адабрала ў сына нож. А рукі спрытныя, ведаюць, што робяць.

— А вы, дзядзька, быццам наноў будавацца замахнуліся? — Віцік весела паглядзеў на Ігната Сцяпанавіча.

Той адказаў сур'ёзна, нібы і не бачыў у Віцікавых вачах чорцікаў:

— Вапшчэткі, думаў гэту падмаладзіць. Пахадзіў кругом, паглядзеў, пашчупаў абушком. Старая хата, што старая баба, пабегла б гуляць, каб хто ногі перастаўляў. Дрэва выбіраў сам, за ракой. Паехалі з Міхайлам, Гаўрылы з Закуцця хлопцам. Прывёў ён на дзялянку, сасна адна ў адну, і ўвесь участак адбіты. «Выбірай, кажа, дзядзька, хату сабе, ты тут першы». А спярша было хоць у сам Мінск дабівайся ўправу шукаць: не хацелі лесу

адпускаць. І Заборскі, і гэты новы сельсавецкі, Жванкоў: лес дадзім, калі будавацца будзеш у цэнтры, у Клубчы. Як усё роўна «Жыгулі» ў іх прашу, а не машыну лесу на хату. Яны ўжо гатовы і соткі мне памяняць. А навошта мне Клубча, мне і тут не цесна. Уладзілася ўсё без Мінска, хаця ў раён давялося з'ездзіць. Парабілі парадкі: кідай усё сваё і бяжы за нечай дурной модай. Словам, пазалышвалі мы з лесніком сасонкі мае, пасля з Соніным Аркадзем узялі «Дружбу», паскідалі іх з пня. На тым тыдні Аркадзя абяцаў аслабаніцца, возьме трактар, ды і перацягнем сюды. А тут ужо я дабяру рады.

— Дасца яна табе ў знакі, рада гэта,— сказала заклапочана Марына.

— І не баіцёся,— нібы з зайздрасцю зазначыў Віцік.— Гэта ж столькі работы, ды якой работы.

— На вайне страшней было, а ішлі. А гэта ж, вапшчэткі, новая хата. Тут так: няма дроў — пачынай будавацца, ▪ пачаў будавацца — жылы не шкадуй,— усміхнуўся Ігнат Сцяпанавіч.

— Паглядзелі мы сваю хату. Хто яе купіць? Хіба што на дровы,— сказаў Віцік, ужо седзячы за сталом.

Ігнат змоўчаў.

— Адчыніла дзверы я, і сэрца зайшлося. Усё такое нежылое і ўсё такое роднае,— прагаварыла ціха Поля.— Хоць бяры вядро, анучу ды наводзь парадак. І так горна стала, шкода ўсяго...

— А яно, можа, і трэба было б так зрабіць. І сама прыехала б, ды і ўнукі,— разважаў Ігнат.

— І праўда: свая адзежка заўсёды цяплейшая,— падтрымала Ігната Марына.

— Ай, цётка, якая адзежка? Некалі была адзежка, некалі грэла, а цяпер...— Віцік махнуў рукой.

— Не, не гавары, хлопец,— стаяла на сваім Марына.

— Памеркавалі мы і надумалі: хіба толькі на дровы і гадзіцца яна. Забірай яе, Ігнат, і ўсё. Ты памагаў некалі рабіць яе, ты і разроблівай,— сказала за сынам і Поля.

— Вапшчэткі, не самую цікавую работу вы хочаце перапаручыць мне. Але калі вы так наважылі... Не ведаю толькі, як рука падымецца рушыць усё,— адказаў Ігнат.

Выйшлі на двор пакурыць, зацягнуліся, і тут Віцік хітравата ўсміхнуўся, спытаў:

— Каторы раз прыязджаю, дзядзька, і каторы раз падбівае ўясніць: ці праўда тое, пра што на сяле некалі падсмейваліся... Ну, быццам у вас з мамай было нешта такое... любоў, як цяпер вучоныя людзі гавораць... словам, шуры-муры... Канечне, усё гэта старое, і цётцы Марыне я нічога не скажу... Я ў сваёй пытаўся; не прызнаецца...

Ігнат закамянеў тварам. Кроў дала ў галаву, увушшу зашумела, быццам нехта ўключыў малюсенькую машынку, маторчык такі, ці разам заселі тысячы конікаў, і стала гэтак жа млосна і цяжка дыхаць, як бывае на лузе ў задушлівы спякотны дзень перад самай навальніцай. Але гэтак жа раптоўна нехта пашкадаваў Ігната, выключыў маторчык: перасталі сакатаць конікі. Ігнат глыбока ўздыхнуў і пачуў, што кругом ціха, як ніколі, і зноў пачуў Віцікаў голас, той усё гэтак жа хітравата ўсміхаўся і гаварыў далей сваё:

— Вы — не Бог, я не суддзя, але ведаць цікава...

Ігнат упёрся пацямнелымі вачыма ў Віцікавы вочы, і тыя забегалі, замітусіліся; прайшоў позіркам уніз, да самых чаравікаў, быццам хацеў упэўніцца, што ў чым сядзіць, вярнуўся назад, наблізіўся целам да Віціка і выдыхнуў праз зубы, у самы твар:

— Суддзя... Смаркач ты! Быў ім, вапшчэткі, ім і застаўся, і ніякія машыны цябе ўжо не выправяць... Што праўда, то праўда: тут вам не здзесь...— Павярнуўся ісці, але затрымаўся, сказаў цераз плячо: — Адно радуйся, што шчэ матка ёсць і што з ёй прыехаў...— сказаў і пайшоў на вуліцу...

Паехалі госці назаўтра раніцай. Марына з Ігнатам правялі машыну ў канец пасёлка. Калі і машына прапала, і пыл за ёй асеў, Ігнат павярнуўся да Марыны:

— Ты думаеш, ёй там добра?

Марына ўскінула калючыя вочы:

— Не ведаю, добра ці дрэнна, але лепей, чым нам...

— Лепей? Можа, каму і лепей, а ёй... не-а, не лепей.

— Хочаш аблегчыць ёй жытку? — у жончыным голасе яўна чулася злосць. Ігнат паглядзеў на яе, памаўчаў, ускінуў галавой:

— Яны яшчэ папросяцца сюды. Памянеш маё слова...— Ён не стаў тлумачыць, каго меў пад словам «яны», ды Марыне, відаць, і нецікава было гэта...

Хата пастаяла яшчэ з паўгода. Потым Ігнат паклікаў Цімоха, Адася, каб памаглі сарваць крокву. Астатняе ўжо раскідаў сам.

Гнілейшыя бёрны перашаткаваў бензапілкай на дровы, а здаравейшыя — з глухой сцяны і з сянец — склаў у штабель пад плотам. Не тое каб меў нейкі строгі план, але шкода было вось так адразу пускаць усю хату на дровы. Пасля Адась выбраў з тых бёрнаў на стопку, і ніштаватая стопка выйшла.

Прыехаў Ігнат з млына, прыткнуў матацыкл ля плота, забраўся на штабель, закурыў. Пара была пад вечар, сухасць і лагода стаялі ў паветры. Бульбу выкапалі, а цяпер пазвалі людзей на перакопкі. І Марына пайшла недзе з бабамі. Бывае, што і восень удружыць такая, хоць год спачатку заварочвай.

Курыў Ігнат, і нечакана яго ўвагу забраў трактар. І не трактар, а неспакойны голас яго. Спачатку Ігнат быццам бы і не чуў яго: гудзе і хай гудзе. Па цяперашнім свеце дзівішся не таму, што недзе гудзе, а таму, што не гудзе. Асабліва ў Ліпніцы гул гэты ўзяў ахвоту, як панаехала меліяратараў і абралі яны прыстанішчам сабе пусты дом Адама Яблонскіх. І сам Адам і жонка памёрлі гадоў з пяць таму. Спачатку яна, пасля ён яе адмяніў, усё аб адным леце, а дзеці не абазваліся ні на смерць, ні пасля смерці.

Дом узяў пад свой прыют калгас, і во прыгадзіўся: пасялілі цяпер меліяратараў, каб і спаць было дзе, і есці. Паабставілі Адамаву сядзібу трактарамі, бульдозерамі ды карчавальнікамі, нібы танкавая часць перад боем. Спачатку работы вяліся на лузе — ссоўвалі кусты, клалі дранаж, і ў пасёлку жыць стала тлумна. Машыны машынамі, ды любілі каторыя з трактарыстаў, асабліва маладзейшыя, даць матору такі голас, каб зямля стагнала.

Надта стараліся хлопцы з раённага вучылішча механізатараў. Што школьнікі, што гэтыя — дзеці. Было, што і ў пераганялкі гулялі па вуліцы. Пераганялкі — ладна, толькі каб не на трактарах. А то на машынах, ды і нібыта выпіўшы. Машына — не конь, так адразу галаву не вернеш. Тут ужо не толькі курэй беражы. Можа і плот зачапіць і ў канаву сцягнуць ці ў саму хату ўехаць: «Дзіндобры, дзядзька, дзе тут дарога?» Жаўтароцікі, крыві шмат, а розуму мала. Адзін дык ледзь у калодзеж не zаваліўся. Праўда, прыехаў настаўнік з вучылішча,

яму расказалі, як і што хлопчыкі вырабляюць, як катаюцца на машынах. Ён трохі прыструніў іх і сам ужо стараўся надоўга не ад'язджаць. Пацішэла ў сяле, парадку болей стала.

Голас трактара чуўся недзе недалёка, за хатамі, хоць яму, здавалася, і задачы тут такой пастаяннай быццам і не магло быць, бо меліяратары цяпер перакінуліся на Стаськову пасеку.

А трактар гудзеў. І не проста гудзеў: то рохкаў, як сыты кабан, то злаваўся пакрыўджана, забіраючы так высока, нібы хацеў узлезці на хату і гэта яму не ўдавалася.

— Вапшчэткі, што ён там арудуе? — не выцерпеў доўга слухаць гэты незразумелы гул Ігнат і ссунуўся з бярвення. Пайшоў па вуліцы на машынны голас.

Быў гэта бульдозер, і рабіў работу ён у Поліным садзе. Рабіў работу... Ён нішчыў сад! Можна сказаць, ужо ўсё павывернуў, засталіся толькі тры яблыні і бяроза паўз вуліцу ды антонаўка пасярод сотак. Гэта была самая вялікая яблыня, і самыя буйныя яблыкі раслі на ёй. Увесь сад — яблыні, сліўкі, кусты парэчак — быў павыдраны з зямлі і, нібы апошняя лішніца, ссунуты ў рог сотак. Пазбіванае лісце, патрушчаныя яблыкі, паламанае голле, здратаваная гусеніцамі зямля... Быццам і не сад тут быў, не агарод, а нялюднае дзікае месца — распараджайся як хто хоча...

Нейкі час Ігнат стаяў, як чужы, прыгнуты ўбачаным, не маючы і слова сказаць. Ды і хто пачуе слова тое ў гэтакім рове.

Бульдозер тым часам адступіў ад ссунутых дрэў, даў назад і павярнуў на антонаўку пасярод сотак.

— Куды? Куды, маць тваю!.. Стой! — закрычаў Ігнат, кідаючыся напярэйма машыне. Па дарозе схапіў нейкі дручок, ускінуў над галавой.

Заняты сваёй работай, бульдазерыст не бачыў Ігната.

Не даходзячы некалькіх метраў да яблыні, бульдозер скінуў нож уніз і, заграбаючы зямлю, рвануў наперад. Нож спачатку ішоў лёгка, потым наткнуўся на карэнне, упёрся. Яблыня скаланулася ўсім целам, але ўстояла, толькі запокалі па зямлі рэдкія яблыкі, пасыпалася лісце. Машына прыпынілася, дала назад, потым раптам зараўла і рванулася наперад. Затрашчала карэнне, яблыня пачала хіліцца на зямлю і, вырваная з гнязда, лёгка пай-

шла наперад, крышачы галіны, горнучы перад сабой зямлю, бульбешнік. Бульдозер сунуў дрэва ў агульную кучу.

— Ты што гэта робіш, зладзюган? Што ты робіш?..— Ігнат схапіў глыж зямлі ў другую руку, папусціў у кабіну. Зямля ўдарыла ў шкло, рассыпалася сухімі пырскамі. Толькі цяпер бульдазерыст угледзеў Ігната, радасна ўсміхнуўся, паказаўшы белыя зубы, прыглушыў матор.

— Ану, вылязай! — загадаў Ігнат. Бульдазерыст паслухмяна адчыніў дзверцы, стаў на шырокую гусеніцу, саскочыў на зямлю. Было гэта малое хлапчанё. Яно ішло да Ігната і радасна ўсміхалася, яўна чакаючы пахвалы: глядзіце, якая ў мяне машына і што я тут наварочаў!

— Што ты натварыў?!.— затрос рукамі Ігнат.

— Хіба нешта не так? Можа, трэба было не туды ссоўваць? Дык мне ж сказалі ў канец сотак...

— Хто сказаў?! — прастагнаў Ігнат.

— І старшыня калгаса, і начальнік участка. А на ямы вы не глядзіце. Я іх зараўняю, вось толькі адапру гэту яблыню да кучы.— Светлыя і чыстыя вочы, замурзаны твар, яшчэ і вусы не прабіваюцца...

— Дзіцятка маё, ты ж яшчэ ніводнага дрэўца не пасадзіў, [redacted] паглуміў колькі... Ану, марш адсюль... Марш, каб твайго і смуроду тут не было.

— Як марш?.. Мне яшчэ тыя трэба выдраць,— хлапец паказаў на яблыні паўз вуліцу.

— Выдраць?.. Вапшчэткі, я табе зараз выдзеру...— Ігнат пайшоў на бульдазерыста. Той ступіў назад, назад, потым павярнуўся і пабег, забыўшыся і на машыну, і на незасыпаныя ямы, з якіх белымі жыламі тырчалі, крывавілі сокам паабрываныя карані павыдзіраных дрэў.

Не, не забыўся. Павярнуў назад, падышоў да машыны, зіркнуў спадылба:

— Старшыня сказаў, каб заўтра выкарчавалі яшчэ два дворышчы, там,— хлапец матануў галавой у дальні канец пасёлка.

— А ты не спяшайся рабіць гэту нікчэмную работу, хлопчык. Я табе кажу, не спяшайся. Садзіся на свайго коніка і едзь дамоў. Толькі баронь божа вярнуцца. А начальніку пра ўсё скажы, чуеш. Скажы, вапшчэткі, што цябе турнулі адсюль. І не памыслі вярнуцца.— Ігнат гаварыў ціхім голасам. Нібы ўгаворваў хлопца, пільна пазіраючы ў вочы, і хлапец, здаецца, зразумеў яго.

— Ды я што... Хіба я па сваёй ахвоце, мне нарад

такі... У нас дома таксама і яблыні і грушы, мне самому шкода. А тут сказалі... Дык што, мне ехаць адсюль?

— А пра што ж мы гаворым? Ехаць, і як найхутчэй.

— Тады я зараўняю ямкі, а то скажуць, накалупаў ям і пакінуў.

— Ямкі, вапшчэткі, зараўняй... І праўда, гэта ж не вайна, каб утварыць такое разбурэнне і не надумацца паправіць. Ямкі зараўняй... І баронь божа...

— Ведаю, дзядзька.

Ігнат абышоў яблыню. На ёй усё яшчэ вісела колькі яблык. Сарваў адзін, падзяржаў у руцэ. Яблык быў цяжкі, як наліты. Пайшоў назад, на вуліцу, а адтуль да сябе дамоў. Пастаяў, нібы раздумваючы нешта, асядлаў матацыкл і, крута развярнуўшыся, затарахцеў у Клубчу.

Старшыні ў канторы не было. Ды і што яму было рабіць там такой парой. Ігнат завярнуў да хаты, дзе той жыў.

Заборскі выйшаў з бакоўкі, папраўляючы шлейкі, накінутыя на белую нацельную кашулю, здзіўлена ўскінуў кусцістыя бровы: што такое? Відаць, прылёг перадрамаць, а тут ён, нечаканы госць. Яно можна і Заборскага зразумець: з раніцы на нагах — то ў канторы, то ў машыне, то калгас, то раён, ды і ў сваёй жа хаце, лічы. Чаму і не прылегчы.

— Гэта ты так надумаў, старшыня? — спытаў глуха Ігнат. Ехаў сюды — гарэў злосцю, гатоў быў хоць з колікам падступаць, а ўбачыў вялы, пакамечаны пасля сну старшынёў твар, відаць, і нездаровіцца ў нечым, зноў жа, дзе тая сям'я, дзеці, жонка, кругом людзі, а ўсё чужыя, і гэтыя шлейкі, не хоча папружку насіць, ці як,— убачыў усё гэта, і хоць ты пашкадуй яго.

— Вы пра што? — Заборскі адразу стаў сур'ёзны. Вярнуўся назад у бакоўку, накінуў на кашулю фрэнч ваеннага крою, пачаў зашпіляць гузікі. Вочы сталі круглымі, як у дзікага кабана.

— Пра Ліпніцу, пра сады.

— А-а-а, сады...— Заборскі зашпіліў апошні гузік, ступіў да Ігната.— Якія гэта сады? Дзікае ўсё, бясплоднае.

— Не кажы, старшыня. Гэта яшчэ з даваенных, Ігнасёвых саджанцаў. А ён пароду дрэва ведаў і, дзе што пасадзіць, кумекаў. Каб і расло, і завязь давала. Не глядзі, што з паноў быў, разбіраўся.

— Засумавалі па панах?.. То, можа, з парачку выпісаць іх, паноў гэтых? А можа, выпісаць?

— Вапшчэткі, не грэх бы і выпісаць такіх, як ён. Ці, вапшчэткі, успомніць Вержбаловіча. Ён-та ўжо на глум зямлю і што людскае зроблена на ёй не аддаў бы. Ён бы спярша добра падумаў, чым што дурное пачынаць.

— Дурное? — Заборскі таргануўся ўсім целам, нібы яго ўкалолі.— Што дурное?

— А то шмат галавы трэба — яблыні ды ігрушы пад нож пускаць? Тыя яблыні і ігрушы, за якія людзі некалі налог сплочвалі. Слязьмі плакалі, а кожнае дрэўца бераглі.

— То было некалі, а цяпер гэта не сады, а рассаднікі пустазелля. Каму яны трэба?

— Каму трэба? Вапшчэткі, нам трэба. Можа, чый унук прыедзе ды яблык сашчыкне, бацьку раскажа, а той, можа, надумаецца і хату паставіць. Як ні кажы, абжытая зямля, карысным дрэвам заселена. А без дрэва што: пуста, гола, хоць бяры ды мячык качай.

— Калі хто надумаецца будавацца, знойдзем месца тут, у цэнтры.— Старая пласцінка, і відно было, што Заборскі не думаў яе мяняць.— У цэнтры!..— паўтарыў, як прыдушыў абцасам.— Зямля парадак любіць.

— Парадак, яно канечне... Без парадку і куры не нясуцца. І колькі ты набярэш зямлі? Гэтай, з-пад садоў?

— Якая розніца: хоць гектар, хоць паўгектара. Тут ужо важны прынцып: кожны метр зямлі павінен даваць карысць.

— А цяпер, вапшчэткі, давай паглянем на такі прынцып: колькі зямлі адышло пад няўдобіцу, колькі пазарастала кустамі і розным іншым лясным зеллем? Гэта пры табе і гэта той зямлі, якую дайжа пасля вайны не маглі дапусціць да таго, каб не дагледзець, не засеяць і не сабраць, што вырасла. Хоць і сілы было адно што бабы ды дзеці, ды мужчын тых пакалечаных з дзесятак, а самы найпершы трактар — брат-волік, му-два. Тут не ўключыш другую ці трэцюю, адна хуткасць на ўвесь век: но-о-о, паехалі; а знаходзілі прыдумку са ўсім спраўляцца. Дык вось, давай паглянем, колькі такіх гектараў пусцілі пад зарост?

— Не ведаю, пра якія гектары вы гаворыце?

— Павінен ведаць... Вы ж катаецеся з аграномкай па ўсіх розных закутках і ў Клубчы, і ў Ліпніцы, і яшчэ

шмат дзе, то заадно маглі б і перамераць гектары гэтыя, ды, можа, і вярнуць іх у гэты самы прынцып...

— Што значыць заадно? Заадно з чым? — Заборскі падаўся да Ігната. Ноздры яго пачалі раздзімацца, як у загнанага жарабка.

— Вапшчэткі, заадно са ўсім астатнім... Вы ж плануеце, мяркуеце, каб і болей было, і лепей было... А гектары гэтыя адтуль... Дык вось, я табе так скажу, старшыня: соткі заворвай, а сады не руш. Не ты іх садзіў, не табе і карчаваць.

— Вы гэта што, сур'ёзна?

— Анягож не сур'ёзна...

— Гразіць? Мне гразіць?

— Гразіць?..— Ігнат ступіў да Заборскага, узяў за рукаў. Яны ніколі не стаялі так блізка адзін ад аднаго і, відаць, ніколі б не стаялі... Яны ніколі не пазіралі так адзін на аднаго і, відаць, ніколі б не пазіралі, калі б не сённяшняе... У Заборскага былі вострыя, як бураўчыкі, жалудовыя вочы, у Ігната блакітныя, да сухога стальнога бляску, і яны пазіралі вока ў вока Заборскаму, нібы пыталіся ў яго, нібы правяралі... І Заборскі не вытрымаў, адхіснуўся, зміргнуў.— Вапшчэткі, я ніколі нікому не гразіў. Ніколі нікому і цяпер таксама.— Ігнатавы губы раптам расслабіліся, ён нервова засмяяўся.— Адно, калі хочаш, раскажу. Ёсць такая байка — можа, прыдумка, а можа, праўда. Значыць, ідуць касіць бацька і два сыны. Раніца, раса, косы на плячах. І тут наперадзе канава. Бацька як ішоў першы, так і скочыў без разгону. Пераскочыў цераз канаву і пайшоў далей. Малодшы сын і кажа старэйшаму: «Глядзі ты: наш бацька лёгкі, як сабака». Старэйшы паглядзеў на яго і як старэйшы: «Ты што... Хіба ж можна так пра бацьку? Пераскочыў — ну і х... з ім...»

— Не разумею, што да чаго... Пры чым тут канава, пры чым сыны,— Заборскі тарГануў рукой, вырваў рукаў.

— Вапшчэткі, пры тым, што ішоў бацька... Бацька ішоў з касой. А за ім ішлі сыны...— Ігнат пільна паглядзеў у вочы старшыні.— А яшчэ: ты прыехаў і паедзеш, а нам тут жыць.

— Ну, ведаеце... Словы словамі, а гэта ўжо болей,— у голасе Заборскага пачулася пагроза.— Табе даручылі ўчастак работы, у цябе ёсць участак работы, ты і вядзі

яго, вядзі, і ў маё носа не суй. Чуеш? Я сам ведаю, што мне рабіць.

— І рабі, рабі. А сады не чапай. Не чапай, а то...— Ігнат акінуў позіркам Заборскага зверху ўніз,— а то, чаго добрага, і шлейкі не ўдзержаць.

— Што не ўдзержаць?

— Штаны, штаны, вапшчэткі, не ўдзержаць. У руках давядзецца дзяржаць. У руках, як бывае...— З гэтымі словамі Ігнат павярнуўся, каб ісці, але затрымаўся.— Не па-людску гэта, са злосцю, а злосць і сабаку не кажын дзень трэба.

Залапатаў ля плота матацыкл, ірвануўся на дарогу і адразу сціх, нібы і не было яго.

Заборскі нейкі час пастаяў пасярод хаты, потым кінуўся на двор, быццам хацеў дагнаць Ігната. Матацыкл ужо лапатаў пад лесам. Вось ён ускочыў на пагорак і схаваўся за ім, прапаў. Але Заборскі ведаў, што ён вязе гэтага ўпартага начальніка млына дамоў, у Ліпніцу, да яго груш і яблынь.

Доўга яшчэ стаяў Заборскі на двары, думаючы і перадумваючы пра тое, што толькі што пачуў. Заскрыпеў зубамі, ускінуў рукой, быццам хацеў секануць па жэрдцы, але не сaccess секануў, апусціў мякка, як на жывое.

Ігнат ведаў, што калі пачало што кaціцца ў адзін бок, то не скора спыніцца і тут трэба даць час перайначыцца ўсяму, супакоіцца. Сіла гне сілу — і благую, і добрую, і толькі дзеці думаюць, што варта толькі захацець сказаць слова — і ўсё зробіцца па-твойму, само сабой. У кожнага ёсць свая задумка, толькі не ў кожнага хапае розуму паглядзець, на якую пяту жыцця ён наступае. Ці ідзе ў нагу са ўсімі, ці маршыруе насуперак строю. А калі чалавек сам не бачыць, у які бок ідзе, тут ужо без падказкі няможна, каб не натварыў большага, як гэты Заборскі. Хочаш наводзіць парадак, дык наводзь, і ўсе цябе зразумеюць і добрае слова скажуць. Але навошта рушыць сады, навошта нішчыць тое, што людзі гадамі пільнавалі. Зрушыш усё, сарвеш з зямлі, а далей што? Што далей?..

З такімі неспакойнымі думкамі лёг спаць Ігнат Сцяпанавіч і заснуў адразу, але паспаць яму не далі. Усё тыя ж хлопцы з вучылішча механізацыі. Спачатку шпацыравалі па вуліцы з гітарай, потым атабарыліся ля яго

двара, на бярвеннях. Выбралі месца пасядзець, дык сядзіце, толькі навошта крычаць на ўсё сяло. Гы-гы-гы ды гы-гы-гы, кураць, бліскаюць ліхтарыкамі па садзе, па вокнах. Нібы спецыяльна прыйшлі, каб перабунтаваць сон.

— Схадзі ты прагані іх, а то не сунімуцца да рання,— папрасіла Марына. Хлопцы па ўсім не скора збіраліся аслабаніць бярвенне, але не было ў Ігната ахвоты вылазіць на двор. Надта ўжо даўгі дзень выдаўся сёння.

— Самі пойдуць. Пабрынкаюць ды пойдуць.

Не пайшлі, канцэрт адкрылі. Спачатку падумалася, можа, што талковае завядуць. Некалі, што ні вечар, то песні, то танцы. Якая ні гарачка, а каб без гармоніка, без тупату, без пылу пайшлі спаць — ніколі. Хай бы і гэтыя спявалі, галасы маладыя, звонкія. Пачалі прыпеўкі. І прыпеўкі — брыда дзікая.

Мы па вуліцы ідзём,
А ў канцы загухаем,
Калі дзевак не знайдзём,
То старым адбухаем.

— Падабаецца? То паслухай яшчэ, яны цябе парадуюць! — Марына павярнулася на ложку і нацягнула на галаву коўдру.

Хлопцы і папраўдзе толькі набіралі разгон. Спяваў нехта адзін, няйначай, ён сам брынкаў і на гітары, астатнія памагалі.

А мне мілы ізмяніў,
Я сяджу і плакаю.
Лепш бы ён мяне ударыў
Аб дарогу ср...ю.

— Ну, дажджаўся? — не ўцерпела, высунула галаву з-пад коўдры Марына.

Дажджаўся.

Ігнат паспешліва нацягнуў штаны, усунуў ногі ў боты. Ужо на дварэ яго заспела новая прыпеўка. Гэта ўжо былі жывыя мацюкі, такія, за якія трэба браць язык і нанізваць на шыла.

Яго згледзелі, як толькі ён адчыніў варотцы. І галасы сціхлі; усе, як па камандзе, злезлі з бярвення.

Было іх пяцёра, у аднаго, самага высокага, гітара з лентай цераз плячо. Быў тут і стары знаёмы — той маленькі бульдазерыст.

— І ты тут? — спытаў Ігнат.

— А што, хіба няможна?

Ігнат нічога не адказаў, працягнуў руку да гітары. Хлопец аддаў яе, быццам чакаў такой просьбы, Ігнат тарганўў пальцамі па струнах, яны нястройна адазваліся. Абвёў вачыма кампанію:

— Дык хто тут... плакае?

Хлопцы захіхікалі, пераглянуліся, але маўчалі.

— Вапшчэткі, я сур'ёзна пытаюся, хто тут плакае?

Маўчанне. Хлопцы стараліся не пазіраць на Ігната.

— Яшчэ раз пытаюся, хто завадзіла?..— Гэта было і пытанне, і глухое сцверджанне нечага рошанага. І ўслед за напружаным маўчаннем рэзкі, нібы для таго, каб засланіцца, узмах гітарай, удар аб бервяно. Жаласна дзынкнулі струны, застукалі, падаючы на зямлю, аскабалкі корпуса гітары. Стала ціха-ціха. Усе пяцёра са страхам і недаўменнем пазіралі на руку Ігната, у якой на павіслых струнах дрыжаў кавалак фанеры — усё, што засталося ад вялікага і прыгожага інструмента.

Першы падаў голас хлопец, у каторага Ігнат забраў гітару:

— Ну што яна вам зрабіла, гітара гэта? Лепей бы вы мне ў морду далі, чым ламаць яе. Як я цяпер дамоў прыеду, што я брату скажу? Яму праз тыдзень у экспедыцыю адпраўляцца.

— Дык гэта, выходзіць, і не твая гітара? — спытаў Ігнат.

— А няўжо ж мая... Я ехаў на практыку і папрасіў у брата. Ён яшчэ даваць мне не хацеў, як ведаў...

— Вапшчэткі, цяпер і ты будзеш ведаць... І вы ўсе... артысты. Ды за такія песні і праўда ўзяць бы каторага ды аб дарогу...— Ігнат кінуў астаткі гітары на бярвенне. Адразу да іх працягнулася некалькі рук, быццам гэта было цікавей, чым калі гітара была цэлая.

Ігнат пайшоў у двор. Ля бярвення чуліся галасы:

— Ну, і што цяпер рабіць?

— Купляць новую.

— Купляць... А дзе і за што?

— «Дзе» — гэта не бяда. Я бачыў у культтаварах, якраз такая.

— А за што?.. Калі тая стыпендыя.

Ігнат вярнуўся назад пад бярвенне:

— Дык, кажаце, такія гітары прадаюцца?

— Прадаюцца,— хлопцы дружна павярнуліся да яго.

— І колькі яна... такая?

— Рублёў васемнаццаць, дваццаць...

Ігнат яшчэ раз абвёў усіх вачыма, паківаў галавой, махнуў рукой: эх вы...

— Ну што, супакоіў? — спытала Марына, калі Ігнат вярнуўся ў хату.

— Супакоіў,— неахвотна адказаў ён, укладваючыся на ложку. Укладваўся і бубнеў сам сабе: — Кулямёт... трэба... Трэба кулямёт... Трэба...

Назаўтра, перад тым як ехаць у млын, Ігнат паклаў дзве дзесяцірублёўкі на стол, сказаў жонцы:

— Занясеш, аддасі хлопцам.

— За што гэта?

— За песні...— Ігнат кісла ўсміхнуўся.— Я ўчора пабіў іхнюю гітару, то хай новую купяць...

## XVII

Не пагода, а неразбярыха нейкая. То выдадуцца спакойныя, без дажджу і ветру сонечныя дні, быццам і не позняя восень. А пасля завінецца надакучлівы, як кароста, дождж. Туманіцца, полагам зацягвае наваколле. Усходзіцца вецер — захадамі, з сухім шоргатам па даху, плёскатам па лужынах, нібы качкі ўсшалеліся на вадзе. І бурбалкі танцуюць, кружацца.

Праўду кажуць: восень едзе на рабым кані. Лес стаяў зусім голы — хіба дзе дуб яшчэ бярог пакурчаныя, нібы з іржавай бляхі, лісты, каб шамацець імі да новых.

Лес павінен раздзецца, зямля напіцца, а там можа і зіма прыходзіць.

Лес раздзеўся, вады дало — ні прайсці ні праехаць, пара б ужо і марозу быць. Хоць бы ваду сабраў, гразь падцягнуў. А яго ўсё не было.

Вось так круціў вецер, замахваючы дажджом то з аднаго боку, то з другога, пакуль Ігнат не ўбачыў, што на столі недалёка ад коміна пацямнела пабелка, а пасля і капаць начало адтуль.

«Дажыўся, вапшчэткі, маць тваю...» — падумаў пра сябе Ігнат, хмура пазіраючы, як паволі налівалася, цяжэла, а потым зрывалася ўніз вадзяная кропля, рассыпаючыся пырскамі на падлозе. Падставіў медны таз, каб вада не расцякалася па хаце, але кроплі білі ў дно з такім звонам, што не вытрымаў, паклаў на дно анучу. Было гэта з раніцы.

Залез на гару, паглядзеў. Адышла бляха паўз комін, і дождж стаў забіваць у шчыліну. Вада пайшла па коміне ўніз, размываючы гліну. Заткнуў шчыліну знізу, пакуль дождж трохі перасціхне, абветрае дах і можна будзе прыставіць лескі да страхі. Дзівіўся толькі, што працякло: і хата не старая, і сам крыў, сваімі рукамі.

Удзень вецер павярнуў з усходу, неба расчысцілася, нават выбліснула сонца, на нейкі час ажывіла наваколле. Іграе вада на сонцы, мігцяць, серабрацца кроплі на суках яблыні... І здавалася ўжо, што ўсё гэта не так і страшна — і дождж, і вецер, і пляма на столі.

Назаўтра ўстаў, як заўсёды, на досвітку, адзеўся, абуўся ў цемнаце, каб святлом не трывожыць жонку, зайшоў у майстэрню, пстрыкнуў выключальнікам. Не гарыць. Падумаў, што перагарэла лямпачка. Запаліў лямпу, яна заўсёды была тут, праверыў лямпачку: не, усё нармальна. Значыць, нешта не тое. Выйшаў на двор, зірнуў па вуліцы — ні ў кога не свецяцца вокны. Рэдка калі хто ўставаў раней за яго ў Ліпніцы, гэта ўжо калі хвароба якая ці другая крайняя патрэба, але ж пара было хоць каму засвяціць свае вокны. Відаць, электрыкі адключылі, а падключыць забыліся, рашыў ён.

Прайшоў за вароты на вуліцу і адразу ўблытаўся ў дрот, як сініца ў валасянку. Выблытаўся так-сяк, бачыць: слуп ляжыць на баку і далей дрот пакручаны.

— Вось табе і маеш,— сказаў уголас, пайшоў далей па вуліцы. Яшчэ адзін слуп ляжыць, а адзін завіс на Міколкавай ліпе, боўтаецца, як вісельнік. Зноў ублытаўся ў дрот, і толькі тады дайшло да розуму: «А што, калі ён пад токам?» Аж мурашкі шарганулі па целе. Выблытаўся і на гэты раз, пайшоў далей, але ўжо асцярожней. Дайшоў у канец пасёлка. Далей усе слупы стаялі. Не можа быць, каб вецер так паклаў. Паклаў і дрот пашкуматаў. І на ліпу закінуў... Што вецер... Учора пад вечар Хведараў Адась ехаў на трактары ў лес. Сам п'яненькі, і трактар без фараў. Яшчэ спыніўся ля яго двара, закурыць папрасіў.

— Куды ты такі ды на такім трактары едзеш? — спытаў Ігнат.

— А во праскочу, дроў прывязу. Насек нядаўна.

— Забурышся куды з трактарам — ні цябе, ні яго не выцягнуць. Павяртай назад,— сказаў Ігнат.

— Ат, маўчыце, дзядзька. Хіба мне ўпершыню? —

выскаліў зубы Адась. Ці ты яму дарогу загародзіш? Сеў і паехаў укосікі. Канечне, гэта яго работа, Ігнат чуў, як ужо за поўнач гудзеў трактар. Ён яшчэ падумаў: «Ага, вяртаецца». І во, вярнуўся. Па слупах нашчупваў дарогу.

Ігнат пайшоў у хату. Марына прачнулася ўжо, падала сонны голас:

— Нешта радзіва сёння маўчыць.

— Маўчыць і, відно, доўга будзе маўчаць,— адказаў Ігнат.— Лінія парвана. І святло там, і радзіва там.

— Дык як жа цяпер будзем?

— Неяк будзем.

Як трохі развіднела, выйшаў зноў на вуліцу. Шэрае неба вісела нізка над хатамі, але дажджу не было. Сівая, як ускаламучаная, стаяла вада ў калюжынах. Ногі чвякалі ў тугой, набрынялай гразі.

Каляіна ад колаў трактара і прычэпа ішла васьмёркамі і была свежая, быццам трактар толькі што праехаў. Ён быццам ехаў спецыяльна па слупах. Зачэпіць прычэпам, слуп храсне ля зямлі, пераломіцца, трактар вільне ўправа, на дарогу. І едзе, здаецца, прама, пакуль не пад'язджае да наступнага слупа. Зноў паварот — на слуп, а пасля зноў на дарогу.

Слупы былі старыя, стаялі з той пары, як праводзілі электрычнасць, пападгнівалі ад зямлі, але стаялі. Доўга не доўга, а яшчэ пастаялі б. Дрот дзе пакручаны, дзе парваны.

«Адным ходам і асляпіў, і аглушыў...»

Адасёў двор быў у самым канцы пасёлка, на пагурку. Стаяў ён трохі наводшыбе і як бы ўпоперак вуліцы ўсімі сваімі будынкамі — хата, хлеў, варыўня, усё ў адну лінію, адной сцяной ад калгаснага поля.

На вуліцы і на двары трактара не было. «Няўжо гэта не ён?» — падумаў Ігнат, хоць быў упэўнены, што гэта мог нарабіць толькі ён, Адась. І след вёў сюды. І сталы, здаецца, мужчына, і дачка добрая вырасла, у інстытут паступіла, сама як мае быць, і яшчэ двое меншых дома, а возьме ў рот гарэлкі — і гатоў калгас дзяліць.

Зайшоў за хлеў. Трактар з прычэпам стаяў там. Прычэп чысты, нават падмецены. Дровы складзены пад сцяной хлява, быццам там і даўно ляжалі. Левы борт прычэпа трохі патрушчаны.

«Калі б не быў нагружаны, пабіў бы ўвесь прычэп, а гэта выдзержаў».

Ужо калі зайшоў у двор, з хаты з вядром у руцэ выбегла Зіна, Адасёва жонка. Бегла да калодзежа.

— Дзіндобры, дзядзька Ігнат,— павіталася скорань-ка, нібы вінавацячыся.— Вы да Адася?

— Ага, да яго.

— Калі куды з'ездзіць, дык трактар няспраўны ў яго. І фараў няма, і так, адно званне,— яна глянула на Ігната блакітнымі, як васількі, вачыма і зараз жа адвяла ўбок.

«Што ты гаворыш, дзевачка, каму?» — падумаў Ігнат.

— Вапшчэткі, мне-та нікуды не трэба ехаць, а вось ён... Пазбіваў учора слупы, усю лінію палажыў. Так што...

— Я ж казала: не едзь, дык хіба ўправіш яму мазгі? — раптам сарвалася на крык Зіна і павярнула назад, у хату. Ігнат зайшоў услед за ёй. З сянец Зіна адразу пайшла за перагародку, і адтуль пачуўся яе звонкі голас:

— Уставай, нечага вылежвацца! Прасіла ж як чала-века: не едзь, дык не... А цяпер што будзе? Уставай, вунь людзі прыйшлі...

— Прыйшлі, дык падаждуць,— голас Адасёў быў не сонны. І адразу з дзвярэй перагародкі паказаўся ён сам, запіхваючы кашулю ў штаны.

— А-а, гэта ты, дзядзька. Чаго ж стаіш, сядай ужо...— Адась паказаў вачыма на табурэт, а сам прайшоў у сен-цы, баўтануў кубкам па вядры, выпіў вады, вярнуўся, сеў на другі табурэт, утаропіўся яшчэ туманнымі вачыма ў Ігната, нібы пытаючыся: «І што табе трэба? Хіба не бачыш, што мне і так моташна?»

— Дык што ты рабіць думаеш? — спытаў Ігнат, ста-раючыся не глядзець у бурачневы, раскіслы твар.

— Што рабіць? — пацiснуў плячыма Адась.— Трак-тар трэба рамантаваць.

— Вапшчэткі, яшчэ адзін такі выезд, і ты яго дара-мантуеш, хаця я не пра тое.

— А пра што?

— Пра тое, што асляпіў і аглушыў пасёлак, і думаеш, так яно і сыдзе? — Ігнат ступіў да выключальніка, пстрыкнуў: лямпачка не загарэлася. Ён не хацеў злавац-ца, стрымліваў сябе, але глухое раздражненне закіпала ўсярэдзіне. Дастаў піпку, натаптаў, выгарнуў з печы ву-галёк, прыпаліў.

— Хто дакажа, што гэта я? Мала тут розных машын ездзіць?

— Калі трэба будзе, то дакажуць. І даказваць нечага.

— Ну, ты ж, дзядзька, не бачыў, што я ехаў учора? Праўда? І ніхто не бачыў. Быў вецер, бура дайжа была... А слупы гнілыя... Іх і палажыла, а? — Адась гаварыў спакойна, нявінна пазіраючы ў вочы Ігнату. «Глядзі, адкуль і розум бярэцца? — падумаў Ігнат.— Саўсім цвярозы, як і не піў учора».— Яно ж так было, дзядзька Ігнат? — перапытаў Адась.

Спачатку Ігнат думаў, што Адась жартуе. Такое бывае пасля п'янкі, калі чалавек не ведае, на якім свеце жыве. Але цяпер ён убачыў, што Адась гаворыць зусім сур'ёзна. І хоча верыць таму, што гаворыць.

— А што, калі б правады былі пад токам? — спытаў у сваю чаргу Ігнат.

— Адкуль мне знаць: пад токам ці не пад токам? Няхай з нябеснай канцылярыяй разбіраюцца або хаця б з электрыкам ці інжынерам.

— А ты ведаеш, што дзядзька Ігнат ужо мог і не сядзець цяпер перад табой і не слухаць тваю дурату?

— Як гэта так?

— А так, што я выйшаў досвіткам на вуліцу і засіліўся ў правады. Дык што ты мысліш рабіць? — Голас Ігнатаў быў хрыплы.— Ці, можа, хочаш, каб следавацель з табой пагаварыў?

— То, можа, ён і прыйшоў ужо, той следавацель, а? Можа, і вядзе ўжо следства? — ухмыльнуўся Адась.

— Ты во што, мілы, ты мне зубы не паказвай. Нагледзеўся я за свой век усякіх. Я прыйшоў да цябе, а мог, вапшчэткі, і не захацець прыйсці,— Ігнат устаў.

— Дзядзька, ну хіба ж можна так? Следавацель... Следавацелю хопіць работы і без нас.

— Я таксама гэтак думаю. А каб усё было па-добраму, дык пастаў новыя слупы. Я палічыў: трэба тры штукі. Лес у цябе ёсць, акораны, сухі...

— Ты што, дзядзька, здурнеў? Гэта ж на хату... Я новую хату ставіць сабраўся. А, Зіна, ты чуеш, што ён надумаў?

— І праўда, дзядзька,— загаварыла ад печы Зіна.— Гэтага лесу і на хату мала.

— Вапшчэткі, слупы, я думаю, і сельсавет адпусціць,— змякчыўся Ігнат.— Хаця, калі па-чэснаму, трэба

было б і слупы з цябе спагнаць. Каб ведаў. Ды слупы слупамі, а ставіць хто будзе і калі?

— Вот раскамандаваўся. Табе б, дзядзька, у вайну батальён, а мала батальёна — полк цэлы, во ўжо накамандаваў бы...

— Ты, вапшчэткі, пагавары мне, дык я табе дывізію прышыю,— прыгразіў Ігнат.

— І праўда. Не старшыня, не брыгадзір дайжа, а прыйшоў і распараджаецца,— усур'ёз зазлаваў Адась.

— Старшыня з табой не растарэкваў бы столькі. Цялятнік жа таксама, мусіць, выйшаў з-пад току. Семдзесят галоў, ім у чыгунку пойла не наварыш. А цяпер трэба хоць слупы прыбраць і дрот паскручваць, каб можна было па вуліцы прайсці. Адзявайся, дык я трохі пасоблю.

— Цялятнік нічога. Ён ад высакавольтнай запітваецца, я глядзеў. А вуліцу аслабаніць трэба...

Тут Адася доўга ўгаворваць не давялося. Ён скоранька абуў кірзавыя боты, надзеў ватнік, падперазаўся.

На дварэ трохі праяснілася. Хмары ішлі цяпер вышэй, адкрываючы, як прамыіны, блакітна-шызыя плямы. І ўвесь той разбой, што ўчыніў ноччу Адась, цяпер не здаваўся такім страшным. У трох месцах правады былі парваны, іх як папераразала, і мужчыны скруцілі іх у вялікі круг. Слупы скінулі з дарогі пад плот. Доўга валтузіліся, пакуль багром сцягнулі завіслы слуп з Міколкавай ліпы. Якраз за гэтым заняткам і застаў іх старшынёўскі «газік». Ён спыніўся. Першымі выйшлі старшыня калгаса і інжынер, потым выскачыў электрык Міша Адаменя. Значыць, ужо ўсё ведалі, калі такой брыгадай завіталі.

Старшыня быў не з далёкіх — з-за Селішча. З таго боку некалі прыходзілі сюды і асядалі Ганчаронкі, Дзегцяронкі, Кавалёнкі. Старшыня — з Ганчаронкаў. Віктар Захаравіч Ганчаронак. Парода прыкметная: сухашчавыя, з пераламанымі насамі, а голас, як труба. Ігнат бачыў і двух братоў яго: усе як з аднаго дуба і адной сякерай чэсаныя.

Старшынёй ён у іх ужо гадоў з пяць. Прыехаў і неяк адразу прыжыўся, па-гаспадарску абгарадзіўся будынкамі: паставіў дом, хлеў, лазню. Прыехаў з пяцігадовай дзяўчынкай, а дваіх ужо тут знайшлі. Гэта пры ім вялася дарога з Клубчы ў Ліпніцу і далей, на станцыю, пры ім пачалі будаваць у Ліпніцы новы кароўнік на трыста

галоў, ці, як цяпер модна гаварыць, «комплекс». І таксама ўжо канчаюць. Прыехаў зусім малады, год трыццаці, тонкі, гонкі, а цяпер памажнеў, пацяжэў, але мяккія шэрыя вочы, як і тады, пазіралі на чалавека нібы з вінаватасцю ці просьбай. Яму б доктарам быць: і выслухае, і скажа, суцешыць чалавека. Мяккі, а сваё возьме. Ціха, спакойна, а зробіць так, як намеціў.

Інжынер быў свой, клубчанскі, з Цодзікаў, і, як усе Цодзікі, невысокі, пануры ў твары. Чалавеку ўжо за пяцьдзесят, а Ігнат і не прыпомніць, каб яго твар магла калі распагодзіць якая радасць — свая ці чужая. «Вот так і пражыве век, не ведаючы, чаго людзі смяюцца»,— падумаў Ігнат, гледзячы, як Цодзік вылазіў задам з машыны, наском бота асцярожна нашчупаў зямлю, паставіў нагу на ўсю падэшву, пасля паставіў другую.

Электрык таксама быў з Клубчы. Малады хлопец, пасля арміі. Выскачыў з машыны, кіўнуў галавой Ігнату і Адасю і стаў аглядаць лінію.

Старшынёўскі «газік» рэдка калі спыняўся на гэтым пасёлку, а калі і спыняўся, то болей каля Ігнатавага двара.

— Вось так. Пакуль вы спіцё, людзі за вас усю работу зробяць,— папракнуў Цодзіка і Адаменю старшыня, падаючы руку Ігнату, потым Адасю.— Нарабіла ўчарашняя ноч і ў вас? У дзвюх брыгадах лініі паклала,— гаварыў ён далей, пазіраючы на Ігната.

— Вапшчэткі, і тут быў... вецер,— Ігнат кінуў вокам на Адася. У таго аж шыя выцягнулася, так ён пазіраў на Ігната. Стой ужо, герой, не трапячыся.— Тры слупы пад корань. Гэта калі браць тыя, што ляжаць. А калі браць і тыя, што заўтра лягуць, то і ўсю лінію трэба ставіць на цэментовыя пасынкі. І крэпка, і надоўга.

— Каму тут гэта надоўга трэба? Колькі тут хат засталося?..— адазваўся хмура Цодзік, ведучы вочы ўздоўж пасёлка.

— Пятнаццаць двароў,— адказаў Ігнат.— Табе як калгаснаму начальству трэба было б ведаць.

— Усе мы начальнікі... двары лічыць... Толькі рабіць няма каму...

— А, вапшчэткі, можа, у тваіх словах маецца і разумны пункт. Сеў бы сам за трактар ды яго па-строгаму прыпрог,— Ігнат кіўнуў на Адася,— глядзіш, ужо і звяно... А звяно на машынах — вялікая сіла. Адной зямлі колькі можна перавярнуць.

— Ага, ты, дзядзька, нараіш...— Цодзік сказаў гэта, пазіраючы на Адася, быццам прыцэньваючыся. Адась шмаргануў носам, адвярнуўся.— Лепей бы ўжо ў цэнтр пераязджалі, у кучу, дык бы відно было, што рабіць.

— Пераедам. Усе пераедам, вунь туды,— Ігнат паказаў галавой на купку чорных дрэў за пасёлкам, на могілкі.— А пакуль ты ў Захаравіча спытай: трэба тут людзі ці не? У яго спытай.

— Не людзі трэба, а работнікі... Ра-бот-ні-кі,— разарваў апошняе слова Цодзік.

— Вапшчэткі, а ты бачыў, каб работнікі былі не людзі?..— глуха спытаў Ігнат. Ён ужо закіпаў: хопіць гэтых дурных жарцікаў.

— У вас нейкая надта мудроная філасофія выходзіць,— умяшаўся старшыня.— Людзі, работнікі... Будуць людзі, будуць і работнікі...

— Ты, Цодзік, слухай чалавека. Ён хоць і не з Клубчы, як некаторыя, а шырока думае...

— З табой, дзядзька, лепей не зачынацца. Ты ўсё на сваю нагу наравіш паставіць,— пайшоў на прымірэнне Цодзік.

— Вапшчэткі, на чужых нагах яшчэ не хадзіў і не збіраюся.

— Дык што будзем рабіць? — зноў уклініўся старшыня.

Пытанне было да Цодзіка.

— Што рабіць... Трэба часовыя слупы ставіць, а там будзе відаць. Ды і раённая брыгада аслабаніцца...

— А табе, вапшчэткі, пашанцавала. Лічы, што надта пашанцавала,— усміхнуўся Ігнат да Адася.

— Мне заўсёды шанцуе.— Адась упершыню за ўсю раніцу засмяяўся.— Мне яшчэ нябожчык тата паўтараў: «Не гаруй, Адась. Бог возьме, Бог і аддасць».

— Ну, з Богам так проста не выходзіць. Той, што забраў — тое забраў. А тут пашанцавала.

— Дзе яму пашанцавала? — зацікавіўся старшыня. Цодзік таксама павярнуўся да Ігната.

— Ды так,— адказаў Ігнат.— Мы з ім тут былі заклаліся на адзін параграф закону. Але яму,— Ігнат кіўнуў на Адася,— няйначай, сёння воўк дарогу перабег. Я быў пэўны, што ён прайграе, ажно не...

— Ну што ж, Ігнат Сцяпанавіч, раз у вас тут такія тайны, то і я хачу пашаптацца,— старшыня калгаса ўзяў

Ігната пад руку, павёў ад машыны.— Ёсць адна сур'ёзная гаворка...

— Вапшчэткі, калі сур'ёзная, то і я сур'ёзны,— нібы пажартаваў Ігнат Сцяпанавіч.

— Як вы гледзіцё на тое, каб памяняць, як гавораць ваенныя, месца дыслакацыі?

Ігнат Сцяпанавіч спыніўся, выслабаніў руку:

— Гэта што, зноў пра пераезд? Тое, пра што Цодзік пляскаў? То скажу так: я ставіў тут хату не для таго, каб праз колькі год пад нечую пустую ахвоту перацягваць немаведама куды...

Ганчаронак выслухаў яго спакойна, зноў узяў за руку.

— Ніхто вас адсюль не гоніць і не прагоніць. Жывіце на здароўе. Тут іншае. Я хацеў бы, каб вы пайшлі на комплекс.

— На комплекс? Дык ён жа яшчэ не здадзены.

— Не здадзены, і таму якраз трэба, каб вы пайшлі туды. І прасачылі, што недаведзена, непадагнана, недавінчана... Комплекс не маленькі і не просты, вузлоў шмат, і ўсяго шмат. Сёння будаўнікі тут, і мы ім дыктуем, заўтра яны паехалі і ўжо нам будуць дыктаваць. Тут вас грамаце вучыць не трэба.

— Вапшчэткі, грамата мая простая: замахнуўся, дык бі, бо самому дадуць. А раз наважыўся на работу, то рабі чэсна, так, каб не знайшлося ахвотнікаў перарабляць і пальцам тыкаць. А як жа будзе з млынам?

— Што млын? Млын сваё адмалоў... Вы самі ведаеце лепш чым хто, што ён дажывае сваё.

— Вапшчэткі, калі памяняць стойкі і пару бэлек... жорны б, мусіць, яшчэ доўга круціліся...— разважаў Ігнат Сцяпанавіч.

— Пад новыя бэлькі новыя сцены трэба. А пры гэтых сценах жорны будуць круціцца, пакуль не прыдушаць каго.

Старшыня добра агледзеў млын, перш чым пачаць гэту гаворку. Нічога не скажаш, Ігнату такое падабалася. Падабалася і тое, што яго просяць. Не адзін раз ён заходзіў на комплекс. І калі яшчэ толькі катлаваны капалі, узводзілі сцены, і пазней, калі пачалі памяшканне ажыўляць металам, манціраваць транспарцёры, аўтапаілкі, «елачку»... На культурную работу задумана, калі навесці ўсё і дзяржаць у строгасці і парадку. Прыглядаўся да

ўсяго, прыцэньваўся, як на базары, але самога сябе бачыў там, на млыне.

— І якім жа начальнікам, Захаравіч, ты хочаш мяне зрабіць?— Ігнат рэдка калі называў людзей па бацьку, але калі называў, то былі таму важныя прычыны.

— Самым вялікім. Вартаўніком.

— Які пільнуе нязробленае?

— І ўсё астатняе, але ў першую чаргу нязробленае. Яно павінна быць зроблена.

— Не, Захаравіч, не.

— А чаму? — Ганчаронкавы вочы пацямнелі.

— Вапшчэткі, я яшчэ не здаў свой аб'ект, каб перастройвацца на новы. Ды і, скажу табе, часу мала. Часу мала перастройвацца. Хаця, вапшчэткі, і цікава.— Ігнат глянуў на шэрае неба, на сяло з канца ў канец, на людзей, што стаялі ля «газіка», потым на старшыню. Яны доўга пазіралі ў вочы адзін аднаму, і было ў вачах абодвух бясслоўнае шкадаванне адзін аднаго. Старшыня стомлена ўсміхнуўся, працягнуў руку:

— Мы пра гэта яшчэ пагаворым, Ігнат Сцяпанавіч.

Здаецца, і адышла бляха на нейкае нішто, а ваду пусціла ў хату.

Ігнат Сцяпанавіч узяў дашчаных рэек, пусціў па бляссе ўкруга коміна, звязаў цвікамі. Цяпер-та ніякі дождж не дастане. Зрабіў гэту работу Ігнат Сцяпанавіч скора, спусціў малаток і сякеру па шыферы ўніз, а сам застаўся наверсе. Закурыў, павёў вачыма перад сабой і далей.

Даўно не залазіў ён так высока і цяпер пазіраў з гэтай вышыні з абвостранай, засяроджанай цікаўнасцю і нібы адкрываў для сябе новы свет. Здзівіўся, як гэта ўсё бачыцца па-іншаму, калі глядзець зверху.

Ходзіш па зямлі, пазіраючы кругом, здаецца, усё бачыш, і добра бачыш, вочы, каб так і далей, яшчэ свецяць. І не проста свецяць, а бачаць і мушку на стрэльбе, і тое, што шукае мушка, а во асядлаў вільчык хаты і нібы Амерыку адкрыў. Паказалася тое, чаго не бачыў, а калі і бачыў, то не звяртаў на гэта ўвагі.

Ён прывык, жыў увесь час з тым, што стаіць Ліпніца ў лесе і лес з усіх бакоў падступае да яе — дзе бліжэй, дзе далей. А цяпер адкрыў, што Ліпніца голая. Толькі ля крайняга ад Клубчы пасёлка гонкім частаколам стракаціцца бярэзнік. Малады, трывожліва-прыгожы ўсякай

парой, здавалася, ён і адсюль праглядаўся наскрозь. Нічога не хаваў, ды ў ім нічога і нельга было схаваць. «Вось ён «я», які ёсць, такі і жыву. Жыву, пакуль жывецца».

Здаецца, зусім нядаўна было, што качак страляў у канцы сваіх сотак, у балотцы за выжарамі, а цяпер дзе тое балотца і дзе тыя качкі? Роўнае чыстае поле раскінула крылле ўздоўж сяла і далей, пад могілкі і да лесу. На яго ж вачах карчаваліся выжары, асушалася балотца, і было гэта гадоў шэсць-сем, але нібы толькі цяпер Ігнат Сцяпанавіч убачыў, што з гэтага сталася. Быццам адбывалася ўсё гэта ў сне, і ён цвёрда ведаў, што гэта ў сне, а цяпер прачнуўся і ўбачыў, што ўсё праўда.

Зямля пачысцела і параўнела, нібы яе катком прыгладзілі, і ўсё на ёй стала відаць, як на лысіне. І не трэба надта прыглядацца, каб убачыць на полі агрэх ці камень. Залез на хату, як на вышку, і камандуй. «Камандуй» — гэта калі смехам, а калі сур'ёзна, то поля нашмат пабольшала, і ёсць дзе разгарнуцца машынам — што сеяць, што жаць ці, дапусцім, капаць тую ж бульбу. Хто б яе сёлета столькі рукамі выкапаў, калі б не камбайны ды студэнты. Дзе ты баб набярэшся, калі і мужчын мала, і кожны наравіць за матор сесці.

Вядома, час не любіць стаяць на месцы, гады людзей мяняюць, а не толькі лічыну зямлі, і ўсё гэта праходзіць у цябе на вачах. Іначай яно і быць не можа, калі проста думаць пра гэта, а во зірнуў на ўсё гэта зверху і не паверыў вачам сваім. Сяла, якое ён ведаў,— пасёлак ля пасёлка, хата ля хаты — лічы што не было. Сяло пабілася на хутары. Некалькі хат — потым разрыў, яшчэ некалькі хат — і зноў разрыў... Не стала людзей, прапала сяло.

Дзіўна было і сумна бачыць усё гэта Ігнату Сцяпанавічу. Здаецца, гэта ўчора было, як збіраліся яны ў пасёлкі, гуртаваліся, сцягваліся з хутароў. Столькі людзей. Будаваліся адзін перад адным, садзілі сады...

Сядзець, раскірэчыўшыся, абсядлаўшы вільчык, было мулка, і Ігнат Сцяпанавіч перакінуў нагу па адзін бок і сеў так. Павярнуў галаву лявей, за меліярацыйны канал. Дажджы далі вады, як вясной, не пераскочыш з берага на бераг, як гэта бывае летам, калі толькі па дне кволіцца

светлы струменьчык. Роўны, як стол, луг, ён і цяпер зелянее травой.

У чорных кучмах прысад стаяў цэнтральны пасёлак. Цераз яго ішла дарога з Клубчы на станцыю, да чыгункі. На вайну ішлі па ёй, у армію — па ёй, вучыцца — па ёй. Колькі па ёй прайшло ліпнёўцаў, каб ніколі не вярнуцца ці вярнуцца гасцямі. Як збяруцца на Раданіцу, то з адной хаты паўсвету.

Узяць хоць бы Вержбаловічавых. Кожны год прыязджаюць, і кожны год на дзвюх машынах. Помнік бацьку паставілі, абгародку. Прыедуць, прыгледзяць усё, пагамоняць, паўздыхаюць. Летась і Люба прыязджала. Такая жывая яшчэ, баявая...

У канцы пасёлка на пукатым узлобку прыгожа вылучаюцца белыя прадаўгаватыя будынкі. Да іх з гравейкі вядзе чорная стужка асфальту. Гэта і ёсць комплекс, куды сватае Ігната Сцяпанавіча Ганчаронак. Ігнат Сцяпанавіч мелькам кінуў вокам на будынкі комплекса і, нібы спалохаўшыся чаго, крутануўся на вільчыку назад.

Лявей, як ісці па дарозе ў Клубчу, невысока горбіліся курганы. Адсюль яны амаль нічым не адрозніваліся ад куч нагорнутай бульдозерамі зямлі, хіба толькі тым, што ўкрыты кустамі, як купіны травой.

Як памятаюць ліпнёўцы, на курганах заўсёды раслі кусты здзічэлых калючых сліў. Угары яны спляталіся так густа, што прашыцца праз іх маглі толькі хлапчукі, і то ўнізе, па зямлі. Раз у два-тры гады кусты былі, як граззю, аблеплены маленькімі, халодна-зялёнымі, нібы шклянымі, сліўкамі. Паспявалі яны позняй восенню, калі ўсе садовыя слівы адыходзілі, але і спелыя яны мелі свой густы, церпка-саладжавы прысмак. Дзяцей, урэшце, гэта не бянтэжыла, і яны абіралі іх, як і свае дома.

На крайнім ад лугу кургане стаяла некалі высокая старая бяроза. Ад старасці яна была болей чорная, чым белая. Гэта ад яе камля бралі разгон і злятали ўніз, на ледзяную разлогу сані, калі, бывала, у Каляды збіраліся з усіх пасёлкаў хлопцы і дзяўчаты.

А бліжэй да сяла, на сажалцы, убівалі ў лёд жалезную вось, уздзявалі на яе кола, прывязвалі жэрдку з саньмі на канцы, на сані ўсаджваліся дзяўчаты, маладухі, і вось ужо два здаравейшыя хлопцы, налягаючы грудзьмі на

закладзеныя між спіц колікі, зрушвалі з месца сані і вялі іх далей, разганяючы ўсё болей і болей. Што тут піску, крыку, і не дай бог, калі сані былі слаба прывязаны да жэрдкі ці раптам лопне вяроўка, якой яны былі прывязаны. Іншым разам хлопцы і рабілі так: прывязвалі гнілой вяроўкай. Раскручаныя да шалёнай хуткасці, сані зрываліся з жэрдкі, як раз'юшаны бык. Добра, калі наперадзе быў чысты лёд. А калі сустракалася купіна, то часта было не да смеху.

Бярозу зламала бура. Страшная была бура — з ліўнем, маланкай. Маланка запаліла тады кароўнік — ледзь павыцягвалі з агню ашалелую жывёлу. А назаўтра, калі ўсё аціхла і супакоілася, зірнуў Ігнат на курганы і вачам не паверыў: замест бярозы ў неба пазіраў разадраны пень з двума вострымі, як рогі, аскабалкамі. І каб сказаць, нездаровая была бяроза, гнілаватая ці з дуплом, дык не — тоўстая, чыстая крамяная сарцавіна, а ламанула так, што застаўся толькі гэты пень. Сама бяроза ляжала ў хліпкай дрыгве метрах у дваццаці ад кургана. Нехта з мужыкоў падступіўся да яе зімой, калі добра ўмёрзла чорная каша. А пень доўга яшчэ тырчаў над курганам, як сумны помнік той страшнай ночы.

Некалі старыя гаварылі, быццам курганы былі насыпаны над магілай французаў напалеонаўскай вайны. Ды, пэўна, усё гэта байкі, хаця да Бярозы тут кіламетраў нейкіх дваццаць пяць. Французы ішлі другой стараной, на Барысаў.

Меў грэх на душы Ігнат Сцяпанавіч, не ўцерпеў і неяк бязлюдным надвячоркам надумаў праверыць, чым жылі курганы некалі, навошта іх насыпалі. Пракапаў нару збоку, як крот, заглыбіўся метры на два ўсярэдзіну. Дабраўся да паленага драўлянага вугалю. Хоць бяры і ў горан засыпай. І яшчэ болей не паверыў байцы пра французаў. Успомніў другі расказ, нібыта на гэтым месцы была некалі смалакурня, а заснаваў яе немец. Казалі, сам быў чорны і прозвішча меў такое ж — Шварц. Гнаў смалу, заліваў у дубовыя бочкі і дабаўляў да Бярозы, там ужо грузіў на лодкі і адпраўляў далей. Яліна тут смалновая была, яно і цяпер знойдзеш стары корч, запаліш, дык чыстай смалой сыдзе, і вугалля не застанецца. Ды і магутныя лясы былі, бо яшчэ ў дваццатыя гады, калі выбіралі месца пад пасёлак, а пасля будаваліся, па лузе, у канцы сотак, траплялі пні шырынёй на метр, а

то і болей, і не дуб, а яловыя. Адсюль, відаць, і вугаль у курганах.

Ігнат Сцяпанавіч адвёў вочы ад курганоў, яшчэ раз зірнуў на пасёлак, і зачапілася вока яго за голую бярозу пасярод сяла — адно, што засталося на Паліным двалышчы. Галіны ўскінуты ўгору, нібы рукі ў бабы, калі прыбірае валасы на галаве. І захацелася яму пайсці ў той бок. Нічога яму не трэба было там, а проста захацелася схадзіць. І ён паціху пасунуўся па шыферы ўніз, да драбіны.

## XVIII

Сядзіш дома, здаецца, усё ідзе роўна і гладка, аж нудна робіцца, асабліва зімой, а варта з'ехаць куды на колькі дзён, і пачынаецца.

Прыязджаў Валера да сястры паглядзець, як яны там у Мінску — даўно нічога не пісалі,— а заадно разведаць пра інстытут механізацыі, як гэта, каб паступіць. Толькі тыдзень усяго і мінуў, як з сяла, накупляў розных дапаможнікаў і сам нібы ўжо настроіўся на паступленне, на перадстартавы мандраж, і на табе, ужо на самым вакзале сустрэў Алёшу Міколкавага, і той, як пра нешта будзённае, ляпнуў: «А ці ведаеш ты, што твой Вапшчэткі даўся...» Ляпнуў і спакойна пайшоў сваёй дарогай.

Валеру ашаламілі не столькі словы пра смерць Ігната Сцяпанавіча, колькі тое, *як* пра гэта было сказана і як гэта ўсё, аказваецца, проста на гэтым свеце — тут жыў, тут няма.

Усё лета яны працавалі разам на млыне, Ігнат Сцяпанавіч «начальнікам», «камендантам», Валера — вучнем.

Валера бачыў яго перад самай паездкай. «Ты, вапшчэткі, зазірні ў магазін запчастак, мне казаў Сцяпан Яўменаў, там процітуманныя фары ёсць, вазьмі са дзве мне для матацыкла. Я б яшчэ адну зелінгераўскую брытву ўзяў, каб дзе натрапіў, ды, пэўна, у цябе з часам будзе туга. Скажу: гэта ў мяне трыццаць тры гады, а калі навядзеш, па шчацэ ідзе, як па атаве». Усё гэта Ігнат Сцяпанавіч гаварыў у сваёй хаце і гаварыў так, быццам збіраўся пражыць яшчэ гадоў ці не з пяцьдзесят.

Вядома, усе людзі смертныя, а асабліва ў такіх позніх гадах, аднак Алёшавы словы марозам працялі Валеру.

Так з закамянелым сэрцам ён і праседзеў усю дарогу ў аўтобусе, не вылез ні разу нават распраміць ногі.

У канец пасёлка, дзе стаяла хата Ігната Сцяпанавіча, а напроці іхняя, Валера ўваходзіў з павольнасцю, з якой ідуць на хаўтуры. Павярнуў з-за частаколу на прамое, а ад калодзежа да свайго двара, як ні ў чым не бывала, чэша сам Ігнат Сцяпанавіч, у руках — два вядры з вадой, у шчарбатым роце — піпка. Убачыў Валеру, заўсміхаўся шырокай усмешкай:

— Вапшчэткі, трэба было даць сігнал тэлеграфам ці другім якім спосабам наказаць, я б пад'ехаў на матацыкле.

Валера глядзіць на Ігната Сцяпанавіча, стараючыся знайсці адгадку дурной задачы, якую падкінуў сёння на вакзале Алёша, і радасна, без крыўды на таго, думае: «Боўдзіла ты, Алёша, такое боўдзіла...»

І цяпер Валера быццам упершыню ўбачыў і па-сапраўднаму разглядзеў самога Ігната Сцяпанавіча.

У яго вялікая галава, доўгія рэдкія валасы. Зубы некалі былі буйныя, шырокія, але даўно павыкрышваліся, засталося мо якіх з сем на ўвесь рот. Часам здаецца, што яму з гэтымі нямногімі зубамі, можа, нават ямчэй, чым калі б іх быў поўны рот. Куды б ён тады са сваёй піпкай? А гэта ўшчаміў сабе ў шчэрбіну, і хай вісіць: можна разяўляць рот, як хочаш, можна гаварыць з чалавекам, можна плюнуць, калі захочацца, не баючыся, што піпка вываліцца. Ігнат Сцяпанавіч нават зазор зрабіў у муштуку, каб дзяржалася між зубоў. Так і ходзіць з піпкай у роце цэлы дзень, смокча, як суслу, пакуль не ўбачыць, што ў ёй ужо даўно ўсё выгарала. Тады дастае піпку з рота, бярэ шыла, доўга калупаецца, вычышчаючы нагар і попел, зноў набівае табакай — ён і цяпер, хоць кругом засілле магазіннай махоркі і папярос, садзіць яе на гародзе за хлевам,— раскурвае, заціскае ў шчэрбіну.

Валера ставіць на снег чамадан. Ігнат Сцяпанавіч ставіць вёдры, і шэрае неба плаўна і слюдзяна калышацца ў вадзе. Нейкі час моўчкі стаяць адзін напроці другога, радуюцца сустрэчы, быццам даўно ўжо страцілі надзею на яе.

— Я думаў, дзядзька, што ты ўсё ж з`ездзіў у раён, зубы ўставіў,— нарэшце знаходзіць што сказаць Валера.

— Яно, вапшчэткі, і з гэтымі зубамі жыць можна, абы было што есці,— апраўдваецца Ігнат Сцяпанавіч.—

У раён ехаць — гэта цэлы дзень сцерці. І добра яшчэ, калі ўправішся. Ды сказаць, я і сам вытачыў бы іх і ўставіў — падхадзяшчага металу няма.

Ігнат Сцяпанавіч гаворыць гэта сур'ёзна, як пра даўно абдуманае, а сам пазірае за Валерава плячо ў канец пасёлка, дзе лявей кургано ў шырокім белым клінам роўна ляжыць заснежанае спакойнае поле. Нешта сумнае, як даўняе нядзейсненае жаданне, шэрым туманам сцелецца ў яго вачах. Валера не сумняваецца, што Ігнат Сцяпанавіч і праўда ўзяўся б за гэтую мудроную справу — вытачыць і ўставіць сабе зубы, а як бы ўжо ён іх устаўляў — гэта іншае...

— Дык што, дзядзька, можа, лазню зварганім?

— А яно і не грэх будзе. Пасля прастуды нешта ў грудзёх асела. Пакуль ты ездзіў па сталіцах, дык я, лічы што, пабываў там,— Ігнат Сцяпанавіч ківае ўгору, на неба.— Брат, хвароба ўваходзіць грамамі, а выганяць яе трэба кілаграмамі. Ты ведаеш, разагрэўся, выбегаўшы за кабаном ухаластую кіламетраў з дваццаць, хапіў з прагнасці вады з лёдам. І што я яе там глынуў, і, здаецца, не надта халодная была, а знайшла свайго мікроба. Доктар кажа: запаленне лёгкіх. А прызнаюся: кабанчык лоўкі быў, пудоў на шаснаццаць, і я, лічы што, узяў яго, ды сабака падвёў, падла, дамоў збег. Я табе скажу, дзік жартаў не разумее, на чыстым з ім лепей не сустракацца, ён на порах ідзе, як снарад, з пяцідзесяці метраў другога выстралу не паспееш зрабіць. Добра, калі б'еш з засады, а калі на адкрытым, беражыся. Беражыся і бойся... Вунь Ман быў, памятаеш, з Ядранай Слабодкі, яго брат з аўстрыякамі ваяваў у Галіцыі яшчэ ў тую вайну і ўжо тады тэлефаністам быў пры штабе. Разумны мужык, немцы расстралялі за нішто гэтай вайной. Нехта падаткнуў, што ён з партызанамі звязаны, а хто не быў звязаны? Зрабілі вобыск. Акрамя стрэльбы шчэ і пісталет знайшлі, у хляве пад гноем быў схованы... Стрэльба — гэта зразумела, што за паляўнічы без стрэльбы, а пісталет... Чаму не здаў?.. Яны гэтага не любілі, ды і хто будзе любіць. Дык пайшлі мы на паляванне, я тады саўсім малады быў, выследзілі кабанчыка. Кабанчык не кабанчык, а сякач добры, пудоў на дваццаць тры, іклы што грабільны, па паўметру кожны. Яму надаела вадзіць нас па лесе — пайшоў цераз поле ў малады сасоннік. Ман следам за ім, мы траха адсталі. А сасонніку таго няшмат,

лапік, можа, з мае соткі. Абышоў Ман кругом: не відно, каб дзік куды выйшаў, няйначай, залёг. Вярнуўся Ман назад, на след, ідзе, прыглядаецца, аж бачыць: нешта цямнее ў кусце. Цямнее і шаволіцца, чухкае. На каго ты чухкаеш?! Зладжыўся ён ды як чухне! Біў пад левую лапатку і стралок быў добры, а не паспеў і вокам міргнуць, як чуе, што некуды едзе — задам наперад. Дзік даў яму між ног і папёр. Метраў сорак правёз, пакуль той не ссунуўся ў снег, а дзік як ішоў, так і пайшоў далей... Тут якраз і мы падаспелі. Ман яшчэ ўсхапіўся з гарачкі, пажартаваў: «Во праехаў, дык праехаў!» — і тут жа зваліўся. Сякач як зачапіў іклам нагу — распаласаваў ад ступні да пахвіны. Схапілі мы яго на рукі ды на сані, у бальніцу, ледзь ўратавалі. Я табе кажу, дзіка проста так не возьмеш. Але я ведаю, дзе гэты абітае, хай трошкі падрасце, ды і я папраўлюся — зашчамлю яго... Хочаш, пойдзем разам, у мяне запасная стрэльба ёсць і бой добры, а? — Ігнат Сцяпанавіч глядзіць Валеру ў вочы.

— Не-е, які з мяне паляўнічы,— Валера хітра ўсміхаецца.— Хаця мы з вамі адзін раз хадзілі на паляванне. Памятаеце, на лісу, на Гараўшчыне. Я ў трэці ці ў чацвёрты клас хадзіў. «Валера, заганяй: дваццацьпятную на цукеркі!» Я і пайшоў заганяць, а яна як матанула, толькі хвост і ўбачылі.

Ігнат Сцяпанавіч слухае Валеру спакойна, засяроджана: няўжо такое магло быць?

— Вапшчэткі, лісу гвалтам не купіш. Яна сама можа такі гвалт арганізаваць, асабліва калі да курэй там ці гусей дарогу знойдзе. Чым болей неразбярыхі, тым ёй спасабней. А каб узяць яе, чаго б не даў: надта важныя каўняры бываюць і шапкі. Праўда, трэба ведаць, калі забіць і вырабіць. Мы тады з табой у добрую пару выйшлі, і калі б усё ішло, як меркавалася, шапку ты до-обрую займеў бы...

— Я лепей, дзядзька Ігнат, лазню арганізую.

— Вапшчэткі, ты праўду кажаш. Здароўе таксама трэба пілнаваць... Распальвай, а там, можа, і бацька пад'едзе — павёз сёння скаціну на камбінат, то хай бы і ён косці пагрэў.

Лазня ў Ігната Сцяпанавіча невялічкая, новая, стаіць яна ў садзе, воддаль ад хлява і хаты, і праз нейкую гадзіну з высокага азбеставага коміна яе паплыў угору, як не-

хаця, асцярожны дымок. Дровы былі сухія, гарэлі добра, але пакуль нагрэецца вада ды каменне, ёсць час, каб пасядзець у цяпле хаты, пагаварыць. І яны сядзяць: Ігнат Сцяпанавіч бліжэй да печы, яму холадна, Валера трохі далей, адкінуўшы галаву да высокай спінкі крэсла, заплюшчыўшы вочы.

— Вапшчэткі, калі глядзець збоку, то можа здацца, што чалавечае жыццё — гэта не шмат болей як сума парадоксаў, а яно не зусім так. Я табе скажу: няма нічога страшнага на гэтым свеце. Трэба толькі мець цярпенне і ўпартасць па-дурному не лезці на вастраўё і заўсёды ведаць, чаго хочаш. Дайжа тады, калі неба табе здалося з аўчынку і няма скарынкі хлеба, каб з'есці. Бо ў кожнага заўсёды ў запасе застаецца смерць, як у таго салдата маршальскі знак. А гэта ўжо сур'ёзна, бо смерць нічога не хоча пакідаць самому чалавеку. Хіба што камень у галавах ды гурбячок зямлі. Ды і зноў жа таму, што некалі ўсё гэта возьмецца травой і мохам. Смерць, як жонка, не любіць дзяліцца, яна хоча камандаваць аднаасобна, і перахітрыць яе цяжка. І што цікава: смерць, як і баба, выбірае лепшых.

— Ото звязаў разам... смерць... жонка... камандзір. Табой накамандуеш,— падае голас цётка Марына, і Ігнат Сцяпанавіч здзіўлена паварочвае галаву ў яе бок, быццам толькі цяпер заўважае, што ў хаце акрамя яго і Валеры ёсць яшчэ чалавек, і гэты чалавек — яго жонка. Цётчына рэпліка, аднак, на нейкую хвіліну перапыняе дзядзьку, але не на столькі, каб не пусціць далей.

— Вапшчэткі, ты спытаеш у мяне: што ёсць на мяжы жыцця і смерці? І я скажу: страх. І чым большы ён, тым чалавек бліжэй да смерці. Во які парадокс.— Ігнат Сцяпанавіч цмокае губамі, пускае дым з рота, пазіраючы ўгору, у нейкую сваю далёкую цемнату.

— Сам ты парадокс, быў ім увесь век і памрэш ім. Схадзіў бы каровам сена ўкінуў, а то сядзіш, як сугней,— зноў умешваецца цётка Марына, грукаючы вёдрамі, бунтуе спакойны, элегічны настрой Ігната Сцяпанавіча.

Ігнат Сцяпанавіч не мяняе паставы, як сядзеў на крэсле, так і сядзіць, нават галавы не паварочвае, толькі ўвесь напружваецца, губы сціскаюцца ў нерухомую ўсмешку. Трэба ведаць Ігната Сцяпанавіча, каб разумець, што гэта ўсмешка можа перайсці ў сухі смех ці

ўзарвацца лаянкай. За доўгія гады жыцця разам цётка Марына гэта добра вывучыла.

— Ну падумай, Валера, нашто нам тры каровы? Нашто? Хіба мы ўдваіх з'ядзім тое малако, што яны даюць? Ды нас бы параспірала. Колькі нам яго трэба? Во, бачыш, свінням выліваю,— і яна са злосцю перакульвае гладыш над вядром.— Кажу, давай прададзім дзвюх, пакінем адну, маладзейшую. Нам і яе — угa! — як хопіць... Дык дзе там...

Па сённяшнім дні, калі мала хто хоча дзяржаць і адну карову, упартае жаданне Ігната Сцяпанавіча мець іх поўны хлеў цяжка зразумець. Прадаваў бы яшчэ малако ці якім іншым чынам стараўся шукаць ад іх прыбытак, дык не.

— Што з'ядзім, што здадзім, не прападзе. Сена я накасіў, хопіць да Тройцы...— тлумачыць Ігнат Сцяпанавіч, але такім тонам, каб адсеч хвост гаворцы, звесці на жарт. Яму яўна не хочацца ўлазіць у яе глыбей.

— Дык каб жа толькі каровы... Яшчэ ж свіння, кныр, гусі, куры,— адчуўшы маўклівую падмогу, ідзе ў наступленне цётка Марына.— І ўсё на мае рукі. А сабакі, сабакі яшчэ...

Ігнат Сцяпанавіч задумваецца.

— Мой бацька лічыўся нядрэнным гаспадаром... У яго аж дзевяць кароў было. Ні ў кога на радыус воласці не было столькі...

— Толькі і гонару было, што лічыўся. А зімой кубак малака дзіцяці, бывала, не знойдзеш, не кажу ўжо пра масла, яго дык і зусім не бачылі...

— Вапшчэткі, тады другая ўстаноўка жыцця была... Людзі сядзелі на гаспадарцы, хоць зямлі было мала. Але яны ўмелі радавацца. Няма бядней чалавека, які не ўмее радавацца. Тады была табака «Стамболі», «Місаксудзі». Бацька ездзіў у Бабруйск і адразу браў паўхунта «Стамболі», а ў суботу адзяваў касторавы касцюм, ехаў у царкву. І я тады прывучыўся курыць. Можа, і рана, але надта смачна было пачынаць.

— Гаворыць: «сядзелі на гаспадарцы...» А ты не сядзіш? Ды ты ляжыш на ёй.— Балючае заўсёды баліць, і гэта добра чуецца ў голасе цёткі Марыны.

— Ты, вапшчэткі, карміла б свіней,— гаворыць Ігнат Сцяпанавіч, зноў-такі не паварочваючы галавы, але ў голасе ўжо чуюцца грубейшыя ноткі.— Дапусцім, возь-

мем мяне... Я працаваў на точцы, млын у мяне. І вучанік у мяне, да прыкладу, ён, Валера. Я захварэў, а вучаніка ўзялі сена вазіць. І млын стаў. І зноў жа. Я наліў камень, хацеў змяніць паўпрыцы. І во на — хвароба. Хто за мяне гэта зробіць? То-та. І прыязджае сам старшыня Ганчаронак, просіць: Ігнат Сцяпанавіч, памажы. Як тут быць? Я бяру матацыкл і еду...

— А ты тут хоць разарвіся. Развёў гамарню. Адна рыкае, другі вішчыць, трэці пішчыць... Нашарэнгаешся ля іх за дзень — ні рук, ні ног не чуеш. А яшчэ ж калгас: і буракі, і да буракоў.

— Як я магу не паехаць? Сам старшыня папрасіў. У яго на плячах сельсавет цэлы. І зноў жа, кажу, точка стаіць. А там — свінарнікі, кароўнікі... Ігнат Сцяпанавіч, памажы. Ці, дапусцім, жніво. Тут усё гарыць, хапаць трэба, пакуль можна. У калгасе майстэрні, там пяць чалавек, а ён прыязджае да мяне: Ігнат Сцяпанавіч... І ўслед за ім гоняць прычэп, камбайн... Борт паламалі, матавіла паляцела...

— Ён цябе вывучыў лепей, чым ты сам сябе. Ведае: папрасі цябе, дык ты ў нітку выцягнешся, а зробіш. Дня мала, дык ты ноччу, пры лямпачцы. У двор нельга выйсці — жаляззя поўна. Дроту ўсякага, стружак гэтых пад нагамі... Садзіся есці і бойся, каб язык не пранізаць каторай...

— Ну, язык, можа, парой і не шкодзіла б...— спрабуе жартаваць Ігнат Сцяпанавіч, але цётка Марына не хоча прымаць жарту.

— У хляве неба праз латы глядзіцца, а ён чорту лысаму — точа, пілуе, стругае...

— Вапшчэткі, не чорту лысаму, і раз старшыня даў разнарадку і ноччу людзей пасылае, значца, іначай нельга. А хлеў перакрыю, шыфер імеецца...

— Ён ужо счарнеў, шыфер твой, за тры гады.

— Ты, вапшчэткі, дасі мне з чалавекам пагаварыць? — нарэшце ўзрываецца Ігнат Сцяпанавіч, крута паварочваецца на крэсле, быццам наважыўся ўстаць, нават падымае ногі ў валёнках і гупае імі аб падлогу.

Цётка Марына хапае вёдры і, таўхануўшы нагой дзверы, выходзіць у сенцы. Хата нейкі час расчынена, і холад лянівым белым мядзведзем коціцца па падлозе. Валера ўстае, каб зачыніць дзверы, а заадно і паглядзець, што там у лазні.

У печцы ўсё паспела выгараць, рухлівыя язычкі полымя снуюць над вуголлем, ліжуць яго, абдымаюць. Як заварожаны, забыўшыся, чаго прыйшоў, Валера пазірае на гэта дзіва, думае пра Ігната Сцяпанавіча. Жыве ён, як дуб у полі: ва ўсіх на віду і ўсе вятры чэшуць языкі свае аб яго сукі.

У хаце цёмна ўжо, толькі адзінокім воўчым вокам блішчыць аганёк ад піпкі — і то калі Ігнат Сцяпанавіч зацягваецца, тады ўспышка на імгненне асвятляе яго твар, столь, сцены, ахабітыя вырабленымі цялячымі скуркамі дзверы.

Не першы раз Валера сядзіць з Ігнатам Сцяпанавічам, не запальваючы святла, і цемната абступае іх, але сёння трывога, што з'явілася на вакзале ў Мінску, не дае Валеру спакою адчуваць сябе лёгка, як гэта было заўсёды. І хоць прычынай яе была няпраўда — вось ён, Ігнат Сцяпанавіч, сядзіць сабе, байкі баіць,— трывога не праходзіць. Можа, вінаваты яшчэ і цемната, і гэта «воўчае вока» — піпка.

— А то надумаў я пайсці на ваўкоў. І, можа, не так сам надумаў, як паджучыў мяне Прыжок Антон,— радасным голасам, як пра тое, калі б яму пашанцавала раптам выйграць па латарэі легкавую машыну, гаворыць Ігнат Сцяпанавіч. Валеру прыемна здзіўляе не сам голас, а тое, што Ігнат Сцяпанавіч загаварыў пра ваўкоў — як бы ўслед за яго думкамі. Ігнат Сцяпанавіч — заядлы паляўнічы, гэта ўсе ведаюць. І болей за ўсё ён любіць расказваць пра сустрэчы з ваўкамі. Ці іх, гэтых сустрэч, было болей чым з якім іншым зверам, ці ваўкі надта часта бунтавалі яму дарогу... Але расказвае ён пра іх з любоўю. Гаворыць пра звера, як пра чалавека. Быццам вось яны сустрэліся, роўныя, і пайшла гульня: хто каго...— Ага, Прыжок. Не, не той, што з Мікалаеўкі, а той, што жыў за млынам, у двары яго яшчэ валун ляжаў счэсаны, на ім добра было пляшку віна раздзяліць. Ён сам хоць і стрэльбу ў руках дзяржаць не ўмеў, бо і дзяржаць не было чым, быў без вялікага пальца на левай руцэ, а правай і саўсім не меў, адарвала ў малатарні. Так і жыў чатырохпалы — ні даць, ні ўзяць, ні ўкрасці... Прыходзіць гэта Прыжок увечары, а зіма халодная была, якраз самая Піліпаўка: «Чаго ты на печы ляжыш, ваўкі скора вуглы ў хаце паабгрызаюць»,— гаворыць. І праўда, той зімой яны раз'ятрыліся, як на пагібель, у Карпа

з Асінаўкі з ланцугом сабаку павялі. I сабака быў слаўны, не пад кожным сталом пралазіў, на волі дык і двум ваўкам не даваўся, а аднаго сам браў спакойна, і не чуў Карп нічога, а назаўтра ланцуг з нашыйнікам за тры кіламетры знайшоў, аж ля Бронікавай гары, во як... А Аркадзеву аўчарку, яшчэ ад немцаў засталася і прыбілася да двара, ну гэтага Аркадзі, з Дулеб, яго бацька некалі парабкаваў у Казановіча, узялі пад акном. Пакуль паспеў штаны нацягнуць, дык і касцей не пакінулі, і клочча не сабраў. Я табе кажу, воўк як раззлуецца, страшней любога звера, мядзведзя страшней.

А ў Прыжка якраз свіння тыдні два як апарасілася, чортведама што з парасятамі рабіць — такі холад. У хаце дзяржаў, каб не памёрзлі. Кажа, возьмем заўтра ў мяшок кабанчыка і пойдзем, падманім іх, шэльмаў, можа, каторага і звалім, глядзіш, і трыста рублёў заробім, гэта шчэ на тыя грошы. За трыста, кажа, і кабанчыка не шкода, каб яе чорт убрыкнуў, свінню гэту, выбрала калі парасіцца...

На тым і парашылі: ён заўтра бярэ кабанчыка, ідзе да мяне, а ад мяне ўжо разам туды, за выжары. У мяне якраз трохстволка была, шаснаццаты калібр, цэнтральны бой, зайца за сто метраў даставала,— Ігнат Сцяпанавіч цмокае губамі, заплюшчвае вочы, суцішваецца. Можа, ён заснуў — з ім і такое бывае. Валера нейкі час чакае: ці не пачуецца голас зноў — не, не чуваць, і ціха выходзіць з хаты.

Выгортвае вуголле з печкі, выносіць на двор, залівае вадой. Доўга пазірае ў печку, дзе дагараюць, губляючы іскры, пераліваючыся ірдзяна-блакітна-сінімі аганькамі сабраныя ў кучу астатнія вугольчыкі, залівае і іх, чакае, пакуль ачахне, выйдзе мокры дух, аблівае вадой палок, лаўкі, яны курацца шызай парай, налівае гарачай вады ў дзежачку — запарыць венікі, ускідвае кубак вады на каменне — абмыць яго, абагрэць палок, ідзе дамоў, бярэ бялізну, мыла. Бацькі ўсё яшчэ няма. Заходзіць па Ігната Сцяпанавіча. Той спіць, звесіўшы галаву на плячо, але як толькі Валера заходзіць, адразу падае голас:

— Назаўтра я насек волава, накачаў карцечы, шэсць патронаў з карцеччу, чатыры з куляй, не лічу ніжняга ствала, у мяне тры патроны і для яго было,— гэта калі па два патроны на галаву — шэсць смела можна ўлажыць. Толькі прыцьмела, заяўляецца Прыжок з мяшком

за плячыма, а ў ім на дне шаволіцца нешта жывое. Кажа, самага лепшага кабанчыка ўзяў. І праўда, вішчыць у мяшку нехта ціхенька, але галасок звонкі. Я яму, кажа, за лыч пяцельку зашмаргнуў, каб голас быў весялейшы.

Валера садзіцца — даслухаць, што было далей.

— Ідзём мы, снег рыпіць пад нагамі, ды кабанчык жаласна канючыць. Антон узяў яго на рукі, як дзіця, той прыгрэўся і аціх. А мароз до-обры, у носе малодзіць. Пакуль дайшлі да балотца, трохі праяснела. Ёсць такая пара зімой, у Піліпаўку: на звязку дня і ночы раптам сцямнее, шэрае на вочы крадзецца, а пасля выясніцца, і зноў відна, чыста ўдзень. У мяне на нагах буркі ў бахілах — вайскоўцы заязджалі, аж тры скаты адразу прапаролі, трэба было камеры падлатаць, дык яны мне браковую, з чырвонай гумы, пакінулі, чатыры пары бахіл выйшла, моцная гума была; у Антона — лапці.

Выбралі мы дзве елкі лявей балотца, паўз дарогу, метраў пятнаццаць адна ад адной, я залез на адну, Антон на другую, кабанчыка пакінуў пад елкай, толькі вяроўку ад мяшка ў руках дзержыць. Скажу, месца выбралі мы добрае, праглядаецца кругом: і балотца, і гала, і выхад з выжараў. Воўк — звер мудры, ніколі не ўгадаеш, адкуль ён да цябе заявіцца. Баронь бог стаць з падветранага боку, за кіламетр чуе чалавечы дух, а порах яшчэ далей. Але тут нам усё прыяла: вечар ціхі, ні вецярка, ні голасу — быццам усё застыла, у зямлю ўмерзла. Нават сабакі ў сяле перасталі абзывацца. Умасціўся я на елцы — пад нагамі два тоўстыя сукі, задам абапіраюся яшчэ на адзін сук — каб і сектар абстрэлу быў і каб злажыцца можна было, біць дык біць. Ішлі — чуўся мароз, а сцішыліся на суках, ён пад кажух палез. І парсючок холад чуе: «гі» ды «гі». Злажыў гэта я рукі і асцярожна, для разведкі, падаў голас па-воўчаму: моў, адстаў ад сваіх, дзе вы?

Ніхто не адазваўся, я гэтага і чакаў, воўк рэдка калі абзываецца на першы зоў. Ён ідзе на яго, а не абзываецца. Сабакі толькі заекаталі ў сяле, іх я купіў адразу, лічы, за медны грош. Счакаў трохі, пакуль усё ўляглося, злажыў рукі трубой, захапіў паветра і павёў — спачатку ціхенька, нібы з-пад карча, а там шырэй, на ўсе грудзі, але зноў жа з сумам такім, з тугой, з голасам, і вышай, вышай, а пасля ўніз, на спад, і зноў жа зацята, роспачна,

быццам застаўся адзін на ўсім белым свеце,— ні радні табе, ні долі.

Я табе скажу, ваўкі надта прыгожа выюць, яны быццам плачуць самі па сабе, можа, таму і валасы ў чалавека на галаве ўстаюць дыбам, бо ён разумее гэты плач. Бывае, яшчэ баба ў роспачы так загалосіць, тады не толькі валасы ўстаюць, сэрца пераварочваецца. Зноў узнялі гвалт сабакі і доўга не сціхалі, а як улёгся брэх, пачуўся воўчы голас. Гэты голас я пазнаю з сотні галасоў. «Ну,— шапчу Антону,— падшавельвай свайго парсючка»,— а сам стаў цвярдзей на суках, каб не паляцець далоў, калі трэба будзе страляць.

І тут пачуўся яшчэ адзін воўчы голас, зусім блізка і за спіной. Вось табе і маеш, чакалі гасцей з аднаго боку, а яны з другога. І парсючок захадзіўся ў мяшку, колькі тае жывёліны, а, відаць, пачуў звера, паміраць каму ахвота. Я асцярожна паварочваю галаву, пагглядзець, дзе ён, госць доўгачаканы, і ствол вяду за сабой. Бачу цень на снезе, здаецца, блізка, а прыкінуў: метраў дзвесце, страляць не будзеш. Глянуў лявей — там яшчэ адзін цень, далей яшчэ... Сем штук налічыў. Паселі паўкругам, галовы пазадзіралі ўгору, быццам на зоркі дзівяцца, і бліжэй не падыходзяць, і не адступаюць. Потым пачалі перабягаць з месца на месца, гыркаць адзін на аднаго, але без злосці, быццам перагаворваюцца між сабой. Выходзіць, не мы іх, а яны ўзялі нас з Прыжком у клешчы і не збіраюцца выпускаць.

А тут, браце, і мароз цісне, чую, ногі дзервянець пачынаюць, рукі зябнуць, метал, ён і праз рукаўку дастае, а тут правая голая, на курку... І Антон галасіць пачынае: «Братачка Ігнат, давай выбірацца, а то яны зусім замарозяць нас...» Выбірацца-то выбірацца, але куды: ад сяла яны адрэзалі нас. Думаю, дай-ка стрэлю з раз, забіць не заб'ю, а пужну трохі, можа, разбягуцца, тады і пойдзем.

Стрэліў і як пугай па вадзе шлёгнуў: забегалі яны, замітусіліся, а адступаць не хочуць і круг не звужаюць.

Скажу табе, тут і да мяне страх пачаў падкрадацца. Добра гаварыць пра ваўкоў, седзячы на печы, а ўбачыўшы іх перад сабой такім падраздзяленнем... Яно-то, канешне, трохстволка ў мяне слаўная і б'ю я без промаху, качку на ляту за пяцьдзесят метраў здымаю, а Залескі Казік падкінуў быў угору шапку на спор, метраў за трыццаць — на рэшата пабіў, болей і не ўздзеў на

галаву, але тут другое... Ды яшчэ і Прыжок ные, каб ведаў, не браў бы з сабой. «Братачка Ігнат, я ўжо ногі паадмарожваў, што Тэклі скажу, давай нешта думаць. Няма рукі, ладна, а як жа без ног...» Думай не думай, а трэба прарывацца. Антон просіцца: «Ты, Ігнат, прарывайся першы, а я за табой, бо яны ў адну секунду разбяруць мае косці».

Спусціліся мы на зямлю, патупалі трохі, каб ногі адышлі, на рукі пахукалі. Кажу Антону, трэба кідаць парсючка, пакуль ваўкі разбяруцца з ім, мы і ўцячом.

Што ты! Мяне, кажа, Тэкля на парог не пусціць. Я ўжо вярнуся ці не, ладна, а калі заўтра парасяці не далічыцца, зжыве са свету. Страх перад жонкай бывае горшы за вайну, што ты паробіш. Кажу, ну і памірай разам з парсюком сваім, толькі не адставай, бо яны ўмэнт раздзеляць цябе. Рушыў я наперад, куркі на ўзводзе, адзін ствол з карцеччу, два з кулямі, быць не можа, каб не прарваліся. Ідзём проста на іх строй, такая, ведаеш, псіхічная атака. А яны сядзяць, як ёлупы, толькі вочы бліскаюць зялёнымі іскрамі.

Метраў пяцьдзесят ідзём — яны ні з месца, як папрымярзалі. У мяне хоць і стрэльба ў руках, а валасы дубка бяруцца. Падпусцілі яны нас метраў на сто, потым нехаця прыг-прыг у бакі — і зноў сядзяць, як ганаровы каравул з двух бакоў, во як. Словам, прарваліся.

Падыходзім да сяла. Прыжок просіцца: пачакай. Ну што ж, цяпер можна і пачакаць. Сталі, пачаў я закурваць, а рукі не слухаюцца: і памерзлі, і дрыжаць. Прыжок працягвае мне пляшку: «Вазьмі, глыні. Гэта ж браў з сабой, думаў, заб'ём якога злыдня ды за яго грэшную душу вып'ем, аж не давялося...» Бяру я пляшку, а там на самым дне і засталося: ён пакуль сядзеў на елцы, як не ўсё выжлуктаў. А я-та думаю, чаго ён усё шаволіцца, месца ніяк сабе не знойдзе.— Ігнат Сцяпанавіч смяецца ціхім дзіцячым смехам, нібы сам з сабою, зноў заціхае. Мусіць, ён зноў недзе там, у сваёй памяці, якая так беражна захавала ўсё, дзе і што было з ім — добрае і дрэннае, вясёлае і цяжкое. Хаця паслухаеш яго, то цяжкога, здаецца, у яго і не было — усё проста і ясна, як у сне.

— І, думаеш, у мяне ўсё з імі так мірна і раз'ехалася? Не-е-е,.. Воўк — не той звер, які можа дараваць ганьбу ці насілле над сабой,— усё тым жа вясёлым голасам

працягвае Ігнат Сцяпанавіч.— У мяне якраз сучка была, Румзай звалі, гэта ўжо пасля Галуса я знайшоў яе. Зайца на паўсотні метраў чула, а лісу дык і за сто. Ха-а-рошая сучка была, што хітрая, што разумная, і двор любіла. Прайшло два дні пасля нашага паходу з Прыжком на ваўкоў, маразы дзяржаліся тады крэпка, хата за ноч выстыне так, што раніцай не хочацца з-пад пярыны вылазіць, ад цёплай жонкі, каб печку пракласці. Якраз была субота, і я лазню вытапіў, папарыўся добра, павячэралі з чаркай, бывае, і чарка ідзе на здароўе, як ніколі. А пасля лазні ды пасля чаркі жыццё раем здаецца. Ага, дык чую, недзе пад першыя пеўні бытта сучка заякала. Я паслухаў яшчэ — ціха. Хацеў ужо засынаць, а яна зноў як заякоча. Бачу, справа на звера падобная. Я нанач у хлеў яе замыкаў, ад ваўкоў: пакуль схопіш стрэльбу ды выскачыш, дык і позна будзе. Ажно яна вылезла, дурніца. Пакуль валёнкі ўзбуў, кажух на плечы, стрэльбу са сцяны — усё сціхла. Выскачыў за хлеў, стрэліў у белы свет, прабег трохі за соткі. След відзён, воўчы, але адзін. Зда-а-ровы, мусіць, узяў на плечы маю сучачку і панёс, як злодзей куль саломы. Стрэліў я яшчэ раз, так ужо, для пастраху, і павярнуў назад. А як развіднела, пайшоў па следзе. Кіламетры два прайшоў паўз лес, па ручаі, бачу ў кустах нешта рыжае. Падыходжу бліжэй: ляжыць на снезе хвост — яе, сучкі маёй... Ну што ж, думаю, даверлівая твая душа, добра ты служыла, хоць хвост для памяці пакіну. Пацягнуў за хвост — не паддаецца, няйначай, прымёрз. Пацягнуў мацней — загырчэла пад снегам. А яна яшчэ жывая была. Ён, шэльма, перадушыў ёй глотку і закапаў у снег. Не галодны быў, думаў вярнуцца. Узяў я яе на рукі, прынёс дамоў, у хату. Адагрэлася яна, ажыла. Даў я ёй малака, а яно выліваецца цераз рану, ён пракусіў глотку. Зашыў я рану, пачалі адпайваць. Усё болей Лёнік, ён не адыходзіў ад яе. Надта жаласлівую душу меў да ўсяго жывога. Але нішто не памагло... пражыла яна тры дні і здохла... Во табе — ваўкі. Я сустрэў Прыжка і кажу: «Плаці, брат, нядоімку. Пашкадаваў парсючка, дык яны сучку абагулілі, ды якую сучку». Але што ты з яго возьмеш, калі ён у хату сваю гатоў праз акно лезці, каб Тэкля не ўчула, чым ад яго пахне.

— Пара ісці,— ціха, быццам у нечым вінаваты, гаво-

рыць Валера, і Ігнат Сцяпанавіч борздзенька ўстае, уздзявае кажух на плечы.

— Вапшчэткі, жыццё — штука надта мудроная і, мусіць, ніколі не здоўжыцца,— гаворыць ён ужо на двары.— Дапусцім, жонка кажа: чаго ты на гэты комплекс бяжыш. То з млына не вылазіў, а цяпер на комплексе днюеш і начуеш. А куды мне бегчы? Бабу і то пакуль вывучыш, а то ж цехніка. Не памерла шчэ машыніна мама, родзіць машынкі, а да машыны не кожнага падпусціш. Тут талент трэба. Дапусцім, Лёнік мой све-е-тлую галаву меў і рукі не чужыя, пасля пятага класа запрог трактар, і не абы-які — ЧТЗ. Не захацеў болей хадзіць у школу — і ўсё тут. Бач, перарастак, дзеці смяюцца. Вапшчэткі, вайна яму два гады падбавіла, і ў рост добра пайшоў — кавалер, не меней. Ну, што ж, раз такое ў чалавека паняцце — ідзі, вучыся на трактарыста. Гэта цяпер калгас дае сто рублёў, каб ішоў каторы браць спецыяльнасць — шафёра, ці трактарыста, ці камбайнёра нават, і то ўпарцяцца, не хочуць. Вунь нават сціпендзію ў інстытуце плоцяць, як Вольцы, вучыся і прыязджай. А тады: паўпуда бульбы, кіло гароху, скварку на затаўку — і гэта на цэлы тыдзень. Як, бедны, нядзелі дажджэ... А нічога, сваё ўзяў. Учэпіцца ў рычаг, як рак за палец, а выходзіла добра. Дзеўкі зноў кругом яго, і ён ім прыяе. Бачу: раз насталі, то скарагодзяць, нікуды не дзенешся. Жаніся, значыць. Хоць зноў жа, пытаюся: «Які ў цябе рэсурс ёсць, каб жаніцца? Голы збірайся — голы гатоў?..» Дык во табе стопка; калі падняць на два вянцы — невялікая, а свая хата, і можна далей пашырацца. І як быццам зачапіўся быў, і садок пасадзіў, а пасля не ўдзяржаўся, сарваўся з месца, прадаў усё і паехаў некуды на Поўнач. Бабы зглумілі жыццё. Загубіў здароўе на гэтых пераездах. Што ты хочаш, тысячы кіламетраў, а як жа жыць без прывязкі да зямлі. Антэну і тую зазямляюць, а ты ж чалавек і дзяцьмі думаеш абсемяніцца, а ім куды расці?

— Ну, дзядзька, ты і мудрэц,— засмяяўся Валера.— Відно, што даўно не бачыў фізікі. Што такое антэна? Гэта праваднік паміж небам і зямлёй. Далей. Навошта зазямляюць антэну? Каб маланка, калі ёй раптам уздумаецца ўлупіць у гэту вось вашу дзесяціметровую антэну,— а маланка — гэта не проста маланка, а электрычны

снарад, дык вось, каб маланка не спаліла тэлевізар, а заадно з ім і хату, і трэба антэна...

Ігнат Сцяпанавіч пазірае на Валеру, нібы той прымусіў яго спусціцца з высокага неба на зямлю. Адказвае:

— Фізіка, яна, канечне, як і кожны, пра сябе думае. Але я так скажу: для парадку жыцця ў сям'і трэба мець кулямёт.

— У кожнай сям'і?

Ігнат Сцяпанавіч задумаўся.

— І кожнай не пашкодзіла б. Не на тое, каб страляць, а каб ведалі, што ён ёсць.

— А ведаеш, дзядзька, я, мусіць, цябе падтрымаю, хоць гэта і аддае партызаншчынай. Параспускаліся ўсе...— Валера сказаў гэта са злосцю, але злосць яго паказвала, што Валера пра ўсё гэта шмат думаў.

— Не ведаю, як усе, а Лёніку гэтага не хапіла,— сказаў Ігнат Сцяпанавіч.

## XIX

У першую ж сустрэчу пасля вяртання, калі Лёнік зайшоў праведаць бацькоў, Ігнат Сцяпанавіч паглядзеў пільна на яго схуднелы твар і сказаў:

— Позна ж ты вярнуўся, сынок...

— Можа, яшчэ не позна,— жаласна ўсміхнуўся той і пачаў паспешліва выкалупваць з пачка папяросу.

— Вапшчэткі, позна,— паўтарыў Ігнат Сцяпанавіч.

У хаце яны былі ўтраіх — сын, бацька і маці. Маці не вытрымала, накінулася на бацьку:

— Ты заўсёды знойдзеш чым парадаваць роднае дзіця.

Ігнат Сцяпанавіч нічога ёй не адказаў, толькі ўсміхнуўся — так, быццам збіраўся заплакаць. Кожны, хто бачыў бы ў гэту хвіліну Ігната Сцяпанавіча і Лёніка, нават не ведаючы, што гэта бацька і сын, па адной усмешцы сказаў бы, што гэта так.

На двары была зіма, ляжаў малады снег, ад яго на свеце было светла і ціха, і гэтак жа нязвычна ціха стала ў хаце.

А летам Лёніка паклалі ў бальніцу. Ляжаў ён там нядоўга, можа, з месяц.

Прыязджала да яго жонка — і адна, і з дзецьмі, прыязджала маці, а каб прыязджаў бацька — ніхто не бачыў.

Колькі разоў Марына спрабавала падступіцца, каб з'ездзіў адведаць сына, але ўсякі раз Ігнат Сцяпанавіч адказваў:

— Трэба было раней шкадаваць.

І сваёй упартасцю, і гэтымі словамі сваімі ён яшчэ раз намякаў на тое, што калі б не яна сама, не маці, то, можа, сын нікуды б і не з'язджаў з дому, можа б, і здароўчы быў. Першая сынава жонка была свая, вясковая, але не ўпадабала яе свякруха, а праз два гады сын кінуў і сяло, і яе і збег.

— Трэба было раней шкадаваць?! — не вытрымала, аднойчы закрычала Марына.— Чаму ж ты яго не пашкадаваў? Ты ж бацька!..

— Паддаўся бабам, і во — загубілі,— упарта паўтарыў сваё Ігнат Сцяпанавіч.

— Паддаўся бабам... Няхай сабе. А дзе ж ты быў, мужчына? — Марына падступала як не з кулакамі.

— Вапшчэткі, работу рабіў...— цяпер у словах Ігната Сцяпанавіча ўжо не было ранейшай цвёрдасці.

— Работу рабіў, а сына прагледзеў...

— Я не прагледзеў. Ён сам сябе прагледзеў,— адказаў Ігнат Сцяпанавіч.

Ігнат Сцяпанавіч умеў дзяржаць сваю душу на замку. Нікому не гаварыў пра тое, што шмат і балюча думае пра сына і што ён ездзіў да яго ў бальніцу. Прыехаў на матацыкле, паставіў яго ў двары знаёмага мужыка, а сам з паляўнічай торбай у руцэ пайшоў у бальніцу.

Пара ўжо бралася пад восень, быў надвячорак, і здавалася, што прырода зрабіла асноўныя дзённыя работы і гатова ісці на спачын, каб заўтра пачаць жыць новымі клопатамі.

Бальніца была ў канцы сяла, у маладым бярэзніку. Было тут яшчэ цішэй, чым у пасёлку, і Ігнат Сцяпанавіч думаў пра тое, што тут вельмі сумна нічога не рабіць. Сына ён знайшоў на адной з дашчаных лавак, якія былі раскіданы па ўсім бярэзніку, каб хворыя, выйшаўшы на прагулку, мелі дзе прысесці.

— Ну, дык як ты тут?— спытаў Ігнат Сцяпанавіч і ўсміхнуўся, шырока расцягнуўшы губы.

— Анічога,— адказаў сын, мелькам зірнуўшы на бацьку, быццам яны даўно ўжо сядзелі на гэтай лаўцы і бацька некуды адлучаўся на колькі хвілін, а гэта вярнуўся.— Бачыш, як тут ціха,— дадаў ён, і губы яго тар-

ганулiся, паспрабаваўшы ўсмiхнуцца, хоць сам ён быў недзе далёка i нiбы ўслухоўваўся, стараючыся пачуць далёкую музыку.

— Вапшчэткi, яно так,— пагадзiўся Iгнат Сцяпанавiч i недыпламатычна спытаў: — Ты што гэта, сур'ёзна надумаў памiраць?

— Мне ўжо, тата, не засталося часу болей нi пра што думаць.— Ён даўно не гаварыў слова «тата», але сказаў яго лёгка, як дзiця, i Iгнат Сцяпанавiч аж скалануўся.

— Тады давай вып'ем,— Iгнат Сцяпанавiч палез у сваю паляўнiчую торбу.

— Мне нельга, у мяне жывот. А ты выпi.

— Яно i мне няможна, я на транспарце, але ладна... Я прывёз табе пячэння, каўбасы...

— А каўбуха не прывёз?

Iгнат Сцяпанавiч адвярнуўся:

— Я не хацеў, каб мацi ведала, што я паехаў да цябе. I ты ёй не кажы, што я быў...

— Усё ваюеце? — спытаў сын, але зноў як пра нешта вельмi далёкае.

Iгнат Сцяпанавiч нiчога не сказаў, вылiў палову чацвяртушкi ў шклянку, выпiў.

— А ведаеш, тата, што мне болей за ўсё ўспамiналася там, удалi? — у цёмных сынавых вачах зачаплiлася нешта светлае, як белы туманок.— Тое, як я цябе знайшоў пасля вайны i як мы з табой на качак хадзiлi.

Iгнат Сцяпанавiч зiрнуў на сына, закiргаў:

— Вапшчэткi, я ведаў, што ты пра гэта не захочаш забыць.

Ён пералiў у шклянку астачу з чацвяртушкi i выпiў.

Памаўчалi яшчэ. Зноў падаў цiхi голас сын:

— Хачу папрасiць цябе аб адным, тата: памажы Лiдзе падняць дзяцей. Ёй адной цяжка будзе...

— Добра. А мацi я скажу, каб каўбуха прывезла.

На тым i рассталiся.

Праз тыдзень сын памёр.

Iгнат Сцяпанавiч сам зрабiў труну, завёз яе ў бальнiцу, сам прывёз сына ў яго хату — да жонкi i дзяцей.

Нi на хаўтурах, нi на могiлках нiхто не бачыў слёз на вачах у Iгната Сцяпанавiча. «Каменны чалавек з жалезным сэрцам»,— цiха гаварылi пра яго бабы.

Назаўтра пасля пахавання Iгнат Сцяпанавiч узяў стрэльбу i з ранiцы сышоў з дому. Вярнуўся позна ве-

чарам, нікога не забіўшы. Так было і на наступны дзень. Марына пачала ўжо трывожыцца за яго самога, але на трэці дзень ён устаў у пяць гадзін, як гэта рабіў заўсёды, і пайшоў у прыбудоўку. Зазірнуўшы ў акенца, яна з палёгкай уздыхнула: Ігнат Сцяпанавіч зацята — быццам акрамя гэтай работы нічога болей не было на свеце — чысціў гэблікам нейкую дошку.

Распранаецца Ігнат Сцяпанавіч павольна, быццам павольнасць — гэта таксама частачка нейкага вельмі важнага рытуалу. Распранаецца і гаворыць:

— Гляджу я на цябе, Валера, і бачу, што ты хлопец чэпкі, скора наложышся разумець і рабіць усё як трэба. Тут, брат, калі што новае трапіць, пакуль не абгрызеш, як сабака костку, не выпускай. І правільна зрабіў, што кніжак набраў — вучыцца трэба. Канчай інстытут ды вяртайся. Сам бачыш, што выходзіць у нас: майстэрні ёсць, станкі, «лятучкі», а рабіць работу не надта каму ёсць, во ў чым механіка. Людзі рвуцца ў горад, а не разумеюць, што волі там меней і прастору няма. Душы воля трэба.

Валера гаворыць, каб Ігнат Сцяпанавіч лажыўся на палок:

— Я з вас хваробу буду выганяць. Кілаграмамі буду выганяць.

Ігнат Сцяпанавіч паслухмяна выцягваецца на палку, кладзе галаву на рукі. Цела ў яго сухое, жылістае, косці ды камякі мускулаў, перацятых рубцамі старых ран. Цяпер яно выдае нашмат меншым, чым калі было ў адзежы.

— У вас, дзядзька, спіна, як у таты: узараць нехта ўзараў, а забаранаваць забыўся,— смяецца Валера.

— Не забыўся, а мы не даліся. Хапіла і плуга, а калі шчэ пусціць барану, якая душа выдзержала б?

Валера ўскідвае паўкубка вады на камяні, чакае, пакуль дух, шугануўшы белым у сцяну проці печкі, зойме і палок. Потым асцярожна праводзіць распараным венікам па спіне, нагах Ігната Сцяпанавіча, ускідвае яшчэ паўкубка. Дух хапае за вушы, сушыць у носе.

— Вапшчэткі, можна пачынаць,— падае голас Ігнат Сцяпанавіч, і Валера ўзмахвае венікам. Дух і венік робяць сваё — Ігнат Сцяпанавіч задаволена мармыча, вохкае, уздыхае, варочаецца, падстаўляючы то адзін, то другі бок.— Паддай яшчэ,— просіць ён, і Валера кідае на

камяні новую мерку вады. Духу шмат, ён хлупіць у глотцы, Валера ўжо не ўзмахвае венікам, а лёгенька гладзіць, масажыруе цела Ігната Сцяпанавіча.

— Ото-то здорава, ото добра... А цяпер пакрапі халоднай вадзіцай,— просіцца Ігнат Сцяпанавіч, і Валера пырскае на яго халоднай вадой, потым зноў бярэцца за венік...

— Валерачка, ты ж там глядзі, не замары майго дзеда,— чуецца за дзвярыма голас цёткі Марыны.— Я тут бялізну прынесла і кіслага малака. І на холадзе доўга не сядзіце, адразу ідзіце ў хату...

— Усё будзе, як вы кажаце,— адказвае Валера, і цётка Марына пакідае іх адных.

— Вапшчэткі, я табе скажу, жонкі — патрэбныя людзі. Яны хоць і бабы, і языкатыя, але заўсёды ўпору прыходзяць,— гаворыць Ігнат Сцяпанавіч, і ў яго голасе чутна непрыхаваная задаволенасць.

— Вы думаеце, калі так было некалі, то так і цяпер? Не-а. Цяпер зусім іншы век. І дзяўчаты...— Валера махнуў рукой.— Убачыла модныя вусікі, прычоску «шыквосемдзесят тры», джынсікі — і ўсё, прапала.

— Вапшчэткі, гэта толькі спачатку здаецца, што прапала. А папраўдзе ўсё мудрэй... У жанок вушы золатам занавешаны... Яны чуюць тое, што трэба чуць. Скажы, а там, у Мінску, ты выпадкам Вольку не бачыў?

— Заходзіў да іх у інтэрнат. Бацькі папрасілі, каб завёз хатуль.

— Ну і як яна?

— Такая, як і была. Яна і не чакала, што я раптам магу аб'явіцца там.— Валера перастае ваяваць венікам, дае перадыхнуць Ігнату Сцяпанавічу.— А з ёй жыве яшчэ адна, таксама з сяла. Ой, як ёй хочацца стаць гарадской. Каб ведаў, прывёз бы гатовую нашыўку, як на імпартных джынсах: «Гарадская».

— Ну во, а ты кажаш «іншы век». Усе яны чалавекі і ўсе розныя. Скажу яшчэ такое: гэта мы толькі называем так, каб пахваліцца, мужчынскі строй. Няма мацнейшай шарэнгі, чым бабская, і няма вярнейшага мужчыны, чым баба. Раз ужо яна ўпадабала цябе і паверыла — можаш нічога не баяцца.

Потым яны аддыхваюцца голыя ў прылазніку, п'юць з гладыша нагбом густое кіслае малако, пасля ідуць мыцца. Валера памагае Ігнату Сцяпанавічу — намыльвае,

шаруе венікам, мачалкай спіну, грудзі, рукі, і Ігнат Сцяпанавіч пакорліва прымае гэту дапамогу, паказваючы сваёй пакорлівасцю нешта дзіцячае, слабае. Апрануўшыся, сядзяць у прылазніку, Ігнат Сцяпанавіч дастае піпку.

— Вапшчэткі, скажу табе зноў: жыццё — гэта кола, зямля стаіць, а яно круціцца. Бывае, падыме на самы верх, а пасля са ўсяго маху, во тут не дай бог разгубіцца — раздушыць, як жабу. Мокрае месца пакіне, а само пакоціцца далей. Яму няма калі чакаць, пакуль ты штаны падцягваць будзеш... Але калі ты правільна выбраў маршрут свой і маеш план, як дабівацца на ім,— ты сам кум каралю, а то і болей. Бо хто набярэцца смеласці сказаць ільву, што ў таго з рота смярдзіць. Гэта во так, як у вас, у школе, задаюць сачыненне на вольную тэму. Ніхто цябе да яе не прымушае, сам выбіраеш, а ўжо як выбраў, ніхто за цябе яго не напіша. І нечага тут плакаць: без мяне мяне жанілі, мяне дома не было. А дзе ж ты быў? Яшчэ болей скажу: калі што ўесца ў косці, то надоўга. Недарма столяр, паміраючы, казаў: усім усё дарую — і добрае, і дрэннае, адно яловаму суку і на тым свеце ніколі не дарую. Не мог наравістага характару суку дараваць, бо той усё жыццё ўпоперак яму стаяў. На гордага чалавека шмат хлеба трэба, ды і па хлебе, але кожны хоча, каб пра яго ведалі. Як там у каго выходзіць, гэта ўжо іншае, тут трэба мець сілу смеласці не даць дурной ахвоце і людзям затаптаць цябе. Памятаеш Караля — высачыня такая была, недзе два метры, і сіла па росце, а гонару яшчэ болей. Прыходзіць ён у кузню, а там паўсяла сабралася, якраз лета было, ды дождж работу сарваў. А Максім нагрэў брусок металу — сякеру збіраўся выкаваць. Ён як быццам і не надта яркі брусок, а тэмпература ўсярэдзіне высокая. Нехта і скажы Каралю: «А вот не возьмеш у рукі, пабаішся».— «Давай на спор».— «Давай». На літру залажыліся. Узяў Кароль у руку распалены брусок, перакінуў у другую, гуляе гэтак з жалезінай, як з мячыкам. Рукі ў яго вялікія, у мазалях, вядома, чалавек рабочы, яно і не страшна. І як ён зяўнуў — выпусціў брусок. Выпусціў-то выпусціў, а быў у ботах з шырокімі халявамі. Брусок і слізгануў па штаніне ў халяву. Усе смяюцца: «Во фокуснік, брусок схаваў», а яму не да смеху, боты былі на босую нагу ўзбуты, жонка — лярва такая, анучы ў хаце ніколі не знойдзеш.

І Кароль замест таго, каб скарэй нагу выцягнуць з бота, кінуўся плячыма на зямлю, задраў ногі ўгору, трасе, каб брусок вытрасці. Вытрас, але брусок не на зямлю пайшоў, а па голай назе, у штаны. Ты ведаеш, паўнагі спаліў, пакуль выкінуў. А літру, вапшчэткі, выйграў...

Ігнат Сцяпанавіч прыхінае галаву да бервяна, заплюшчвае вочы. Валера таксама прысланяецца да сцяны і адразу нібы правальваецца ў сон. Нешта дзіўнае накочваецца на яго, быццам ён пераносіцца ў другі час, калі быў зусім маленькі, а бабуля гаварыла яму пра людзей і пра чалавечую душу. Што чалавек жыве, пакуль ёсць у ім душа. А варта толькі пасварыцца з душой, як яна пакідае цела і чалавек памірае... Як ад штуршка, Валера прачынаецца. Ігнат Сцяпанавіч напружанымі пільнымі вачыма пазірае на яго, быццам рашае для сябе нейкую вельмі важную задачу. Потым нібы спахопліваецца:

— Во, бач, таксама звёў вочы, і сніцца: падыходзіць як бы Ігнат Яблонскіх, мы з ім некалі ў Бабруйску на столяраў вучыліся, рэдкай рукі столяр быў, але вайна яго крэпка пакачала, ён недзе адразу і памёр; падыходзіць ён і пытае: «Ці гэта ты, Ігнат, ці так сабе хто?..» Хацеў я прыругнуць яго трохі: хіба ты сляпы, сваіх не пазнаеш,— ды перадумаў. «Не, кажу, не я». Ён і пайшоў, кульгаючы, у яго дзве скразныя раны былі ў правую нагу. Выходзіць, даў мне адсрочку, і я прачнуўся...— Ігнат Сцяпанавіч заціхае, але зараз жа пачынае гаварыць зноў, толькі голас ужо другі, размякчаны, задуменны: — Я так скажу: калі ўжо трэба паміраць, то лепей рабіць гэта восенню. Добра было б, каб хавалі раніцай, калі сонца пачынае ацяпляць зямлю, і каб ужо выкапалі бульбу і жыта пасеялі, каб людзі не спяшаліся. І каб дажджу не было. Дрэнна хаваць з дажджом...— Ён адрывае галаву ад сцяны, гатовы зараз жа ўстаць, шчупае Валеру памаладзеўшымі вачыма. Цяжка нават дапусціць, што нейкую хвіліну назад яны маглі спаць.

— Дык ідзём на кабана?

Валера маўчыць.

— Вапшчэткі, калі ісці на звера, трэба ўмець страляць.

— Страляць я ўмею. Нават на спаборніцтвы ў раён ад школы ездзіў. Трэцяе месца заняў.

— Ці, думаеш, будзе, як з лісой? — Ігнат Сцяпанавіч ціхенька смяецца.

— Што ліса... Пагуляла і пайшла...

— Баішся жывому зверу ў вочы зірнуць?

— Мёртваму баюся. Колькі таго жывога засталося? На адну душу па пяць стралкоў. Ішоў сёння з аўтобуса, дык у Яворскім лесе, як расходзяцца дарогі на Курганок, усё здратавана машынамі. Сляды дзікіх свіней, а чалавечых яшчэ болей... Значыць, прыязджалі аднекуль.— Валера злаваўся, і губы яго, памечаныя чорнымі валосікамі, дрыжалі.

— Вапшчэткі, я чуў: у тым баку сёння стралялі. Так яны могуць і да майго дабрацца,— устрывожыўся Ігнат Сцяпанавіч.— Трэба паспяшаць, а?

— Дык чаго мы сядзім, не ідзём у хату?

— І праўда. Там, пэўна, і вячэра гатова, а можа, жонка і яшчэ што знойдзе...

І яны ідуць на мароз.

## XX

Ігнат Сцяпанавіч не вытрымаў доўга чакаць, праз дзень сабраўся ў лес.

— Прайду гляну, што там робіцца,— сказаў жонцы, зацягваючы папругу на куфайцы. Пад куфайку пададзеў тоўсты шарсцяны світэр з высокім, аж пад самыя шчэлепы, каўняром.

Звязала яму гэты світэр Соня. «У ім, тата, не страшна і на двор выйсці, і работу зможаш рабіць»,— сказала, радасная, што прыйшоўся ён упору і па душы бацьку. Ігнат Сцяпанавіч прымяраў яго перад люстэркам доўга і ўважліва, як каго чужога, разглядаючы сябе.

Світэр і праўда быў цёплы. Для майстэрні дык і занадта, асабліва калі з дрэвам што маеш рабіць. Маханеш рубанкам колькі разоў — і ўсё, пара пайшла. Ведама: каваль — людзьмі, сталяр — грудзьмі... У лес ці на паляванне, пад куфайку, каб спраўней было павярнуцца ды калі і затаіцца дзе пад елкай, сама добра. Удружыла дачка слаўна...

Не надта часта прыязджалі дочкі ў Ліпніцу, але і не цураліся, як бывае. Гуня прыедзе са свайго горада, напрывозіць батонаў, абаранкаў, нашуміць, нагаворыць, возьме тое, выпрасіць гэта,— і зноў прапала. Нібы вецер пракаціўся, перабунтаваў усё, пазрываў са сваіх месцаў. «Як там мой Лёшачка... ці здагадаецца зазірнуць у ха-

ладзільнік... а то будзе галодны... І дзяцей не накорміць». А дзеці ўжо школу канчаюць. Ды і Лёшачка — лысіна, як люстэрка, а ў малых ходзіць.

Не нашмат часцей прыязджала і Соня, хоць і жыла бліжэй, у сваім раёне. Ігнат Сцяпанавіч нікому не прызнаваўся, але яе прыезду чакаў заўсёды. Было ў ёй тое спакойнае, ураўнаважанае, што павінен быў бы мець кожны мужчына. «Вапшчэткі, нашай пароды чалавек»,— адкрыў неяк сваю тайну жонцы. Яна не сказала нічога, бо сама прымячала большую цягу яго да старэйшай дачкі. Як і да яе мужыка — цягавітага, маўклівага. Працаваў ён трактарыстам, добрасумленна рабіў усякую механізатарскую работу і ўсё, што трэба ў дамашняй гаспадарцы. Права думаць і рашаць за ўсю сям'ю аддаў Соні. А думаць было пра што. Дзяцей было аж чацвёра. Але Соні ўдалося ўдзяржаць іх ля сябе, не пусціць ураздроб, хоць старэйшыя ўжо і павырасталі. А во і пра бацьку не забылася...

— Куды ты надумаўся? Шчэ тое не вычыхаў,— не надта строга, але спрабавала адгаварыць Ігната Сцяпанавіча Марына.

— Вапшчэткі, мушу табе сказаць, лазня — святая справа. Ужо нашто Цімох — рэстаўрыраваны чалавек: склалі, памазалі і сказалі: «Жыві», а і той пасля палка чарку папрасіў,— усміхнуўся Ігнат Сцяпанавіч.

— Цімох — рэстаўрыраваны, а ты маладзён?

— А што... Валера направіў так, хоць у сваты ідзі,— вёў сваё Ігнат Сцяпанавіч.

Валера трохі перабольшыў. Паляўнічыя былі на адной машыне, хутчэй за ўсё на «уазіку», але з дарогі стараліся не з'язджаць: не даваў снег. Было іх чацвёра, два сабакі. Машыну паставілі метраў за дзвесце ад клубчанскай гравейкі. Адзін з сабакамі пайшоў у заганятыя, астатнія занялі месцы на выхадзе з лесу. Разлік быў просты: пачуўшы сабак, свінні кінуцца ці пад Курганок, ці ў бок Старыны. І там, і там трэба выходзіць на рэдкае. Свіней было трое, і яны выбралі Курганок. З гэтага боку стаялі два паляўнічыя, і іх стрэлы дасталі аднаго кабанчыка.

Усю гэту няхітрую грамату Ігнат Сцяпанавіч прачытаў, прайшоўшы спачатку па машынным следзе, а пасля ўслед за свіннямі. *Яго* кабана тут не было. Тут была

леташняя моладзь. *Яго* кабан быў у Старыне, там і трэба было яго шукаць.

Ігнат Сцяпанавіч, відаць, і сам не змог бы да канца растлумачыць, чым даўся яму гэты кабан. Хіба гэта была першая лясная душа, чыя дарога прайшла стараной ад лініі, на якой з узведзенымі куркамі стаяў ён? Жыве — ну і хай бы жыў. Шкода, што ўпусціў, ды што паробіш: сабака струсіў. Сустрэў ужо дома, вінаваціцца, хвастом снег падмятае. Капануў нагой, каб вочы не бачылі...

Думкі пра кабана ў Ігната Сцяпанавіча чамусьці звязваліся з яго хваробай. Нібы кабан быў віноўнікам, што ён застудзіўся. І не проста застудзіўся, а мог і памерці. І — не памёр! Вапшчэткі, жывы, здаровы. І павінен сустрэцца з кабаном. Чым далей думаў Ігнат Сцяпанавіч, тым болей прыходзіў да вываду: не, не могуць яны размінуцца. І думаў пра гэту сустрэчу так, быццам гэта ўжо было даўно некім вырашана і нічога памяняць нельга, толькі трэба даждаць найлепшага моманту. Як у вайну, пры наступленні.

З Яворскага лесу цераз голы нізінны перашыек Ігнат Сцяпанавіч перайшоў у бярэзнік, а з яго ў балотца, па якім некалі ішоў услед за ваўком. Самога балотца даўно ўжо не было, праз яго пралёг магістральны меліярацыйны канал, упалавіну засыпаны снегам. А ельнік стаяў на ўзвышэнні, як і тады, густы і пануры.

У кустах Ігнат Сцяпанавіч убачыў свежыя — гэтай ночы — сляды кабана. Адчуваў ён сябе тут спакойна, шнырыў ад куста да куста, успорваючы снег да леташняга лісця. Нібы забаўляўся, як гэта робіць, мышкуючы, ліса.

Ігнат Сцяпанавіч зрабіў ладны крук па ельніку, выйшаў на просеку. Вяла яна ўздоўж канала, можа, у кіламетры ад яго. Сюды кабан не выходзіў, і гэта спадабалася Ігнату Сцяпанавічу. Кабан нібы сам адмераў сабе тэрыторыю і не вылазіў за яе межы. Зноў на канал Ігнат Сцяпанавіч выйшаў кіламетры за паўтара наперадзе. След кабаноў застаўся ў гэтым абмераным участку. «Недзе спіць пад елкай, у цёплым шыгаллі, каб выйсці ноччу пад дубы ці на балота, карэнне церабіць. Ну, хай паспіць»,— вырашыў, нібы дазволіў, Ігнат Сцяпанавіч.

Ігнат Сцяпанавіч усё ж уламаў Валеру пайсці на кабана.

— Вапшчэткі, не пашкадуеш. Мы яго абавязкова прыжучым. Я праверыў: яму няма куды дзявацца. Возьмем абодвух сабак: вашага і майго. Ты станеш на просецы, а я ад канала. Ручаюся: ён выйдзе ці на цябе, ці на мяне, а тут ужо не спі. І зноў жа бачыш: снег карой узяўся, сабакі пойдуць паверсе, мы на лыжах, а яму... Што ж, той раз вылузнуўся, цяпер нікуды не дзенецца!..

— Не будзем загадваць,— адказаў Валера. Ён быў у цёплай, пацягнутай зверху чорнай матэрыяй куртцы, патроны ўкінуў у кішэні, стрэльба на плячы.

За іхнімі зборамі акрамя Марыны сачыла яшчэ адна пара пільных вачэй. Належалі яны Толіку — васьмігадоваму Лёневаму хлопчыку. Якраз былі зімовыя канікулы, і Ігнат Сцяпанавіч перадаў Лідзе, каб прыслала сына: хай пабудзе ў іх. Яна і прывезла яго. І цяпер Толік сядзеў, звесіўшы ногі з высокага дубовага дзедавага крэсла, як з трона, і пазіраў, як дзед збіраецца на паляванне. Хлопчыка нядаўна абстрыглі «нулёўкай», і растапыраныя вушы яго тырчалі ў бакі, як не свае.

— А мне можна з вамі? — спытаў ён у Ігната Сцяпанавіча. Спытаў такім сур'ёзным голасам, быццам яго і праўда маглі ўзяць на гэта паляванне.

— Табе яшчэ рана,— адказаў той, кінуўшы позірк на сцяну. Там у дубовай рамцы быў партрэт сына, перазняты з вайсковай фотакарткі. Яны былі вельмі падобныя — гэты абстрыжаны вушасцік і той, на сцяне, у парадным мундзіры і фуражцы.— Ага, рана табе,— паўтарыў Ігнат Сцяпанавіч і дадаў: — Хіба што праехаць на дзіку, калі б сядло было ды хто дабраў спрыту пачапіць яму на спіну. А калі сказаць болей, то і не дзіцячая гэта работа.

— Я да вас прыехаў у госці, а вы не хочаце мяне браць з сабой,— з крыўдай паўтарыў унук.

— Прыехаў у госці, то і будзь гасцём,— адказаў Ігнат Сцяпанавіч.

...Кабан быў у сваім «надзеле», і сабакі паднялі яго адразу, але ён не пайшоў на Валеру, а рвануў па ельніку, у бок Яворскага лесу. Ён прайшоў метрах у ста ад Ігната Сцяпанавіча — нібы чорная маланка чырканула па снезе між ствалоў.

Сабачыя галасы аддаляліся. Ігнат Сцяпанавіч зразумеў, што ўся яго вялікая стратэгія лопнула, як порхаўка

пад нагой, і цераз канал выскачыў на поле, беручы напрамак на дальні рог Яворскага лесу. Кабану не закажаш, куды павярнуць, але Ігнат Сцяпанавіч чамусьці быў упэўнены, што ён пойдзе ці ў глыб Старыны, ці сюды. Дарогу ў глыб Старыны бунтуюць сабакі сваімі галасамі, а гэты край спакойны... На пагурку Ігнат Сцяпанавіч прыпыніўся, азірнуўся назад, убачыў Валеру. Той толькі што выскачыў з лесу і паказваў рукой туды ж, куды кіраваў і Ігнат Сцяпанавіч.

Ігнат Сцяпанавіч кінуў вокам трохі далей, на нізінны прагал паміж бярэзнікам і Яворскім лесам, і ўбачыў самога кабана. Той пластаваў па нізіне, нібы гнаў баразну, і трымаў шлях на бліжні рог Яворскага лесу. Снег быў глыбокі, і кабан ледзь не ўвесь хаваўся ў ім. Потым выскачылі на чыстае і сабакі.

«Ненадоўга цябе стане па такім снезе, галубок. Яны дагоняць. Дагоняць і абсядлаюць»,— падумаў Ігнат Сцяпанавіч, беручы свой далейшы разбег.

Шырокія ясянёвыя лыжы лёгка слізгалі па залубянелым снезе, і ён дастаў дальняга рогу Яворшчыны раней, чым кабан. Сабакі екаталі недзе на клубчанскім баку і нібы на адным месцы. Няйначай, кабан забраўся ў гушчар і не падпускаў да сябе. Але не — сабачыя галасы зноў павесялелі, сталі набліжацца, і не паспеў Ігнат Сцяпанавіч вырашыць, як быць — ці заставацца тут, ці прабегчы краем лесу далей, як зноў, ужо зблізку, убачыў кабана. Той, як чаўнок, прашыў ельнік метрах у трыццаці і выйшаў на чыстую снежную разлогу. Наперадзе, упоперак яго дарозе, ішоў меліярацыйны канал, далей ляжала поле, а яшчэ далей цёмнай сцяной уставаў Курга初оўскі лес. Кабан выбраў дарогу ў лес. Метрах у дваццаці за ім ішлі сабакі.

Ігнат Сцяпанавіч ускінуў стрэльбу і вёў па ходу кабана.

Гэта быў сапраўдны сякач: магутныя высокія грудзі, вялізная, счэсаная на клін галава... Разяўленая пашча забіта пенай!.. Сабакі даганялі яго...

У абодвух ствалах былі патроны з кулямі, але Ігнат Сцяпанавіч марудзіў націскаць на куркі.

«Куды ж ты ідзеш, дурань! Перад табой жа канал...» Думка гэта маланкай мільганула ў галаве, і быццам у адказ на яе кабан зрабіў адчайны скачок. Скачок быў смелы і прыгожы, кабан адарваўся ад зямлі і на нейкае

імгненне нібы завіс у паветры, у вольным палёце. Кабан пайшоў бы далей, але тут умяшалася тое, чаго ні звер, ні чалавек не чакалі. На процілеглым беразе канала за зіму вырасла і ішла ўправа і ўлева шырокая, залізаная вятрамі снежная страха. Кабан прызямліўся якраз на яе, прабіў і ўсёй сваёй магутнай тушай шухнуў уніз, у сыпкі, глыбокі снег. Тут яго і дагналі сабакі.

Ігнат Сцяпанавіч выскачыў на бераг канала. Кабан як не ўвесь быў у сухім, узараным капытамі снезе. Вялізная, у палавіну тулава, з жоўтымі загнутымі ікламі галава выцягнута ўгору, насустрач сабакам, чорная шчаціна на хібе стаіць шыллем. Разяўленая пашча ў жоўтай пене, клочча яе падае на снег, грудзі задыхана ходзяць. Сабакі аж заходзяцца ад ярасці, кідаюцца ўніз і тут жа, як на спружынах, адлятаюць назад.

Ззаду над кабаном навісала тоўстая снежная страха, перад ім былі сабакі.

Бакавым зрокам кабан убачыў чалавека, што выскачыў на бераг канала, і адкуль што ўзялося: раптоўны, нібы стрэл, скачок угору, на бераг канала, на сабак,— тыя, як шчэпкі, пырснулі ў бакі, яшчэ некалькі скачкоў, і лес праглынуў яго, як іголку. Апамяталіся, загаласілі сабакі, кінуліся ўслед.

Падбег Валера — куртка расшпілена, шапка на патыліцы, твар потны, расчырванелы:

— Ну, што?

— Вапшчэткі, ты разумееш: і па такім снезе ён нароўні ідзе з імі,— Ігнат Сцяпанавіч выглядаў разгубленым.— Ага, выскакваю сюды, а ён у канаве, як мыш у муцэ. І сабакі шалеюць.

— Ну?

— А пасля ўгледзеў мяне — і на іх, на бераг... Як яны толькі паспелі адскочыць убок. А ён па свайму ходу назад...

— Пастойце... Дык тут жа і пяцідзесяці метраў не будзе,— хацеў зразумець сваё Валера.

— Ага... Ты бачыш, якую яму краталоўку падстроілі? — Ігнат Сцяпанавіч ішоў па кабаніх следзе.— Да крыві парэзаў ногі, і пена клоччам... Ён думаў, што на тым баку цвёрдае, а там снегу накруціла за зіму. Ён як ішоў, так з ходу і матануў... Метраў пяць ляцеў... І калі б там была зямля, пайшоў бы далей. Такая сіла, пудоў шаснаццаць, не меней...

Валера паглядзеў чэпкім позіркам на Ігната Сцяпанавіча, і толькі цяпер да яго пачынаў даходзіць сэнс усяго таго, што адбылося тут...

Ігнат Сцяпанавіч дастаў з кішэні піпку, але набіваць не спяшаўся, прыслухоўваўся да сабачых галасоў. Яны даносіліся недзе з другога канца лесу.

— Вапшчэткі, яму нічога не заставалася, як пайсці ў атаку на іх, у лоб...— Ігнат Сцяпанавіч паслухаў яшчэ. Галасы сабак ужо былі ледзь чутны.— А цяпер няхай яны яму ў с...ку пацалуюць,— сказаў як сам сабе і засмяяўся ціхім вінаватым смехам.

Ён натоптваў піпку і, здавалася, увесь быў у гэтай рабоце, але відаць было, што галава яго была занята нейкай іншай, вельмі важнай думкай. Ігнат Сцяпанавіч нават усміхаўся, шаволячы губамі, але ўсміхаўся сам сабе, і ў вачах яго слаўся сівы, як гэта заснежанае поле, туман... Усміхаўся і ўслухоўваўся ў нешта, што гучала ў ім самім і што пачуць мог толькі ён.

І Валеру раптам зноў стала страшна, як тады, у Мінску, на вакзале. І ён стаіўся ў сабе, баючыся чым-небудзь неасцярожным парушыць тую ціхую засяроджанасць, у якой быў Ігнат Сцяпанавіч.

Ігнат Сцяпанавіч тым часам прыкурыў, пусціў угору дым, падняў вочы на Валеру, і ў вачах гэтых ужо не было туману — былі яны чыстыя і ясныя, і нешта вясёлае і роднае ігрwelcome ў іх... Валера таксама ўсміхнуўся, адчуваючы, як у самога вочы засцілаюцца туманам...

Высока ў небе над імі, як павук павуціну, цягнуў дымную нітку самалёт. Калі б у лётчыка былі час і ахвота адарваць вочы ад забітых прыборамі панеляў і зірнуць уніз, ён убачыў бы, што снежна-зімняя зямля ляжала пад ім, як вялізная, шырока разгорнутая карта.

Калі б лётчык мог спусціцца ніжэй, ён убачыў бы шэра-белае ліпніцкае поле, і Яворскі лес, і дарогу, што прамой лініяй рассякала лес на дзве часткі. Дарога вяла з Клубчы ў Ліпніцу, адтуль — у раён і ва ўвесь свет.

Ён мог бы ўбачыць і сабак. Яны дагналі кабана, хаця ён ужо і не ўцякаў ад іх. Цяпер ён быў хітрэйшы: стаіўшыся ў гушчары, ён аддыхваўся, набіраў сілу, рыхтуючыся да таго непазбежнага моманту, калі сам пойдзе ў атаку, і гора таму, хто стане на яго шляху...

А яшчэ лётчык убачыў бы на полі ля лесу дзве маленькія чалавечыя постаці. Яны ажыўлена ўзмахвалі ру-

камі, у аднаго і другога з рота ішла марозная пара — людзі гаварылі між сабой.

У лётчыка, закутага ў прыгожыя лініі металу, была свая задача. Угары над ім сліпучым бляскам ззяла сонца, перад ім распасціралася блакітная, сатканая з малюсенькіх шэрых кропак бясκрайнасць, унізе пад ім ляжала зямля. Лётчык ведаў, што яна жыве, любіць, дыхае, змагаецца за сябе, і ад гэтай думкі яму было лягчэй пераносіць адзіноту ў гэтай пустой халоднай бяскрайнасці.

*1984*

На Раданіцу
да абеду пашуць,
па абедзе плачуць,
а ўвечары скачуць.

*Прымаўка*

# I

Тых, хто сустракаў, на станцыі, як заўсёды, было болей, чым тых, хто прыехаў, хоць з вагонаў сёння высыпала нямала. Іван ведаў, што тут яго чакаць ніхто не будзе, але пастаяў ля нізенькага станцыйнага плоціка, пакуль людзі растасоўваліся хто куды. Усё ж нядрэнна было б убачыць каго-небудзь знаёмага. Ці з Буднева, ці з суседніх сёл.

Знаёмых не было, на дварэ сцямнела, і ён дастаў з чамадана ліхтарык. Закінуў чамадан за плечы, заторкнуўшы палку пад ручку, ішоў, свяціў, выбіраючы дарогу. Ужо з тыдзень стаялі сіверныя, з сонцам дні, ваду сцягнула, і зямля пачала прасыхаць і была мяккаватая і як быццам цёплая. Але дарога паспела ачарсцвець і на голых месцах, і тут, у лесе. З бакоў цягнула жыўной парнасцю, адталым мохам, смалой.

І наперадзе Івана і ззаду чуліся галасы, бліскалі ліхтарыкі. Сёння ў гэты бок ішлі густа.

Іван любіў гэтую некароткую — што ні кажы, а ўсё ж дзесяць кіламетраў — дарогу дамоў. Яна мела над ім нейкую магічную ўладу, якой ён ахвотна падначальваўся, нават не адчуваючы гэтага. Трэба было толькі выйсці з вагона, мінуць пуці і заглыбіцца ў лес, як усё тое, чым ён жыў у горадзе, заставалася недзе там, па-за ім, а сам ён рабіўся як быццам інакшым чалавекам — мякчэў, дабрэў. Маўклівы і задуменны па натуры, тут ён весялеў, ажыўляўся, яго цягнула гаварыць і смяяцца. Ён раптам пачынаў адчуваць у сабе смеласць і цвёрдасць чалавека, які лёгка і проста жыве на свеце, для якога няма нічога немагчымага, які ўсё можа, варта толькі захацець. Ён і сам не ведаў прычыны такой перамены ў сабе, але перамена гэта была і радавала яго. Ён гатовы быў прывеціць кожнага, каго б ні сустрэў,— ці хто з Буднева быў, ці з якога другога сяла,— яны цяпер былі яму як добрая блізкая радня. Яго дзівіла, калі людзі не радаваліся сустрэчы з ім так шчыра і адкрыта, як ён сам. Яму хацелася,

каб усе лічылі яго сваім, каб усе ведалі, што ён усё той жа Іван, якім быў і пяць, і дзесяць гадоў назад. Ён не разумеў, што нават для буднеўцаў ён быў усяго толькі госць. А з госця што возьмеш?..

Нешта такое — бадзёрае, радасна-неспакойнае тварылася з Іванам кожны раз, калі ён выязджаў з інстытута ў камандзіроўку. Паспешліва, быццам баючыся спазніцца, ён складваў свае карты, планы, схемы ў стол, атрымліваў у Жэні грошы, хапаў у рукі чамаданчык. Як толькі інстытут з яго пыльнымі калідорамі і старымі шафамі, з добрым і пакладзістым Вас Васам (так яны звалі начальніка групы Васіля Васільевіча), з хлопцамі і дзяўчатамі заставаўся недзе там, ззаду, ён з палёгкай уздыхаў. Івану мукай было выседзець цэлы дзень за сталом. Нават свой ужо гатовы «аб'ект» ён стараўся афарміць і адаслаць на зацвярджэнне як хутчэй, каб спіхнуць з сябе гэтыя паперы і каб можна было зноў выехаць «на перыферыю».

Іван любіў зашыцца ў які-небудзь далёкі саўгас і хадзіць, прамяраць, прыкідваць, дзе што і як рабіць, кудой пусціць лінію, дзе паставіць трансфарматар, як зрабіць падводку на фермы, на зерняток... Тут ён быў сам сабе начальнік, і, можа, якраз гэтыя свабода і незалежнасць дадавалі яму бадзёрасці і настрою. І яшчэ ён любіў быць на волі — ці то поле было, ці лес...

Як у многіх негаваркіх людзей, схільных да самааналізу, у Івана была прывычка разважаць уголас з самім сабой, і ён не саромеўся гэтай сваёй слабасці: яна давала яму магчымасць абыходзіцца кампаніяй усяго з аднаго чалавека — яго самога.

І цяпер, настроіўшыся на дарогу, ён не забыўся сказаць сабе: «Ну што ж, Лявонавіч, бярыце лахі пад пахі і тупайце. Вам яшчэ далекавата тупаць».

Наперадзе ішлі два хлопцы і гаварылі пра дзяўчат. Успаміналі Курганы, тыя самыя Курганы, што былі недалёка ад Буднева і куды Іван хадзіў на танцы.

«Весялей будзе ісці»,— узрадаваўся Іван, памеціўшы ў хлопцах спадарожнікаў. Яшчэ далей наперадзе чэкаў нагамі даўгі і прамы хлопец, махаючы малюсенькім чамаданчыкам.

— ...А памятаеш, прыходзіла з хутара Маня... Маленькая такая, «Сербіянку» любіла танцаваць... во дзеўка была! Агонь! — гаварыў адзін з тых двух.

— Яна агонь, а ты порах... Ну, там ужо было...— з добрай доляй сумнення перабіў яго сусед. У яго быў пявучы, трохі ў нос голас. Гаворачы, ён прыемна, як на спеўках, расцягваў словы — «а-а-агонь», «бы-ы-ло-о».

— А што ты думаеш. І было дзела,— вёў сваё першы.— Правёў ■ яе тады да канавы і кажу: «Ідзі, дзевачка, а мне сёння яшчэ на касьбу трэба». А сам ужо накасіўся-а-а. Думаю, скарэй бы да якой капы, каб ніякі брыгадзір не ўспароў.

Хлопец з малюсенькім чамаданчыкам прыцішыў хаду.

— Гэта вы пра якую Маню? Ці не пра Мяллянаву? — Яму, відаць, хацелася прыстаць да гэтых двух.

— А хто яе ведае, чыя яна. Маленькая такая, бялявая. У бацькі яе пчолы былі... Я пасля таго яшчэ разы са два заглядаў да іх і мядком ласаваўся.

— Мяллянава,— упэўнена сцвердзіў хлопец з чамаданчыкам.— Яна замужам цяпер. Недзе ў Магілёве.

— Канешне, будзе замужам, дзе ж ёй быць,— хмыкнуў, як адмахнуўся, не захацеў прызнаць яго першы хлопец і загаварыў да суседа — цішэй і больш інтымна: — А то шчэ была Ніна... Гэта ўжо з Арэхаўкі. Танцавала здорава, а прыціскалася-а...

— І з ёй у цябе было дзела-а...— падхапіў хлопец з пявучым голасам.

— А адкуль ты ведаеш?..

— Яна сама мне расказвала.

— Брэшаш, такое не расказваюць,— і абодва зарагаталі, смела будзячы лясную цішыню...

— Па-мойму, і з Верай у цябе нешта было, а? — усё яшчэ смеючыся, спытаў хлопец з пявучым голасам.— Ці гэта проста так людзі языкамі мянташылі?..

Той, першы, уздыхнуў:

— Пра Веру ■ памаўчу...

— Што, не ў каня корм, а?

— Можа, і так. Адно толькі скажу, што гэта дзеўка, якіх пашукаць...

— Яна са мной у адным вагоне ехала,— зноў устрэў хлопец з малюсенькім чамаданчыкам.— І паехала далей, у Доўгі Лог.

— Зайцава Вера? — не паверыў першы хлопец.

— Зайцава Вера...

— Адна ехала ці з мужам?

— Адна. Цяпер па дваіх ездзіць не модна. Мужык едзе сабе, жонка сабе.

— Кінь, Лёнька. Што табе з таго, адна яна ці з мужыком,— загаварыў хлопец з пявучым голасам.

— Гэта як сказаць,— няпэўна запярэчыў Лёня.

«З гэтымі хлопцамі не заснеш,— падумаў Іван.— І Веру ведаюць. Адкуль яна ўзялася? Была ж недзе на Поўначы...» Напамінак пра Веру крануў за жывое. Іван адчуў, як у сэрца лёгка кальнула, і яно нібы ажыло, напомніла аб сабе... Спытаў жа ён пра другое:

— Куды, хлопцы? Да Ворсы?

— Далей...

— Да Новага?

— Далей.

Адказваў Івану хлопец з пявучым голасам. Адказваў і быццам пасміхаўся.

— Куды ж далей... Далей — Будneў.

— Значыць, да Буднева...

— Да Буднева?.. Дык і я ж туды,— здзівіўся Іван.

— Мы ведаем.

— А я нешта не пазнаю вас,— Іван прыкідваў у памяці, чые б гэта маглі быць хлопцы, і не мог дабраць толку.

Памог сам хлопец:

— Чацвёртая брыгада. Не ведаеш?.. Данілаў унук.

— А-а-а, цяпер ведаю. Ігар? Хіба пазнаеш... Я ў армію ішоў, а табе ці было дзесяць...

— Яшчэ не было.

— Ага. Яшчэ да каго? — гэта пытанне намячалася Ігараваму суседу, Лёню.

— Да Патапа.

«Фу ты, чорт, як я не пазнаў яго? Гэта ж Патапаў Лёня. І голас Патапаў, і ўхваткі такія ж. І бабнік, мусіць, будзе такі ж, як бацька... Той надта спраўны па гэтай часці, сваё нідзе не праспіць».

Цяпер яны ішлі ўсе разам, адзін за адным. Хлопец з малюсенькім чамаданчыкам прыцішыў крок, пачакаў іх.

— Таксама ў Буднеў? — спытаў Іван, упэўнены, што так яно і будзе.

— Ага,— адказаў хлопец, і цяпер Іван пазнаў яго. Гэта быў Мікулічышын... Як яго, Федзя ці Пеця... Здаецца, Федзя... Ага, Федзя.

— А ты Купцоў? Іван? — спытаў той у сваю чаргу, і ўсе зарагаталі: нарэшце пазнаёміліся аднасяльчане.

— Няўжо ўсе ў Мінску? — не паверыў Іван.

— Як бачыш...— адказаў за ўсіх Ігар.

— Дзіўна... Усе з аднаго сяла, жывём у адным горадзе, а адзін пра аднаго нічога не ведаем.

— А што тут такога,— пачаў тлумачыць Лёня.— Мінск — не Буднеў. Кожны бяжыць, кожны спяшыць... Бывае, што і пісьма дамоў некалі напісаць. Мы з Ігарам разам, на трактарным, і то, бывае, па месяцу не бачымся... Дажджэш пятніцы і — на вакзал. Уб'ешся ў вагон, азірнешся: ха, нешта знаёмае. «Здароў».— «Здароў».— «Дамоў?» — «Дамоў». Паехалі...

— Не напускай, Лёнік, туману, не трэба,— запярэчыў Ігар.— Ужо і пісьма напісаць яму няма часу. А да мядзічак бегаць ёсць час? Ёсць. І на футбол ёсць... І яшчэ на што-небудзь...

— Ну, ты хацеў бы ўжо, каб і да дзевак не бегаць. Навошта тады і жыць? Пачакай, пойдзем у армію, дык там старшына набегае...

«І праўда, што тут такое? — падумаў Іван.— Кожны жыве ў сваім раёне, працуе, у кожнага свае інтарэсы. Праца — дом, дом — праца. Плюс у каго тэлевізар, у каго футбол, у каго танцы, у каго бібліятэка. Нішто не звязвае, хоць і прыехалі ўсе з аднаго сяла. Дарогі калі і перасякаюцца, то часцей за ўсё выпадкова». Успомніўся нядаўні выпадак. На кватэру да Івана неяк увечары завітаў Міша Клімянкоў з таварышам з прагназістаў. Іван трохі ведаў Мішавага таварыша, не раз сустракаў у інстытуце. Селі за стол, і тут высветлілася, што яны вось ужо чатыры месяцы жывуць на адной лесвічнай пляцоўцы. Чатыры месяцы — і ні разу не сустрэліся...

Нейкі час ішлі моўчкі — толькі аднастайны поступ ног, шамаценне адзежы і ўспышкі ліхтарыкаў. Святло выхоплівала з цемнаты мокрыя, сучкаватыя ствалы маладых хвоек, бліскучую, як слюда, кару бяроз, кусцікі буякоў і багунніку. Там, куды святло не даставала, была чарната і таямнічасць. Але ў гэтай таямнічасці, і глухой чарнаце, і ў самім маўчанні хлопцаў было нешта спакойнае, добрае, сугучнае Іванаваму настрою.

Першы загаварыў Ігар — да Лёні, загаварыў пра добра вядомае абодвум, але і Іван зразумеў адразу, што гаворка ідзе пра абгародку на магілу.

— Хацеў да Раданіцы прывезці, пафарбаваць, і хлопцы абяцалі зрабіць, выпілі пляшку дагаворнага...

— Выпілі, дык зробяць... А дзед Даніла трохі пачакае. Яму спяшыць няма куды...

— Вядома, пачакае...

— Хіба Даніла памёр? — спытаў Іван.— Я ж яго не так даўно бачыў. Калі гэта я быў дома? На пачатку зімы. Я ў магазін ішоў, а ён на лыжах насустрач... Як заўсёды, мажны, падцягнуты, вусы, як у маржа.

— Памёр. Ужо два месяцы прайшло. Тады такая завіруха была. Я ледзьве прыблудзіў да Буднева...— глуха адказаў Ігар.

Стары Даніла быў яму і дзед, і бацька, і маці. Ён узяў Ігара з дзіцячага дома, калі таму было гады чатыры. Дагледзеў, выгадаваў...

— Вышэй галаву, Ігарок, не пладзі нуду. Заўтра Раданіца, збяруцца людзі на могілках... Прыйдзем і мы, вып'ем па чарцы, успомнім старога...

— Яму-то цяпер, дапусцім, напляваць, прыйдзеце вы ці не прыйдзеце, успомніце ці не ўспомніце,— нечакана прымяшаў свае слова Федзя. І яно непрыемна зачапіла хлопцаў: і сваёй нечаканасцю — усё маўчаў і было падобна, што і далей збіраецца маўчаць, і тонам — калючым і абыякавым.

— Каму яму? — перапытаў Ігар.

— Ну, хоць бы дзеду твайму, Данілу...

— Яму, можа, і напляваць, а мне не, зразумеў? — узгарэўся Ігар.

— Чаму ж не зразумець? — пацiснуў плячыма Федзя.

«Вунь яно што! Дык гэта заўтра Раданіца!» — падумаў Іван, і гэта адкрыццё прыемна ўразіла яго. Ехаў дамоў і ўгадзіў якраз на Раданіцу.

Лес скончыўся. Пайшло поле — з цёмнымі гарбамі пагоркаў, з вясёлымі галасамі рэдкіх ручаёў. Наперадзе гарэлі агні Дубеек. Тут яшчэ ніхто не спаў, і сабакі правялі хлопцаў праз усё сяло, перадаючы адзін аднаму. За Дубейкамі Ігар з Лёнем аддзяліліся, звярнулі на сцежку — яна трохі спрамляла дарогу. Іван з Федзем пайшлі па шляху: прамей-то прамей, але сцежку ў адным месцы пераразаў канал. Добра, калі хлопцы знойдуць кладку, а калі не... Лезці ў ваду не было ніякай ахвоты.

Застаўшыся ўдвух, Іван з Федзем непрыкметна для сябе паскорылі крок. Ішлі, быццам стараліся загнаць

адзін аднаго. Федзя ішоў лёгка, высока ўзнімаючы ногі. Іван трохі ззаду. Іван адразу адчуў, што яму будзе цяжэй, у яго за плячыма чамадан.

Гаварыць не хацелася. Іван нічога да Федзі не меў, але не меў і радасці ад таго, што той ідзе побач. Ідзе — хай ідзе. Дарога звяла разам, дарога і развядзе. Засталося не так многа.

Свой ліхтарык Іван даўно ўкінуў у кішэню — ён быў слабейшы за Федзеў — і цяпер сачыў, як Федзя забаўляецца са сваім, паказваючы то высокі, крута падгрызены вадой насып дарогі, то злямчаны, пажаваны коламі машын кусцік дзядоў з пустымі пупышкамі-«вожыкамі», то пароcлую травой кучу ссунутага з поля камення, то тэлеграфны слуп з бліскучымі, як скура змяі, правадамі.

Сачыў за Федзевым ліхтарыкам, а сам думаў пра толькі што пачутае, пра тое, што Вера ехала ў адным цягніку з імі і паехала ў Доўгі Лог. І нешта ныла, балела ў сэрцы.

«Што гэта з вамі, Лявонавіч? Ці не захварэлі вы? — думаў і ўсміхаўся сам сабе Іван.— Ці, можа, Лявонавіч, вы маеце што да яе? Можа, раўнуеце яе, да мужыка раўнуеце? Ці да Лёні? А? Ці гэта проста так?..»

Гэта было не проста так. Напамінак пра Веру ўскалыхнуў даўняе, шчымлівае. Іван думаў, што яго няма, што яно аджыло, заплыло попелам. Стары дурань, скора трыццаць гадоў, колькі ты будзеш чакаць яго?.. Ажно не...

Іван восем гадоў не бачыў Веру, успамінаў яе рэдка, як успамінаюць блізкага чалавека, які даўно памёр. Ведаў, што пасля школы яна паехала на Поўнач, недзе пад Мурманск, там выйшла замуж за афіцэра. Ведаў, што яна летась прыязджала дамоў хаваць бацьку: заснуў на сырой зямлі і схапіў крупознае запаленне лёгкіх. Іван пераконваў сябе, што ўсё гэта: і тое, што Вера выйшла замуж, і тое, што ў яе памёр бацька, для яго нішто: проста нехта выйшаў замуж і нехта памёр, але сам адчуваў, што гэта не зусім так. І не толькі таму, што яны з Верай былі з аднаго сяла і што ён некалі часцяком хадзіў да іх і добра ведаў і паважаў яе бацьку, Пётру, і таму павінен шкадаваць, што ён памёр.

Між ім і Верай было нешта такое, што не-не ды напамінала аб сабе.

Яны не былі аднагодкамі, яны ніколі не «дружылі», як дружаць вясковыя хлапчукі і дзяўчынкі — віхрастыя

падшыванцы і цыбатыя школьніцы,— з перапіскай, з клятвамі «любіць вечна»,— нічога гэтага між імі не было. Але між імі было нешта другое — нявыказанае, да канца не зразуметае. Яно быццам прыплывала з цёмнага прывіднага туману, было нерэальна празрыстым, далёкім, але такім патрэбным. Іван ведаў, што яму было б вельмі цяжка жыць, калі б не было гэтага «другога». Гэта была мара аб каханні, гэта былі сны дзяцінства.

«Дык вось, Лявонавіч,— падумаў Іван пра сябе, як заўсёды паблажліва і жартаўліва,— выходзіць, заўтра вы можаце ўбачыць яе. Заўтра яна абавязкова будзе ў Будневе». Ён падправіў чамадан на плячы і весела зірнуў на Федзю: «А табе, браце, не трэба так высока падымаць ногі, забаляць скора...»

Неба ўгары расчысцілася. Цяпер і без ліхтарыка добра відны былі і дарога, і сцежка паўз яе. Мінулі Новае Сяло. Стаяла яно на высокім месцы, і тут, відаць, пачалі ўжо садзіць бульбу, бо здорава пахла выкінутым на соткі гноем. Ля калодзежа напіліся, вада была ледзяная, але верхавая, аддавала талым.

Далей ужо да самага Буднева сёл не было. Горбілася дарога, то ўзнімаючыся ўгору, то спадаючы ў лажбіну, горбілася поле — чорнае, мяккае, распаранае, дзе-нідзе абзывалася сонным цырыканнем птушак, і над усім гэтым ішло спакойнае, шэрае неба.

— А дзе зараз вашы хлопцы — Валік, Алёша? — спытаў Федзя.

— Пад Карагандой і адзін і другі. На шахце.

— Ну і як?

— Нічога. Сем'ямі паабзаводзіліся, дзяцей гадуюць.

— Ну, напладзіць дзяцей кожны дурань зможа. Тут вялікай навукі не трэба,— у Федзевым голасе пачуўся роздум, заклапочанасць.

— Ну не кажы, брат. А сам-то ты жанаты?

— Жанаты.

— І дзеці ўжо ёсць?

— Трое...

— Трое? Маладзец! — зарагатаў Іван.

— Ты чаго? — натапырыўся Федзя.

— Нічога. Люблю смелых людзей.

— Будзеш смелы,— буркнуў Федзя.— Ну, а як жывуць хлопцы, як зарабляюць? Назад не збіраюцца?

— Збірацца-то, можа, і збіраюцца, ды ўсё гэта не так

проста. Там ужо і кватэра, і работа, а вярніся сюды... Работу-то ўсюды знойдзеш, а з хатай як, куды сям'ю дзенеш?..

— Гадзікі тры трэба пачакаць, не меней,— пагадзіўся Федзя.— Ага, гадзікі тры. Вось ты зарагатаў... Ну, а сам чаму не жэнішся? Як я ведаю, дык работа ў цябе добрая, ды, мусіць, і кватэра ёсць...

— Ёсць адзін пакой. А не жанюся... Малады быў — не паспеў, а цяпер ужо і страшна,— хацеў звесці на жарт Іван.

Федзя жарт не прыняў.

— Страшнага тут нічога няма, але і не спяшайся. На сённяшні інтарэс, дык я гадоў бы да сарака не жаніўся і не падумаў бы шкадаваць...

— У цябе, мусіць, нешта дома не ладзіцца, таму ты так і прэш проці баб...

— Ладзіцца — не ладзіцца...— перадражніў Федзя.— Проста я забараніў бы балбесам жаніцца... Хай вырасце, адслужыць армію, стане на ногі, а тады і жэніцца...

— А самому колькі было, як ажаніўся? Гадоў дваццаць?

— Дзевятнаццаць... Таму і кажу. Ажаніўся... Ёсць такая вясёленькая песенька: «Без мяне мяне жанілі, мяне дома не было...» — Федзя трохі памаўчаў.— Жыццё жартаў не разумее. Яно любіць, каб з ім былі на «вы». Жывеш, думаеш, што ты яго абхітрыў, а потым зірк — ажно гэта яно з табой жартавала. Спахопішся, а позна ўжо...

Падышлі да Буднева. Недзе ля трэцяй ці чацвёртай хаты Федзя завярнуў у двор — ён ужо быў дома. Івану ж трэба было прайсці яшчэ з кіламетр — да другога пасёлка.

За крайняй хатай, мінуўшы ліпавыя прысады, ён спыніўся, зняў з пляча чамадан, выцер лоб. Павярнуўся направа, у той бок, дзе брала шырокі разбег поле.

«Ну вось, бацька, я зноў прыйшоў да цябе. Я не магу не прыходзіць, бо ты — гэта я, а я — гэта ты. Ты жывеш ва мне, быццам ніколі і не паміраў, і мне лягчэй з табой. Хоць гэта, можа, і наіўна, але і зараз я часта думаю: «Што было б, каб той раніцай ты не пайшоў на лесапілку, а пайшоў садзіць бульбу? Ці быў бы ты цяпер жывы? Цяпер табе было б шэсцьдзесят...»

## II

Іван шмат думаў пра бацьку, пра яго жыццё, пра яго апошні дзень, шмат чуў гаворкі пра той дзень і любіў, калі маці ці хто іншы напаміналі пра яго. Можа, таму і цяпер, праз столькі год, апошні бацькаў дзень бачыўся вельмі ярка. Так ярка і канкрэтна, што часам здавалася, быццам тады на лесапілцы забіла не Лявона, а яго, Івана... Нейкая страшэнная несправядлівасць і незакончанасць былі ў тым дні і ў самой смерці і нейкая сіла і заканамернасць, калі можна гаварыць пра сілу і заканамернасць смерці...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Лявон устаў, абуўся, закурыў. Выйшаў у сад і адразу пачуў, як брызентавыя чаравікі набраклі вадой і запякло, захаладзіла ў ногі. Трава была матава-белая ад расы. Цёмным і мокрым глянцам свяціліся галінкі яблынь. Набухлі і вось-вось павінны былі палопацца бутончыкі кветак. Сёлета цвету было надта многа — калі пагода здзержыць, не павернецца марозам, яблыкаў будзе шмат.

Было прахладна і зябка. Лявон зірнуў цераз сад і здзівіўся, як бы спужаўся. На дальняй пепінцы, якраз у седлаватай развілцы, ірдзяна чырванела сонца. Так на чорным утаптаным доле кузні гарыць, пачынаючы ачахаць, распалены да белага нарог ці лемех. Лявон паціснуў плячыма: ніколі ён не бачыў, каб так зырка, чырвана гарэла сонца. Падышоў да пепінкі, пакратаў гладкі, камлюкаваты ствол. Сёлета павінна быць шмат яблыкаў. Лічы, будзе першы ўраджайны год. Ці ж то ўраджай — дзесяць — пятнаццаць яблыкаў на дрэве. Сад малады, Лявон садзіў яго перад самай вайной. Дзве пепінкі, дзве цыганкі, апорт, чатыры гнілкі, астатняе — антонаўкі, слівы. Ніколі яшчэ не было так густа цвету. І на грушах, і на яблынях. Калі пагода здзержыць, хоць дзеці наядуцца ўволю сваіх яблыкаў.

Лявон ішоў па садзе — ад дрэўца да дрэўца, кратаў іх рукамі, дзе здымаў леташні ліст, дзе — зблытаную павуціну...

Людзі пачалі забываць вайну. Не тое што забываць, а перасталі ўспамінаць пра яе калі трэба і калі не трэба, перасталі думаць пра яе як пра нешта такое, што пастаянна — хочаш ты таго ці не хочаш — гнятлівым ця-

жарам вісіць над табой і ад чаго немагчыма ніякімі сіламі пазбавіцца.

Жыццё бярэ сваё.

Учора ўсім калгасам выйшлі садзіць бульбу, нават рахункавод і кладаўшчык, конюхі і яны, з лесапілкі. Мусіць, трэба быў і такі добры дзень, і такая дружная жывая работа, каб тая непасрэднасць і дабрата, шчырасць і радасць, што заўсёды былі і хаваліся ў людзях, каб усё гэта раптам прарвалася наверх. Усе смяяліся, жартавалі, быццам сабраліся не на работу, а на якое свята. Учора Лявон убачыў, што людзі страшэнна засумавалі па радасці і ўчора, можа, першы раз па-сапраўднаму адчулі і зразумелі, што вайна даўно адышла, скончылася і што настала пара жыць. Усе верылі ў гэта, як і ў тое, што сёлета будуць з бульбай і хлебам.

Пад поўдзень сонца прыгрэла так, што некаторыя бабы нават паздымалі кофты. Прывезлі бочку халоднай вады. Пілі, пакуль сагналі смагу, потым пачалі абліваццa. Лявон трымаў у руках кубак, чэрпаў ваду і ліў на кожнага, хто трапіцца. Бабы кагалам навалiліся на яго, адабралі кубак. Ён кінуўся ўцякаць ад іх, выбег на лугавіну, і тут яны яго дагналі. З адной ці з дзвюма ён бы справіўся, а іх было пяць, і першая сярод іх бегла Вольга. Яна тузанула яго за рукаў, рукаў затрашчаў, а сам Лявон пакаціўся, пацягнуўшы за сабой і яе. Вольга навалілася на яго пругкім целам, не даючы вырвацца, пакуль падаспеюць бабы. Яны падаспелі і бухнулі на яго і на яе ўсю ваду, проста з вядра. «Бабанькі, ратуйце!» — крычала, качаючыся, Вольга, пакуль тыя бегалі яшчэ па ваду, а ціха, каб ніхто не чуў, шаптала: «Хай бы зайшоў калі, паглядзеў, як жыву, кумок». І цяжка дыхала, хапала ротам паветра. Ён адказаў ёй, зводзячы ўсё на жарт: «Зайду, абавязкова зайду, толькі пусці». Але яна не адпускала яго.

Потым, атрасаючы ваду з кашулі і прыгладжваючы мокрыя валасы, ён расказаў бабам, што ўжо чуў зязюлю. Ён быў у садзе, і яна праляцела над ім, кукуючы. І тады Вольга ўважліва паглядзела на яго і сказала: «Гэта не на добрае, што зязюля праляцела над табой, Лявон. Ты скора памрэш». Ён зарагатаў. Яму было смешна. Як гэта ён памрэ. Цяпер, калі вайна, тая вайна, дзе ён мог дзесяць разоў памерці і не памёр, дзе яго маглі дзесяць разоў забіць і не забілі, даўно скончылася, цяпер, калі на дварэ

вясна і ўсё жывое радуецца жывому, ён раптам памрэ. «Ты смяешся, Вольга». Ён так і сказаў. «Ужэ ж, Лявонка, ужэ ж,— паспешліва пагадзілася Вольга.— Ці ж бо я ўсур'ёз гэта... Вядома, што смехам».

Прыйшоў ён з бульбы дамоў, і тут Лёкса сварку ўчыніла. Раўнаваць уздумала. Ну, падурэлі трохі, пааблівaліся вадой, а ўжо загарнула: «Пераманьвае Вольга... Ці мо і сам думаеш завярнуць аглоблі? Дык я табе завярну...» і Вольгу на вуліцы перастрэла, пасварылася... Бабы ёсць бабы... Каб не тырчэць дома, узяў таптуху і з самым меншым, Іванам, пайшлі на сажалку. Думаў — зловіць што. І злавіў... Пяць шчупакоў і з дзесяць уюноў. Сакалеў, як сабака. Вылез з вады сіні, брудны, злы. Абмыўся трохі, пераадзеўся. Цапу-лапу закурыць, а ў кішэнях пуста. А там і складанчык быў, і піпка, і партсігар... Са злосці рвануў Івана за вуха. Пакінуў пільнаваць адзежу, дык ён напільнаваў. Разявіў рот і бегаў за бацькам, а нехта выцягнуў усё з кішэняў. Хаця што там нехта... Бронік ці Алесь. Яны ўсё круціліся ля Івана. А той варона...

Лявон дастаў з-пад страхі пруток, на які чапляў тытунь, зняў з грушы павучыную сетку — паспеў-такі сплесці! І кара ад кораня нешта пачала жаўцець і лупіцца, быццам падапрэла. Няйначай чарвяк падтачыў дрэўца. Зусім жа маладое. Глядзі, засохне.

Убачыў, што на двары ні палкі насечаных дроў, узяўся за тапор. Цяжка гупалі, развальваючыся пад ударамі тапара, калоды, ляцелі аскалёпкі. Лёкса паліла ў печы, пякла бліны — чуваць было, як стукала чапялой. І Лявону стала прыкра, што ніколі ў яго не хапае часу, каб, як людзі, нацягаць дроў на зіму, нарэзаць, насекчы. Заўсёды так: з плеч ды ў печ. «Трэба сёлета навазіць аполкаў ды скірды са дзве скласці»,— падумаў, убіваючы тапор у калоду.

На стале ляжала горка тоўстых шэрых бліноў з сарадэлы. Адкусіў кавалак — ён чарсцвеў, рос у роце. Есці не хацелася. Выпіў кубак малака, пачаў шукаць шапку.

— Пайду ў млын.

— Чаго-та ўзбурыўся? Сёння ж мо зноў на бульбу?

— Зноў ці не зноў,— зазлаваў Лявон.— Распалю кацёл, дам гудок — мужчыны падыдуць. З бульбай і без нас управяцца.

— Абед прыносіць?

— Не трэба. Сам прыйду.— Ён выйшаў на двор. Потым вярнуўся.

— Забыўся што? — сустрэла на парозе Лёкса.

— Ага.

Прайшоў у другую палавіну. Пакапаўся ў стале, шукаючы нейкія паперы. Знайшоў іх у сябе ў пінжаку. На ложку, развярнуўшыся ўпоперак сенніка, спаў Іван. Лявон паправіў на ім пасцілку, пакратаў за лобік — быў ён потны. Убачыў у дзвярах Лёксу. Стаіць і глядзіць на яго, як на дзіця: зноў нешта не па ім.

Лявон пастаяў ля парога:

— Збярэш на абед што-небудзь. Хай прыбяжыць.

Лёкса кіўнула галавой.

— Большыя ў школе?

— Ага.

У канцы пасёлка сустрэў старшыню Вавілу Пухціка.

— Здароў!

— Здароў.

— На бульбу не ідзеш?

— Трэба клёпку канчаць. Прыязджаў жа на днях прадстаўнік з камбіната, прасіў паскорыць. Абяцаў машыны прысладь. Ды і самім трэба. Усё-такі дзвесце тысяч.

— Грошы трэба. І каровы купляць, і коней... І бульбы, мусіць, не хопіць...

— Тут не дзвесце тысяч, тут мільён дай — усё роўна мала будзе.

— Ну, з мільёнам можна было б жыць...

Разышліся: Лявон у адзін бок, Вавіла — у другі.

«Здаецца, пачынае адходзіць,— падумаў Лявон пра Вавілу.— Дзе ты дзенешся, адыдзеш. Разам жыць, разам працаваць».

Да гэтай зімы млынам загадваў Вавілаў швагер Ігнат. Не столькі загадваў, колькі п'янстваваў. А там і ў «хунты» руку запусціў. Глядзелі на яго, глядзелі і рашылі пераабраць. Сабралі агульны сход. Што ні рабіў Вавіла, як ні круціў, каб пакінуць швагра, нічога не выйшла: людзі ўпёрліся. Мусіў змірыцца з тым, што загадчыкам выбралі Лявона. Спачатку дык і здароўкацца не хацеў. А зараз ужо нічога, у хату пачаў заходзіць.

Бліжэй падыходзіў Лявон да млына, і тая нутраная трывога, што гняла дома, пачала праходзіць, аціхаць. Ён ужо думаў пра работу. Пачаў сумнявацца, ці прыйдуць

мужчыны. Што ён тады адзін будзе рабіць? Прыйдуць, нідзе не дзенуцца.

На грэблі, ля моста, зачапіўся за ламачыну і ледзь носам не зарыў у гразь. Азірнуўся паглядзець на праклятую ламачыну і ўбачыў у гразі свой абцас. Дастаў з гразі, пакруціў у руцэ — быў ён зусім стаптаны — і шпурнуў у канаву, плюнуў: трэба будзе цэлы дзень хадзіць на адной пяце.

За млынам узвышалася гара апілак, і Лявон з прыемнасцю пачуў, як знаёма нясе ад яе прыпрэлым, прыглушаным пасля роснай начы пахам. Зноў на памяць прыйшоў учорашні дзень, сонца, як на полі абліваліся вадой, як лавіў уюноў,— і яму быццам лягчэй стала. «Прыбяжыць Іван, сходзім у кусты, лук выражам»,— падумаў пра сына.

Топку распаліў як бачыш, накідаў дубовых абрэзкаў — і загуло, зашугала полымя. Змёў апілкі са стала, праверыў пілы: абедзве вострыя, нядаўна точаныя. Толькі цяпер успомніў, што не зрабіў засцерагальныя нажы і крукі для шчыткоў — зняць зняў, а ў кузню не зайшоў. «Вечарам скажу Максіму, каб зрабіў». Павадзіў рукой па стале: дуб быў гладкі, адпаліраваны да глыбокага люстранога бляску. Узяў шуфель, адкінуў апілкі, прыцягнуў пад пілы з дзесяць дубовых плашак, задыхаўся. Паглядзеў на неба: было яно сухое, белае, абяцала гарачы, спякотны дзень. Вярнуўся ў качагарку, даў гудок, уключыў помпу, даліў вады ў бочку...

Што ні рабіў сёння Лявон — і дома, і тут,— ён увесь час адчуваў у сабе нейкі незразумелы клопат. Быццам ён меў нейкі абавязак, але што гэта за абавязак — не ведаў. Адчуванне, што ён нешта павінен зрабіць, увесь час непакоіла яго, падганяла. Ён ні хвіліны не стаяў на месцы, увесь час нешта рабіў, але адчуваў, што гэта не тое, не галоўнае...

Стрэлка на манометры даўно перапаўзла за палавіну шкалы, можна было б пачынаць рэзаць, але нікога не было — ні Хведара, ні Міколы, ні Паўла. Ну, Паўлу далёка ісці, ды ўрэшце Лявон і сам пакуль што пабудзе ў качагарцы, а Хведар і Мікола маглі б прыйсці ўжо. І Сашка мог... І Лявон нецярпліва пацягнуўся да ручкі сігналу, даючы волю свайму нецярпенню, і над Будневам, над усёй разлеглай прасторай разнёсся густы, цягучы гудок.

З качагаркі Лявон перайшоў у млын, пастаяў ля каша, змёў пыл са скрынь з «хунтамі»; усе скрыні былі пустыя: з-за клёпкі даўно ўжо не малолі. Увесь ніжні паверх быў застаўлены мяшкамі: жыта, ячмень, пшаніца. Назвозілі з усяго сельсавета. Падумаў: «Трэба неяк пусціць, начы са тры памалоць, разгрузіцца трохі».

Першы прыйшоў Хведар, прасунуў галаву з заспанымі вачыма ў акно качагаркі.

— Збіраліся ж сёння бульбу садзіць. Я хацеў ужо ісці на поле. Ды і брыгадзір прыбягаў.

— Будзем канчаць клёпку. На днях павінны машыны быць з Бабруйска. Па Міколу не заходзіў?

— Зараз ідзе.— Хведар сеў на бервяно ля сцяны, дастаў капшук.

— Нешта вочы ў цябе па макаваму зерню. Не выспаўся? — Лявон перавесіўся ў акно, сам дастаў газету.

— Учора вечарам у швагра быў. Набраўся, як жаба гразі, дык дзе яны тут будуць вялікія. Галава трашчыць. А хто гэта плашак нацягаў?

— Я.

— Адзін. Не мог даждацца, каб пасобілі.

— Пакуль вас дажджэш...

Падышоў Мікола — высокі, худы, з доўгімі жылістымі рукамі.

— Будзем пачынаць? — спытаў, прысаджваючыся.

— Паўла яшчэ няма... Хаця ў адну пілу можна, я пастаю ў качагарцы, а там і яны з Сашкам падыдуць,— адказаў Лявон.

— Нажы не зрабіў? — спытаў Мікола.

— Не... Сёння зайду да Максіма.

— Не трэба было старыя здымаць...

— Не трэба было. Іх жа пагнулі. І балты ў гнёздах не дзяржалі.

— А шчыток?.. Апілкі будуць сляпіць...

— Выжывеш...

— Дык адзяваць пас?

— Давай.

Лявон уключыў машыну. Скранулася махавое кола, Мікола з Хведарам падвялі пад яго пас, накінулі, ён зачапіўся, папоўз, правісаючы пасярэдзіне — хутчэй, хутчэй, і вось ужо запелі, зазвінелі пілы, ганяючы пад сталом апілкі.

Мікола з Хведарам узвалілі на стол плашку, узялі ў рукі крукі, сталі абапал стала. І голас піл з сухога сакатання, калі яны круціліся ўхаластую, перайшоў на высокі натужлівы лямант — гэта піла ўрэзалася ў дуб. Плашка павольна паўзла па стале — з аднаго боку яе пхнуў, барвавеючы ад натугі, Хведар, з другога цягнуў Мікола. Плашку абпілавалі, пусцілі на клёпку. Ядрана запахла свежымі дубовымі апілкамі.

Піла то натужліва выла, угрызаючыся ў цвёрды, як жалеза, дуб, то пераходзіла на сухое, аж шорах ішоў па спіне, сакатанне. Але варта было зноў падсунуць брусок, і піла ўмомант лагаднела, прыціхала, быццам спынялася, праразаючы ў дрэве вузенькі шнурок, і тады здавалася, што не брусок сунецца па стале, а што гэта сам шнурок паўзе і валачэ за сабой брусок.

Праз акно Лявон бачыў, як мужчыны вялі абпілоўку, а калі пайшла клёпка, пачаў моршчыцца, хмурнець. Потым не вытрымаў, выскачыў з качагаркі, узяў клёпку, паднёс да вока, прымерыўся, ці роўная, павярнуў на рабро, яшчэ раз прымерыўся, узяў другую.

— Ну, што? — спытаў Хведар.

— Што? Г...! Хто такую клёпку ў нас прыме. Ты ж зводзіш яе на конус. Трэба дзесяць на два, а тут...— Ён дастаў з кішэні складную лінейку, паднёс да тарца клёпкі.— У гэтым канцы добра — дзесяць і адна дзесятая і таўшчыня два. А ў гэтым? Восем і пяць і паўтара... Брак. Нестандартная... Зачапіў крукам і вядзі роўна, а ў цябе рука дрыжыць.— Ён глядзеў на Хведара і крычаў, бо пілы разгуляліся, як шалёныя, заглушаючы голас.

— А чорт яго ведае. Здаецца ж, роўна вяду. Не так проста тут пад лінейку...— Хведар плюнуў пад ногі.

Лявон вярнуўся ў качагарку. Падкінуў у топку, прачысціў паддувала і не спускаў вока з акна. Бачыў, што Хведар зноў «запароў» некалькі клёпак, моршчыўся, як ад болю, але маўчаў. Якраз у гэты час у качагарцы з'явіўся Павел, і Лявон пайшоў к пілам.

— Два гады стаіш ля пілы і клёпку роўна не ўмееш адпіліць. Станавіся на Міколава месца, а я тут...— крыкнуў ён Хведару, узяў у Міколы крук і стаў да стала.

Хведар пасунуў па стале брусок, Лявон прыняў яго, падаў пад пілу. Піла ўчапілася ў брусок і раўнамерна, павольна, быццам нехаця, пачала разразаць яго. Хведар узяў клёпку — была яна роўная, хоць страляй з яе, ад-

кінуў убок, падаў брусок назад. І зноў піла мякка ўчапілася ў дрэва, прыціснула да стала і роўна, без штуршкоў і зрываў, прайшла праз брусок, і зноў клёпка выйшла роўная. Хведар і гэту адкінуў убок. У яго трашчала галава ад учарашняй выпіўкі, муціла ў грудзях, а тут яшчэ гэта клёпка. Уздумаў сёння пілаваць. Лепш бы пайшлі на бульбу. Там і лягчэй, і можна было б нешта прыдумаць пахмяліцца. А тут стой, цягай плашкі. Колькі іх нацягаеш... Хведар стараўся не глядзець Лявону ў вочы. Дзяўбаў крукам у брусок і, адварочваючы твар ад апілак, што секлі па шчоках, цягнуў на сябе.

Распілавалі адзін брусок, узялі новы...

Лявон таксама пачаў супакойвацца. Напружанне ля стала, увага, сканцэнтраваная на рабоце, ураўнаважылі яго, улагодзілі, і ён пачаў адчуваць, як да яго вяртаецца добры настрой, які заўсёды прыходзіў у час работы, калі работа ішла як трэба. Ён хацеў загаварыць з Хведарам, пажартаваць, але ўбачыў, што той усё яшчэ злуецца, не хоча ўзнімаць вачэй,— змаўчаў. Хай трохі астыне.

Хведар натужна, з цяжкім сапеннем цягнуў на сябе брусок, адкінуў гатовую клёпку і, не гледзячы куды, піхнуў брусок назад па стале. Лявон злавіў яго. І зноў Хведар адкінуў гатовую клёпку, і зноў, не гледзячы куды, таўхануў ад сябе брусок і адчуў, што ён як бы стукнуўся ў нешта, быццам адскочыў назад і раптам шалёна рвануўся з рукі. Хведар зразумеў, што штурхануў брусок не па стале, а на пілу, і паспеў убачыць, як піла з шалёнай хуткасцю падхапіла брусок і шпурнула наперад.

Лявон стаяў упаўабарота да стала, чакаў брусок, і яму здалося, што Хведар нешта забавіўся, выбіўся з рытму, і ён павярнуўся зірнуць, што там.

І ўбачыў, як па стале сунецца брусок, але не паўз пілу, а на пілу, як брусок тарකануўся ў пілу і быццам падаўся назад, але не — белыя крывыя зубы падчапілі яго, прыўзнялі... У гэтую кароткую долю секунды, пакуль брусок поўз па стале і пакуль яго падчапіла піла, Лявон адчуў — аж заныла пад лыжачкай — вострае шкадаванне, што не паспеў выразаць сыну лук, і цяпер яму здалося, што гэта была тая работа, якую ён павінен быў зрабіць, якую не зрабіў і зрабіць якую ўжо не зможа. Удар неймавернай сілы ў бараду і грудзі адкінуў яго назад, у вачах бліснуў, разрастаючыся, агонь. Ён быў такі яркі, як сонца, што бачыў Лявон сёння ў развілцы

яблыні, і ўсё шырыўся, пёк вочы, быццам іх жыўцом вырывалі з гнёздаў... Потым агонь пачаў меншаць, меншаць, сышоў на чорную кропку і прапаў.

Для Лявона гэта было ўсё.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Іван стаіць яшчэ некалькі хвілін на дарозе, супакойвае слёзы, што застылі на вачах, прыслухоўваецца да сакатлівага булькання вады пад мосцікам — недзе там, наперадзе.

«Ну бывай, бацька. Я пайшоў». Ускідвае чамадан на плячо.

Заўсёды цяжка зрабіць першы крок адсюль.

## III

Няма нічога лепшага за раніцу ў матчынай хаце.

Яшчэ сон звівае павекі, іх цяжка і лянота разарваць, і галава яшчэ поўнасцю не прачнулася, то прарываючыся да яснаты цвярозага азарэння, то патанаючы ў салодкім тумане забыцця, а ўжо радасць, што ты зноў дома, як быццам і не з'язджаў адсюль ніколі, радасць вяртання ў самога сябе — ранейшага, малога, нейкага другога і разам з тым такога ж самага, як і цяпер, жыве ва ўсім целе, наводзіць на думку аб вялікім, нечалавечым шчасці. А маці ўжо даўно ўстала і асцярожна, каб не разбудзіць, тупае па хаце. Яна ўжо наабірала бульбы, перамыла яе і перакладвае дровы ў печы. Нават і так, лежачы ў пасцелі з заплюшчанымі вачыма, можна бачыць, як яна паклала адно палена, трошкі воддаль другое і ўжо на іх кідае ўсе астатнія і яны лоўка, з глухім стукам лажацца адно на адно, упоперак тых двух, першых. Адно паленца скацілася на под, і маці нагінаецца ў печ, дацягваецца рукой да яго, не чуючы, як лоб чыркануў аб дугу нізкага, задымленага чалесніка і як ад гэтай дугі на лбе, трошкі вышэй правага брыва, засінела яшчэ адно брыво, як сярпок затушованага месяца. І гэты сярпок будзе цямнець, аж пакуль яны не сядуць за стол і пакуль ён не скажа ёй зірнуць у люстэрка.

Дровы ўкладзены добра, цяпер можна пакласці падпал — шматок газеты, стружку бяросты, зубок карча. Пакуль язычок полымя чапляецца за газету, пакуль перакінецца на бяросту і яна адразу скурчыцца, чорна і

густа задыміць, пакуль засмалянее, затрашчыць корчык і ўжо за ім — асцярожна і неахвотна — дровы,— можна змахнуць попел і вугалькі з прыпечка ў пяколак, наліць вадой чыгуны з бульбай: два вялікія — свінням і адзін маленькі — сабе...

А тут якраз голас на вуліцы. Здаецца, гэта цётка Вольга:

— Лёкса! Лё-ё-ёкса?!!

Маці выбягае на ганак, пакінуўшы адчыненыя дзверы, і адразу ў хаце халаднее ад ядранага паветра. З двара даносяцца перагаворы.

— Ці тэ не думаэш выпускаць карову? Ці тэ не падо́іла?

Гэта яна, цётка Вольга, гэта яе нязменны голас. Можна нават уявіць і яе самую: з галавой, абвязанай цёплай хусткай, у куфайцы і доўгай суконнай спадніцы, якая ледзь ліпіць на плоскіх вузкіх клубах.

— Падаіць-то падаіла, ды што яны цяпер там знойдуць?

— Знойдуць не знойдуць, хоць на волі паходзяць. Заганю за Агея, хай шукаюць. Чорнагаловік там адскочыў; учора бачыла.

Рыпяць вароты хлява, і па двары ідзе карова, чокаючы капытамі, і свіння з хлеўчука падае галодны голас.

І зноў ласкавы туман забыцця, здаецца, імгненны, а папраўдзе паўгадзінны, разрываецца грубым і моцным:

— Добры дзень у хату!

Гэта ўжо Вавіла.

— Дзіндобры! — адказвае маці і пазірае ў печ, на скавараду, дзе бялее і на вачах пачынае пухнуць блін.

— Хто гэта ў цябе? Ці не Іван прыехаў? — грубы голас быццам мякчэе, спускаецца да прыемнага здзіўлення.

— Ага, ноччу...

— І адзін ішоў?

— З Мікулічавым Федзем удвух. Але казаў, што шмат ехала. Данілаў унук, Патапаў хлопец, Вера Зайцава...

— Пётры?

— Ага.

Маці грыміць скаварадой, налівае другі блін.

— Яна ж, чуваць, развялася са сваім. Не ўпадабала афіцэрскі паёк. Мусіць, большы шукае.

— Не ведаю, большы ці меншы. Да цёткі паехала ў Доўгі Лог.

— Ну, на бацькаву магілу то яны прыбудуць. Яны гэта саблюдаюць. Ды і году ж няма, як памёр...

— І грэх быў бы, каб не прыехалі. Ён жа глядзеў іх.

— Да... Хоць і глухі быў, як пень, а іх шанаваў... Бачыш, і наш прыпёрся. Федзя, кажу. Зноў будзе жонку ганяць.

— А ці жонка яго тут?

— Тут, а няўжо ж. Усю зіму сядзіць тут, і дзеці тут. А ён усё грозіцца кідаць. Ды куды ж ты кінеш... Трое... Адно ад першага мужыка і сваіх двое...

— Ага-а-а...

— Во, кажуць, што свякруха з нявесткай не зжываюцца... А тут свякруха палюбіла нявестку лепей за сына. І над унукамі аж калоціцца...

— Дзіця ёсць дзіця, дзе ты дзенешся...

У гаворцы наступае зацішак — чуваць, як страляюць дровы ў печы, і зноў Вавілава — размякчанае і быццам турботлівае:

— Хай бы сказала мне, што Іван прыедзе, каня даў бы. А то поначы і, можа, шчэ з грузам...

— Я не ведала, якім ён прыедзе, дый зноў, альбо я сама па яго паеду?..

— І гэта праўда... А ён ужо і не спіць! — Вавіла павесялеў, убачыўшы, што Іван расплюшчыў вочы. Зрабіў два шырокія крокі ад парога да ложка.— Здароў, Лявонавіч. Кажаш, і паспаць не даюць?

Іван выпроствае з-пад коўдры руку, здароўкаецца. Вавіла ўзвышаецца над ім цяжкай шыракаплечай тушай. Няголены твар яго ўспухлы ад недасыпу.

— Я ж кажу маці,— гаворыць тым часам Вавіла,— чаму мне не сказала. Можна ж было каня запрэгчы. Мой меншы мог бы і падскочыць.

— А я прывык пехам.— Іван прыўзнімаецца на падушцы, смяецца, але з пасцелі не ўстае, і Вавіла пасля некалькіх абавязковых пытанняў пра тое, як там і што ў сталіцы, паварочваецца да маці.

— Гэта ж я прыйшоў сказаць, каб ты падышла пад капцы, пасобіла бульбу перабіраць. Можа, да абеду пасядзела б? Арына пойдзе, Маня, Гуня.

— Ды не, Вавіла. Як жа я пайду. Сам бачыш — госць

прыехаў. Хочам да абеду гной выкінуць на соткі, ну а пасля — на могілкі пойдзем.

— Яно-то так. На могілкі і я пайду. Трэба сваіх праведаць, магілкі падправіць.— Ён ідзе да дзвярэй, бярэцца за клямку.— А то схадзі, га? А заўтра Іван ушчэміць якога каняку ды на калёсах і выкінеце гной?..

— Не. Заўтра яму ехаць трэба.— Маці не хавае, што ёй апрыкрала гэта гаворка.— Пашукай каго з маладзейшых. Хіба, акрамя Лёксы, няма нікога...

— Знайду, чаму не знайду,— Вавіла пазірае на Івана.— Але я думаў, што і табе рубель які ці два не лішнія былі б...— І нечакана мяняе гаворку: — Уставай, Лявонавіч, пойдзем да мяне. Па чарчыне возьмем, пагамонім. Нона ж мая цяпер дома.

— Як-небудзь ужо другі раз. Сёння няма калі,— рашуча ўмешваецца маці.— Работы сёння шмат.

— Работа не дзеўка, нікуды не дзенецца. Нона пра цябе пыталася. Як ведала, што прыедзеш. І нам ёсць пра што пагаманіць...

Вавіла выходзіць, згінаючы галаву ў дзвярах. Маці стаіць, абапершыся на чапялу, пазірае ў печ.

— Бегае па хатах, баб шукае і дзе б галаву прывязаць... Учора ў Міколкі хрэсьбіны былі, ну, і ён, канешне, быў... Каб не ты, мо і напрасіўся б. А то, бач, і цябе ў госці паклікаў.

Іван маўчаў. Ён ляжаў на ложку, усміхаўся сабе, але ў душу ўжо пракрадвалася нейкая незразумелая трывога. І быццам тая радасць, што нядаўна пранізвала яго ўсяго, і шчасце, якім ён быў толькі што напоўнены, зблеклі, адступілі назад.

— Дык уставай, Лявонавіч,— сказала маці, бліснуўшы вачыма ў яго бок.— Бач, як цябе велічае. Лявонавіч. Думае, можа, зяцем яшчэ будзеш...

І матчыны словы, і ласка яе, і такі знаёмы дамашні пах печанага сала з каўбасой зноў вярнулі Івану адчуванне радасці жыцця, радасці, што ён зноў дома і бачыць клопатную немітуслівую матчыну работу і што сама яна ёсць, жывая — усё такая ж руплівая, эканомная, з заціснутымі пад хустку валасамі. І ён успомніў пра той страх, што часам накочвае на яго там, у Мінску, калі доўга няма ад яе пісем, і парадаваўся гэтаму страху, таму што гэты страх ёсць і што ён гоніць Івана на вакзал, у цягнік, а пасля — гэтыя дзесяць кіламетраў, калі бяжыш

усё хутчэй і хутчэй, баючыся, каб хаця з ёй усё было добра, і не верыш у сваю боязь, і потым на двары, пастукаўшы ў шыбу, напружана чакаеш, калі пачуецца лёгкі шоргат і жывое варушэнне на печы, і з плячэй быццам гара зваліцца. Блісне святло, і вось ужо ён абнімае яе — цёплую ад печы, маленькую, бездапаможна зажмураную ад яркага святла, у спехам надзетай прасторнай суkенцы, адчувае шурпатасць яе разагрэтай сном мяккай шчакі і пакатасць вузкіх прыгорбленых плячэй...

Пасля снедання пайшлі ў хлеў. Іван уздзіраў віламі гной, накідаў на насілкі, стараўся навальваць на свой край болей, каб маці было лягчэй.

Зямля на сотках падсохла, і толькі ў лагчынцы, за хатай, у барознах цвіла шэрай плесняю вада, і ногі грузлі ў цягучай, як цеста, хліпкай мякаці.

Гаварылі мала — спакойна, суладна думкам і настрою. Іван як бачыш разагрэўся, скінуў пінжак. Маці таксама зачырванелася тварам... І накідваючы гной, і несучы яго, і гаворачы, ён жыў у сабе. Ён думаў пра сон, што прысніўся сёння ноччу, узбударажыў яго. Ці не сон прынёс з сабой гэтую незразумелую трывогу?

Ніколі Іван не сніў такога прыгожага і страшнага сну.

Сон быў пра коней. Аднекуль, здаецца з Яблоншчыны, Іван ішоў дамоў. Ішоў, мякка чуючы пад босымі нагамі гарачы дарожны пясок. Пахла палыновай горасцю, і Івана нешта трывожыла, непакоіла. Ён раз-пораз кідаў позірк на неба. На захадзе яго зацягвала цёмная хмара. Іван не памятаў, што трывожыла яго — ці гэта чарната, што ўсплывала, разрастаючыся, ад зямлі, ці што другое. Але гэты незразумелы страх падганяў яго, прымушаў ісці хутчэй і хутчэй. І раптам Іван улавіў ледзь чутнае цоканне капытоў — быццам нехта далёка і не надта хутка ехаў на кані. І тады страх, што цясніўся ў грудзях, набыў рэальнае і канкрэтнае асэнсаванне. Іван баяўся гэтага конскага тупату! Ён кінуўся бегчы дамоў, хутчэй дамоў, толькі дом мог выратаваць яго ад гэтага конскага тупату. Іван бег і ўвесь час азіраўся назад, на неба. І, падбягаючы ўжо да свайго сяла, убачыў, што па небе, якраз па вострым беражку чорнай хмары, ляцяць, вырастаючы на вачах, два блакітныя кані. Суладны тупат іх — тра-та-та! — тра-та-та! — быццам яны несліся не па небе, а па гулкай, убітай дарозе, разлягаўся навокал,

запаўняў усю прастору, разрываючы Іванава сэрца дзікім страхам. Жудасна прыгожыя, светла-блакітныя коні з крутымі шалёна-чырвонымі вачыма і ашчэранымі буйнымі зубамі, з ружовымі грывамі і хвастамі, якія, развіваючыся, плылі на ветры... Іван бачыў іх шырокія мускулістыя грудзі, круглыя чыстыя талеркі капытоў, бачыў, як коні імкліва набліжаюцца — тра-та-та! — тра-та-та! — тра-та-та! — і бег па пустой вуліцы, шукаючы, дзе б схавацца, але ўсюды было гола, толькі наперадзе стаяла іхняя хата, і калі здавалася, што коні зусім дагналі і вось-вось растопчуць яго, ён нарэшце дабег да хаты, крутануў за вугал, прыціснуўся спіной да сцяны, раскрыжаваўшы рукі. Коні пратупацелі далей...

Але зараз жа яны развярнуліся і панесліся назад, на яго, і ён пабег укруга хаты, хаваючыся за вуглы, і з замёршым сэрцам пачуў нарэшце, як тупат стаў заціхаць і заціхаць. Тады Іван зайшоў у хату, знайшоў каністру з газай і, абліўшы вуглы, падпаліў. Полымя рванула ўгору, быццам выстраліла.

І, прачнуўшыся, Іван яшчэ доўга слухаў дзікі стук сэрца, да драбніц прыпамінаючы гэты незразумелы сон, ясна бачыў гэтых коней, чуў іхні тупат і адчуваў той страх, які перажыў. Вось і цяпер, варта было прыплюшчыць вочы, з'яўляліся гладкія, аж мяняюцца, нерэальна блакітныя спіны коней, выпучаныя, налітыя кроўю вочы. Толькі цяпер не было таго начнога страху, засталіся толькі здзіўленне і радасць. Як гэта было прыгожа! Страшна, але прыгожа. Гэтак страшна і гэтак прыгожа, што сэрца гатова было разарвацца.

І дзіўна... Успамінаючы сон, Іван думаў пра Веру. Быццам гэты сон нейкімі нябачнымі ніткамі быў звязаны з Верай.

«Гэта добра, Вера, што ты прыехала,— думаў ён.— Гэта надта добра. Я хачу бачыць цябе. Мне трэба ўбачыць цябе...»

Пакуль Іван узрываў зляжалы, спрасаваны гной — карове падсцілалі пакамечаны, паклычаны лён, што кожны год заставаўся на сцелішчы і які Лёкса збірала і прывозіла на двор,— пакуль накладаў на насілкі, Лёкса сядзела ля сцяны на слончыку. Супакоеная, трохі размякчаная работай і цёплым днём, радая, што прыехаў сын, яна думала пра сябе, пра Лявона, пра дзяцей, і ёй

прыемна было думаць, бо гэтыя думкі адкрывалі ёй яе самую не такой, якой яна прывыкла сябе лічыць — маленькай, слабай, слязлівай, а другой — моцнай, упэўненай, прыгожай. Усё жыццё ёй не было калі думаць пра сябе: маці заўсёды думае пра дзяцей і толькі пасля, калі застанецца час, пра сябе. Такога часу яна ніколі не мела. З ёй было пяцёра, калі Лявона не стала,— дзе тут умясціцца другім думкам. І цяпер яна думала пра сябе, глядзела на сябе, аддзеленую ад паўсядзённых дробязных клопатаў, якімі заўсёды поўна жыццё кожнай бабы, а асабліва жыццё мнагадзетнай бабы-ўдавы.

Яна ўспамінала Лявона, якім ён быў у тыя ваенныя гады і якім застаўся назаўсёды, бачыла сябе самую побач з ім — таксама маладую і здаровую.

Яна сядзела на слончыку, чула цяжкае дыханне Івана, бачыла яго чорныя задуманыя вочы і кроплі поту на лбе, вялікаваты нос, крэпкія рукі з уздутымі венамі, і бачыла і чула зусім іншага Івана.

...Тая ноч была халодная, мяцельная. Яшчэ днём Лёксе стала нядобра: падкочвала пад грудзі пустата, балеў жывот і цягнуў уніз. «Не трэба было падымаць так цяжка,— не першы раз падумала яна за гэты дзень.— Не трэба было брацца за той мяшок».

Лёкса хадзіла пятым і ведала, што азначае і гэты цяжар у жываце, і гарачка, і ламата ў спіне.

Канчаўся сёмы месяц, як яна загрубела, і яна думала, што ўсё абыдзецца.

Цэлы дзень была на нагах, выпаліла ў печы, зварыла абед, потым павячэралі... У хаце было нязвыкла прасторна — ужо два дні, як атрад Івана Іванавіча выбраўся з Буднева, пакінуўшы толькі санітарны ўзвод. У іхняй хаце нікога не было. Дзеці — усе ўчацвярых — спалі на палку і на печы, яны з Лявонам — на ложку. Яшчэ заўчора на гэтым ложку спалі санітарка Галя і камандзір узвода Асіпчык. Яны нядаўна пажаніліся — чарнабровая смуглявая Галя і маўклівы Асіпчык, і Лёкса з Лявонам аддалі ім свой ложак. Самі яныляглі на падлозе.

Пасля глухой поўначы, калі шыбы ў вокнах заледзянелі і хата пачала студзянець, Лёкса разбудзіла Лявона:

— Лявон, Лявон, устань. Я раджаю...

— Ты што, здурнела?.. Шчэ ж не пара...

— Я ведаю, што не пара, але і ведаю, што раджаю... Устань, раскладзі ў печцы... Пастаў грэцца ваду...

— Можа, ты яшчэ выдумляеш.— Лявон борздзенька нацягнуў штаны, вобмацкам знайшоў у печы буркі — яны сушыліся там. Запаліў «смаркачык», паставіў яго на комін, укінуў сухіх дрэвак у печку.

Лёкса ляжала на ложку, цяжка дыхала, пазірала ў столь, слухала, як трашчаць, разгараюцца дрэўкі.

— Разбудзі Рэню... Хай збегае па бабу...

— Яна баяцца будзе...

— А як жа без бабы?..— Лёкса ўжо кусала губы.

Лявон стаў на зачынак, узяў за плячо дачку:

— Рэня, устань. Устань, Рэня! Збегай да Агеіхі. Скажы, хай бяжыць сюды. Маці раджае...

Рэня адразу ўсхапілася, як і не спала, пачала хуценька абувацца...

— Адчыні куфар, Лявон. Там з левага боку, пад прыскрынкам, дзве полкі ёсць, крамныя, дастань іх. Пад імі кужэльныя, тоненькія, і іх дастань. Што яшчэ. Ага, прынясі з сянец начоўкі, хай грэюцца...— Яна заплюшчыла вочы. Лоб яе абсыпала потам. Яна ляжала і слухала, як гудзе агонь у печцы і як цёплы дух ідзе на хату, і быццам не чула болю, які працінаў яе ўсю, разломваў на часткі. Ёй прыемна было бачыць Лявона — разгубленага, бездапаможнага, добрага. Ён рэдка калі смяяўся і яшчэ радзей з ёй. Яна паважала яго і трохі баялася. А цяпер ёй было добра з ім. Яна шкадавала яго. Шкадавала, што ён такі сур'ёзны, хавае ласку сваю і дабрату і не ведае, што з імі рабіць. Ён, як багаты, які не раздае сваё багацце не таму, што скупы, а таму, што не ведае, каму і як аддаць...

Ёй прыйшла ў галаву думка пра тое, што яшчэ пазаўчора на гэтым ложку спалі маладыя, а сёння яна раджае. «Ну і што з таго, што маладыя, ты ж сама даўно ўжо немаладая, пятае раджаеш...» — думала яна і зноў успамінала пра тое, што ўсяго пазаўчора на гэтым ложку спалі маладыя.

Страшэнны боль зноў працяў яе ўсю.

— О-ой!

— Крычы, Лёксачка, крычы... Дай я табе падушку падкладу пад спіну... Ямчэй будзе... Крычы...

— О-ой... Не глядзі!.. Дурань, маўмыра, адыдзі... Ой!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Асцярожна, Лявонка... Галоўку асцярожна... О-о-о-ой... Пуп, пуп перавяжы...

Ён кінуўся шукаць ніткі — у куфар, у прыскрынак — нідзе не было. У шуфлядцы стала наткнуўся на клубок дратвы. Адкусіў кончык, пераціснуў пупавіну.

— Ці жывое хаця?

— Жывое,— Лявон трымаў маленькі ружовы камячок над начоўкамі, абмываў цёплай вадой.

У раму акна нехта груба забарабаніў:

— Тушыце агонь! Самалёты!

У раму яшчэ раз гвазданулі. Здавалася, яна не вытрымае, рассыплецца. І тут ляснулі дзверы, і ў хату ўварваўся чалавек — у чорным паўкажушку, з наганам у руцэ.

— Тушыце агонь зараз жа, бо пастраляю! — разявіўся ён, шалёна бегаючы вачыма па хаце. Лёкса бачыла, як пабялеў тварам Лявон, як ступіў насустрач вірлатаму.

— Ціха. Бачыш... дзіця родзіцца...

— Што?.. А-а-а,— чалавек нібы сумеўся, хоць да яго яшчэ і не даходзіла ўсё, адступіў назад.

— Запніце чым-небудзь. Бо як лясне штучку — мокрае месца застанецца.— Задам, задам, яшчэ раз зірнуўшы за печ, ён выйшаў.

Лявон загарнуў у нейкае лайно дзіця, схапіў пасцілкі, накінуў на адно акно, на другое. Прыслухаўся. Недзе высока чуўся нудны цягучы гул. Ён прыкметна аддаляўся...

— Божа мой, ці ж яно будзе жыць... Сямімесячнае... Такое малюсенькае. Зялёнае. Мохам абраслае...— Гэта сказала сама Лёкса, ледзь чутна, аднымі губамі. А яно, гэтае зялёнае, абраслае мохам, раптам зморшчыла тварык і не то заплакала, не то піснула — раз, другі, трэці...

— Захоча, дык будзе жыць,— сказаў Лявон.

У сенцах пачуўся тупат ног. Ішла Рэня з бабай Агеіхай.

...Лёкса быццам ачнулася, узняла вочы. Іван стаяў ля шулы, абапёршыся на вілы, пазіраў на яе. Чорныя, коратка астрыжаныя валасы. Яны ў яго круцяцца, але так было прыгажэй, так ён выдаваў маладзей. Шырокія ў касці рукі. Кашуля на грудзях расхрыстана, як ражок касынкі, відаць загарэлыя грудзі. Кожны год так пячэцца на сонцы, што і праз зіму загар не сходзіць. Вузкія штаны

шчыльна абляпілі ногі. Мог бы і з шыршымі калошамі выбраць. Тады б не было відаць, што ногі крываватыя.

Яна ўстрапянулася, палезла рукамі пад хустку, папраўляючы валасы, дадумала: «Ці думаў хто тады, што з яго будзе нешта. Ажно бач, слава Богу. Захоча — будзе жыць». Устала.

— Даўно былі пісьмы? — спытала ціха, як пасля сну.

— Ад Валіка ўжо з месяц нічога не было. І Алёша маўчыць. Усё ніяк дзесяць мінут не выберуць, крамзануць колькі слоў... Рэня, праўда, нядаўна прыслала. Ліда таксама. Збіраецца на лета прыехаць з дзяцьмі.

— Хай едуць. Малако ёсць, мяса... Хоць ягадзіну якую дзеці падымуць ды пацешацца. А можа, і саўсім застануцца...

— Кінь ты, мама. Ты ж ведаеш: ададраны сук не прыжываецца.

— Ададраны. Надта быстра вы аддзіраецеся.

Лёкса сціхла. Іван чуў за плячыма яе няроўную, рыўкамі, хаду, чуў, як яна цяжка выцягвала свае гумавікі з ліпкай зямлі...

Сам ён успамінаў сваё...

## IV

Зімовымі вечарамі, калі на дварэ ганяла сухі снег і сыпала ім у твар, як ні затуляйся, і ні паўз плот, ні пасярод вуліцы нельга было прайсці, каб не загрузнуць у плыўкіх высокіх гурбах і не набраць снегу ў буркі, добра было па сцежцы, працярэбленай многімі нагамі, ускочыць у зацішак Пётравага двара.

Вецер не даставаў тут, за сцяной сянец, і можна было атрапаць снег з каўняра і шапкі, каб не несці ў хату. Тут жа заўсёды стаіць дзяркач — абмесці буркі. І тады ўжо можна было зайсці ў першую — халодную — хату, там пад бэлькай заўсёды жаўцела лямпа, і з гэтай хаты — у другую. Пасля марозу, снегу і ветру тут быў рай. На ўсю сілу, наліваючыся да малінавай чырвані, гарэла печка, ад стала валіў дым — там дымілі карцёжнікі, а ўкруг іх тоўпіліся тыя, хто спазніўся заняць месца за сталом і цяпер чакаў сваёй чаргі, пакуль нехта вылеціць, і тыя, хто кожны вечар прыходзіў сюды, каб адагрэцца ў цяпле, пачасаць языкі, з аднолькавай радасцю паглуміцца над

«дурнямі» — усё роўна, хто імі быў. Збіраліся тут і мужчыны, але больш было хлопцаў і дзяўчат.

Пётра быў удавец, і жылі з ім дзве дачкі — Клаўдзя і Вера. Нават не з ім, а ён жыў пры іх. Пётра кожную вясну наймаўся пастухом і, як толькі сыходзіў снег, у сваю хату прыходзіў толькі начаваць: армілі яго, давалі споднае па радоўцы тыя хаты, якія пускалі ў чараду кароў. Кожная гаспадыня ад сябе адарве, ад дзяцей адарве, а пастараецца, каб пастух і смачна паеў і ў добрым настроі выйшаў у поле,— і Пётра хадзіў з чырвоным, быццам бурак, тварам, заўсёды што-небудзь мармычучы сабе пад нос.

Дзеўкі яго жылі самі сабе, але таксама адчувалі адметнасць пастуховай прафесіі — бацька прыносіў ім і хлеба і да хлеба.

Клаўдзі было ўжо дзевятнаццаць, гэта яна была прычынай, што ў хаце ў іх заўсёды былі хлопцы і дзяўчаты. Верцы ж яна была і за маці, і за сястру. Верка расла марудна, заморана, хадзіла ў чацвёрты клас, а выглядала на другакласніцу. Але адно ўсім кідалася ў вочы — яе не па ўзросту сур'ёзнасць. Ці яна абірала бульбу маленькімі быстрымі ручкамі, ці падкладвала дрэўкі ў печку, ці прыносіла ваду — заўсёды броўкі зведзены разам, губкі выцягнуты наперад, быццам яна сама сабе на памяць паўтарае нейкі ўрок.

Кампаніі для пажылых жанчын тут не было, для мужчын таксама. Пётра не напарнік. Пра што з ім пагаворыш, калі нават «вечар добры» яму трэба было крычаць у самае вуха. Але мужчыны ўсё ж часценька заглядалі сюды. Ім тут было спадручней — яны прыходзілі разам з хлопцамі.

Сам Пётра мала прымаў удзелу ў гэтых вячорках, звычайна ён сядзеў на лаўцы і, усміхаючыся нечаму свайму, мармытаў, як кот, сабе пад нос і плёў лапці. З ўсяго абутку Пётра прызнаваў толькі адзін — лапці. У іх ён хадзіў і вясной, і летам, і зімой. Нават на Вялікадня хадзіў у лапцях. Святочныя лапці плёў ён вельмі старанна і прыгожа і вяроўкі віў спецыяльныя, потым смаліў іх, і яны рабіліся чорныя і, прыгожа скрыжоўваючыся, сціскалі на назе белыя кужэльныя анучы... Пётра быў малайцом яшчэ ў адным: у яго за лета заўсёды было назапашана сухіх дроў, ён не шкадаваў іх, абы ў хаце было горача.

Кінуўшы школу пасля сямі класаў, як не кожны вечар у хату да Пётры пачаў хадзіць і Іван. У карты ён не гуляў, у даміно таксама, але любіў сядзець дзе-небудзь на лаўцы, слухаць зубаскальства хлопцаў і мужчын. У душным цяпле хаты, у гэтым тлуме, дзе ўсе былі роўныя — і старыя, і маладыя, ён адчуваў сябе як бы раўнёй і гэтым аброслым калючай шчэццю мужчынам, і языкатым хлопцам, хоць быў тут самы малады і малы ростам. Ён не крыўдаваў, калі раптам хто-небудзь клікаў яго: «Дзе ты, Ясёк, ідзі сюды»,— не Іван, а Ясёк, і ён пакорна ішоў на голас, ніякавата ўсміхаўся, адгукваючыся на мянушку, як на законнае імя. Гэта пакорлівасць, гатоўнасць услужыць, незлапомнасць давалі яму месца ў гурце курцоў і карцёжнікаў. Яны яго прымалі ў свой гурт як роўнага, бо ён як роўны працаваў з імі летам і зімой. Ён ездзіў з імі ў лес, за раку па сена, цягаў бярвенні і мяшкі. У чым можна было, ён стараўся не адставаць ад іх. Калі яго пасылалі «да Маланкі»,— ахвотна бегаў, вяртаўся ад яе з пляшкамі самагонкі, спрабаваў і сам выпіваць, хоць ні смаку ў самагонцы не чуў, ні ахвоты да яе не меў.

Яму было ўжо чатырнаццаць гадоў, і гаворкі старэйшых хлопцаў і мужчын пра жанчын і дзяўчат, бессаромна-шчырыя і выхвальныя, страшылі яго, але і выклікалі павышаную цікаўнасць, хвалявалі. Ён слухаў іх, хоць і саромеўся, рабіў выгляд, што яны яго не цікавяць, а сам стараўся не прапусціць ніводнага слова. Неспакойны агонь наіўнага захаплення жанчынай, чакання нечага невядомага і грэшнага ўжо бунтаваў яго кроў.

Часам хлопцы прыносілі цымбалы, і тады пачыналіся танцы. Вучыўся танцаваць і Іван. Міця, ці, як яго часцей называлі, Чатырысорак, іграў на цымбалах, а «яго» Клаўдзя была свабодная і вучыла танцаваць падлеткаў. Іван баяўся Клаўдзі, бо яна занадта смела прыціскала да сваіх вялікіх гарачых грудзей, і стараўся вывернуцца з яе рук.

Усе разбіваліся на пары, кожны з хлопцаў стараўся танцаваць са «сваёй» дзяўчынай. У Івана «сваёй» яшчэ не было, і ён прысаджваўся да печкі, бліжэй да Веркі — памагаў рашаць задачы ці чытаў што-небудзь з чытанкі. Іван сумаваў па школе і радаваўся, што Верка ўважліва, як настаўніка, слухала яго.

Трашчыць агонь у печцы, пырскаюць іскры. Верка

сядзіць на падлозе, ля расчыненых дзверцаў. На прыполе ў яе задачнік, а сшытак, чарнілка — бутэлечка і ручка — на маленькім табурэце. Твар яе расчырванеўся ад жару, але яна не адсоўваецца ад печкі, хоць тут і горача і іскры страляюць — глядзі, што прапаляць і задачнік, і сшытак. Яна пазірае ў печку, на агонь, мітусліваe полымя азарае яе твар, ён такі чырвоны, што здаецца, зараз і сам займецца агнём, і вочы ўспыхнуць, як вугалькі.

Іван з боку печкі прыткнуўся на бярозавую калодачку. Калодачка тонкая, сядзець на ёй мулка, і Іван круціцца, мосціцца на ёй, як певень на спіцы...

— Ну, чытаю яшчэ раз... Слухай. «З горада А ў горад Б насустрач адзін аднаму выйшлі два падарожнікі...» — Шуміць, аж гудзе, ломячыся ў калена, полымя, пахне бярозавымі дрывамі, як у лазні, калі яе толькі пачынаюць паліць. Іван чуе, як сохнуць і наліваюцца цяплом яго шчокі, і слухае гул галасоў за сталом — сёння там нешта злуецца і часта збіваецца на крык Міця.

«Ты што, думаеш, я сляпы, не бачу... Караля — дамай... Па галаве зараз гэтай дамай!» — «Ну-ну, цішэй... Ты б толькі па галовах. Я пажартаваў».

Іван ускідвае вочы на Верку:

— Дык з чаго пачнём?

Верка як быццам нічога не чуе — ні таго, што толькі што прачытаў ёй Іван, ні таго, што робіцца за сталом. Яна пазірала ў печку, на полымя, і цяпер устрапянулася, пачуўшы Іванаў голас, недаўменна пазірае на Івана.

— Трэба даведацца, на якой адлегласці ад горада А і Б яны сустрэнуцца і якая адлегласць паміж гарадамі.

— А што, як яны саўсім не сустрэнуцца? — на Івана пазіраюць круглыя, як гузікі, чырвоныя вочы.

— Як гэта не сустрэнуцца?

— Ну як? Хіба паміж гарадамі толькі адна дарога? Можа, адзін паедзе па адной, другі — па другой,— і размінуцца...

— Ды не, ты не разумееш... На зямлі няма такіх гарадоў А і Б. Гэта толькі ў задачках пішацца.

— Хіба ж можа так быць: пішуць, што ёсць, а іх няма? Так не бывае. І як жа яны сустрэнуцца, калі такіх гарадоў няма?

— Сустрэнуцца... Павінны, дык сустрэнуцца,— Іван

пачынае злавацца.— Дык што мы даведаемся першым пытаннем?

— Першым пытаннем? — Вера моршчыць лоб, ад носа ўгору па лбе бягуць дзве ўпадзінкі.— Першым пытаннем...— Іванаву злосць як рукой здымае.

— Ну, слухай яшчэ раз. Толькі ўважліва. Вось два гарады А і Б.— Іван бярэ аловак і накідвае на лісце паперы схему.— З горада А ў горад Б...

— Ну, скора вы разбярэцеся са сваімі гарадамі? — гэта ўжо ад стала, Чатырысорак.— Плюнь ты на ўсё, Іван, ідзі сюды. Вазьмі чарку...

— Не чапай ты яго. Можа, ён нявесту сабе вучыць...

— Ха! Га-га-га!

— Піце, я зараз.— Івану не хочацца ісці да стала і піць самагонку, якую ён толькі што сам жа прынёс.

— Во-о-о, мы яшчэ перапрошваць яго будзем.— Чатырысорак устае з-за стала і валачэ Івана ад печкі.— Хай сама разбіраецца.

І вось Іван за сталом, паміж Пётрам і Клаўдзяй, трохі аглушаны выпітай гарэлкай і разгарачаны. Ён бачыць, што Вера сядзіць на старым месцы, усё гэтак жа ўтаропіўшыся на агонь. І яму шкода яе — маленькую, збедненую, адзінокую і самотную ў гэтым тлуме.

Чатырысорак прыстае, каб Іван выпіў яшчэ. Іван не хоча, адштурхоўвае яго руку са шклянкай — гарэлка выплёскваецца на стол, у міску з качанамі кіслай капусты.

— Ну, ты цішэй! Пі! — Чатырысорак барвавее, паказвае зубы.

— Не буду.— Нейкая ўпартая злосць раптоўна закіпае ў грудзях Івана.

— Будзеш, Ясёк. Раз сказалі — будзеш... Дзе ты дзенешся...

— Я табе не Ясёк, чуеш? Я Іван Купцоў. У мяне бацька ёсць, Лявон. Лявон мой бацька...

— Быў бацька... А ты — Ясёк. Разумееш?.. Я-а-сёк! І будзеш рабіць, што загадаюць. Сёння сена каровам на ферму прывозіў, заўтра гной будзеш выкідваць, вясна прыйдзе — араць будзеш, касіць будзеш...— Чатырысорак як азвярэў.

— Ну і выкіну, што там такога, і ўзару, і скашу. А піць не буду.

— Думаеш, на сваіх сямі класах далёка паедзеш? Не-а... Не далей, як я на Чалым.

— Куды захачу, туды і паеду.

— Не далей Маланкі.

— А вось да Маланкі больш я ўжо не пайду. Не-е-е, не пайду.

— Пойдзеш, Ясёк...

— Ясёк, кажаш? Ясёк? Хай. А гэта табе ад Івана,— і Іван бахнуў астаткі гарэлкі Міцю ў твар.

Страшэнны ўдар у зубы адкінуў Івана да сцяны.

Іван прыўстаў, убачыў па той бок стала перад сабой мокры і злосны Міцеў твар, адчуў соль у роце, размахнуўся і тым, што было ў руцэ — гранёнай шклянкай, саданў Міцю ў твар і разам са звонам, што абваліўся на яго галаву, пачуў перапалоханы Верын крык.

Ішоў Іван дамоў, глытаў слёзы: «Дзе ты, бацька? Няўжо не можаш заступіцца? Няўжо ўвесь век буду выціраць рукавом слёзы?» Запаліў дома лямпу, доўга пазіраў на бацькаў партрэт. У хаце было цемнавата, і бацька глядзеў на яго са сцяны па-чужому ўважліва і холадна.

— Чаму гэта ты не хвалішся, што ўчора пабіўся з Міцем? — спытала маці назаўтра за снеданнем.

— А табе ўжо напелі.

— Вот я зараз напяю дык напяю. Колькі разоў гаварыла: не хадзі туды. Знайшоў кампанію... Міця яму раўня. Не, валачэцца... І той асіліў, каго біць. Зараз пайду, дык чапялой галаву расквашу.

— Не мяшайся, куды не просяць,— груба адказаў Іван.

— Як гэта не мяшайся?

— Сам разбяруся.

— Ці ў суд падаць? Знойдуць і на яго ўправу.

— Сказаў, не мяшайся, дык не мяшайся...

Лёкса прыкусіла язык. З ёй гаварыў другі сын, другі Іван — не той мяккі, падатлівы, якога яна ведала дасюль і якога людзі, ды парой і яна, жартам і не жартам звалі Ясёк. І яна не ведала: радавацца гэтаму ці гараваць.

Якраз у гэты час дзверы хаты адчыніліся. Зайшоў Міця.

— Заявіўся, малойчык. Хіба ўзяць чапялу ды правесці, як чалавека,— сустрэла яго Лёкса.

— Не крычы, цётка. І без гэтага сабаку ў вочы гля-

дзець няёмка. Усё гэта гарэлка. Давай, Іван, мірыцца,— і Міця ступіў да стала, працягнуў руку.

Учарашнюю Іванаву злосць як рукой зняло. Яму імпанавала, што сам Чатырысорак прыйшоў да яго мірыцца, і ён працягнуў сваю руку.

Пасля гэтага вечара Іван пачаў хадзіць са шчэрбінай у верхнім радзе зубоў, а Чатырысорак з глыбокім шрамам на пераноссі...

А потым неяк пад вечар з віламі на плячы ішоў Іван з калгаснага двара дамоў — стомлены, здарожаны. Ездзілі па сена за раку, цэлы дзень на холадзе, а там яшчэ за Слабодкай конь у рышт праваліўся — добра, што месца было неглыбокае і хлопцы ехалі блізка, выцягнулі каня, і нават воз не трэба было перакладаць. Ішоў, радуючыся, што зараз будзе дома, у цяпле і дабрэ, і сустрэў Івана Амяльянавіча. Маленькі, тоўсценькі, як стручок гароху, Іван Амяльянавіч перабіраў кароценькімі ножкамі, соўгаўся па снезе, трымаў пад пахай — Іван адразу пазнаў яе — старэнькую школьную радыёлу «АРЗ». Іван Амяльянавіч узрадаваўся, убачыўшы Івана, паставіў радыёлу на снег, працягнуў руку.

У школе Іван Амяльянавіч выкладаў фізіку, хімію і гісторыю, хадзіў заўсёды ў цёмным неадпрасаваным касцюме, і заўсёды ад яго пахла не то хімікатамі, не то лякарствамі. Вучні яго не баяліся, хоць і любілі.

— Гэта ж мы хочам Новы год сустракаць у школе, пласцінкі паслухаць, патанцаваць, а радыёлка наша маўчыць. Дык я і ўзяў яе дамоў, пакапаюся — можа, папраўлю,— пачаў тлумачыць ён Івану, ківаючы на радыёлу, і адразу, без пераходу, быццам для яго гэта было даўно вырашана, прапанаваў: — Прыходзь да мяне заўтра вечарам, разам паглядзім. Ты ж любіш фізіку. Удвух будзе весялей...— Іван не паспеў нічога сказаць — ён паважаў Івана Амяльянавіча і пабойваўся, і гэта сустрэча была такой нечаканай, а той падхапіў ужо радыёлу пад руку і пайшоў далей па вуліцы, усё гэтак жа слізгаючыся ў сухім нерастоптаным снезе...

На другі дзень вечарам Іван з Іванам Амяльянавічам сядзелі ў цеснай баковачцы, мацалі кожны правадок, кожны кантакт. Усё было на месцы, усё было па схеме, а радыёла маўчала. На трэці ці чацвёрты вечар, калі Іван ужо на памяць ведаў усе вузлы, дзе якое супраціўленне, дзе кандэнсатар, і калі яму ўжо надакучыла гэта калу-

панне, Іван Амяльянавіч раптам сказаў, што, можа, тут усё спраўнае, можа, проста перагарэла якая лямпа... Іван пачаў праглядаць лямпы... Так яно і было. У Івана Амяльянавіча якраз знайшлася і запасная лямпа, і вось радыёла затрашчала, неспакойным мітуслівым полымем заззелянела шкала... Іван Амяльянавіч збегаў у другі пакой, прынёс пласцінку, паставіў на круг — і ўдарылі, пераклікаючыся, срэбныя звоны, і мяккі душэўны голас заспяваў. Песня была не наша, не ўсе словы былі зразумелыя, але музыка і голас спевака былі такія душэўныя, блізкія... Было так хораша слухаць...

І па сённяшні дзень Іван не ўпэўнены, ці сапраўды Іван Амяльянавіч не ведаў, што ў радыёле перагарэла лямпа, ці толькі рабіў выгляд, што не ведаў, але сам Іван пасля той сустрэчы пачаў дзяліць вечары: калі ў Пётры, калі ў Івана Амяльянавіча.

...Лета. Востра, да чыхаўкі пахне зляжалым пылам. Іван з Алёшам ідуць па вуліцы — у гэты перадвячэрні час ціхай і бязлюднай,— гавораць, смяюцца. Ідуць на танцы. Алёша толькі ўчора прыехаў з мараходкі, з Калінінграда, ён у шырокіх клёшных штанах, у форменцы, на макаўцы галавы — бесказырка з чорнымі лентамі. Іван — у белай з сінімі пасачкамі паркалёвай кашулі, надзетай на голае цела: на дварэ духата, як у печы.

Абодва вясёлыя, узбуджаныя — яны заўсёды былі рады адзін аднаму і любілі адзін аднаго. Сёння абодвум хацелася гаварыць, і яны гаварылі, смяяліся, перабіваючы адзін аднаго. Успомнілі пра тое, як некалі, зусім яшчэ малыя, лазілі ў яблыкі. Цяпер гэта было даўняе і ўспаміналася як нешта прыемнае, дураслівае.

— А памятаеш, як да Мікалая залезлі? — спытаў Алёша, шырока разявіўшы рот, паказваючы чыстыя белыя зубы.— Ён спіць пад стопкай, «пільнуе», а мы шныпарым па садзе, жытнікаў шукаем.

— Ага... А потым ён прачнуўся і пытаецца: «Ніна, гэта ты?» Думаў, што гэта яго Ніна з вечарынкі прыйшла. А пасля як зараве: «А-а-а, дык гэта вы!» — ды за намі...

— Я тады страху набраўся,— Алёша пакруціў галавой, прыплюснуўшы вочы, быццам яму і цяпер было страшна.— Каб дагнаў ён каго тады — жыўём не выпусціў бы...

«А памятаеш?.. А памятаеш?..» — і працягвалася тая бязладная, хаатычная гаворка-ўспамін, з пераскокван-

нем з аднаго на другое, з мешанінай сённяшняга, нядаўняга, з тым, што было год-два-тры назад, калі галоўнае ў гаворцы — цяперашні настрой чалавека і ён, гэты настрой, асвятляе ўсё тое, што было і цяпер, і некалі.

Алёша жыў радасцю сустрэчы з домам, з маці, з братам, радаваўся свайму здароўю, што ідзе ў Курганы на танцы і што на яго форму заглядаюцца людзі.

Іван зайздросціў Алёшу — і яго фігуры — высокай і стройнай, і яго форме, і таму, што ён вучыцца на капітана далёкага плавання і ўжо цяпер свабодна і лёгка адчувае сябе з гэтымі незразумелымі і страшнымі «бомбрамселямі», «фок-грот-мачтамі» і шмат чым іншым. Асабліва зайздросціў ён заўсёднай Алёшавай вясёласці і ўпэўненасці ў сабе, упэўненасці ў тым, што ўсё, што б ён ні сказаў, будзе сказана прыгожа і цікава і ўсё, што б ён ні зрабіў, будзе зроблена добра і правільна. Іван разумеў, што ён у сваіх картовых штанах, старых разбітых чаравіках выглядае няўклюдным і вахлакаватым побач з Алёшам — адпрасаваным, бліскучым, падцягнутым, і гэта было непрыемна. Хіба Алёшу ў мараходцы цяжэй, чым Івану тут? І хіба Іван не здолеў бы так вучыцца? Здолеў бы... У восьмы ён не пайшоў не таму, што дрэнна вучыўся, а хацеў, каб маці было лягчэй. І яна гэта ведала, таму і не надта настойвала, каб канчаў дзесяць класаў... «Некаму трэба, як кажа Чатырысорак, і валам хвасты накручваць, і памагаць маці,— суцяшаў ён сам сябе.— Дзеўкі павыходзілі замуж, Валік у арміі, Алёша ў мараходцы...»

Хлопцы набліжаліся да канца пасёлка, як ззаду затарахцелі калёсы. Ехаў старшыня Пухцік Вавіла. Ён некуды спяшаўся і ўвесь час падвясельваў жарабка пугай. Сядзеў ён у задку драбінак, высока на канюшыне, як на троне. Як толькі калёсы пранесліся паўз хлопцаў, Іван пабег за імі, дагнаў і, схапіўшыся рукамі за канцы білін, ускочыў нагамі на кончык дышла, што тырчаў ззаду,— пад'ехаць.

Вавіла адразу павярнуў галаву — і вочы іх сустрэліся: Іванавы — радасныя, з аганьком азарту, і Вавілавы — пахмурыя, непрыязныя.

— Ану, злазь! — крыкнуў Вавіла, і Івану пачуўся дух гарэлкі.

Іван пазіраў на Вавілу, усміхаўся шырокім ротам, не разумеючы, ці той сапраўды злуецца, ці жартуе.

— Каму кажу — злазь! — ужо зароў Вавіла, шчэрачы зубы. Карак яго зачырванеў, наліўся кроўю.

Іван пачаў спускаць адну нагу, каб, перш чым саскочыць, прабегчы трохі за калёсамі, каб не пляснуцца ў пыл, і ў гэты час вострьі, аж уліпла кашуля ў цела, удар апаліў яго спіну.

Іван спачатку не зразумеў, не мог зразумець, за што гэта яго секанула Пухцік,— за тое, што падчапіўся праехаць? — и калі ўбачыў зноў павернуты да сябе яго задаволены твар і пачуў яго: «Ну што, будзеш чапляцца?» — і злосць, і жаль да сябе, і крыўда заслалі вочы. Тады Іван прыўстаў на нагах, выпрастаўся і, баючыся, што ногі саслізнуцца з круглага дышла, размахнуўся і з усёй сілы, якая толькі была ў правай руцэ і ва ўсім выпрастаным целе, адвесіў аплявуху. Убачыў, як Вавілава галава разам з шырокімі плячыма важка баўтнулася ўлева, і тады саскочыў на дарогу, ледзь не зааraўшы носам.

— Тыр-рр-р! — дзіка закрычаў Вавіла, крута паварочваючы жарабка да плота. Хапаючыся, прывязаў яго, ірвануў на сябе частаколіну. Але ў гэты час падбег Іван і абхапіў яго ззаду разам з колікам, прыцiснуў да сябе.

— Пусці, маць тваю... Я табе пакажу размахваць рукамі,— ірвануўся Вавіла. Але Іван трымаў моцна. Ноздры яго пабялелі, ён цяжка дыхаў:

— Будзеш ведаць, як пугай сячы, як біцца!

— Пусці!..— ірвануўся яшчэ раз Вавіла, і Іван ледзь утрымаў яго, крыкнуў:

— Алёша, сюды!

Алёша толькі цяпер зразумеў, што адбылося, і падбег да месца бойкі.

— Ціха, дзядзька, ціха! — сказаў ён спакойна, вырываючы ў Вавілы колік, і Вавіла зразумеў, што з двума яму не саўладаць, аслаб, абмяк. Іван адпусціў рукі. Вавіла вялай паходкай падышоў да каня, адчапіў яго, ускочыў у калёсы.

— Я табе, байструк партызанскі, яшчэ пакажу. Шчанюк! — і паласнуў па жарабку пугай.

— Пагавары, пагавары яшчэ, дык не тое з'ясі! — крыкнуў яму ўслед Іван.

Хлопцы не ведалі, што Пухцік ехаў з раёна і што яго

знялі са старшыні. Апошні час ён пачаў часта налягаць на чарку.

Спіна ў Івана паліла агнём, на кашулі цямнеўся руды пісяг, але ён быў рады сваёй перамозе. «Падажджы, шчэ не тое будзе»,— думаў ён самаўпэўнена пра Пухціка, і гэты запальчыва-ганарлівы настрой не пакідаў Івана ўвесь вечар.

Здаецца, на вуліцы нікога не было, калі Іван счапіўся з Вавілам, але ў клубе ўжо гаварылі, што Іван з Алёшам адлупілі Пухціка, і хлопцы і дзяўчаты, а асабліва хлапчукі, распытвалі, як гэта было. Іван маўчаў, расказваў Алёша. Як яны ішлі па вуліцы, як потым іх перагнаў Пухцік на жарабку і як Іван захацеў пракатацца... Калі Алёша мо ў пяты раз расказваў пра гэты выпадак, Іван раптам адчуў нейкі неспакой, быццам тарганула яго што, абвёў вачыма клуб — на сярэдзіне таўкліся танцоры — і сустрэўся з упартым і напружаным позіркам Веры. Яна стаяла ў кутку ў купцы такіх жа, як сама, недаросткаў-школьніц. Яны часта ўжо бегалі на вечарынкі, але ў круг выходзіць не асмельваліся, больш туліліся па кутках. Яна скончыла шэсць класаў, трохі выцыбалася, але ўсё роўна была невялічкая, і толькі вочы з прамым сур'ёзным позіркам паказвалі, што ў галаве ў яе ўвесь час ідзе напружаная работа думкі, а тонкая пастава і маленькія — толькі што адскочылі — гурбячкі грудзей, ледзь азначаныя пад сукеначкай, і пакатыя плечы гаварылі, што расце прыгожая добрая дзеўка.

Іван сустрэўся з яе позіркам і здрыгануўся. Адчуў, як жар апаліў усяго і нешта салодка і тоненька заныла ў грудзях. Ён падышоў да дзяўчатак, пажартаваў:

— Ну, стракозы, чаму не танцуеце?

— Так,— адказала за ўсіх Вера, і апусціла вочы, і потым ціха і неяк пранікнёна-пяшчотна, па-мацярынску, спачувальна звёўшы бровы над пераноссем, спытала: — Дужа баліць?

— Не-а,— адказаў Іван і адышоў назад да хлопцаў.

Там Алёша ўжо расказваў нешта вясёлае. Але Іван не чуў яго. Ён не ведаў, што робіцца з ім. У душы ў яго пасялілася радасць. Ён танцаваў, выходзіў на двор пакурыць, сядзеў на лавачцы, і ўсюды з ім была гэта радасць. Ён танцаваў і бачыў, што за ім цікуе Вера, і ад яе позірку яму было і ніякавата, і трывожна, і зноў жа —

радасна. Ён не бачыў, калі дзяўчаткі пайшлі з клуба, але яму ўвесь час здавалася, што Вера недзе тут.

«Можа, расказаць Алёшу? — падумаў ён, калі яны недзе пад раніцу ішлі дамоў.— А што я раскажу? Я нічога не ведаю. У мяне няма нічога расказваць...» Але сам ён ведаў, што ў яго нештачка ёсць, хоць расказаць пра тое ён і не ўмее і не змог бы. Яно як кволенькі галасок ручайка пад вясеннім снегам: ён і ёсць, і звініць недзе, пераліваецца, і яго не відно, быццам і няма, а радасць, што ён ёсць, жыве, будзіць душу.

Праз год, восенню, Іван ішоў у армію.

Ехала па пасёлку падвода. На ёй сядзеў Косцік Міхалапаў з гармонікам. Іграў і падпяваў «Паследні нонашні дзянёчак». На падводзе, у саломе, ляжала Іванава торба, у ёй — сухарыкі, абвараная каўбаса і сала. Метраў праз дваццаць ад падводы ішлі Іван, Лёкса, хлопцы, дзяўчаты, суседзі. Ішлі Вавіла і Чатырысорак, і да абодвух іх у Івана не было злосці. Быў жаль, што ён расстаецца з імі. Вавіла цяпер працаваў конюхам, Чатырысорак скончыў курсы трактарыстаў і сеў на ДТ. Ішоў Іван Амяльянавіч, і Івану было прыемна, што ён знайшоў час правесці яго. Бабы плакалі, мужчыны маўчалі, спрабавалі жартаваць. Праводзілі па даўняму звычаю — за пасёлак, Іван развітваўся з усімі, каго бачыў — старымі, маладымі, малымі. І было ў гэтым развітанні нешта да слёз балючае, быццам чалавека адпраўлялі не проста ў армію, а на вайну.

Трывожна было на сэрцы ў Івана, асабліва ад гэтых бабскіх слёз, ад мокрых вачэй, і ад таго невядомага, што чакае яго недзе там, далёка, «у арміі», але і радасць прабівалася ў сэрцы: вось ён ужо, як і ўсе, мужчына і ўсе глядзяць на яго сур'ёзна і прыязна. Было яшчэ адно, у чым ён баяўся прызнацца сабе, а не тое што маці: Іван быў упэўнены, што жыць у Буднеў ён не вернецца.

На Пётравым двары стаяла Клаўдзя. Іван зайшоў развітацца з ёй і ў акне хаты ўбачыў знаёмы дробны твар. Забег.

— Я ў школу не пайшла,— з наіўнай дзіцячай непасрэднасцю сказала яна.— Хацела паглядзець, як ты будзеш ісці...

— Праўда? — перапытаў ён і зірнуў у акно: падвода стаяла за пасёлкам, яго чакалі.

— Ну бывай, Вера! — Іван працягнуў руку. Вера падала сваю — маленькую і чамусьці халодную.

— Шчасліва служыць! — на вачах у яе былі слёзы. Яна глядзела на яго спакойна, удумна, як бы вывучала яго. І дзіўна, ён убачыў у ёй жанчыну, убачыў, што яна глядзіць далей за яго, глыбей за яго. Ён зморшчыўся і, скрыгатнуўшы зубамі, выскачыў на двор. Пабег не ў вароты, а напрамую, цераз грады, правальваючыся нагамі ў мяккую зямлю.

Калі ён з вуліцы яшчэ раз азірнуўся на Пётраву хату, яму падалося, што ў акне ўсё яшчэ бялеўся Верын твар.

Пасля таго Іван не бачыў яе...

## V

Нейкім незразумела светлым застаўся ў Іванавай памяці дзень Раданіцы. А ў гэтым дні — бацька, стрыманы, чыста паголены, маладжавы і строгі.

На ўслоне стаіць кош, сплецены з белай, аблузанай лазы, і ў яго на ручнік маці складвае хлеб, смажаніну, вараныя пафарбаваныя яйкі. Яйкі — гэта Шуру, Іванаваму брацiку, якога Іван не ведае і не бачыў, бо той памёр даўно, у трохгадовым узросце, калі Івана яшчэ не было. Бацька ставіць у кош гарэлку, кладзе нож, лыжкі, шклянкі. Збіраюцца на могілкі, і Івану вельмі хочацца пайсці, але яго не пускаюць. Не пускаюць і Валіка, і Алёшу. Толькі Рэні і Лідзе можна — яны старэйшыя. Іван уяўляе сабе гэтыя могілкі і Шураву магілку. Могілкі — гэта вялізны дом, такі, які быў у пана Карбановіча, пакуль яго не разбурылі,— з калонамі, на многа пакояў. Шурава магілка — гэта як падполле, такі глыбокі, цёмны, прахладны склеп, і там, пасярод, стаіць Шурава труна, і ў ёй ляжыць Шура. Калі да яго прыходзяць, ён садзіцца (зусім уставаць яму чамусьці нельга, а чаму, Іван не ведае), маці і бацька даюць яму гасцінцы — яйкі, салодкія сухарыкі... Ён бярэ іх, есць, гуляе... Ён белы і хваравіты, са спакойнымі сумнымі вачыма, якраз такі, які быў Валік, калі хварэў на панос. Шура рады, што да яго прыйшлі, але і ў гэтай радасці не сыходзіць сум з яго вачэй. Івану здаецца, што сум гэты ад таго, што пайсці са сваімі яму няможна. Чаму няможна? «Бог не пускае»,— кажа маці. Іван ведае, што Бог — гэта стары і строгі дзядзька з акуратнай бародкай і вострым паль-

цам, які заўсёды сварыцца на людзей, якраз такі, як у іх на іконе. «Бог, Бог! — злуецца бацька.— Не слухай яе. Шура памёр, а мёртвыя не ўстаюць і не ходзяць».

«Як гэта не ўставаць і не хадзіць? Ніколі-ніколі! Гэта ж вельмі цяжка — ляжаць і ляжаць!» — думае Іван.

Бацька і маці рассцілаюць каля Шуравай труны абрус, расстаўляюць гарэлку, яду і пачынаюць абедаць. Есць разам з імі і Шура. Там, на могілках, і Іванаў дзед, і Іванава бабка Вулляна. Вулляну Іван ведае, а дзеда не і дзядзьку Герасіма таксама не ведае,— і яны садзяцца ўкруг абруса і ядуць і п'юць разам з усімі. Іван ведае, што і бабе Вулляне, і дзеду, і дзядзьку Герасіму таксама няможна ісці са сваімі з могілак, але яму зусім не шкода іх і таго, што яны застануцца на могілках, калі і бацька, і маці, і Рэня, і Ліда пойдуць... Яму шкода Шуру: вельмі сумна будзе яму заставацца там аднаму, аж да налецця, калі зноў настане Раданіца і ўсе — і мама, і тата, і Рэня, і Ліда, а можа, і ён, Іван, прыйдуць да яго. І сэрца яго сціскаецца ад жалю, і да вачэй падступаюць слёзы...

Іван глядзіць, як маці ўкладвае ў сумку прывезеную ім з Мінска «Сталічную», хлеб, соль, яечкі, варанае мяса, масла, відэльцы, нож, бачыць яе твар — светлы і чысты, і яму добра.

— Трэба ісці,— гаворыць яна нарэшце, завязваючы хустку.

— Ага. Ужо шмат хто пайшоў.

— Калі-калі, а на Раданіцу шмат з'язджаюцца. У кожнага хто-небудзь ды ляжыць тут. Абгародкі парабілі, пафарбавалі, помнікі паставілі. Коля Уладзеў дык мармуровы, чорны паставіў. Кажуць, шэсцьсот рублёў каштаваў...

— Грошы ёсць, чаму ж не паставіць...

— Грошай у яго хапае... І сюды не пашкадаваў. Каб людзі нічога не гаварылі. Сам жа адбіў бацьку вантробы. Каб не адбіў, можа, і помнік не трэба быў бы... І не прызнаваўся нікому стары, што сынок яго папабіваў... Толькі перад смерцю Аўгінні іхняй пажаліўся: «Аўгінка, кажа, ён жа танцаваў на мне. І завошта? Што ўсё валок дамоў... Яму ж валок». І праўда. Ужо на пенсіі быў, і пенсія добрая, мусіць, пяцьдзесят рублёў, а ўсё роўна кожненькі дзень ішоў на работу...

— І што яны не падзялілі? Такі дом, сад, пчолы...

— Што не падзялілі? Уладзік мяшаў сыну... Коля

хацеў прадаць гаспадарку і пераехаць у горад — ён жа шафёр, знайшоў там работу, а стары ні ў якую...

Розумам Іван працівіўся гэтаму звычаю, што да тых, каго ўжо няма і ніколі не будзе, ідуць шумнай вялікай талакой. Ён лічыў, што на могілкі трэба прыходзіць аднаму, каб ніхто і нішто не перашкаджала думкам. Чалавек застаецца сам сабою толькі тады, калі ён адзін. І разам з тым ён любіў Раданіцу, гэтыя калектыўныя памінкі. Гэта было як свята. Людзі цішэлі, лагаднелі, з разуменнем і спагадай глядзелі адзін на аднаго. Здаецца, яны пачыналі бачыць, што ўсе тыя сваркі, якія часам не давалі спакою нармальнаму жыццю, псавалі шмат крыві і нерваў,— нішто ў параўнанні з тым, дзеля чаго яны сабраліся тут, і таму рабіліся ветлівымі, дабрачымі.

Могілкі стаялі недалёка ад сяла. Гэта была невялікая грыва са старых высокіх бяроз, перасыпаная падлескам ельніку. Яшчэ не так даўно гэта грыва злучалася з лесам, правільней, была рогам змрачнаватага сырога ельніку. Ельнік пусцілі пад пілу, выкарчавалі, і цяпер толькі гэты зялёны астравок ды вялізныя земляныя валы, парослыя хмызам, у якіх дагнівала тое, што засталося ад лесу, напаміналі пра нядаўняе мінулае гэтага кавалка зямлі.

Раней, калі могілкі былі рогам лесу, неяк нязвычна было, што могілкі ў лесе, быццам гэта былі не могілкі, а проста кавалак лесу з выпадковымі магіламі, а цяпер было яшчэ больш нязвычна — могілкі стаялі адны сярод голага поля, нібы выстаўляліся напаказ. А можа, яны і не «выстаўляліся», а ўсё гэта толькі здавалася Івану. Відаць, толькі яму, бо маці ішла спакойная, засяроджаная ў сабе, з мяккім, палагаднелым тварам, заўважаючы ўсё, што рабілася вакол.

Па дарозе да могілак — і па логу, цераз канаву, і па пасёлку, укругавую, ішлі людзі — па двое, па трое. Пад самымі могілкамі відаць была цэлая група — чалавек з шэсць. Двое неслі ў руках кашолкі, астатнія ішлі без нічога. Івану падумалася: якраз так ходзяць на хрэсьбіны — са скацеркамі, у якіх завязаны міскі, талеркі... Іван разумеў, што нельга так параўноўваць, там — нараджэнне новага чалавека, услаўленне яго, радасць, а тут — смутак, жаль і слёзы па тых, каго ўжо ніколі не будзе,— і ўсё ж нешта агульнае было ў гэтых дзвюх зусім розных з'яваў.

— Гэта Петрусёвы,— падказала маці, і Іван пачаў углядацца ў далёкія постаці, спрабуючы пазнаць каго. Так нікога і не пазнаў.

У канцы вуліцы сустрэлі Вавілу. Ён спяшаў дамоў, але быў цяпер паголены, з бурачнай ружовасцю на шчоках.

— Ужо ідзяце? — не то спытаў, не то проста так сказаў.— А я ўсё бегаю. Але мы сваё дагонім, Лявонавіч. Даго-о-нім.— Ён усміхнуўся Івану, трасянуў галавою.— Дай закурыць гарадскіх.

Іван дастаў пачак, закурылі.

— Маць тваю... быццам мне болей трэба, чым каму,— мацюкнуўся Вавіла.

Пастаялі. Вавіла ўсміхнуўся:

— Толькі што старшыню сустрэў. «Што, кажа, на могілкі спяшыш? Баішся, каб без цябе ўсю гарэлку не выпілі?» — «Што ты, кажу, Гаўрылавіч. Выпіць я магу і дома ў любы час. А гэта святое месца. Там бацька ляжыць і маці. І нам там ляжаць...» — «Нап'ешся», кажа. Хі-і-ітры, як змей. «Кінь, кажу, Гаўрылавіч... Вып'ю якога стакана, і ўсё. Ці ты мяне не ведаеш?» — «Я цябе, кажа, ведаю. І «кіну». Завалі мне пасяўную — дык так кіну...» Талковы мужык, толькі гэтага не любіць,— Вавіла пстрыкнуў па шыі.— Калі выпіў хоць сто грамаў, у кантору не паказвайся. Выгане.

Вавіла пакруціў галавою, засмяяўся і пайшоў далей, ступаючы шырока і грузна.

— А і праўда, нялёгка яму,— паспачувала маці Вавілу.— Бегае па хатах, як сабака, пакуль назбірае баб. У будзён дзень дык нічога, самі ідуць, а ў такія дні бяда.

Ішлі па пасёлку — было зацішна, спакойна, а завярнулі за крайні двор — адразу нахапіўся вецер, туга хвастануў па тварах, аж у носе зашчыпала і накаціліся на вочы слёзы.

Некалі дарога на могілкі ішла цераз поле, паварочваючы ля крыжа. Была яна роўная, утравянелая, з неглыбокай каляінай ад калёс. А цяпер колькі гадоў трактары заворваюць яе. І кожны раз людзі пратоптваюць наноў, і пачынаецца яна, як і некалі, ад крыжа, цяпер ужо струхлелага, пахіленага набок.

Поле было засеяна жытам. Яно добра бралася кучаравай, быццам вывернуты кажух, шэра-зялёнай воўнай. Усе ішлі напрасткі, пакідаючы сляды на мяккай, плыўкай зямлі. Пайшлі за людзьмі і Іван з маці. Іван не адзін

раз хадзіў па гэтай дарозе, але сёння яму здалося, што яна стала карацейшая. У яго памяці гэта дарога значылася нашмат даўжэйшай. У яго памяці яна засталася такой, як была тады, калі па ёй везлі хаваць бацьку. Іван сядзеў тады на падводзе, у галавах у бацькі, і са страхам пазіраў, як на калдобінах і няроўнасцях бацькава галава ўздрыгвала і сухія, гладка зачэсаныя назад валасы яго рассыпаліся. Іван заўсёды ведаў, што валасы ў бацькі каляныя, быццам з конскага воласу, а цяпер, папраўляючы іх, прыгладжваючы, ён бачыў, што яны зусім не каляныя, а мякенькія-мякенькія, нібы льняныя. Ён ніяк не мог, не хацеў паверыць, што бацька мёртвы. Успамінаў, як бег з сажалкі дамоў і дагнаў цётку Вольгу. Яна плакала і сказала, што на лесапілцы бервяном забіла бацьку. Іван адразу кінуўся на лесапілку. І перад ім нехта бег, і за ім нехта бег. Іван здагадваўся, што адбылося нешта страшнае, але не мог уявіць гэта страшнае, не мог паверыць у тое, што бацьку «забіла». Яго не забіла! Мусіць, трохі стукнула, а людзі падумалі, што забіла, і пусцілі паніку. Як гэта можна «забіць», калі яны ўчора разам лавілі рыбу?

Ля лесапілкі было шмат людзей. Імі былі запруджаны праходы паміж качагаркай і сталом, паміж ваганеткай і гарой апілак, але людзі непрыкметна расступіліся, даючы Івану дарогу. Ён прайшоў паўз стол і ўбачыў маці і Рэню. Яны сядзелі, згорбіўшыся, на доўгім бервяне, прыціскаючы рагі хустак да вуснаў. «А дзе ж бацька?» Іван падышоў бліжэй да маці і тады ўбачыў яго. Ён ляжаў незразумела нерухома, тварам угору, развярнуўшы ў наскох ногі. На адной назе ў чаравіку быў адарваны абцас, і на тым месцы шчэрылі зубы бліскучыя медныя цвічкі. Гэтыя цвічкі больш за ўсё ўразілі Івана. Ён адчуў, як усярэдзіне нешта заныла — сутаргава і дробненька. Ён прысеў каля маці. Нехта, здаецца Павел, расказваў:

«Што вы хочаце... Пілілі ў адну пілу... А пары ён нагнаў дай бог... Пілы разгуляліся, як шалёныя. Яшчэ каб стаяў засцерагальны нож, можа, нічога і не было б. Нож бы не пусціў бруска. А тут брусок як тарканўся ў пілу, яго як хапіла — я якраз пазіраў у акно,— і прама ў грудзі... Лявон стаяў напроці, чакаў. Яго адкінула назад, патыліцай на махавік, а ўжо адтуль — сюды. Я за рычаг, спыніў машыну, выскачыў. Тут Хведар, Мікола. Схапілі яго на рукі, трасём: «Лявон! Лявон!» Ні слова.

Прынеслі вады, пачалі ліць у рот. Я ўзяўся за грудзі, паслухаць сэрца — ці б'ецца, якое там б'ецца — там ніводнай цэлай костачкі. Усё патрушчана. Што вы — такая сіла...»

Гузікі на грудзях у бацькі былі расшпілены. Іван дакрануўся рукой да цела — яно было халоднае. Пад рукой нешта лёгка і суха зашамацела. Як жарства. Гук гэты быў такі нечаканы, што Іван націснуў рукой яшчэ раз і зноў пачуў сухое шамаценне. Ён адзін раз чуў такое шамаценне — калі сустрэў вясной у лесе змяю і яна схавалася ў сухім леташнім лісці... Але і зараз Івану не верылася, што бацька нежывы. Здавалася, ён зараз устане, засмяецца, што-небудзь скажа...

Маці ўзяла Івана за руку:

— Не трэба, сынок, не чапай яго.— І ціха дадала: — Бяжы дамоў. Скажы Лідзе, Алёшу, Валіку. Яны ж нічога не ведаюць. Ох-ха-ха! — Маці схапілася за галаву і запрычытала на ўвесь голас: — А куды ж ты ад нас пайшо-о-оў? А на каго ж ты дзетак сваіх пакіну-у-уў!

Іван устаў. Людзі зноў расступіліся, прапускаючы яго. Была тут ужо і цётка Вольга. І беспрычынна жорсткімі здаліся Івану яе, сказаныя знарок моцна, словы: «Ужэ няма за каго сварыцца, Лёкса, ужэ не скажаш, што Вольга пераманьвае яго. Пераманілі другія...»

...І зараз, ідучы па полі ўслед за людзьмі, там, дзе некалі была дарога, ступаючы дзе ў гатовыя сляды, а дзе ў мяккую слізкую зямлю, Іван зноў падумаў, як блізка ад сяла стаяць могілкі і якой далёкай здавалася дарога да іх тады... Гэтая думка не тое каб азадачыла яго, а неяк здзівіла, пакінуўшы ў душы намёк, пытанне, над якім трэба думаць. І яшчэ ён успомніў: якой глыбокай і страшнай здалася тады яма, у якую апускалі труну з бацькам. Яма была выкапана ля бярозы, у сухім жвіры, і ён струменьчыкамі сцякаў на дно, а з бакоў ямы крывавілі сокам паперасяканыя лапатамі бярозавыя карэнні. Тады Іван упершыню ўбачыў і зразумеў, што ніякіх склепоў, у якіх ляжаць «жывыя» нябожчыкі, на могілках няма. Людзей проста закапваюць у зямлю! І ніколі яны не ўстануць!

...На могілках было ціха і сыравата. Пахла леташнім лісцем і свежым жвірам: учора і сёння аглядалі магілкі, абкладвалі дзёрнам, пасыпалі свежым пяском, і ён не паспеў яшчэ высахнуць. За ствыламі дрэў, каля абгаро-

дак, відаць былі людзі. Адны стаялі групкамі па некалькі чалавек, ціха і дзелавіта пра нешта гаварылі, другія хадзілі, спыняючыся каля той ці іншай магілкі. Ні на адным твары Іван не бачыў слядоў жальбы ці гора. Быццам усе сабраліся на работу — сур'ёзную, сумнаватую, урачыстую, але звычайную, патрэбную работу. І, мусіць, з-за гэтай сур'ёзнасці і ўрачыстасці гаварылі ўпаўголаса.

Маці ішла наперадзе, Іван — за ёй, асцярожна выбіраючы месца, каб не наступаць на невысокенькія, жоўташэрыя гурбячкі з урослымі ў зямлю плоскімі камянямі-помнікамі,— тое, што засталося ад нечых даўніх магіл. Маці ўсім давала «дзіндобры», Іван з кім здароўкаўся кіўком галавы, з кім — за руку. Тады і маці прыпынялася, слухала гэту нядоўгую і вядомую ёй гаворку: «Дзе ты, як ты, што ты...»

Сустрэлі ўчорашніх Іванавых спадарожнікаў — Ігара і Лёню. Перад тым як ісці на могілкі, хлопцы трохі клюнулі і былі ў вясёлым настроі.

— Прыходзь, стары, вечарам у клуб. Патанцуем,— запрасіў Івана Лёня. Былі ў яго нізкія, але прыгожыя чорныя бакі і лёгкая, нейкая паветраная і разам з тым нахабная летуценнасць у вачах. На могілкі ён ухітрыўся прайсці, мусіць, ні разу не ступіўшы ў гразь, бо чаравікі яго блішчалі, быццам ён толькі што іх наглянцаваў.

«Не ўсякая дзяўчына ўстаіць перад такім кавалерам»,— з захапленнем падумаў Іван і сказаў:

— Пабачым. Відаць, прыйду.

Іван успомніў сённяшнюю дарогу са станцыі, Лёневу пахвальбу, яго намёкі пра Веру і зноў пачуў непрыемны халадок у сэрцы...

— Прыходзь,— сур'ёзна і ціха сказаў Ігар, і Івану чамусьці падумалася, што з гэтым хлопцам некаму будзе проста і лёгка жыць.

Вось і бацькава магіла — за праставатай чорнай абгародкай. Шырокая, як стол, задзірванелая з бакоў. У галавах — шэры, закруглены ўгары камень, на ім знаёмыя словы, абсыпаныя дзе-нідзе зеленаватымі кропачкамі моху.

Ой, лясы, вы не шуміце,
Майго мужа не будзіце,
Бо ён спіць вечным сном
Ва векі вякоў.

Гэта былі матчыны словы. Яна захацела, каб іх высеклі на камені.

«...ён спіць вечным сном...» Іван спыніўся ля абгародкі, узяўся за вострыя пікі жалезных прантоў. Маці прыходзіла сюды ўчора. Пасыпала свежым пяском магілы. І Шураву, і дзедаву — яны трохі далей, за абгародкай. На дзедавай — абымшэлы дубовы крыж — ён стаіць ужо болей чым пяцьдзесят гадоў. На Шуравай, за крыжам — елка, непрыгожая, гузаватая ў камлі...

У гэтым кутку могілак ляжалі ўсе Купцы. Дзяды і прадзеды, дзядзькі і цёткі, бацькі і дзеці... І маці загадала, каб абгародку зрабілі большую, каб у ёй было месца і для магілы ёй, маці.

Да абгародкі падышоў дзядзька Мікіта — адзіны жывы з чатырох бацькавых братоў. На могілкі дзядзька Мікіта прыйшоў адзін — жонцы нешта нездаровілася. Меў дзядзька самавіты выгляд — чыста паголены, разважны, у новым ваенным фрэнчы і хромавых ботах. Звычайна жонка баялася адпускаць яго далёка ад сябе — ведала порсткасць дзядзькі да чаркі. А ён злаваўся, чуючы на сабе гэты неспакойны кантроль. Сёння ж ён адчуваў сябе свабодна, падкрэслена салідна.

Пазней падышлі Надзя, Іванава сяструха — бацька яе, самы старэйшы з Купцоў, памёр у вайну; і цётка Грыпіна з мужыком, Лёшкам ці проста Лёхам — вясёлым і пакладзістым зубаскалам. Лёха быў яе другі мужык. Першага, Мішу, забілі немцы, калі ён, дзядзька Мікіта і яшчэ некалькі буднёўцаў уцякалі з канцлагера з Магілёва. І хоць з Лёхам цётка Грыпіна сышлася недзе адразу пасля вайны, старой радні яна не цуралася. У Лёхі быў звычай да ўсіх, хто прыязджаў з горада — старэйшы ён за яго, раўня яму ці нашмат маладзейшы, звяртацца на «вы». Спачатку Івану было надта не па сабе чуць «вы» ад чалавека, які ўдвая старэйшы за цябе, а пасля прывык, ды з Лёхам і нічога нельга было зрабіць...

— Ну, капшук яшчэ не паспеў адгадаваць? — падкацілася Надзя са сваімі смешкамі. Ківае на Іванаў жывот.

— Не паспеў.

— Спяшайся, а то і састарышся без жывата. Я другі раз гляджу і дзіву даюся, адкуль што ў людзей бярэцца? Яму яшчэ і трыццаці няма, а ўжо ружовенькі, гладзенькі, як той парсючок, і спераду быццам падушачка падвязана. І як такога жонка любіць?

— Быццам жонкі за жывот любяць? — адказаў за Івана Лёха.

— Не смейся. Сам вунь таксама пухнуць пачынаеш...

— Жонка добра корміць... І скажу яшчэ, яна гаворыць, што з мяккім ямчэй спаць, чым з сухім. Праўда, Грыпа?

— Адчапіся, знайшоў пра што гараваць.

— Адзін прыехаў? — гэта зноў Надзя, і вочы жыва бліскаюць, смяюцца.

— А з кім яшчэ?

— Думала, мо жаніха мне прывёз.

— Не меў заяўкі, а то мог бы і прывезці...

— Няўжо?!

Язык Надзя мела востры, і яго пабойваліся нават мужчыны: у гаворцы для яе ніколі не было нічога забароненага. Гадоў яна мела пад трыццаць пяць, жыла разам са старой маці. Некалькі разоў збіралася замуж, і кожны раз у самы апошні момант жаніхі білі ў хамут. Тлумачылі гэта проста: адна нага ў Надзі была карацей за другую, і гэта калецтва, збоку нават і непрыкметнае, адпужвала мужыкоў. І калі раней і пра сябе, пра неўладкаванасць свайго лёсу Надзя гаварыла лёгка і весела, а можа, хацела паказаць, што ёй весела, то сёння ў яе голасе Іван улавіў трывожную нацяжку.

— Мне б якога-небудзь заваляшчага, Іван.

— Каб хаця дроў насек, а?

— Дровы я прывыкла сама секчы, але хай бы насек. І каб зімой у грубцы прапаліў, і каб, прыйшоўшы з фермы, было ля каго пагрэцца. А то прыбяжыш ад кароў і ў халодную пасцель, як у магілу — бр-р-р, страшна. Дык знойдзеш? — Яна пазірала на Івана і смяялася.

— Знойдзем. Гэта каб у наш век ды не знайсці нейкага аднаго хлопца?

— І я так думаю. Людзі вунь на Месяц лётаюць, як яе, на Венеру збіраюцца, а тут бабе аднаго мужыка. Неабавязкова хлопца. Скажы, хай не баіцца, я яго любіць буду.

Іван падумаў пра тое, што Надзі, мусіць, зусім не смешна. Не, не смешна, калі так упарта гаворыць пра адно.

Успомніў, як учора адпрошваўся ў Васіля Васільевіча і як той адразу зморшчыўся, але ўсё ж адпусціў: «Едзь, толькі помні, што ў той панядзелак з брыгадай павінен

быць у Гродна», як ехаў дамоў, перапоўнены рознымі пачуццямі, і галоўнае над усім была радасць. Радасць ад свайго здароўя і сілы, ад таго, што ён скора будзе дома і ўбачыць маці і яна будзе рада яму, а зараз ён адчуў, што той радасці ўжо яму мала. Яму стала нечага не хапаць, нечага яму бракуе.

— Дзе садзіцца будзем? — спытаў Лёха ў Іванавай маці. Яна тут была старэйшая. Як яна скажа, так і будзе. І яна сказала тое, што гаварыла не адзін раз:

— На Лявонавай магіле. Толькі рана яшчэ, ніхто не пачынае.

І праўда, усе нібы нечага чакалі — снавалі туды-сюды, перапытвалі, дзе хто ляжыць — пад сівымі цёмнымі крыжамі, пад урослымі ў зямлю камянямі. Іван сказаў маці, што скора вернецца, і яны з Лёхам пайшлі. Прадзіраліся праз кусты і малады ельнік, чыталі надпісы, і Іван дзівіўся: шмат людзей, якіх ён ведаў, ляжыць ужо тут. Пра многіх ён ужо і забыў і толькі цяпер, убачыўшы магілу, успамінаў, што яны былі, прыпамінаў іх твары, паходку, гаворку,— і ні смутку, ні жалю не адчуваў, быццам усе яны былі жывыя, здаровыя, як ён іх некалі ведаў, і быццам кожнага з іх можна зараз сустрэць, і нічога нечаканага і страшнага ў гэтым не будзе.

Адыходзячы з Лёхам ад сваіх, Іван меў намер паглядзець, ці прыехала Вера, і таму рабіў паўкруг так, каб выйсці да Пётравай магілы. Неўзабаве ён убачыў драўляную, пафарбаваную ў сіняе, абгародку і ля яе Клаўдзю і Веру. Так, з Клаўдзяй была Вера. Іван пазнаў яе, хоць яна і стаяла да іх бокам.

Першая ўбачыла Івана Клаўдзя, сказала Веры. Яна павярнулася, чакаючы, калі Іван падыдзе. Яна і змянілася і як быццам зусім не змянілася. Вырасла, памажнела, а твар, вочы — тыя. Усміхнулася аднымі губамі — азначыліся, стрэлкамі пырснулі маршчынкі ад куточкаў рота,— працягнула руку.

«Змянілася,— мільганула ўпартая думка. Сэрца яго білася неспакойна. Светла-каштанавыя валасы. Дзве пасмачкі аддзяліліся, перакрэслілі край ілба.— Змянілася і ўзрадавалася...» Для яго яна была тая ж Вера, што глядзела на яго знізу ўгору, калі ён забег да іх, адыходзячы ў армію. Для яго. А яна схамянулася, вочы пацямнелі — і быццам яе ўжо не было тут, быццам яна была недзе далёка-далёка, у сваім, не вядомым Івану свеце.

Яны з Клаўдзяй чакалі Міцю. Ён выправіў іх папе-радзе, сказаў, што ідзе следам. Яны цеперся тут, а яго ўсё няма. Клаўдзя з Лёхам загаварылі між сабой, непрыкметна адышліся.

— Дзе ты зараз, у Мінску? — спытала Вера са сваёй далечыні.

— У Мінску...

— Надоўга прыехаў?

— Заўтра еду... А ты?

— Не ведаю...— Яна паўтарыла цішэй, ужо для сябе: — Не ведаю...

— У Салігорску? — механічна спытаў Іван.

— У Салігорску...— голас посны, бясстрасны.

— Паехалі заўтра разам... цераз Мінск...— Іван сказаў гэта цвёрда, нават грубавата.

— Не ведаю...— ускінула вачыма, быццам цяпер толькі ўбачыла яго і быццам спусцілася на зямлю.— Нешта Міці доўга няма. То ўсё нас падганяў, а зараз сам...

Як усё роўна некалі: «Якая адлегласць ад горада А да горада Б?» — «Не ведаю».

— Што-небудзь другое, акрамя «не ведаю», умееш?

— Умею...

— Я буду чакаць цябе вечарам у клубе...

— У клубе?— перапытала яна.— Добра, прыйду,— трасянула галавой і адкрыта, радасна, як збавенне: — А вунь і Міця... Рот да вушэй. Рады, што цябе ўбачыў...

— Ён такі, як і быў...

— Усе такія. Чалавек родзіцца адзін раз.

— Родзіцца адзін раз, а перарадзіцца можа дзесяць разоў.

— Не веру. Чалавек родзіцца адзін раз.

З Міцем пaздароўкаліся, быццам не бачыліся ўсяго дзень ці два.

— Я-то ўжо думаў, што ў цябе зуб новы вырас. Уставіў бы, ці што, ходзіш шчарбаты,— падкалоў ён Івана, намякаючы на той далёкі вечар.

— Няма куды спяшацца. Чакаю, калі ў цябе шрам з носа сыдзе.

— Тады прыходзь вечарам. У «дурня», а? — загарэўся Міця.

— Надумаў у «дурня»,— перабіла яго Клаўдзя.— А Доўгі Лог?

— Заўтра паедзем,— махнуў Міця рукой.

— Дорага лыжка к абеду. Трэба памагчы бульбу пасадзіць.

— Ладна, не плач,— зморшчыўся Міця.— Цётка дык цётка... Знацца, Лявонавіч, перанясём на другі раз...

— Перанясём,— адказаў Іван.— І ты едзеш? — спытаў у Веры.

Яна маўчала, пазірала на Клаўдзю.

— Чаго яна паедзе? — ускінула плячыма Клаўдзя.— Ці там работніц не будзе?..

— Ды і дома некаму астацца трэба: і хата тут, і карова,— уставіў сваё слова Лёха.

— І сабака,— дадаў Міця.

— Добра, добра,— усміхнулася Вера.— Будуць цэлыя і хата, і карова, і сабака.— Івану падалося, што гаварыла яна гэта не без радасці.

Усе на момант прыціхлі, думаючы кожны аб сваім, і ў гэты час адчайны жаночы голас зазвінеў на могілках, нажом паласнуў па сэрцах:

— А божа ж, мой бо-о-о-о-жа!

А што ж ты нарабі-і-іў!

А куды ж ты яго забра-а-а-аў?..

А нашто ж ты мяне адну пакі-ну-у-уў!!!

Іван пазнаў голас. Гэта была Марыля. Месяц назад яна пахавала адзінае сваё дзіця — дзесяцігадовага сына. Пайшоў хлопец на сажалку і не вярнуўся дамоў. Як яно там было, ніхто не бачыў, вылавілі ўжо мёртвага...

Усе, хто дзе стаяў, так і засталіся стаяць. Твары ў людзей застылі, быццам акамянелі. Іван адчуваў, як на яго пачынае ціснуць гэты голас, у галаве пачало звінець, быццам хто ў чатыры рукі няспынна лупіў молатам па кавадле. Здавалася, яшчэ трохі — і чэрап рассыплецца ад гэтага нясцерпнага звону.

Але ў гэты час Марыля перастала галасіць. Заўздыхала, завохкала — ох-ха-ха! — і раптам пачала дзелавіта рассцілаць на свежай яшчэ магіле абрус. Вочы яе былі зусім сухія, свяціліся цьмяным металічным бляскам.

І на могілках раптам ажывіліся, заспяшаліся ля разасланых абрусоў.

Пайшлі да сваіх і Іван з Лёхам.

— Нічога не разумею. Здаецца, усе чакалі, пакуль Марыля загалосіць? — спытаў Іван у Лёхі.

— Яно так і ёсць,— адказаў той.— Як вам лепей расказаць... Некалі на могілках царква была, і за магілкі садзіліся пасля таго, як выйдзе бацюшка, прачытае малітву. Ні царквы, ні бацюшкі даўно няма. І павялося так: за магілкі садзяцца тады, калі сядзе чалавек, у якога самая вялікая і свежая рана...

## VI

Іх ужо чакалі. На разасланым абрусе стаялі гарэлка, віно, закуска, ля каменя ляжалі два чырвона-рудыя, фарбаваныя ў цыбулляй лусцэ яйкі...

Нешта пярэчлівае і непрыемнае закіпела ў Івана ў грудзях яшчэ раней, калі ішлі ад Пётравай магілы. Надта ж ужо ўсе заспяшаліся да сваіх «сталоў», быццам згаладаліся, быццам баяліся спазніцца, і ўсё тое, што было ў людзях дагэтуль,— і сур'ёзнасць, з якой вяліся гаворкі, і прыцішанасць галасоў, і святочная ўрачыстасць, падаліся Івану паказнымі, несапраўднымі. Іван ведаў, што гэта не так, але ведаў і тое, што святасць, з якой ён ішоў сюды, тое «самае-самае», што жыло ў ім, у яго сэрцы, захісталася, як дрэва, у камель якога некалькі разоў упілася сякера. Ён зірнуў на маці — яна была ціхая, засяроджаная ў сабе, і нейкую лагоднасць і святасць распраменьваў яе спакойны твар. Яна дзелавіта расстаўляла па краі абруса чаркі, раскладвала відэльцы, нажы, накроены хлеб, быццам рабіла надта важную работу, якую акрамя яе ніхто не мог, не меў права рабіць. Іван ніколі не бачыў яе такой урачыстай і засаромеўся самога сябе, сваіх нядаўніх думак. Ён бачыў, што маці прыемна адчуваць сябе гаспадыняй, спакойнай, упэўненай.

— Ну, хопіць табе калдаваць,— нецярпліва пацягнуў носам Мікіта.— Глядзі, усе паселі ўжо...

— Паспееш і ты,— адказала Лёкса, ледзь варухнуўшы сухімі губамі. У яе нетаропкіх рухах і ў той паслядоўнасці і парадку, з якімі яна ўсё рабіла, Іван улавіў яшчэ адно: так акуратна, паслядоўна і нетаропка некалі любіў сустракаць гасцей бацька. Зараз усё гэта як перайшло да маці.

Яна аблупіла яйкі, парэзала на кавалачкі — разнесла па ўсіх магілах. Наліла ў шклянку трошкі гарэлкі, лінула ля бацькавага каменя — на жоўты сухі пясок.

— Хай і яму трошкі будзе,— сказала ціха і сумна, і

голас яе дрогнуў. Перадала бутэльку Мікіту.— Разлівай,— загадала нецярпліва, быццам незадаволеная.

Мікіта наліў чаркі, узняў сваю.

— Ну, будзь, Лявон! І не крыўдуй, што мы п'ём.

— Зараз яму толькі і засталося, што крыўдаваць! — сказала маці.

Усе выпілі спяшаючыся і гэтак жа спяшаючыся пацягнуліся рукамі да закускі.

Кругом — з-за кустоў здзічэлага бэзу і маліннікў, з-за камлёў дрэў — чуліся галасы. Былі яны не моцныя, яшчэ прытушаныя, але людзі не саромеліся гаварыць. Не маўчалі і тут, за Лявонавай магілай.

— Калі гэта яго забіла? — не то спытаў, не то проста так, каб не маўчаць, сказаў Лёха, не перастаючы жаваць.— Ужо, мусіць, ля дваццаці?

— Дваццаць гадоў, як лёду,— адказала Лёкса.

— Дваццаць гадоў... А здэцца, было саўсім-саўсім нядаўна,— падгарнула свой галасок Грыпіна.

— Калі падумаеш, дык нядаўна, а калі ўсё ўспомніш, то так даўно, што і памяці не хапае трымаць калі... Быццам не адно жыццё пражыла на зямлі, а столькі, што на ўвесь свет стане...

— Ты заўсёды плакалася, прыбядзнялася, яксьці табе было горай, чым каму,— не ўтрываў Мікіта, быццам Лёксіны словы зачапілі і яго. Выпітая чарка ўжо дала чырванню яму ў шчокі, ён пачаў часцей міргаць.

— Ніколі я не прыбядзнялася,— адказала Лёкса.— Як было, так і добра было. Ведала, калі сама не зраблю, ніхто не зробіць. І дзеці гэта ведалі. А цяпер і падаўна няма чаго прыбядняцца. А што было плакала, дык дзе ты бачыў бабу без слёз...

— Не, Мікіта, не кажы. Застацца без гаспадара з пяцярмі. І ўсе, як боб, адно пад адно. І выгадаваць іх, вывучыць, пуцём пусціць. Не-е-е, не кажы,— заступілася за Лёксу Грыпіна.— Вы ўдваіх з жонкай, і ты мужчына — і сам усё зробіш і ўсюды даб'ешся, а трэба — дык і на глотку наступіш, і дзяцей у вас толькі двое, а як вам, лёгка было?.. А, лёгка?

— Як усё роўна я кажу, што ёй было лёгка. Ведама, што нялёгка. Але ж не трэба грашыць, не трэба забываць і пра тое, што тады ніхто надта не раскашаваўся. Не трэба забываць і пра калгас. Памагаў, чым мог. Усё ж, як ні кажы, а кожны месяц выдзяляў... Калі жыта, калі

бульбіну... А я... Я свайго не ўпушчу і ўпускаць не хачу... зарабіў — аддай, будзь добры... А не аддасі — сам вазьму...

— Гэта праўда... Ты ўсё можаш,— кіўнула Лёкса.— А мне? Каб не помач, дык бяры кій у рукі ды ідзі па людзях. Дык жа ж ніхто да гэтага не дапусціў. А тут дзеці, пяць ратоў. Хачу есці — і ўсё тут. Па лыжцы — дык пяць лыжак. Сябе я ўжо не бяру...

— І не толькі не дапусціў,— працягваў Мікіта,— а і школу ўсе паканчалі, і паўстройваліся. Алёша ў мараходным вучыўся і, каб не кінуў, быў бы, можа, капітанам, а ў Івана як сядзіць галава на плячах — і інстытут кончыў. Калі б гэта можна было? Я гэта добра ведаю... Мы таксама гадаваліся без бацькі. Сямёра нас было... І шмат нам хто памог?.. Пан памог? Ага, паможа...

— Каб не людзі, не ведаю, што б я тады рабіла... А цяпер...— Лёкса зірнула на сына, усміхнулася.— Цяпер не бяды... Зайшоў сёння раніцай Пухцік. Іван яшчэ спаў. Кажа, чаму мне не сказала, што ён прыедзе. Можна было б падводу паслаць... А Івана іначай як Лявонавічам і не называе.

— Быў Ясёк, а стаў Іван Лявонавіч. Нідзе не дзенешся. А тут і Ноначка паспела, аж пішчыць — замуж хоча,— засмяялася Надзя.

— Перастаньце,— перабіў Надзю Іван. Яму было непрыемна слухаць такое і пра Нону, і пра сябе.— Нона — дзяўка як дзяўка, і не ведаю, чаму яна табе не падабаецца?

— І я ж кажу, Надзя, перастань,— падаў свой густы голас Лёха.— А то ты яшчэ болей скажаш...

— А хіба я няпраўду сказала? — здзівілася Надзя.— Ты, Іван, вазьміся за Нону... Дзяўка яна і праўда ласістая... Хай Вавіла патрасе панчоху...

— Ну во, а я што гаварыў? — развёў рукамі Лёха, з сабачай адданасцю пазіраючы на Івана. Надзя смяялася.

Гаворка ішла сваім кругам. Дзядзька Мікіта не забываў пра гарэлку, і бутэлькі паволі пусцелі, і па меры таго як яны пусцелі, званчэлі галасы, і тое змрочнае, што тояць у сабе могілкі і што прыгнечана кладзецца на людзей, сплывала, як сплывае з ракі ранішні туман ад подыху ветру. Людзі сядзелі ўкруг магіл, гаманілі — пра тое, што было ў іх жыцці сёння ці будзе заўтра. Людзі быццам забыліся, дзе яны. Быццам яны былі не

на могілках, а дома і быццам сабраліся не на Раданіцу, а на звычайную бяседу. У гэтым была нейкая свая вялікая мудрасць, свая жыццёвая праўда, і гэта падабалася Івану.

Успомніўся бацька, словы, якія ён часта гаварыў: «Як памру, прыходзьце да мае магілы».

Ні пра якую смерць, вядома, ён тады не думаў, а калі і гаварыў пра яе, то гаварыў жартам. Гэта была як гульня кошкі з мышшу. Ён — кошка, смерць — мыш. Іван цяпер ведаў, што ішло гэта ад здароўя, ад радасці жыцця. Хто баіцца смерці, той баіцца і ўспамінаць пра яе, баіцца дражніць яе. Сур'ёзна чакаць смерці можа толькі той, каму ўжо няма чаго рабіць на зямлі. А бацьку было што рабіць. Канешне, тут ён хітраваў. Гаворачы так, ён хітраваў і ў другім, і гэта, відаць, было больш сур'ёзна. Бацька хацеў абхітрыць людзей — тых, што будуць жыць пасля яго. Яму хацелася жыць і тады, калі ўсе будуць ведаць, што яго няма. Ён быў жадны на жыццё. Ён гаварыў: «Трэба спяшыць жыць, а не — дык і нашто жыць». Ён ведаў: раз прыйдуць на яго магілу, то ўспомняць яго. А раз успомняць — значыць, ён жыве.

Так думаў Іван, слухаючы і не слухаючы ўсё, што гаварылася. Былі тут яго думкі, якія ён выдаваў за бацькавы, былі бацькавы, якія ён лічыў сваімі.

— І Агеіха прыехала на могілкі... З Томай... Старая ўжо стала, нездароўчая. А такая баба была,— дайшоў да яго голас Грыпіны.

— Радзі і выгадуй, як яна, дзесяцярых, пагдядзім, якая будзеш,— падкалоў яе Мікіта.

— Што ты, дзесяцярых... Крый божа...

— Нічога, Лёха справіцца,— Мікіта паляпаў Лёху па шырокіх плячах. Той разявіў рот, заўсміхаўся.

— Ну і трапло ж ты,— нязлосна папракнула яго Лёкса.— І старэе, а на язык ніякага ўдзержу няма. Не глядзіць, ні дзе, ні што...

— Чалавек старэе — язык у отмаладзь ідзе,— заўсміхаўся, душачыся словамі, Мікіта.— Лявон таксама ніколі не сцясняўся...

— Байду сустрэлі... Ходзіць па могілках,— успомніла Надзя.

— Ага...— падхапіла Грыпіна.— Добранькі, акуратненькі... Здароваецца з усімі. Нікому вока не запарушыць...

— Не запарушыць,— ускінулася Надзя.— Пяр-

сцёнак з пальцам здыме і будзе даказваць, што так было...

— Ай, які пярсцёнак!.. Калі там што было з той паліцыяй і ці было яно... Чалавек, можа, паміраць на сваю зямлю прыехаў, а вы на яго, як на ваўка,— запярэчыў Лёха.

— Ты лепей памаўчаў бы...— зіркнула на яго Грыпіна, і Лёха змоўк, стуліўся, быццам паменшаў ростам.— Я як убачу яго, дык заўсёды ўспамінаю пачатак вайны... Як прыехалі немцы і ўсіх мужчын, хто застаўся, сабралі ля кузні, выстраілі... Ён ужо тады ў паліцыі быў. Круціўся ля перакладчыка... Ён і Мішу майму памог на машыну ўзлезці...

— Мяне ён таксама на машыну падсадзіў. Кажа: усіх вас адпусцяць, толькі на работу звозяць. Адпусцілі! — Мікіта скалануў галавой, сціснуў зубы...— Спачатку вывезлі ў Бярэзань, а адтуль — прама ў Магілёў, у лагер... Не-е-е... Калі б я яго сустрэў дзе ў вайну, ды і адразу пасля вайны,— забіў бы, і нічога са мной не зрабілі б. А зараз... Адседзеў дваццаць год, вярнуўся, шлындаецца...

— Судзілі ж...— ціха сказала Лёкса.— Неяк выкруціўся. Сумеў даказаць, што сам нікога не забіваў...

— Тады б я яго пусціў у расход,— паўтарыў, размахваючы рукамі, Мікіта.— А што з яго возьмеш зараз?.. Хай поўзае...

Іван слухаў гэтую гаворку — то роўную, лагічную, то зусім непаслядоўную, нечаканую ў сваёй непаслядоўнасці, але зразумелую і блізкую яму, і хоць сам рэдка калі ўстраваў у яе, адчуваў сябе добра. Яму было вядома ўсё, пра што гаварылі тут, ён быў тут свой і ведаў, што навечна прывязаны да гэтых людзей, да ўсяго, што хвалюе і непакоіць іх, да гэтых старых могілак... Гэта была яго зямля, было яго жыццё, гэта быў ён сам...

А за «сталом» жыццё ішло далей.

— Я, як буду паміраць, папрашу, каб пахавалі ля халасцяка...— гэта Надзя, і рот, і зубы прыадкрыты ва ўсмешцы.

— А можа, ля жанатага? — перапытала Грыпіна.

— Ану іх, жанацікаў гэтых... Ім і там дзеці спакою не дадуць...

— Ну, дзеці цябе, мусіць, не надта займаюць,— за-

матала галавой Грыпіна.— Не баішся ты Бога, дзеўка... У яго ж іх трое, жонка...

— Не трэба, цётка Грыпіна, шукаць святых. Трэба самой быць святой.— Надзя ўсё яшчэ жартавала, але шчокі ўжо заружавеліся ад злосці.

— Не, Надзечка, не кажы. Дзеці ёсць дзеці. Дзецям трэба бацька...

— Дзеці... Якія гэта дзеці? Самаму меншаму пятнаццаць гадоў... І чаго вы да мяне прысталі?.. А можа, у нас любоў? — закрычала Надзя.

— Ты спытай у Лёксы, ці лёгка было ёй адной без мужыка...

— Што я буду пытацца? Я сама ведаю...— ціха сказала Надзя і прыўзняла галаву, пераводзячы вочы з твару на твар.— А мне што рабіць? Вы пра гэта думалі? Што рабіць мне? — голас яе нечакана задрыжаў, здавалася, яна зараз заплача. Але не заплакала. Аціхла, склаўшы рукі на каленях, збеднілася.

— Ты хочаш украсці чужое шчасце...— падціснула губы Грыпіна і зірнула на Івана: я правільна сказала? Іван са спачуваннем паглядзеў на Надзю: як тая вытрывае. Яна, як уколатая, матнула галавой, выпрасталася:

— Чаму ўкрасці і чаму чужое? Я хачу сваё ўзяць, сваё... Хіба мне не палажана шчасце?.. Можа, яна ў мяне яго ўкрала, а? Можа, усе вы ўкралі яго? Хіба я вінавата, што ў мяне яго не было? А цяпер яно паявілася — малюсенькае-малюсенькае,— і зноў я вінавата. Другіх судзіць лёгка, цяжэй сябе асудзіць. Вам, цётка Грыпа, можна гаварыць. Вы калі б ні прыйшлі дамоў, ведаеце, што там усё ў парадку. Лёха ўсё зробіць. Толькі галодны ведае, які смачны хлеб. Вот вы кажаце: «грэх». «Граху не баішся»... А вы, вы граху баіцёся?.. Вы, цётка Грыпа? Вы хоць раз былі на Мішавай магіле, хоць ведаеце, дзе ён ляжыць? Ваш першы мужык, дзядзька Міша... Вы сёння ўспаміналі яго... Ён жа з Магілёва, з лагера ўцякаў дамоў... Да вас бег... І калі б па дарозе не забілі, прыбег бы. Дык вы хоць раз пабывалі на тым месцы, дзе ён уздыхнуў апошні раз? Можа, вас успамінаючы, уздыхнуў... Не бойцеся, Лёха пасля гэтага не кінуў бы вас, а можа, і болей любіць стаў бы... Бо на месцы Мішы мог быць Лёха... А вы кажаце «граху»...

Цяпер Іван са страхам глядзеў на твар цёткі Грыпіны,

як ён з чырвонага стаў шэрым, потым пачаў бялець. Губы ў яе жаласна затрэсліся, вочы заміргалі.

— Ты Мішу не чапай. Чуеш, не чапай... Ён у мяне во тут сядзіць...— і яна тарканула рукой на грудзі, туды, дзе павінна быць сэрца. І заплакала, засмаркалася ў хусцінку.— Ён мне і цяпер сніцца. Часта сніцца. І ты на мяне не пазірай так, быццам першы раз бачыш. Не пазірай,— гэта ўжо на Лёху, і той заёрзаў, замармытаў: «Я што, я нічога не маю...» — і зноў, ужо праз слёзы, усім: — Я сёлета з'езджу, вазьму і з'езджу...

— Сціхніце. Што гэта вы разышліся? Людзі ж кругом,— не вытрымала Лёкса. Ёй было шкода Надзю, яна разумела яе, як сябе, і гэтую яе любоў да немаладога ўжо, сямейнага мужчыны. Але ж і Грыпіна гаварыла праўду. Яна-то заўсёды любіць павучаць другіх, але тут... Усё ж бацька траіх дзяцей... Дзе тут тая адзіная праўда, адзіны выхад... І яна накінулася на Мікіту, які ўжо добра-такі асалавеў: — І ты маўчыш. Разліваў бы ўжо, ці што...

— Гэта мы можам,— расплыўся той у салодкай усмешцы.— Каб што другое, а гарэлку мы ўраз...

— Гэта нам як піць даць,— загаварыў і Лёха. Ён рады быў, што сварка паміж жонкай і Надзяй скончылася, і зараз стараўся загладзіць усё, быццам тут нічога і не адбылося, і падсоўваў ім то адной, то другой бляшанку з рыбнымі кансервамі, сыр, масла... Але абедзве жанчыны маўчалі, абедзве былі натапыраныя, расхваляваныя.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З могілак ішлі ціха. Паперадзе — Лёха з Мікітам. Мікіту трохі вадзіла ў бакі, ён часта міргаў, хапаў Лёху за руку — расказваў пра вайну. Зараз ён успамінаў пра Зеелаў. Іван ведаў: калі дзядзька Мікіта пачынае ўспамінаць пра Зеелаўскія вышыні, дзе яму пашчапала абедзве нагі, то «да кандыцыі» яму не хапае ўсяго якіх грамаў сто. Дайшоўшы «да кандыцыі», ён спакойненька клаўся спаць.

За Лёхам і Мікітам ішлі Лёкса з Грыпінай. У Грыпіны быў посны пакрыўджаны твар, губы — зашморгнуты вузялком. Яна не азіралася назад, на Івана з Надзяй, але па напружанай спіне яе і высока ўзнятай галаве было відно, што яна стараецца паказаць, быццам ёй напляваць на тое, што ўскінула ёй на вочы Надзя. Потым яна пачала

нешта хуценька гаварыць Лёксе, час ад часу паварочваючы галаву назад, калола Надзю вачыма. Лёкса моўчкі слухала яе, але твар у самой быў задумёны — далёкі ад усяго таго, што нагаворвала ёй Грыпіна. Яна нагнулася, узяла ў руку прытаптаны нагамі корчык жыта — камячок чорнай зямлі з прымарожанымі жоўта-зялёнымі стрэлкамі і доўгімі белымі ніткамі карэньчыкаў. Камячок гэты нечым нагадваў кураня, якое толькі што паспела вылупіцца з яйка, з пакамечанымі крыльцамі і мокрай поўсцю, з кавалачкамі прыліплай шкарлупкі.

— Добра бярэцца,— сказала Лёкса, не зважаючы на Грыпініну траскатню, і тая зноў натапырылася, прымкнула губы.

Надзя ішла, пазіраючы сабе над ногі. Грыпініны словы зачапілі яе за балючае, і гэта не першы раз рэзалі ёй па жывому. Але страшней за Грыпініны словы было тое, што яна сама не ведала, як ёй быць. Калі б яна была ўпэўнена ў сваёй праваце! Калі б... Яна б і слухаць не стала нікога. Яна шукала падтрымкі, ёй так трэба была гэта падтрымка, не спагада, што ёй тая спагада! Не трэба ёй ні гэта шкадаванне, ні вінаватыя вочы. Нямала наслухалася і наглядзелася ўсяго. Няўжо яна робіць нешта такое, на што не мае права? Чаму не мае права? І хто дае гэта права? Грыпіне добра гаварыць... Гладкая, як цялушка, шчокі і тыя гараць, як у дзеўкі. Не скажаш, што бабе за сорак пяць... І Лёкса... Столькі сама нацярпелася, пакуль дзяцей вывела ў свет... Паспачуваць паспачувае...

— Уцячом мы адсюль. Пабачыш, уцячом,— сказала Надзя ўпарта і глянула на Івана.

— Калі ў вас гэта так сур'ёзна...

— А няўжо ж не сур'ёзна. Няўжо, думаеш, каб не сур'ёзна, я б пайшла на такое... Божа збаў, братка. Я ведаю, што гэта няпроста, вунь як няпроста... Але ж... і я... таксама чалавек, і я хачу трошачкі шчасця... Я болей не магу. Пакуль яго не ведала, маўчала. Думала, можа, так і трэба. А цяпер не магу. Прыйду з работы і чакаю, калі ён прыбяжыць. І жыву тым чаканнем. І, здаецца, нічога мне болей не трэба, толькі ведаць, што ён ёсць, што ён прыйдзе, што ён будзе са мной...

Ля пасёлка іх сустрэў Байда — у кароткім цёплым паліто, зімовай шапцы. Ён як быццам чакаў іх, таптаўся ля плота туды-сюды.

— Мо запалка е, мужчынкі? — спытаў, паказваючы непрыпаленую папяросу, узняўшы ўгору буры, цвёрды, як з крэменю, твар. Тонкая, быццам пажаваная скура на шыі нацягнулася.

— А чаму ж ёй не быць! — Мікіта спыніўся, палез у кішэню.— Для такога чалавека, як ты, не толькі запалкі не шкода...— Ён павольна дастаў карабок запалак, трасануў імі і падаў Байду.— Бяры і запомні, што даў табе іх Мікіта Купец...

— Я гэта і так ведаю, Мікіта, навошта помніць? — Байда ўзяў запалкі, угнуў плечы, затуляючыся ад ветру.

— Не-е-е, ведаць — адно, а помніць — другое. Я ніколі не забуду, хоць рэж, як ты некалі мяне на машыну падсаджваў... Ніколі не забуду,— Мікіта паківаў пальцам пад носам у Байды.

— Я цябе не падсаджваў,— насупіўся Байда, падаючы назад запалкі.

— Можа, і да сцяны нікога не ставіў, а? Ні Лявона нашага, ні Хведара, ні Уладзіка? Усіх, хто не здаў немцам зброю. Не ставіў, скажаш? А ты добра ведаў, хто не здаў яе: сам быў у самаабароне... Можа, скажаш, і не гразіўся: «Хто не прынясе зброю, расстраляем!..»

— Загадалі б, Мікіта, і табе, і ты шукаў бы...

— Загадалі б... Усім загадвалі, ды не ўсе слухаліся загадаў... А ты ўзрадаваўся... І да сцяны ставіў... Ставіў і гразіўся... І на машыну падсаджваў. Сваіх людзей, суседзяў сваіх... Мяне, Мішу... Падсаджваў... Думаў, што ваша ўзяла. Хацеў камандаваць... З наганам і плёткай... А не выйшла... Падабаецца табе гэта ці не падабаецца, а не па-вашаму зямля круціцца. І я табе дарую, сукін ты сын. Сёння дарую, таму што я жыву і выпіў. Таму і даю табе прыкурыць. Можаш карабок не аддаваць, можаш узяць сабе насаўсім... Я дарую... Але помню... Ведаю, каб ваша ўзяла, ты б мне даў прыкурыць... Так даў бы...

— Ну што ты, Мікіта? — Байда замітусіўся, бясколерна-светлыя, студзяністыя вочкі яго забегалі, шукаючы падмогі. Павярнуўся да Лёхі.— Ці ж я там камандаваў? Немцы камандавалі...

Мікіта паказаў кулак Байду, і той падаўся назад.

— Ды ты не бойся... Біць цябе я не буду. А папросіш — магу і есці даць... Калі па-добраму... Пайшлі, накармлю. Не тым, чым вы са сваімі немцамі карміді нас у Магілёве, за калючым дротам... Не гнілымі буракамі,

не шалупайкамі... Салам, мясам, маслам накармлю... Усё ёсць у Мікіты. І чарку магу паставіць — пі... Пі, але помні...

— Я дваццаць гадоў помніў... Там, у Сібіры, з тапаром і пілой. Хадзіў і думаў. Работай галаву не завяжаш! — сарваўся Байда на крык, ступіў да Мікіты.— Дык што, мне і цяпер па зямлі хадзіць забараняецца?

— Хадзі... Дваццаць год помніў і яшчэ дваццаць помні. І сыну накажы... Хай і ён ведае, што людзі — не авечкі, а жыццё — не кажух, навыварат не адзенеш. А зараз ідзі, і мы пойдзем. Праўда, хлопцы? — дзядзька Мікіта павярнуўся да Івана і Лёхі.— У нас яшчэ ёсць планы...

## VII

Лёкса непрыкметна адстала ад усіх: спынілася перавязаць хустку і не захацела даганяць. Ішла воддаль. Не ўслухоўвалася, але чула, што гаварыў Мікіта і чаго смяяліся Лёха і Іван, бачыла, што Грыпіна і Надзя маўчаць, і ведала, чаму яны маўчаць, а сама жыла сваім. Цяжкім, страшным, але гэта было яе жыццё, хоць і далёкае, мінулае, але цяпер яна яго не баялася. Яна ведала, што без таго жыцця не было б і яе сённяшняга дня.

Апошнія гады з ёй гэта было часта. Яна магла задумацца пра што-небудзь і забывалася пра ўсё астатняе. Яна бачыла, чула і запамінала ўсё, што рабілася вакол яе, і ў той жа час была вельмі далёкая ад усяго гэтага: па-сапраўднаму жыла другім — сваім унутраным жыццём. Гэтым унутраным жыццём былі ўспаміны. Часам яны былі такія яркія і блізкія, што яна наноў і як быццам першы раз перажывала ўсё тое, што з ёй ужо было даўным-даўно.

Самае дзіўнае і незразумелае ў чалавечай памяці — гэта тое, што яна жыве незалежна ад чалавека, якому належыць, жыве па сваіх законах, незразумелых і жорсткіх. Аб сабе яна заяўляе часцей за ўсё тады, калі яе не просяць... А можа, гэта і добра, і правільна, можа, тут усё тая ж вечная мудрасць жыцця... Памяць — гэта непадкупны і непадуладны суддзя, і ён час ад часу напамінае людзям пра тое, пра што не трэба забываць...

Вось і зараз Лёкса ішла па мокрай і мяккай сцежцы і бачыла, што луг яшчэ толькі-толькі пачынае брацца

зеленню пасля зімы, чула галасы мужчын, і як яны важка ступаюць, і як цыркае вада ў іх з-пад ног, а сама ўспамінала зусім другое. І не ўспамінала, яно ўспаміналася само...

Гэта было на другі год пасля смерці Лявона... І тады яна ішла. Праўда, ішла адна, зусім адна, і тады была зіма...

...Ужо шарэла, калі Янка, Ядзін мужык, прайшоў з Лёксай за вароты, яшчэ раз сказаў:

— Можа, лепей астанься, паначуй. Куды ты нанач. Яшчэ заблудзісся...

— Не, Япачка... Там жа дзеці. Я сказала, што сёння прыйду. Прыйду і Маліну прывяду... Дык во, прывяла,— яна зморшчылася, махнула рукой на хлеў, дзе, уздуўшыся гарой і выскаліўшы шырокія жоўтыя зубы, ляжала карова, яе Маліна, і заспяшалася, скоранька-скоранька пайшла па вуліцы, чыркаючы бахіламі па ўтаптаным снезе. Янка пастаяў трохі ля варот — высокі, нясклад-ны, мокра шмаргануў вялікім носам і пайшоў у хату. Прынёс з каморы брусок, пачаў вастрыць нож: заўтра трэба аблупіць карову.

Да лесу Лёкса дайшла мігам. Дарога была торная, і яна падумала, што, пакуль добра сцямнее, будзе дома. На выездзе з лесу сустрэла дзве падводы — на санях з карамі ляжала па доўгаму, толькі што зваленаму бервяну. Коні з шэрымі ад інею храпамі цяжка ступалі па снезе. Побач з конькмі тупалі мужчыны.

Лёкса прапусціла падводы.

Снег быў рассыпчаты, сухі, але ісці было лёгка. Лёкса старалася не сходзіць са слізкага раўчука, працёртага палазамі, ішла, быстра змяняючы ногі, пазірала проста перад сабой — і нічога не бачыла: перажытае за гэтыя дні так вымучыла яе, што ў галаве ўжо не заставалася месца ні для якіх думак, акрамя адной бясконца доўгай і цяжкай думкі пра сям'ю, пра сябе, пра карову. «Як я зараз, куды без кароўкі? Што дам дзецям, чым накармлю... То, бывала, пабяжыш у хлеў, падоіш — і ўжо ёсць з чым з'есці бульбіну, перш чым адправіць у школу... А зараз... Ах, Маліна, Маліна, што ты нарабіла?» — як пра жывую, як пра чалавека, думала яна пра карову. У тысячны ці бог ведае які раз успамінала і тыя веснавыя дні, калі з гадзіны на гадзіну чакала Лявона — ён паехаў за Баранавічы і павінен быў прывесці карову, і як на-

рэшце дачакалася яго: з вясёлай, трохі падпітай усмешкай ён ехаў верхам на Маліне, паклаўшы на спіну замест сядла паддзёўку і зачапіўшы папругу за рогі, а высокая Маліна спакойна ішла па вуліцы, быццам даўно прывыкла вазіць на сабе людзей. І праўда, была яна вельмі спакойная. І аралі на ёй, і дровы вазілі, і сена...

Успамінала і той пракляты дзень, калі Пётра прыгнаў кароў з поля і сказаў, што Маліна ацялілася і што цялё мёртвае. Маліна прыйшла вялая, мокрая. Выцерла яна яе тады, напаіла цёплым пойлам, а сама пабегла на тое месца ў кусты, дзе Маліна ацялілася. Ацялілася... Звергла! Не пара ёй яшчэ было цяліцца. Восьмы месяц пайшоў цяляці. Быў то бычок — ладны ўжо, чорна-буры, з белай мецінкай на пысе. Закапала Лёкса яго, паплакала трохі. Цюкнула ёй тады: цялё ёсць, а дзе ж «месца»? Хіба яшчэ не выйшла? Абшукала кругом — нідзе няма. Назаўтра Маліну не пусціла ў поле, перагаварыла з пастухом. «Здэцца, выйшла...— сказаў Пётра.— Можа, сабака сцягнуў куды. Ён пры каровах быў».

Дні два Маліна стаяла ў хляве, рыкала, сумавала па цяляці. Папаіла яе Лёкса цёплым пойлам і на трэці дзень выпусціла на двор, на сонца. Карова павесялела, у поле хоча, і ў Лёксы нібы камень з плячэй скаціўся. Звергла дык звергла. Шкода бычка, ды што зробіш. Ці то ўдарыў хто, ці так што.

На чацвёрты дзень Маліна пайшла ў поле. Гэта ж каб веданне, трэба было тады ехаць па Макуху, везці яго хутчэй дамоў, хай бы паглядзеў... Можа б, і ўбачыў... Ведама, што ўбачыў бы, ветэрынар жа. І не маладзенькі, вопытны. Убачыў бы, што ацёл ненармальны, што «месца» засталося ўсярэдзіне. І што-небудзь прыдумалі б... Каб веданне... А то выпусціла карову на двор, яна адагрэлася на сонцы, а дурной бабе ўжо падалося, што яна і палепшала. Павесялела — і ўсё тут, ідзі, кароўка, у статак... І во на́ табе. Як не цэлы год хадзіла карова, і ніякага знаку. Усё як трэба. І пасвілася нармальна, і даілася добра, і малако ўсё аддавала... Толькі на быкі не ўзнялася... Зноў жа суцешыла сябе: і так тры гады — тры цяляці, хай у дзеўках паходзіць. Ажно во табе дзеўкі... Не ўзяла есці... Ні сечку, ні паранку, ні канюшыну... Пойла працэдзіць праз зубы — і па ўсяму... Прывезла Макуху. Прыехаў без інструментаў. Паглядзеў, памацаў,

выпіў паўлітра: прыводзь на ветпункт. Завяла, ды ўжо было позна. Сагніло ўсё ўсярэдзіне.

«Ах, Маліна, Маліна...— шаптала Лёкса і бачыла перад сабой яе вялікія сіне-зялёныя вочы, слёзы ў вачах, чула яе цяжкі, нібы чалавечы стогн...— Маліна, Маліна, каго я буду чакаць з поля, выйшаўшы за вароты? А ранічкай хто будзе сустракаць мяне ціхім рыканнем?.. Каму я цяпер паднясу тое сена, каму?.. Маліна, Маліна. Загоніш ты мяне ў магілу, загоніш. Колькі той страхоўкі дадуць? Ну, няхай паўтары тысячы!.. А дзе ж я астатняе вазьму?.. Тысячы дзве яшчэ... Дзе іх узяць?.. Куды ж я без кароўкі з такой сям'ёй?.. Кароўка-мамка... Чым я ўцешу, што скажу Івану, калі ён сустрэне ля парога, здзіўлена развядзе ручкамі: «Хлеба ў століку няма, бульбы ў печы няма, а Іван есці хоча...» — і будзе пазіраць сваімі сінімі вачанятамі? Тады хапала даёнку і бегла ў хлеў, а зараз?..»

Лёкса ішла і ішла са сваімі думкамі, са сваім горам, выціраючы слёзы, і зусім не прыкмячала, што пасыпаў снег і што пацямнела ў лесе. Засталася ззаду паваротка на буднёўскую дарогу, і адразу стала цяжэй ісці. Снег тут быў у калена. Ледзь прыкметнымі ямінамі значыліся на ім нечыя сляды. «Няўжо гэта мае, як да Ядзі ішла?» — падумала Лёкса. Учора бегла сюдой, снег быў неглыбокі, а гэта, глядзі ты, усё засыпала.

Ёй даўно ўжо стала горача, і яна расшпіліла верхні гузік у жакеце, паслабіла вузел на хусце.

«Ці здагадаюцца хоць наабіраць бульбы ды паставіць варыць? — падумала пра дзяцей.— А то будуць сядзець, як куры, галодныя, будуць чакаць мяне...»

Не прымеціла Лёкса, як пачаў зласнець вецер. Ён ужо пругка раскачваў вяршыні дрэў, страсаючы з іх снег. І ад снегу, што сыпаўся і сыпаўся, і ад цемнаты, што акрывала, зацямняла ўсё, у лесе зрабілася глуха. Лёкса адчула шчымлівы халадок страху і занепакоілася. «Дзе ж тая Флёркава кладка?» — падумала яна, стараючыся не паддавацца паніцы.

Па часе, дык яна павінна была выйсці з лесу на атуленую кустамі лугавіну, за якой і была тая Флёркава кладка — гнілая падваліна колішняга мосціка, перакінутага цераз ручай. На выхадзе да Флёркавай кладкі дарога спускалася ніжэй, у балоцістую нізіну, ельнік пе-

расходзіў у асіннік. Дзе ж ён, той асіннік? Лёксу абступаў ельнік і ельнік.

Яна пайшла шпарчэй, усё яшчэ не хочучы верыць, што недзе збілася з дарогі. Але чым далей ішла, лес гусцеў, а дарога вузела і як быццам мякчэла. Пад нагамі Лёкса не чула той цвёрдасці, якая адчувалася раней — і да павароткі на буднёўскую дарогу і адразу за павароткай. Яна спынілася — перадыхнуць, агледзецца. Але што яна магла ўбачыць? Цёмныя абрысы дрэў, якія далей ад дарогі зліваліся ў адно суцэльнае чорнае, і там, здавалася, нехта хаваецца, адтуль нехта выглядае, і ледзь прыкметны прасвет наперадзе і ззаду — дарога, па якой яна ішла.

«Дзе ж я зблудзіла? — думала Лёкса.— Нідзе ж не зварочвала. Ішла проста па дарозе...»

Яна спяшалася... Зачапілася за нейкую рагаціну пад снегам, павалілася. Зноў зачапілася... Ішла, прыглядалася і быццам упершыню бачыла гэты лес. Колькі разоў хадзіла да Ядзі, а, здаецца, ніколі не бачыла гэтага стройнага, высознага ельніку.

Спіна ў Лёксы была мокрая, але сама яна была спакойная. Нейкі халодны спакой, быццам гэта блудзіць не яна, а нейкі другі, далёкі і чужы ёй чалавек, апанаваў яе. Гэты спакой прынёс з сабой холад і пустату ў думкі, абыякавасць да ўсяго на свеце і да самой сябе. Нават пра дзяцей яна пачала думаць без страху і трывогі, з адценнем злосці: «Не маленькія ўжо, самі могуць за сабой прыглядзець. Бульба ёсць, дровы ёсць... З голаду не памруць...» І зноў пра дарогу: «Усё правільна. Трэба дзяржацца ўправа, і дарога прывядзе ў Буднеў. Ніякіх жа сёл паблізу няма... Трэба дзяржацца правай рукі...»

Вецер трохі перасціх, неба пасвятлела. «Мусіць, будзе мароз... Раз пасвятлела — будзе мароз»,— і зноў другая думка: «Ці накармілі парасят? І ці дадумаюцца дроў укінуць у печ? Асінавае сыр'ё — не прасохне, дык раніцай не ўпаліш...»

Снегу набралася ў буркі, ён раставаў там, і ногі былі мокрыя. Было мокра і пад каленьмі: некалькі разоў Лёкса правалілася ў нейкія яміны. Добра яшчэ, што здагадалася паддзець Лявонавы споднікі...

Чым далей мясіла снег Лёкса, тым больш накіпала злосці. Глухой, дзікай, роспачнай злосці на ўсіх і на ўсё

на свеце, і на яго, Лявона. Недзе ў глыбіні душы яна разумела, што Лявон тут не вінаваты, не ён шукаў смерць, а смерць знайшла яго, але ёй трэба было на некага перакласці цяжар, што лёг на яе плечы, трэба было на некага выліць сваю злосць.

«Сам пайшоў, а мяне пакінуў мучыцца. Адну з дзецьмі... Яму там добра, спакойна, а мне тут хоць разарвіся, хоць самой лажыся і памірай...» Яна падагравала, распальвала ў сабе гэту злосць, але адчувала, што злосці няма, а застаецца крыўда, адна крыўда. Яна ўспомніла, як адзін раз, як не сшалеўшы, Лявон падняў на яе руку і яна, перапалоханая, схапіла з пасцелі соннага Івана і закрылася ім. Ведала, што з дзіцем Лявон біць яе не будзе. Цяпер яна ведала, што ён і так не стаў бы біць яе, але тады, убачыўшы яго чырвоныя вочы і здзічэлы твар, яна ўпраўду перапалохалася... Ён ездзіў у раён — цэлы дзень на золкім асеннім дажджы, па гнілой гразкай дарозе — і, калі цёмначы вяртаўся дамоў, у Анатольеўскім балоце заграз конь, ды так заграз, што трэба было самому выцягваць і калёсы, і каня. У хату ўваліўся пасля поўначы — мокры, брудны, галодны. А ў хаце ні хлеба, ні бульбіны... Ёй бы памагчы яму распранушца, збегаць да каго-небудзь пазычыць хлеба, а яна, дурніца, пачала гаварыць, што няма нічога, што была ў чыгунку бульба, пакідалі яму, ды дзеці з'елі, чакалі-чакалі яго, думалі, што ўжо не прыедзе. Адкуль у яго спрытнасць узялася — сядзеў жа, як мёртвы, на канапе, а тут ірвануўся да яе: «Заб'ю! З-пад зямлі дастань, а прынясі хлеба!» І пайшла, і прынесла, а пасля доўга таіла злосць на яго, і плакала, і прычытала: як гэта так, падняць руку на маці сваіх дзяцей. І цяпер успомніла той момант, каб вярнуць тую злосць на Лявона, але злосці не было, быў адзін жаль. Было шкода і сябе, і Лявона. «Нялёгка было і яму, хапала, усяго хапала...»

Наперадзе пасвятлела. «Мусіць, бераг». Не, невялічкае гала, а за ім зноў той жа ельнік. «Божа, калі яму канец будзе». Лёкса стамілася, вельмі стамілася. Балела ўсё цела — і ногі, і рукі, і сярэдзіна. І яна пачала баяцца: ці стане ў яе сілы мясіць гэты снег? І колькі яго мясіць? І куды яна ідзе?

Ніякай дарогі даўно не было. Быў снег, мяккі, сыпучы, справа і злева — дрэвы, дзве сцяны, між сценамі — вузенькі калідор. То там, то тут бухматыя лапкі перага-

роджвалі калідор... Зачэпіш галіну — на галаву снег, як са страхі.

Калідор, крутануўшы туды-сюды, вывеў на нейкае поле. Гектараў пяць-шэсць. Як быццам знаёмае і незнаёмае... Над ім — густое белае мроіва і ціша. Маўклівая, сонная ціша. Лёкса аддыхвалася, хапала ротам паветра і ўслухоўвалася: можа, пачуе які-небудзь голас. Можа, дзе сабака гаўкне... Але кругом было глуха і ціха, толькі ў вушах звінела і звінела, як тонкая напятая струна, і хацелася спаць.

«Трэба ісці,— сказала сабе Лёкса.— Трэба ісці ўкруг поля: раз ёсць поле, недзе павінна быць і дарога...»

Яна стаяла пад елкай — высокай, з шырока расдасцёртымі галінамі. Снегу тут было менш, гурба паўкругам ішла воддаль ад камля, ногі чулі цвёрдасць блізкага карэння.

«Трэба ісці»,— паўтарыла сабе Лёкса, а сама стаяла, прысланіўшыся да ствала. Галаву туманіла млявасць, вочы самі зліпаліся. «Толькі не заснуць»,— думала Лёкса, не заўважаючы, што засынае. Усё перажытае за гэтыя дні і гэта дарога так змучылі яе, што ў яе ўжо не было сілы супраціўляцца: як толькі цела знайшло апору, Лёкса заснула, быццам правалілася ў цёмную яму. Яна не ведала, колькі часу праспала так, стоячы, але раптам не то ў сне, не то наяву ёй пачуўся голас. Быццам нехта галасіў. І не нехта, а яе дзеці. Яна ачнулася, прыслухалася. Кругом было ціха. Нідзе ні голасу, ні гуку. «Можа, яны чакалі-чакалі мяне ды выйшлі шукаць... А можа, і самі заблудзіліся?» — скаланула трывожная думка.

І Лёкса зноў палезла ў снег і неўзабаве ўзбілася на нешырокую дарогу. Спачатку ішлося лёгка, і Лёкса падумала: «Трэба было даўно перадыхнуць». Памясіўшы снег з паўкіламетра, яна зноў адчула слабасць. Пачаў балець жывот. Потым болі пайшлі ўсярэдзіну, пад грудзі, і гэты клубок сядзеў там, пёк. «Толькі гэтага не хапала,— падумала Лёкса.— Толькі не хапала мне захварэць...»

Цяпер яна ішла цераз бярэзнік. Падалося, быццам недзе забрахалі сабакі. Нібы з левага боку. Яна стала. Не, нічога не чуваць. Зноў рушыла далей. Жывот не пераставаў балець. «Мусіць, ад голаду»,— рашыла яна і ўпарта сунулася наперад. Яна ўжо нічога не баялася,

ні пра што не думала. Ужо і злосці не было ні на кога. І ў целе, і ў галаве пустата і стомленасць. Ішла і ішла. Намячала: «Дайду да той бярозы і перадыхну», але, дайшоўшы да бярозы, не спынялася, ішла далей. «Дайду вунь да той... Яшчэ да той...»

І зноў ёй пачуўся брэх сабакі. І зноў па левую руку і як быццам ззаду. Лёкса звярнула ўлева. Ішла між кустоў і дрэў, угаворваючы сама сябе: «За гэтымі бярозамі павінна быць сяло. Раз чуўся брэх сабак, значыць, будзе сяло...» Але за бярозамі стаялі другія бярозы, як копы сена, бухмаціліся кусты. «Ну, за тымі...» — зноў шаптала Лёкса, і за «тымі» кустамі стаялі другія... У Лёксы дрыжала ўсё — і рукі, і ногі, і саму яе ўсю калаціла. «Ну, за гэтымі елачкамі...» Зачапілася за нейкі сук і паляцела — рукамі і тварам у снег. Доўга ляжала, чуючы на шчоках холад. Устала, прайшла трохі, прысланілася да ствала бярозкі, прымкнула вочы, паціху пачала аб'язджаць уніз, пакуль зусім не села. Так добра было сядзець!

Зноў успомнілася Маліна. І хоць Лёкса ведала, што яе ўжо няма, але ўспомніла пра яе так, быццам яна не здохла, а жывая стаяла ў хляве. Успомніліся Ліда, Валік і Алёша. І тут не было непакою за іх, быццам яны былі і накормлены, і абагрэты, быццам яна ведала, што яны павывучвалі ўрокі, далі парасятам, укінулі ў печ дроў і палеглі спаць. «Гэтыя не маленькія, самі могуць зварыць сабе,— думала яна.— Рэня таксама не прападзе. Штошто, а галодная не будзе». Толькі Іван... Мільганула, як згадка, як бляск маланкі: «Хлеба ў століку няма, бульбы ў печы няма, а Іван есці хоча...»

Лёксу ўсю нібы скаланула. Яна расплюшчыла вочы. І падалося ёй, што за бярозкамі нешта чарнеецца. Як быццам нейкая будыніна. Яшчэ не верачы ў сваё шчасце, яна ўсхапілася, ірванулася наперад. Гэта было гумно! Далей за ім няяснымі цёмнымі плямамі выступалі яшчэ будынкі. Лёкса доўга пазірала на гэтыя цёмныя плямы, баючыся падмануцца, і раптам загаласіла — дзіка, сумна, на ўвесь голас. Загаласіла ад роспачы, ад гора і ад радасці, што нарэшце ведае, дзе яна і куды ёй ісці. Цяпер яна ведала, што будзе жыць і што ніхто не зніме з яе гэты цяжар думаць пра дзяцей, гадаваць іх.

Добра выплакаўшыся, яна пайшла. Трэба было думаць, як жыць заўтра.

Яна ледзь увалілася ў хату. Дзеці яшчэ не спалі. Пад-

весіўшы лямпу за бэльку, яны на печы зубрылі ўрокі. У хаце было як у лядоўні.

— Раскладайце ў печцы як можна,— прахрыпела яна ад парога і павалілася на лаву. Ужо не чула, як Валік прынёс, навыцягаўшы з плота, суччa, як разгарэлася ў печцы, як дзеці сцягвалі з ног буркі...

«Божа мой, калі гэта было? І ці было яно? Можа, мне ўсё гэта толькі прыснілася?» — падумала Лёкса, вяртаючыся да сённяшняга дня і да сябе сённяшняй... Пачула, як нехта крануў за руку, павярнула галаву. Гэта быў Іван. Ён сустрэў яе позірк, усміхнуўся. Яго вочы і ўсмешка сказалі ёй: «Я ведаю, табе цяжка, ты стамілася, але скора мы будзем дома».

«Нічога ты не разумееш,— ласкава падумала яна пра сына.— Мне сёння добра. Быццам мы сабраліся разам усёй сям'ёй. І Рэня, і Ліда, і Алёша, і Валік... І быццам Лявон з намі. Я ведаю, што ты любіш яго, хоць яго даўно ўжо няма. А ці любіш ты мяне, ці будзеш ты мяне любіць так, як яго?.. Любіш... І будзеш любіць»,— суцешыла яна сама сябе, успомніўшы, як чакала яго гэтыя дні, як хацела, каб ён прыехаў, нават думала тэлеграму даць, і як ён, быццам угадаўшы яе думкі, заявіўся ўчора. Яна супакоіла яго, варухнуўшы губамі: «Добра... Усё добра».

## VIII

Ля клуба Іван нос у нос сутыкнуўся з Федзем. Быў той добра выпіўшы і радасна разгарнуў рукі, быццам сустрэў даўняга сябра і хацеў залучыць у абдымкі.

— А-а-а, Іван. Хадзі, хадзі. Выпіць хочаш?

— А ёсць?

— Знойдзем...

— Не, не хачу.

— Шкода... А ў мяне настрой у самы раз.— Ён памаўчаў, відаць, раздумваў: расказваць ці не. Нарэшце ўскінуў вочы на Івана.— Пасварыўся дома. Разагнаў усіх — і жонку, і старую... Няма, каб сыну радавацца, за сына стаяць, усё ж прыязджаю, не забываю, дык яна жонцы патурае. Прыгрэла ля сябе. «Чаго прыехаў, грубіян?..» Гэта я чаго прыехаў... Далей — болей... «Лепш бы ты памёр тады, як я цябе маленькага малаком сваім карміла...» Гэта зноў пра мяне. Ну я і ўзарваўся. Надаела. Колькі там я таго малака выпіў? Можа, графін які ці

два... То хай прыязджае ў Мінск — куплю ў магазіне ды аддам гэтыя два графіны ці колькі там. Не хочаш магазіннага, магу на кірмашы купіць, свяжэйшага... Дык, бачыш, не спадабалася. Як не з кулакамі кінулася на мяне...

Іван на ўсе вочы глядзеў на Федзю: жартуе ён ці ўсур'ёз гаворыць. На жарт непадобна: і позірк напружаны, нерухомы, і злосць у голасе.

— Ну і гад жа ты, як бачу! Быў бы ты мне радней, дык і за такія словы... Ад цябе адзін парашок застаўся б...

— Мы яшчэ паглядзелі б, хто каго... І зноў жа, Іван, давай без прафілактыкі. Яна, калі надта частая, і машыне шкодзіць, і чалавеку тым больш... Мяне яна ні грама не кранае. Не той тавар.— Федзя пастаяў яшчэ трохі і раптам мякка, са свойскай непасрэднасцю прапанаваў: — Хачу да дзядзькі завярнуць, да Вавілы. А то яшчэ можа пакрыўдзіцца: прыязджаў пляменнік і не зайшоў... Ха-ха-ха! Пайшлі разам — не прагадаеш. А? — і вочы яго, толькі што нерухомыя, са шкляной пустатой, ажывіліся.

Іван адмовіўся, і Федзя пайшоў адзін, і неўзабаве адтуль, куды ён пайшоў, пачуўся яго грубаваты моцны голас:

У міня такі характер,
І ты са мною не шуці...

«Ну і «характер»!» — пакруціў галавой Іван.

Зайшоў у клуб. Цёпла зашчымела ў грудзях, калі ўбачыў невысокую сцэну з непафарбаванай падлогай, вялікі, як расчынены чамадан, чорны дынамік на сцяне, куток жывёлавода з акуратна расстаўленымі і раскладзенымі брашурамі і часопісамі ўсіх часоў, і лозунгі над сцэнай і на сценах, і лямпы — на выпадак, калі патухне святло, і самога Васіля — ён сядзеў пасярод сцэны з баянам на каленях, медзведзяваты і сонны. Усё гэта было блізкае, добра знаёмае, і разам з тым ад усяго гэтага аддавала нечым даўнім, што забылася, а цяпер раптам ажыло, як у сне. Паклаўшы вуха на мяхі, Васіль нешта наігрываў. Болей у клубе не было ні душы. Васіль прыкмеціў Івана, узрадаваўся. Паставіў баян на крэсла, спусціўся ўніз.

Некалі яны вучыліся разам, у пятым ці шостым класе нават сядзелі за адной партай: Іван — маленькі заморыш, худы, жаўтатвары, і Васіль — здаравіла-пераростак, плечы — як у сапраўднага мужчыны. Неяк само сабой сталася, што Васіль узяў апеку над Іванам, абараняў

яго ад большых і мацнейшых аднакласнікаў. Іван жа памагаў Васілю ў матэматыцы, у якой той быў слабаваты. Так яны здружыліся. І нешта з таго часу — шчырае, далікатнае, можа, нават цнатлівае, засталося між імі і цяпер.

Яны паздароўкаліся.

— Прыехаў да маткі? — запытаў Васіль. Голас у яго быў густы, грубы, гаварыў ён як у бочку, і выйшла: «брыехаў ду муткі». Іван усміхнуўся, агакнуў.

— Ту добра...— Васіль адразу пераключыў увагу на другое: — Трэба крэслы прыбраць, пакуль нікога няма. Танцы будуць.— Васіль заставаўся Васілём. Ён не любіў зацяжных цырымоній і дарэмнай траты слоў. Навошта словы там, дзе ўсё і без іх зразумела.

— Як твае мужыкі гадуюцца? — спытаў Іван. У Васіля былі блізняты.

— Растуць здаровыя, як мядзведзі. Скора бацьку загрудкі возьмуць,— засмяяўся Васіль.

Іван пасобіў яму ўскінуць на сцэну збітыя ў рады крэслы, заняў рукі часопісам. Васіль зноў узяў баян, пачаў лавіць нейкі матыў.

У клубе паволі люднела. За сталы набілася хлапчукоў, парасхватвалі шашкі і шахматы. На крэслах паўз сцены, як ластаўкі на дроце, вярцеліся дзяўчаткі-школьніцы, нацягваючы на вострыя голыя каленкі кароценькія спаднічкі, зіркалі адна на адну, на Івана.

— Васіль, уключы радыёлу,— канькалі яны, але Васіль быццам і не чуў іх — ціхенька рыпаў на баяне, ганяўся за сваім матывам, а той ніяк не даваўся. Васіль зноў і зноў лавіў яго, пакуль нарэшце не дабіўся свайго,— і, радасны, задаволены, расплыўся тварам, прайграў некалькі разоў ад пачатку да канца...

— Паспееце яшчэ ногі паадбіваць,— нарэшце сказаў дзяўчаткам.— Лепш пайшлі б ды спадніцы панадточвалі, пакуль кавалераў няма.

— А нам добра і ў такіх,— засмяяліся тыя.

На вуліцы было ціха, і раптам у гэтай цішыні пачуліся смех, шум, крыкі, расчыніліся дзверы, і ў клуб неспакойным тлумным гуртам уваліліся вясёлыя, п'янаватыя людзі, і адразу ў клубе стала цесна і весела. Першая ішла і вяла ўсіх цётка Вольга. Былі тут Іванава маці, Грыпіна, і Надзя, і Лёха. Маці з парога ўгледзела Івана, усміхнулася яму.

Цётка Вольга з непакрытай галавой, валасы сабраны ў куклу. Яна ў новай цёмна-зялёнай сукенцы, рукі растапыраны ў бакі, плывуць у паветры, у правай — хуста, пальцы левай свабодныя... Цётка Вольга як зайшла, так і пацягнула ўсіх за сабой кругам — высока ўзняўшы галаву, пазіраючы то наперад, проста перад сабой, то пад ногі сабе, прытупвала і прыпявала:

Праслужыў я ў пана
Першае лета,
Выслужыў я ў пана
Курку за гэта.
Мая курачка
Залатавурачка
Па двары ходзіць,
Куранятак водзіць...

Яна ішла па крузе, узмахваючы рукамі ў такт песні, і ўслед за ёй, як кураняты за курыцай, ішлі другія танцоры і таксама стукалі абцасамі, размахвалі рукамі.

Іван глядзеў на цётку Вольгу і не пазнаваў: здаецца, і стан у яе яшчэ нейкі маецца, і клубы не выпіраюць, і голас прыемны... І быццам гарачым паласнула па вачах і ад гэтай нямудрай, і, здавалася, даўно забытай песні, і ад гэтых няўмелых, даўно адвыклых ад танцаў танцораў...

Маё целя хвастом меле,
Мой індык шалды-балды,
Мой гусь — траву кусь,
Мая курачка
Залатавурачка...

— Музыку! Васіль, музыку! — закрычалі танцоры.

— Давай падыспан!..

— Падыспан!

Васіль ямчэй усеўся і рвануў баян.

Нехта крануў Івана за плячо. Іван павярнуўся. Нона!

— Добры вечар, Іван.

— Добры вечар.

— Бачу, прападае чалавек. Кругом музыка, а ён кісне. Думаю, пайду, разварушу...

— І добра зрабіла...

— Тады пайшлі танцаваць.

— Я паганы танцор...

— О, божачка, ці чуеш ты мяне? Дзеўка ўгаворвае хлопца танцаваць, а ён упіраецца. Да чаго мы дажылі? Падыспанец — лёгкі танец, яго лёгка танцаваць...— заспявала Нона, уваходзячы ў круг.— Не забыўся?

— Прыпамінаю...

Іван ужо і не помніў, калі танцаваў гэты падыспан, так гэта было даўно, але адразу прызвычаіўся да яго і непрыкметна для сябе ўвайшоў усмак. Яму падабаліся і гэта плаўная хада з каленцамі, з прытупваннем, і кружэнне, і змена партнёраў, і няхітрая і такая знаёмая музыка.

— Ты лёгка танцуеш,— сказаў Іван Ноне.

— Няўжо? — нібы ўсумнілася яна, пазіраючы на яго. Позірк яе гаварыў: «Я сама гэта ведаю»,— і хаваў у сабе пытанне: «А далей што?..» Нона яўна падахвочвала, і Іван прыняў яе намёк.

— Каб можна было, я хацеў бы ўсё жыццё танцаваць... з табой...

— Няможна...

— Чаму?

— Ногі не вытрымаюць...

— Мае ці твае?

— Твае. Мае крэпкія. Я ж працую на будоўлі...

— А я спортам буду займацца...

— І сэрца не вытрымае,— смяялася Нона.— Танцы даюць вялікую нагрузку на сэрца.

— Сэрца ў мяне моцнае.

— Яно ў цябе надта разумнае...

— Як гэта?

— Шмат думае...— Голас у Ноны стаў крышку больш сур'ёзны, чым трэба было для жарту.— А тут не трэба шмат думаць. Трэба танцаваць, і ўсё. Вось хоць бы так, як Лёня.— Нона матнула галавой назад. Там, праз некалькі пар, танцавалі Ігар і Лёня. Лёня танцаваў з адной з тых школьніц, што прасілі Васіля ўключыць радыёлу, расказваў нешта вясёлае, тая аж заходзілася ад смеху. Ён злавіў Іванаў позірк, паказаў белыя зубы. Замахаў рукой: давай, давай...

Іван нічога не паспеў адказаць Ноне, хоць і гаварыць было нечага: Нона гаварыла праўду, ён не ўмеў жыць не думаючы. А можа, нават думаў і больш, чым трэба было... Трэба было мяняцца парамі, і Нона пайшла наперад, усміхнуўшыся яму на развітанне.

Потым Іван танцаваў з маці. Яна глядзела на яго знізу ўгору, усміхалася няўстойлівай, расслабленай усмешкай.

— Адкуль гэта вы ўсёй талакой? — спытаў Іван.

— Вольга пазвала ўсіх да сябе. Ну, а ад яе — сюды, на танцы, танцоры старыя...— Маці як быццам адчувала нейкую няёмкасць ці то вінаватасць, быццам яна рабіла нешта не тое, што трэба было. І яму стала шкода яе, і гэтага яе вінаватага позірку, і яе ўсмешкі. Яна старалася танцаваць лёгка, свабодна, успамінаючы сваю маладосць, але нічога з гэтага не выходзіла: цяжкія, нібы набраклыя ногі не хацелі слухацца, і яна пераставуляла іх, як пратэзы. І толькі цяпер, танцуючы з маці, Іван адчуў, зразумеў, уявіў нейкім нутраным чуццём сваім, колькі давялося вынесці і нагам яе, і таму яны як пададзервянелі, і рукам, адна з якіх няўмела ляжала ў яго на плячы, другая — вялая, шурпатая — у яго руцэ. Яму адразу стала горача, быццам туман ударыў у галаву. Іван не мог дачакацца, калі скончыцца танец. Ён так і не дачакаўся канца. Як толькі Нона зноў вярнулася да яго ў пару, яны пакінулі круг.

«Усё. Скажу заўтра, хай збіраецца і едзе да мяне. Хопіць з яе ўжо. Хай хоць пад старасць адпачне»,— думаў ён, выходзячы на двор.

На сажалцы турчэлі жабы. Пахла раскіданым на агародзе, падсохлым гноем...

Прысеў на лавачку па другі бок вуліцы, закурыў.

«Дык жа не паедзе... Ужо ж гаварыў. І што пачуў? «А што я там рабіць буду? Хіба твой пакойчык пільнаваць? Дык яго і так ніхто не ўкрадзе...»

Ён яшчэ сядзеў на лавачцы, калі з клуба выкаціліся гэтак жа тлумна, з песнямі і крыкамі і гуртам пайшлі па вуліцы цётка Вольга, маці, Грыпіна, Надзя, Лёха...

Васілю, відаць, надакучыла іграць на баяне, і ён уключыў радыёлу — на двор вырваліся гукі бадзёрага факстрота...

— А-га, яшчэ адзін мінчанін,— пачуў Іван, як толькі пераступіў парог клуба.

Шырока ўсміхаючыся і працягваючы рукі, да яго ішоў Іван Амяльянавіч, усё такі ж маленькі, але тоўсценькі, з добра прыкметным, быццам прыклееным жывоцікам. І прадаўгаваты твар яго патлусцеў, расплыўся. І сёння, як і многа гадоў назад, калі Іван хадзіў у школу і калі кінуў хадзіць, ён быў у цёмным неадпрасаваным касцюме, які пучыўся на каленях і ўвесь быў у нейкіх светлых плямах.

Іван Амяльянавіч узяў Івана пад руку і павёў цераз

залу ў куток, пад дынамік. Там ужо быў Вавіла — вясёлы, з чырвоным тварам.

— Давай, давай сюды! — замахаў ён ім рукой, як кацянят, згарнуў двух хлапчукоў, што сядзелі ля самога на крэслах, аслабаніў месца.

Селі. Слова за словам паплыла гаворка — усё пра тое ж, заўсёднае: што новае чуваць на далёкім і блізкім свеце. І неяк пасля першых жа фраз Іван Амяльянавіч пачаў скардзіцца, што цяжка, надта цяжка стала працаваць цяпер настаўніку. Гэта ўжо было нешта новае. Іван Амяльянавіч быў з тых настаўнікаў, якія ніколі не скардзяцца на цяжкасці сваёй работы, як бы туга ні даводзілася. А тут раптам такое...

— Не хочуць дзеці вучыцца. Не хочуць, і ўсё тут. Ты другому ставіш тройку, разумееш, тройку! — і яму хоць бы што,— гаварыў ён і злаваўся, распальваў сябе.— Знік, сплыў элемент зацікаўленасці ў вучобе... «У інстытут я не пайду, а на завод возьмуць і з тройкай, і ў трактарысты возьмуць...» Вось і ўсё... А ты распінайся, даказвай, угаворвай...

— А можа, Іван Амяльянавіч, яно і лепей, што чалавек ужо ў такіх гадах ведае, што хоча. Трэба, каб людзі цвяроза глядзелі на жыццё, хоць гэтыя людзі — усяго яшчэ школьнікі.

— У тым-то і бяда, што надта рана гэты чалавек ведае, што ён хоча. Нават не што ён хоча, а што яму трэба. Ён цудоўна разбіраецца ў тым, што яму трэба, а што не трэба. Ужо ў шостым класе ён ведае, што яму не трэба хімія, не трэба біялогія. Навошта яму хімія? Навошта яму біялогія? Навошта яму калупацца на прышкольным участку? Ён будзе электрыкам, а электрыкам, бачыце, хімію ведаць неабавязкова! Навошта яму літаратура, калі ён будзе шафёрам? Навошта шафёру Пушкін, навошта Багдановіч? — Іван Амяльянавіч пачаў ускідваць рукамі, на губах яго заблішчалі кропелькі сліны.— Урэшце, на ўсё гэта можна заплюшчыць вочы — чорт з табой: не хочаш вучыцца — не вучыся. Будзь толькі чалавекам. Вунь, бачыш, у парозе стаіць, з белай галавой? — Іван Амяльянавіч выцягнуў шыю, крыкнуў: — Коля! Коля Мотуз, ідзі сюды!

У клубе было тлумна, іграла радыёла, але хлопец пачуў голас Івана Амяльянавіча, павярнуў галаву.

— Ідзі, ідзі сюды! — махнуў рукой Іван Амяльянавіч, але хлопец крутануўся і выслізнуў за дзверы.

— Бачыў? Прыйшоў у клуб з папяросай. Ну, захацелася табе закурыць, закуры, хай на табе шэрсць курыцца. Дык не ж. Закурыць і абавязкова прыйсці ў клуб, каб усе бачылі. І гэта вучань шостага класа. Пазаўчора сустракаю яго на вуліцы ля школы. У школе ўрокі, усе ў класах, а ён шляецца па падаконню. «Чаму не на ўроку?» — пытаюся. Пачаў нешта выдумляць. Кажу: «Зараз жа ідзі ў клас!» Адскочыў. Ну што ты яму скажаш?

— Нічога не трэба казаць. Узяць і выгнаць.

— Выгнаць! Як гэта ўсё проста. А план усенавуча? І, дапусцім, мы яго выганім. Ён жа ўсё роўна на работу нікуды не пойдзе.

— Чаму гэта нікуды не пойдзе?

— Ты, Іван, як маленькі. Хіба ж бацька аддасць яго куды-небудзь... Ага! Я ўжо гаварыў бацьку, і не адзін раз. «Што ты, Амяльянавіч, ён жа яшчэ саўсім дзіця, яму ж толькі чатырнаццаць гадкоў...» А дзіця гэта ўжо вышэй за бацьку, і бацькавы чаравікі яму на нагу не лезуць...

— Я, Амяльянавіч, таксама думаю, што гэта мудра — прывучаць дзяцей да работы,— умяшаўся ў гаворку Вавіла.— Нечага да дваццаці гадоў па вуліцы сабак ганяць. Хай чалавек робіць нешта спасобнае. Я гляджу на свайго меншага. Таксама месца сабе не знаходзіў — ні дома, ні ў школе. І двойкі пачаў прыносіць. Я і папругай вучыў — думаеш, памагло... А пачалі ў школе вывучаць трактар — як падмянілі хлопца. Кніжак розных нанёс, вінтоў, карбюратар прывалок, сядзіць, калупаецца... Прыпыніўся заўчора ля двара Пеця Касачоў... Злез з трактара, матор не заглушыў. Мы якраз з хлопцам дровы рэзалі. «Дай, кажа, дзядзька, праехаць».— «Праедзь...» Хіба яму машыны шкода? Сеў і паехаў, пасля развярнуўся, прыгнаў назад. Дзеці цяпер вушлыя пайшлі. Не тое што мы, да пятнаццаці без штаноў бегалі. Тут ім усё — і радзіва, і тэлевізар, і хакей, і шмакей. І да іх трэба падстрайвацца.— Вавіла перадыхнуў, зірнуў на Івана, потым на Івана Амяльянавіча. Яму падабалася, што яго ўважліва слухаюць.— Я вазьму зноў жа меншага. Ён, як старшыня наш, Гаўрылавіч, не можа чуць паху гарэлкі. Захочам калі мы з жонкай выпіць... Ёсць на што, слава Богу,— і я зарабляю, і яна даярка. Раней, як

толькі ўбачыць, што збіраемся выпіць, устае з-за стала і за дзверы. Раз гэтак, два, і неяк няёмка нам стала. Ён, малады, процi веку ідзе, яму вучыцца трэба... І зноў жа памяркуйце... Чаму ж і не ўзяць чарку, калі можна. Усё роўна два вякі жыць не будзеш, і Бог на магіле свечку не паставіць. Я дык, Амяльянавіч, думаю, што ні гарэлку піць, ні баб любіць ніхто па сваёй ахвоце не кідае... А?

— Па сваёй ахвоце ці не па сваёй... Па-твойму выходзіць, што без алкаголю няма ніякага жыцця,— Іван Амяльянавіч быў сур'ёзны.

— Чаму няма. Ёсць. Усякія людзі жывуць і ўсяк. Адзін па салоным душу роне, другі — па салодкім... А па ўсяму, Амяльянавіч, канчайма гэтыя тэорыі. А то сустрэлі свежага чалавека і завалалі яго на цэлы вечар... Гэта ж маладзёж... Ёй, можа, хочацца чаго-небудзь другога,— і, уткнуўшы губы Івану ў вуха, дыхаючы густой гарэлачнай кіслатой, Вавіла зашаптаў: — Чаго ты сядзіш тут? Ці табе другой работы няма? Музыка, танцы, ішоў бы ды зашчаміў дзеўку якую. Я ў твае гады падмёткі на хаду адрываў. Во, хоць бы Нону маю... Хіба дрэнная дзеўка? Я ведаю, і ты ёй падабаешся.

— Ну што вы? — Іван не адразу знайшоўся, што сказаць.

— Ты не глядзі, што яна танцуе з Патапавым,— пасвойму зразумеў Іванава замяшанне Вавіла.— Я шапярну ёй, і яна ўмомант адшые яго.

Іван зморшчыўся, заёрзаў, стараючыся адсунуцца далей ад Вавілы. Але далёка не ўцёк: не пускаў Іван Амяльянавіч.

— Я ж не сляпы, Лявонавіч, я сам прыкідваю. Хлопец ты ў тых гадах, калі сама пара падумаць пра сям'ю. Кватэрка ў цябе ёсць... Няхай сабе і адзін пакойчык, але на пачатак хопіць... Пакуль тое ды сёе, можна і пра машыну думаць. Не глядзі, што я жыву ў сяле, але тое-сёе кумекаю і такія-сякія грошы маю. Колы на тры магу хоць сёння даць... Яшчэ кола — і «масквічок» гатоў.

— Я думаю, што на ім будзе каму ездзіць...— Іван устаў.

— Дзіва што будзе,— падняўся і Вавіла.— Усё ж, як ні бяры, чатыры нагі... Падумай пра гэта.— Вавіла стаяў, шырока расставіўшы тоўстыя, крываватыя ногі. Іван зірнуў уніз на яго вялізныя, ці не сорак шостага памеру боты з шырокімі халявамі, і яму стала смешна. Яму

здалося, што Вавіла і ўпраўду стаіць не на нагах, а на колах...

— Добра, падумаю,— адказаў ён весела і павярнуўся да дзвярэй.

Ён зноў сядзеў на лавачцы, зноў курыў. Веры ўсё не было. Нехта выйшаў з клуба і цераз вуліцу пайшоў да лавачкі. Гэта была Нона. «Мусіць, бацька паслаў услед»,— са злосцю падумаў Іван.

— Пра што вы з бацькам гаварылі? — спытала Нона адразу, прысеўшы ля Івана. Яна аж задыхалася, і голас яе дрыжаў.

— Ды так, рознае... Ты ж ведаеш мужчын,— Іван не ведаў, што гаварыць. Ён не чакаў такога павароту.

— Не, ты скажы, што ён табе гаварыў? Што ён плёў табе? Маўчыш? — у яе голасе былі і злосць, і адчай, і рашучасць. Яна цяжка дыхала, гаварыла паспешліва, глытаючы канцы слоў.— Можаш маўчаць... Я і сама ведаю... Сватаў мяне, праўда? Сватаў? Ну скажы, сватаў? — Нона схапіла Івана за руку, цягнула да сябе, пазіраючы яму ў твар.— Сватаў, а?

— Ды не, што ты выдумляеш... Якія сваты...

Нона адпусціла Іванаву руку і раптам заплакала, уткнуўшыся тварам у калені, але зараз жа выпрасталася, выцерла вочы.

— Я ведаю, ты мне можаш нічога не гаварыць... Як толькі сустрэне дзе новага чалавека, адразу валачэ ў хату. Жаніха мне шукае... Таргуе, як цялушкай. Сорамна людзям у вочы глядзець. Ну, я яму натаргую...

— Дарма ты так на яго. Ні пра што такое мы не гаварылі...— пачаў Іван, адчуваючы, што яна ўсё роўна яму не верыць.— І ты не бяры так блізка да сэрца, не перажывай. Старыя, яны як малыя...

Нона трохі супакоілася, але паверыць яму — не, не паверыла...

## IX

Ён убачыў Веру адразу, як толькі яна зайшла, і адразу пайшоў ёй насустрач.

— Дзе ты столькі была? — спытаў Іван, адчуваючы, як цяжка стала яму дыхаць.

— Уходжвалася,— адказала яна проста, быццам ён і не чакаў яе тут цэлы вечар, і пачала развязваць хустку,

потым распранула паліто.— Яны ж паехалі ў Доўгі Лог, а я і госця, і гаспадыня.

Ён узяў у яе з рук паліто, павесіў на вешалку.

Яна была падстрыжана «пад хлопчыка», і гэта прычоска маладзіла яе, прыемна акругляючы прадаўгаваты твар... Шарсцяны вязаны касцюм ладна ляжаў на стройнай фігуры.

— Ты хочаш танцаваць? — спытаў ён.

— Я мільён гадоў не танцавала,— адказала яна і ўсміхнулася. Па яе напружаных ноздрах ён здагадваўся, што і яна хвалюецца.

Ён ведаў, што ў клубе ўсе глядзяць на іх, ловяць кожнае іхняе слова, прымячаюць кожны іхні рух і заўтра, і паслязаўтра, і пазней будуць абгаворваць усё гэта, ацэньваць, прыкідваць і так і гэтак, але ўсё гэта яго зусім не займала. «Як яна перамянілася. Я зусім не ведаю яе»,— падумаў ён, а ўголас спытаў:

— Што папрасіць?

— Вальс... Я мільён гадоў не танцавала вальс...

Чамусьці яму не спадабаліся гэтыя яе «мільён гадоў». Нешта фальшывае і лёгкае, як падробка, чулася ў гэтых словах. Гэта былі не яе словы, і гэта была не яна. Але Іван падышоў да Васіля, папрасіў паставіць пласцінку.

— Твая шэдэўра? — адрывістым басам спытаў Васіль.

— Хіба ты яе не ведаеш? Гэта ж Пётрава Вера...— нездаволена адказаў Іван.

— «Пётрава, Пётрава»,— перадражніў Васіль.— Я пытаюся: разам прыехалі ці кожны па сабе?

— Кожны па сабе.

— Але адсюль паедзеце разам? — Васіль жартаваў, вочы яго хітра жмурыліся, і злаваць на яго не хацелася. Ды ўрэшце, за што злаваць? Іван усміхнуўся:

— Не ведаю, хаця ўсё можа быць...

— Ты можаш не ведаць, а я ведаю. Нідзе ты ўжо не дзенешся,— соп Васіль, перабіраючы стосік пласцінак.— Ідзі да яе, а то хлопцы павядуць. Я кажу пра Патапавага хлопца і Данілавага ўнука. Гэтыя доўга гадаць не стануць.

Іван кіўнуў галавой і пайшоў да Веры.

У дынаміку нешта зашумела, зашыпела, і, як званы, ударылі першыя гукі надта знаёмага старадаўняга вальса. Пайшлі танцаваць. Закружыліся, замільгалі людзі, па-

плылі сцены, і сам Іван паплыў, быццам па рацэ, на быстры... Ён бачыў Верыны вочы, бачыў яе акуратненькую круглую прычоску «пад хлопчыка», чуў пальцамі кругленькія маленькія гузічкі ў яе на спіне, пад джэмперам, і яму добра было, і ўсё ж ён адчуваў нездаволенасць, нейкую фальшывасць свайго становішча. Што гэта было так, пацвердзіла і Вера. Яна раптам сказала:

— Зірні, як Нона на нас глядзіць.— І зноў сказала гэта ненатуральна гуллівым, з заігрываннем, голасам.

— Гэта табе здаецца,— суха сказаў ён.

— Не, ты зірні... І на Вавілу.— Вера не заўважала яго сухога тону. Ці не хацела заўважаць? Не, не заўважала.

— Гэта табе здаецца,— паўтарыў Іван.

— Ён гатовы нас з'есці.

— А ты баішся? — здзекліва падчапіў Іван. Яму раптам захацелася зрабіць ёй балюча.

— Мне няма чаго баяцца,— Вера як спалохалася, голас яе пацішэў. Яна паспрабавала ўсміхнуцца — нічога не выйшла, толькі ў куточках губ, як матылькі, трывожна затрымцелі маршчынкі. Яна насупіла бровы і прашаптала: — Я баялася толькі аднаго, каб цябе не адкралі...

— Хіба я такі маленькі, што мяне могуць адкрасці?

— Цяпер я ведаю, што ты не маленькі,— Вера ўважліва глядзела яму ў вочы.

Івану стала шкода яе.

— Мы доўга ў клубе не будзем,— сказаў ён, калі Васіль пусціў пласцінку другі раз.

— Пойдзем, як толькі скончыцца вальс...

— Васіль будзе круціць яго, пакуль не рассыплецца пласцінка...

— Ён цябе любіць...

— Мы з ім сядзелі за адной партай... Слон і Моська...

— Тады пашкадуем яго. Пойдзем пасля другога разу.

— Добра.

Вера ўсміхалася, але вочы яе былі сур'ёзныя і ў голасе ўлоўлівалася трывога.

На дварэ было цёмна. У паветры стаяла душная парнасць.

— Куды пойдзем? — ціха спытаў ён.

— Не ведаю. Пайшлі па сяле,— гэтак жа ціха адказала яна.

У яго ўсё яшчэ злёгку кружылася галава, а ў вушах звінела музыка.

Наперадзе па вуліцы нехта бліснуў ліхтарыкам — раз, другі, трэці... Неўзабаве адтуль пачуўся знаёмы п'яны голас:

У міня такі харакцер,
І ты са мною не шуці...

Федзя ішоў насустрач, пстрыкаючы святлом то сабе ў ногі, то ўправа і ўлева — па платах, па вокнах дамо́ў. Іван не хацеў сустракацца з ім і павёў Веру па сцежачцы паўз плот, кудой бабы насілі ваду з калодзежа. Але Федзя сам павярнуў да іх, секануў святлом Івану ў твар, слізгануў па Веры зверху ўніз і зноў засвяціў на Івана.

— Я думаў, што гэта ты з Нонай хаваешся... так скаць, прыжымоніху рэжаш...

— Патушы! — Іван засланіў рукой вочы.— Ты шукаеш Нону? Яна там, у клубе...

— Каго я шукаю, таго даўно няма.— Федзя патушыў ліхтарык, дакрануўся рукой да пляча Веры.— Барышня, вы дазволіце сказаць вашаму партнёру некалькі слоў? Так скаць, па сакрэту.

Вера зірнула на Івана, сціснула яго руку. Іван кіўнуў галавой:

— Ідзі, я даганю,— а сам павярнуўся да Федзі: — Ну, гавары, партнёр... Толькі хутчэй.

— Ломіш асіну, стары,— паспешліва загаварыў Федзя, і Іван убачыў, што ён не такі ўжо і п'яны. Болей прыдурваецца.— На якога чорта ты звязаўся з гэтай афіцэршай. Тут, дома, ва ўсіх на вачах. Ці табе дзевак мала? — Федзя паклаў руку Івану на плячо, але той скінуў яе. Яго ўжо душыла злосць. Не хапала, каб кожны вучыў грамаце.

— Ты куды ідзеш? — спытаў ён у Федзі.

— У клуб...

— Дык і ідзі. Прама, прама і прама... Там убачыш. І не лезь куды не трэба...

— Дурань ты, Іван, як я пагляджу, зусім дурань,— шчыра здзівіўся Федзя, развёўшы рукамі, і гэта шчырасць зноў падкупіла Івана: ён не пайшоў, як наважыўся быў, а затрымаўся.

— Ведаеш, колькі ў яго грошай?

— У каго?
— У дзядзькі майго. У Вавілы.
— Ён мне сёння гаварыў...
— Гаварыў? У-у-у, жыла. Ён можа зара́з два «Масквічы» купіць. А за Ноначку ён нічога не пашкадуе. Яна яго дарагая дачушка. Ці ты яшчэ пра любоў думаеш? Кінь, стары. У нашых гадах... Будуць грошы — будзе і любоў, колькі хочаш...
— Усё?
— Што ўсё?
— Ты ўсё сказаў?
Федзя нейкую хвіліну ўзіраўся Івану ў твар, потым здзекліва хіхікнуў:
— Ці ты ідзеш па прынцыпу: лепш сініца ў руцэ, чым жораў у небе? А? Са стопрацэнтнай гарантыяй? Тады хвалю... Тут налог цвёрды, безадказны. Жывая натура...
— Што-о-о?!
Усё, што недзе сядзела ў Іване — і сіла, і злосць, і шаленства,— кінула яго да Федзі. Ён схапіў яго за каўнер і так сціснуў, што ў таго вочы палезлі на лоб. Нейкі час Федзя стаяў, зяпаючы пустым ротам, потым ірвануўся, прахрыпеў:
— Пусці, дурань.
Іван расчапіў рукі. Яго ўсяго калаціла.
— Ну і шалёны... Так і задушыць можна.
— Другі раз будзеш думаць, што гаварыць.
— Ды ўжо ж. Шалёны, яй-богу. Дай лепш свой адрас, можа, калі зайду. Мы ж ужо як бы і пабраталіся...
Федзя пасвяціў ліхтарыкам, Іван запісаў свой адрас.
— Вечарамі я дома, калі не ў камандзіроўцы.
— Як-небудзь пацэлю. Ідзі ўжо, ідзі. Цябе чакаюць. А з мяне сёння досыць. Пайду спаць... Можа, мае пусцяць.
Яны разышліся. Зноў пачулася: «У міня такі харакцер...», і гэта неяк узрадавала Івана, зняло з душы прыкры цяжар.
— Што ў вас было? — спытала яго Вера. Яна чакала Івана ля свайго дома.
— Нічога. Ён папрасіў мой адрас. Можа, калі-небудзь загляне...
Яны стаялі ля калодзежа. За ім, у двары была Пётрава хата. Колькі год Іван не быў у ёй? Апошні раз забег, ідучы ў армію... Яму захацелася зайсці, паглядзець, ці

ўсё там так, як было некалі. Ён быццам хацеў зверыць сябе — і з гэтым домам, і з тым, што было ў доме і што было некалі ў ім, Іване...

— Зойдзем? — спытаў ён.

Вера маўчала, быццам не ведала, што рабіць, потым павольна адчыніла варотцы ў двор.

Верына няўпэўненасць як ажывіла неспакой у Іванавым сэрцы. З нейкім смуткам ён пераступіў парог некалі такой знаёмай хаты. Але цяпер хата выдавала чужой, і ён адчуў сябе ў ёй чужаком. Адвык ад яе.

Стол у кутку, лаўкі паўз сцены, далей, за дашчанай перагародкай, печ...

У другой хаце было прасторна. Выкінулі вялікую печ і замест яе паставілі грубку з прамым, высокім, аж пад самую столь, белым комінам.

Распрануліся.

— Прысаджвайся дзе-небудзь,— сказала Вера, а сама засталася пасярод хаты. Яна не ведала, што рабіць далей. Куды прапалі тая вясёласць, смеласць, з якімі яна зайшла ў клуб. Стаяла пасярод хаты, патупіўшыся, кусаючы губы, стрыжаная «пад хлопчыка» і сама быццам хлапчук, які лез у чужы сад, зачапіўся за цвік і разадраў новыя штаны. Яму страшэнна шкода гэтых новых штаноў, і ён збірае ў кулак усю сваю мужнасць, каб не заплакаць перад бацькам, які ведае, дзе і як падраны гэтыя штаны. Застаўшыся сам з сабой, ён даўно б даў рову...

Іван падышоў да Веры, паклаў руку на плячо, мякка сказаў:

— Не трэба.

Яна крутанулася да яго, зірнула ў вочы.

— Добра, што ты прыехаў. Ты нават не ўяўляеш, як гэта добра, што ты прыехаў.

— Я даўно не бачыў цябе.

— Ты не ведаеш, колькі часу я цябе не бачыла...— Вера памаўчала, потым ціха папрасіла: — Толькі ты нічога не думай, Іван.

— Я нічога не думаю.

— Ты ведаеш, пра што я гавару...

— А ты не гавары.

І ўсё ж і ён і яна думалі. І думалі пра адно і тое ж. Абое адчувалі, што між імі стаіць нешта такое, што не дае магчымасці ім адчуць сябе вольна, непасрэдна. І абое ведалі назву гэтаму «нешта». Гэта было Верына замуж-

жа. I гэта быў час, які стаяў паміж імі. Вера адчувала сябе вінаватай перад Іванам, і віна гэта скоўвала яе. I яшчэ... Яна ўсё ніяк не магла паверыць, што гэта ён, Іван, той Іван, пра якога яна столькі перадумала... Яна столькі часу не бачыла яго і цяпер баялася яго. Яна не ведала, што ён думае. Каб ведала, то ёй было б лягчэй.

Іван не пазнаваў сябе. Ён так чакаў сёння Веру, так узрадаваўся, калі яна нарэшце прыйшла ў клуб. А цяпер уся тая радасць раптам прапала. Ну, хай яна была замужам... Дык і што з гэтага? Хіба яна стала нейкай іншай? Хіба яна перастала быць Верай? Той Верай, з якой яны некалі рашалі задачкі, з якой ён развітваўся, ідучы ў армію... Ён сам пераконваў сябе, як угаворваў, і адчуваў прытым, што нечага важнага, вельмі важнага не стае яго перакананням.

Ён узяў Веру за галаву, павярнуў да сябе. У вачах яе стаялі слёзы...

— Я нічога не думаю, Вера... Я не хачу думаць. Ты мне трэба... Разумееш, ты. I я цябе знайшоў.— I ён пачаў цалаваць яе губы, шчокі, валасы і пачуў, як зазвінеў, ажываючы, кволенькі галасок ручайка пад вясеннім снегам, той галасок, які для Івана звінеў некалі на танцах у клубе, пачуў, як гэты галасок весялее, шырыцца, набірае сілу.

...Па небе плыў празрысты, як Верына нейлонавая кофтачка, маладзічок, і святло яго цьмяна зелянела ў хаце. Гэтага зялёнага святла хапала, каб Іван бачыў Верын твар — цёмныя вочы, цёмныя губы. Гэтага святла хапала і на сад,— каб ясна былі відаць дрэвы, кусты бэзу і язміну, рог хлява...

Яго рука ляжала ў Веры на плячах, і ён пальцамі перабіраў яе кароткія валасы. Яны ціха перагаворваліся. Гаварыла Вера, а Іван слухаў, парой устаўляючы свае слова. Слухаў і адчуваў, што за гэты час, як яны разам, у Верынай хаце, у ім адбыўся нейкі незразумелы пераварот. Вера перастала быць для яго чужой. Яна стала яго, блізкай і зразумелай. Як толькі прыйшлі з клуба, іх раздзяляла нейкая адчужанасць, нейкая сцяна. Цяпер гэтай сцяны не было. Цяпер перад ім была Вера — не тая Вера, якую ён ведаў раней, пра якую хоць і рэдка, але ўспамінаў і ў арміі, і пасля арміі. Гэта была зусім-зусім другая Вера... Яго Вера.

«Што ж адбылося, што змянілася?» — думаў ён. Ён

не хлапчук, яму не пятнаццаць і нават не дваццаць. Ён ведаў і другіх жанчын, але т а к о г а з ім ніколі не было. Каб чалавек адразу стаў такім с в а і м... Чаму гэтага не здарылася з ім раней? Чаму ні адна з тых жанчын, каго ён ведаў раней, не стала такой блізкай, такой зразумелай, такой сваёй? Можа, таму, што ён доўгія гады чакаў яе, Веру? І гэта Вера, што зараз стаіць ля яго і гаворыць, а ён перабірае яе валасы, якраз тая, каго ён чакаў? Можа, таму, што ён любіць яе і любіць даўно, гэтак даўно, як ведае сябе...

Ён чакаў, што яно прыйдзе. Чакаў многа год, кожны дзень... Спачатку гэта было проста чаканне, падсвядомае чаканне нечага харошага. Так, мусіць, птушка чакае надыходу вясны. Ён не ведаў, што гэта будзе такое, але чакаў, як чакаюць вялікага свята... Пасля дваццаці гэта ўжо была туга... Ён з тужлівым болем праводзіў вачыма кожную пару закаханых, шчаслівых людзей, якіх сустракаў на вуліцы, у кіно, у рэстаранах... Ён не хацеў верыць, што лёс абмінуў яго, што шчасце яго прайшло недзе побач. На кожную дзяўчыну ён глядзеў з нямым, адчайным пытаннем: «Можа, гэта ты?» І ішоў ёй насустрач, і ў каторы раз пераконваўся, што гэта не яго шчасце... Ён ужо страціў надзею, ён пачаў прывучаць сябе да думкі, што г э т а не кожнаму даецца. Як талент, як прыгажосць, як сіла... І прывучыў, але тугу з сэрца не выгнаў. Ён ужо нічога не чакаў... І тады яно прыйшло... Але разам з радасцю і сцішанасцю, што прыйшлі да Івана цяпер, было і вострае шкадаванне. Гэта было шкадаванне таго, што было і чаго ніколі не будзе ўжо,— той далёкай Веры і сябе самога — таго, даўняга. Цяпер яны былі зусім іншыя людзі.

Вера гаворыць... Яе валасы пружыняць пад яго рукой... Яна гаворыць, і ён разумее ўсё, пра што яна гаворыць. Яна замаўкае, і ён ведае, чаму яна замоўкла... У радыстаў ёсць тэрмін: працаваць на адной хвалі. Гэта значыць, увесь час чуць адзін аднаго, чакаць адзін аднаго, пазнаваць адзін аднаго па почырку і па скупым тэлеграфным почырку пазнаваць, што на душы ў другога...

Іван слухаў Верын голас, і гэты голас закалыхваў яго і не даваў заснуць. Іван не ўсё разумеў, пра што гаварыла Вера, але ведаў, пра што яна гаварыла. Яна гаварыла пра сябе, а яму здавалася, што гэта пра яго...

— Ты не ведаеш, ты не ўяўляеш, што было са мной,

як ты пайшоў у армію. Часам мне здавалася, што я не вытрымаю больш цярпець, што я памру, так балела маё сэрца. Тады я першы раз адчула, што ў мяне ёсць сэрца. Выскачыўшы з нашай хаты, ты пайшоў на вуліцу не праз варотцы, а напрамкі, цераз грады, а там — цераз загарадку. Не ведаю, чаму ты так зрабіў, але мне здавалася, што ты пайшоў цераз грады, каб я цябе даўжэй бачыла. Выйду я на двор, зірну на твае сляды — і ў слёзы. Здаецца, сэрца разарвецца. Прашу Клаўдзю: «Закапай ты гэтыя сляды, ці заары, ці засып, а то я не вытрымаю, памру...» А яна смяецца: «Дурніца, кажа, во снег пойдзе і сам засыпле ўсё, зараўняе, і не пазнаеш, ці было дзе што. Ён у арміі, і ў яго ёсць пра што думаць. Ён нават і не ведае, што ты так надрываешся па ім, так сохнеш...» Смяялася, смяялася, потым злаваць пачала, сварыцца: гэта ж школьніца, васьмікласніца, замест таго каб пра вучобу думаць, месца не знаходзіць з-за хлопца. А я нічога не магу зрабіць з сабой.

Але праўда, надышла зіма, паваліў снег, засыпаў усё-ўсё і сляды твае. І я сціхла, паспакайнела сэрцам. Спачатку чакала, думала, што хоць слова напішаш, ну проста так, як знаёмай, хіба так нельга?.. Не-а... Бывала, іду са школы — усе дзяўчаты і хлопцы паперадзе пабягуць, а я валакуся нага за нагу... І думаю, думаю... «Ну не можа такога быць, каб ён нічога не ведаў, нічога не адчуваў. Я столькі пра яго думаю, так сэрца маё мучыцца. Нават дрэва адчула б гэта, а ён жа чалавек, жывы чалавек...» Табе смешна, праўда? Скажы, смешна?

— Не, не смешна,— адказаў Іван.— Гавары, я слухаю.

— Стану ля якой бярозкі, абдыму яе... А то згадваю, як мы сустрэнемся з табой, як ты пацалуеш мяне. І перажываю, аж ногі дрыжаць. Ніякія ўрокі ў галаву не лезуць. А ўбачу маці тваю, сэрца ў пяткі заходзіць. Хачу спытаць, ці прысылаў ты пісьмы, і баюся: яшчэ падумае што. Хацела прасіць Адама, ён тады пошту насіў, каб хоць зірнуць даў на тваё пісьмо, каб хоць почырк твой убачыць. Сустрэну яго і пытаюся, ці няма нам пісьмаў. «Не, няма».— «А каму ёсць?» А што тое «каму»?.. Маці тваёй таксама няма. Набралася смеласці і забегла да вас. І не раз, а два... Зімой выдумала грэцца, летам — вады напіцца. Тады, здаецца, у першы раз і ўбачыла цябе ў ваеннай форме. Ты з нейкім сваім таварышам, насатым

такім... Вясёлыя, здаровыя. І нейкі незнаёмы ты быў на той фотакартцы, далёкі. Ты не верыш мне?

— Веру.

— Мусіць, гэта дрэнна, калі жанчына так расказвае пра сябе? А? Дрэнна?

— Не ведаю. Па-мойму, не... Проста мы пацiху адвыкаем ад шчырасці. Усё тоім у сабе, хаваем, беражом, не ведаючы, каму і навошта.

— Пасля прыйшла вясна, сагнала снег — і зноў усё пачалося спачатку... Заплюсну вочы і бачу, як ты перабягаеш двор, бярэшся рукой за жэрдку, прыгаеш, ляпаеш рукой па калашыне — ці то пыл збіваеш, ці ваўчкі... На дварэ стала цёпла, трава пайшла... І з сэрцам зноў нешта пачало рабіцца, нешта бушуе там, нечага хочацца, а чаго — і сама не ведаю. Проста месца сабе не знаходзіла. Асабліва пад вечар. Здаецца, ішла б і ішла немаведама куды. Здаецца, толькі б убачыць цябе, адзін толькі разік убачыць...

З горам папалам скончыла восем класаў, а што далей? Хадзіць у дзевяты? А тут і Міця перайшоў да нас. Яны з Клаўдзяй даўно ўжо былі як мужык з жонкай. Сядзіць, сядзіць позна ды і застанецца начаваць. Клаўдзя і тады ўжо слалася на дваіх. Ноч прабудзе, а досвіткам бяжыць дамоў... А гэта зусім перабраўся да нас. Ты ж ведаеш, як ён гарэлку любіў. Кожны вечар пад градусам ды пад градусам. А пад градусам, то ці біцца, ці сварыцца. Клаўдзя таксама цаца добрая. Цярпела ўсё, пакуль нежанатыя былі, пакуль не перабраўся. А як перабраўся — яна ні на ўступку. Ён слова — яна два. Прашу: «Сціхні. Уступі яму». Дзе там! Як сплятуцца біцца — насмерць... Разы са два ўжо нежывую вырывала з яго рук... Дні тры паквохча, павохкае, а там усё наноў... А тут якраз падвярнуліся курсы бухгалтарскія. Я і паехала... Клаўдзя радзіла першага хлопца, і Чатырысорак асцепяніўся: піць стаў меней, біцца перастаў. Скончыла курсы і махнула ажно ў Запаляр'е... Адна б то я ніколі не адважылася ехаць за такі свет, а гэта падбіла напарніца, на тых курсах вучылася, Маня Жадзейка, у яе якраз сястра жыла ў Запаляр'і. Я, як за ветачку, раз-раз і паехала. Работу знайшлі скора. Я ў вэчэ, яна — на камбінаце... Сяджу, кручу арыфмометр, зводжу рахункі. Капейку згубіш, два дні шукаеш... Цяпер успомню, дык саму дзіва бярэ: адкуль у мяне стала адвагі паехаць на край зямлі. Нікога:

ні сваіх, ні знаёмых, адна толькі Маня. Яна, як павадок, і трымала мяне там. Калі-калі, а спачатку я не вытрымала б... І пуста, і гола, і холад. Куды ні зірні — сопкі. А Мані хоць бы што. Прыбяжыць, смяецца... «Не гаруй, Вера, не змерзнеш. Хлопцы не дадуць змерзнуць». А маразы там страшныя. Градусаў сорак — сорак пяць. Выбежыш на двор, разы два хаўкнеш ротам — і назад. Як іголкамі прашывае. І цёмна. Глухой цемені, такой, як у нас, няма, а так — шэра кругом — і днём, і вечарам, і ноччу. Ні дзень, ні ноч. А ўгары над ліхтарамі — белыя слупы, мігцяць, пераліваюцца...

Прыбяжыш з двара, а тут печка гарыць. Дзверцы адчыніш — бліжэй да цяпла. Вазьму крэсла, сяду напроці печкі, і здаецца ўжо: ніякое гэта не Запаляр'е, а наш Буднеў і я дома... І во скора ты прыйдзеш задачкі рашаць...— Вера сціхла і доўга маўчала.

Іван павярнуўся да яе:

— Далей не трэба...

— Не... Я хачу, каб ты пачуў гэта ад мяне... Толькі...— яна запнулася.— Калі табе будзе зусім нецікава, скажы...

Ён пагладзіў яе па валасах, дакрануўся губамі да шчакі. Шчака была гарачая.

— Малая я вельмі баялася цемнаты,— пачала Вера, непрывычна расцягваючы словы.— Нават выйсці на двор ноччу мне быў вялікі страх. Я бягом пралятала цераз сенцы, хапалася за клямку, стараючыся як хутчэй адчыніць дзверы. Мне здавалася, што ў цемнаце нехта ёсць, нехта невядомы і страшны, і ён схопіць мяне... І зараз... мне хочацца хутчэй прабегчы гэтыя цёмныя сенцы...

У Джэка Лондана ёсць адно вельмі страшнае апавяданне пра поўнач, пра белую поўнач, пра той жах, што накочвае на чалавека, калі ён застаецца адзін на адзін з ёй. Прачытала я гэта апавяданне там. Вечарамі рабіць не было чаго, дык перачытала ўсю бібліятэку. Прачытала я гэта апавяданне і забылася. А неяк пасля пайшлі мы на лыжах у сопкі. Дзень такі ясны, недзе ўжо пад вясну. Маня, афіцэры з нашай часці, я... Узняліся на першую сопку, сонца ўбачылі. Як жаўток, вісіць на небе. Спусціліся за сопку — яго не стала. Ідзём і ідзём. Смех, жарты. Нехта некага зачапіў, нехта некага падчапіў. Я ў хвасце ішла. Яны наперадзе, а я за імі валакуся. Надта там з мяне лыжнік. Іду сабе, думаю... Хвойкі вакол —

невялічкія, крывыя, як у нас на балоце. Дзе-нідзе бяроза — зноў жа крывая, карослівая. Спусцілася ўніз, а нашы ўсё недзе наперадзе, за сопкай. Стала я папраўляць лыжу. Аглянулася — адна на ўвесь свет. Хоць бы душа, хоць бы што жывое... Ну, варона, ці заяц, ці самалёт. І такая ціша, такая ціша... Крыкнула — голас нікуды не паляцеў, здаецца, так на губах і застаўся. Белы снег наўкол, белае, як вата, неба над галавой, ну якраз як у тым апавяданні. Там яшчэ чалавек гіне. Яго дрэвам прыдушыла. І як убіўся ў мяне страх! Здаецца, ніколі ўжо я нікуды не выйду, голасу чалавечага не пачую... Кінулася я наперад па слядах. І не іду ўжо, а бягу, спатыкаюся, і бягу, і плачу... Бачу, нехта спускаецца насустрач. Ну, слава Богу. Гэта быў ён, Толя. Убачыў слёзы, пацiснуў плячыма: «Што такое?» Кажу: «Нагу падвярнула». Ці ж скажаш каму, што спужалася?.. Так з ім удваіх мы і вярнуліся ў горад. Потым яшчэ хадзілі на лыжах, на танцы ў афіцэрскі клуб... Вельмі цяжка чалавеку аднаму. Яшчэ пакуль не заўважаеш, што ты адзін,— нічога. Здаецца, жывеш, і ўсё табе. А як адчуў, што адзін,— тады цяжка. А яшчэ цяжэй, куды цяжэй, калі вакол цябе чужое. Пасварылася я з гаспадыняй, у якой жыла. Папрасіла Толю: памажы кватэру знайсці. «Добра»,— кажа... І вечарам прыходзіць з хлопцамі. «Збірай манаткі і пайшлі...» А шмат што там збіраць. Звязалі пасцель у клунак, чамадан — і пайшлі. Прыводзіць ён да сябе ў пакой... Там ужо стол гатоў: гарэлка, шампанскае... Я ў слёзы, а ён смяецца: «Чаго ты? Усё роўна гэтым скончыцца, не сёння, дык заўтра». Я падумала, што і праўда так яно будзе...

Назаўтра пайшлі ў загс, а яшчэ праз два дні ён паехаў... Ён усё прападаў у камандзіроўках. Матаўся па ўсёй Мурманскай вобласці. Я зноў адна, і зноў мне страшна, як тады, на лыжах... І бачу ўжо, што не тое, не тое я зрабіла... Няма ў маім сэрцы любві да яго. Я і хачу любіць яго, і не магу... Шукаю любві — і не знаходжу. Ён і высокі, можа, нават і прыгожы, і гаварыць умее, а мне нечага не хапае. Чаго — і сама не ведаю. Праўда, гэта тады я не ведала, чаго мне не хапае. Якраз душы і не хапала, чалавечнасці. Мы былі зусім розныя людзі, у яго сваё жыццё, у мяне сваё. Толькі ложак адзін. А хіба яго надоўга стане? Шукала я падпору, а знайшла путы. Дзень яшчэ туды-сюды, а ноч прыйдзе — усё ду-

маю, думаю. Прыехаў ён неяк з камандзіроўкі, я яму і кажу: «Не будзем смяшыць людзей... Давай разыдземся». І разышліся. Пабыла я яшчэ трохі на Поўначы, а потым вярнулася назад, у Беларусь...

Вера змоўкла. Іван чакаў, што яна зараз заплача, і баяўся гэтага, але яна засмяялася. Ненатуральна вясёлым, фальшывым смехам.

— Вось і ўсё... І давай болей не будзем пра гэта.— Яна ўздыхнула, скаланула галавой.— Давай пра што-небудзь весялейшае...

— Пра што?

— Пра цябе. Я цябе зусім не ведаю.

Зубок месяца паспеў перабрацца ў другое акно, але святло яго ніяк не паслабла. Іван бачыў тыя ж цені ў яе пад вачыма, ля рота, той жа, а можа, і глыбейшы, бляск вачэй...

— Можна і пра мяне,— задумліва адказаў Іван і прыгарнуў Веру да сябе.— Можна і пра мяне...— І без ніякага пераходу, як працяг сказанага, але гэтак жа затоена і ціха: — Добра, што ты прыехала...

— Яй-богу?

— Ага...

— Ну, а ты... хоць калі-небудзь і хоць проста так... ці думаў пра мяне?..

— Думаў... Толькі да сённяшняга дня ты была недзе далёка-далёка, гэтак далёка, быццам цябе і не было...

— Можа, гэта была і не я? — прашаптала Вера, хаваючы галаву ў яго на грудзях.

— Можа, і не ты,— Іван даткнуўся губамі да яе валасоў.— Затое цяпер ты, і мне здаецца, што і заўсёды была ты. Не ведаю чаму, але сёння я ўпершыню неяк зусім проста адчуў радасць ад таго, што жыву на свеце. Не ў сэнсе: «жую — значыць жыву», а ў больш высокім: «жыву — значыць дзейнічаю, памыляюся, спатыкаюся, люблю, ненавіджу».

— Не баюся кінуцца з кулакамі ў бойку...— падчапіла Вера.

— І з кулакамі. Без гэтага нельга. Жыццё няпростае, а людзі розныя... Аднаму не хапае грошай на хлеб, другому — на машыну, і кожны хоча мець сваё... І зноў жа... гэта Раданіца, могілкі, вечарынка... Сёння я ўпершыню падумаў пра тое, што на могілках ляжыць болей, нашмат болей людзей, чым ходзіць жывых...

— Паміраць страшна,— Вера ўся скаланулася.

— Не, не таму, што страшна паміраць, а таму, што хочацца жыць. Жыць чалавекам сярод людзей. А гэта зноў жа няпроста.

«Заносіць цябе, Лявонавіч, заносіць. Не трэба мудрыць. Менш абстракцыі — болей яснасці, болей яснасці — болей праўды...» — напомніў унутраны голас, і Іван пагадзіўся з ім і змоўк.

Было зусім відна, калі Іван выбраўся ісці дамоў. Спявалі жаўранкі. Вера правяла яго на двор, трымаючы рукі ля шчок: яны ў яе гарэлі. Іван затрымаўся ля варотцаў.

— Ідзі, ідзі! І так маці немаведама што падумае.

— Не падумае.

— Не ведаю, як я сёння буду глядзець ёй у вочы...

— Як і заўсёды...

— Што ты?! Хіба ж яна прымірыцца, што ты быў у развядзёнкі?

— Прымірыцца,— адказаў Іван, але для сябе заначыў, што «развядзёнка» — матчына слова, і яна яго не шануе.

Заснуў ён імгненна, як толькі адчуў пад галавой падушку.

## X

Прачнуўся Іван позна. І прачнуўся не таму, што выспаўся,— калі тут было? — а ад вострага клопату: наперадзе была размова з маці. Ён ведаў, размова будзе нялёгкая.

Маці канчала паліць у печы. Зацята сціснуўшы губы, яна арудавала каля прыпечка, хапала ў рукі то чапялу, то вілкі, то качаргу — і з печы тады чуліся ці жаласны бразгат скаварады, ці глухое гупанне чыгуноў аб под, ці сухое патрэскванне згорнутых у кучу галавешак.

Па тым, як моцна грукала яна, адчыняючы і зачыняючы дзверы ў хату, не баючыся, што разбудзіць яго, Іван ведаў, што яна злуецца, і здагадваўся, што прычына яе злосці ўсё той жа — і яго — клопат: Вера...

Цяпер, на ранішнюю цвярозую галаву, Іван ясна зразумеў, што ў яго жыцці адбыўся новы паварот і гэты паварот прынёс зусім новае ў адносіны паміж ім і маці.

Было такое на душы, быццам ён правінаваціўся перад ёй, быццам у нечым здрадзіў ёй. Ён ведаў, што яму будзе цяжка загаварыць з ёй. Ён бачыў яе злосны твар, хапатліва-рашучыя рухі, і яму было шкода яе. Шкадаванне гэта тачыла яго і пазней — перад снеданнем, і за сталом, калі елі — абое маўклівыя, уражліва насцярожаныя.

Калі ўсталі з-за стала, маці болей не вытрывала маўчаць:

— У Веры ночачку правёў?..

— Ага...

— Новы дом знайшоў?

— Мама...

— Дзе мама, хто мама? Не трэба ўжо мама. Дажылася-а-а,— маці схапілася за галаву і загаласіла, як па нябожчыку: — А няўжо ж ты дзеўкі знайсці не мог? Няўжо свет такі голы стаў?.. Развядзёнку знайшоў... Яна летась прыязджала, дык Патапаў круціўся ля яе, а сёлета — на табе! — мой сынок.

— Мама! — Ён схапіў яе за плечы, павярнуў да сябе... І яна адразу аціхла, быццам і не галасіла толькі што. Вочы яе глядзелі спакойна і цвёрда.— Навошта ты выдумляеш?

— Я не хачу цябе вучыць, сынок,— загаварыла яна паспешліва, баючыся, што ён не будзе слухаць.— Ты не маленькі, і ўсе вы цяпер вучоныя, аж надта вучоныя. Толькі ты не думай, што ты — мудрэйшы за ўсіх...

— Я гэтага не думаю.

— І ніколі ты не думай. Запомні: там, дзе не ўгадзіў адзін, нялёгка будзе ўгадзіць і табе... Бывае, што людзі сходзяцца так сабе, а расходзяцца заўсёды не без дай прычыны...

— Не трэба пра гэта, мама,— сказаў ён ціха.— Я гэта ведаю. І... яшчэ... Я хачу, каб ты ведала, што мама ў мяне адна. Гэта ты, мама...

Маці ўсхліпнула, ткнулася яму ў грудзі:

— Я не хачу нічога выдумляць пра Веру. І работніца, і гаротніца. Можа, і тое, што пра Патапавага хлопца гаварылі — брахня. За кім ён не бегаў... Але як падумаю, падумаю... Паўсвету абхадзіў і дзеўку сабе... не знайшоў...

— У цябе ўжо белыя валасы...— сказаў ён, не слухаючы яе.

— Каб з вамі ды не пабялелі,— зноў устрапянулася яна.— Дай люстэрка...

Іван падаў люстэрка. Яна доўга разглядала сябе, паставіла люстэрка на стол.

— Дзе твой чамадан... Трэба збірацца.

Іван выйшаў на двор, але і на дворы чуў матчын голас. Не ўцерпеў, уткнуўся носам у шыбу — яна стаяла над расчыненым чамаданам і прымаўляла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як заўсёды, яна правяла яго за вароты, але стаяла, не хацела выпускаць чамадан з рукі. Кінула вачыма ў адзін канец сяла, у другі, быццам нечага чакала ад Івана, быццам ён павінен быў нешта зрабіць і не зрабіў, ці, можа, сама хацела нешта зрабіць і не ставала ёй на гэту работу адвагі. Нарэшце перадала Івану чамадан, і іх рукі сустрэліся на ручцы — яе, цёплая і шурпатая, і яго, крэпкая і быстрая,— нейкі час пачакалі, перш чым разысціся, і ў Івана ёкнула, затрымцела ўсярэдзіне.

— Дык што я хацела табе сказаць, сынок. Ага. Калі і я памру, дык ты ўсё роўна прыязджай. Хаця на Раданіцу. Яна заўсёды прыходзіцца на адну пару, гэта лёгка запомніць. Яна заўсёды бывае ў другі аўторак пасля Вялікадня...

— Навошта ты пра гэта, мама?

— Нешта зноў успомнілася Маліна і як я заблудзілася ля Флёркавай кладкі... На ходжанай-пераходжанай дарозе... Ага, дык запомні, Раданіца заўсёды прыходзіцца на другі аўторак пасля Вялікадня...

Маці быццам не чула яго і не бачыла, гаварыла як сама з сабой. І Іван падумаў пра тое, што яму вельмі пашчасліціла трапіць дамоў у такі дзень, калі ўсё разам — і слёзы, і радасць, і жывыя, і мёртвыя, калі да кожнага чалавека прыходзяць думкі пра тое, хто ён і што ён, куды ідзе і адкуль ідзе і ці ёсць у яго на гэтым свеце яшчэ што-небудзь, акрамя яго самога...

Яны пацалаваліся, і Іван пайшоў.

На Вавілавым двары Іван убачыў Нону. Яна таксама ўбачыла яго, падышла да варот. Усміхнулася разгубленай усмешкай, і Івану ўпершыню па-сапраўднаму стала шкода яе.

— Пайшлі! — Іван кіўнуў галавой у бок станцыі. Ён стараўся зрабіць выгляд, быццам учора нічога не было —

і Вавіла нічога не гаварыў яму, і Нона не плакала на лавачцы.

— Мы ж у розныя бакі, Іван.— Яна прыкусіла губу.— Я паеду пазней.

— Тады шчасліва!

— Табе таксама.

Ён пайшоў, адчуваючы на сабе яе позірк, баючыся азірнуцца, каб не сустрэцца вачыма. Потым пачуў сухі, як ляскат пугі, голас. Здаецца, гэта крычала Ноніна маці: «Ну, чаго стаіш, чаго вочы палупіла? Пайшоў і хай ідзе».

Іван ішоў сцежкай, якая вілася па гліняным хрыбце ўздоўж канавы, лёгка пераскокваў цераз вымоіны. У канавах абапал дарогі млела жоўтая веснавая вада. Далей ляжала поле — чорная, з густой глінянай замешкай зямля. Дзён праз пяць можна пускаць трактары...

У небе трапяталі крыльцамі, звінелі жаўранкі, і гэты звон выцягнуў шчымлівую тугу з сэрца. Побач з тугой жыла ў ім, саграючыся і шырачыся, радасць абнаўлення, а ў ёй — дарагім напамінкам яна — Вера...

*1970*

# ХОЛАД НА ПАЧАТКУ ВЯСНЫ

З таго дня, як да іх у хату зайшла Таня і папрасілася стаяць і маці пусціла яе, Кастусю стала цяжка жыць на свеце. Ён ніяк не мог вырашыць, каго яму любіць болей — Таню ці Людмілу, маўчком перажываў усё гэта, злаваўся, капрызіў.

Пакуль не было Тані, усё было добра: ён любіў Людмілу і ні пра што не думаў. Любіць яе было проста. Кожную раніцу ён бег да цёткі Аўгінні, бег як быццам да Гені і таптаўся ў парозе ці садзіўся на лаўку супроць печы — чакаў, пакуль Геня паснедае і можна будзе ісці на вуліцу. Але чаканне гэта было ўсяго толькі партызанскай хітрасцю. У сапраўднасці ж Кастусь чакаў не Геню, [redacted] той пары, калі адхінецца квяцістая шырма, што дзяліла хату на дзве няроўныя палавіны — невялікі закутак паміж печчу і вакном і ўсю хату,— і адтуль выйдзе Людміла. Выйдзе і скажа: «А-а-а, гэта ты, Кастусь...» — і ўсміхнецца мяккай прытомленай усмешкай. У яе былі шэрыя з карычневым, як у дзікай казы, вочы і тоўстыя цвёрдыя губы.

Кастусю было радасна і шчасліва чуць кожную раніцу і гэтыя словы, і Людмілін голас, бачыць яе вочы і губы. Губы ў Людмілы былі не такія ўжо і тоўстыя, як пра гэта гаварылі.

Некаторы раз з-за шырмы першая выходзіла Людміліна маці — цётка Аўгіння звала яе Поля, а ўсе жанчыны ў сяле проста «вы»,— такая ж, як Людміла, высокая, акуратная, строгая, і гаварыла тое ж самае: «А-а-а, гэта ты, Кастусь...» І тады сэрца ў Кастуся як абрывалася. Яму здавалася, што за шырмай больш нікога няма, што Людмілу ён больш не ўбачыць. Яму чамусьці думалася, што Людміла можа ў любы час знікнуць — з'ехаць куды ці сысці. Але ў закутку за шырмай чулася нейкае жыццё — там быў ложак, на якім спалі Людміла з маці, слон, куфар,— і неўзабаве з-за шырмы выходзіла сама Людміла.

У цёткі Аўгінні Людміла з маці атайбаваліся з восені, калі ў Буду першы раз зайшоў, размясіўшы мокрую вуліцу ў непралазную гразь, батальён Івана Васільевіча. Тады ў цёткі Аўгінні стаялі і Людмілін бацька — высокі вусаты мужчына, і Людмілін брат Віцік — цыбаты круглашчокі хлапец гадоў на шаснаццаць. Прозвішча іхняе было Карачун. У Будзе ўсе звалі іх агулам — Карачуны.

Батальён пастаяў з тыдзень, падаўся ці не ў Церабольскія лясы, з ім — старэйшы і малады Карачуны, і жанчыны засталіся.

Пасля таго батальён Івана Васільевіча яшчэ колькі разоў стаяў у Будзе, і тады ў цёткі Аўгінні было тлумна і весела. З хаты не вылазілі партызаны — часцей за ўсё гэта былі хлопцы. Прыходзілі да Віціка, і чапляліся да Людмілы, але яна была да ўсіх аднолькава спакойная, стрыманая, і гэта стрыманасць, гэта спакойная незалежнасць надта падабаліся Кастусю. Людміла была не такая, як усе! Яна была гордая і недаступная са сваёй мяккай прытомленай усмешкай. Пры ёй партызаны стараліся менш лаяцца і цішэй гаварыць. Мінала некалькі дзён, партызаны ішлі на аперацыю, і зноў жанчыны заставаліся адны, а само сяло прымаўкала, затойвалася.

Кастусь любіў, калі Людміла прыбіралася ў чорную спадніцу і ружовую, з вузенькімі дробнымі карункамі на грудзях кофту. Кофта была з нейкай надта тонкай матэрыі, праз якую нават прасвечвалася цела. Гэтую кофту Людміла надзявала толькі тады, калі партызаны наладжвалі танцы. Карачуны былі гарадскія і выдзяляліся сярод вяскоўцаў сваёй акуратнасцю, стрыманасцю і нейкім сваім гонарам. Нават у Людмілінай маці, хоць яна была і немаладая, хада была размераная, роўная, і сама яна трымалася заўсёды прама, а калі гаварыла з кім, то глядзела проста ў вочы. Кастусю здавалася, што яна вельмі цвёрдая характарам і сэрцам, што яна нават не ўмее, не можа і не павінна плакаць. Яго маці можа плакаць, цётка Аўгіння можа, а Карачуніха — не. Ён не ведаў, чаму ў яго з'явілася гэта перакананне, але яму так здавалася, і здавалася яму, што гэта добра... Яна, як і Людміла, была другая, зусім не такая, як усе іхнія вясковыя жанчыны. Некаторы раз ён думаў, што калі б ёй даць у рукі кулямёт, то яна страляла б немцаў не горш чым мужчына. І сам Кастусь баяўся яе. Баяўся яе вачэй. Нават і тады, калі яна гаварыла пра што-небудзь

далёкае, што яго не датычыла, яму здавалася, што вочы яе гаварылі зусім другое: «А я ведаю, чаго ты бегаеш сюды па пяць разоў на дні. Ве-е-едаю, мяне не падманіш!..» І Кастусь заўсёды апускаў вочы і стаяў патупіўшыся, як толькі яна загаворвала з ім. «Чаго ты такі надзьмуты? — пыталася яна.— Як ваўчок. Праўда, Людміла, ён падобен на маладзенькага ваўчка? Мне часам здаецца, што скора ён пачне кусацца...» Чым болей яна гаварыла, тым цяжэй было Кастусю вырвацца з улады чэпкіх яе вачэй, і ён наліваўся чырванню і яшчэ ніжэй апускаў галаву і маліў Бога, каб яна скарэй адчапілася ад яго... «Ну што ты, мама... Які ж ён ваўчок? Ён добры хлопчык»,— заступалася за Кастуся Людміла і гладзіла па галаве. Кастусю і радасна было, што Людміла стаяла ля яго, ён чуў цяпло яе рукі на сваёй галаве, чуў нейкі своеасаблівы, толькі яе, Людмілін, пах — нешта ад паху лесу і нейкага адэкалону ці пудры, і разам з тым ён увесь наструньваўся: саромеўся, што яго прымаюць за маленькага хлопчыка. Яму хацелася, каб на яго глядзелі, як на дарослага чалавека, ён жа не маленькі, яму ўжо скора будзе сем гадоў!..

Адзін раз Людміла нават узяла была яго на рукі, прыціснула да грудзей, і яму адразу стала горача і добра-добра. Хацелася, каб так было як можна даўжэй, хацелася чуць гэты своеасаблівы Людмілін пах, блізка бачыць ружовенькае — яно аж прасвечвалася на сонцы — мочка яе вуха, але Кастусь быў мужчына і ў хаце быў Геня, торкаў на яго пальцам і крычаў: «А-я-яй, маленькі! На рукі ўзялі! Маленькі Косцік!», і Кастусь напружыўся і выкруціўся з Людміліных рук...

Ён любіў утайкі глядзець, як Людміла стаіць перад люстэркам, расчэсвае густыя каштанавыя валасы.

Сам з сабой Кастусь часта думаў пра тое, як скончыцца вайна, усе раз'едуцца дамоў, і Людміла з маці, з братам і бацькам паедуць у свой горад, і як ён, Кастусь, вырасце, скончыць школу і прыедзе да іх, і як яна будзе радасна здзіўлена, убачыўшы яго — высокага, стройнага, у хромавых ботах і ў чорным галіфэ. Што будзе далей, ён не ведаў, але ведаў адно, што будзе нешта вельмі добрае.

Кожную раніцу, не паспеўшы паснедаць, ён лучыў момант, каб бегчы да цёткі Аўгінні.

А потым да іх прыйшла стаяць партызанка Таня...

Як толькі яна зайшла і спытала ў Кастусёвай маці, ці возьме яна яе ў хату,— яна так і сказала: «Ці возьмеце вы мяне ў хату?», а Кастусь быў якраз дома, калыхаў Вову — Кастусь зразумеў, што ў яго жыцці адбудзецца нешта вельмі важнае. Таня яму адразу спадабалася, і ён рашыў, што Людмілу больш любіць не будзе, а будзе любіць Таню. Яму было шкода Людмілу, але ён суцяшаў сябе: «Нічога. Людміла не будзе крыўдаваць, вунь да іх колькі партызан ходзіць і ўсе зыркаюць на яе». Яшчэ ён падумаў, што, можа, лепей адразу пайсці і сказаць ёй пра ўсё, але потым перадумаў: яна сама ўсё зразумее і так будзе лепш.

А Таня пастаяла ля парога, потым спытала, ці можна глянуць на дзіцятка, падышла да калыскі і радасна прашаптала: «Такое малюсенькае — тфу-тфу-тфу, хай расце здаровае»,— прашаптала так, быццам лепшай пахвалы, чым назваць Вову «малюсенькім», і не было на свеце... Адступілася назад да парога і засмяялася, весела глянуўшы на Кастусёву маці.

— І як вы адчаіліся на такое?

— На гэта адчайвацца не трэба. Зробіцца само, хоць і не загадваеш,— усміхнулася Кастусёва маці...

— А гаспадар пры доме? — пасур'ёзнела Таня, абводзячы хату вачыма, мусіць, шукала што-небудзь, што пацвердзіла б яе думку.

— Ваюе, так як і вы. У колькі месяцаў раз пакажацца, убачым жывога,— і зноў жывём чаканнем. А цяпер у нас ніхто не стаіць,— маці ўмудрылася адразу адказаць і на просьбу, і на апошняе пытанне. Кастусь бачыў, што і маці Таня спадабалася.

— Я шмат месца не займу,— зноўку засмяялася Таня.

І праўда, росту была яна невысокага, у чорным, завужаным у стане паўкажушку, валёнках, чорнай кубанцы, з нейкім простым, надта свойскім тварам. Кастусю здавалася, быццам ён яе даўно ведае, быццам сустракаў яе многа-многа разоў і быццам яны даўно ўжо з ёй пасябраваліся...

— Не ведаю, дзе толькі спаць пакласці? Сама я сплю на ложку, ля малога, хлопец на печы, і мужык, калі надараецца быць дома, ці на ложку, ці на печы. Хіба, можа, на канапе?

— О, такой бяды... Можна і на канапе. А калі змер-

зну, пусціш пагрэцца? — Цяпер Таня пазірала на Кастуся, і ён засмяяўся:

— Ведама што пушчу!

— Ну, от і добра... Я такая мярзлячка і так люблю печ.— Таня скаланула галавой, быццам ёй і цяпер было холадна, бліснула роўнымі белымі зубамі і павярнулася да Кастусёвай маці: — Скажыце, як вас завуць?

— Мар'я.

— А па бацьку?

— Мар'я Іванаўна.

— Мар'я Іванаўна... Я вас буду зваць Іванаўна. Добра? А я — Таня... А цябе як, таварыш сур'ёзны?

Кастусь таксама назваўся.

— Тады я пайду.— Таня ўзялася за клямку, але павярнулася, кіўнула на калыску: — А яго чым корміце?

— Пакуль цыцку даю і трохі прыкармліваю,— што ёсць...

— Цяжка з такім без малака. У нас у атрадзе карова ёсць. Для раненых трымаем...

— Колькі там у вас таго малака... А ён ужо нічога, прывык. І булён з лыжачкі п'е, і зацірку...

Таня пайшла, але неўзабаве вярнулася з невялічкім чамаданчыкам. Там было ўсё яе дзявочае багацце — невялічкае круглае люстэрка, грабеньчык з тонкай алюмініевай пласцінкі, некалькі касынак і яшчэ розная адзежа... Там жа ляжаў маленькі, загорнуты ў невялікую чорную шарсцяную анучку наган.

Маці дастала з куфра вымыты сяннік, набіла яго саломай, паклала на канапу, дала Тані падушку, коўдру...

— Ой, як слаўна пахне салома! — усклікнула Таня, калі першы раз лажылася спаць.— Іванаўна, вы ведаеце, калі я спала на такой пасцелі? Не ведаеце? Да вайны... А як пайшла ў партызаны... Якое гэта шчасце спаць вось так — разуўшыся, раздзеўшыся, і ведаць, што не трэба ўскокваць пры кожным шолаху, пры кожным голасе...

Аднойчы пад раніцу Кастусь прачнуўся ад таго, што яго нехта асцярожна пасунуў да сцяны... Ён расплюшчыў вочы. Гэта была яна, Таня. Яна ўбачыла, што ён расплюшчыў вочы, прыклала палец да сваіх губ: ціха, усе спяць! — і прашаптала яму на вуха:

— Была на пасту і страшэнна сакалела. Такі маразішча. Хачу пагрэцца ля цябе,— і прыціснулася да яго.

І рука яе, і шчака, і ўся яна сама былі халодныя-халодныя і пахлі марозам...

Кастусь ляжаў ціхенька, баючыся паварушыцца, баючыся глыбока дыхнуць... І ён яшчэ раз рашыў, што будзе любіць толькі Таню. Яна такая добрая, яна прыносіць Вову малако, і ў яе ў чамаданчыку ляжаць сапраўдны наган і дзве абоймы... А Людмілу ён любіць не будзе. Яна вельмі важная, і з ёй нельга пагаварыць пра вайну, бо сама яна не ваюе, ваююць яе бацька і брат Віцік... А Таня сама ваюе...

Да іх усё часцей і часцей пачаў заходзіць Жыбуртовіч, камандзір узвода — высокі, танклявы, у хромавых ботах і галіфэ, з прыгожымі чорнымі вусікамі над тонкімі губамі... І гаварыў ён заўсёды так, быццам падсміхваўся над Таняй, падколваў яе. Кастусю гэтыя смешачкі не падабаліся, ды і сам Жыбуртовіч не падабаўся, і яго дзівіла, што Таня ніколечкі не злуецца на Жыбуртовіча. Яна як быццам любіла гэтыя жарты, смяялася, а то і сама пачынала кпіць з яго. Кастусь пачаў думаць, што гэта так і трэба, усё ж Жыбуртовіч — камандзір, а Таня — простая партызанка... Неяк Жыбуртовіч прынёс Кастусю раменьчык з партупеі. Зусім новы, чорна-ружовы, з разрэзамі па канцах. І гэта толькі спачатку было, што Жыбуртовіч здаваўся хмуры, строгі і нелюдзімы. Ён быў добры, і Кастусь пачаў дазваляць яму прыходзіць кожны дзень і падоўгу гаварыць з Таняй... Некаторыя разы ён заставаўся і позна ўвечары. Хай застаецца. Хай гаворыць, калі яму так хочацца, хіба Кастусю шкода...

Потым неяк Кастусь устаў раніцай. У хаце было ціха, і на вуліцы не чутно было галасоў. Ён зірнуў на сцяну, дзе заўсёды вісеў Танін карабін: там было пуста... І маці была нечым заклапочана.

— Мама, а дзе Таня? — спытаў ён.

— Няма Тані. Пайшла разам з атрадам. І запомні, сынок, калі хто будзе пытацца,— у нас ніхто не стаяў, і ніякіх партызан у Будзе не было, і ты нікога не ведаеш... Запомніў?

— А хто будзе пытацца?

— Хто ні будзе. Можа, немцы будуць пытацца, можа, паліцэйскія. А можа, дасць бог, і ніхто не будзе... Кажуць, на станцыю прыбыў вялікі атрад немцаў і быццам яны ідуць з блакадай.

Кастусь пабег да Гені. Людмілы і яе маці таксама не было — і яны пайшлі разам з атрадам.

І Буда прымоўкла, прыціхла, насцярожылася... Усе жылі ў чаканні нечага невядомага, страшнага. Гаварылі ціха, быццам за кожным вуглом нехта падпільноўваў, сачыў, падслухоўваў. Але дні ішлі, а немцаў і паліцэйскіх не чуваць было. Гаварылі, быццам яны пайшлі другім бокам, за ракой, і там вялі баі з партызанамі. Жыццё ў Будзе мала-памалу смялела, у людзей крэпла надзея, што ўсё будзе, як і было дагэтуль, што немцы не пойдуць сюды. У Буду зноў пачалі наведвацца партызаны — па два, па тры. Прыедуць, павернуцца — і зноў не чуваць. Кастусь чакаў Танін атрад, а яго ўсё не было і не было, а калі перастаў чакаць, ён прыйшоў. Цяпер у Кастусёвай хаце разам з Таняй стаяў хмуры і ваўкаваты партызан Дзёмін. Да цёткі Аўгінні зноў вярнуліся Карачуны — усёй сям'ёй.

І зноў Кастусь любіў Таню і, як свята, чакаў той пары, калі яна намерзнецца на двары і прылезе да яго на печ грэцца. Такое свята цяпер надаралася вельмі рэдка, хоць на канапе цяпер спаў Дзёмін, а Таня перайшла спаць у першую хату. Там, у кутку за печчу, стаяў стары ложак, і цяпер на ім ляжаў Танін сяннік і падушка. Так захацела сама Таня. Яна доўга шапталася з Кастусёвай маці, тая ўсё адгаворвала: «Шчэ ж холадна, глядзі, застудзішся», але Таня настояла на сваім, засмяялася: «З ім не змерзнеш!», і маці пагадзілася з ёй, дала яшчэ адну коўдру, стары кажух... Цяпер Жыбуртовіч прыходзіў да іх кожны вечар, часта садзіўся і вячэраць. Чамусьці Кастусю хацелася, каб Таня хоць раз прагнала Жыбуртовіча — чаго ён да яе ўсё чапляецца? — а яна толькі смялася ды бліскала белымі зубамі. Цяпер, як толькі Кастусь бачыў Таню, яму ўспамінаўся Жыбуртовіч, і ён пачынаў злаваць на яго: калі ты камандзір, дык будзь камандзірам над усімі людзьмі, а то прывык тырчаць у адной іхняй хаце, ля Тані. І зноў Кастусю стала цяжка жыць на свеце.

Кастусь прачнуўся рана і прачнуўся ад радасці. Нешта добрае муляла ў галаве, не давала сну — і ён прахапіўся. Чарэнь ля коміна была яшчэ цёплая, і ён адсунуў пасцілку, дастаў нагамі да голай цэглы. Пазіраў у столь, у тое месца, дзе цямнела дзірка ад выбітага сучка ў

дошцы. На печы было яшчэ цемнавата, але дзірачка была добра відаць. Кастусь ведаў, што ў гэту дзірачку нанач уцякае спаць павучок. Гэта яго домік. Ён і зараз, мусіць, спіць там, падкурчыўшы лапкі. Узяць хіба ды пужнуць яго! Кастусь прыўстаў на калені, зірнуў на хату. І там яшчэ было шэра: ля печы сядзелі маці і Таня і пры жоўтым агні «смаркачыка» абіралі бульбу; на канапе, укрыўшыся паддзёўкай, спаў Дзёмін: ён нядаўна вярнуўся з каравула. І тут Кастусь як не закрычаў. Ён успомніў, чаму прачнуўся. Ён учора быў у цёткі Аўгінні, і Віцік даў ім з Генем па планшэтцы. Гэта былі зусім новыя планшэткі, са слюдзянымі перагародкамі, бліскучымі кнопкамі, з вузенькімі раменнымі паскамі, каб насіць планшэткі цераз плячо. Планшэтку можна было раскласці, як сшытак, а потым скласці назад і зашпіліць на раменьчык. Учора было позна, і Кастусь не паспеў нагуляцца з ёю і пафарсіць: маці адабрала і схавала планшэтку ў куфар, а яго пратурыла спаць. Кастусь ссунуўся жыватом на зачынак, гупнуў нагамі ў падлогу, падбег да куфра.

— Чаго гэта ты ўспароўся? — узняла на яго вочы маці.— Калі трэба малое пакалыхаць, дык цябе не ўстурыць, а гэта — гатоў. Лезь на печ.

— Мама, дастань планшэтку...

— А-а-а, вунь яно што... Планшэтка... А я-то думаю, ці не воўк у лесе здох, што Кастусь так рана прачнуўся...

Кастусь маўчаў. Падлога была халодная, і яму ўжо саднела ў ногі.

— Ідзі спаць,— ужо стражэй сказала маці, мыючы нож і рукі ў чыгуне.

Кастусь стаяў, унурыўшы галаву.

— Дайце яму, Іванаўна. Хай пацешыцца,— заступілася за Кастуся Таня.

Маці моўчкі ўстала, выцерла рукі аб трапкач, падышла да куфра. Адкінула цяжкое века і з дна, з-пад трубак палатна дастала планшэтку.

Кастуся толькі і бачылі. Ён шмаргануў на печ і, сеўшы спіной да коміна, пачаў адшпіляць і перашпіляць раменьчыкі, зашморгваў, каб яны былі якраз на яго рост, каб можна было перакінуць планшэтку цераз плячо. Зусім забыўся, што столь на печы нізкая, падскочыў і так гвазданууся галавой аб дошку — тую ж самую, з дзірачкай ад сучка,— што аж іскры пасыпаліся з вачэй і па-

вучок выскачыў з дзірачкі і пабег пад бэльку. Кастусь не заплакаў, толькі пашкроб балючае месца і сеў назад да коміна. Пачаў прыкідваць, што будзе класці ў кожнае аддзяленне планшэткі. Камандзіры кладуць туды карты, паперы. Ні карт, ні папер у яго не было... Успомніў, што некалі баба давала бацьку чытаць святыя кніжкі — тоўстыя, цяжкія, у цвёрдых чорных вокладках. Кнігі гэтыя ляжалі на паліцы. Бацька паціху вырываў лісткі з гэтых кніжак і курыў — без курыва ён не мог пражыць ніводнага дня... Можа, у кнігах яшчэ не ўсе лісты павырываны, тады можна было б выдраць і сабе... Кастусь зноў шуснуў з печы, падцягнуў слон пад паліцу. Якія кнігі! Ад іх засталіся адны вокладкі. Хоць бы лісцік. Кастусь узяў вокладкі.

— Вот я табе зараз пашвэндаюся дык пашвэндаюся,— матанулася маці па трапкач, і Кастусь ледзь паспеў шмыгнуць на печ.

У адно аддзяленне планшэткі ён засунуў вокладку ад адной кнігі, у другое — ад другой. Слюда адразу пацямнела, планшэтка пацяснела, стала цвёрдай і важкай. Як у камандзіра. І Кастусю здалося, што і ён сапраўдны камандзір, у галіфэ, з аўтаматам. Во зараз ускочыць на каня і — пайшоў на немцаў!

Пакуль Кастусь разбіраўся з планшэткай, павучок зусім асмялеў, вылез з-пад бэлькі і злавіў муху, пачаў укручваць яе ў павуціну. Дурніца: не паспела аджыць, пачуўшы вясну, а ўжо трапіла ў сіло. Кастусь узяў трэску і разарваў павуціну. Павучок уцёк у свой домік, а муха доўга яшчэ церабілася, пакуль выбілася на волю.

У хаце стала віднець. Таня канчала абіраць бульбу, маці перакладала дровы ў печы. Гаварылі напаўголасу, потым маці зусім нахілілася да Тані, і тая пачала шаптаць ёй нешта на самае вуха. Маці пільна слухала, аж рот раскрыла, твар яе выцягнуўся ў радасным здзіўленні. Яна не дала Тані дагаварыць, перабіла:

— Дык ты не рада?

— Не таму, што не рада, Іванаўна. Але ж страшна... Гляджу на вас,— вы і дома, у сваёй хаце, і то вунь як нялёгка. А я... Сёння тут — і добра, і цёпла, а што заўтра будзе?..

— Ніхто не ведае, што заўтра будзе, што нават сёння будзе...

Таня сабралася ў камячок, апусціла вочы.

— І не падумай, дзеўка... І сябе загубіш, і яго... А ён жа, бацька, што? — маці кіўнула галавой на двор.

— Як і вы. Кажа, і не думай...

— Ну во, бачыш... Нават калі і не тут будзеце, усё роўна недалёка адсюль... Прыйдзеш да нас, ці ж я цябе выганю, ты ж даўно, як родная нам...

— Дзякуй, Іванаўна, дзякуй. Можа, і рана яшчэ гаворку ўсчалі. Калі тое будзе...

— Не паспееш аглянуцца, дзеўка. Толькі беражыся. І на холадзе не прастойвай, і надта на сябе не грузі...— Маці ўскінула галаву, убачыла, што Кастусь звесіўся з-за коміна, разявіў рот, слухае іх — забыўся і на планшэтку, і на ўсё,— раззлавалася, крыкнула: — А ты чаго вушы развесіў? Бач, цікава яму. Глядзі вунь торбу сваю, бо забяру зараз і выкіну і не знойдзеш ніколі.

— Што я там слухаю... Нічога я не слухаю. Цікава мне дужа. У мяне во раменьчык не зашпіляецца...— Кастусь зноў пачаў калупацца з планшэткай. «Падумаеш, нейкія сакрэты там. А ён... а яна...» Кастусь разумеў, што ў іхняй хаце адбываецца нешта важнае, але ніяк не мог здагадацца, што гэта такое. Зноў пачаў быў услухоўвацца ў гаворку маці з Таняй, але так нічога і не зразумеў, а потым і зусім забыўся пра яе.

Усю раніцу ён насіўся з планшэткай. Нават калі снедалі — Таня, маці, Жыбуртовіч і ён,— планшэтка вісела ў яго цераз плячо. Дзёмін усё яшчэ спаў на канапе.

Жыбуртовіч пажартаваў:

— Давай-давай. Планшэтка ёсць, засталося дабыць аўтамат — і хадзі да нас. Канечне, калі маці адпусціць. А, Іванаўна? Адпусціш з намі?

— А хай ідзе... Ён мне кішкі ўжо ўсе пераеў. Там, можа, хоць вымуштруеце трохі, да парадку прывучыце, слухацца будзе...

— Ну, у нас гэта строга. У нас дысцыпліна жалезная... Дык пойдзеш у мой узвод?

— Пайду. Толькі ж у мяне аўтамата няма...

— Гэта можна паправіць. Трохі падрасцеш, падловіш немца дзе ці «бобіка» — і вось табе аўтамат.

Жыбуртовіч быў сёння нязвычна вясёлы, і ён зноў стаў падабацца Кастусю. Праўда, ён толькі гаварыў з Кастусём, а сам усё пазіраў на Таню, усміхаўся ёй, і яна яму ўсміхалася. Хай усміхаюцца.

Потым Кастусь выйшаў на вуліцу, сустрэў Жэню Ма-

рынінага і Аліка Матрунінага, паказаў ім планшэтку. Жэню нават даў надзець і пахадзіць з ёй па двары. А Аліку не даў. Хай ведае. Не трэба было заўчора піхаць Кастуся ў канаву. Вярнуўся дамоў пад абед. На двары было сонца, і на кастрыцы ля стопкі было цёпла, як летам. Раскінуўшы плямістую нямецкую плашч-палатку і прысланіўшыся спіной да задымленай бурай сцяны, там сядзеў Дзёмін. Ён пісаў пісьмо, прымасціўшы на каленях дошчачку, а паверх яе ліст паперы. Ён хмура зірнуў на Кастуся, не адрываючы руку з алоўкам ад паперы. Позірк яго быццам гаварыў: «Ну, чаго ты стаў? Не бачыў, як пісьмы пішуць?» І тут Дзёмін угледзеў планшэтку.

— Ану, хадзі, хадзі,— паманіў ён Кастуся пальцам.

Кастусь падышоў бліжэй.

— Пакажы,— працягнуў руку Дзёмін.— Пакажы свой планавік.

Кастусь зняў з пляча планшэтку, падаў:

— Гэта Віцік Карачуноў мне ўчора даў...

— Віцік Карачуноў, кажаш... У яго заўсёды знойдзецца што-небудзь. Ага... Добры планавік, добры.— Дзёмін расшпіліў планшэтку, зашпіліў.— Што малады, то і дурны. Нашто мальцу планшэтка. А камандзіру яна будзе добрая. А то яго сумка зусім абтрапалася...

Дзёмін гаварыў спакойна, ціха, не падымаючы на Кастуся вачэй, як бы сам сабе, і Кастусь адчуў, як душа яго правалілася ў ногі. Ён працягнуў руку:

— Аддайце...

Дзёмін нічога не сказаў. Абкруціў планшэтку рэменем, рыўком устаў, пацягнуў на сябе плашч-палатку. Ступіў колькі крокаў ад стопкі і раптам спыніўся, павярнуў галаву да Кастуся. Той стаяў як аглушаны.

— Ну, чаго глядзіш?

— Аддай планшэтку. Гэта не ты мне яе даў...

— Не я даў, ды я забраў. Табе яна для забаўкі, а камандзіру дакументы насіць...

— Камандзір каб хацеў, даўно ў немцаў узяў бы. Аддай...— Кастусь ірвануўся да Дзёміна, учапіўся рукой у планшэтку.

— Ну, малец, адстань,— усур'ёз зазлаваў Дзёмін і сціснуў Кастусёву руку так, што ў таго слёзы выступілі на вачах. Ён выпусціў планшэтку.— Рана табе з такімі цацкамі хадзіць. Вырасцеш, вывучышся на камандзіра,

тады і хадзі.— І Дзёмін пайшоў па вуліцы, цяжка ступаючы па мокрай, гразкай зямлі.

— Пачакай, я цябе дзе-небудзь падпільную,— закрычаў яму ў спіну Кастусь.— Падпільную і каменем.— Ён як не плакаў.— Будзеш ведаць... Знайшоў дзе ўзяць. Ты ў немцаў вазьмі, дык немцаў... баішся. А тут ваяка...— Кастусь пашукаў вачыма і знайшоў невялікі камень, узяў у руку, але кінуць у Дзёміна не адважыўся. А той ішоў сабе па вуліцы, коратка ўзмахваючы рукой з планшэткай. Вада пырскала ў яго з-пад ног, папружка ад планшэткі раскруцілася і матлялася, чыркаючы па гразі.

— Гаспадынька, мне б чаго-небудзь мякенькага, га? Трэба коніка майго падмасліць...— Дзёмін узняў угару пануры твар, паглядзеў на Кастусёву маці. Ён сядзеў на падлозе, заціснуўшы паміж ног кароткі тупарылы ствол ротнага мінамёта. Сказаў як быццам жартам, а твар змрочны, спакойны, і вочы сумныя.

— Не давай, мама, яму нічога. Ён учора ў мяне планшэтку адабраў...— не ўтрываў, апярэдзіў маці Кастусь. Сам ён сядзеў на ложку, гушкаў калыску з Вовам, цягаючы яе рукой за почапку.

— Ну, куды ты, малец, са сваёй планшэткай... Я ж табе сказаў, што планшэтка трэба камандзіру, на тое ён і камандзір. У яго ўсё павінна быць лепшае. І планшэтка і ўсё іншае...— Ён не то зморшчыўся, не то ўсміхнуўся.— Дык што, гаспадынька, мякенькае што-небудзь знойдзем?

— Чаму ж не знойдзем. Шчэ згалелі не настолькі, каб не знайсці акраек якой анучы.— Маці таксама злосная, быццам гэта ў яе Дзёмін забраў планшэтку. Яна выходзіць у сенцы і зараз жа вяртаецца, нясе рукаў старой бацькавай кашулі, кідае на ногі Дзёміну.

— А як там масла маё?

Маці зазірае ў печ, выгортвае качаргой бляшанку з двума рыльцамі, ставіць ля Дзёміна:

— Усю хату засмуродзіў...

— Хіба ж гэта смурод, гаспадынька,— ухмыляецца Дзёмін.— Гэта ж ружэйнае масла. Толькі загусла трохі, ляд яго бяры.

Ён ададраў ад рукава кавалак анучы, пачаў мазаць ствол. Мазаў і спяваў глухім, нудным голасам:

Не для меня весна придет,
Не для меня сад разовьется...

Спяваў, быццам у хаце быў адзін, толькі ён адзін. Быццам ля печы і не тапталася маці, а на ложку не сядзеў Кастусь і на печы не спала Таня.

На пе-е-ечке бедная Татьяна-а-а-а,
Она лежит — не для меня-а-а-а...

Разам з сумам і страшнай нудой у яго голасе прарывалася нешта надта шчымлівае, жаласнае... Кастусь злосны быў на Дзёміна і не хацеў прымірацца з ім, а песня бразмякчала яго, прымірала. Кастусю было дзіўна бачыць, што спяваў заўсёды хмуры Дзёмін. І спяваў пра нейкую «бедную Татьяну», а на печы ў іх ляжала партызанка Таня, і Кастусь не разумеў, чаму Дзёмін пяе, што яна ляжыць не для яго. Кастусь пазіраў з-за калыскі на Дзёміна, а сам думаў пра тое, што ўчора, пасля таго як Дзёмін панёс планшэтку камандзіру, Кастусь залез у яго брызентавую сумку — яна вісела на рагу ложка — і ўкраў дзесяць вінтовачных патронаў. Патроны Кастусю зусім не трэба былі, і ўкраў ён іх на злосць Дзёміну, за планшэтку. І зараз ён глядзеў на Дзёміна і думаў: «Гэта табе за планшэтку. Наляцяць немцы, ты пачнеш перазараджаць вінтоўку, палезеш у сумку, а там — раз-два — і ўсе патроны. Тады будзеш ведаць, як адбіраць планшэткі».

Дзёмін перастаў спяваць, узняў галаву:

— Таня, пусці пагрэцца... А, Таня? — Вочы яго не павесялелі, але ажылі, засвяціліся.

— Чаго ты прыстаў да мяне? Хіба гэта мая печ? Пытайся ў Іванаўны...

— Іванаўна і словам не абесціцца. Печ цагляная, хіба ёй шкода... І зноў жа. Я буду ціхенька ля боку ў цябе ляжаць, га?

— Ты б лепей пра жонку ўспомніў, пра дзяцей.

— Ці то дзеці яму наўме? — падтрымала Таню Кастусёва маці.

— Ты, Іванаўна, дарма гэта,— Дзёмін зноў спахмурнеў.— Жонку як жонку, а дзяцей я помніў і цяпер помню.

— Цяпер ты, можа, і жонку ўспамінаеш...

Дзёмін нічога не адказаў. Зноў нагнуўся над ствалом і зноў сумна зацягнуў:

На печке бедная Татьяна-а-а-а,
Она лежит — не для меня.

Зайшоў Жыбуртовіч, абабег позіркам хату; Кастусь

ведаў: шукае Таню. А яна цішком ляжала за комінам, і ад парога не было відаць яе.

— Камандзір... Непарадак ва ўзводзе,— узняў галаву Дзёмін.— Загадай ёй, каб пусціла пагрэцца,— Дзёмін кіўнуў на печ...

— А хто там? — як бы здзівіўся Жыбуртовіч, зазірнуў за комін. Убачыў Таніны ногі, усміхнуўся, прасвятлеў тварам.— У гэтым я ёй не камандзір... Тут у яе свой плацдарм...

— Ну во, чуеш, Таня. Камандзір сказаў, каб пусціла...

— Я і яму накамандую,— Таня прысела на печы, спусціла ногі на зачынак, правяла рукой па твары.

— Што, мала ночы было, не выспалася? — засмяяўся Жыбуртовіч.

— Ночы... Якая тут ноч. Досвіткам прыйшла пагрэцца, дык Іванаўна пасадзіла бульбу абіраць. Пакуль наабіралі, пакуль тое, сёе...— яна гаварыла і глядзела на Жыбуртовіча, і Кастусь бачыў, што ёй прыемна было і гаварыць так, і глядзець... І Жыбуртовічу таксама не хацелася адыходзіць ад печы. Але ён павярнуўся, падышоў да Дзёміна.

— Трэба Петрусевічаў кулямёт паглядзець. Заядае недзе. У дыску, мусіць. Вазьміся.

— «Вазьміся, вазьміся»... Хопіць з мяне гэтай дурніцы.— Дзёмін стукнуў рукой па ствале мінамёта, устаў, глянуў на Кастуся.— Ну, а я што казаў, малец? Камандзір ёсць камандзір. Ён загадвае, а я павінен слухацца. Хоць на мне вісіць і гэта дурніца.— Дзёмін, мусіць, чакаў нечага ад Кастуся, але той маўчаў.

— Мінамёт мінамётам,— нездаволена паморшчыўся Жыбуртовіч.— Петрусевіч кажа, што спружына барахліць. Прынясеш сюды. Тут у стопцы і апробуеш, далёка хадзіць не трэба... Толькі патроны эканом.

— У мяне адно і думак, як бы пастраляць. Як у яго,— Дзёмін кіўнуў на Кастуся.— Толькі і шукаю гэтай забаўкі...

— Ну, забаўкі не забаўкі... Ведаеш, не на гулянку сабраліся.

Пакуль Жыбуртовіч гаварыў з Дзёміным, Таня злезла з печы, прыткнула люстэрка ў куточак на акне, пачала расчэсваць валасы. Валасы былі густыя, грабянец не хацеў лезці ў іх, і Таня смешна моршчылася, торгала галавой, а Жыбуртовіч пазіраў на яе, усміхаўся.

— Дзе яны стаяць, ведаеш? — павярнуўся да Дзёміна і як бы забыўся на Таню, пасур'ёзнеў.

— Чаму не ведаю... За калодзежам...

— Ага...

Дзёмін вынес на двор мінамёт, паклаў на параконную фуру, на якой стаялі скрынкі з мінамі. Маці таксама выйшла некуды. У хаце засталіся Кастусь з Вовам — ён падаўно ўжо спаў,— Жыбуртовіч і Таня. Жыбуртовіч падышоў да Тані, абняў яе за плечы. Яна павярнулася, абняла яго за шыю, правяла рукой па шчацэ: «Калючы...» — «Ага»,— Жыбуртовіч пагладзіў яе па валасах...

«У-у-у, надумалі абнімацца... І ён, конь такі, і яна»,— злосна падумаў Кастусь і палез на печ.

— Увесь атрад пойдзе? — спытала Таня.

Жыбуртовіч кіўнуў галавой: — І не толькі наш.

— Я таксама пайду...

— Ты застанешся з раненымі.

— Не-а,— Таня пакруціла галавой.— Не.

У хату зайшоў Дзёмін, знайшоў Кастуся на печы.

— Табе, малец, відаць, няма работы, га? — спытаў, выціраючы рукі анучай.

Кастусь маўчаў. Ён цвёрда рашыў з Дзёміным не гаварыць.

— Бачу, што табе няма работы. Пайшлі са мной.— Дзёмін надзеў паддзёўку, падперазаўся.— Пайшлі, прынясём кулямёт, паглядзім, што там у ім.

— Кулямёт? — не паверыў Кастусь.

— Ага... Пайшлі, пайшлі. Табе тут няма чаго рабіць.

Кастусь у адзін міг саслізнуў з печы, уздзеў світку, паглядзеў на Таню і Жыбуртовіча:

— Калі Вова прачнецца і будзе плакаць, дасцё суслу. Яна ў калысцы.

— А няўжо ж,— засмяялася Таня.— Ідзі ўжо, ідзі...

Потым Кастусь з Дзёміным сядзелі на падлозе ля разабранага кулямёта. Кастусь ніколі не думаў, што кулямёт можна так разабраць — і ножкі адвінціць, і дыск, і затвор выняць... Дзёмін зняў крышку дыска — у Kocціка аж сэрца зайшлося: у дыску было поўна патронаў. Яны ляжалі кругам, акуратненька, дзюбкамі ў кучу, як кураняты пад курыцай. Дзёмін павылушчваў іх усе, як семкі, пакінуў толькі адзін, правяраў, як ён выскоквае. Пастукаў малатком па спружыне, падпілаваў беражок напільнікам, дастаў з сумкі маслёнку, змазаў. Потым

зноў наклаў поўны дыск патронаў, правяраў, як яны выскокваюць... Потым зноў пакінуў адзін. Зноў нешта падпілоўваў напільнікам. Зноў наклаў поўны дыск — акуратненька, адзін да аднаго, і яны не раскочваліся, ляжалі шчыльненька, сціснутыя спружынай. Змазаў і затвор, сабраў увесь кулямёт, апусціў рукі на калені і доўга пазіраў на Кастуся. Пазіраў і як быццам не бачыў яго. Кастусю нават страшна стала: чаго гэта ён глядзіць на яго так доўга. Можа, ведае пра тыя патроны? Ну і дасць... Але Дзёмін пачаў варушыць губамі, быццам гаварыў нешта без слоў, і нічога нельга было пачуць... Правёў рукой па твары, зморшчыўся...

— Цябе як завуць, малец? — запытаў нарэшце.

— Кастусь. Жывеш ужо колькі і не ведаеш. Як маленькі.

— Кастусь...— паўтарыў Дзёмін.— Кажаш, Кастусь. У мяне дома недзе такі падшыванец расце... Гэта не блізка, ажно за Віцебскам. Ты не ведаеш. І другі — большы... І трэці — яшчэ большы... Трое... Дык, гаворыш, Кастусём завуць... Добра...— І зноў ён гаварыў ціха, як быццам сам з сабой, гаварылі адны губы, а слоў не было чуваць, і Кастусю нязвычна было гэта і трохі боязна. Але Дзёмін раптам спрытна ўскочыў на ногі, лёгка падняў кулямёт за ствол, паставіў прыкладам на падлогу.— Пайшлі, праверым.

Спусціліся ў прыстопачнік. Адразу запахла сырасцю, плесенню, гнілой бульбай... Дзёмін паставіў кулямёт на калоду — яна стаяла ля самага ўвахода,— павярнуў так, каб кулі ішлі ў зямлю ля дальняй сцяны...

— Зачыні дзверы,— сказаў Кастусю. Кастусь зачыніў. У прыстопачніку стала цёмна, як ноччу, не верылася нават, што там, за дзвярыма, дзень і свеціць сонца.

— Стой ля дзвярэй,— загадаў Дзёмін, а сам угнуўся над калодай, упёр прыклад у плячо,— і зараз жа са ствала заблiскаў белы агонь, асвятляючы ўсё ў прыстопачніку: і твар Дзёміна — калючы і злы, і заляскатала — ду-ду-ду! ду-ду-ду! — Кастусю аж вушы заклала, і адразу густа і прыемна запахла порахам, зазвінелі, пасыпаліся на зямлю гільзы.

— Здаецца, нармальна,— сказаў Дзёмін.— Паспрабуем яшчэ раз...— і зноў заляскатала ўвушшу ў Кастуся, і, здаецца, затрэсліся, захадзілі сцены стопкі.

— Нармальна,— паўтарыў Дзёмін і таўхануў дзверы. Яны лёгка адчыніліся.

— А мне можна стрэліць? — папрасіў Кастусь.

— Малы ты яшчэ... І чуў жа, што казаў камандзір. Няма патронаў.

— У мяне патроны ёсць,— сарвалася з языка ў Кастуся.

— Ёсць?..— Дзёмін ужо хацеў выходзіць, а тут затрымаўся, пільна зірнуў на Кастуся, і голас яго зноў стаў чужы і глухі.— І многа?..

— Не, штук з дзесяць... А стрэльнуць дасі? Хоць адзін раз...

— Ладна, нясі... Толькі адзін раз...

Кастусь падбег да ганка, сунуў руку пад першую масніцыну і адразу пачуў прыемны, гладкі халадок патронаў. Выграб іх, прынёс Дзёміну... Той высыпаў іх сабе ў кішэню, зноў паставіў кулямёт ножкамі на калоду, даў прыклад Кастусю ў рукі.— Добра ўпірай прыклад у плячо і ногі шырэй расстаў, бо як дасць, дык на двор вылеціш. Ціснуць будзеш тут, на курок. Пачакай, я дзверы прычыню.— Ён грукнуў дзвярыма, і зноў у стопцы стала цёмна, цямней, чым было перад гэтым.

— Ну, давай,— нецярпліва сказаў Дзёмін. Кастусь націснуў на курок, але выстралу не было.

— Мацней цісні, мацней,— зусім зазлаваў Дзёмін. Кастусь ірвануў за курок з усёй сілы, прыклад моцна штурхануў у плячо, уперадзе бліснула полымя, і над вухам страшна гахнула.

Выйшлі на двор.

— Адкуль у цябе патроны? — спытаў Дзёмін. На Кастуся ён не глядзеў, думаў нешта сваё.

— Знайшоў за хлевам,— зманіў Кастусь і зірнуў на Дзёміна: ці паверыў той? Дзёмін маўчаў, быццам гэта яго мала абыходзіла.

На досвітку, яшчэ ў поўнай цемры, у Будзе чуўся неспакойны рух, то там, то сям прарываліся прыглушаныя галасы людзей, фыркалі коні. З хат у двары і з двароў у хаты снавалі людзі, нешта грузілі на падводы. Суха ляскаў метал аб метал, і звон яго быццам расплываўся ў густой цемры. Атрад рыхтаваўся выступаць.

Па вуліцы праехалі дзве чацвёркі коней — пацягнулі гарматы. Мокра цмокала тугая гразь пад конскімі капы-

тамі, ціха мацюкаліся на коней людзі, шукаючы ў цемнаце цвярдзейшую і не такую гразкую дарогу. Гарматы адправілі раней, яны будуць чакаць атрад у лесе...

У Кастусёвай хаце таксама даўно не спалі. Не спаў і Кастусь, ляжаў, галавой на хату, падпёршы рукамі бараду: каб усё бачыць. На стале бліскаў «смаркачык», кідаючы рваныя цені на падлогу і на сцены. І ва ўсім тым, што рабілася сёння, і ў саміх людзях была напружаная, трывожная дзелавітасць, няйначай, людзям трэба было зрабіць нейкую вельмі важную, цяжкую работу, і яны ведалі: чым хутчэй і лепш зробяць яе, тым будзе лепш. Сноўдаў, важка ступаючы нагамі, з хаты на двор і з двара ў хату Дзёмін. Некалькі разоў заходзіў Жыбуртовіч. Апошні раз ён зайшоў, калі ў вокнах пасвятлела і патушылі «смаркачык». Таня перадала яму фляжку. Ён узяў яе, падкінуў на руцэ.

— Што гэта?

— Чай. Каб не змерз, калі давядзецца доўга ляжаць на зямлі.

— Дзе ты ўзяла?

— У Іванаўны... Толькі шмат не пі. Ён злы...

— Я перад боем ніколі не п'ю...

Таня правяла рукой па яго шчацэ:

— Прымаладзіўся, як на свята...

— А як жа — у сваты едзем... А нявеста капрызная...

— Будзь асцярожны, Валодзя... Я баюся за цябе...

— Ты заўсёды баішся...

— Мне не хочацца заставацца тут.

— Дні праз тры вернемся. Арганізуйце сустрэчу.

— Тут мы арганізуем. Вы там глядзіце.

— Усё павінна быць добра... Усё будзе добра...

— Я адна буду мерзнуць,— Таня прыціснулася да Жыбуртовіча. Яе ўсю калаціла.

— Кастусь пусціць пагрэцца...

— Пусціць.— Таня падумала, ускінула галавой.— Ён не любіць цябе...

Яны не бачылі, што Кастусь не спіць.

— Няма чаго гаварыць. Яму ж недзе і сямі няма. Як ён можа любіць, не любіць... І чаму?

— Ён раўнуе... Учора залезла на печ. Паспрабавала абняць яго — не даецца, адварочваецца. «Чаму ты адварочваешся?» — пытаюся. «Ад цябе пахне Жыбуртовічам».— У мяне аж дух заняло.— «Як ты сказаў?» — пе-

рапытала. Паўтарае. «Вусамі, гаворыць, Жыбуртовічавымі пахне». Паляжалі, паляжалі, потым ён і кажа: «І нашто ты яго выбрала?» Кажу: «Ён добры...» Доўга ляжаў, думаў, а потым і кажа: «Ён носіць маю планшэтку». Памаўчаў трохі і зноў: «Але ты не бойся. Я і так буду цябе любіць...»

— Я не ведаў, што Дзёмін у яго забраў... Мне ён сказаў, што яму малады Карачун даў.

— Прывязі яму што-небудзь...

— Прывязу...

Хата адчынілася, у дзверы прасунуў галаву Дзёмін:

— Камандзір, усе пастроіліся...

— Іду.— Дзверы зачыніліся.

— Дык пацалуй мяне, камандзір...

— Будзеш пахнуць Жыбуртовічам...

— Няхай... Кастусь усё роўна абяцаў любіць...— Яна азірнулася на печ і цяпер убачыла, што Кастусь глядзіць на іх.— Праўда, Кастусь? — спытала ў хлапчука, але не жартам, як заўсёды, а зусім сур'ёзна.

— Ыгы,— адказаў Кастусь.

— Хіба што так...— сказаў і вялізны Жыбуртовіч і, не зважаючы на Кастуся, аблапіў Таню, заціснуў у сваіх руках, схаваў — такая яна была перад ім маленькая і так прыціснулася да яго, і здавалася, няма той сілы, якая раздзяліла б, разарвала іх. Яны гладзілі адно аднаму галовы, шчокі, плечы, застывалі на нейкі час, як нежывыя, потым зноў і зноў іх рукі ажывалі, быццам абое яны былі сляпыя і хацелі запомніць адно аднаго назаўсёды.

Кожная, нават самая доўгая, хвіліна канчаецца, і кожнае, нават самае зацяжное, развітанне — таксама...Жыбуртовіч выйшаў на вуліцу. Узвод стаяў па другі бок, ля плота, на сухім месцы. Усе партызаны былі маўклівыя, прыцішаныя, як не выспаўшыся. Жыбуртовіч прайшоў перад строем. Спыніўся пасярод.

— Дзе Карачуны?

— Мама не адпускае,— паспрабаваў пажартаваць нехта, але ніхто з партызан не засмяяўся, нават не ўсміхнуўся. Усе павярнулі галовы ў бок Аўгіннінага двара. Адтуль якраз выходзілі Карачуны — бацька і Віцік, за імі — побач са старым і трошкі ззаду яго — маці, а з другога боку, ля брата, Людміла. За імі ішла Аўгіння.

— Ты ж глядзі, аднаго яго не адпускай,— гаварыла Карачуніха, не зважаючы на тое, што на яе глядзяць усе

партызаны і што і мужык, і сын ужо сталі ў строй і глядзелі не столькі на яе, колькі на Жыбуртовіча.— І ты глядзі,— яна паправіла сыну каўнер пінжака, пацалавала ў шчаку і раптам заплакала, прыпала да грудзей.

— Ну, хопіць, Поля,— глуха сказаў стары Карачун і зморшчыўся.— Яшчэ хопіць часу наплакацца...

Падышла цётка Аўгіння, узяла Карачуніху за руку:

— Нядобра робіш, Поля, нядобра. Нашто растраўляеш ім душы. Ім і без тваіх слёз нялёгка. Хай ідуць здаровыя і жывыя вяртаюцца.

Жанчыны адышлі назад, пад вароты. Да іх далучыліся Кастусёва маці, Таня, з другіх двароў павыходзілі жанчыны. Кастусь стаяў у сваім двары, затуліўшыся за шулу. Ён доўга шукаў лапцікі, не знайшоў і выбег босы, у світачцы і вялікай зімовай шапцы. Зямля была сырая, халодная, і ён стаяў, мяняючы ногі, грэючы то адну, то другую на калошынах штаноў. Недзе за спіной у Кастуся ўзышло сонца. Яно холадна высветліла платы, галінкі дрэў, асвяжыла і нібы падвесяліла твары партызанаў.

Жыбуртовіч яшчэ раз прайшоў паўз строй, пільна прыглядаючыся да кожнага.

— Здаецца, усе...

— Пайшлі,— сказаў нехта глуха.

— Гаварыць нічога не буду. Куды ідзём, даведаецеся пазней, у дарозе. Канечне, не на вяселле. А зараз — шагам марш!

І яны пайшлі, грузна ступаючы па слізкай, нядаўна адталай, перамешанай коламі падвод, капытамі коней і многімі чалавечымі нагамі зямлі. Жыбуртовіч трохі адстаў ад калоны, азірнуўся на Кастусёў двор і ўгледзеў Кастуся — той выйшаў са сваёй схованкі і перабіраў сінімі азалелымі нагамі,— усміхнуўся. Ад жанчын адзялілася Таня, пабегла за ім, і яны пайшлі ззаду калоны аж да канца вуліцы і далей. Партызаны мінулі грэблю, узялі ўгору, але ні Тані, ні Жыбуртовіча не было відно. Потым ён прабег па грэблі адзін, дагнаў партызанаў, азірнуўся, памахаў рукой...

Бабы пачалі разыходзіцца па хатах. Маці ўбачыла Кастуся і таксама пагнала дамоў.

На чацвёрты дзень пасля абеду па пасёлку на ўзмыленым кані праскакаў Мішка з разведузвода. Гэты ша-

лёны Мішка на сваім кані мог пераскочыць цераз любую канаву, цераз любы плот. Ля Лісаветы — яе хата стаяла ў самым канцы — Мішка спешыўся, забег на хвіліну ў двор, нешта сказаў Лісавеце, ускочыў на каня і гэтак жа галопам ірвануў назад. Скора грукат капытоў пачуўся па насціле грэблі. Мішка і там не сцішыў каня.

Здаецца, Мішка ні з кім з Буды не гаварыў, толькі заехаў да Лісаветы, а па сяле, як па правадах, пабегла доўгачаканая вестка: «Партызаны разнеслі немцаў у пух. Усё добра. Атрад вяртаецца назад». Але гэта радасная вестка жыла, цешыла людзей, пакуль не стакнулася з другой, ціхай і страшнай, ад Лісаветы: Мішка сказаў, каб падрыхтавала хату. Туды прывязуць забітых партызанаў. Мішка не сказаў, колькі забітых і хто яны, але яны былі, і гэта значыць — не ўсё добра...

Гадзіны праз дзве па грэблі затарахцелі коламі падводы. На некаторых з іх сядзелі партызаны, але большасцю партызаны ішлі побач з падводамі ці збоч дарогі, па сушэйшым, а на падводах былі скрыні, цюкі, паверх якіх ляжалі карабіны, аўтаматы... Ля двароў на вуліцы стаялі бабы, чакалі «сваіх» партызанаў, сваіх пастаяльцаў.

Кастусь праз акно бачыў, як па вуліцы ідуць адна за адной падводы, як цяжка валакуцца стомленыя партызаны. Некаторых ён пазнаваў, некаторых не. Яму хацелася выбегчы на вуліцу, каб усё бачыць, усё чуць, усё ведаць, але маці пакінула яго з Вовам, а той не хацеў адзін ляжаць у калысцы, плакаў, круціў галавой. Кастусь калыхаў яго — усё было добра, Вова маўчаў; пачынаў тармасіць калыску — яшчэ лепей: Вова смяяўся, разяўляючы ружовы бяззубы роцік; а толькі пакідаў аднаго — ён пачынаў румзаць.

Кастусь убачыў Геню, той ехаў на ствале гарматы, абшчапіўшы яго рукамі. Нават Аліка Матрунінага партызаны пусцілі праехаць на падводзе, і ён сядзеў на скрынцы з патронамі так, быццам і праўда быў у баі, а цяпер вяртаецца разам з усімі. Нарэшце прыйшла маці, і Кастусь кулём выкаціўся на вуліцу. Геня стаяў ля свайго двара.

— А ў мяне ёсць аўтаматныя патроны,— пахваліўся ён Кастусю.

— Так я табе і паверыў!

— Паглядзі! — і Геня дастаў з кішэні два жоўценькіх

патрончыкі.— Папрашу, каб Мішка даў выстраліць... Думаеш, не дасць?

— Мішка-разведчык?

— Ага...

— Дасць...

— І я ведаю, што дасць. А цяпер давай сходзім да Лісаветы. Туды забітых партызанаў павезлі... І Віціка туды павезлі.

— І Віціка забілі?

— Ага... Іх заўтра павязуць усіх хаваць. І салют будзе. А Карачуніхі няма, і Людмілы няма, яны пайшлі выменьваць бульбу на адзежу.

Па вуліцы ўсё яшчэ ішлі падводы са скрынямі, мяшкамі. Адразу відаць было, што партызаны ўзялі вялікія трафеі. На адной падводзе рохкаў ладны, на паўкалёс, кабан з чыстай белай шчацінай і ружовымі капытамі. Ногі ў яго былі звязаны вяроўкамі і прывязаны за біліну. Ад парсюка пахла шчацінай і яшчэ нечым надта знаёмым, пра што Кастусь ужо зусім забыўся. Яму хацелася пакратаць кабана, і ён дастаў рукой да яго белага бока, правёў па шчаціне. Кабан рохнуў, быццам быў задаволены.

— Што, сала захацелася? — засмяяўся партызан, што сядзеў у перадку падводы. У яго быў добры настрой, і ён смяяўся, пазіраючы на хлопцаў, на тое, што яны на кабана глядзяць, як на якое дзіва.— Прыходзьце вечарам, хвосцік дамо. Во гэты, закручаны... Га?

Хлопцы нічога не сказалі, перагналі падводу і пабеглі наперад. Два шыраказадыя караткахвостыя біцюгі лёгка валаклі па грязі цяжкую гармату. Такіх гармат у партызанаў не было і такіх вялізных коней таксама. Яшчэ наперадзе два такія ж біцюгі былі ўпрэжаны ў даўгую зялёную фуру, высока нагружаную скрынкамі са снарадамі. У многіх дварах ужо стаялі падводы, ля іх мітусіліся партызаны.

Хлопцы зайшлі ў двор да Лісаветы. Тут нікога не было, у хаце таксама нікога не было чуваць. І хоць хлопцы не адзін раз былі і ў гэтым двары, і ў гэтай хаце, але цяпер парог пераступілі асцярожна, з нейкай апаскай. Як заўсёды ў цёткі Лісаветы, тут было ўсё чыста вымыта — і падлога, і вокны, і сцены, патыхала свежай прахалодай. Хлопцы патапталіся ля парога — ціха. Быццам у хаце ніхто і не жыве. Цішыня гэта бянтэжыла хлопцаў...

— Можа, іх не прывезлі? — прашаптаў Кастусь.

— Везлі... Аж на трох падводах... Я сам бачыў...

Геня падышоў да дзвярэй у другую хату, ціха таўхануў адну палавінку. Яна лёгка, быццам сама, пайшла. Геня пераступіў невысокі парог. За Генем у другую хату зайшоў і Кастусь. І адразу ўбачыў партызанаў. Яны ляжалі адзін ля аднаго ад акна і аж да сярэдзіны хаты. Спачатку Кастусю здалося, што яны спяць,— так мірна і звычайна яны ляжалі. Толькі ніякай саломы не было падаслана — усе ляжалі на голай падлозе. І пад галовамі ў іх нічога не было. І ляжалі ўсе тварамі ўгору. І нідзе не відно было ні аўтаматаў, ні вінтовак. І гранат не было відно. Быццам гэта былі не партызаны, а звычайныя людзі. Самы крайні ляжаў Жыбуртовіч. Ён і тут быў большы за ўсіх. Ля яго ляжаў незнаёмы стары партызан у кажуху і лапцях. Трэці быў Віцік. Твар яго быў белы-белы, а з рота вёў цёмны раўчук... У хаце было ціха-ціха, і Кастусю стала страшна. Ён пераводзіў вочы з аднаго партызана на другога і не мог паверыць, што ўсе яны нежывыя... Цяпер Кастусь пазнаў яшчэ аднаго партызана. Ён стаяў у Кудзінаў — такі ж малады, як Віцік, вясёлы. Любіў іграць на губным гармоніку. Тут ён ляжаў крайні ад акна.

Хлопцы хацелі ўжо ісці, як на двары пачуўся нейкі рух, і ў хату ўбегла Карачуніха, а за ёй Людміла. Валасы ў Карачуніхі былі растрапаны, Людміла была белая як палатно.

— Дзе ён, дзе мой сыночак? — ціха, шэптам, спыталася Карачуніха. Здавалася, яна нічога не бачыла, блукала шырока раскрытымі вачыма па тварах хлопцаў, пыталася ў іх. Раптам яна апусціла вочы ўніз — убачыла тых, на падлозе, і, як пераламалася, грымнула на калені і так, на каленях, дробненька перабіраючы, папаўзла ад парога. Дапаўзла да Віціка, прыўзняла за галаву.

— Сынок, што з табой? Дзе баліць? — Паклала галаву назад, абмацала ўсё цела — рукі, грудзі, ногі.— Сынок, што баліць? Скажы мне!..— Зноў прыўзняла галаву, правяла рукой па твары, згарнула валасы з ілба, зліплыя, скарэлыя, і цяпер убачыла на скроні маленькую ранку, што была прыкрыта валасамі.— Тут, тут баліць? Галоўка баліць? — і прыпала да сына, загаласіла, як зарагатала — сухім, надрыўным рогатам. Укленчыла, прыпала да брата і Людміла, затрэслася ў бязгучным

плачы. А Карачуніха раптам выпрасталася, уважліва паглядзела на спакойныя твары другіх партызанаў, быццам упершыню ўбачыла іх, пачала перапаўзаць ад аднаго да другога, праводзіла рукой па тварах, папраўляла валасы.

— Дык як гэта так, сыночкі? Дык за што гэта вас? Такіх маладых! Такіх прыгожых! — і зноў сарвалася, заматала галавой, загаласіла.

Кастусь не заўважыў, калі ў хату ўвайшла Таня. Убачыў толькі, як яна стала ля Жыбуртовіча, потым прысела на калені, падняла яго галаву. Асцярожна пагладзіла рукой па адной шчацэ, потым па другой. Як жывога. І застагнала, закруціла галавой: «Валодзя, Валодзечка-а-а!»

Нешта непраўдападобнае і балючае было і ў тым, як Карачуніха перапаўзала ад аднаго партызана да другога, брала іх за галовы, і ў ціхім Людміліным плачы, і ў Таніным «Валодзечка-а-а!», што Кастусь не вытрымаў, выскачыў на двор. Яму было аднолькава шкода і Карачуніху, і Людмілу, і Таню... Ён убачыў, што Карачуніха ніякая не цвёрдая. Яна такая ж, як і ўсе бабы... І Людміла. І Таня. І гэта адкрыццё не здзівіла Кастуся. Яму здавалася, што ён гэта даўно ведаў. Чамусьці ўспомнілася, як галасіла, ірвала на сабе валасы і ламала рукі цётка Аўгіння, калі прыйшоў пахавальны лісток на Геневага бацьку. Цётка Аўгіння ішла па пасёлку з канца ў канец з растрапанымі валасамі, пустымі вачыма, ускрыквала і хапалася рукамі за перапалоханага Геню, які церусіў побач з ёй, учапіўшыся за спадніцу.

Выйшаў з хаты і Геня і адразу пацягнуў Кастуся за руку:

— Пайшлі яшчэ немца паглядзім.

— Якога немца?

— Забітага. Яго прывезлі разам з партызанамі. Ён быў пераадзеты, і партызаны падумалі, што гэта свой. Ён ляжыць за Іванавым гумном.

Яны пайшлі.

— Гэта што... Гэта проста забітыя. Яны як жывыя,— гаварыў, як хвалячыся, Геня, пакуль яны ішлі па вуліцы.— А вунь Юзіка Марыльчынага, дык таго немцы ўсяго парэзалі...

— Як парэзалі?

— А ты хіба не бачыў? Я дык тады бегаў глядзець. Яго ўсяго пакалолі кінжаламі і зоркі на спіне павыра-

залі — як на шапцы, толькі вялікія. Я быў, калі яго прывезлі, і як мылі і як хавалі, і ўсё бачыў...

Адразу за Іванавым гумном стаяў азярод. Далей за азяродам была канава, за ёй ішлі лазовыя кусты. Між кустоў і далей — усюды шэрая рудаватая трава. Ступіш — вада выступае.

— Вунь ён, ля канавы,— Геня паказаў вачыма на кусты. Косцік глянуў у той бок... Ля канавы ляжаў ахапак чорнай саломы і на ёй нешта зялёнае, як усё роўна нехта здзеў і кінуў нямецкую адзежу.

Хлопцы наблізіліся да саломы. Там ляжаў немец. Адна нага ў тоўстай белай шкарпэтцы, другая — босая і зусім сіняя. На немцы былі зялёныя штаны і цёмная паддзёўка. На паддзёўцы, ля паясніцы — вялікая ржавая пляма. Відаць, яму патрапіла якраз у жывот.

— Бач, паддзёўку надзеў, хацеў, каб падумалі, быццам ён партызан,— сказаў Геня.— Але хваробу. Партызаны ведаюць, хто свой, а хто чужы.

— Ага. А ты яго не баішся? — Кастусь паказаў галавой на немца.

— Не-а.

— І я не баюся. Але я не хачу... болей тут быць. Холадна ў ногі.

І Кастусь і Геня былі босыя, ногі іх пачырванелі, сталі, як абмытыя бураковым квасам.

— А мне ніяк не холадна. Але і я не хачу тут быць. Пайшлі.

— Ён, мусіць, страляў у партызанаў?

— А няўжо ж не страляў. Усе немцы страляюць.

— І добра, што яго забілі. Болей страляць не будзе.

— Цяпер хай страляе. Мішка, што патроны мне даў, казаў, што іх там як дроў налажылі. А партызанаў усяго шэсць забілі.

— Затое партызаны нашы... і іх шкода.

Геня нічога не сказаў.

Дзёмін зайшоў у хату, кінуў вачыма па кутках, нікога не знайшоў і павярнуўся выйсці, але не выйшаў — зрабіў два крокі назад, зазірнуў на печ. Там, адаграваючы на чарэні сінія ад холаду ногі, сядзеў Кастусь.

— На, малец, забяры свой планавік,— Дзёмін працягнуў на печ руку з планшэткай.

У Кастуся вочы аж запрыгалі ад радасці. Ён скаціўся

з печы, схапіў планшэтку. Гэта была яна, яго планшэтка! Перакінуў раменьчык цераз плячо, але ён быў адпушчаны нізка, і планшэтка даставала да самай падлогі.

— Дай я памагу табе,— Дзёмін узяў планшэтку, прымераў, падцягнуў раменьчык, перакінуў Кастусю цераз галаву.— Ну во, зараз самы раз...

Кастусь паглядзеў на планшэтку, потым ускінуў вочы на Дзёміна. Той стаяў сярод хаты, пустым позіркам гледзячы на Кастуся.

— А ты болей не адбярэш яе?

— Не адбяру...

— Ой, як добра! — але тут Кастусь успомніў Жыбуртовіча.— А як жа...

Дзёмін зразумеў яго.

— Яму болей яна не трэба... Яму болей нічога не трэба. А табе яна якраз.— Ён пастукаў пазногцем па планшэтцы.— Пойдзеш у школу, будзе ў чым сшыткі насіць... Слухай, малец, пайшлі са мной... Я табе і паперы дам. У мяне ёсць блакноты. А то планшэтка ёсць, а ў ёй пуста...

— Добра...

Яны выйшлі з хаты. Ля стопкі, на кастрыцы, як і тады, калі Дзёмін адабраў у Кастуся планшэтку, была разаслана плашч-палатка. На ёй ляжала брызентавая сумка. Дзёмін дастаў з яе два блакноты і працягнуў Кастусю. З аднаго блакнота вываліўся невялічкі трохкутнічак-пісьмо. Адрас на ім быў напісаны хімічным расслінелым алоўкам. Дзёмін схапіў пісьмо, спяшаючыся сунуў у сумку. Кастусь паспеў убачыць, што ў сумцы было яшчэ некалькі такіх пісьмаў.

— Гэта ты дамоў пішаш?

— Дамоў...

— Сваім дзецям?

— І дзецям.

— А чаму не адсылаеш?

— Як жа я пашлю, калі яны па той бок, за фронтам. Будзе самалёт адтуль,— перадам, можа, і дойдуць...

— Чаму ж не дойдуць? Канешне, дойдуць,— запэўніў Дзёміна Кастусь. Дзёмін сумна ўсміхнуўся.

— Мама, а калі мне можна будзе жаніцца?

— Жаніцца? Як вырасцеш, дык і можна будзе. Чаму гэта табе засвярбела?

— А як вырасту, мне можна будзе ўзяць за жонку Таню?
— Якую Таню?
— Ну якая ты нездагадлівая. Нашу... Партызанку.
— А-а-а, вунь яно што...
— Ты, мама, не бойся. Я буду яе любіць...
— Добра, сынок...
— І цябе буду любіць.
— Добра, сынок... Добра... А зараз спі. Табе яшчэ трэба шмат расці.
— Я буду добра спаць і вырасту вялікі. Як Жыбуртовіч. І буду біць немцаў.
— Ага, сынок... Спі...
Ён заснуў. Яму снілася вайна.

*1967*

## СЯСТРУХА

Да старых Аркадзя наязджаў часта, і таму развітваліся проста. Маці засталася ў хаце, а бацька выйшаў на вуліцу, крыва тулячы ў каўнер голую галаву з радкавымі злямчанымі валасамі.

На дварэ вісела кіслая пахмурнасць, дзьмуў вецер — сеяў уедлівы дождж. Набліжаўся вечар.

— Дык я ж кажу: не таўчыся на тэй станцыі, на чорта яна табе. Там заўсёды людзей — пальца не праточыш. Едзь у Барок, прама да Яніны. І цёпла будзе і добра. Ноч пераспіш, а пад раніцу сядзеш на свой цягнік. І не бойся, яна прывыкла да пастаяльцаў. Загальскія ў яе, кажу, усе перабывалі. Ці едзе хто куды, ці вяртаецца адкуль, у каго пераначаваць ці торбу пакінуць? У Яніны. Ды ты ж і не чужы ёй, і яна табе, кажу,— сяструха. Яна рада будзе прывеціць цябе...— Стары зябка пацісnуў плячыма, пацёр непаслухмянымі азяблымі рукамі, сунуў іх у кішэні штаноў.

— Добра, зайду, хоць я і не памятаю ўжо, дзе яна жыве...

— Як уязджаеш у сяло, то ад вулачкі другая ці трэцяя хата па левай руцэ. Сам-то я да яе не заходжу... А табе

што... І зноў жа кажу — браценік ты ёй... А я злосны на яе...

— Мы гэта ўжо чулі. Ідзіце дамоў.

Аркадзя адчыніў заднія дзверцы «лятучкі», укінуў чамадан — ён пружыніста гупнуўся на скрутак дроту, што вялізным чорным клубком ляжаў на падлозе,— улез сам.

— Перадавай прывет Соні... Ды глядзіце,.каб усё добра рашылася... А абродзіцца — напішы, маці пад'едзе.

— Ды ўжо ж... Ідзіце, не калейце.— Аркадзя пацягнуў на сябе ручку. Бразнулі дзверцы, клацнуў замок, затарахцеў, заспяшаўся матор.

Дарога была — каламута непралазная. Машыну матала, як шалупайку на крутой вадзе. Учапіўшыся адной рукой за рычаг ціскоў, другой — за мокрую раму бакавога акенца, Аркадзя стараўся ўстояць на нагах, каб не рэзнуцца галавой у прыборны шчыток ці не напароцца на скрыні з інструментамі.

Машына завальвалася то на правы, то на левы бок, ды так, што здавалася, ужо і не вылезці ёй з гэтай гразі. Але праходзіла некалькі хвілін натужлівага выцця матора, і яна паўзла далей. Па падлозе ездзіў туды-сюды дрот, пад падлогай цмокала гразь, шумела, плёскалася вада. Па гулкім бляшаным версе і баках густа сек дождж. Пырскі яго праз акенца залятаў у будку, даставалі па руках, па твары, але Аркадзя не зважаў на іх. Ім авалодаў дарожны настрой — трохі прыўзняты, трохі трывожны. Радаваўся, што нарэшце выбраўся з Загалля. Якая ні расхлябаная дарога — заўтра ён будзе дома, у Мінску. Успомніў Соню — няўпэўнена спакойную апошнім часам, яе грузную, сонную паходку, і адчуў, як нешта балюча зашчымела ў грудзях. Пашкадаваў, што якраз цяпер сабраўся да старых, кінуў яе адну ў пустой кватэры. Ехаў на дзень, а затрымаўся на цэлыя тры. Хаця б усё было добра. Яна хадзіла апошні месяц, у любы час магла раскідацца. Яшчэ пашанцавала, падвярнуліся хлопцы на гэтай трасучцы. Нейкая траячка — і яны вязуць яго. Ім дзесяць кіламетраў — дваццаць мінут ходу, а яму лепшага і не прыдумаць: за каўнер не цячэ і па гразі не трэба валачыся. І няма чаго перціся на станцыю, трэба пастукаць, каб сталі ля Яніны.

Аркадзя прыплюшчыў вочы, паспрабаваў уявіць Яніну — і не змог. І не здзівіўся гэтаму: лічы, гадоў восем не бачыў.

Некалі Яніна жыла з бацькамі ў тым жа Загаллі, што і Аркадзя. Аркадзеў бацька і Яніліна маці былі родныя брат і сястра, і іх сем'і добра дружылі. Яніна была адна дачка ў бацькоў, Аркадзя таксама рос адзінцом — два яго браты-папярэднікі памёрлі, не набраўшы і па году,— але Яніна была на сем год старэйшая і выцыбалася ў гонкага падлетка, калі Аркадзя яшчэ выціраў нос рукавом.

Асірацела Яніна ў пачатку вайны з немцамі — загінуў бацька, потым памерла маці. З багацця за Янінай засталася вялікая — хоць ваўкоў ганяй — хата і акуты зялёнымі жалезнымі кантамі высокі куфар, з блізкай радні — Аркадзева сям'я.

Пасля смерці маці Яніна жыла адна ў сваёй хаце, але часта прападала ў іх, часта і начаваць заставалася. Потым выйшла замуж — за невысокенькага, нехлямяжага з выгляду, але вясёлага натурай, шчырага ахвотніка да чаркі гарманіста Іванку, ад іх і ў Барок пераехала — адразу на другі дзень пасля вяселля.

Аркадзю добра запомнілася і тое беднае пасляваеннае вяселле, і як падпіты Іванка з гармонікам у руках сядзеў верхам на куфры — забіраў Яніну да сябе. Яніліну хату яны рашылі прадаць.

А яшчэ перад гэтым, у вайну, у Яніны быў жаніх з партызанаў — стройны, чарнабровы, увесь у рыпучых рамянях Лёнька-ад'ютант. Не ўсцярогся ён. Перад самым прыходам нашых наткнуўся ў суседнім сяле на паліцэйскіх. Яніна моцна перажывала: яны з Лёнем збіраліся пажаніцца.

Пераехаўшы ў Барок, Яніна неяк надта быстра абсыпалася дзяцьмі — аднаго за адным радзіла хлопчыка і трох дзяўчынак — і закруцілася, заматалася ў хатніх клопатах. Пад гэтую пару Іванка навучыўся піць як трэба. Цяпер ён не прамінаў ні аднаго вяселля, што надараліся ў Барку і бліжэйшых ад Барка вёсках. На вяселле Іванка хадзіў адзін (Яніна заставалася з малымі). Ішоў ён па вуліцы вымыты, паголены, увабраўшы калашыны штаноў у галянішчы ботаў, наярваў на гармоніку, трымаючы яго, як роднае дзіця, перад сабой, як быццам у гэтым гармоніку і было ўсё яго шчасце. З вяселля Іванку звычайна прывозілі. Ці аднаго, ці разам з гармонікам — бруднага, закецанага, з сінімі слюнявымі губамі. Некалькі разоў Яніна адпраўляла яго ў бальніцу — «лячыць

алкаголь», і Іванка ахвотна пагаджаўся з ёй і рабіў усё, што раілі яму дактары. Пасля бальніцы ён вяртаўся дамоў прыціхлы, памаладзелы, з белым, быццам выкачаным у муку тварам і глыбокім бычыным сумам у вачах. Сум гэты засцілаў вочы да першага вяселля. Тады ўсё пачыналася спачатку.

Сам Аркадзя ў Загаллі не жыў з чатырнаццаці гадоў. Спачатку вучыўся ў тэхнікуме, потым служыў у арміі, потым зноў вучыўся — цяпер ужо ў інстытуце. Пасля інстытута гады два не мог ніяк зачапіцца за Мінск. З Янінай і Іванкам Аркадзя сустракаўся рэдка і ведаў, як яны жывуць, больш па тым, што расказвалі яму бацька і маці. А расказвалі яны заўсёды адно і тое: лаялі Іванку, шкадавалі Яніну — выскачыла за п'яніцу, ускочыла, бедалага, у замужжа, як у пельку.

Года паўтара назад Аркадзя пачуў, што Іванкі зусім не стала. Ён пераходзіў чыгуначныя пуці, кіруючыся з неразлучным гармонікам у свой Барок, і трапіў пад поезд. Экспертыза ўстанавіла, што ў гэты вечар Іванка быў цвярозы.

Гармонік яго застаўся цэлы.

...Дарога прыкметна параўнела, па баках і верху машыны застукалі галіны — пачаўся лес. Яго праскочылі мігам, і праз густое сіта дажджу Аркадзя ўбачыў адзінокі замглёны ліхтар. Ліхтар раскачваўся на ветры, кідаючы шырокія жоўтыя кліны на аплыўшыя, прыбітыя дажджом сцірты саломы.

Пад'язджалі да Барка...

Яніну хату Аркадзя знайшоў не адразу. Ён чамусьці лічыў, што хата павінна стаяць адна, асабняком — без хлява і стопкі, а другая і трэцяя хаты былі даўгія, пад адной страхой з хлевам і павеццю. Угнуўшы галаву ад дажджу, Аркадзя пастаяў у цемнаце пасярод вуліцы, чакаючы, калі падыдзе чалавек,— чуваць было, як недзе наперадзе ён шлёгаў вялікімі, уздзетымі ці не на босыя ногі ботамі. Гэта было дзяўчо гадоў дванаццаці, і на Аркадзева запытанне яно махнула рукой у бок трэцяй хаты і паклыгала далей.

У вокнах хаты, на якую паказала дзяўчо, свяціўся агонь.

Дома была сама Яніна. Яна прачыніла дзверы з сянец і ў бліскучым святле, што ішло ад лямпачкі пад круглай бэлькай, доўга ўглядалася ў Аркадзю. Ён назваўся. Яна

адразу праяснела тварам, і Аркадзя пазнаў у гэтай ёмкай жанчыне тую рухавую танклявую Яніну, якую памятаў і якую некалі вельмі любіў.

— Якім гэта ветрам занесла цябе? Ад сваіх, мусіць, едзеш... І як ты толькі дабраўся гэткай гразёю? Ці падвёз хто?..— адно за адным сыпанула яна пытанні.

— Бачыш, дабраўся,— усміхнуўся Аркадзя, узнімаючыся па слізкіх прыступках у сенцы і атрасаючы ваду з берэта і плашча.— А ты зусім не мяняешся. Усё такая ж, як некалі да Лёнькі бегала...

— Дзе ўжо тое, успомніў. Мусіць, і косці яго даўно сатлелі, і на памяць ніколі не прыходзіць... Старасць на хвост наступае,— адказала Яніна, пільна пазіраючы яму ў вочы. Забрала ў яго з рук плашч, павесіла ў парозе, на вешалку. Вочы яе блішчэлі па-маладому задумліва і сумна.

Аркадзя акінуў позіркам хату. Вялікая печ, ложак паўз сцяну, стол і канапа. Яны займалі ледзь не ўсю хату, пакідаючы праход у другую палавіну і месца, як развярнуцца вілачнікам. На самым праходзе на дзвюх табурэтках стаялі цынкавыя начоўкі з рудой мыльнай вадой. На падлозе ля іх грудай ляжала бялізна. Тут жа побач на керагазе грэўся вялізны чыгун вады.

— Ты не глядзі, братка, што ў мяне вэрхал такі. Гэта ж надумалася памыць транты. Усю восень не магла сабрацца — праца заела. І пагода такая. Ды ўжо ж распачалася...— Яна завіхнулася ля стала, прыняла талеркі, адчыніла дзверы ў другую палавіну, зірнула на Аркадзю. І зноў у яе вачах Аркадзя спаймаў насцярожанасць.

— Можа, там пачакаеш, пакуль кончу?.. Я зараз.— Засмяялася, бліснуўшы зубамі.— Хоць не... Сядай тут, на канапе. Мне адной сумна будзе.— Лінула з чыгуна гарачай вады ў начоўкі.

— А-дзе ж твае ўсе? Ці ты адна ўжо? — спытаў Аркадзя.

— Усе пры дзеле.— Яніна ўздыхнула.— Люся жыве са свякрухай у Львове. Піша, што чакаюць Геню,— ён з дня на дзень павінен заявіцца, апошні год даслужвае. Мяркуюць сюды заехаць... Коля і Валя ў школе-інтэрнаце, пад Барысавам. Збіраюся ў гэтым месяцы праведаць іх. Пятрок на электрастанцыі ў начную. Толькі што дзверы за сабой зачыніў. А меншая пры мне... Укінула

трохі, дык ляжыць на печы, жалобу носіць.— Яніна кіўнула галавой на печ, за занавеску.

На печы нешта зашамацела, заварушылася, і з-за коміна высунулася галоўка з белымі распатланымі валасамі і круглымі заплаканымі вачыма.

Аркадзя ўспомніў, што ў чамадане ў яго павінны быць гасцінцы. Дастаў цукерак, некалькі яблыкаў, падаў на печ. Дзяўчынка не хацела браць. Сказала маці:

— Мама, ён дае мне.

— Дык вазьмі, дурнічка. Гэта ж твой дзядзька Аркадзя.

Дзяўчынка лягла на жывот, працягнула левую руку: спачатку ўзяла цукеркі, паклала ля сябе, потым яблыкі. Села, спусціўшы ногі з печы, пачала перакладваць гасцінцы на прыполік. І тады Аркадзя ўбачыў, што яна калека, што правая рука ў яе карацей за левую і згорнутая лодачкай далонька вельмі ж маленькая. З расшпіленага рукаўчыка яна звісала, як жоўтае абскубленае крыло.

Нешта гарачае і балючае ўдарыла Аркадзю ў галаву. Ён ведаў, што, бывае, нараджаюцца дзеці-калекі. Бачыў такіх дзяцей, і з пакручанымі нагамі, і з усохлымі рукамі, але то былі чужыя дзеці, і ён хутка забываўся пра іх, толькі горкі асадак заставаўся на душы пасля сустрэчы з імі. Ён не дапускаў думкі, што такая бяда можа напаткаць каго-небудзь з блізкіх яму людзей ці нават яго самога. Ён прыпомніў, што маці неяк гаварыла яму пра тое, што ў Яніны расце дзяўчынка з усохлай ручкай. Нават прасіла распытаць, ці няма дзе ў Мінску ці ля Мінска такой школы, дзе вучылі б такіх дзяцей, каб адправіць яе туды... Але ён забыўся пра гэту просьбу, зусім забыўся, выпала з памяці. Ды ён ніколі не думаў, што гэта так страшна.

— Як цябе завуць? — спытаў ён у дзяўчынкі, усё ніяк не адважваючыся адступіць ад печы.

Яна зноў засмяялася.

— Мама, ён пытаецца, як мяне завуць...

— То чаму ж ты не скажаш?

— Не хачу. Ты сама скажы...

— Ладна ўжо, што з цябе возьмеш. Галя яе завуць,— адказала за дачку Яніна.— Вялікая ўжо, у другі клас ходзіць. Калі дык зусім нармальная, як і трэба, а калі — як дзіця трохгадовае. Піша добра, добра чытае, а арыфметыку не ўмее — ні складаць, ні адымаць. Яшчэ калі

пасядзіш вечар, дык што-небудзь зробіць, а не пасядзіш — дык і ўсё, двойку прынясе... А сёння занатурылася саўсім: не буду вучыць урокі. Я і просьбаю, я і грозьбаю — не памагае... Узялася за папругу. То ляжала на печы, румзала, а гэта, бач, развесялілася.

Яніна мыла і гаварыла, узнімаючы галаву, адмахваючы мокрай рукой валасы, што наплывалі на твар з-пад хусткі. Выпрасталася над начоўкамі, выцерла ўспацелы твар, узняла вочы на Аркадзю.

— Хай бы ты, братка, расказаў, як сам жывеш, як Соня?.. Хоць бы прывёз калі, паказаў... Можа, займелі ўжо каго — сынка ці дачку?

— І займелі і не... У гэтым месяцы павінна раскідацца... А жывём...— Аркадзя ўздыхнуў.— Сказаць, добра — не, сказаць дрэнна — таксама не. Так сабе...

Гэта пытанне «як жывеш?», з якога ледзь не заўсёды пачыналася гаворка, варта было толькі сустрэць каго-небудзь з землякоў ці знаёмых, заўсёды ставіла Аркадзю ў тупік. Што значыць «добра»? Ёсць кватэра, халадзільнік, тэлевізар? Добрая зарплата? Добрая жонка? І ўсё? І жыві? І што значыць «дрэнна»? Калі нічога гэтага няма — ні кватэры, ні халадзільніка, ні тэлевізара? Не-е-е, усё гэта не так проста. Мусіць, усё гэта «добра-дрэнна» вызначаецца не гэтым паўсядзённым — кватэра, зарплата, без чаго не можа жыць кожны нармальны чалавек, а нечым другім, больш глыбокім, тым, адкуль ідзе задаволенасць самім сабой, сваёй працай, сваім жыццём...

— Не, братка... Што тут думаць. Я лічу так, што калі год прайшоў і ўсе жывыя, усе здаровыя — ніхто не захварэў, ніхто не памёр,— значыць, добра...

Аркадзя пацісnуў плячыма: хто яго ведае, можа, і так.

— А то яшчэ не паспее прывітацца чалавек, а ўжо цягне: колькі там у цябе выходзіць... Мусіць, лапатай грошы грабеш. Як быццам у тым, колькі зарабляеш, і ўся праўда.

Яніна засмяялася.

— Значыць, ты мала зарабляеш. Хто многа мае, любіць, калі ў яго пра гэта пытаюць... У нас тут сусед ёсць, Абора. Дык сына яго пасылалі за граніцу, нейкі завод будаваць. Два гады ён прабыў там. Прыехаў на сваёй машыне, дом вялікі адразу пабудаваў. Сам чысты, тоў-

сты, і жонка — загладуха такая, у дзверы не пройдзе. Дык той любіць, калі ў яго пытаюць пра грошы. Там добра плацілі. Любіць пахваліцца. Кажа, яшчэ б паехаў, калі б сказалі...

Яніна кончыла мыць, вынесла ваду на двор.

— Ну, а зараз можна паказаць табе і новую хату,— сказала, выціраючы рукі.— Ты ж, мусіць, у ёй і не быў яшчэ... Хаця, што я кажу, адкуль табе быць...

Яніна прайшла ў другую палавіну, шчоўкнула выключальнікам. Пад белай столлю загарэлася лямпачка. Хата была ладная, з жоўтай, нядаўна пагабляванай падлогай, сцены абклеены зялёна-жоўтымі шпалерамі. У левым куце стаяў высокі двухспальны ложак, у правым — стол, між імі — дзежачка са старым фікусам. Злева, ля дзвярэй, бялела печ. Было прахладна, пахла сырой глінай. Адчувалася, што тут яшчэ не жылі.

Яніна стаяла, прысланіўшыся спіной да вушака, пазірала на Аркадзю. Маўклівая, засяроджаная, цяпер яна яшчэ больш напаміналы Аркадзю тую далёкую, маладую Яніну — шырокі смуглы твар, адкрыты высокі лоб з густымі разлатымі брывамі. Толькі твар цяпер пастарэў, шырэйшым стаў падбародак, маршчыны пабілі лоб. І Аркадзю зрабілася шкода яе, тую Яніну, і ён сказаў:

— Ты маладзец, Яніна, такая маладзец... што я і не ведаю, як і хваліць цябе...

Яніна ўсхліпнула носам, заміргала, твар яе скрывіўся, але яна зараз жа ўзмахнула галавой.

— Ой, што гэта я. Баба, як-богу, баба...— І ціха, даверліва: — Яна дасталася мне, гэтая хатка. Не дай божа яшчэ каму так... Гэта ж за адным толькі лесам колькі папахадзіла, пакуль вытрабавала... А то ж яшчэ і не работа была. Уся работа пачалася тут, на двары, як перавезла лес... Усюды ж сама, усюды адна... Дагаварылася з мужчынамі, павінны былі прыйсці рубіць, а Іванка гармонік цераз плячо і ў Камень, на вяселле. Хоць і грэх пра нябожчыка нядобра гаварыць, але хто б так зрабіў... Трэба не сэрца ў грудзях насіць, а камень. Кажу, пацярпі, хоць пакуль зруб скідаем, памажы. Дзе там! Кажа, вечар пайграю і прыйду. Божа мой, як я на яго тады раззлавалася. Падумаць толькі, чужыя людзі хату рубяць, а гаспадар вяселле гуляе... Праўда, вяселля не было, жаніх перадумаў, не прыехаў, і Іванка ішоў дамоў. Ішоў і не дайшоў. Збіраліся будаваць адну дамоўку, а збудавалі

другую. Дзякуй людзям, прыхінуліся — і на могілкі занеслі і музыку нанялі. Пахавалі мы яго... Прыйшла я дамоў з могілак і не ведаю, што рабіць, за што рукі зачапіць. І жыцця ў нас з ім не было, адны сваркі, але ж неяк смялей было, усё ж мужчына быў у хаце. А гэта адна засталася, на руках трое. Дваіх — Колю і Валю — устроіла ў інтэрнат, Люся ўжо сама жыла, у Асіповічах, а меншая засталася са мной. Пазвала я мужчын зноў — давайце будаваць... І Пятрок разам з імі... Ён электрык, а тады без работы быў — ці то водпуск узяў, ці так што... Родам ён з Заходняй, з-пад Лунінца, быў жанаты, недалёка тут, развёўся... Нацюкаюцца за дзень мужчынкі мае, павячэраюць — і дамоў. А яму і ісці няма куды. Стаяў на кватэры ў адной бабкі — яна да сына на лета паехала, пакінула яго аднаго ў доме... Куды ты, кажу, хадзіць будзеш, заставайся; спаць, дзякаваць Богу, ёсць дзе, а чуць свет усё роўна трэба прыходзіць. Ён застаўся і застаўся... Сам і мост слаў, і столь, і вокны асаджваў... Так мы і сышліся.

Яніна выцерла вочы, усміхнулася сумна.

— А людзі,— паспрабуй зразумей іх. Жыла я з Іванкам, дня яснага не бачыла,— уздыхалі, шкадавалі мяне. А сышлася з Петраком — ён і шануе мяне, і памагае — і дома, і ў саўгасе — і людзей як падмянілі. Пачалі смяяцца, нагаварваць — і ў вочы і зачы. Чаго я толькі не наслухалася! Як быццам я ўжо не я, як быццам я зрабіла нешта брыдкае, як усё роўна ўкрала што... І дзядзька, бацька твой... Думала, хоць ён зразумее... Не ўпадабаўся яму Пятрок... І, ведаеш, чаму? Пачаў сварыцца бацька на нас, што рана мы сышліся, маглі б пагадзіць трохі... А Пятрок ды і ляпні: вучыць усе разумнікі, а як да помачы, дык нічога не ўбачыш... Не трэба было яму гэтага гаварыць. Якой ён помачы хоча. У кожнага сваё жыццё — у вас сваё, у нас — сваё. Ну, бацька шапку на галаву — і за дзверы. Я за ім. Дык ён на мяне: ты і старая, ты і такая, а ён малады, прыгожы... Не смяшы, кажа, людзей... Ці ж ён будзе жыць з табой?.. А я што... Я ведаю, што я не дзевачка, што мне не шаснаццаць... Але ж ён паважае мяне. І я ажыла пры ім, сагрэлася, адтала душой і целам... І хай будзе, як будзе... Але скажу, братка: навучыліся мы гараваць, навучыліся шкадаваць, толькі не навучыліся радавацца. І не хутка, ой не хутка навучымся...

...Потым яны сядзелі за сталом, вячэралі. У хаце было спакойна, цёпла. Па чорных шыбах, як чарвякі, спаўзалі раўчукі вады: за акном ішоў дождж. На печы ціха пасапвала Галя.

Гаварыла болей Яніна. Гаварыла быстра, быццам спяшалася нагаварыцца. Часам замаўкала і моршчыла лоб, задумвалася. Некалькі разоў Аркадзя лавіў на сабе яе цікаўны позірк. Але як толькі ён узнімаў вочы, яна адварочвалася. Усё ж не ўтрымалася:

— А я, як толькі ты прыйшоў, як толькі пазнала цябе, падумала, што і ты смяяцца будзеш... Ажно не.— І сама засмяялася, але зноў жа пасур'ёзнела.— Скажы, Аркадзя, а чаму вы не прыехалі на Люсіна вяселле? Я ж пісьмо вам пасылала...

— Пісьмо? Ага, помню, было пісьмо... А не прыехалі чаму... Здаецца, я ў камандзіроўцы быў...

— А мы чакалі вас... Два разы на станцыю бегалі — пад магілёўскі і пад калужскі... І назаўтра. Думалі, можа, у суботу не было як, дык у нядзелю, на другі дзень... А вяселле добра прайшло, прыгожа. Людзей шмат было — аж на восем сталоў... Бацькі маладога прыехалі з Украіны, сястра... Толькі маёй радні не было... Нікога... Цешыла сябе, што хоць вы прыедзеце з Соняй, паплакала трохі...

— Я не мог... Ты ж ведаеш, камандзіроўкі ў мяне часта,— зноў загаварыў Аркадзя і раптам замоўк. Адчуў, як жар апаліў твар. Ён успомніў, што ні ў якой камандзіроўцы ён не быў, ды і пісьмо Яніна прыслала, мусіць, за месяц да вяселля. І яны з Соняй надумалі ўжо былі ехаць... Але тады ў Мінску ішоў дождж, на дварэ было мокра, няўтульна, і ён раптам уявіў сябе і Соню на раскіслых вуліцах Барка і як яны цемнатою будуць слізгацца па гразі... І ён сказаў Соні, што, мусіць, нявартa ехаць... Ён нешта тлумачыў Соні, і яна згадзілася, нічога толкам не зразумеўшы...

...Яны ледзь не праспалі поезд. Упохапкі апрануліся і выскачылі на вуліцу. Тут было цёмна і сыра. Капала з бяроз. Ішлі моўчкі, трымаючыся плота, абмінаючы цёмныя лужыны. За сялом, у ляску, Яніна першая парушыла маўчанку. Голас яе быў густы, хрыплаваты пасля сну.

— А вы як, дружна жывяце з Соняй?

— Не надта,— адказаў Аркадзя.— Часта сварымся.

То я злуюся на яе, то яна на мяне. Асабліва цяпер. Надта капрызная стала, незгаворлівая. То цэлы вечар бурчыць, то маўчыць, быццам язык праглынула...

— Ты не крыўдзі яе. Я-то яе не бачыла, але мне здаецца, што яна ў цябе талковая баба. А талковую бабу гэтак жа цяжка знайсці, як і мужыка, які гарэлкі не п'е. Павер мне, я гэта ведаю. А што капрызіць, дык гэта бывае. Усё яно пройдзе, хай толькі абродзіцца. Ведай, што яна ўжо не адна. Ёй трэба за дваіх думаць... Ты гэтаму не дзівіся. Я чацвёртай хадзіла, Галяй, і то як звер была. Хто што ні зробіць, што ні скажа,— усё не па мне. А гэта ж першае... Божа мой, колькі страху, колькі радасці!.. Было, ляжу ноччу, суцішуся, а яно таўхель у бок, таўхель. Аж слёзы на вачах. А ты кажаш: маўчыць, злуецца...Я думаю, што, можа, і дрэнна рабіла, што вельмі добрая была да Іванкі, мала злавалася... Было, прыйдзе ён дамоў п'яненькі, як зямля, і лезе ў пасцель. Можа, таму, што п'янага падпускала, і радзілася Галя калекай... Можа, каб стражэйшая з ім была — і не была б яна такой...

Яна сціхла. Нейкі час ішлі, думаючы кожны сваё. Наперадзе мутнымі кругамі заружавеліся ліхтары — адзін, другі, трэці... І тады Яніна сказала задумлівым голасам:

— Мне трэба яшчэ дзіця. Ад Петрака... Хачу, каб гэта быў хлопчык...

І вось ужо Аркадзя стаіць у тамбуры, а Яніна на цёмнай сырой платформе. Пасур'ёзнеў яе твар, і ўся яна стала строгай, засяроджанай і чужой. Такім звычайна бывае чалавек на пачатку новага дня.

Яніна не стала чакаць, пакуль поезд кранецца. Павярнулася і пайшла паўз палатно — шырокай, спорнай хадою. Была яна ў бліскучых гумавых ботах, у мяккай бардовай хустцы, якая цёплым клінам ляжала на плячах,— і ў Аркадзі стала цяжка на сэрцы, быццам ён развітваўся з Янінай назаўсёды.

А дарога вяла Яніну ў бок электрастанцыі.

*1968*

# МІКОЛА ВЯРНУЎСЯ

Чуткі, як грыбы, амаль заўсёды вырастаюць на пустым месцы. Прыйшла, быццам з неба звалілася, нейкая новая вестка і пайшла гуляць па сяле, як п'янаваты дзядзька,— ад двара да двара. І не проста гуляе — на хаду абрастае новымі прыдумкамі, як сабака дзядамі, перарастае ў пагалоску. Ідзе час, і раптам быццам прыадчыняецца нейкая засланка, і ўсе бачаць, што пагалоска гэта — не проста бабскія плёткі, а самая шчырая праўда!..

Цяжка сказаць, хто першы ў Глыбачцы пусціў чутку пра тое, што Марфінага Міколу выпусцілі і ён вяртаецца дамоў, ды мала хто паверыў гэтаму. Як гэта вяртаецца, калі яму ўляпілі сем гадоў, а адбыў ён усяго пяць, і на́ табе — дамоў. Тут нешта не так... Хіба, можа, захварэў крэпка? Дык жа здаравя́ка быў, шафёр, пасля арміі...

Сем гадоў Мікола адхапіў за тое, што забіў айчыма. Як яно ўсё гэта выйшла, ніхто не бачыў. Разам пілі, відаць, добра набраліся, айчым, мусіць, сказаў нешта насуперак. Яны і раней не ладзілі, не зжыліся з самага першага дня, не любіў Мікола айчыма, не ўпадабаў старога, раўнаваў да маці, і сам чалавек гарачы, няўступчывы, і во — пляшкай па галаве. А пляшка ад шампанскага, як гіра. Месяцы тры перад гэтым адгуляў Мікола сваё вяселле, з той пары і засталася. А колькі там трэба было старому...

Вось і загрымеў Міколка... Адны лічылі, што сем годзікаў — многа, другія — што замала, трэба было болей, усё ж чалавека загубіў. А цяпер гавораць, што Мікола неўзагадкі павінен вярнуцца дамоў. Хоць хто мог сказаць? Відаць, маці, Марфа. Ёй балела болей, як каму...

Вяртаецца, ну і хай вяртаецца. Адусюль людзі вяртаюцца, калі чалавек жыў-здароў ды мае ахвоту вярнуцца. Толькі з таго свету няма звароту: Усявышні — гаспадар незгаворлівы, не адпускае сваіх служак назад, на зямлю.

Пагаварылі людзі пра гэту навіну дый пайшлі далей жыць, рабіць кожны сваю работу. Чужая болька мала баліць. Толькі Марфа ды Люся, Міколава жонка, і чакалі яго з дня на дзень. Ды яшчэ, можа, маленькая Міколава дачушка, яе Люся нарадзіла ўжо, калі Мікола адбываў

сваё, заробленае, хоць што яно магло разумець, гэта дзіцянё? І зноў жа, жанчыны стараліся не ўспамінаць пра Міколу на людзях: страшная смерць, віноўнікам якой быў Мікола, не давала ім права нават шкадаваць яго адкрыта. Як толькі гаворка заходзіла пра Міколу, многія адразу ўспаміналі той зімовы вечар, калі па сяле раптам разнеслася пагалоска пра смерць старога Ларывона і як ніхто не хацеў верыць у такое — каб можна было забіць чалавека. Мікола тады быў як памешаны, залез па драбіне на гару і не хацеў злазіць адтуль, як ні ўгаворвалі, кідаўся цэглай. Не хацеў нават і тады, як прыехаў участковы міліцыянер, пакуль той не прыгразіў. Няма страшней гора, чым тое, пра якое няможна нікому расказаць. Адводзілі душу жанчыны, толькі застаўшыся адны, у сваёй хаце, і то стараліся гаварыць не пра тое страшнае няшчасце, а пра Міколу, пра тое, як яму цяжка недзе там, горна аднаму. Пра сябе яны маўчалі.

Мінуў год пасля суда, другі, жыццё кацілася сваім ходам, расла Міколава дачушка, і разам з дачушкай быццам расло і права жанчын гаварыць пра Міколу — цяпер ужо як пра бацьку малой сіроткі. Марфа ўжо не баялася расказваць бабам пра тое, што Мікола прыслаў пісьмо, у якім піша, быццам яму могуць зменшыць гады, бо робіць ён на нейкай надта цяжкой і рызыкоўнай рабоце і заўсёды слухаецца начальнікаў. Ды і Ларывона, айчыма, ён не хацеў, не збіраўся забіваць, так выйшла па п'янцы, па дурасці...

І вось па сяле прайшла пагалоска, што Мікола вяртаецца дамоў.

Першы Міколу ўбачыў сусед, кульгавы Косцік. Ён толькі прыйшоў пасля начной варты і не захацеў класціся спаць. Гэта Косцік зазірнуў у т о й вечар пад акно Марфінай хаты і ўбачыў распасцёртага Ларывона на падлозе і Міколу ля яго... Цяпер ён убачыў Міколу ў садзе, з касой. Было рана, сонца яшчэ не паказалася, толькі ўсход расплываўся сухой чырванню, абяцаючы сонечны дзень, а Мікола ўжо чыркаў мянташкай па касе. За гады, як яго не было дома, паўз плот у садзе буйна і дзіка пайшлі крапіва і парасткі ад сліў, і Мікола махаў касой асцярожна, не касіў, а падсякаў траву, трымаючы касу на руках, каб не зачапіць за які сук ці камень.

«Калі ён вярнуўся? Учора вечарам Марфа прыходзіла

глядзець тэлевізар і нічога не сказала, не заікнулася нават. Знацца, знячэўку, ноччу»,— думаў Косцік, неўпрыкметку, з-за плота сачыў за Міколам і раздумваў, як тут быць: ці самому падысці да яго, ці счакаць, пакуль Мікола ўбачыць яго і падыдзе сам. Рашыў счакаць. Невядома яшчэ, як той будзе глядзець на Косціка. Можа, злуецца за суд, бо Косціку не адзін раз даводзілася паўтараць і на следстве і на судзе пра тое, як ён тым марозным надвячоркам забег да Марфы на двор, зазірнуў у акно, хацеў паклікаць Ларывона ў лазню і ўбачыў, што Ларывон ляжыць на падлозе, а Мікола поўзае з анучай ля яго, кроў заціpae. Не дай нікому такое бачыць!..

Цяпер Косцік глядзеў на Міколу і дзівіўся: ніколечкі той не змяніўся, чалавек як чалавек, махае касой, як кожны здаровы мужчына, мускулы буграмі. Спакойна косіць сабе, быццам і не было ніякай турмы. Косцік глянуў на свае худыя рукі — адно сухажылле...

Дзверы Марфінай хаты расчыніліся, выйшла сама Марфа, прайшла да плота, зняла з калка гладышку.

— Не трэба было так рана, паспеў бы яшчэ выкасіць,— сказала сыну — моцна, на ўвесь голас, а сама, відно, радая-радая. Павяла вачыма кругом, ці не бачыць хто, пайшла назад у хату. За ёй выскачыла Люся з вёдрамі — набраць вады. Мікола глядзеў, як яна выцягвала вядро з вадой на вяроўцы — страла яшчэ летась храснула папалам і ляжала тут жа ў траве,— падышоў, узяў у яе з рук вяроўку, зачэрпнуў другое вядро, дастаў, лёгка пляснуў жонку далоняй па крутым месцы трошкі ніжэй паясніцы. Яна нязлосна замахнулася на яго локцем: «во зараз заробіш», але Мікола нават і не зварухнуўся, каб адхіснуцца, бессаромна пазіраў ёй у твар падахвочваючым позіркам, быццам на нешта намякаючы, і яна ўскінула галавой, адпіхнула: «во ідзі, касі». Потым узяла яго за локці, павярнула кругом, падштурхнула да касы. І ён пайшоў — пругкай кашачай паходкай. Зноў узяў касу, чыркаў доўга і старанна,— відаць, адкляпаць не паспеў — дабіраў бруском — рэзкімі кароткімі ўзмахамі, шырока расставіўшы ногі, і твар яго паказваў задаволенасць. І гэта задаволенасць болей за ўсё не падабалася Косціку. Усё гэта было нейкае ненатуральнае, няпраўдзівае. Косціку здавалася, што так не павінна быць. Паглядзець, хто не ведае, дык быццам не ў турме быў

чалавек, [redacted] так недзе — можа, служыў у арміі, а гэта вярнуўся дамоў...

«Чык-чык, чык-чык!» — прайшоўся Мікола мянташкай па касе ад пяткі да наска, убіўшы кассё ў зямлю і моцна трымаючы левай рукой за рубчык, як наравістага каня за храпу, і перш чым пакласці брусок у заднюю кішэню спартыўных штаноў, застыў, успомніўшы нешта. З-за плота выпырснулі першыя промні сонца, ляглі Міколу на твар, Мікола ўсміхнуўся нечаму, і гэта ўсмешка яшчэ горай уразіла Косціка. То ўжо хацеў ісці ў агарод, каб павітацца з Міколам: што паробіш, усякае ў жыцці бывае — здарылася няшчасце, ніхто не хацеў яго, чалавек шмат перажыў, перадумаў, Ларывона ўсё роўна з таго свету не вернеш, а гэтаму трэба жыць, гадаваць дзяцей,— але гэтая ўсмешка...

Косцік так і застаўся стаяць за плотам, рады, што Мікола яго не бачыць. Няўжо можна вось так усміхацца пасля ўсяго *таго*, што было? Няўжо можна забыцца на *ўсё*?.. Хай сабе гэта было і пяць гадоў назад, але ж гэта такое, пра што нельга без жаху ўспамінаць. А тут усмешка, як у святога, як у нявіннага дзіцяці... І гэта Мігульня з жонкай... Косцік пастаяў, пачакаў, пакуль Мікола зноў пачаў касіць, і пайшоў у хату, забыўся і пра тое, чаго выходзіў на двор. А выходзіў з вядром вады.

— Чаго гэта ты бегаеш, як злягчаны? — сустрэла Гэлька, жонка.— Хіба не вады я цябе пасылала, га?

— Вады, дык во зараз, знацца, і прынясу,— агрызнуўся Косцік, павярнуў назад, на двор. Прынёс вядро, паставіў ля печы.

— Мікола вярнуўся...— сказаў пустым, нібы абыякавым голасам. Гэлька быццам не чула, падпраўляла вілкамі ў печы. Косцік павярнуўся да жонкі.— Кажу, Марфін Мікола з цюрмы прыйшоў,— Косцік пазіраў у печ, на агонь, вінавата плюскаючы вачыма, быццам агонь не даваў роўна глядзець.

— Дык і добра, што прыйшоў,— Гэлька разагнулася, падперла вілачнікам падбародак.— Марфа дык яшчэ ў тым месяцы ждала яго, павінны былі адпусціць. Хоць на жонку наглядзіцца ды на дачку, а то дык не паспеў жаніцца — і на табе...

— Дык-індык...— перадражніў жонку Косцік.— Паглядзеў жа, мусіць, ужэ, раз з касой у сад выйшаў...

Паглядзеў і пагладзіў, ха-ха! — Косцік успомніў тое, што бачыў ля калодзежа.

— Во-во, а я што казала. Ты цеперся збіраешся аўсяніцу скасіць, і канюшына вунь уся палегла, ды ўсё часу не дабярэш, а гэта калі чалавек рабацяшчы, дык адразу... І спаць няма калі. Вучыся, як жыць трэба...

— Ву-чы-ы-ся! Скажа, як звяжа. Вучыся... Чалавека пляшкай па галаве... Вучыся...

— Што ты ўспамінаеш пазалеташні снег. Хіба ён яго забіў? Гарэлка забіла. Ды і адбыў жа сваё. І яшчэ раз кажу: ты выберашся касіць, калі аўсяніца ўся пагніе...

— Выберуся, не бойся. Яго прасіць не пайду.

— У цябе заўсёды адна песня: абы не сёння...

— Добрую песню не грэх і лішні раз паслухаць...

— Аняго ж... Наслухалася ўжо за свой век, дзякуй Богу...

Косцік выйшаў на двор, злосна ляснуўшы дзвярыма. Дастаў з-пад застрэшка касу, выкаціў на двор калодку з бабкай, сеў на парозе стопкі, пачаў кляпаць. Цюкаў малатком, і прыемны вуху ляскат разлягаўся па двары. Час ад часу Косцік правяраў на вока, ці роўна адбіваецца каса, мацаў пальцам джала, а вуха міжвольна лавіла сухое шарканне касы за суседнім плотам — спакойнае і роўнае, размеранае ў сіле і рытме. І Косцік злаваўся на гэта шарканне, на гэту сілу, зноў браў у рукі малаток. Нагнаў колькі лопавак, і злосць ад гэтага стала яшчэ большая.

У сад з касой Косцік пайшоў, калі шарканне за плотам перасціхла: Міколу паклікалі снедаць.

Спачатку абкасіў тэлевізійную антэну. Уторкнуў касу, паварочаў антэну туды-сюды. Нешта зрабілася з тэлевізарам, дрэнна паказвае па другой праграме: адно мітусіцца на экране, сеецца, як на рэшаце. «Свісь-свісь! Свісь-свісь!» — спявала яго каса на мяккай аўсяніцы, і два раўчукі слядоў клаліся ўкруг жэрдкі — усё далей і далей ад яе.

Мікола падышоў неспадзеўкі, Косцік аж скалануўся ад нечаканасці, калі той прывітаўся.

— Ну, брат, ты і пудлівы стаў,— засмяяўся задаволена Мікола, убачыўшы Косцікаў перапалох. Суцешыў паблажліва: — Не бойся, дзядзя маленькіх не б'е, а бальшых і сам баіцца,— і працягнуў сваю шырокую пяцяр-

ню. Косцік тарканук насустрач сваю далонь, і яна схавалася ў Міколавай.

— Ды от, рашыў паабкошваць трохі, сабраць палегліцу. А то, халера на яе, прэць пачала спадыспаду. Дый жонка вантробы пераела,— пачаў апраўдвацца ён, павёўшы рукой на аўсяніцу, баючыся ўзняць вочы, каб не сустрэцца позіркам з Міколам. Яму здавалася, што таму будзе няёмка глядзець у вочы пасля ўсяго т а г о, што было. Але ж ці доўга можна так: стаяць адзін проці другога, гаманіць і не пазіраць адзін аднаму ў вочы. І Косцік асмеліўся, бліснуў Міколу ў твар, напароўся на яго вочы. І падзівіўся: Мікола пазіраў спакойна і смела, а чорныя вірлаватыя вочы яго як бы яшчэ і смяяліся. Праўда, нешта дзікаватае, ледзяное было ў гэтым паглядзе. Некалькі маршчын пабегла ад вачэй назад, пад вушы, два ўпартыя раўчукі пайшлі ад рота ўніз, а так нічым і не змяніўся. А ён, ёлуп дурны, думаў... Думаў: недзе пасівеў чалавек ад думак, ад перажыванняў.

— Дык як гэта ты?..— ужо смялей паглядзеў Косцік на Міколу, болей пільна. «Не-е, браце, што ні кажы, а цюрма — не дом родны, нідзе дзелася. Далася і табе, небараку. Пацямнеў з твару, зацаглянеў».

— Як бачыш, вярнуўся... А тут, сам ведаеш, работы — хоць не пачынай. Запусцілі бабы ўсё, быццам і не жылі тут. Ды што з іх за спрос: бабы ёсць бабы. Вароты пааб'язджалі, дзверы на перакос пайшлі, страла на калодзежы перагніла, добра яшчэ, што нікога не ўгробіла. Мяняць трэба. У садзе крапіва ўсё заглушыла, слівы парасткі пусцілі ўровень са старымі. У цябе-то лепей, чысцей, ды таксама не надта што.— Мікола пазіраў на Косціка, крывіў губы ва ўсмешцы. Быццам намякаў на яго нерастаропнасць.

І тады, да суда, любіў ён падсмейвацца... Бач, не адвучылі...

— Насаўсім прыйшоў? — спытаўся Косцік.

— Ну ты і даеш. «Насаўсім»... А як жа? Адтуль у водпуск не пускаюць. Насаўсім... Праўда, судзімасць яшчэ не знялі.

— Я таксама думаю, што там нямаш так, каб пагуляць пускалі. Гэта ж не проста людзей сабралі на работу ці па прызыву... Ага, не проста так...

— Па сваёй ахвоце туды ніхто не просіцца.— Мікола дастаў пачак папярос.— Закурыш?

— Не-а, адвыкаю. Кашаль хлупіць пачаў.— Косцік пацёр грудзі.— Дак, ка-аш, не па сваёй волі? Гэта мы ведаем. Пра гэта нікому не расказувай. Якая там воля. Ну, і шмат там такіх?

— Якіх такіх?

— Ну, такіх, як ты... ну, каторыя забілі каго ці, не дай гасподзь, зарэзалі, можа... Такіх...

— Усякія ёсць... І за хуліганства, і за ножык... Дзівакоў на свеце хапае...

— Іч ты іх — дзівакі!.. І слова ж знайшоў такое... Прайдохі. Хай вайна была — стралялі адзін другога. Ну — дак там вайна. Гэта сур'ёзна, тут прынцып, тут ворагі. Тут кожны ведае, на што ідзе, за што змагаецца. А зараз? Хіба табе мала месца на зямлі, хіба табе, другому, цесна? Жыві, рабі, дзяцей пладзі, гадуй. Дак не, мала другому...

— А ты што думаў?.. Толькі і жыццё, што тут во, у Глыбачцы тваёй... Я нагледзеўся, павазілі. Гэта ты прымёрз тут, прырос, як губа да пня. А маладому хочацца ўсё пабачыць, сваімі рукамі пашчупаць, паспытаць.

— Дак глядзі, ядры тваю корань, хіба хто забараняе... Дак не ж... Ён ножык у рукі — і сэрцы чалавекам шлакатаць... А пасля яго за каршэнь... ды за дрот, за краты,— Косцік склаў пальцы рук у сетку, узняў на Міколу,— во-во-о сюды, за акенца: я цябе бачу, [redacted] ты мяне — не. Во так!

— Усяк бывае,— уздыхнуў Мікола.

— Не ўсяк, а якраз гэтым і канчаецца... Скажы, Мікола, папраўдзе: а табе не страшна было там?..

— А чаго мне было баяцца? Хіба я маленькі?

— Канечне, не маленькі... Ды ўсё роўна, пасля ўсяго таго. Як ні бяры... Кажуць, нябожчыкі пасля такога часта сняцца. Не сніўся Ларывон?

Мікола памаўчаў, пажаваў папяросу:

— Не сніўся... Ды там і не да гэтага было...

— Як не да гэтага? Усё-ткі сем годзікаў...

— Сем па суду, а папраўдзе — пяць.

— Хоць праўда, што гэта я кажу сем,— спахапіўся, папраравіўся Косцік, з нейкай дзіцячай наіўнасцю пазіраючы на Міколу. Здавалася, толькі цяпер ён па-сапраўднаму зразумеў, што перад ім — Марфін Мікола, той Мікола, які сядзеў у турме, і толькі цяпер па-сапраўдна-

му зацікавіўся ім. Ён быццам не заўважаў, што гэта ягоная цікаўнасць не па нутры Міколу.

— Ты бачыў калі-небудзь горы? Сапраўдныя, каменныя горы? Не курганы нашы... Не! І калі-небудзь глядзеў з саракаметровай апоры на зямлю? Глядзеў? — Мікола выплюнуў акурак пад ногі, патрос галавой.— Не? То-та. І не працаваў ніколі на такой вышыні. Чалавек з такой вышкі, што мурашка.

— Дак хіба прымушаюць лезці на гэтыя апоры?

— Ніхто нікога не прымушае, ніхто не гоніць. Дабравольна просяцца. Хочаш скарэй пабачыць сям'ю — сам папросішся. Ці грудзь у крастах, ці галава ў кустах... А то, думаеш, так бы пусцілі Міколу раней пары? Няма дурняў.— Мікола сарваў травіну, пачаў нервова кусаць яе, кусаў і сплёўваў. Твар яго стаў сухі, злосны, голас далёкі.— Там, брат, пачынаеш добра разбірацца, што ёсць такое жыццё гэтае. Як падумаеш, што табе яшчэ толькі дваццаць пяць і ты яшчэ нічога на свеце не ўбачыў, нічога не паспытаў — ні салодкага, ні салонага, ні ты не любіў, ні цябе не любілі,— як падумаеш пра ўсё гэта, то, скажу табе, не толькі на апору, на сцяну палезеш.

— Усякая жывая істота жыць хоча...

— Ат, што ты петрыш ва ўсім гэтым? Пабыў бы на маім месцы...

— І праўду кажаш. Ад адных перажыванняў не вытрываў бы, згарэў... Забіць чалавека...

— Я не пра гэта,— Мікола скрывіўся.— Я пра турму гавару, пра тое жыццё. Ды ладна, што тут успамінаць.— Мікола ўсміхнуўся.— Цяпер трэба пра другое думаць. Во трэба схадзіць у майстэрню: балты падабраць на завесы, сякеру навастрыць... З гэтым і выйшаў на двор ды ўбачыў цябе... Думаю, зайду, павітаюся. Даўно не бачыліся.

— Ага, жывы пра жывое дбае... У мяне дак з тэлевізарам нешта зрабілася, другая праграма дрэнна ідзе, ніяк направіць не магу. Мітусіцца экран, і ўсё тут... А ў майстэрнях ты наўрад ці даб'ешся якога толку — дарма толькі сходзіш. Там-то цяпер будуць усе — і Рыгор, і механік, і Ляксандра. Жніво, суматоха, то тое ломіцца, то другое — калгаснай работы хапае, а тут яшчэ кожны сунецца са сваім. Учора пайшоў баньку зварыць на кассё, дак не ўзяліся: нямаш калі.

— А я ўсё ж схаджу...

— Хіба я не пускаю цябе, ідзі. І мне трэба махаць, бо скора не памахаеш. Бач, як смаліць, а шчэ ж і не высока ўзлезла,— Косцік зірнуў на сонца і паспешна зачыркаў мянташкай па касе.

Мікола пайшоў у свой двор, адтуль — на вуліцу. У майстэрні ён не забавіўся, праз якой паўгадзіны ішоў назад. «А я што казаў, цяпер там не да цябе, нож натачыць не прыткнешся»,— падумаў Косцік, пабачыўшы яго. Ды прыгледзеўся: Мікола вяртаўся не з такам — на завесах пазвоньвалі балты з гайкамі, і на сякеры вышэй вастраўя ляжала шырокая жоўтая паска — налёт ад мяккага тачыла. На тым тачыле Рыгор дазваляў тачыць толькі нажы ды долаты. «Во ты і вазьмі, з'еш яго, Рыгора,— падумаў Косцік пра каваля.— Мне ўчора дак баньку не захацеў зварыць, а гэтаму чорту кашлатаму знайшоў час і балты з гайкамі падабраць, і тапор навастрыць...»

Сам «чорт кашлаты» быў хмурны і адразу ўзяўся за работу.

«Мне баньку зварыць — дак часу няма («калі хочаш, сам пашукай у ломе, мо знойдзеш якую старую, а як стане вальней, прыдумаем што лепшае»), а гэтаму дак усё знайшлося...» — злаваўся Косцік, зацята махаючы касой, падбіраў палегліцу: вецер і дождж паспелі ўсё палажыць.

Дакасіў у садзе, выйшаў за хлеў, на канюшыну. Тут было яшчэ горай, канюшына высокая, густая, пудоў пяцьдзесят набярэцца, не меней, але ляжала яна пластом, збітая, пакручаная, невядома, з якога боку падступіцца. І ўсё ж да абеду Косцік узлупіў ладны кавалак.

Трохі адляжаўся ў сенцах, у халадку, счакаў, калі сонца пакоціцца наніз і ачахне гарачыня. Зноў выйшаў з касой. Але скошаны лапік большаў марудна, дый касу трэба было часцей падпраўляць бруском. Колькі разоў хадзіў у стопку — піць хлебны квас.

Мікола ўсё ляскаў у сваім двары. Надвечар, як сонца апусцілася да лесу, Мікола выйшаў за хлеў, да Косціка:

— Канчай дурную работу, пайшлі да нас.

— Не, не пайду, вы ўжо самі там як-небудзь управіцеся,— пачаў слаба адгаворвацца Косцік, пазіраючы на свой двор. Яму і карцела пайсці — дакуль можна касіць,— і ведаў, што Гэлька не пахваліць за такое.

— Ды не глядзі ты на двор, Гэлькі няма, разам з маёй

на таку. Пазней і яны прыйдуць, па чарцы возьмуць. Думаеш, у іх няма душы, ім не хочацца? Пайшлі, там ужо ўсё гатова.

— Ну хіба так, хіба разам з бабамі,— пагадзіўся Косцік.

Зайшлі ў двор, Косцік уторкнуў касу пад страху.

Пакуль Косцік касіў, Мікола паспеў падкапаць і выпраміць шулы ў варотах, навесіў завесы, нават крукі змазаў тавотам, каб лягчэй хадзілі. «Чорт кашлаты, ну і хватка. Дзе ні павернецца — усюды гарыць»,— падумаў з зайздрасцю Косцік, прыкінуўшы, што той за аднаго паўдня зрабіў тое, што Косцік рабіў бы дні тры.

Дзверы ў сенцах таксама віселі на новых завесах. «А гэта ўжо дарма, на новыя завесы ды старыя дзверы. Трэ-э было і дзверы змяніць»,— параіў у думках Косцік. На дзвярах відны глыбокія ўмяціны: з той начы, як Мікола сядзеў на гары і кідаўся цэглай — пужаў людзей. І Косціку неяк стала не па сабе, як і ў тую ноч, калі і ўчастковы, і людзі ўгаворвалі Міколу злезці з гары, а той сядзеў недзе ў цемнаце, маўчаў і шпурляў уніз цэглай.

З той пары мінула пяць гадоў, а ў хаце гэтай Косцік быў, можа, разы са два і то так, мімаходзь, і цяпер, як толькі ногі пераступілі парог другой палавіны, позірк неяк сам сабой упёрся ў падлогу — у тое месца, дзе тады ляжала галава старога Ларывона. У тым месцы ў масніцыне чарнеў вялізны сук, а ля яго тады нацякла была лужына крыві. І сёння Косцік адразу ўгледзеў гэты сук, і яму падалося, што зараз кругом яго ўсё яшчэ нешта ржавее.

Косцікаў позірк заўважылі Мікола і Марфа — яна стаяла ля кутняга акна, чакала іх,— Мікола паморшчыўся, а Марфа замітусілася, як курыца ля куранят:

— Давайце, мужчынкі, сюды, за стол. Хай яе, з гэтай работай, яе ніколі не пераробіш. Ці, можа, Косцік, абдаць рукі хочаш, то давай я палью.

— А яно, відаць, трэба і апаласнуць,— пагадзіўся Косцік, паварочваючыся назад, на двор. Ён спаласнуў рукі, выцер ручніком, які Марфа трымала тут жа, на плячы, пайшоў у хату.

Іх, відно было, даўно ўжо чакалі. На стале стаяла ўсё, што трэба для такой прычыны. Акрамя талерак і белай пляшкі з гарэлкай стаяла цёмная пляшка з-пад шампанскага... «Няўжо тая самая? Няўжо не выкінулі?»

— Ты не бойся, Косцік, у ёй не гарэлка,— па-свойму

зразумела Косцікаў позірк Марфа.— Там сок ад яблыкаў, можа, хто запіць захоча. Шчэ восенню з Люсяй ціснулі, дык літраў з дзесяць ёсцека.

Косцік махнуў рукой — ат, сок дык сок, прымерыўся вокам да невялікай поўнай чаркі: дзе ты дзенешся, жыць у суседстве — і глядзець воўкам адзін на другога...

— Давай, Косцік, давайце, мужчынкі, выпіце, і я з вамі падыму чарку. Гэта ж такая радасць у хаце нашай, такое свята... Давайце. Хай яно патане, такое гора,— Марфа заміргала, заплакала, але тут жа выцерла вочы рогам хусткі, і быццам не было слёз, вочы засвяціліся жыва і ясна.— Давайце, мужчынкі,— і першая выпіла, падахвочваючы іх.

— А-а-а, дзе наша не прапала,— узняў чарку і Косцік.

Марфа пасядзела трохі за сталом ды пабегла: ці мала клопатаў у гаспадыні летнім надвячоркам. Мужчыны засталіся адны. Выпіўка ішла не надта спорна, не было асаблівай ахвоты ні ў Косціка, ні ў Міколы, відаць, віной яшчэ была і духата на дварэ — яна чулася і тут, у хаце. Мікола быў злосны, сумны, хоць і ўсміхаўся і падганяў Косціка з гарэлкай. Косцік соп носам, аглядаўся па кутках, быццам упершыню быў тут, і вочы яго не-не ды і натыкаліся то на цёмную пляшку на стале, то на маснічыну з чорным сукам.

— Халера яго ведае, з гэтым тэлевізарам,— загаварыў ён, і здавалася, што толькі тэлевізар і займаў яго галаву цяпер.— Першая праграма добра ідзе, чыстая, а другая нешта пачала сіціцца. Пусціш — і пачынае мітусіцца, палоскі нейкія, ці што... Быццам снег недзе ідзе, увесь экран засланяе. Думаў, можа, антэна вінавата, круціў яе і так і гэтак, адно ліха. Бывае, добрае кіно перадаюць ці так праграма якая, канцэрт,— нічога нельга разабраць. Голас добры, а нічога не відаць.

— Тэлевізары — не мая спецыяльнасць. Калі б у цябе з электрычнасцю што-небудзь такое, тут я магу. А гэта... не мая вобласць.

— Не хочацца, вунь як не хочацца, а, мусіць, давядзецца везці ў раён да майстра, каб паглядзеў. Там, можа, і рамонту таго на раз плюнуць, можа, лямпу якую замяніць, ды дзе ты дзенешся. З маімі граблямі ў тэлевізар не палезеш. Шчэ трэсне так, што капыты задзярэш, маладую ўдаву пакінеш — ха-ха! Я перачытваў інструк-

цыю, ведаеш, там астатачныя токі ходзяць, ды яшчэ якія токі. Лепей іх не чапаць...

— Тут ты кажаш праўду: калі не петрыш — не лезь. Лепей пазаві чалавека, які разбіраецца, гэта і прасцей, і дзешавей... Ну, паехалі... Як ты кажаш, дзе наша не прападала. Усё ж сустрэліся праз столькі гадоў, суседзі, што ні кажы, хоць і паказуюць на судзе адзін на другога.

— Ага, паказуюць,— пагадзіўся Косцік.

— Нават і тады, калі іх ніхто не прымушае, не просіць...

Косцікава рука з чаркай ішла да рота і раптам спынілася, застыла на паўдарозе. Ён з чэпкай, вострай увагай паглядзеў на Міколу:

— Ага, і прымушаць ніхто не прымушаў, і прасіць ніхто не прасіў...

Мікола кісла ўхмыльнуўся:

— Ну, чаго ты натапырыўся? Не пераживай, я злосці на цябе не нашу... Бяры чарку...

— А што, і вазьму,— зноў пагадзіўся Косцік і выпіў. Ён быў зусім цвярозы, а цяпер як быццам нават і павесялеў, і Мікола таксама не быў п'яны, толькі, можа, крыху асалавелы. Закусвалі моўчкі, у нейкай цяжкай, гнятлівай маўклівасці. Мікола адкусіў кавалачак мяса, паклаў відэлец на стол, прыціснуў кулаком, узняў цяжкія вочы на Косціка:

— Ведаеш, крыўдна... Свае людзі...

— Што крыўдна?

— Нічога. Гэта не пра цябе...— Мікола памаўчаў.— Пайшоў я ў майстэрні. Ад цябе. Ну ты ж бачыў: балты трэба было падабраць, тапор навастрыць, тут на ім, мусіць, цвікі seклі... Ля кузні Лёнька Зубаты, Вацік, яшчэ адзін, не ведаю, хто такі,— чорны, каратканогі, з вузенькімі, быццам прарэзанымі вачыма...

— Новы інжынер, нядаўна прыехаў.

— Яно і відно, што начальнік, бо хлопцы з ім на «вы». Лёнька і Вацік, мусіць, проста з поля, ад камбайна. Матавіла пабілі, ланцуг парвалі, прыехалі падмяніць — са старога новае ляпілі. «Га-га-га, га-га-га»,— дзе работа, дзе смех. Смеху больш, чым работы. І тут падышоў я са сваімі завесамі...— Мікола пажаваў мяса, праглынуў, быццам яно не давала гаварыць, падаўся цераз стол да Косціка.— Падышоў я... Падышоў, дык быццам мову ім адабрала. Як адсекла. Кінулі работу і пазіраюць на

мяне, быццам я з неба зваліўся. Ну, хай інжынер, ён чалавек чужы, не ведае мяне, а гэтыя — і Лёнька, і Вацік — равеснікі, можна сказаць, баранку разам круцілі. Ды і сам Рыгор... Ва ўсякіх пераплётах даводзілася мне быць, але каб такое... Каб свае хлопцы і так не рады былі... І людзі як быццам свае, а глядзяць як на чужака. Руку другі баіцца падаць... А гэты, чорны, інжынер, пазірае на нас, на камедзію гэту, і нічагусенькі не разумее. Шчэлачкамі сваімі то на мяне, то на іх: што гэта такое? Урэшце Вацік расцяў шчэлепы: «Рыгор, гэта, мусіць, да цябе...» «Мусіць, да цябе!..» Быццам мяне там няма, быццам я сам не ведаю, да каго мне трэба! І Рыгор хвастом завярцеў: «Нічога не будзе, матавіла трэба канчаць».— «Мы тут без цябе ўправімся»,— зноў закамандаваў Вацік. Начальнік такі. Закамандаваў, а сам пазірае на чорнага, згоды яго патрабуе. І той кіўнуў галавой, дазволіў — усе расступіліся, прапусцілі мяне ў кузню.

— Знацца, уважылі,— хіхікнуў Косцік.— Бач, не паглядзелі, што жніво, што гарачка... А я ўчора хадзіў баньку на касу зварыць, дык адправіў... сам Рыгор адправіў. Некалі, кажа. А цябе, бач, уважылі.

— Уважылі... Я нутром чую ўвагу гэту, упоперак горла засела яна... увага... Каб скарэй адпрэчыць мяне, каб вочы не мазоліў... А ты чаму не п'еш? Пі, сусед, не саромейся. Я злосці на цябе не насіў і не нашу.

— Гэта добра, што не носіш,— Косцік засмяяўся, але зараз жа перасціх, падаўся да Міколы.— Слухай, Мікола, вось і там, на судзе, і да суда яшчэ, і цяпер я ўсё ніяк не магу дайсці: за што гэта выйшла ўсё ў вас? Таму, што ты на судзе гаварыў, бытта не помніш нічога, што гэта проста афект такі быў, я ні грамулечкі не веру. Так не бывае. Ты злосны быў на яго, толькі ў злосці можна так...

— Злосны, кажаш... Канечне, злосны. Ён мне не падабаўся. Ды што не падабаўся, я не любіў яго, я яго пераварваць не мог. З самага першага дня, як мама прыняла яго ў хату. І чым далей — болей...

— Самога не пераварваў, а хлеб ягоны еў. Ён жа і вучыцца табе пасабляў, і глядзеў, каб ты і адзеты быў, і абуты, і ўсё такое. І да таго ж — айчым, бацька твой, хай і не родны, а бацька, мужык тваёй маці.

— Айчым... У тым-та, можа, і бяда, што айчым... А можа, і не ў тым. Айчым — не бацька, хоць і спіць на

тым ложку, дзе спаў бацька. Хліпкі ён быў, слабага заводу. І надта ж любіў пагаварыць, павучаць любіў... Праведнік. Тое не так, гэта не так. Там няправільна ступіў, там не так зрабіў. Я даўно збіраўся правучыць яго. Але хіба я ведаў, што ён такі слабак... А тут яшчэ гарэлка, і ён пад злосць сказаў нешта... Не помню ўжо што. Ну, я і трэснуў... пляшкай...— Мікола кіўнуў на пляшку з яблычным квасам — яна, непачатая, так і стаяла на стале.— А пасля быццам правал нейкі... Помню толькі, як вы аблажылі мяне на гары, як ваўка... Хаця не... Помню, як мільгануў нечы твар пад акном... Тады я не пазнаў цябе, пасля даведаўся, што гэта быў ты... Хоць якая розніца... Не ты ўдаў бы, дык нехта другі... Праўда, крыўдна было, асабліва там, на судзе. Ведаеш, была нават такая думка: «Ну, пачакай, Косцік, хіба не давядзецца мне вярнуцца, я тады прыпомню, выпрастаю тваю крывулю, каб не кульгаў, пачакай толькі...» — Мікола ўсміхнуўся, быццам успомніў нешта харошае, даўняе, не бачыў, як камянее, напружваецца Косцікаў твар, як у таго пачало сутаргава дрыжаць падбароддзе.

— Слухай, дык у цябе была крыўда на мяне? І дайжа злосць? — прашаптаў Косцік збялелымі губамі.

— Была, прызнаюся. Хто людзей сабраў? Ты, Косцік. Хто прасіў цябе лезці пад маё акно, га? Хто прасіў?

— Дак я ж хацеў... у лазню паклікаць... Старога хацеў, цябе...

— Чорт з ёй, з лазняй... Калі свінню смаляць, ёй не да парасят...

— А калі б... а калі б гэта не Ларывон, а ты... ляжаў пластом?.. І тады трэба было б маўчаць?..

— Ну, зраўняў адно з другім. Ларывон — гэта Ларывон, а я — гэта я...

— Дак гэта што? Выходзіць, я вінаваты?

— Ну, як табе сказаць... Калі па суду, то не, а калі па-суседску — то вінаваты...

— Дак... Можа, ты ўсё ж... даруеш мне маю віну, га? Хоць цяпер даруеш?..

— Ну чаго ты раскрычаўся? Я ж кажу, што злосці на цябе не нашу. Што было, тое сплыло, і хто старое ўспомніць... Бяры лепей выпі, і я з табой за кампанію,— Мікола зноў наліў сабе.— Канечне, дарую. А іначай як жа жыць у суседстве?.. Толькі скажу шчыра: калі не дай бог яшчэ што-небудзь такое... Тады глядзі, тады помні...

— Што ты сказаў? — Косцік адчуў, быццам шчоўкнула нейкая спружына ўсярэдзіне, саскочыла зашчапка з душы, млявая лёгкасць стукнула ў галаву, і перад вачыма паплыў туман. Рука сама пайшла па стале, наткнулася на нешта круглае і тоўстае, у гэтага круглага і тоўстага быў тонкі канец, пальцы моцна сашчапіліся на ім... Дрэнна цямячы, што робіць, Косцік размахнуўся і ляснуў гэтым круглым і тоўстым Міколу па нахіленай галаве. Мікола здзіўлена ўзняў галаву, шырока раскрытымі валовымі вачыма паглядзеў на Косціка, быццам спрабаваў нешта ўразумець, але, мусіць, вельмі мала часу адпушчана было яму на гэта, вочы падкаціліся, і ён ссунуўся на падлогу. Косцік прысеў на коленцы ля Міколы, прыклаўся вухам да грудзей, доўга ўслухоўваўся. Пачуў стукат сэрца: яно білася недзе далёка і глуха.

У гэты час адчыніліся дзверы і на парозе паказалася Марфа. Убачыла Міколу, Косціка, кінулася да іх:

— А божачкі, што гэта такое?

— Нічога. Разгаманіліся тут, за чаркай. Я ненарокам стукнуў яго. Думаў, ён здаравяка, малады, ажно не, хліпкі нейкі, слабак выйшаў. Саўсім слабак...

— Забіў! Забіў, азіят чортаў! А божа ж мой! — загаласіла Марфа.

— Жывы ён, не галасі! Памажы лепей падняць ды пакласці на ложак. Хай паляжыць, аддыхаецца... Ды вады прынясі.

Яны перацягнулі Міколу на ложак. Косцік расшпіліў кашулю ў яго на грудзях, узяў конаўку ў Марфы, пырснуў вады Міколу ў твар. Мікола варухнуў вейкамі, потым цяжка расплюшчыў мутныя вочы, доўга пазіраў угору. Патроху вочы пачалі праясняцца, нешта жывое, асэнсаванае паплыло ў іх, ён перавёў позірк на Марфу, на Косціка, таргануў губамі, быццам хацеў усміхнуцца, і зноў заплюшчыў вочы...

— Забіў, забіў сыночка, насмерць забіў! — зноў загаласіла Марфа.— Памірае дзіцятка маё! Трэба людзей зваць, участковаму заявіць...

— Перастань, не падымай гвалту,— пачуўся глухі Міколаў голас.— Дай паляжаць спакойна.

— Паляжы, сынок, паляжы, даражэнькі... А божачка мой... Мне здалося, што ён забіў цябе, саўсім забіў, насмерць забіў...

— Не забіў... Яшчэ не забіў,— і Мікола скрывіў губы ў жаласнай усмешцы, перавёў вочы на Косціка.— А ты добра мяне... па цемю... Правільна... Так яму і трэба.

— А што ж гэта робіцца? Як гэта далей жыць будзем? — галасіла Марфа.

— Як і ўсе людзі,— сказаў Косцік і выйшаў з хаты.

Назаўтра з самай раніцы Косцік чыркаў касой за хлявом — дакошваў канюшыну. Калі каса пачынала дрэнна браць, даставаў брусок, мянташыў, крывіўся тварам: успамінаў учарашняе і зноў пачынаў злосна махаць касой.

Пад снеданне на соткі выйшаў і Мікола, зайшоў спераду, па някошаным, паздароўкаўся. Косцік буркнуў нешта сабе пад нос.

— Ніколі не падумаў бы, што ты такі гарачы. Заводзішся з паўабарота.— Мікола стаяў наперадзе, пільна пазіраў на Косціка і спрабаваў усміхацца, але ўсмешка выходзіла вымучаная. Косцік не ўзнімаў галавы, быццам не бачыў яго: махаў і махаў касой — усё наперад.

— Ды ты надта не перажывай, Косцік,— праглынуў камяк Мікола.— Я на цябе зла не нашу... хоць ты на мяне і руку падняў...— Мікола гаварыў, а губы быццам акамянелі, дрэнна слухаліся.

— Адстань... і не стой наперадзе,— зазлаваў Косцік: ён дакасіў да самых Міколавых ног.— Не стой, што я цябе — абкошваць буду?

Усмешка паволі папаўзла з Міколавага твару, папаўзла і перакрывіла твар. Мікола павярнуўся і пайшоў у свой двор,— ссутуліўшыся, угнуўшы галаву.

І цяпер, можа, першы раз за два дні, Косціку стала шкода яго. «Не-е, браце, што ні кажы, жыццё — як харошая жонка: яно праўду любіць, ой любіць».

*1974*

# МАРУТА І ЗІНА

Позні зімовы вечар. За цёмнымі шыбамі, зацягнутымі слюдзянымі наплывамі лёду, глухі шоргат і шапаценне. Быццам хто сыпне ў вокны пяском і чакае нечага, яшчэ сыпне і зноў чакае... Потым пачынае варочацца, усё роўна як намагаецца ўстаць, сапе, цяжка ўздыхае...

Гэта снег і вецер. Яны як пабраталіся, як наняліся напамінаць, што на дварэ сіберна і няўцешна.

У хаце стаіць густы цёплы дух. Востра б'е ў нос свежай кроўю і вантробамі. Толькі што кончыла гарэць печка, і цяпер атухае, абрастаючы шызым пылам, вуголле, пастрэльвае іскрамі. Пад столлю яркім сліпучым бляскам свеціць лямпачка.

Марута сёння закалола кабана, і ўсё, што можна прыспасобіць пад свежыну, занята і закідана ёй. Шырокая лаўка, што заўсёды стаіць ля парога, пасунута на сярэдзіну і завалена салам, мясам, пасечанымі касцямі. На стале, на голых дошках, ляжаць сцегнякі, ногі, стаіць, натапырыўшы чорныя храшчы вушэй, свіная галава. Нават крайняе ад дзвярэй акно не пустуе: на ім чыгунок з кроўю. Ля коміна печы, прывязаны за юшку, сушыцца надзьмуты посік...

Унесці з двара ў хату кабана і разабраць Марута ўправілася яшчэ завідна. Праўда, памагаў сусед, аднаногі Лявон, дзякаваць яму. Ён і смаліў яго, і разбіраў, і сала пакроіў, і косці пасек. Парадчыць жа ўсё — пасаліць, злажыць у кубел — пакінуў самой.

— Паціху разбярэшся тут, спяшыць няма куды,— сказаў, выпіўшы і закусіўшы як трэба, і развітаўся.

А яна мала што і ўправілася зрабіць. Добра, што хоць Зіна прыбегла, мяса падсобіць крышыць.

Сама Марута, у сіняй мультановай кофце з шырокімі, закасанымі за локці рукавамі, уселася ля печкі, на старым нізенькім табурэціку. Шырока, па-мужчынску расставіўшы ногі ў бліскучых гумавых ботах і як бы ўсміхаючыся нечаму сухімі губамі, яна на рагу высокага ўслона шкрабе кішкі. Нешта святочнае, прасветлена-радаснае праглядвае ў яе мажной упэўненай постаці, у нетаропкіх эканомных рухах вялікіх, зеленавата-белых ад кішэчнага сала і слізі рук.

Зіна сядзіць на другім канцы ўслона. Гэта поўная

працавітая дзеўка гадоў васемнаццаці. Жоўтыя, колеру спелага аўса валасы яе заплецены ў касу, светлыя бровы прыўзняты ўгару і выказваюць здзіўленне круглага белага твару, і ўся яна выдае нейкай мяккай, добрай, як недапечаны велікодны пірог. Звыклым запаволеным рухам, нават не пазіраючы, куды выпроствае руку, бярэ цёплыя кавалкі мяса з вялікай сіняй міскі, што стаіць на ўслоне між ёй і Марутай, шлёпае іх на днушку і скоранька рэжа. «Чы-чы-чы, чы-чы-чы!» — лёгка, з тугім картавым трэскам чыкае яе быстры нож.

Занятыя працай, жанчыны маўчаць, чутно толькі пастукванне нажоў ды неспакойнае шапаценне за вокнамі. Глянуць на іх збоку, то можна падумаць, што і гаворкі між імі ніякай не можа быць,— так яны спяшаюцца, так улягаюць у работу.

Але вось Зіна як быццам натыкаецца на нейкую нябачную перашкоду, перастае рэзаць, выпростваецца, утаропіўшы вочы ў адчыненыя дзверцы печкі. Там, ля самага краю, у белым попеле распаленым драбком золата блішчыць чырвона-малінавы вугельчык. Ён як быццам не ляжыць на месцы, як быццам увесь час варушыцца, пераліваючыся рознымі яркімі колерамі. Застылымі круглымі вачыма, як заваражаная, Зіна пазірае на яго, але па нерухомаму спакойнаму твару яе відаць, што яна, мусіць, і не бачыць яго, мусіць, проста аб нечым глыбока задумалася. Раптам яна ўздрыгвае, як бы скідвае здранцвенне, скоранька ссоўвае пакрышанае мяса з днушкі ў таз, пераводзіць вочы на Маруту.

— Цётка Марута, пагляньце, я не дробна крышу?

Марута бярэ рукі на прыпол, заглядвае ў таз.

— А добра, Зіначка, як пакрышыш, так і добра. Гэта ж каўбух, не каўбасы... Усё пойдзе — і дробна, і буйна...

— Вы кажыце, калі не так. Я магу і буйней. Мамка дык не любіць, калі ў каўбуху мяса дробна пакрышана...

— Не думай нічога, Зіначка, якраз добра...

Зіна зноў арудуе нажом: «Чы-чы-чы, чы-чы-чы!» Марута пазірае на яе. Відаць, што яна хоча спытаць нешта ў Зіны і не адважваецца. Лёгкая дрыготка прабягае па яе вуснах, яны торгаюцца, як ад уколу, збіраюцца ў вузел, потым паціхеньку расслабляюцца.

— А дзе ж цяпер твой, гэты... Як жа ты цяпер?..

— А хто яго ведае... Як прагнаў тата, дык і не заяўляўся,— груба, адрывіста гаворыць Зіна, але ў голасе

не злосць, не раздражнёнасць, а нейкая млявая абыякавасць.— Быў недалёка. На тым тыдні на трэцюю брыгаду прыязджаў на сваёй «лятучцы», а да нас не зайшоў. Мусіць, баіцца, каб не ўсыпалі.— Яна пачынае смяяцца, закінуўшы галаву, паказваючы шырокія здаровыя зубы.

Марута маўчыць, прыплюснуўшы вочы, быццам дрэмле. Яна не бачыць, як з нажа, які яна трымае ў руцэ, спаўзаюць і шлёпаюцца на падлогу, пырскаючы на ногі, мутныя кроплі.

— Ну, вы ж паслухайце, цётка, хіба ж можна так,— сур'ёзна і з жалем працягвае Зіна.— Так бажыўся, так кляўся... Перад вяселлем дык і з хаты не вылазіў. Кожны вечар прыязджаў. Іду з работы і ведаю, што ён ужо ў нас, сядзіць з татам, гамоняць. Усё пра паліціку... І мне якіх толькі слоў не нагаварыў. А ў самога дзве жонкі. Адна ў Бабруйску, а другая яшчэ недзе...

— Вот такіх дурніц і шукае, каго за слова купіць можна,— нібы ачынаецца, прыўзнімае галаву Марута.

— І зноў жа... Да вяселля дык макам рассыпаўся... Ты і такая, ты і гэтакая... Як на руках не насіў... А пасля вяселля... на які гэта... на трэці дзень было... Сядзім мы ў сенцах вечарам... Мамка, тата, ён... Мы з мамкай бульбу абіраем. Пайшлі, кажа, спаць, заўтра ўставаць рана. Праўда, яму трэба было ехаць у раён. Сказаў і пайшоў у другую хату. Мы там спалі на печы. Хата яшчэ не агледжана, на ложку холадна, а на печы добра, цёпла.

Кончылі мы абіраць бульбу, і я пайшла за ім. Узлезла на печ, дык ён, ні слова не гаворачы, як дзьмухне мне ў вуха. Бач, зазлаваў, што не пайшла з ім адразу, не паслухалася яго. Я думала, і ўліпну ў комін. Дні чатыры пасля галавой не магла павярнуць. Дык я ўголас. Прыбягае тата — босы, у споднiках,— ён ужо спаць лажыўся. У руцэ папружка матляецца. «Ану марш з маёй хаты!» — на Гогу. Я сяджу на печы, раву, а самой смешна. Тата стаіць сярод хаты, маленькі, натапыраны, ну, яй-богу, певень, а Гога як злез, дык як ні ўдвая вышэй за яго. Я думала, біцца будуць. Але Гога паслухаўся. Адзеўся і пайшоў. Праўда, развітаўся, руку ўсім даў — і тату, і мамцы, і мне... Пасля таго і не заходзіў болей.

— Не пашанцавала табе, Зіначка, з гэтым замужжам. Не паспела выйсці — і ўжо аўдавела. Толькі ты не бяры надта да сэрца. Усё яшчэ наперадзе — і харошае і благое...

— А ён дык смешны такі, цікавы...— Зіна быццам не чуе спагады ў голасе Маруты, усміхаецца бліскучымі, як шклянымі, вачыма.— Гаварыў, што, як пажэнімся, адразу пераедзем жыць у Бабруйск. Там у яго дом свой, сад, гарод. Кажа, ты на работу хадзіць не будзеш. Будзеш дома гаспадарыць... Я дык і не верыла, што ён жанаты, пакуль першая жонка не прыехала.

— Бабруйская?

— Ага... Якраз на другі дзень, як тата прагнаў яго. З хлопчыкам прыехала. Гады тры яму. Акуратненькі, чысценькі, у касцюмчыку. Броўкі тыя — якія яны ў яго яшчэ! — ўжо чорныя-чорныя, вочкі вялікія, вірлаценькія. Ну, выліты Гога...

— Пакуль малыя, дзеці ўсе харошыя, усе прыгожыя. А вырастуць... Ага... Дык во, даўно збіраюся спытаць у цябе і ўсё забываюся. Гога, гэта што, дражняць яго ці імя такое?..

— Не, імя такое.— Круглы Зінін твар расплываецца ва ўсмешцы.— І мне спачатку неяк прыкра было. Ну, што гэта, думаю, за імя — Гога? А потым прывыкла — і добра. Гога, Георгі, Жоржа...

Гаворка перапыняецца. Марута з нейкай рашучай паспешлівасцю кідае на ўслон кішку, шморгае па ёй нажом. Не разлічыла сілы — адшчыкнула канец. Выкідае ўсю кішку, бярэцца за другую.

Зіна таксама цягнецца рукой у міску. Праз колькі хвілін зноў падае голас:

— Я думаю, цётка, каб у суд на яго падаў. Мы ж яму і кашулю к вяселлю купілі, і касцюм... То хай бы хоць за гэта заплаціў... Хай бы хоць сказаў што... Хай бы сказаў, што не любіць, дык і то лягчэй было б. А то паехаў — і ўсё... Як і не было нічога...

— Чорт з ім, Зіначка, і з гэтымі грашамі. Перахрысціся ды атрасі рукі. Скажы дзякуй, што і так добра выкруцілася, радуйся, што дзіцяці яшчэ няма... Будзе шчэ на тваім вяку шчасце, не бойся. Знойдзецца чалавек, што і табе палюбіцца, і ты яму любая будзеш. А то шчасце... На трэці дзень пасля вяселля галавой аб печ... Ужо мой які звераваты быў, а на мяне руку падняць баяўся...

— А чаму ж вы, цётка, не пусцілі яго, як вярнуўся? Гавораць жа, што ён дужа прасіўся...

— Прасіўся. І не адзін раз... Ды я адправіла яго туды,

дзе ўвесь гэты час быў. Як кінуў адну з двума на руках, тады не прасіўся. Вільнуў хвастом і прапаў, як і не бацька ўсё роўна. Сэрца тады не балела. А цяпер, як хлопцы павырасталі, успомніў. Успомніў сваю кроў, сабачы бацька...

Зноў стукаюць нажы, і зноў гэты стукат перапыняе Зінін голас:

— А я ўсё ж хачу схадзіць да пракурора. Што ён скажа... Можа, хоць рублёў пяцьдзесят вернем...

Марута маўчыць — зацята шоргае нажом. Яна не заўважае, што пырскі з-пад нажа ляпаюць не толькі на падлогу, а і на прыпол, і на рукавы кофты. Галаву яна ўзнімае толькі тады, калі Зіна зноў пытаецца:

— Цётка Марута, пагляньце: я не дробна крышу?

— Ладна, Зіначка, як пакрышыш, так і будзе...— адказала Марута.

...Даўно перасталі страляць іскры ў печцы. Перагарэў на попел і рассыпаўся драбок золата — чырвоны вугалёк. Толькі за вокнамі не сціхаюць шоргат і шапаценне, і нехта цяжка варочаецца, быццам намагаецца ўстаць і ніяк не можа...

*1968*

# ЖУЛІК

Пад паветкай было светла і суха і нічым не пахла, як у пустой хаце зімой. Дзіўна, але Пятрок не адразу ўбачыў Жуліка, які ляжаў у бліжнім кутку — задам да варот, адкінуўшы руды хвост.

Пятрок пазваў сабаку:

— Жулік!

Сабака не паварушыўся, быццам быў нежывы. Пятрок ступіў яшчэ колькі крокаў.

— Жулік! — Цяпер ён пазваў мацней і з нецярплівасцю. Зноў ні адна шарсціна не ўздрыгнула на спіне сабакі. Пад скурай востра выступалі пазванкі хрыбетніка і рэбры. Рэбры ледзь прыкметна ўздымаліся: сабака дыхаў, жыў. Петраку стала зябка, быццам ён пагледзеў на нябожчыка ці на чалавека, якога ён некалі любіў, але

які цяпер памірае, і ён, Пятрок, павінен будзе яго хаваць. Ён выйшаў на двор. З-пад ног сыпануліся кураняты, зацёхкала, закрычала адчайна-пуста курыца. На бузіне церабіліся вераб'і. Сонца стаяла высока і сляпіла вочы з бялёса-мутнай смугі.

— Нешта сабака не адзываецца. Ці не захварэў? — спытаўся Пятрок у маці, зайшоўшы ў хату.

— Ён з зімы хварэе — і не здыхае, і не аджывае. Хай бы дайшоў ужо. Састарэў, глухі, бяззубы.

— Вы хоць есці яму даяце?

— Альбо гэта парасё маленькае, што шчэ нянчыцца з ім. Свінні ядуць, дык і яму хапае. Праўда, дні два нешта не відаць на двары,— маці грукала вёдрамі, абмешваючы ў іх тоўчаную бульбу мукой — свінням.

Пятрок узяў некалькі бульбін у міску, раздушыў рукамі, даліў крупеняй з чыгунка на прыпечку, дабавіў малака і зноў пайшоў пад паветку.

І цяпер Жулік не адазваўся на голас. Толькі калі Пятрок зайшоў ад галавы і паставіў ля носа міску, ён расплюшчыў вочы, зірнуў на Петрака, але таго ажыўлення ці радасці, якія заўсёды былі пры сустрэчы, цяпер не паказаў. Сабака і не глянуў на міску, вочы самі заплюшчыліся. Ён рэдка і цяжка дыхаў, тады быццам раздаваўся ўшыркі, і рэбры выступалі пад скурай, як дручкі ў плоце.

Пятрок прысеў ля сабакі, падняў яго за галаву і сунуў мордай у міску. Жулік таргануў галавой, аблізаў пысу, хлебтануў з міскі разы са два. На большае не хапіла сілы, і ён сунуўся галавой узбоч міскі на выпрастаныя лапы. На каляных, як дрот, чорных валасах пысы засталіся вісець крошкі бульбы. Сабака саслаб так, што не меў сілы нават хлябтаць. Пятрок зноў узяў яго за галаву, задраў угору, расціснуў шчэлепы і пачаў з міскі ліць жыжку ў рот. Яна цякла па азызлаватых пакусаных губах, з куткоў рота на шыю і зямлю, але тое-сёе трапляла і ў глотку, і сабака сутаргава глытаў, мутнымі вінаватымі вачыма пазіраючы на Петрака. Калі на дне міскі засталася адна гушча, Пятрок шпурнуў міску на двор. На яе адразу ж наляцелі куры.

Пятрок узняў Жуліка на ногі:

— Ану пайшлі!

Ногі не трымалі сабаку. Ён вісеў на руках, як на вяроўках. Пятрок адпусціў рукі — сабака асеў на зямлю.

— Не, брат, так нічога не будзе.

Пятрок згроб сабаку за грудзіну і павалок на двор. Жулік і цяпер быў як нежывы, худы зад яго бязвольна валокся па зямлі, грабучы за сабой саломінкі, трэскі. Сабаку калаціла.

— Ага, давай-давай, у пасцель, можа, цягні,— няэлосна сказала Петраку маці. Яна стаяла ў загарадцы ля хлява, выцірала мокрыя рукі аб спіну кабана, які хлэмкаў над карытам.

Пятрок падцягнуў Жуліка да плота і апусціў на зямлю:

— Хай паляжыць на сонцы, сагрэецца трохі.

Сабака ляжаў, заплюшчыўшы вочы. Праўда, ляжаў адзін ён нядоўга. Яго зараз жа акружылі кураняты, пазалазілі на спіну, на галаву, а адно ўпарта старалася скляваць з пысы бульбяныя крошкі. Хоць сабака і быў ледзь жывы, але яму надакучыла гэта дзёўбанне ў пысу, і ён гыркнуў на іх, клацнуў зубамі. Кураняты рассыпаліся куды каторае. Тут, у кутку паміж плотам і сцяной хаты, было зацішна, душна, і сабака спакойна заснуў.

Выйшла на ганак Ліля — босае чатырохгадовае дзіцянё ў чырвоных трусіках і блакітнай майцы; белае, як папера, незагарэлае цела; зажмурылася, узняўшы тварык угору:

— Ой, як багата сонца!

Працерла вочы, агледзелася кругом, убачыла Жуліка, закрычала радасна:

— Тата, сабака! У нас на двары сабака! Я вазьму ў бабы хлеба і прынясу яму.

— Ты спачатку сама паеш, а сабаку будзеш карміць пасля,— паказала з расчыненых дзвярэй галаву баба.— Ідзі, унучачка, паснедай!

Але малое ўжо было ля сабакі. Жоўтыя падушачкі броваў сабакі цяжка пайшлі ўгору — ён зірнуў на дзяўчынку — і зноў уніз: сціснуў павекі. З вока выкацілася і папаўзла па шчацэ мутная кропля.

— Тата, ён плача! Ты бачыў, ён плача! — Ліля прысела ля сабакі, пачала гладзіць рукой па галаве, па спіне.

— Пайшлі, дачка, паснедаем, а пасля і яму прынясеш што-небудзь — ці хлеба, ці кавалак рыбіны. Ён хворы, яму холадна. Ты ж бачыш, дрыжыкі ходзяць па ўсім целе. Хай трохі ачуняе, адагрэецца.— Пятрок узяў дачку за руку, і яны пайшлі ў хату, пакінуўшы Жуліка аднаго. Яго зноў акружылі кураняты.

Ліля ў хаце не забавілася, выбегла на двор са скібкай хлеба і рыбінай галавой у руках, паклала Жуліку пад нос. Ён панюхаў і хлеб і рыбіну, але есці не стаў ні тое, ні другое — зноў ткнуўся пысай між лап. Колькі разоў ён расплюшчваў вочы, мусіць, для таго, каб зірнуць на Лілю, хоць гэтым аддзячыць ёй за клопаты. А яна ўжо як прырасла да яго: гладзіла па галаве, па спіне, адганяла куранят...

— Кінь ты, унучачка, гэтага здыхляка, хай яго ваўкі задушаць. Пабач, які ён шалудзівы. Выпэцкаешся, поўсцю ўся абчапляешся,— не пакідала надзеі прагнаць унучку ад сабакі баба. Ды дзе там!

— Ай, баба Маша. Я буду з ім гуляць.

— Што-та за гульня з сабакам,— непрытворназзлавалася баба Маша.— Мо шчэ якую хваробу прывалок на сабе ці кляшчоў. Бяжы на лужок, унучачка, матылькоў палаві — іх там чоршта лётае...

Але Ліля нічога не хацела слухаць. Падышоў Пятрок.

— Мама, а дзяцей тут няма нічыіх? Каб пайшла, пагуляла?

Ён з дачкой прыехаў да маці ўчора ўвечары і не паспеў яшчэ агледзецца.

— На тым пасёлку ёсць. У Жэні, у Гэлькі, у Аркадзі. Там ёсць. А тут... Адкуль яны будуць. Сядзяць адны старыя карчы, дажываюць век. Вольчына Зіна была, раней прыязджала, прывозіла хлопцаў сваіх. Мусіць, з месяц бегалі на вуліцы. Такія добрыя хлопцы, пазагаралі, цёмныя сталі, як смоль, дык во ў гэтую нядзелю якраз прыехала па іх на машыне, забрала. Што ўжо голасу было, плачу — надта не хацелі ехаць. «Бабачка, міленькая, мы з табой будзем, і кароў будзем адпасваць, і курэй ганяць, усё-ўсё будзем рабіць, што загадаеш...» Надта не хацелася ім ехаць... Дзеці, а тут ім воля вольная,— і лес іхні, і луг, і поле, і канава... Якая яна, ды ўсё ж вада, параздзяюцца дагала, канаву перагародзяць дзёрнам і плешчуцца дзень цэлы, не вылазяць з вады... І ты б узяў яе, ды прайшлі б на канаву ці ў лес...

— Баба, не гаварыце так моцна, а то Жуліка пужаеце. Ён баіцца вашага голасу, бачыце, як уздрыгвае,— перабіла бабу Машу Ліля.

— Жыў будзе твой сабака па гэтым,— як дарослай, сур'ёзна адказала баба Маша.— Ён глухі, нічога не чуе, а ўздрыгвае, то мо ўжо даходзіць.— Яна зірнула на са-

баку, потым на Петрака, усміхнулася.— Дастаецца ж яму ўсюды, беднаму, болей, чым каму. Летась са свайго вяселля прывалокся, дык думала, ужо ўсё, ка-а-пец. Нехта бок прапароў і галаву разбіў. Ды жывучы, пранцы яго ведаюць. Паляжаў на сене, паскуголіў трохі, залізаў раны і зноў пайшоў. Кажуць жа, зажывае, як на сабаку. Адыдзіся ты, унучачка, няможна глядзець, як ты гладзіш яго. Бач, поўсць вылазіць на ім, клоччам вісіць. Адыдзіся... І ты маўчыш, не можаш загадаць,— зазлавала на сына.— Знайшлі забаўку ля здохлага сабакі...

Пятрок кіўнуў галавой, але нічога не сказаў ні ёй, ні дачцэ, пайшоў у хату. Маці тыцнулася па двары тудысюды, дачакалася, калі ішлі на сена бабы з граблямі, і пайшла з імі. Неўзабаве і Пятрок выйшаў на двор. Узяў пад паветкай скрынку з цвікамі, малаток, сякеру, пайшоў на гарод — паднаўляць частакол. Стукаў малатком, кратаў рукамі кожную частаколіну, дзе заганяў новы цвік, дзе забіваў глыбей стары, у колькіх месцах прыбіў новыя колікі — старыя патрухлелі...

Пятрок сам некалі прынёс яго, тоўстага, круглага, як тугі скрутак воўны, шчанюка на кароткіх слабых лапах — у іх не ставала пруткасці нават трымаць сваё кароткае цельца. Было гэта гадоў чатырнаццаць таму назад. Пятрок яшчэ хадзіў у школу — ці не ў восьмы клас. Ён быў якраз у Івана Кнігі, пасабляў згружаць з трактарнага прычэпа дровы, а ў таго дні са тры назад ашчанілася сучка,— як сляпыя краты, поўзаюць па ёй малыя, аж шэсцера. Петраку прыпаў на вока гэты куртаты светла-руды і зусім бездапаможны цяльпук. Трымаць цела не меў сілы, а паспрабаваў Пятрок падражніцца, пстрыкнуў разы са два па носе — агрызнуўся, учапіўся ў палец, што там учапіўся — якія там зубы і сіла! «А ты, брат, з норавам!» — пахваліў шчанюка Пятрок. «Бяры, калі ўпадабаў, мне што, хіба шкода, усё роўна тапіць трэба несці...» — ухмыльнуўся Іван Кніга. Пятрок укінуў шчанюка ў шапку і панёс дамоў.

Так і застаўся жыць. Надта хітрае, жулікаватае было сабачанё з вясёлымі, жывымі вачыма. Жулікаватае... Нейкім далёкім нутром сваім яно чула, што калі выпадак аднойчы падараваў нечаканае шчасце — пакінуў жыць, дазволіў бегаць па зямлі, мець свой голас і зубы,— то

за гэта шчасце трэба змагацца, заўсёды і ўсюды, чым і як даводзіцца.

Жулік быў сабака хітры і разумны. Ён рана пачаў дзяліць людзей на «чужых» і «сваіх» — тых, хто падабаўся гаспадару, Петраку, ці не падабаўся, і ў залежнасці ад таго, да «чужых» ці «сваіх» чалавек належаў, ён і сустракаў: ці пагрозлівым і непрымірымым «Р-р-р!!!», ці прывітальна-ветлівым — тут можна было і хвастом вільнуць, і голас расцягнуць да радаснага падвывання — «Гаў-гаў-гаў!..».

Канечне, навука гэта давалася няпроста, і ці адзін раз адлятаў Жулік ад ганка, адкінуты цвёрдым, як камень, ботам самога ж Петрака, але кожны новы ўрок рабіў яго мудрэйшым. Жулік вельмі скора навучыўся распазнаваць людзей — па вачах. Ці ён баіцца, ці смела ідзе, ці ён шчыры, адкрыты, ці тоіць хітрыкі... Сама горай не любіў Жулік тых, хто асцярожненька ступаў на двор, з гэтакім прыніжаным, прыгорбленым «цюцька-цюцька...». І тут Пятрок нічога не мог зрабіць з ім. Спачатку не мог, а пасля дык і не хацеў: Жулік рэдка калі мог узненавідзець каго без дай прычыны.

Рознага дастаў Жулік на сваім вяку — і смешнага і балючага. Лёгка, як у сваю будку, заходзіў у чужую хату — лапай прыпадыме клямку, адчыніць дзверы адны, другія, паваліць засланку, і калі блізка стаяў чыгунок з якой ядой — то гэта ўжо было яго.

Адзін раз дык Пятрок сам быў сведкам, як Жулік украў цэлую свіную галаву. У таго ж самага Івана Кнігі. Мужчыны панеслі абсмаленую тушу ў хату, а галаву паставілі на шулу, на снег, каб кроў сцякала ды застыла трохі сала. Жулік толькі і цікаваў гэтага моманту. Хаваючыся за шулой, каб ніхто не ўгледзеў з хаты, ён падкраўся да галавы, стаў дубка, але і тады не мог дастаць да галавы. У другі раз Пятрок, мусіць, умяшаўся б, а тут паляўнічы азарт захапіў і яго: што будзе далей? А далей было даволі проста. Спачатку Жулік спрабаваў лапай скінуць галаву з шулы, ды галава сядзела моцна. Тады ён пачаў танцаваць, падскокваць, каб дастаць зубамі. Смяшней танца Петраку не даводзілася бачыць... .Можа, на які дзесяты раз Жуліку ўсё ж пашанцавала: галава шухнула ў снег. Тут ужо ён не даў маху: упіліўся ў вуха і павалок за хлеў, а адтуль — у кусты...

Відаць, лепшага смятанніка, як Жулік, таксама не

было сярод сабак. Адчыніць стопку, скінуць накрыўку з гладышкі — ці шмат навукі трэба! Праўда, даставалася і тут — ці чапялой, ці колікам, а адзін раз і вілы ўсадзілі ў сцягно... Тыдні са два пралежаў ён тады дома, пад паветкай, гоячы раны...

А то ледзь не трапіў ваўкам на абед. Страшная была зіма тады, марозная, галодная, самая Піліпаўка. Пятрок тады кожны вечар хадзіў да Назара Цмыгі — няўдалага паляўнічага і пустога гаваруна. Сядзелі вечарамі, байкі баялі. Байкі байкамі, а ў Назара была дачка Анюта, і гэта да яе хадзіў Пятрок.

Кожны вечар разам з ім бег і Жулік. Петрака ён чакаў пад лазняй, што стаяла за соткамі ў самым сасонніку. Тут ваўкі і аблажылі яго. Якім шчасцем Жулік вылузнуўся з іх зубоў — а было ваўкоў аж чатыры,— аднаму яму вядома. Праз дзірку ў плоце ён ускочыў у двор. Сенцы не былі зашчэплены, і Жулік уляцеў у іх, а там — на дзежку, з дзежкі — на печ — зімой у сенцах не жылі і ў печы не палілі,— і ўжо там, на печы, даў волю голасу: завыў адчайна і жаласна — так, што аж страшна стала людзям у хаце. Усе выскачылі ў сенцы, запалілі святло і ўбачылі Жуліка. Нават і тады ён баяўся злазіць з печы.

Не адзін год Жулік быў першы на сабачых вяселлях. Тут яму памагалі і сіла, і магутныя іклы, і вёрткасць. Ён не ведаў сабе роўных, пакуль у Назара Цмыгі не вырас паджары, з рудавата-цёмнымі панурымі вачыма ганчак. Некалькі гадоў яны рэзаліся як не насмерць і перамагалі то адзін, то другі, але маладосць нарэшце ўзяла сваё — ганчак адцёр Жуліка. З гэтай новай роллю Жулік доўга не хацеў мірыцца і на кожным вяселлі «паказваў зубы», але гэта ўжо была не тая ярасная і адчайная разня першых гадоў суперніцтва, а проста абарона былога гонару і былой славы — без крыві і вырванага клочча шэрсці. Узрост браў сваё.

Апошнія гады да ўсяго іншага прыйшла і глухата.

Пятрок прайшоў плот ад вуліцы, завярнуў пад поплаў. Час блізіўся пад абед, было душна, і Пятрок падумаў пра тое, што цяжка будзе жонцы ў аўтобусе, калі надумае сёння ехаць.

Высока ў сівой духаце неба, крута заломваючы кругі, плаваў коршак. Здавалася, на зямлі яго мала што ціка-

віла,— птах проста вылецеў пагуляць, пазабаўляцца, праверыць пругкую сілу распасцёртага крылля. Але Пятрок ведаў, што коршак будзе кружыць так гадзіну, другую, спакойны і ўпэўнены ў праваце дадзенай яму прыродай сілы, і што на зыходзе гэтай ці другой гадзіны рошыцца лёс якой-небудзь жывой істоты,— можа, беднай перапёлкі, ці жаўранка, ці нават курыцы,— але Петраку не хацелася ісці па ружжо, каб пужнуць яго адсюль.

Прыбегла Ліля, стала перад бацькам, склаўшы, як старое, ручкі на жываце: навучылася ад бабы Машы.

— Тата, а Жулік ужо хлеб есць і ўстае на пярэднія лапы,— сказала і светла пазірала на бацьку, і вачаняты яе аж гарэлі ад радаснага ўзбуджэння.

— Добра, дачка. Раз пачаў есці хлеб — будзе жыць.— Пятрок прыгарнуў дачку да сябе.

— Я яму адзін раз прынесла хлеба, і ён увесь яго з'еў, а другі раз не ўвесь з'еў, дык куры ў яго абклявалі.

— Нічога, ён гэтым курам яшчэ пакажа, дзе ракі зімуюць.

— Ага, хай пакажа.— Дачка пабегла назад, у двор, узбіваючы на дарозе пыл лёгкімі ножкамі. Пятрок пайшоў да канавы. Ішоў, блытаючыся нагамі ў канюшыне, сеў на бераг канавы, спусціў разутыя ногі ў ваду, што струменілася па пясчаным дне. Вада халадзіла ногі, абмывала іх, і разам з халадком, з гэтым шаўкавістым казытаннем вады, разам з даўкім, гарачым пахам торфу і разамлелых кветак прыйшло адчуванне дабрыні і спакою. Пятрок даўно ўжо жыў у горадзе і нізавошта не вярнуўся б жыць у сяло, хоць і любіў прыехаць «падыхаць свежым паветрам». Жыць — не вярнуўся б, бо цяпер усё яго жыццё было там, у горадзе, і ён сам увесь быў там, але нейкая маленькая часцінка яго засталася тут, і без яе ён не мог жыць.

Пятрок ляжаў, адкінуўшыся на спіну, галавой на мяккай травяной купіне. Ногі ў вадзе, над ім срабрыста-белае неба, і думкі яго плылі, як гэта мяккая халодная вада. На нейкае імгненне Петраку здалося, што ён чуе, як нетаропка цячэ час — спакойна, ціха, вечна, сам сабой. Гэта было незвычайнае адчуванне. Ён адначасова адчуў сябе і хлапчуком, як яны некалі хадзілі з маці на балота збіраць журавіны і, натомленыя, прысаджваліся на мяккіх махавых купінах адпачыць, апусціўшы ногі ў расквашаных лапцях у балотную халодную ручаіну, і з

імі быў Жулік — зусім малады, вясёлы, з жывымі адданымі вачыма; і бацькам — маладым і шчаслівым ад таго, што ў яго ёсць вялікая радасць, гэты жывы камячок — Ліля; і мужчынам, у якога ёсць жонка, якую ён кахае, а яна яго; і яшчэ некім, большым і мацнейшым, хто аб'ядноўваў разам усё гэта і яшчэ шмат што. І яго роднае сяло, ад якога ён адвыкае, адвык ужо, якое ён перастае любіць, хоць сам і стараецца ўгаварыць сябе любіць яго, бо яно ўжо нечым злуе яго, нечым не падабаецца яму, можа, тым, што не падобна на горад, што сюды нязручна дабірацца. У трох кіламетрах адсюль, за ляском, белай сілікатнай пірамідай узрасла воданапорная вежа, і каля яе выстраіліся двухпавярховыя і аднапавярховыя цагляныя дамы,— гэта туды перасяляюцца, у каго стае сілы і смеласці, пасялкоўцы.

Там, дзе бялее, быццам плыве над зялёным грабянцом лесу, белая вежа — цэнтр калгаса, туды перацягваюцца астаткі брыгады, і, відаць, хутка давядзецца пераязджаць і маці, разламаць гэтую старую хату і хлеў на дровы.

Пятрок устаў, пайшоў у двор. Жулік спаў. Толькі цяпер ён ляжаў у цяньку, ля варот: схаваўся ад сонца. Ён праспаў увесь дзень, цяжка і неяк вінавата ўзнімаў вочы на Петрака, калі той спыняўся ля яго. Пятрок два разы карміў яго. Пад вечар Жулік устаў на ногі, стаяў, хістаючыся, на трох лапах, падкурчыўшы пярэднюю: відаць, нехта добра ўгадзіў па ёй. Ногі яшчэ былі слабыя, зад вадзіла ў бакі, і сабака зноў лёг. Лежачы абнюхаў куст пырніку, малакроўную бледна-зялёную сцябліну лебяды, што выбілася праз шчыліну з агарода ў двор. Абнюхваў доўга, варушачы ноздрамі, быццам усё гэта бачыў першы раз у жыцці. Узяў травіну на зуб, паспрабаваў жаваць, пусціў зялёную сліну...

Начаваць Жулік не пайшоў пад паветку, застаўся ля плота.

Назаўтра ён ужо зрабіў некалькі кругоў па двары, але больш ляжаў, набіраючыся сілы. Ліля зноў не адыходзілася ад яго. Жулік дазваляў ёй рабіць з сабой усё, што яна хацела.

Ля Жуліка і застала яе маці, калі пад вечар заявілася з аўтобуса, убачыла і аж спалохалася: божа мой, што робіць яе мілае дзіця — гуляе з нейкім аблезлым сабакам. Схапіла яе на рукі, панесла ў хату, доўга мыла і

рукі і твар цёплай вадой з мылам. А вярнуўся Пятрок — ён хадзіў якраз у лес,— наляцела на яго: як ты можаш дапусціцца да такога, бацька называецца...— і пайшла, і пайшла... Пятрок пазіраў на яе, усміхаўся. Ён ведаў жонку, ведаў яе раўнівую любоў да дачкі, яе хваравітыя страхі: каб хаця з ёю нічога не здарылася, спытаўся пра другое: «Як даехала?» І Марына пачала расказваць, як ёй пашанцавала: толькі сышла з аўтобуса — ідзе машына сюды, на брыгаду, і нават было месца ў кабіне, словам, з дарогай усё было добра, але прыйшла з поля маці — Марына зноў успомніла сваё.

— Мама, вы толькі падумайце: заходжу ў двор, бацькі няма, недзе шлындаецца па лесе, а Лілечка гуляе з гэтым сабакам... А ў яго, можа, хвароба якая?

— А з кім ёй тут гуляць? — чамусьці зазлаваў Пятрок.

— Як з кім? З дзецьмі.

— Няма тут дзяцей, Марыначка. Трэба ісці на той пасёлак, там ёсць... А тут адны старыя,— нечакана падтрымала Петрака маці.— А якая хвароба можа быць у сабакі? Жыве разам з намі, і ходзіць разам са свіннямі, і есць з імі.

— Ай, мама, што вы гаворыце? Хай бацька меней па лесе шастае, а болей з дзіцем забаўляецца.— Яна зірнула ў акно і пабялела: ля плота ляжаў Жулік, а Ліля сядзела ля яго і ўплятала стужку ў хвост. Марына вопрамеццю выскачыла ў двор, схапіла дачку на рукі, турнула нагой Жуліка і, лупцуючы малую, прыпёрла ў хату.

— Вы толькі паглядзіце, што яна вырабляе! Толькі што пераадзела ва ўсё чысценькае. Божа мой, уся ў поўсці, уся ў пяску, у зелені.— Марына сама плакала, плакала Ліля, вырываючыся з рук, крычаў Пятрок. У хаце стаяў такі гвалт, што маці махнула рукой і пайшла ў грады: разбірайцеся самі, як хочаце...

Хвілін праз пятнаццаць у хаце ўсё ўляглося, і ўсе ўтраіх — Пятрок, Марына і Ліля, пераапранутая ў новую сукеначку, з новым банцікам на галаве — выйшлі на вуліцу і пайшлі ў бок лесу. Усё мірна і ціха было ў гэтай маленькай сям'і. Марына расказвала пра дарогу, пра тое, як начальнік участка не хацеў даваць ёй водпуск і як яна ўсё ж настояла на сваім. Пятрок слухаў яе. Толькі Ліля ўвесь час круціла галоўкай, азіралася на бабін двор, дзе пад плотам застаўся ляжаць хворы Жулік.

Ад'язджаў Пятрок назаўтра пад вечар. Ехаць рашыў цягніком, што ішоў ноччу, каб раніцай паспець на працу. Выйшаў за пасёлак, азірнуўся назад: метрах у дваццаці за ім, угнуўшы галаву да зямлі, куляўся на трох нагах Жулік. Ён узняў галаву толькі тады, калі да Петрака засталося метраў з пяць. Прыпыніўся, завіляў хвастом. Пятрок падазваў яго, пагладзіў за вушамі. Жулік цягнуўся галавой угору, намагаючыся лізнуць Петрака ў твар.

— Ну, а цяпер марш дамоў! — загадаў Пятрок.— Марш дамоў!

Жулік адскочыў убок. Ён стаяў на трох нагах, трымаючы перабітую на вісу. Пазіраў на Петрака, быццам не разумеў, што той хацеў.

— Дамоў! — яшчэ раз сказаў Пятрок і пайшоў сам, адразу ўзяўшы шырокі спорны крок. Азірнуўся адзін раз — Жулік стаяў на тым жа месцы. «Хай ідзе назад. Куды ён з перабітай нагой»,— супакоіў сябе Пятрок, быццам перад некім апраўдваўся. Але калі кіламетра праз паўтара, узбіраючыся на пагорак, Пятрок азірнуўся, то ззаду, метраў за дзвесце, убачыў Жуліка — той размерана куляўся ўслед па дарозе. Убачыў, што Пятрок стаіць, прыпыніўся, стаяў, высалапіўшы язык. Пятрок паклікаў яго. Жулік наблізіўся метраў на дваццаць, звярнуў да канавы, пачаў хлябтаць ваду, цікуючы вачыма за Петраком. Пятрок пайшоў далей, і Жулік зноў закуляўся за ім. Так яны і ішлі, як прывязаныя адзін да аднаго, не зближаючыся: варта было Петраку стаць, як зараз жа прыпыняўся і Жулік, Пятрок ішоў далей — ззаду куляўся і Жулік...

Ісці трэба было праз сяло. Кіламетры на два выцягнулася яно па хрыбце невысокага і даволі роўнага пагорка. Час быў перадвячэрні, сонца толькі што зайшло, на вуліцы было шмат людзей — то групкамі па пяцьшэсць чалавек, то па адным яны сядзелі на лавачках, уважлівымі позіркамі праводзілі Петрака. Сяло стаяла недалёка ад чыгункі, і людзі здагадваліся, куды ідзе гэты чалавек... Недзе пасярод сяла на вуліцы хлапчукі гулялі ў футбол. Пятрок ледзь прашыўся праз іх крыклівы і бегатлівы натоўп, падумаў, што Жуліку тут не праравацца, футбалісты яго не прапусцяць. «Хай ідзе дамоў»,— зноў супакоіў сябе. І праўда, праз нейкі час пачуў ззаду крыкі, галёканне. З такім азартам і гвалтам хлапчукі

маглі сустрэць толькі незнаёмага сабаку... Крыкі неўзабаве сціхлі, і Пятрок спакойна пакрочыў далей. Канец вёскі пераходзіў у грэблю, за якой пачынаўся даволі круты пад'ём на новы пагорак, за якім ішоў лес. За гэтым лесам і была чыгунка. На паўдарозе да лесу Пятрок раптам пачуў ззаду галасы сабак. Азірнуўся: у кустах на грэблі ішла валтузня, чулася гырканне, мітусіліся цені. Гырканне сціхла, і з кустоў выскачыў Жулік, але яго ў некалькі скачкоў дагналі два чужыя сабакі, і ўсе тры, скруціўшыся ў клубок, пакаціліся па зямлі. Пятрок кінуўся на дапамогу Жуліку. Сабакі так раз'ятрыліся, што не чулі, як падбег Пятрок. Ён нагой адкінуў аднаго з іх, другога, яны заякаталі, ірванулі наўцёкі. Жулік сядзеў на зямлі, залізваў пакусаны бок.

Далей яны ішлі, як гэта было заўсёды раней, калі Жулік быў маладзейшы, а Пятрок жыў у вёсцы: Жулік то пераганяў Петрака, то адставаў, то ішоў нага ў нагу. У лесе было цёмна, дарога цьмяна жаўцела ўперадзе, і Петраку было прыемна чуць то спераду, то ззаду, то збоку размераны сухі шоргат і бачыць круглы цёмны цень...

У станцыі людзей было мала, да адходу цягніка было болей дзвюх гадзін, і Пятрок выйшаў на двор, да Жуліка.

— Ну, а цяпер ідзі дамоў,— сказаў яму мяккім, лагодным голасам: яму і самому не хацелася разлучацца з сабакам. Ён пагладзіў яго за вушамі, па худой спіне, зноў паўтарыў: — Ну, ідзі...

Падышлі да водаправоднай калонкі. Пятрок пусціў ваду, напіўся сам, напіўся Жулік — з бетоннага жолаба.

— Ну, марш дамоў,— ужо строга загадаў Пятрок, падштурхнуўшы сабаку наперад, і Жулік пабег.

Пятрок вярнуўся ў вакзал, прылёг на лаўцы. Заснуў ён непрыкметна, забыўшыся на заўсёдны дарожны клопат: каб хаця не праспаць. Прачнуўся ад адчування, што вельмі цёпла стала ў твар, быццам падзьмуў аднекуль цёплы вецер. Потым нехта далікатна правёў мяккім па шчацэ, па губах... Пятрок расплюшчыў вочы: між лавак, насупраць самага Петраковага твару, стаяў Жулік. У слабым паўзмроку цьмянага святла, што ішло са столі ад дзвюх лямпачак у вялізным пяціражковым люстры, мокрымі крышталікамі антрацыту блішчэлі яго вочы.

Дзверы ў станцыю былі адчынены.

У Петрака перахапіла дыханне.

Яны выйшлі на двор. Тут было халаднавата, высыпалі зоркі. Пятрок правёў Жуліка цераз пуці, яшчэ раз загадаў:

— Ну, ідзі дамоў. Ідзі!

Цяпер Жулік адразу закуляўся па сцежцы і неўзабаве прапаў у цемры. Пятрок вярнуўся ў станцыю: была пара браць білет.

Неўзабаве ён атрымаў пісьмо ад Марыны.

«У сяле вельмі добра, у лесе шмат чарніц, нават пайшлі баравікі,— пісала яна, прасіла, каб і ён прыехаў хоць на дзень-другі. А ў канцы пісьма было і пра Жуліка: — Жуліка нашага ўжо няма. Са станцыі ён тады вярнуўся, а праз некалькі дзён як быццам і зусім паправіўся. Ліля ад яго не адыходзіла — і карміла, і паіла. А пасля неяк раніцай, калі мама пайшла на работу, пайшоў з двара і ён. Пайшоў і не вярнуўся. Не вярнуўся ні назаўтра, ні напаслязаўтра. Няйначай, здох недзе. І ведаеш, не стала яго, і мне яго стала шкода. А ўжо Ліля, дык тая дні тры месца сабе не знаходзіць, і плача, і кліча яго, і ўпрошвае вярнуцца: ёй здаецца, што Жулік пайшоў ад нас таму, што мы пакрыўдзілі яго...»

Жулік застаўся Жулікам. Відаць, чуў блізкую смерць і, як усякі добры сабака, сышоў з двара, каб і смерцю сваёй не даваць лішніх клопатаў гаспадарам.

У адзін з марозных зімовых дзён Пятрок ішоў па добра ўезджанай многімі машынамі дарозе ў сяло. Ішоў і час ад часу спыняўся, адхінаў паліто, заглядваў за пазуху. Там, добра прыгрэўшыся, выцягнуўшы востры носік угору, сядзеў чорна-белы шчанюк з вясёлымі жывымі вачыма. Аддаючы яго, гаспадары казалі, што гэта чыстапародная лайка. Петраку ж больш за ўсё падабаліся гэтыя хітрыя, разумныя, быццам з балтыйскага бурштыну, рудавата-жоўтыя вочы.

*1974*

# СМЕРЦЬ НАЦЫЯНАЛІСТА

*Памяці майго земляка В. Ганчаронка*

Дзверы пакоя расчыніліся ўслед за нецярплівым стукам у глухую дашчаную філёнку. Звычайна так смела заяўляюць аб сабе толькі свае. І праўда, на парозе стаяў Ён — жывы і светлы, як чаканая ява ці прыемны сон. Сухія шчэлепы абсыпаны рудой шчацінай, вялікія жоўтыя зубы скаляцца шчаслівай усмешкай: «А ўжо-ткі я цябе ўпільнаваў...»

Расхрыстаны салдацкі шынель без пагонаў, кірзавыя боты з пісягамі старой засохлай гразі. Апошняе я заўважыў пазней, ды і якое гэта магло мець значэнне.

Мы абняліся, як родныя браты, што па нейкай дурной волі доўга не бачыліся. І праз калянае сукно шыняля я неяк балюча адчуў худую касцістасць яго пруткага цела.

Мы не бачыліся гадоў пяць, калі не болей, але цяпер у мяне было так небагата часу і для радасці, хоць я і быў бясконца рады яму, і для роспытаў. Я пазніўся на лекцыі, а трэба было яшчэ забегчы перакусіць, і таму я спытаў у яго без лішняй дыпламатыі:

— Ты снедаў?

— Не.

— Тады пайшлі.

— Пайшлі.

Закусачная, яна ж студэнцкая забягалаўка, была ў суседнім доме, і па дарозе туды мы паспелі перакінуцца колькімі пытаннямі, адказ на адно з якіх мяне сур'ёзна азадачыў.

— Адкуль ты зваліўся? — спытаў я.

— З Пячэрска.

— Магілёўскага?

— Ну.

Адказваў ён весела, з паспешлівай, наіўна-дзіцячай гатоўнасцю, нібы даўно чакаў гэтых пытанняў і даўно гатовы быў на іх адказваць.

Ён заўсёды любіў жартаваць, але тут я зразумеў, што ён не жартуе.

Пячэрск — вядомы сумнай славай гарадок для псіхічна нездаровых, а папросту «ненармальных» людзей. Туды, як і ў кожны дурдом, трапіць было нашмат лягчэй,

чым выграбціся адтуль. А тым болей выграбціся і раскатваць па свеце, быццам нічога не было... Яшчэ некалькі гарадкоў з гэтакай жа назвай раскідана па краіне, але магілёўскі ёсць магілёўскі.

І, мусіць, таму мне адразу ж успомніўся другі чалавек, Іван Сіняўскі — высокі, бяскроўна-белы юнак, што хадзіў па сёлах нашага раёна на самым пачатку вайны. Людзі казалі, што яго разам з іншымі хворымі выпусцілі з таго самага Пячэрска, калі да Магілёва сталі набліжацца немцы. Акуратна, па-гарадскому апрануты, ён заходзіў у чужую хату, як у сваю, і садзіўся за стол на покуці. Тым самым паказваў, што хоча есці. А чаго можна даць галоднаму чалавеку ў сяле? Перш за ўсё хлеба і малака.

Іван умудраўся есці так, што заўсёды нешта і заставалася — ці хлеб, ці малако. Заставаўся хлеб — жаласлівая гаспадыня далівала малака, заставалася малако — адкройвала хлеба. І так да той пары, пакуль Іван не наядаўся.

Дзе б ні ішоў, што б ні рабіў, нават у хаце, за сталом, Іван мармытаў адны і тыя ж словы: «Над Масквой вялікай, златаглавай...»

Прамармытаўшы гэтыя словы, ён раптам замаўкаў, сціхаў, слухаючы самога сябе. Сіліўся ўспомніць, што там далей. Не ўспаміналася. Незадаволена матаў галавой: «Не, не так!» — і пачынаў зноў: «Над Масквой вялікай, златаглавай... Не, не так...»

Гэта было як песня яго, як малітва, працяг якой ён не мог успомніць. Адчувалася, што яму было вельмі важна ўспомніць, што там далей, за першымі словамі, але хворая памяць не давала яму гэтага.

Здавалася, яшчэ трошкі, яшчэ адно намаганне — і ён успомніць тыя забытыя, такія неабходныя словы. І тады ён... Тады ён перастане быць тым Іванам, на якога з такой жальбой пазіраюць вясковыя бабы, тады светлаблакітныя вочы яго не будуць пераскокваць з аднаго на другое, не маючы сілы ні на чым зачапіцца, а засвецяцца жывым асэнсаваным аганьком. Але...

Ён нядоўга і пахадзіў з гэтай сваёй малітвай. Недзе на пачатку зімы яго знайшлі застрэленага ля дарогі. Зрабілі гэта ці немцы, ці партызаны. Маглі і адны, і другія: і тыя, і другія не любілі лішніх вачэй, а Іван заўсёды

ішоў туды, дзе былі людзі. І заўсёды са сваімі словамі: «Над Масквой вялікай, златаглавай... Не, не так...»

Дык вось, Пячэрск...

Мінск быў у пары ранняй восені, на вуліцы асядаў блакітны туман. Машыны далікатна, нібы шануючы людскія нервы, шамацелі шынамі па потным асфальце.

У закусачнай я пакінуў яго каля высокага з мармуровай крошкі століка, а сам узяў для абодвух традыцыйныя студэнцкія цефцелі, каву з малаком, па булцы з макам. Цефцелі тут умелі гатаваць смачныя, з добра вытаўчанай бульбянай кашай, не скупіліся на падліву.

Еў ён прагна, глытаючы, як качка, няжованае. Відно было, што добра прагаладаўся. Я спытаў, ці не ўзяць яшчэ порцыю. «Вазьмі»,— адказаў ён усё так жа весела. Вірлаватыя бычыныя вочы яго свяціліся ўсё тым жа адкрытым шчырым бляскам.

Калі ён вымазваў хлебам падліву з другой талеркі, я спытаў у яго зноў:

— Дык праўда, адкуль ты зваліўся?

— З Пячэрска.

— Ты мне гаворыш гэта ўжо другі раз.

— Магу сказаць і трэці...— Цяпер позірк яго быў хутчэй сумны, чым вясёлы. Але зноў шырокі, як на продаж, выскал вялікіх зубоў.

Жарты жартамі, але Пячэрск... Чаму Пячэрск?.. Я не стаў болей церабіць яго пытаннямі, настане час — усё праясніцца.

Выйшлі з закусачнай. Ён падахвоціўся правесці мяне да універсітэцкага гарадка.

— Калі ты прыехаў?

— Учора ўвечары.

— Дзе атабарыўся?

— У цябе! Гы-гы-гы!

— А начаваў дзе?

— На вакзале...

Як памятаю яго, з ім ніколі не было сумна. Гэта быў той Віктар, якога я ведаў і пяць, і дзесяць гадоў назад. Яго жарты мала разыходзіліся з праўдай, а праўда — з жартам, хаця і там, і там вясёлага было мала. Ён прымаў жыццё такім, якім яно было, і тым самым вучыў іншых рабіць тое ж.

— Якія твае далейшыя планы? — зноў спытаў я.

— На сёння?

— Ну, хаця б на сёння...

— Пахаджу па Мінску... Ведаеш, два гады не бачыў яго і, прызнаюся, засумаваў па ім. Пасля трэба зайсці ў міністэрства. Яны хочуць перавесці школу на рускую мову, а заадно вытурыць і мяне адтуль. Трэба бараніцца.

— Хто гэта «яны»?

Віктар часта не дагаворваў да канца, беручы, што чалавек ведае ці павінен ведаць, пра што талкуюць.

— Раённыя начальнічкі разам з дырэктарам.— Ён зморшчыўся, быццам яму раптам забалеў зуб.— Вось жа беларусы кругом, і дзеці беларускія, а «даёш Расею» — гы-гы-гы. Пасля загляну ў кнігарню, у тэатральныя касы: можа, пашэнціць узяць білеты куды. Ты ж не адмовішся пайсці са мной?

— Калі будзе куды... Па-мойму, дык і оперны, і купалаўцы яшчэ на выездзе.

— Пабачым.

Пабачым дык пабачым...

— Трэба яшчэ зайсці ў інстытут, можа, сустрэну свайго колішняга выкладчыка, ён мне вінен грошы. Цікавы чалавек, варта было б цябе з ім пазнаёміць. Некалі я здаваў яму гісторыю партыі, пяць разоў здаваў, на тым і падружыліся.— Віктар змоўк, нечаму ўсміхнуўся.— Ведаеш, надта рыхтавацца не было калі — дзве ночы запар разгружалі вагоны з дрыўмі, а калі папраўдзе, то і рыхтавацца не было вялікае ахвоты. Словам, я паспеў прагледзець два білеты і пайшоў. А раптам патрафіць. Шчасце — птушка выпадковая і, бывае, прыходзіць якраз у дурныя рукі. Не патрафіла, узяў не той білет. Пацягнуў другі раз — зноў не тое. Пытаюся, ці можна паспрабаваць трэці раз. Адказвае: «Можна, толькі адзнака будзе зніжана на два балы». Пазірае на мяне і пасміхаецца: ці то сам злодзей, ці злодзея ўгледзеў. Не пашанцавала і на гэты раз. Да заўтрага я прачытаў яшчэ два білеты, павысіў шанцы ўдвая. Прыходжу. Цягну раз — няўдача, другі — тое самае, тое ж і трэцім разам. Прымае ён. Смяецца: «Колькі білетаў прачытаў?» — «Чатыры».— «Прачытаеш усе — прыходзь. Прыму — хоць у інстытуце, хоць дома. А ў ведамасць пакуль што нічога ставіць не буду». Бо калі б паставіў, то не толькі стыпендыі, а і вучобы магло не быць. Даў тэлефон свой. Прымусіў прачытаць і падручнік, і шмат што іншае. На тым і падружыліся. Пасля і я ў яго грошы браў, і ён у

мяне. Але апошні вінаваты ён — пазычыў трыста рублёў. Каб пашанцавала знайсці яго — мы былі б самымі багатымі людзьмі ў Мінску.

Мы стаялі на асфальтавай дарожцы. Спяшаючыся, паўз нас прабягалі студэнты, салідна праходзілі выкладчыкі, узмахваючы важкімі партфелямі, абмацвалі нас цікаўнымі позіркамі. Віноўнікам тых цікаўных позіркаў быў Віктар — няголены, нявыспаны, у расхрыстаным салдацкім шынялі, у нячышчаных ботах. Усім сваім выглядам ён нібы хацеў сказаць: «Вы тут гарадскія, чысценькія, а мы ў сяле такія... Не падабаецца?..»

Дзівак чалавек, каго гэта абыходзіла? Такія дык такія... Яшчэ раз акінуўшы Віктара ўважлівым позіркам, я спытаў:

— І ты *такі* хочаш ісці ў міністэрства і ў інстытут?

— А што?

Ён быў флегматык. Заўсёды флегматык.

— Нічога. Зробім так: ты ідзеш да мяне ў інтэрнат, паспіш, паголішся. Паглядзі ў шафе, там вісяць штаны, стаяць чаравікі. Прымерай. Нешта павінна падысці. Можаш не спяшацца: пакуль хлопцы на вайсковых зборах, я раскашую адзін. Абавязкова зрабі ўсё гэта і толькі пасля выходзь у горад. Вяртаешся ты першы — чакаеш мяне, вяртаюся першы я — чакаю цябе. Згода?

— Згода, толькі калі без сну: я гадзіны тры пакімарыў на вакзале. Не ведаю толькі, чым я «такі» нялюбы табе? Штаны на мне новыя і боты новыя, нават абцасы не пазразаліся, у сяле толькі ў іх і ходзяць. Але калі табе так хочацца...

— Хочацца,— сказаў я.— Якія-небудзь грошы ёсць ці даць?

— На тэатр хопіць. Ды я ж казаў: мне вінаваты...

На тым пагадзіліся і разышліся кожны ў свой бок.

Віктар быў мой зямляк. Між яго і маёй вёскамі ляжала шэсць кіламетраў дарогі, але пазнаёміліся мы не дома, а ў горадзе, у педвучылішчы, куды я паступіў пасля сямі класаў. Мінуў першы месяц вучобы, я паспеў трохі абчасацца, трохі прывык сам думаць аб сабе, як раптам на адным перапынку ў аўдыторыю заходзіць сухашчавы рудаваты хлапец і густым, у нос голасам пытаецца:

— Хто тут Патупчык?

— Я Патупчык.

— Тады выйдзем у калідор.

Выйшлі.

— Ты са Слабодкі?

— Са Слабодкі.

— А я з Селішча. Чуў пра такое? — Усміхаецца.

— Дзіва што чуў!

Кожны раз, ідучы на чыгунку ці адтуль, я глядзеў на гэтую невялікую, у адну вуліцу, вёсачку, што ляжала ў нізінцы ў нейкім кіламетры ад шляху. Звярнуць з дарогі і прайсці па Селішчы не давялося, хоць думка такая неаднойчы церабіла і ахвота была. Вунь яны, як у шапцы, хаты, хлявы, прысады, сабакі гаўкаюць — пачулі чужы дух.

— Дык будзем знаёмы,— сказаў зямляк і працягнуў вузкую, з чэпкімі пальцамі руку: — Віктар Мацюшонак. Калі што, шукай мяне ці тут, на лекцыях, ці на Вечаркевіча. Лепей на Вечаркевіча, бо на лекцыях я магу быць, магу і не быць.

«На Вечаркевіча» — гэта ў інтэрнаце педвучылішча, недзе на ўскраіне горада.

Дасюль я лічыў, што ў педвучылішчы я адзін з нашага балотнага клічаўскага боку, ажно ёсць яшчэ адна душа. Як вольна і смела ён дзержыцца! І гэты грубы голас, гаворыць — быццам у сябе на вуліцы.

Ён быў ужо на чацвёртым курсе. Трохі пазней ён расказаў, што пасля дзесяцігодкі паступаў у Мінск на філосафа — не прабіўся. «Мордай не выйшаў — чылых не прызнаюць». Каб не з'ядаць час, перакінуўся сюды, у педвучылішча. Узялі без экзаменаў і адразу на трэці курс.

— А хіба можна так?

— Узялі — значыць, можна.

Гэтак мы пазнаёміліся, гэтак сталі бачыцца. Хаця што такое «бачыцца»? Было, сустракаліся кожны дзень і па колькі разоў на дзень: калідоры адны, паверхаў усяго два. Было і іншае, як выпадала. Шукаць яго спецыяльна прычыны не выспявала, але па тым, што не чутно было яго конскага рогату і некалькі дзён, і цэлыя тыдні, я здагадваўся, што яго ў педвучылішчы не было.

Неяк пасля ў студэнцкай насценгазеце я прачытаў яго верш. Было прыемна, што аўтар — мой добры знаёмы, нават болей — мой зямляк. У гэтым факце быў яшчэ адзін далікатны момант: ці то рэўнасць, ці супе-

ражыванне. Справа ў тым, што я і сам спрабаваў пісаць вершы. Але выставіцца вось так смела на людзі не адважваўся. А калі прачытаў ягоны верш, смеласці маёй яшчэ паменела.

Верш быў, як цяпер сказалі б, «дзяжурны», да свята, на ўсю першую калонку з верху да нізу. Загаловак выведзены ярка-чырвоным алоўкам: «Великому Октябрю».

То быў цэлы трактат з выхадамі ў філасофію, у далёкую і бліжэйшую гісторыю. Прысутнічалі ў вершы дзекабрысты і Пушкін, Маркс і Ленін, «Аўрора» і сцяг над рэйхстагам. Усё прадумана, выстраена ў адну лінію, лагічным вынікам якой мроіўся камунізм, які будзе пабудаваны калі не заўтра, то ўжо абавязкова паслязаўтра.

Усё ў вершы, як мне здавалася, было да месца, усё складна і прыгожа. Аўтар хадзіў па гісторыі, як па сваім садзе. І была там адна дэталь, на якой я спатыкнуўся. У шэрагу слаўных імянітых асоб прысутнічаў там беларус Каліноўскі. Як і чаму ён сюды трапіў? Ён нібы не вытрымліваў маштабнага параўнання з усімі, хто праходзіў у вершы. Мужычы заступнік, тутэйшы. Ваяваў з царом, з Мураўёвым, тыя і павесілі яго. Ён нібы быў чужы ў гэтай лініі. У вершы была такая фраза: «...коса Калиновского дремлет в застрешье». Што значыць гэта «дремлет»?..

З гэтымі сумненнямі я і падышоў да земляка, калі ён з хлопцамі курыў у заваротку калідора. Ён выслухаў мяне, усміхнуўся: было відаць, што пытанне яму і спадабалася, і нечым не спадабалася. Сказаў, як адсек: «Бач ты, яму Каліноўскі не спадабаўся. Трэба вучыць гісторыю. Настаўніку гэта ведаць не лішне, гы-гы-гы!»

Ён канчаў чацвёрты курс, а я першы. Гісторыю мы яшчэ будзем праходзіць.

Калі мы засталіся ўдвух, я спытаў яго і пра другое:

— Чаму ты напісаў верш па-руску? Баяўся, што па-беларуску ніхто не зразумее?

І гаварылі мы ў педвучылішчы ўсе так, як гаварылі дома ў вёсцы, і насценгазета выходзіла па-беларуску.

Ён пільна паглядзеў на мяне, пасля зарагатаў:

— Надта любіш ты задаваць пытанні. Вось каб яшчэ навучыўся адказваць на іх.

Што праўда, то праўда: задаваць пытанні лягчэй, чым адказваць на іх. Але ж пытанні былі. І ён пакінуў мяне з імі.

Ён знікаў то на тыдзень, то на два, а то і на цэлы месяц. Не ведаю, як яму гэта ўдавалася, але ён заўсёды хадзіў у выдатніках, нават атрымліваў павышаную стыпендыю.

Неяк вясной пад канец заняткаў ён зноў расчыніў дзверы ў нашу аўдыторыю, матнуў мне галавой. Я выйшаў.

— Хочаш, пачастую півам...

— Пачастуй.

Цераз вуліцу, насупраць педвучылішча стаяў дашчаны павільён — не то маленькая сталоўка, не то вялікі ларок. Сюды і прывёў ён мяне. Селі за квадратны, накрыты белай цыратай столік, Віктар узяў два кубкі піва. Пілі, здзьмухваючы пену, пацїху прывыкаючы да гаркаватага смаку яго, бо ні Віктар, ні я піткамі не былі. Прычына нашага балю адкрылася проста: Віктар выйграў на аблігацыю трыццаць рублёў. Купіў кішэнны гадзіннік — круглае нікеляванае дзіва на ланцужку, засталося яшчэ і на замочку.

Віктар аж свеціцца ад нейкай унутранай узбуджанасці, пазірае на свет вясёлымі вірлаватымі вачыма. Такое з ім бывала рэдка. Ён болей выдаваў чалавекам маўклівым і засяроджаным, і толькі тыя, хто быў блізка знаёмы з ім, ведалі, што гэта не зусім так. На ім новы ў дробную клетачку светла-шэры касцюм з накладнымі кішэнямі. Касцюм сядзіць як уліты і робіць яго сухашчавую постаць аскетычна строгай і непадступнай.

Я ведаў, што ў яго раман з аднакурсніцай, дачкой аднаго з міліцэйскіх начальнікаў горада,— хуткай, стройнай дзяўчынай з русымі косамі на высока ўскінутай галаве. Дзяўчына не для кожнага, але такога хлопца, як Віктар, можна кахаць. Мне здавалася, што сам Віктар ставіўся да яе калі не прахладна, то спакойна, і гэта яшчэ болей узвышала яго ў маіх вачах. Толькі так і павінен трымацца сапраўдны мужчына!

— Я нядаўна бачыў цябе з Нінай,— сказаў я.

— Дзе? — Вочы ўсё тыя ж глыбокія, рудыя, паспрабуй разбярыся — смяюцца яны ці сур'ёзныя.

— Каля Дома культуры.

— А-а-а... Ну і што?

— Прыгожая. І лёгкая, як пліска. Здаецца: дзьмухні — і паляціць...

Віктар далікатным позіркам паглядзеў на мяне, усміхнуўся:

— А ты паэт... «Дзьмухні — і паляціць...» Далёка не паляціць.— І дадаў: — Прыгожая — гэта праўда. А што далей...

— Як «што далей»?

— А так. Яны надта шмат думаюць пра сябе і лічаць, што ўсе павінны думаць толькі пра іх. А гэта немагчыма, і жыццё не на адных бабах стаіць. Ды і цярпенне трэба, і яшчэ шмат што. Мама кажа проста: з прыгожай морды ваду не піць, трэба і да калодзежа збегаць.

— Ты сказаў «яны». Гэта што — усе дзяўчаты, усе бабы?

— Не, гэта метафара, гы-гы-гы. Ведаеш, што гэта такое?

— Гэта імя такое. Як Марфа ці Матруна,— пажартаваў я.— Ёсць у нас такія: адна гарбатая, другая касавокая.

Пра метафару я ведаў: сам складаў вершы. А вось пра «бабаў»... Гэта ад мяне было аддзелена таемнай сцяной, і, вядома, нічога путнага параіць яму я не мог. Ды, відаць, Віктару гэта і не трэба было, бо ён неяк неўпрыкмет перакінуўся на іншае:

— Вы геаграфію прайшлі ўжо?

— Праходзім.

— Ма́лыш чытае?

— Ага. Ведаеш, такі дзіўны дзед. «Устаў я неяк ранічкай, яшчэ да сонейка. Выйшаў па расе на бераг Біскайскага заліва. Салаўі аж надрываюцца, шпакі трэлі выводзяць. Сеў я пад бярозай і думаю: «Божа, усё тут добра, цёплае мора, высокае неба, прыгожыя пальмы, але дапамажы мне дабрацца да маёй роднай Беларусі!..» — Сваім пераказам я спрабаваў падрабіць сіпаваты голас і расцяжную інтанацыю выкладчыка геаграфіі.— Дзе той Біскайскі заліў, дзе тыя пальмы. Гаворыць так, што можна падумаць, быццам ён і папраўдзе быў там, сядзеў пад бярозай і гэтак думаў...

— Дзіўны... Не проста дзіўны.— Віктар нацэленым вокам зірнуў на мяне, неяк адразу пасуровеў, скура на вострых сківіцах напялася, як на бубне.— А ты ведаеш, што ён ваяваў у нарвежскім супраціўленні? Уцёк з нямецкага палону і ваяваў. А пасля Перамогі даваёўваў ужо ў Сібіры. А ведаеш, што ён напісаў падручнік па

гісторыі Беларусі. Дафеадальны перыяд, Полацкае, Слуцкае княствы, Вялікае княства Літоўскае... Напісаў, завёз у Мінск, а там нейкі прафесар даў такую рэцэнзію... Малыш і буржуазны нацыяналіст, і невук, і старажытнай гісторыі не ведае, і ў марксісцкай метадалогіі не разбіраецца... Словам, бяры за крылле — і назад, туды, адкуль ён толькі што вярнуўся. Вось, можа, таму ён і сядзіць пад бярозай на беразе Біская...

Ні пра Нарвегію, ні пра падручнік я нічога не ведаў, але ўпарта паўтарыў:

— Усё роўна: бярозы там не растуць.

— Ну хай і не растуць. Галоўнае не гэта. Галоўнае, пра што ў чалавека душа баліць.

— А пра што яго душа баліць?

— Пра што?.. Пра такіх дурняў, як ты. Гы-гы-гы!

Я не пакрыўдзіўся ні за гэты смех, ні за «дурня».

Шмат незразумелага мне было ў паводзінах майго земляка, шмат пра што хацелася распытаць у яго, але ён умеў трымацца на адлегласці, і пытанні мае адпадалі самі сабой. Але чым радзей мы бачыліся, тым болей мяне цягнула да яго. Ён быў магніт, я — маленькі цвічок, і патрэбен быў час, які б растасаваў усё па парадку. А часу заставалася мала, чацвёрты курс здаваў дзяржаўныя экзамены. Здаў экзамены і Віктар, атрымаў размеркаванне, а куды — я даведаўся толькі праз два гады.

...Мая родная Слабодка, спякотнае летняе сонца, нядзеля. З раніцы я пахадзіў з касой, добра намахаўся і, прыемна расслаблены, ляжу з кнігай на дашчанай канапе ў хатняй прахалодзе. Нехта грукае ў сенцах, расчыняюцца дзверы — і ў праёме іх Віктар, а за ім Коля Буракоўскі — невысокі светлавалосы хлапец. Ён таксама з Селішча, студэнт, будучы медык.

— Баяўся ісці адзін, дык узяў абарону,— смяецца Віктар, распеяразаўшы зубы на ўвесь рот. «Абарона» сціпла маўчыць, адданымі мяккімі вачыма саграваючы свайго падабароннага.

Сядзелі за сталом, выпілі самагонкі, закусваючы салам і зялёным цыбуллім пер’ем. Гаварылі, перабіваючы адзін аднаго, нібы стараліся запоўніць пустату часу паміж апошняй і гэтай сустрэчамі.

Віктар прынёс, можа, з дзесятак сваіх вершаў і накід тлумачальнага слоўніка клічаўскай гаворкі. Гэта былі

словы, якія рэдка сустракаліся ў літаратуры, а шмат якіх нідзе, акрамя як на Клічаўшчыне, мне чуць не даводзілася. «Вякнуў, вымерхаўся, карнавухі, посік, пэлька, суравое, сіціцца, чылы...» Канечне, для слоўніка іх было замала, ды і наогул выпусціць слоўнік, сабраны нейкім настаўнікам, мне здавалася, проста немагчыма. Я сказаў пра гэта Віктару, і ён надзіва лёгка пагадзіўся са мной. Відаць, сам разумеў гэта.

З вершамі было яшчэ цяжэй. Не толькі таму, што яны былі нейкія занадта простыя. Нібы падражанне ранняму Кандрату Крапіве. Яны расказвалі пра тое непрыгожае жыццё, якім жыла вёска. Расказвалі не то жартам, не то ўсур'ёз. Пра цётку Хрысціну, якая гоніць і прадае самагонку, каб заплаціць падатак. Пра школьнікаў, што ідуць босымі нагамі па бруку райцэнтра, каб купіць падручнікі, і не знаходзяць іх. Пра цётку Грыпіну, якую на вачах у людзей набіў старшыня, і ніхто за яе не заступіўся. Усё гэта была праўда, голая праўда, во яна кругом, куды ні паглядзі. Але... Мне здавалася, што ў вершах трэба пісаць пра нешта іншае — прыгожае, узнёслае. Як у Багдановіча: «Мне доўгае расстанне з вамі чарней ад вашых чорных кос...»

Было ў Віктаравых вершах такое, што адкідвала мае літаратурныя эмоцыі ўбок. Ва ўсіх вясковых бедах ён бачыў канкрэтных вінаватых. Імі былі камуністы і рускія.

— Пры чым тут адны і другія? — гарачыўся я.— Дрэнна жывём, бо такое жыццё. Была вайна, усё разбіта, развалена. А цяпер — глядзі...

— Што «глядзі»? На што «глядзі»?

— Хлеб ёсць. Во, бачыш, сала...

— Наеліся, аж з глоткі тырчыць.

— Не тырчыць, але жыць можна.

— А ты ведаеш, як трэба «жыць»? Як «жывуць» людзі?

— А як яны жывуць?

— Як? Па-людску. Разумееш, па-людску. Чалавек не павінен думаць, дзе ўзяць кавалак хлеба, каб не памерці з голаду. Гэта тое ж, як калі б ён думаў, дзе ўзяць паветра, каб дыхаць. Чалавек павінен думаць пра жыццё, якое яно прыгожае, якім яно павінна быць.

— Адкуль ты ведаеш, якім яно павінна быць?

— Ведаю.

То была праўда: ён ведаў шмат такога, думаць пра што я і не здагадваўся. Ён выкладаў нямецкую мову і беларускую літаратуру ў сярэдняй школе пад Бабруйскам, вучыўся на завочным аддзяленні інстытута замежных моваў. Не толькі дзяржаў у руках, а і чытаў нямецкія, англійскія, французскія газеты. Збіраў матэрыял для тлумачальнага слоўніка... Пісаў вершы, надрукаваць якія не адважыцца ніякі рэдактар. І пра гэта я сказаў шчыра, як мог. Але каб хоць неяк змякчыць момант, параіў паслаць вершы ў якую-небудзь газету. А раптам?..

— Нічога «раптам» не бывае. Я пасылаў ужо,— быў яго адказ.

— Ну і што?

— Вярнулі. Напісалі, што слаба. Што трэба чытаць Пушкіна і Лермантава, Купалу і Багдановіча. Вось ты кажаш: «Мне доўгае расстанне з вамі...» Вучыцца ў класікаў... А як у іх вучыцца, калі іх даўно няма? Калі б яны жылі цяпер, то, можа, напісалі б такое... Яшчэ мудрэй, чым я, га? Га-га-га-га-га!

Віктар быў Віктар: спачатку смех, а пасля... Пасля: што будзе, тое будзе.

— Дык навошта ты мне паказваеш?

— Можа, табе лягуць на душу?

— Дык я ж усё роўна не надрукую.

— А няхай. Галоўнае, каб ляглі.

Мне яны не «ляглі», хаця шмат што ў іх падабалася. Гэтая раскаванасць думкі, праўда да канца, без аглядкі. І словы, якімі гаварылі мужыкі ля крамы, збіўшыся ўкруга бочкі з півам, былі нашы словы. Але ўва мне сядзела яшчэ адна праўда — газетная. Там усё было і прыгажэй, і далікатней, і мякчэй. Дзве праўды ў адной душы. Верх узяла апошняя. Але Віктара і гэта не бянтэжыла. Ён адступіўся ад сваіх вершаў, быццам яны былі не яго. Пагаварылі — і добра. Можна гаварыць пра што іншае.

І мы гаварылі, радуючыся рэдкай магчымасці, што давала сустрэча. Гаварылі болей мы з Віктарам. Коля Бураkоўскі слухаў, ласкава ўсміхаючыся сваімі карымі атласнымі вачыма.

Мы прайшлі па нашым пасёлку, паўз кузню, паўз былы панскі двор, ад абсады якога ўцалела ўсяго некалькі тоўстых кашлатых ліпаў, а ад будынкаў дзве канюшні і кладоўка. Па сухім ламаччы адолелі грэблю, прайшлі па пасёлку, што ляжаў за канавай, пад самым

лесам. Ён і называўся Чырвоны Лес. Магчыма, гэту назву даў колер сасновай кары, якая гуляла чырвонымі фарбамі на ўсходзе і захадзе сонца, а можа, назвай стаўся ўсё той жа модны колер рэвалюцыйнага аптымізму. Пасёлак быў даўгі і ціхі. Тут чамусьці нават сабак не дзяржалі, і мы прайшлі па вуліцы, зацененай яблынямі і ліпамі, несучы ў сабе спакой і лагоду сустрэчы і яшчэ нешта большае, што нябачнымі ніткамі трымала нас разам.

Я правёў хлопцаў да суседняга сяла. Па дарозе выявілася, што там намячалася вяселле і там у маўклівага Колі Буракоўскага была дзяўчына.

Вярнуўся я дамоў і на стале ўбачыў абодва Віктаравы сшыткі — з вершамі і з матэрыяламі для слоўніка. Ці то ён забыўся іх, ці пакінуў наўмысля.

Так яны і засталіся ў мяне.

Сшытачак з вершамі недзе ўскорасці загубіўся, а матэрыялы для слоўніка я перадаў невысокенькай чарнавалосай рухавай жанчынцы, якая чытала ў нас лекцыі,— вядомаму ў рэспубліцы спецыялісту па беларускай мове.

Здарылася гэта шмат пазней той сустрэчы, але і сёння я шкадую, што зрабіў гэта, хоць было ў тым Віктарава жаданне: калі не зможаш скласці слоўнік сам — перадай у інстытут мовы, можа, хто іншы складзе.

Ні ў адным з тлумачальных слоўнікаў, што выходзілі ў нас пасля, тых рэдкіх ягоных слоў я не сустрэў. І жанчына, якой я перадаў сшытак, таксама памерла.

Паміж тым прыгожым слабадскім днём і сённяшнім Віктаравым з'яўленнем у маім інтэрнацкім пакоі ляжала багата гадоў, і багата што яны неслі за сабой.

Я скончыў педвучылішча, папрацаваў у школе, тры зімы адтанцаваў пад музыку вайсковай дысцыпліны і мурманскіх маразоў і вось пачаў трэці курс універсітэта.

Як і чым жыў Віктар гэтыя гады, я не ведаў. Ці ўспамінаў я пра яго? Успамінаў. І нашу першую сустрэчу, і куфаль гаркавага піва, выпітага пад гаворкі пра Малышавых салаўёў на беразе Біскайскага заліва, і яго вершы, і пыльную вуліцу Чырвонага Лесу.

Ці ўспамінаў ён мяне? Відаць, таксама ўспамінаў, калі рашуча знайшоў тут.

Віктар чакаў мяне, нервова шнуруючы па пакойчыку. Вочы яго блішчэлі, як пасля выпіўкі. Паголены, пастры-

жаны, адпрасаваная кашуля ў чырвона-сінюю клетачку з накладнымі кішэнямі, чорныя калашыны штаноў запраўлены з напускам у наваксаваныя халявы вычышчаных ботаў. Гарнітур зборны, але сядзіць ладна, па-вясковаму ўрачыста, як адзнака нейкага змешанага вайскова-цывільнага стылю.

— О-то, браце,— раскінуў я рукамі.— Ты прыбраўся, няйначай, як Сталін на сустрэчу з генераламі.

— Ты не жартуй,— Віктар нібы спатыкнуўся пасярод пакоя, стаў з насцярогай аглядаць сябе. Павінаваціўся: — Я прымяраў твае чаравікі — ціснуць.

На стале ляжалі хлеб, кілбаса, памідоры. Віктар выйшаў за дзверы, вярнуўся з чайнікам, з рыльца якога пыхкала пара. Колішнія студэнты ведаюць, дзе што ляжыць і як што зрабіць.

Падаконнік быў заняты ладнай горкай перавязаных аборачкай кніжак.

— Бачу: ты дастукаўся да свайго даўжніка? — спытаў я.

— Ага, сустрэліся — і ён якраз пры грашах. Кажа: колькі разоў адкладваў — столькі і распускаў. Грошы — вада. Забег у інтэрнат, кніжкі забраў, слоўнікі. Хай паляжаць у цябе. І папраўдзе — мы з табой сёння багатыя людзі, і нас чакае «Дзяўчына з Палесся». Можа, трэба было б і пляшку ўзяць, ды я падумаў...

— Правільна падумаў. Скажы лепей, як твой паход у міністэрства?

— Ат! — Віктар махнуў рукой.— Не даюць гаварыць, спіхваюць адзін другому, як дзядзьку ў Вільні. «Мы не можам ісці проці волі народа...» — «А подпісы бацькоў, іх пад дзве сотні,— гэта не воля?» — «Подпісы — гэта адно, мы можам табе іх тысячу назбіраць, а ёсць другая воля, вышэйшая...» — І ківок угору... Там, на небясі...

Елі кілбасу з памідорамі, пасыпаючы іх буйной соллю, пілі чай з маміным варэннем, залазячы лыжкамі ў двухлітровы слоік. Віктар гаварыў далей:

— Дык вось, народ! Прыслалі да нас новага дырэктара. Ён сам рускі, жонка — наша паляшуцкая русалка, біялогію вядзе, расказвае дзецям пра «дагістарычных іскупаемых». Дзеці нядоўга прывыкалі да яе, нюхам учулі яе вучонасць, на саму перакінулі — «дагістарычная іскупаемая». Непадалёк у лесе вайсковая ракетная часць

стаіць, колькі афіцэрскіх сем'яў. «А как же наши дети? Может, через несколько лет им в Среднюю Азию ехать придется, там тоже языки всякие...» Закруцілі, замуцілі — і пайшло. Раённае начальства туды ж, за іх. Выклікае мяне загадчык райана: «Чаго ты дабіваешся, Віктар Міхайлавіч?» — «Нічога не дабіваюся. Хачу, каб школа заставалася беларуская».— «У цябе ж нямецкая мова, якая табе розніца?» — «Такая, Міхаіл Іванавіч. Не хачу калечыць дзяцей».— «А калі яны з беларускай школы едуць у рускі горад, мы не калечым?» — «Яшчэ як калечым».— «Вось бачыш. Ты ж разумны чалавек, хіба ты не адчуваеш тэндэнцыю? Усё ідзе на зліццё... І наогул...» — «Што «наогул»?» — «Літаратурны гурток — гэта добра, гурток па нямецкай мове — нармальна, а палітыка — гэта пагана. І перш за ўсё для цябе пагана». Вось так, школы няма, жыцця няма — адна палітыка. І спакойна так гаворыць, спакойна пазірае ў вочы, добры, ветлівы чалавек, учарашні настаўнік, сённяшні начальнік.

Віктар сам задаваў пытанні, сам адказваў на іх. Яму трэба было выгаварыцца, пачуць слова спагады ці разумення. І тое, і другое было, і ён гэта адчуваў. Не было толькі помачы, і я не ведаў, адкуль узяць яе.

— Другі раз мяне выклікалі ўжо ў міліцыю. Таварыш капітан, з маладых, ды ранні. Гэты гаварыў рубам і без гэтай нікчэмнай ветлівасці. «Что за стишки вы читали возле районной столовой?» — «Свае. Сам прыдумаў, сам прачытаў».— «А как бы это посмотреть на них?» — «Я чытаю па памяці,што прыйдзе ў галаву, тое і чытаю».— «Ладно, прочтите по памяти».— «Вы ўсё роўна не зразумееце, яны па-беларуску».— «А вдруг кое-что и уразумею. Я ведь тоже из белорусов».— «Не. Гэта ж паэзія, імправізацыя. Тут найшло, тут забылася».— «Про бандита Никиту — это импровизация?» — «Усё імправізацыя, і пра Мікіту, і пра астатніх».— «Так вот что, импровизатор. Если ты перед мужиками или еще перед кем-нибудь и дальше будешь читать эти свои пасквили — отправлю туда, откуда трудно вернуться. Можно сказать: невозможно. Дорога с односторонним движением. И пойдешь ты туда не как жертва, не как борец за «националистическую идею...» — «Можа, за нацыянальную?..» — «...не как борец за националистическую идею, а как уголовник. Борца и мученика сделать

из себя тебе не удастся. А вот воришка — не вор, какой из тебя вор,— воришка, промышляющий по мелочам... Так вот, воришку... это я тебе обещаю, это я тебе устрою».

І, ведаеш, ледзь не ўстроіў. Мінае нейкі час, і раптам гром на школу: нехта ўзламаў замок на скрыні з вучэбнымі вінтоўкамі. Прапала дробнакаліберка, пяць пачкаў патронаў. Прыехаў участковы, узяў панятых, пачалі шукаць. І знайшлі. Пад страхой у хляве маёй гаспадыні. Усё акуратна загорнута ў мяшок, і мяшок гаспадыні сушыўся на плоце, а пасля неяк прапаў. Усё падведзена як мае быць. І засудзілі б, калі б адзін мой вучань рахубу іхнюю не зблытаў. Напісаў заяву, што гэта ён сарваў замок. І манціроўку паказаў, якой зрываў,— якраз падышла. І што мяшок загадзя з плота зняў. «Чаму вінтоўку не дамоў панёс, а пад чужую страху засунуў?» — «Хіба я малахольны, каб дамоў?» — «Тады навошта ўсё гэта?» — «Каб адпомсціць яму». Значыць, мне. Я не прызнаваў яго за паэта, вершы крытыкаваў. І па мове адзнакі заніжаў. Такі вось страшны я яго вораг, і такая яго помста. Перабунтаваў ён ім усю рахубу. Бацьку штрафанулі на трыццаць рублёў, і хлопца папярэдзілі, што калі ўтворыць яшчэ такое, то не паглядзяць, што непаўналетні, уклеяць па ўсёй строгасці. Словам, багата было смеху, на ўвесь раён.

Смех смехам, а мяне агортваў усё большы непакой. Ніякай канкрэтнай прычыны для гэтага нібыта і не было, але гэта Віктарава прамата, гэта яго шчырасць... Каму яны патрэбны? Хто іх ацэніць? Хіба што ўсё той жа міліцэйскі капітан?

На памяці ў мяне быў свой прыклад. Мы рыхтаваліся да экзамену па дыялектычным матэрыялізме, калі на Цэнтральнай плошчы горада скінулі манумент Сталіну. Аграмаднай цёмнай зданню ён узвышаўся пасярод квадратнай голай прасторы, ужо сваёй адзінотай і пастаянствам абяцаючы нешта страшнае. Расказвалі, што было ўсё гэта так: закінулі стальную пятлю пад бараду, тузанулі танкавым цягачом — і вусатая бронзавая галава пакацілася па бруку, высякаючы іскры.

Сабраліся мы на кансультацыю, хаця якая кансультацыя, калі радыё клейміць «культ» і «бацьку народаў» галаву адкручваюць.

Прыйшоў выкладчык, стомлена сеў за стол. Нехта

спытаў у яго: «Культ — гэта ёсць. А ці не можа ўсё гэта паўтарыцца? Ну, не сёння, не заўтра, хай пазней трошкі. Ці не можа ўсё паўтарыцца?» Выкладчык чалавек быў станоўчы. Прынамсі, мы так лічылі. Ён не баяўся вострых пытанняў і не азіраўся палахліва на няшчыльна зачыненыя дзверы аўдыторыі, калі адказваў на іх. Гаварыў, што думаў і як думаў. А тут павёў цяжкім позіркам па нашых тварах і глухім голасам, выціскаючы кожную літару, сказаў: «Разумныя вы хлопцы... чытаеце разумныя кнігі... слухаеце разумных людзей... а нічога не разумееце».

Сказаў і выйшаў з аўдыторыі. А назаўтра на экзамене ўсім уляпіў па тры балы. Слухаў адказ, браў у рукі заліковую кніжку, ставіў траяк і ківаў наступнаму: «Давай». І гэтак усім, хто быў на кансультацыі. Чацвёра на кансультацыі адсутнічалі — ім паставіў па пяцёрцы. І смешна, і прыкра. Быў чалавек — і не стала чалавека.

— Віця, ты жартуеш з агнём,— паспрабаваў я перасцерагчы Віктара.

Ён засмяяўся ўсё тым жа нязменным сваім конскім смехам:

— Гы-гы-гы! Жарты! Хата згарэла, галавешкі так залілі вадой, што і чад не прабіваецца, а гаспадар усё з вядром носіцца — агню баіцца.

Віктар ці не разумеў, пра што гаварыў я, ці не хацеў разумець. Працягваў далей:

— Дык вось, капітан мой быў чалавек сур'ёзны, сваім словам даражыў. Першым разам прамахнуўся, а другім усё-ткі запраторыў мяне ў Пячэрск. «У вас будет время обо всем хорошенько подумать». І праўда, чаго толькі не перадумаеш за паўгода, якіх страхаў не нагледзішся. Але няма большага страху, чым уколы. Не самі ўколы, а што з іх можа быць. Тут ужо я прасіўся. «Мне ж яшчэ жыць трэба, дзяцей вучыць. А можа, і свае будуць, гадаваць трэба». І скажу, не сільнічалі. Падзяржалі і выпусцілі. І нават даведку далі, што нармальны, з дзецьмі магу працаваць. Магу. А дырэктар не дапускае.

— Нават так?

— Ну. «Навошта школе ненармальныя?» Я яму даведку, а ён сваё: «Усе ведаюць, што Віктар Міхайлавіч быў у Пячэрску. А Пячэрск — гарадок для ненармальных. Значыць... Дыягназ сёння не пацвердзіўся, заўтра пацвердзіцца». Вось так. Сам з былых палітрукоў. Тур-

нулі з арміі — дырэктара школы далі. Не справіўся з салдатамі — справіцца з дзецьмі. «Заўтра пацвердзіцца...» Жартаўнік з сабачай слязой. Пазірае на цябе, і не ведаеш: ці то папрасіць што, ці ўкусіць хоча. «Эх ты,— падумаў я,— жартаваць дык жартаваць! Пажартую ж і я». Сядзім у яго кабінеце. Ён сказаў, я маўчу, гляджу на яго. Ацёчны жаўтлявы твар, зеленаватыя налітыя падушкі пад вачыма... Піў і п'е... Жаўтаватыя бялкі. Пытаюся: «Вы ў доктара даўно былі, ныркі правяралі?» — «Даўно, а што?» — «У вас хворыя ныркі. Асабліва левая».— «Праўда, бывае, пабольвае з левага боку».— «Глуха так, быццам хто ўчора стукнуў? Пасля вострыя ўкольчыкі, як іголкай».— «Адкуль вы гэта ведаеце?» — Ага, насцярожыўся, значыць, зацікавіла. Значыць, баліць. Пачакай, пачакай...— «Не, гэта не пясок і не камяні. Там боль раптоўны, рэзаны. Яго цяжка цярпець, але з ім-то яшчэ можна ваяваць. А гэта... гэта страшней. Гэта можа быць самае страшнае...» — «Што?.. Самае страшнае?!» — Бачу, як яго самазадаволеная ацёчная морда мяняе шкуру, з жоўтай робіцца беленькая. Маўчыць, лыпае вачыма. І верыць не хочацца, і не верыць нельга.— «Праверце ныркі, бо можа быць позна»,— кажу яму і выходжу. Задаў ты мне задачку — я думаю, задаў і я табе задачку — ты думай. Назаўтра ранічкай прыбягае жонка, «дагістарычная іскупаемая». «Віктар Міхайлавіч, скажыце, што гэта няпраўда!» У вачах і слёзы, і страх. «Скажыце!» Я маўчу. Ды і што я магу сказаць?!

— Як што? Што пажартаваў, што ўсё гэта выдумаў.

— Я нічога не выдумляў. Ён і праўда хворы, і хворы цяжка.

— Адкуль ты ведаеш?

— Адкуль? — Віктар загадкава ўсміхнуўся, пацягнуўшы губамі, нібы сутарга іх павяла.

Я першы раз бачыў такія яго вочы — спакойныя, роўныя, пранізліва-халодныя. Нашы позіркі сустрэліся, і я адчуў усярэдзіне ледзяны дрыжачы холад. Нешта такое я адчуваў аднойчы, яшчэ мальцом, калі першы раз зазірнуў цераз зруб у глыбокую студню, самую глыбокую ў нашым сяле. Зазірнуў — і далёка на дне, на чорным люстры вады ўбачыў свой твар. Твар не твар — нешта цёмнае, загадкавае, бліскучае, так і хацелася наблізіцца да яго, прыгледзецца, і я ўжо перавесіўся напалову, цягнучы галаву ўніз, і калі б не нечая дужая рука... І вось

цяпер на мяне зноў пазіраў той малец з калодзежа халоднымі Віктаравымі вачыма.

Але тут Віктар засмяяўся, непрыгожа агаліўшы дзясны:

— Я люблю чытаць медыцынскую літаратуру, там багата цікавага, асабліва пра хваробы чалавека. А мой дзед Максім умеў лячыць — і людзей, і кароў, і коней. Загаворваў кроў, сунімаў боль, адганяў падучую.— Віктар рыўком устаў з-за стала, выйшаў на сярэдзіну пакоя, выпрастаўся ўвесь, развёў плечы, узняў грудзі і застыў, нібы схоплены стаўбуном. Твар напружаны, закамянелы, вочы нерухомыя, невідушча-шкляныя, пазіраюць удаль, паверх маёй галавы. Потым паволі апускаюцца ніжэй, на мой твар, знаходзяць мае вочы, упіваюцца ў іх, не адпускаюць. Губы яго варушацца, суха шэпчуць: «Згінь, хвароба, прэч з парога! Ты мяне не ведаеш, я цябе не ведаю, ты мяне не чуеш, я цябе чуць не хачу... Ты, соль,— усё засоліш! Ты, попел,— усё пераясі! Ты, чорны вугаль,— усё зачэрніш!..» — Ён ідзе па пакоі, выставіўшы рукі з растапыранымі пальцамі, робіць імі кругі ў паветры, нібы адганяючы насланнё, чмут нейкі. Увесь наструнены, сабраны ў адзін камяк, ступае мякка, нібы кот, гатовы ў любое імгненне скочыць наперад. I заскача, рэзка кідае рукі ўперад, перад маім тварам, застывае на нейкі час. Я сяджу, як пад гіпнозам. Ён забірае рукі назад, нібы хавае, як кот кіпцюры, твар яго расслабляецца, ажывае, і ён задаволена рагоча сваім грубым голасам.

Гэты голас некалі я чуў у калідорах педвучылішча, і тады ён мне падабаўся. Але цяпер ён здаецца мне ненатуральным і хворым.

— Ды ну цябе з тваімі прымхамі! — гавару я збянтэжана.— Гэтак ты каго хочаш напалохаеш.

— Ну, цябе ж не напалохаў.

— Напалохаць не напалохаў, але...

— Але... — Нібы ўзрадаваўшыся, Віктар падхоплівае: «Разве может нормальный человек читать провокационные стишки перед народом?»

— Усё капітан?

— Ён.

— І што за «сцішкі»?

Віктар азірнуўся на дзверы і прашаптаў:

— Яны ў мяне з сабой.— Дастаў з партфеля пакунак,

загорнуты ў газету і крыж-накрыж перавязаны тоўстым шпагатам. Тры агульныя сшыткі ў каляных вокладках, спісаныя акуратным, крута нахіленым почыркам. На першай старонцы першага сшытка вялікімі чырвонымі літарамі загаловак: «Пра бандыта Мікіту», трошкі ніжэй, літарамі меншымі — жанр: «Паэма».

Паэма была разбіта на раздзелы. «Саюзу — кукурузу», «Кароўку на вяроўку», «Нашто парткі калгаснiку?..», «Каму жывецца весела ў нас у Беларусі...»

— І ты ўсё гэта возіш з сабой? — спытаў я.

Віктар весела кіўнуў галавой:

— Ну.

Цяпер ужо і я паглядзеў на яго, як на ненармальнага.

— А што?..— спытаў Віктар.

— Дурань, вось што,— адказаў я злосна.

У оперным на нас пазіралі як на сланоў, якія вырваліся з клеткі і спакойна разгульваюць па праспекце. Добра вычышчаныя Віктаравы кірзавыя боты давалі такі густы дух гуталіну, што ён не мог не трывожыць далікатныя насы тэатральнай публікі.

Віктар і тут быў спакойны, а калі пачуліся першыя музычныя акорды і пайшло прадстаўленне, ён нібы ўвесь перамясціўся бліжэй да сцэны, да аркестра.

І музыка, і драма, і ўся гэта прыгожая тэатральная бутафорыя ўцягнулі і мяне. Я быў рады, што Віктар прывёў мяне сюды. Слухаў музыку, перажываў драму, быў ва ўладзе прадстаўлення, але трывога за яго самога ні на хвіліну не адпускала мяне.

Спектакль скончыўся позна. Мы пеша ішлі па начным горадзе. Атмасфера тэатральнай дэкарацыі нібы выйшла сюды, на начныя вуліцы. Цішыня, тайна ценяў, напружанае чаканне невядомага. Доўга маўчалі. Першы загаварыў Віктар:

— Ведаеш, якую беларускую оперу я хацеў бы паслухаць? Оперу пра выгнанніка. Чалавека выгналі з роднай хаты, з роднай зямлі ў далёкі чужы свет. Ён бадзяецца як непрыкаяны, яму цяжка, яму балюча, яму крыўдна. З яго здзекуюцца, з яго пацяшаюцца — за яго прастату, за яго словы, за яго мову. За яго працавітасць, за гатоўнасць рабіць любую работу. Ён цягавіты, ён мужыкаваты. Ён усё церпіць, ён усё сцерпіць, бо ў душы ў яго жыве мара, надзея: ён чакае таго дня, калі зможа вярнуцца дамоў. Гэта мара дае яму сілы вытрымаць усё.

І вось настае той жаданы дзень. Ён збіраецца ў далёкую дарогу — дарогу дамоў. Я чую гэтыя мажорныя акорды, за якімі і боль, і трывога, і слёзы. Яго спрабуе не пусціць, хоча ўтрымаць там жанчына. Яна кахае яго, яна шкадуе яго і просіць, каб ён застаўся. Яна прадчувае тыя беды, што чакаюць яго, яна ведае, што яму там будзе цяжка, а сама яна не можа пакінуць сваю радзіну, сваіх блізкіх. Але і ён не можа застацца там. Ён вяртаецца дамоў. І што сустракае яго? Першы ўдар: яго радня не прызнае яго. Радня думае, што ён прыйшоў, каб выгнаць іх з хаты, з якой некалі выгналі яго і ў якой пасяліліся яны і жывуць цяпер. І ўжо нібыта ён вінаваты, што вярнуўся дамоў. Не прызнае яго і каханая жанчына. Некалі ён пакінуў яе малой дзяўчынкай, аб ёй былі яго мары ўвесь гэты доўгі час. «Ты ж мая, ты ж мая перапёлачка...» Яна была яго перапёлачкай, яна клікала яго праз ночы і гады. Але яго сустракае не маленькая перапёлачка, а стомленая жыццём жанчына. Яна чакае дапамогі, яна шукае спакою. Ён можа дапамагчы, але даць спакою не можа. Што яму рабіць, куды ісці далей?.. Гэта драма жыцця, трагедыя душы. Калі б падаць яе праз музыку, праз слова!.. У музыцы яе мог бы асіліць Туранкоў. Праўда, яго ўжо няма. А ў паэзіі?.. Куляшоў? Надта сухі. Танк? Надта мяккі. Вось такую оперу я хацеў бы паслухаць.

Такую оперу хацеў бы паслухаць і я. Я пазіраў на Віктара, чуў яго гарачыя словы, і мне здавалася, што такая опера ўжо ёсць, што неўзабаве яе можна будзе паслухаць... Далей мае думкі пайшлі пра тое, чаму жывыя Куляшоў і Танк не могуць асіліць гэтую работу, а мёртвы Туранкоў мог бы? Чаму?..

Мы падыходзілі да інтэрната, калі прыціхлы на нейкі час Віктар раптам засмяяўся. Счакаў трохі і зноў: «Гы-гы-гы!»

— Што такое?

— Успомніў адну гісторыю. Лічы — з той жа оперы. Два першыя курсы замежнага інстытута я быў на завочным. Здаваць экзамены здаваў, але зразумеў, што замежную мову так не вывучыш. Чытаць будзеш, а гаварыць не будзеш. Патрэбна актыўная практыка, жывы кантакт. Словам, перавёўся на стацыянар. Не надта любяць такое рабіць, але зрабілі. І трапіў я ў групу выдатнікаў. Сем чалавек, я — восьмы. Гладзенькія, чысценькія, усе са спецшкол, пасля залатых атэстатаў. На практычных ся-

куць, як зайцы капусту. А я — пык-мык, фатэр-мутэр — і заціх. Хачу любіць, а не ўмею. Трэба даганяць, выраўнівацца. Трэба шукаць. І перш за ўсё словы. А дзе іх браць? У пісьменнікаў. Дапусцім, у Томаса Мана.

— Так проста... У Томаса Мана?

— Не проста... Узяць якую-небудзь казачку... Там і ста слоў не набярэцца. А тут — энцыклапедыя. Узяўся за «Будэнброкаў» — і пераклаў.

— Ты так весела гаворыш: «Узяўся і пераклаў».

— Пераклаў... Канечне, для сябе, для вучобы... Надта цяжка даваўся першы раздзел. Трэба было ўлезці ў яго стыхію, адчуць стыль, потым слова, гульня з ім. Скрыпач са скрыпкай — гэта віртуоз, а скрыпач са словам — гэта яшчэ глыбей. Дык вось, «Будэнброкі». Іх мне хапіла на ўвесь інстытут. На вусным я мог даць асечку, а на пісьмовым усе мае хлопчыкі беглі да мяне. Наіўныя дурні, яны ведалі толькі адно — зубрыць, зубрыць, зубрыць. Пытаюся аднойчы: «Хто з вас быў на «Паўлінцы»?» Ніхто. Бяру білеты — пайшлі. Потым оперны. Потым нехта прыехаў на гастролі. Спадабалася. Спадабалася — гэта добра. Пайшлі грошы зарабляць. На таварную станцыю прыходзяць вагоны з памідорамі, кавунамі ці іншым тэрміновым грузам. Звоняць: «Хлопцы, выручайце!» — «Хлопцы, пад'ём!» Ноч пакідалі — па трыццаць — сорак рублёў у кішэні. Жывём! І ведаеш, я з іх людзей зрабіў. Кажу: «Вы ж не бачыце, што робіцца на свеце. Паўтыкалі насы ў канспекты, у слоўнікі — і ўсё. Азірніцеся кругом, разуйце вочы». Праз год гэта была самая баявая група ў інстытуце. А яшчэ праз паўгода яе разагналі як ненадзейную... Гы-гы-гы!

У інтэрнаце за чаем я спытаў у Віктара:

— Дзе Ніна?

Віктар доўга маўчаў. Чай быў гарачы, і ён патрошкі адхлёбваў са шклянкі, пазіраючы ў яе. Потым падняў вочы на мяне. Цяжка сказаць, якія гэта былі вочы. Задуменныя? Не. Абыякавыя? Не. Так, вочы спакойнага чалавека.

— Яна прыязджала да мяне летась.

— У школу?

— Ну. Пабывала ў Селішчы, у маці, памагла ёй грады зрабіць, узяла мой адрас і заявілася.— Памаўчаў, даліў чаю. Адхлёбваў, пазіраў у празрыстую бурштынавую глыбіню шклянкі.— Пражыла тыдзень у мяне і паехала.

— І ўсё?
— Не. Сказала, што збіраецца замуж.
— А ты?
— Сабралася — дык ідзі.
— Можа, ты дарма так з ёй?
— Калі чалавек так сказаў, значыць, у яго ўжо было гатовае рашэнне.
— Калі б было гатовае рашэнне, то навошта б яна шукала цябе?
— Шукала.
— Трэба і яе зразумець: дзяўчыне хочацца сям'і, нейкага ладу, пастаянства.
— А дзе яно, гэта пастаянства? У мяне яго няма. І ці будзе калі. Мой сусед у Селішчы любіць паўтараць: «Маленькі сабачка заўсёды шчанюк». Так і я: гаў-гаў-гаў.
Я зразумеў: ён зноў збівае гаворку на несур'ёзнае.
Ляглі спаць. Студэнты, як і салдаты, засынаюць імгненна і спяць моцна.
Калі я прачнуўся, Віктара ў пакоі не было. На маёй тумбачцы ляжаў загорнуты ў газету, перавязаны тоўстым шпагатам пакунак. Я добра ведаў, што ў ім, але цяпер у мяне не было часу для сур'ёзнага чытання, і я засунуў яго на антрэсолі — у суседства са старымі канспектамі, кантрольнымі работамі і падручнікамі. Туды ж я паклаў і два тоўстыя слоўнікі: хіндзі-рускі і арабска-рускі. Толькі адзін Віктар ведаў, навошта яны былі яму.
Летнімі канікуламі ў інтэрнаце рабілі нейкі паспешлівы рамонт, вычысцілі ўсе куткі і закуткі. Разам з канспектамі і кантрольнымі прапаў і пакунак з трыма Віктаравымі агульнымі сшыткамі. Можа, назаўсёды, а можа, дзе-небудзь яшчэ знойдзецца. Бо слоўнікі знайшліся, захаваліся ў мяне і па сённяшні дзень.

З год Віктар не аб'яўляўся. Ад Буракоўскага я чуў, што ён працягваў адчайна ваяваць, каб вярнуць сваёй школе беларускую мову. Праўда, ваяваў ён цяпер з другім дырэктарам. Былы палітрук з «дагістарычнай іскупаемай» некуды з'ехаў.
Маё жыццё крута павярнулася ў бок практычнай журналістыкі. Мне прапанавалі месца ў газеце, і я з ахвотай пайшоў туды: жыць на скупую студэнцкую стыпендыю і выпадковыя заробкі было ўсё цяжэй. І вось аднойчы адчыняюцца дзверы закутка, дзе я сядзеў, і заходзіць

Віктар. Худы, сухі, запалыя вочы, але ўсмешка ўсё тая ж — зубы на продаж. Недарагі шэры касцюм, кашуля без гальштука — іх ён не любіў ніколі,— і ўсё нібы з чужых плячэй. Памяць мая адразу вярнула педвучылішча, той светлы дзень, калі Віктар выйграў на аблігацыю і частаваў мяне півам. Тады ён быў таксама ў шэрым касцюме, але які гэта быў касцюм і як ён пасаваў яму!

— Іч, рассеўся, як пан,— загаварыў ён нязлосна, павёўшы вачыма па стале, за якім быў я. Нібы нязлосна, але падкалоў мяне.

— Ага,— пагадзіўся я. Стол сапраўды быў ёмкі, на дзве тумбы, і сядзець за ім мне падабалася.

— Лепей бы пасобіў мне Ніну знайсці.

Я не ведаў, што і чаму «лепей», і хацеў ужо пачаць высвятляць, але Віктар сам апярэдзіў пытанні:

— Звольнілася са сваёй школы і паехала. Куды паехала — нікому не сказала. Спрабаваў дазнацца ў яе бацькоў — не гавораць. Адно выведаў, што некуды ў Гродзенскую вобласць. Але ж вобласць — гэта вобласць.

Яно так. У вобласці — раёны, у раёнах — сельсаветы, у сельсаветах — школы. Але...

— А ў аблана ты не цікавіўся?

— Дзе тое аблана. Табе ж прасцей, ты не які там, ты — з газеты. Вазьмі трубку, пазвані ў міністэрства ці ў тое ж аблана — і табе скажуць.— Нейкая раздражнёнасць, нават грубасць чулі́ся ў яго голасе. Нібыта я нечым перад ім правінаваціўся.

Я пачаў званіць. Нічога путнага мае званкі не далі. Адно з Гродна вясёлы мужчынскі голас сказаў, каб я пераваніў праз дзянёк-другі. «Мы яе хоць з-пад зямлі дастанем, калі зямля гэта ў Гродзенскім акалотку».

Ні дзянёк, ні другі Віктар чакаць не мог, і я дакляраваў выслаць яму адрас, як толькі даведаюся.

Мой рабочы закутак мала што ўмяшчаў: акно, стол, стул. Яшчэ адзін стул стаяў напроці, ля дзвярэй. На ім цяпер і сядзеў Віктар. На гэтым стуле пераседзела шмат розных людзей, але толькі адзін з іх сказаў мне «пан». Сказаў жартам, і я разумеў, што гэта жарт, але разумеў і тое, што нейкая доля праўды стаяла за гэтым словам. Перада мною быў новы Віктар. «Гэты» Віктар быў падобны на чалавека, які ў адзежы зваліўся ў ваду і, не маючы ў што пераапрануцца, чакаў, калі адзежа высахне на ім. І ўпершыню за ўсе гады нашага знаёмства мне

стала шкода яго. Я востра адчуў нейкую сваю віну перад ім, хаця я і не разумеў, у чым яна. Мне стала няўтульна за маім сталом.

Віктар маўчаў. Можна было падумаць, што ён не ведаў, куды пайсці і што рабіць. Хаця не.

Ён неяк дзіўна ўсміхнуўся, скрывіўшы твар, як збіраўся заплакаць:

— Ведаеш, мне нядаўна сасніўся сон. Страшны сон. Нібыта я ў нейкім кафэ, і мы выпіваем, і прыслужвае нам сімпатычная, гадоў пад трыццаць кабета ў светлым. І раптам нехта адзін з нашай кампаніі ўстае і груба гаворыць ёй:

— Пайшлі і прапусціш іх усіх,— і паказвае на мужчын.

Кабета не здзівілася яго словам, паглядзела на ўсіх спакойным балесным позіркам і на мяне паглядзела, павярнулася і пайшла. Усталі і пайшлі за ёй усе, колькі іх там было,— чалавекі чатыры ці пяць. Я застаўся сядзець за сталом.

Праз нейкі час напаўжывую акрываўленую кабету пранеслі цераз залу назад. За ёй ішлі тыя мужчыны, толькі цяпер яны былі ў белых споднiках, выпацканых кроўю. Дык вось — гэта была мая жанчына.— Віктар зноў усміхнуўся жаласнай усмешкай.

Я не ведаў, што сказаць. Сон сапраўды страшны, містычны: кроў на белым, белае і чырвонае... Я спытаў:

— Як ты сам жывеш?

— Аніяк,— адказаў ён злосна.

— А школа?

— Выгналі. Выгналі, і ўвесь марафон.

Я чакаў, што ён яшчэ скажа. І ён сказаў:

— Пісаў і ў Мінск, і ў Маскву. Масква перапіхвае пісьмы ў Мінск, Мінск — у Магілёў, а адтуль адно: усё правільна, усё мае быць так. Скончылася тым, што зноў на шэсць месяцаў загналі ў Пячэрск. Выпусцілі з белым білетам, з правам на пенсію, без права на працу.

— Слухай, дык гэта ж...

— Ну,— пацвердзіў ён.

— Можа, я змагу чым-небудзь дапамагчы? Усё ж газета...

— Дапамажы знайсці Ніну.

Такім разгубленым я яго ніколі не бачыў.

— У мяне твае слоўнікі...

— Хай паляжаць.

— А сшыткі твае...— Я запнуўся. Мне цяжка было сказаць, што я не ведаю, дзе яны і ці жывыя наогул...

— Пасля...— адмахнуўся ён. Нібы здагадваўся, што я маю яму сказаць.

У закутку маім павісла гнятлівая цішыня. Віктар першы не вытрымаў яе: устаў рашучым рыўком і, не развітаўшыся, выйшаў.

Праз дзень я дазнаўся адрас школы, куды пераехала Ніна, і выслаў яму. Чакаў якога-небудзь знаку ад яго і месяц, і паўгода, і год. Як гэта часта бывала з ім, ён зноў прапаў. І зноў, як камень у ваду.

Я шмат думаў над парадоксамі нашага лёсу. Жывеш з чалавекам побач — думаеш пра яго, перажываеш за яго, хвалюешся. Знік чалавек з вачэй тваіх і нібы выпаў з твайго жыцця. І ўспамінаеш, і трывожышся, але не так востра, не так балюча.

З'яўленне Віктара ў маім інтэрнацкім пакоі было нібы вяртанне яго з таго свету. І мы зноў былі, як радня, як самыя блізкія людзі. Паехаў ён — і нібы забраў усё сваё з сабой. І чым болей ішоў час, тым радзей ажываў напамінак пра яго, тым глушэй чуўся ў памяці яго голас.

Іншае было пасля апошняй сустрэчы. Вобраз разгубленага чалавека ў касцюме з чужых плячэй усё часцей уставаў перад вачыма. Як ён, што ён, дзе ён?..

Нейкім часам мы сустрэліся з Міколам Буракоўскім. Ён стаў добрым хірургам, загадваў аддзяленнем прэстыжнай бальніцы пад Мінскам. Пабудаваў свой дом, паруглеў, пасыцеў. Бляск надзейнай упэўненасці стала пасяліўся ў яго карых вачах.

— Нешта даўно маўчыць Віктар. Можа, ты чуў што пра яго? — спытаў я ў Міколы.

Ён уважліва паглядзеў на мяне:

— А хіба ты нічога не ведаеш?

Пра тое, што ён расказаў мне, лепей было б не ведаць...

Віктар паехаў у сяло, дзе працавала Ніна, сустрэўся з ёй. Яна была замужам, мела дзіця — маленькую пушысценькую дзяўчынку. Мужык — мясцовы механізатар, сімпатычны, рахманы мядзведзь. Гэта была спакой-

ная вясковая сям'я, здавалася, усё ў іх было добра і ладна. І тут заявіўся Віктар. Ён заўсёды ішоў напралом і заўсёды не выбіраў дарогі. Ён пачаў даказваць Ніне, што кахае яе, што толькі пра яе сніць і думае. Угаворваў пакінуць мужыка і выйсці замуж за яго. Яны пераедуць у другое месца, будуць разам жыць, разам працаваць. Ён не сумняваўся, што яму дазволяць працаваць у школе.

Не ўгаварыў.

«Што было, тое згарэла, і не трэба варушыць халоднае вуголле»,— адказала яму Ніна. Тады ён прыгразіў, што нікуды ад яе не паедзе, застанецца жыць у гэтым жа сяле. «Я не магу без цябе, я не магу не бачыць цябе».

І застаўся. Узяў кватэру ў старой адзінокай жанчыны і кожнай раніцай ішоў пад школу, каб убачыць Ніну.

І ў горадзе цяжка сабраць такое ў нейкую норму, а сяло ёсць сяло. Папаўзлі чуткі, што нібыта Ніна і Віктар раней жылі разам, а пасля яна ўцякла ад яго, што нібыта дзяўчынка болей паходзіць на яго, на вучыцеля, чым на трактарыста. Ніна ўжо хадзіла грубая другім дзіцем — чыё яно будзе?

Добра падпіўшы, разы са два трактарыст біў Віктара. Прыстрашыў і гаспадыню, дзе той браў кватэру, што, калі яна не выправіць свайго пастаяльца, ён возьме трактар і гэту яе курыную хатку з усім шлуннем спіхне са стромы ў рэчку. У сяле і лес быў, і рэчка была, і строма высокая. Гаспадыня вымушана была адмовіць Віктару ў прытулку, і болей ніхто не захацеў узяць яго на пастаяльства. Тады ён выкапаў на ўскрайку лесу зямлянку, склаў з камення печ і перасяліўся жыць туды. Яго часта бачылі ў сяле — то ля школы, то ля магазіна. Ён не цураўся людзей, і людзі не аббягалі яго. Гаварыў ён усё тым жа вясёлым грубым голасам, і ўкруга яго заўсёды збіваліся ў кучу мужчыны. У яго быў невялікі прыёмнік, і Віктар добра ведаў, што робіцца на свеце. Ён першы сказаў мужыкам, што ў Крамлі скінулі Мікіту і што ўзышла зорка Лёнькі Брэжнева. Ён чытаў мужыкам вершы пра царыцу-кукурузу і пра тое, як кароўку залыгалі на вяроўку і пацягнулі на мясакамбінат. Праўда, ён казаў, што вершы гэтыя былі напісаны даўно, можа, нават у мінулым веку. Мужыкі пасміхаліся, ківалі галовамі: хай сабе і ў мінулым, але ж складна і праўдзіва.

Дачуўся пра вершы ўчастковы міліцыянер, завітаў у зямлянку. «Няйначай, арыштоўваць прыйшоў»,— паду-

малі мужыкі. Не, не арыштаваў. Ніхто не ведае, пра што яны гаварылі там, але ўчастковы стаў бываць на ўскрайку лесу ўсё часцей. Нешта пачало праясняцца трохі пазней, калі ўчастковы, узяўшы добрую чарку на хрэсьбінах, раптам стаў даказваць, што вучыцель — разумнейшы чалавек, але яму ходу не даюць. Хто любіць разумных?

Настала восень, пачаліся халады. Пад вечар кожнага дня Віктар распальваў сваю печ. Убачыўшы дым, які блытаўся між дрэў на ўзлеску, людзі жартавалі: «Вучыцель лазню топіць». Жартаваць жартавалі, але не смяяліся.

Потым раптам дыму не стала. Так было дзень, другі... Трэцім днём Ніна сказала мужыку: «Схадзі паглядзі, ці не захварэў ён».

Мужык не сказаў нічога, сабраўся і пайшоў.

Дзверы зямлянкі адчыняліся ўсярэдзіну. Яны былі зашчэплены. Трактарыст быў чалавек цяжкой сілы, націснуў плечуком — зашчапка і адскочыла.

Прывучыўшы вочы да паўзмроку зямлянкі, трактарыст убачыў свайго саперніка. Той ляжаў пад клятчатай саматканай коўдрай на тапчане, які служыў яму і лаўкай, і ложкам. Відаць, ён не даў добра перагарэць вуголлю, рана зачыніў юшку і рана лёг спаць.

І цяпер ён ляжаў ціха, як можа ляжаць толькі мёртвы.

Пахавалі яго на мясцовых могілках, на пагорку. Могілкі былі недалёка ад школы, і людзі сказалі: «Ён любіў глядзець на школку, хай і цяпер глядзіць».

— Ты быў на пахаванні? — спытаў я ў Міколы. Яго расказ глухой удаўкай узяў мяне за сэрца.

— Не быў. У яго паперах знайшлі толькі адрас маці. Яна адна і была.

— Давай з'ездзім да яго.

— Давай. Вось толькі трошкі разграбуся з клопатамі. Пачаў шаляваць дом — трэба неяк скончыць. Я ж куркуль,— усміхнуўся Мікола.— Дом, сад, агарод. Прыедзеш як-небудзь — пабачыш.— І праўда, Мікола быў не толькі добры доктар, але і добры гаспадар.

Мы разышліся. Кожны панёс у душы свой жаль і сваё адчуванне вінаватасці.

Мінула паўгода, потым яшчэ паўгода. Думкі пра Віктара і яго страшную смерць не пакідалі мяне. А паездка наша з Міколам усё адкладвалася і адкладвалася.

Неяк я перабіраў кнігі на антрэсолях і наткнуўся на два тоўстыя цяжкія фаліянты — Віктаравы слоўнікі. З хваляваннем і нейкім страхам узяў у рукі адзін з іх, сеў за стол, пачаў гартаць. То быў арабска-рускі слоўнік. Я перагортваў старонку за старонкай, стараючыся саўладаць з хваляваннем, імкнучыся пранікнуць у магічную таямніцу арабскіх пісьмёнаў — гэтых дзіўных карункаў на белым полі паперы. Такія непадобныя на нашы знакі, а гавораць тыя ж самыя словы, тыя ж паняцці.

Недзе ў самым канцы слоўніка між прыжоўклых ад часу старонак ляжаў акуратна пераламаны надвое аркушык белай паперы. Па краях ён таксама набраў колер пергаменту. Я разгарнуў яго. З верху да нізу ён быў спісаны акуратным, крута нахіленым Віктаравым почыркам.

«Добрага дня табе, мая дарагая!

Часам мне здаецца, што я нічога не ведаю — ні што некалі было, ні што некалі будзе. І дзіўлюся з сябе, сталага чалавека, рэаліста, не летуценніка. Раптам мне, негаваруну, захацелася гаварыць, абы з кім, але гаварыць. Гаварыць пра літаратуру, пра гісторыю, пра нашу бедную зямлю. Пра сябе, пра ўсё, што бачыў, чым жыў, чым жыву. І ўсё гэта таму, што ўбачыў колькі слоў, напісаных тваёй рукой. Колькі слоў, а ўсё перавярнулася, усё стала па-новаму хораша і прыгожа.

Хочацца гаварыць, хоць я і не ведаю, ці гэта я гавару з табою, ці сам з сабою.

Ты для мяне — як хата з зачыненымі дзвярыма. Мне хочацца зайсці ў хату, але я не ведаю, як мяне там сустрэнуць. Можа, абагрэюць, прытуляць, напояць, а можа, не пусцяць далей парога...

Ты як хата, і мне чамусьці думаецца, што і табе адной холадна і зябка.

Можа, ты таксама хочаш, каб нехта прыйшоў, расчыніў твае дзверы, ажывіў халоднае паветра сваім дыханнем, расклаў агонь у печы — сагрэў цябе з сярэдзіны. Тады не так адзінока будзе стаяць табе ў бязлюдным полі.

І, можа, гэта я павінен адчыніць твае дзверы, а можа, не я? Бо нават тады, калі мяне сустрэнуць добра і будуць рады мне, я не ведаю, наколькі хопіць мне гэтай радасці. Хіба можна радавацца заўсёды? І ці не захочацца мне неўзабаве пакінуць хату і зачыніць дзверы знадворку? І як тады будзе табе? Ці не стане табе яшчэ болей зябка

і няўтульна пад гэтым шырокім небам? І ці не пойдзем мы па свеце яшчэ болей адзінокія і самотныя, як зараз?

Але ўсё роўна — мне хочацца гаварыць з табою. Можа, гэта гаворка — жаданне зазірнуць у тваю душу ці расчыніць перад табою дзверы сваёй хаты-душы? Толькі ці не застанёмся мы абое пасля гэтай гаворкі з расчыненымі напята дзвярыма? Ці не выстудзім свае хаты і ці не застануцца яны стаяць з халоднымі ценямі па кутках і пустымі праёмамі дзвярэй? Як вечны дакор мне — чалавеку, які хацеў і баяўся, хацеў сказаць і баяўся гаварыць.

Апошні час мне вельмі няўтульна на свеце. Нідзе не магу я доўга затрымацца. Не паспею сагрэцца, як шукаю дарогі далей. Дарогі куды, дарогі навошта? У поле, на вецер, на сібер, з тым, каб праз нейкі час зноў шукаць новую хату, новае прыстанішча. Новую хату, бо ніколі не магу вярнуцца назад, дзе ўжо быў.

Я зразумеў, што свет вялікі, і людзей так небагата. І ці можа адзін сабраць тое, што рассыпаюць усе?

Я адчуваю, што ад мяне ўсе чакаюць цяпла, а я прыношу холад. Агню майго хапае вельмі на мала. Яго не хапае нават на тое, каб сагрэць самога сябе. Гэта хутчэй бенгальскі агонь на навагодняй ёлцы, а каго можа сагрэць бенгальскі агонь?.. А можа, і не бенгальскі? Можа, гэта толькі мне так здаецца?..

Даруй, што пішу табе ўсё гэта. Магчыма, я і не пашлю гэты ліст табе, магчыма, яго ніхто ніколі не прачытае. Бо гэта толькі маё, схаванае ад усяго свету, схаванае за напускной весялосцю, за працай, за дзелавітасцю.

Як добра быць шчаслівым! А калі ў чалавека няма шчасця — ён выдумляе яго. Як добра быць каханым! А калі няма кахання, чалавек выдумляе і яго. І, як ні дзіўна, чалавек з выдуманым шчасцем і выдуманым каханнем часта бывае шчаслівейшы, чым чалавек з рэальным шчасцем і каханнем. Даруй яшчэ раз».

Ні імя, ні адраса на аркушыку не было, але я ведаў, што ліст мог быць напісаны толькі аднаму чалавеку.

«Вось і ўсё,— горка падумаў я.— Жыў-быў чалавек... Жыў-быў... Хаця не, не ўсё...»

Час быў позні, і я не стаў трывожыць Міколу. Вырашыў пазваніць заўтра на працу. На мой званок доўга ніхто не хацеў браць трубку. Я набраў нумар яшчэ раз. Азваўся жаночы голас.

— Мне Мікалая Іванавіча,— папрасіў я.

У трубцы цішыня і далёкі, нібы з космасу, трэск.

— Хачу папрасіць Міколу Буракоўскага,— паўтарыў я.

— А хіба вы нічога не ведаеце?..— голас ціхі, быццам вінаваты.

— Што?!

— Мікалая Іванавіча няма. Ужо два месяцы, як яго не стала.

Я апусціў трубку на стол. Яна яшчэ доўга абзывалася жалобным тэлефонным плачам.

*1992*

## ЦІТАЎКІ

Рабілі заўсёды так: пад вечар, калі сонца садзілася за лес, а з лагчыны пачыналі напаўзаць халодныя цені, хто-небудзь адзін ішоў у будку да старога Агея. Будка стаяла пасярод саду, і з травяністай дарогі, па якой мала хадзілі і яшчэ менш ездзілі, яе можна было ўбачыць, толькі добра прыгледзеўшыся. Ды і будкі той была адна назва — два ўчарнелыя ад дажджоў саламяныя маты, звязаныя ўгары кручанай ракітай і састаўленыя так, што былі адначасова і сценамі і дахам. Ад ветру, асабліва восеньскага, сцены затулялі слаба, але дождж даставаў там не ўсякі.

У будку ішлі быццам з якой патрэбай, а на самай справе — «загаварваць» дзеда. Трэба было прыдумаць нешта такое, што магло б «завесці» старога вартаўніка. Галоўнае, каб ён не адыходзіўся далёка ад будкі і каб пры ім быў Бобік — заўсёдны яго памочнік, каратка-хвостае звяглівае стварэнне з чорна-белай галавой.

Часцей за ўсё ў будку даводзілася ісці Кастусю. У яго не тое што была дружба з дзедам, але яму дзед даяраў больш, чым Мішку і Валіку. Можа, гэта было таму, што дзедава хата і іхні яшчэ без сенечак дом стаялі насупраць — абапал нешырокай, як праціснуцца машыне, вулачкі, і дзед часта, асабліва зімовымі вечарамі, бываў у іх. А можа, таму, што Кастусь быў самым цярплівым і ўважлівым дзедавым слухачом.

Відаць, у кожнага чалавека пад старасць набіраецца шмат цікавага і важнага і прыходзіць вострая неабходнасць расказаць аб усім гэтым каму-небудзь. Каму расказваць, часам бывае не так ужо і важна.

У старога Агея такая патрэба была. Калі на яго «находзіла», ён мог гаварыць цэлымі гадзінамі, быў бы толькі слухач.

Дзеду было за семдзесят. Ён добра памятаў яшчэ першую, «царскую» вайну, з якой прывёз Георгіеўскі крыж, потым «гражданскую», якую, калі верыць яго словам, ён прайшоў у сядле з галошам на адной назе і з лапцем на другой. У калектывізацыю кулакі спалілі яго новую хату і застрэлілі сабаку. Суседзі меркавалі, што сабаку наўрад ці збіраўся хто зводзіць і загінуў ён праз свой язык. Гэта вайна зачапіла старога мацней: не вярнуўся з фронту сын, а жонку — дробную рухавую Параску — расстралялі немцы дома. Нехта з «добрых» людзей падаткнуў, што стары ў партызанскім атрадзе.

У апошні час, асабліва калі цямнела і добра пацягвала вільгаццю, у старога, як нанятая, пачынала ныць спіна: даваў знаць застарэлы рэўматызм. Цягучы боль перадаваўся ў рукі і ногі, быццам вываpo чваў косці, і каб не слухаць яго, трэба была якая-небудзь пільная работа ці жывы чалавек, з якім можна было б перакінуцца словам, седзячы ля траскучага цяпла.

Восень была ў познім разгары, і людзі спяшаліся ўхапіць з поля ўсё, што можна было, і рэдка хто, калі часам здаралася ісці ў сяло лугам, заварочваў у сад.

Часцей за ўсіх прыбягаў на агонь Кастусь. Ён грэў над цяплом рукі, глядзеў у дзедаў рот з выкрышанымі жоўтымі зубамі, частка якіх хавалася за белымі, абвіслымі вусамі, грыз яблыкі і моцна рагатаў з кожнага, зусім нясмешнага дзедавага слова. Рагатаў, пакуль з-пад кузні не даносіўся прарэзлівы свіст. Кузня стаяла ў канцы сяла, і свіст часам паўтараўся некалькі разоў, быццам нехта ўдваіх перасвістваўся між сабой. Тады Кастусь раптам успамінаў, што даўно пара бегчы дамоў, што, мусіць, з поля прыехаў бацька і чакае яго...

Стары заставаўся з Бобікам. Той сядзеў насупраць дзеда і, адмахваючыся ад камароў, адчайна круціў галавой. Пры гэтым правае вуха яго, перакушанае іхняй — Кастусёвай — свінн ёй, яшчэ калі ён быў слабым шчанюком, матлялася, якануча на ветры.

Кастусь бег да кузні, дзе, ведаў, чакаюць яго Валік і Мішка. Калі яны свісталі, значыць, набег удаўся, значыць, пазухі і кішэні ў іх набіты яблыкамі. Яны аж рыпяць, калі труцца адзін аб адзін...

Валік сустрэў Кастуся пасля паўдня ля магазіна, дзе таўкліся, чакаючы, калі прывязуць хлеб, хлапчукі. За плячыма ў яго быў вялікі мокры кош з наліплымі на дно і дужку водарасцямі, асакой, шматкамі раскі. Чорная вада сцякала з каша і мачыла штаны — там, дзе яны, закасаныя вышэй каленяў, яшчэ не былі мокрыя. Усе ногі яго былі ў драпінах і гразі. Ён, відаць, і не спрабаваў іх абмываць. У левай руцэ, накручаная пляцёнкай на палец, маталася торбачка з падмочаным сподам. У ёй было нешта мяккае.

— Уюноў лавіў,— усміхаючыся ўсім ротам, паведаміў ён Кастусю.— На сажалках. Няма ні чорта, бачыш. Усяго штук дзесяць дастаў. Пакуль я прыйшоў, дык Яўмен Мікіцкі абнюхаў усе кусты. З паўпуда пацёг дамоў.

— А мяне не пусцілі. Свіней пасвіў,— уздыхнуў Кастусь.

— І добра. Усё роўна нічога б не налавіў, толькі б гразі набраўся.

Валік адвёў Кастуся пад ліпы, дзе нікога не было, і, шморгнуўшы аблупленым носам, ціха прагаварыў:

— Сёння зробім налёт на Агея. Цітоў налатошым. Я знарок прайшоў два разы лугам, паўз канаву. Іх на вуглавой — аж голле трашчыць. Вялікія — во! Чырвоныя! — Пры апошніх словах зеленаватыя Валікавы вочы сталі круглыя і вялікія — па яблыку.— А, чаго ты маўчыш? Ты пойдзеш загаворваць яго, а я і Мішка падпаўзём ад канавы. Табе і быць там доўга не трэба будзе. Мы як бачыш.

— Я не пайду сёння,— панура адказаў Кастусь. У яго ўсё яшчэ не прайшоў жаль, што яго не пусцілі на ўюноў.

— Чаму?

— Чаму, чаму? Дзед, мусіць, здагадваецца, хто трасе яблыкі. Пасля таго як абабралі апорт, ён цэлага паўдня сядзеў у нас. Гаварыў з татам, а пазіраў на мяне.

— Да каго ж яму ісці, як не да вас. Вы ж суседзі. І трэба ж яму на некага глядзець. А заўтра ці паслязаўтра цітаўкі пазнімаюць — і не пакаштуеш.

— А калі тата дачуецца?

— Адкуль? Што — я яму скажу? Ці Мішка? Толькі трэба да кіно паспець.

— Што, кіно прывезлі?

— А ты не ведаеш? «Тры мушкецёры». Я аб'яву расклейваў. Пеця гаварыў — во гэта карціна! Ведаеш, як там б'юцца! Р-раз — і ляжыць! Р-раз — і яшчэ адзін гатоў. Прасіў, каб яблыкаў прынеслі. Можа, бясплатна пусціць.

— Пусціць... Яму Маруся як пусціць...

— А што, ён ужо адзін можа круціць. Не век жа яму быць матарыстам.

— А калі пачынаецца?

— У дзевяць. Дык ідзём?

— Ладна. Толькі гэта апошні раз...

У канцы пасёлка паказваліся каровы, калі Кастусь, схапіўшы скібку хлеба, выскачыў з хаты на вуліцу.

— Нікуды не збягай. Прыедзе бацька — вячэраць будзем! — крыкнула, несучы з гарода бацвінне, маці.

— Я зараз,— адказаў ён і залапатаў нагамі насустрач статку.

Каровы шарахнуліся назад, але там ішоў пастух Лёкса і шлегануў іх пугай, і тады яны, таўхаючы бакамі адна другую, кінуліся паўз плот.

— Куды прэшся? Не бачыш, што каровы ідуць! — пачырванеўшы ўвесь, зароў на Кастуся Лёкса і нават замахнуўся пугаўём, але не ўдарыў.

— Я... на поле...— пачаў маніць Кастусь, але ўбачыў, што Лёкса не слухае яго, а падганяе кароў, і пабег далей. Але настрой яго, такі вясёлы і радасны перад гэтым, быў ужо сапсаваны. Параўняўшыся з кузняй, на дзвярах якой вісеў замок, ён перайшоў на роўны крок. А чым бліжэй дарога падыходзіла да саду, пераступаў нагамі ўсё цішэй і цішэй. Яму ўжо зусім не хацелася сустракацца з дзедам Агеем. Нават цітаўкі, вялікія, чырвоныя цітаўкі, такія сачаныя і жаданыя днём, цяпер здаваліся зусім нясмачнымі і непатрэбнымі. Але ж там, у лузе, ужо, мусіць, ляжаць Валік і Мішка. «Цітоў налатошым,— перадражніў Кастусь у думках Валіка.— Слова добра сказаць не можа. Усё «дастаў», «абнюхаў», «налаташыў»... І за што яго празвалі Царом? Цар, кацíныя вочы...»

Думаючы так, ён усё ж падыходзіў да саду.

Сонца зайшло, але было яшчэ зусім светла, а на тым месцы, дзе яно села, ружова палымнела цёплае зарыва. Зусім не верылася, што неўзабаве і вялікія хаты пасёлка, і гэтыя дрэвы, і ўся зямля схаваюцца ў мяккай чорнай цемры. Будуць ціха шапацець лісты ўгары і між імі, быццам у самім шапаценні, цьмяна блішчэць белыя плямы — яблыкі.

Ля будкі гарэў агонь. Жоўтае полымя яго — маленькае і ледзь прыкметнае — трапяталася, як лёгкая рызіна на ветры. Дзед Агей у новых, але ўжо з выбеленымі расой насамі ботах стаяў пад рабінай і ламаў аб калена таўсты яловы лапнік. Ладная горка яго ўзвышалася ля будкі, шчацінілася пажоўклай ігліцай. Дзед, відаць, добра ўгрэўся. На старанна паголеных шчоках яго — заўтра нядзеля! — свіцілася кволая ружовасць, і абвіслыя вусы, якія наўрад ці чапалі калі нажніцы, хавалі добрую ўсмешку. Ён нагнуўся па новую лапку, і Кастусь убачыў, што за яго спіной, на абрэзаным сучку рабіны, як заўсёды, вісіць аднастволка. Нясмелыя жоўтыя зайчыкі ад агню скакалі па адпаліраванай да люстранога бляску ложы. Навошта яму гэта ружжо? За ўвесь час, як тут старажуе, дзед з яго ніколі ні па кім не стрэліў. Трошкі воддаль ад агню сядзеў Бобік. Ён спачатку памкнуўся забрахаць, але пазнаў Кастуся і завіляў матузом хваста. Падняцца, аднак, паляніўся.

Кастусь нерашуча спыніўся перад цяплом.

— Давай, бярыся за працу. Неча гультая корчыць,— весела кіўнуў дзед на лапнік.

Кастусю адразу стала лягчэй — і таму, што дзед даў работу і, значыць, мала ўвагі будзе ўдзяляць яму, і што ён сказаў сваё звычайнае і мяккае «неча». І Кастусь накінуўся на лапнік.

А дзед слімачыў палец, з якога сачылася кроў.

— Бач, чыркануў вастраўём — і да крыві,— апраўдваўся ён.— Старая скура, а парвалася.

Ён пастаяў колькі часу, трымаючы перад сабой руку, пачакаў, ці выступіць яшчэ кроў, і калі не дачакаўся, пацягнуў з кучы новы сук і храснуў аб калена.

— Ты што, паглядзець, ці жывы яшчэ дзед Агей, а? — раптам павярнуў твар да Кастуся, і Кастусь улавіў у шэрых вачах яго вясёлую хітрасць.

— Н-не, я з поля... ад таты. Ён на Гараўшчыне... Сёння конча сеяць.

— Конча? Гэта добра... Паспяшаць трэба. Ды маладзіць, пакуль Ілля пагоду не папсаваў...— разважліва пачаў ён.— Ну, ну... Хто так ломіць? Смялей. Рыўком трэба. Раз — і гатова.— Гэта пра сук, які Кастусь ніяк не мог асіліць. Сук гнуўся, балюча ўпіваўся ў калена, а ламацца не хацеў.

— А-а-а, няўмека! Дай сюды! — Дзед выхапіў сук у Кастуся, пераламаў і кінуў у кучу. І ўжо лагадней, памяркоўна: — Добра, хопіць. Усё роўна ўсю ноч смаліць не будзеш, а для вечара — досыць... Вячэраць будзем. А пакуль вазьмі яблыкаў — там, у саломе...

Кастусь прыгнуў галаву і ступіў у будку. Толькі цяпер, зірнуўшы з будкі, убачыў, што на дварэ сцямнела. Чарната падступала знізу. Яна зраўняла гурбякі, зусім схавала карэнні, а ствалы зрабіла тоўстымі і невыразнымі. Толькі шырокія кроны яблынь, як шапкі, ясна вылучаліся на чыстым фоне неба. Там, дзе зайшло сонца, ужо расцягнулася, як доўгае пяро, сіняе воблака. Услед за ім, таксама аднекуль знізу, вырастала другое — яшчэ даўжэйшае і цямнейшае.

У будцы страшэнна пахла ўлежанымі яблыкамі, і ў Кастуся зрабілася кісла ў роце ад гэтага вострага паху.

— У нас сёння кіно будзе,— шарачы рукамі па саломе, паведаміў ён дзеду.

— Кіно... Некалі і я бегаў на яго... Ужо трыццаць год было, а бег, рот разявіўшы... Дзіва паглядзець. Як гэта жывыя людзі па сцяне ходзяць.

Дзед ускінуў некалькі лапак на агонь, і полымя з дымам і іскрамі шуганула ўгору і асвяціла ўсё ў будцы: салому, на якой дзед спаў ноччу, дзве скамечаныя пасцілкі, крысо старога парванага кажуха.

У самым кутку Кастусь знайшоў яблыкі. Гэта былі «ціты» — вялікія, чырвона-малінавыя. Яны, відаць, даўно ляжалі, бо былі халодныя і мяккія. Кастусь ведаў: націсні на каторы — палец улезе. Усадзіў зубы ў адзін з іх, другі ўзяў у руку. «Мусіць, з той яблыні, пра якую гаварыў Валік»,— падумаў ён, але гэта думка чамусьці не спалохала яго.

— Ну як, можна есці? — спытаў дзед, не падымаючы вачэй ад складанчыка, якім счышчаў кару з лазовага дубчыка. Другі дубчык, акораны і завостраны, ляжаў ля яго ног.

— Ыгы,— поўным ротам адказаў Кастусь.

— А зараз мы павячэраем па-мужчынску. Ты не вячэраў яшчэ?

— Не паспеў, баяўся ў кіно спазніцца.

— Ну, кіно так рана не势 стануць круціць. Яшчэ даяркі кароў не падаілі.

Кастусь падышоў да рабіны, пагладзіў ложа аднастволкі. Трапяткія зайчыкі пераскочылі на руку, асвяцілі яе. За рабінай, прыгнуўшы да зямлі цяжкое голле, стаялі яблыні. Цяпер, калі зусім сцямнела, здавалася, што раслі яны вельмі густа. Недзе за імі, у рагу, расла і тая цітаўка. Кастусь прыслухаўся. Там было ціха.

— Ну, чаго ты там топчашся? Ідзі да цяпла,— падаў голас дзед.— Колькі паеў я гэтага сала, а такога, як еў у сорак трэцім, не даводзілася.— Ён ужо дастаў, мусіць з будкі, палатняную торбачку, развязаў яе і выняў скрутак у прасаленай газеце. Разгарнуў газету. Там быў ладны — на паўдалоні — кавалак сала. Дзед адрэзаў два тонкія скрылікі, потым пакапаўся ў торбачцы і дастаў акраец хлеба.

«Наш»,— з раптоўнай цеплынёй падумаў Кастусь, глянуўшы на акраец. Хлеб пёкся на кляновым лісці. Лісты ададралі, але на тым месцы застаўся след, як ад растапыранай гусінай лапкі. Нават вострыя тонкія пражылкі засталіся. Гэта ж ён, Кастусь, збіраў у лесе шорхкія, вялікія лісты, а маці засцілала імі под печы.

— Бяры ражон...— Дзед працягнуў Кастусю дубчык і скрыль сала.— Ражон з сырой галіны лепш, чым з сухой. Сырая сама не гарыць, а сала ў той час паспявае. Хлеб вазьмі.

Кастусь узяў ражон, усторкнуў на яго сала і ўткнуў у полымя. Дзед сваё ўжо трымаў над агнём, пакручваў ражон у пальцах. І вось там, у агні, нешта запішчэла, засквірчэла, засіпела... Сала пацямнела і пачало слязіцца...

— Хватай барзджэй ды на хлеб, а то ўцячэ ўсё! — закрычаў дзед на Кастуся, убачыўшы, што ў таго ўвесь тук з сала збягае ў агонь.— Во гэтак, гэтак...— І сам прыціснуў свой скрылёк на хлеб.— Дык я ж гавару, ніколі я смачнейшага не еў...

Ён ужо адкусіў ад хлеба, ад скрыліка, старанна і доўга, напружваючы сківіцы, жуе. Дзед сядзіць з боку ад Кастуся, і таму добра відаць адна яго шчака. Кастусь глядзіць на яе і заўважае недалёка ад вуха волас, даўгі

волас. Як толькі дзед пачынае напружваць сківіцы — волас варушыцца і ўстае, як жывы. Гэта вельмі смешна, і Кастусь смяецца, а потым гаворыць пра волас дзеду.

— Няўжо,— здзіўляецца той і мацае шчаку.— Не ўгледзеў... Так стараўся, думаў, што ўсё добра, хоць у сваты едзь, ажно вунь яно як. Канфуз выйшаў...

Ён яшчэ доўга мацае шчаку, потым махае рукой, борзда ўстае і трусіць да будкі. Адтуль вяртаецца, трымаючы ў пальцах цыбуліну з зялёным пер'ем.

— Чуць не забыўся... З цыбуляй гэта не тое што смачна... З цыбуляй — гэта здароўе. Еш цыбулю — і здароў будзеш.

У яго добрая прывычка, у дзеда Агея. Ён умее адначасова гаварыць і рабіць. Язык гаворыць, а рукі робяць. Вось яны адрэзалі карэньчыкі ў цыбуліне, адшчыкнулі пер'е, аблупілі галоўку, разрэзалі яе ўдоўж на некалькі долек.

— Ты школьнік, малы яшчэ, не разумееш... А я ўжо стары, ведаю... Хадзіў неяк у Дулебы. Дык доктар Загорскі — разумнік вялікі, а кажа: нельга вострага есці. Малако трэба, масла, садавіну. Алкаголь — барані божа! А тут: барані не барані... Хопіць, адпіў сваё... Ну, малако можна... А як без сала?.. Што гэта за работа, без сала?..

Ён зноў суе ў полымя ражончык, і адтуль зноў чуецца трэск: узрываюцца, падаючы на вуголле, шарыкі туку. Зноў смачна пахне паленым, да слёз шчыпле ў носе цыбуля...

— Ну, куды ты лезеш? Згарыш, дурань.— Дзед замахваецца на Бобіка, які падлез так блізка да агню, што да ўсіх пахаў прымяшаўся пах паленай шэрсці.— На во, лаві.— Дзед кідае кавалак хлеба ўгору, далей ад агню.

Бобік на ляту ловіць хлеб, прагна, не жуючы, глытае, ледзь не давіцца, доўга аблізваецца і зноў падступае да цяпла, нецярпліва ўпіваецца вялікімі, чырвонымі ад агню вачыма то на Кастусёвы, то на дзедавы рукі.

— Сем сутак акружэння... Сем сутак баёў. Страляніна то заціхае, то распаляецца. І мы ляжым у балоце,— спрабуе весці далей свой расказ дзед. Кастусь тым часам падкідвае некалькі лапак у агонь.— А на двары не тое што холад, золасць страшная. Да касцей пранізвае...

Перарваў расказ Бобік: забрахаў залівіста і працяжна — туды, за рабіну.

— На, еш,— Кастусь кінуў сабаку скарынку. Бобік праглынуў яе, пастаяў, навастрыўшы вушы, і раптам кінуўся ў цемру.

— Чаго б гэта ён? — павярнуў галаву дзед.— Паглядзі, можа, ідзе хто?

Кастусь прыгнуўся да зямлі.

— Не, нікога не відаць...

А голас Бобіка чуўся ўжо ў самым рагу. Вось ён адчайна заекатаў, і ўслед за яго скавытаннем пачуўся глухі ўдар у зямлю, потым затарахцелі дробныя. Мусіць, нехта скочыў з яблыні і ўслед за ім пасыпаліся яблыкі.

— Э-э-э, дык вунь яно што!.. Ах вы, зладзеі! — пранізліва закрычаў дзед. Ён кінуў на траву ражон і хлеб, сарваў з сука ружжо і, гарлапанячы на ўвесь сад, пабег.

Кастусь нейкі час нерухома стаяў ля агню. Што рабіць? Бегчы ўслед за дзедам ці заставацца ля будкі? Ён ускінуў на агонь ламачча і падаўся на сабачы голас. Не дабегшы да рога саду, Кастусь зачапіўся за нейкі корч і расцягнуўся на ўвесь рост, балюча выцяўшы калена. Устаў, доўга цёр пабітае месца, потым паплёўся назад.

Сабака брахаў ужо недзе за пасёлкам. Відаць, хлопцы паспелі рвануць аж туды.

Не даходзячы метраў трыццаць да будкі, Кастусь убачыў дзеда. Той ішоў, сагнуўшыся, трымаючы абедзвюма рукамі падол кашулі. Убачыўшы Кастуся, жаласна і вінавата ўсміхнуўся:

— Яблычкаў сабраў... Буду частаваць цяпер...

— А дзе... ружжо?..

— А-а-а, ружжо? Там... стаіць... Ідзі прынясі.— Дзед кіўнуў галавой назад, адкуль ішоў.

Ружжо Кастусь знайшоў адразу. Яно стаяла ля ствала цітаўкі. Іхняй цітаўкі. На зямлі бялелася ababітае лісце, цямнеў вялікі ададраны сук...

Калі Кастусь вярнуўся да будкі, дзед ляжаў ля агню на саломе, падбіўшы пад галаву кажух. Твар яго быў зусім белы. Дыхаў ён часта.

— Вам нядобра? Можа, доктара паклікаць?..

— Не, не трэба. Пройдзе... Гэта не першы раз. У баку нешта коле... І дыхаць не дае... Але яно пройдзе... Трэба толькі супакоіцца. А ты паспяшай — кіно пачынаецца.

Дзед гаварыў праўду. З пасёлка даносілася лапатанне рухавіка.

Кастусь падкінуў у агонь галля. Полымя рванулася

ўгору, азарыла дзедаву галаву, будку. І Кастусю здалося, што дзед неяк дзіўна ўсміхаецца.

— Я скажу тату, што вам нядобра... Ён на матацыкле скочыць, прывязе доктара...

— І не думай... Мне ўжо лепей... Бачыш, я ўжо і сеў.— І дзед сапраўды сеў, апіраючыся слабымі рукамі аб зямлю.— Яно пройдзе. А ты ідзі. Вазьмі яблыкаў і ідзі.

— Я не хачу, дзядуля...

Кастусь адступіўся ад агню і ўбачыў Бобіка. Увесь мокры з галавы да ног, ён паспеў падабрацць хлеб і цяпер аблізваў дзедаў ражон.

— У-у, гад! — замахнуўся на яго нагой Кастусь, але сабака з віскам паспеў адскочыць убок.

— Дык я пайшоў, дзядуля.

— Ідзі здароў,— адказаў дзед, і ў яго голасе Кастусю зноў пачулася тая ж усмешка.

Калі Кастусь падыходзіў да сяла, з-за кузні вынырнулі дзве постаці. Першым быў Валік.

— Ну, што? — насцярожана прашаптаў ён.

— А пайшлі вы! — у роспачы закрычаў Кастусь.

— Ціха, чаго ты крычыш? Пачуе хто-небудзь. Нікога не пазнаў?

— Пазнаў, і цябе, Цар, і Мішу. Усіх пазнаў...— Злосць на сябе і на хлопцаў сціснула яму горла, і ён заплакаў.

Потым пад ліпамі, куды яго завялі, ён сказаў, хліпаючы носам:

— Нікога ён не пазнаў.

— Дык чаго ты плачаш? Гэта ж добра.

— Добра?.. Ты ведаеш, ён хворы... Зусім хворы...

Кастусь не чуў, як Валік паклаў яму ў кішэню дзве вялікія мяккія цітаўкі — з тых, што не паспелі пагубляць, уцякаючы, не заўважыў, як яны абодва — і Валік, і Мішка — зніклі. Перад вачыма ў яго стаяў дзед Агей і яго незразумелая ўсмешка. Чаго ён усміхаўся?..

...У кіно ў гэты вечар Кастусь не пайшоў.

*1965*

# ЛЕТНІ СОН ПА ДАРОЗЕ ДАМОЎ

*Памяці Вовы Пархімовіча*

Ён ляжаў на высокім ложку, апавіты тонкімі гумавымі трубкамі, па якіх у яго цела ўлівалася жыццё — чужая чалавечая кроў. Яго кроўка выцякала, а чужая ўлівалася. Вунь яна ў шкляным слоіку на штатыве — зябка-чырвоная, цёмная, як нежаданая ноч. Калі прыгледзецца, то відаць, што яна ледзь прыкметна пакалыхваецца; так калышацца вада ў графіне пры роўным бегу цягніка. Калышацца, затуманьвае, заварожвае. Яму здавалася, што ён нават чуе, як гэта ўсё адбываецца ў ім, як кропля за кропляй яго цела аслабаняецца ад хворай крыві, а на яе месца... кропля за кропляй... заступае здаровая. І нібыта цяплела ўсярэдзіне, падступала санлівасць, і нічога не хацелася. Не хацелася ні пра што думаць, не хацелася нават расплюшчваць вочы. Так і ляжаў, так і ляжаў бы — бязвольная лялька-салдацік з коратка абстрыжанай галавой і кволымі чорнымі вусікамі на бяскроўным, хваравіта смуглым твары.

У палаце славутага шпіталя Бурдэнкі ён ляжаў адзін, да яго, як да важнага пана, не падсялялі нікога. Славуты шпіталь... Славуты чым? Адрэзанымі рукамі, укарочанымі нагамі, выпатрашанымі вантробамі?.. Ха-ха... Ха-ха-ха! Смейся, дурань, смейся!

У часці яму не маглі даць ніякай рады. Відаць, дактары і самі не ведалі, што з ім робіцца і як яго ратаваць. Раптам, нібы без дай прычыны, пачала пухнуць правая нага. Пачалося ў паху і пайшло ніжэй. За нейкі тыдзень нага налілася сінню і зрабілася тоўстая, як бервяно. Бедную маці вадой адпойвалі, калі яна ўбачыла гэту ягоную ножку. Калашыны трусоў давялося разразаць... Маці адразу зразумела, што тут бяда. Кінулася па начальству, дзе з грозьбаю, дзе з просьбаю. Яна малайчына, для яе што прапар, што палкоўнік: усе вы аднолькавыя... салдафоны. Ушпілілі яму некалькі ўколаў, пагрузілі на машыну і сюды, на ўскраек Масквы.

— Ну, што, афганец? Будзем ваяваць? — спытаў у яго маёр на першым абходзе. Маёр быў невысокі і паўнацелы, з вялым ацеслівым тварам. Паверх мундзіра — прасторны белы халат, не чалавек, а кокан, з якога нешта

хоча вылупіцца. Пазірае на цябе, а вочы і сам недзе далёка, нібы на другой планеце.

— Я не афганец,— адказаў Вова і застагнаў: цвёрдыя, як патроны, маёравы пальцы залезлі ў жывот між ног і пагналі кішкі і ўсё, што там было, угору, пад грудзі. У галаве заіскрыла, пачалі ўзрывацца светлячкі ці што там яшчэ.

— Не афганец, то як сюды трапіў? У мяне тут яны, яны...— Пальцы пакінулі жывот, пайшлі па нагах.— Баліць? Не баліць?.. Баліць? — Левая нага добра чула іх, яны цёплыя і нібыта не такія ўжо і цвёрдыя, а правая была зусім як чужая, быццам адседзеў і па ёй пайшлі мурашкі.

Маёр доўга і старанна выціраў рукі ручніком, які падала яму невысокенькая жаласлівая сястрычка з круглымі перапалоханымі вачыма.

— Не афганец, а ваяваць трэба... Трэба.

Вова хацеў сказаць, што некалі аж млеў, каб трапіць у дэсантнікі, так хацелася таго Афганістана, навошта дурню той Афганістан, але ж хацелася,— ды маці ўсё перабунтавала. Якраз собіла ў тыя дні нарвацца на падпалкоўніка, што прыехаў з Расіі «вербаваць» навабранцаў, і ўсё перакруцілася. «Ай, сынок, далей ад Чарнобыля, далей ад душманаў...» Так ён трапіў у сакрэтныя стратэгічныя ракетныя.

А афганцаў тут поўна. Маёр не хлусіў: можна падумаць, што толькі імі і жыве шпіталь. Маладыя, ярыя, мечаныя-перамечаныя хто куляй, хто мінай. Трое ці чацвёра заходзілі да яго, перакінуліся словам-другім, даведаліся, што ён не кандагар, што не курыць, і адступіліся.

За галавой акно. Там восень, рэзкія, як ляскат пугі, нахабныя крыкі галак, галасы людзей, гудзенне машын. І пах дыму. Такі гнілаваты пах дае прывялае тапалёвае лісце, калі яго зграбаюць у кучы і паляць. Даўкі гнілаваты дух напаўняе палату, гоніць клубок пад грудзі, цягне на ваніты.

Перад вачыма дзверы. Праз шкло ўверсе можна бачыць галовы ўсіх, хто ходзіць па калідоры. Хаця хто там ходзіць. Маёр зазірнуў раніцай і пайшоў, цяпер будзе толькі ў панядзелак, праз два дні. Застаюцца маці ды гэтая жаласлівая сястрычка з перапалоханымі вачы-

ма. Сястрычка прыйдзе, каб адключыць кропельніцу, пасля прынясе вячэру. Маці паехала на рынак, зноў прывязе яблыкаў, апельсінаў. Можа, арэхаў ці хурмы. «Вовачка, з'еш...» Мама родная... Калі б гэта некалі, дома... Апельсіны, мандарыны, божа мой!.. А тут нічога не міла.

Яблыкаў хапала і дома, у Хведаркі добры сад. Піша, што сёлета яблыкі ўрадзілі, як на пагібель, і ананасныя, і антоны. Эх, дзеду, што ты з імі будзеш рабіць, што робіш цяпер? Таксама паліш лісце?

І праўда паліць! І ўвесь у белым — белыя порткі, белая кашуля, белая галава. Белыя клубы дыму наплываюць ад поплаву, лашчацца да зямлі, займаюць ствалы яблынь, сліў, кусты парэчак, падступаюць бліжэй і бліжэй. Дык вось адкуль гэты смурод! Ён ад дыму. Нясе нібы гарэлым мясам ці паленай гумай. Таму і выварочвае нутро і няма чым дыхаць. Дым усё бліжэй, а дзед далей і далей, не то адыходзіць, не то адплывае. І дадумаўся прыбрацца ў белае, як на свята.

Завуркатаў матор: чух-чух-чух. Ха, ды гэта зноў Хведарка, толькі ўжо на трактары. Колькі разоў дзядзька Лёня заказваў садзіцца за руль, а ўсё роўна сваё: старое — што малое. Чух-чух-чух...

Дзядзька сам сабраў гэтую каракаціцу: зварыў раму, паставіў на колы, разжыўся маторам, і нічога — бегае, як прусак.

Тады Вова напрасіўся ў кампаньёны да дзеда, паехалі на поплаў, па сена. Накідалі прычэп, уціснулі, як трэба, і калі б не гэта канава каля Рыгоравай сажалкі, усё было б добра. За рулём быў Вова, Хведарка побач, балабоніць, як гэты матор. Стары-стары, а першы змікіціў, што да чаго, і выхапіў руль, выхапіў і крутнуў управа і газануў яшчэ. А то заваліліся б, як піць даць заваліліся б. Як гэта ўсё дзіўна: пярэднія колы раптам адрываюцца ад зямлі, трактар становіцца дубка і завісае, як жывы. У цырку так сланы робяць. Потым прычэп пачынае завальвацца направа, у канаву, і падцялежвае, валачэ за сабой трактар.

Вову ўсё гэта бачыцца нібы збоку, нібы не ён сядзіць за рулём і не ён завальваецца разам з трактарам. Добра, што матор не падвёў. Трактар ярзануў заднімі коламі, грабянуў з-пад сябе дзёран і выскачыў на дарогу.

— Як мы з ім здорава, га? Праўда, здорава? — ужо на роўным смяяўся дзед, ківаючы на трактар. Яны доўга

тады смяяліся, нібыта здорава некага абдурылі. Хаця што, і абдурылі.

Куды-та Хведарка цяпер сабраўся? У дровы? Без мяне?..

Яго разбудзіў асцярожны дотык халоднай рукі да лба. Маці!..

— Ты не можаш, каб не перабіць сон,— закапрызіў ён.

Маці быццам не заўважыла яго злосці:

— І што табе снілася, сынок?

— Што снілася... Здаецца, я дома, у садзе. А яблыкаў, яблыкаў, як гразі, асабліва на крайняй, ананаснай. І усё такія буйныя, чырвоныя, і я рву іх. Ведаю, што не пара яшчэ рваць, дзед будзе злавацца, а ўсё роўна рву. І тут паказаўся дзед — у белых штанах, у белай кашулі. Убачыў мяне, адвярнуўся і пайшоў.

— Ён жджэ цябе.

— Ну, ён пісаў пра гэта. Папраўлюся — і прамым ходам у Яўладавічы. І нікуды адтуль не паеду. Там куды ні пайшоў — сам сабе начальнік, і ніхто на ногі не лезе. А то не паспееш заявіцца ў гэты Мінск, як табе ўсе ногі паабтоптваюць.

— У горадзе людзі чужыя.

— Ну. Папраўлюся і да Хведаркі: салют, дзеду. Цяпер-та ён ужо не будзе вырываць руль у мяне.

— Чаго ж ён будзе вырываць... Ты ж мужчына, салдат...

— Не хачу быць салдатам, не хачу!

— Ну, добра, добра... Будзеш трактарыстам.

— Ага... Ведаеш, як гэта дзіўна і страшна было. Трактар дубка, а потым валіцца, валіцца, а дзед па газах і ўгору... угору... угору...— Вова гаварыў усё цішэй, цішэй, потым і зусім перастаў: заснуў, бедны.

«Узвод, пад'ём! Трывога!..»

Загудзела, захадзіла казарма. Нібы ўскінутыя чужой сілай, саскоквалі з ложкаў, хапалі штаны, гімнасцёркі, рамяні, анучы, нацягвалі на сябе, накручвалі на ногі, совалі ногі ў боты, станавіліся ў строй.

— Раўняйсь, смірна! Разабраць процівагазы! За мной!

Недзе нешта гарэла. Смурод ад паленай гумы і яшчэ нечага ядавітага распаўзаўся па тэрыторыі гарадка, пяр-

шыла ў горле. Дым ішоў адтуль, ад «аб'екта». Няўжо нешта сур'ёзнае? Там жа, пад зямлёй, яны, гэтыя дурніцы. Не дай бог, калі што... Не, мусіць, нічога страшнага. Сустракае капітан, ускінуў руку:

— Спакойна і без панікі. Праверыць усё, прашчупаць кожны міліметр. Усё як мае быць, чэрці. Наперад!

У шахце і ў процівагазах не прадыхнуць. Чарствы гумавы чад. Сіні дым. Наперад, чэрці...

Ужо наверсе, калі трохі адкашляліся, адпляваліся, капітан сказаў:

— Нічога страшнага. Невялікае замыканне, у адным вузле падплавіліся кабелі. І толькі...

— Таварыш капітан, гавораць, была ўцечка?..

— Ніякай уцечкі... Запомніце: ніякай уцечкі! А хто не запомніць, запішыце. Разайдзісь!

Ніякай уцечкі?.. Толькі невялікае замыканне... ды падплавіліся кабелі. Была ўцечка, была... І дым. Гнілы белы дым.

Яны ўдвух з Безбародым. У сяржанта пакамечаны пасля ўчарашняй увальніцельнай твар і мутныя вочы... Мутныя-то мутныя, але ўбачылі, што з кішэні Вовавай гімнасцёркі вытыркаецца бліскучы кончык новай шарыкавай ручкі.

— Ну-тка пакажы, што гэта ў цябе?

— Ручка.— Паказваць яе Вова не збіраўся. «Пакажы. Была ваша, стала наша», мы гэта добра ведаем.

— Давай-давай, весялей!

— Абыдзешся! — Вова зашпіліў гузікі гімнасцёркі. «Пакажы!» Ён не нейкі там чарпак, салага, каб вось так запраста аддаць.

— Што-о-о?! — Як ён адразу звярэе! Морда нібы ў ваўкадава, цаглінай не закрыеш. Папруга з латуннай спражкай узвіваецца ўгору, Вова ледзь паспявае выкінуць насустрач руку. «Хрась!» О божа, гэта ж гадзіннік. Новенькі «камандзірскі» гадзіннік шкляной жарствой рассыпаецца па бетоннай падлозе.

Вова нейкі час няўцямна пазірае на бліскучыя асколкі, пачынае збіраць іх.

— Ты... ты... Ты мне за яго заплоціш!..

— Ага... Заплачу... Ха-ха! Не падстаўляйся, салага!

Не падстаўляйся. Лепей бы ты па галаве мне, яна вытрымае, яна зажыве, а тут... Што я маме скажу, што?

«Шах-шах! Шах-шах! Шах-шах!..»

Калі слухаць здалёк, здаецца, што нехта мяце бетонную дарожку. Размерана-роўнае, трохі паспешлівае сухое шарканне.

«Шах-шах! Шах-шах!»

Шарканне набліжаецца, гук набірае сілу, густа дробіцца: «Шах-шах! Гуп-гуп! Шах-шах! Гуп-гуп!»

Гэта ўжо не мяцёлачка на штабной дарожцы, гэта салдацкія боцікі на бетоне шасейкі. Марш-брасок... у поўным баявым. Не адставаць!

Галоўнае, не збіць дыханне. Тры разы ўдыхнуць, тры — выдыхнуць! Та-та-та! Та-та-та! Та-та-та! Та-та-та...

Які цяжкі гэты калашнік! І ражкі — на чорта іх столькі! Процівагаз, гранаты... Галоўнае... не збіць... дыханне... Паспрабуй... не збіць. Та-та-та! Та-та! Та-та-та! Та-та! Жывот, жывот!.. Пырнула, як нажом, і не адпускае.

— Таварыш сяржант!

— Я два гады... таварыш... сяржант...

— Жывот!

— Ва ўсіх жывот. Не адставаць!

Сэрца калоціцца, як шалёнае. Яно ўжо тут, у горле... І жывот!.. Таварыш сяржант, сука ты такая... Сволач ты... Гад ты!.. Усё, болей не магу... Але што гэта? Удар ззаду, пад яйцы, па копчыку... А-а-а! Чырвонае ўваччу і ў небе. І нічога няма... Як добра, калі нічога няма. Ні-чо-га... «Шах-шах! Шах-шах!» Зноў бягуць? Куды, куды бягуць?.. Не, гэта не бягуць... Гэта ўжо шпіталь, гэта падмятаюць дарожкі... Каб чыста, каб акуратна, каб прыгожа...

— Таварыш маёр, а як гэта ўсё называецца? — спытаў ён, калі маёр зайшоў у палату другі раз.

— Што «ўсё»? — маёравы пальцы размерана-роўна ішлі па яго целе. Толькі гэтым разам яны былі асцярожныя, нават далікатныя. Маёр уважліва зірнуў Вову ў вочы і нібы аддаліўся. Стаяў на тым жа месцы, пальцы яго былі ўтоплены ў Вовaў жывот, але Вову падалося, што маёр адступіў некуды назад, у цень.

— На латыні гэта называецца sarcos. Sarcos на латыні.

— А калі не на латыні?

— Мяса... Калі перакласці з латыні — мяса.

— Чалавечына?

— Чалавечына таксама мяса, хвароба. Пакажам цябе камп'ютэру і будзем лячыць.

— А хто такі камп'ютэр? — Вова паспрабаваў усміхнуцца.

— Камп'ютэр — гэта вялікі хітрун, мудрэц. Шмат ведае і шмат што можа выдаць, шмат што можа расказаць...

— А што ж ён мне раскажа, а? Што?..

— Паглядзім, паглядзім...

Вова расплюшчыў вочы. Нават не расплюшчыў — трошкі развёў павекі і ўбачыў яе. Убачыў — і не паверыў, што гэта яна, тут...

Ён звыкся са станам, калі не ведаеш, ява гэта ці сон, але тут паверыў адразу, што гэта не сон. Божа, колькі разоў ён сніў яе! Колькі разоў клікаў: дарагая, ну што табе гэтыя васемсот кіламетраў, гадзіна самалётам і гадзіна цягніком, ну, што табе... Калі б я мог сам, ды я б...

Толькі той, хто быў салдатам, ведае, якая гэта пакута не бачыць дзяўчат, а калі і бачыць, то здаля, з тупым адчуваннем, што гэта не тваё, што гэта недасягальнае, што гэта недатыкальнае. Як чужое прыгожае жыццё — яно і ёсць, і яго няма. Гэта не тваё. Не тваё!..

І вось яно тваё: яна тут, яна побач...

Ён хадзіў ужо як нявольнік, пастрыжаны і запісаны, заставалася шэсць дзён да адпраўкі, калі сустрэў яе. Маці была на працы, ён заскочыў у магазін купіць хлеба. Працягнуў руку да буханкі, што ляжала на паліцы, і ўбачыў, што да той жа буханкі цягнецца яшчэ нечая рука. Ён машынальна адхапіў сваю, але і тая тарганулася назад. Ён павярнуў галаву.

— Лена?..

— Вова?..

Яны разрагаталіся: вось дык сустрэча!

Яны не бачыліся з восьмага класа. Ён пайшоў у тэхнікум, яна заканчвала дзесяцігодку. Спрабавала паступіць на філфак універсітэта, не паступіла, пайшла на шпалерную фабрыку. Сёння выхадная, бегала па магазінах, нічога не купіла, сабралася дамоў і ўспомніла, што дома няма хлеба.

— І ў нас няма хлеба. Значыць, гэты хлеб наш з табой, і мы павінны раздзяліць яго. Я недалёка жыву, зойдзем і раздзелім, га? Раздзелім?..

Ён быў смелы як ніколі, можа, таму, што лічыў сябе салдатам — «раз-два, левай, левай!»... Ён узяў хлеб, абняў яе за плечы і павёў з магазіна на вуліцу.

Яна спытала:

— А як твае?

Ён сказаў, што маці на працы і яны будуць адны, самі сабе гаспадары, уключаць магнітафон, паслухаюць музыку.

Яна ўважліва агледзела яго:

— Вова, ты такі імпазантны, ніколі б не падумала, некалі ты быў такі нясмелы...

— Усе мы некалі былі,— засмяяўся ён, стараючыся быць такім с м е л ы м, якім яна бачыла яго.

З гарэлачных запасаў ён узяў пляшку «Такая». Гэта было цудоўнае віно, яны пілі яго з высокіх фужэраў, чокаючыся і пазіраючы ў вочы адно аднаму. Неяк адразу захмялелі. Танцавалі нешта індзейска-паганскае, пад рытмічныя гукі барабана, то разбягаючыся ў бакі, то зближаючыся так, што ён чуў не толькі пах яе духоў, яе валасоў, а чуў усю яе — яе грудзі, жывот, ногі. О божа, як гэта ап'яняла яго! Пасля нейкага фужэра ні ў яго, ні ў яе не стала цярпення танцаваць далей, яны забурыліся на канапу, і ён пачаў расшпільваць гузікі на яе лёгенькай кофце. Яна спыніла яго прыглушаным голасам:

— Пачакай трошкі, не спяшайся.

Яны ўсталі, і яна сама стала распранаць яго, дакранаючыся да яго лёгкімі пальцамі. Потым узняла свае рукі ўгору, і ён дапамог ёй здзець цераз галаву кофту, расшпіліў ліфчык, убачыў белыя, акругла поўныя грудзі і засмяяўся. Кашулі на ім таксама ўжо не было, а яе спаднічка і трусікі і яго штаны і трусы грэшнай горкай ляжалі пад нагамі.

Нейкі час яны стаялі так, чуючы холад ад акружаючага паветра і цяпло, што гарачымі хвалямі ішло ад іх целаў. Ён чуў яе вусны, яе язык у сваім роце, прыціскаўся да яе прахладнага жывата, прахладных, як пасля вады, ног, пакуль не знайшоў тое мяккае, цёплае, і яна застагнала, абшчапіла яго рукамі і нагамі, і ён зрабіў некалькі крокаў да канапы, аддаўшыся на волю туману і маладой сілы.

Потым ён адматваў назад касету, уключаў музыку зноў, і яны зноў і зноў паўтаралі гэты індзейска-паганскі танец. Танцавалі без адзежы, не баючыся, не саромею-

чыся адно аднаго, пакуль ён не зірнуў на гадзіннік і не ўбачыў, што з хвіліны на хвіліну можа прыйсці маці. Яны паспелі прыбрацца і прыбраць са стала, і ён пайшоў правесці яе.

І назаўтра, і паслязаўтра яна прыходзіла да яго, і гульня ў індзейска-паганскія танцы працягвалася. На працы яна ўзяла некалькі адгулаў, і іх хапіла аж да яго адпраўкі ў часць. Везлі іх цягнікам, і яна прыйшла на вакзал, дзе ён і пазнаёміў яе з маці...

Ён пісаў ёй з часці. Слаў лісты кожны дзень, а яна на ўсе адказала толькі адным.

«Ты даруй, што я мала табе пішу, я не люблю пісаць, не ўмею пісаць. Мне здаецца, што ўся гэта пісаніна не што іншае, як падман ці самападман, калі чалавек адсутнасць жыцця хоча замяніць імітацыяй жыцця. Гэта нешта падобнае на ананізм, прабач, што я пішу так і пра такое, але... Лепей я адзін раз прыеду, чымся буду дзесяць разоў пісаць пра тое, як я хачу прыехаць, ды не магу...»

Яна не прыехала. Ён стаміўся чакаць яе, вырашыў, што яна так ніколі і не прыедзе. А калі з ім здарылася ўсё **гэта,** ён сам не хацеў, каб яна прыязджала, не хацеў, каб яна бачыла яго такога. Пазней, як паправіцца, няхай, а цяпер...

І вось яна прыехала... Прыехала і пазірае на яго праз шкло дзвярэй. «Ну, што ты пазіраеш? Заходзь!» Ён заплюшчыў вочы ў хваравітым чаканні.

Дзверы ціха адчыніліся. У палату зайшла сястра. Уважліва, з нейкай насцярожлівасцю паглядзела на яго:

— Вова, што з табой? Ты такі... такі светлы...

— У мяне былі госці,— адказаў ён, а сам падумаў: «Відаць, Лена не асмелілася зайсці. А можа, не хацела, каб сястра яе бачыла».

— Я зараз прынясу вячэру.

— Добра, толькі падкаці ложак да ўмывальніка.

— Я намачу ручнік у цёплай вадзе.

— Не, я хачу сам.

Сястра падкаціла ложак да ўмывальніка. Вова сеў, павярнуў кран. Падставіў рукі пад халодны струмень і слухаў, як вада лашчыць далоні, тонкія, нібы ў дзіцяці, схуднелыя пальцы. Набраў вады ў прыгаршчы, але яна ледзь не ўся вылілася, пакуль данёс да твару. Набраў

яшчэ раз. Правёў мокрымі рукамі па вачах, па шчоках. Узяў ручнік, выцерся, адкінуўся на падушку.

— Ты ў мяне сёння маладзец,— пахваліла яго сястра, адкатваючы ложак да акна.

Вова ўсміхнуўся:

— Ну... Хочаш, раскажу анекдот?

— Раскажы.

— У нас у сяле захварэў дзед і доўга хварэў. Прыходзіць яго ўнук у кузню, каваль і пытаецца: «Ну, як дзед?» — «До-обра! То пляваў на бараду, а гэта ўжо на грудзі».

Сястра засмяялася:

— Бач ты... анекдотчык... Дык я пайшла?

Ён кіўнуў галавой.

Калі сястра вярнулася з падносам, Вова ляжаў на падлозе. Яна кінулася да яго. Ён хрыпеў, торгаючыся ўсім целам. Праз хрыпы яна разабрала толькі адно слова: «Валіцца! Валіцца... Ва-ліц-ца...»

Яна склала рукі як для малітвы:

— Вова, анекдоцік ты мой. Што ж гэта ты? Дык што ж гэта яны з табой зрабілі?..

*1995*

## ЕЛАЧКА

Зіма. Нядзеля.

Ноччу прайшоў добры ўсадзісты снег, і на самым пачатку падслепаватай раніцы, калі з-за Аленінага плота на вуліцу вынырнуў невысокі чалавек, сяло выдавала глухім і сонным. І быццам усё яно — з канца ў канец — было заліта сінькай. Чым далей хапала вока, сінька гусцела, набракала, пераходзіла ў фіялетавае.

Насупраць Аленінага двара цераз вуліцу стаяў калодзеж з вядром, і чалавек збочыў туды. Дастаў вады, доўга і асцярожна піў, грэючы яе ў роце, пасля выліў з вядра ваду на снег, пусціў вядро і пайшоў далей.

Трымаўся чалавек сярэдзіны вуліцы, ішоў хутка, акуратна сцелючы за сабой сляды-«елачку». Быў на ім ка-

роткі, колеру вываранай альховай кары, кажух і зімовая шапка з калматай злямчанай аўчыны. Увесь час, як толькі паказаўся з-за плота, чалавек пазіраў на замураваныя марозам вокны Аленінай хаты. Ён вярнуў галаву назад і тады, калі хаты не стала відаць за цёмнымі, ацяжаранымі снегам яблынямі і ліпамі. Потым ён ускінуў пруткай бародкай, пачаў круціць вострым, як у птушкі, тварам направа і налева. Вочы яго — круглыя, цёплыя светлячкі — пазіралі жыва і весела.

Ішоў чалавек вуліцай — шырокай, роўнай ад снегу, і чым далей, тым цішэў яго крок. Пасярод пасёлка, з левага боку, вуліца раптам разрывалася, адкрываючы, як шчэрбіну, нежылую пустату на месцы былога двара. Ад двара застаўся толькі канец гнілога хлява з голымі рэбрамі лат. Чалавек тут зусім прымарудзіў хаду, патаптаўся, закурыў.

Далей, за пустым дворышчам стаяў новы дом з бляшаным дахам на каменным падмурку, і на яго чалавек падзівіўся, варухнуўшы ўгору бровы.

Ногі вынеслі чалавека ў канец сяла, павярнулі направа — на вузкую дарожку, што вяла да другога, меншага за гэты, пасёлка. І тут снег быў некрануты і сіняваты і мякка, як крухмал, рыпеў пад нагамі, і зноў сляды чалавека слаліся акуратна і роўна. Гэты пасёлак таксама быў увесь у снезе і таксама спакойна спаў.

Так чалавек падышоў да двара, ля якога зяблі ў белых накідках дзве маладыя таполі. Ля адной з іх стаяў трактар — радыятар і шкло кабіны зусім белыя. Чалавек абышоў трактар кругом, зазірнуў у кабіну — было там чыста і масляна, і пасля гэтага ўжо завярнуў да варот.

Гэта быў яго двор, а ў двары — яго хата з сенцамі, і з хаты нядаўна выходзіў нехта — пра гэта гаварыў двайны ланцуг слядоў ад ґанка пад хлеў і назад, і чалавеку спадабалася, што ў хаце ўжо нехта не спіць.

Калі б хто са старых слабаджан бачыў у гэты час чалавека ў кажуху, то абавязкова пазнаў бы яго.

Гэта быў Мірон Булойчык.

Яго нельга было не пазнаць, як нельга было і зблытаць з кім другім. І гэты — траха ніжэй паясніцы — кажух, і старая бараняя шапка, і пруткі клін барады, і хада... Толькі Мірон хадзіў у Слабадзе так дробна і культурна. Слабаджане смяяліся — «у елачку: наскі ўроскід, пяты

ўкучу». Ён быццам не хадзіў, а пісаў, акуратна нізаючы след за следам: адзін наском направа, другі — налева.

Год з восем ужо не бачылі Мірона ў Слабадзе — пасля таго як ён рассварыўся з жонкай — хваравітай і надта раўнівай жанчынай, і пабіўся з Дубінавым Казікам.

З Казікам яны тады таптали разам стог і стапталі яго, высокі і грузны, і Мірон ужо ладзіўся злазіць, пакінуўшы вяршыць Казіка — завершыць, нідзе дзенецца,— як стог раптам раскалоўся і паехаў у бакі: палавіна з Міронам — у адзін, другая — з Казікам — у другі.

Хто кідаў стагі, ведае, як няпроста «стаптаць» добры стог. Каб ён стаяў, як лялька,— і ў меру высокі, і ў меру грузны, каб ні адзін яго бок не быў «зарваны» і каб ні на адзін бок не «напусціць» лішне. Усё залежыць ад умення «таптуноў». На стозе яны не стаяць ні адной хвіліны на адным месцы. Як звязаныя нябачнай вяроўкай, яны ходзяць у хваста адзін другому, па розныя бакі жэрдкі, кругом, кругом, кругом... Кладуцца два ахапкі сена, на іх — трэці. Ён звязвае, прыкрывае, прыціскае. Як луска ў рыбы: кожная друзачка хавае пад сабой дзве, а яе ў сваю чаргу прыкрывае другая... Ходзяць, кружацца «таптуны» па стозе — вяжуць, топчуць стог...

Мірон з Казікам ці забыліся на гэта правіла, ці проста не хацелі ўступаць адзін другому, але ў кожнага з іх быў свой падаваты, і кожны з іх таптаў на сваім баку.

Мірон выцерабіўся з-пад сена і схапіў Казіка загрудкі: у яго быў да Казіка даўні, нясплочаны даўжок. Яшчэ ў вайну Казік падаткнуў свайму пляменніку Вінцэсю, які служыў у раённай паліцыі і часам наязджаў у Слабаду, што Мірон, неяк падпіўшы, спяваў вясёлыя прыпеўкі пра паліцаяў. Аднаго разу Вінцэсь і завярнуў да Мірона на двор — той якраз калоў дровы ля стопкі. Вінцэсь загадаў Мірону здзець штаны і, перагнуўшы яго цераз парог стопкі сухімі палавінкамі ўгору, адлічыў дваццаць шомпалаў. Вінцэсь да свайго даскакаўся, скруціў галаву, а на Казіка Мірон затаіў злосць, і цяпер яна прарвала. Мірон адвесіў Казіку добрую аплявуху, але той таксама быў няўломак і рост меў вышэйшы і кулак большы — дастаў ім Мірону ў нос. Пакуль людзі адрагаталіся, пакуль ачомаліся, яны такі добра паспелі скрываваць адзін аднаго.

Ператоптваць стог Мірон наадрэз адмовіўся, а дні праз два і зусім з'ехаў са Слабады, кінуўшы і хату, і

жонку з сынам. Сын у тым годзе канчаў школу, і Мірон не баяўся за яго, а калі што — спадзяваўся на дачок: абедзве яны былі даўно замужам і жылі не так далёка ад Слабады.

Гады са тры пра Мірона нічога не было чутно, потым нехта прынёс вестку, быццам бачылі яго пад Баранавічамі і быццам ён прыстаў там да нейкай кабеты ў прымы. Нікога, акрамя хіба Міронавай жонкі і сына, у Слабадзе навіна гэтая востра не зачапіла і не ўразіла, бо ў кожнага было поўна сваіх клопатаў, ды слабаджане даўно перасталі дзівіцца ўсяму, што было звязана з імем Мірона.

Мірон быў з ліку людзей, якіх лічаць вечнымі няўдачнікамі, і, як усе няўдачнікі, нораў меў адходлівы і вясёлы. Жыццё занадта часта падстаўляла яму свой цвёрды і жорсткі бок, а ён быццам і не заўважаў гэтага — жыў сабе, і ўсё. За што ні браўся Мірон, усё выходзіла ў яго не так, як у людзей. Відаць, яму ўжо на раду было напісана быць на канцы людскіх языкоў. І пасля таго, як Мірона ў Слабадзе не стала, успамінаць пра яго доўга не пераставалі. Праўда, успаміналі найбольш тады, калі была ахвота пачасаць языкі. Можа, ішло гэта ад вечнага імкнення чалавека ўзвышаць сябе, уяўляць сябе большым і лепшым, чым ён ёсць на самай справе, нават калі ўзвышэнне гэта купляецца за кошт прыніжэння іншых, а можа, проста людзі не маглі жыць без смеху, а з каго ж пасмяяцца, як не з дзівакаватага і непрактычнага Мірона. Паслухаць тады збоку, то здавалася, што ўсё Міронава жыццё — гэта суцэльны ланцуг смешных і надзіва неразумных эпізодаў, якія ішлі адзін за другім, вырастаючы адзін з другога.

Быў Мірон хлопцам, надумаў жаніцца і дзеўчыну нагледзеў, Алену — дачку панурага, але гаспадарлівага лесніка Амялляна: вёрткі, гібкі стан, дзёрзкі пагляд рыжых вачэй — такія вочы каму хочаш галаву закруцяць,— і Алена як быццам прыяла Мірону, і раптам — выйшла замуж за другога — за Хведара Шалая, у тую ж Слабаду.

І зноў: Мірон як быццам і не перажываў надта, што Алена выйшла не за яго, а за Хведара, усё роўна як і не бегаў за ёй, і не цалаваў яе,— паскакаў на яе вяселлі і неўзабаве сам ажаніўся — прывёў у матчыну хату доўгую, на цэлую галаву вышэй за сябе, дзеўку — Ганну з Арэхаўкі. Але і цяпер, пасля сваёй жаніцьбы, Алене

праходу не даваў. Дзе ні ўбачыць, ні перастрэне — адно і тое: «Дарма ты ад мяне ўцякла... Я цябе дзе-небудзь адну спаткаю, не на людзях, і ты ўбачыш, што дарма ўцякала...» — і смяецца сваімі зеленаватымі вачыма.

Купіў неяк Мірон на базары карову — чорную прыгажуню з фігурнымі, быццам вытачанымі, рагамі і белай меткай на лысіне. Прывёў дамоў, надвязаўшы кароткі павадок сваёй папружкай, хваліўся, паказваў усім. Пусціў яе ў статак на пашу, а вечарам пастух сказаў яму, што малака ад яе Мірон не дажджэ ні сабе, ні дзецям: карова сама сябе ссала.

«Пытаюся ў бабкі, чаму такі кароткі павадок, а яна кажа: «Абарваўся. Быў доўгі, ды абарваўся...» І матузкі мне паказвае,— разводзіў Мірон рукамі.— І трэба ж: такая прыгожая карова і сама сябе ссе...»

Ці яшчэ такі выпадак. Здарыўся ён яшчэ ў час Міронавага хлапецтва, калі ён бегаў да Алены, незадоўга да таго, як яна выйшла замуж за Хведара. Шмат хто казаў, што выпадак гэты і падагнаў Алену з вяселлем.

Ад Слабады, дзе жыў Мірон, да Амяллянавага хутара было кіламетры чатыры — дзе калёснай дарогай, дзе лесам — сцежкамі. Чатыры кіламетры — гэта недалёка, але каб патрапіць са Слабады да лесніка, трэба было ісці паўз хутар глухога Стафана Буйлы. А Стафан трымаў вялізнага ваўкадава і нанач спускаў з ланцуга. Аббягаць жа Стафанаву сядзібу — рабіць лішні крук.

Неяк раз, толькі пачынала днець, Мірон цярабіўся дамоў — паспець звесці вочы, пакуль маці пачне штурхаць пад бок. Стафанаў двор быў ужо ззаду, і Мірон хацеў наддаць ходу, як раптам пачуў за плячыма хапатлівы нарастаючы шум. У Мірона аж сэрца зайшлося...

Вось што расказваў ён праз дзень Алене.

«...Азірнуўся я — і аслупянеў. Па дарозе на мяне прэ ваўкадаў — толькі пясок пад нагамі шархаціць. А дарожка чысценькая, як стол, хоць бы сук які, хоць бы камень. Ну, думаю, гамон, разарве, як жабу. Не... Матануў ён паўз мяне і раптам цуп — стаў наперадзе, пазірае. А я гляджу на яго і бачу толькі чорны, быццам зарослы валасамі, разяўлены рот з крывымі белымі зубамі ды вочы — чорна-жоўтыя, пустыя такія... Пастаяў ён так, пастаяў, потым — трух-трух! — да мяне. Падбег — такая ламіна, са сталом роўная. Абышоў кругом. Я стаю

і чую, як у мяне правае калена затрымцела. Трасецца — не суняць ніяк...

Абнюхаў ён мяне, потым чэк! — задраў заднюю нагу... Чую, наструнілася калашына, пацяжэла. «Палівай, палівай, цюцька,— думаю,— толькі жывога выпусці. Болей ты мяне тут не пяроймеш...» Скончыў ён сваё, скалануўся і патрухаў назад па дарозе. Счакаў я трохі — і дай, божа, ногі!..»

Такі гэта быў чалавек Мірон, які праз восем год зноў паказаўся ў Слабадзе. Ён доўга стаяў ля варот, не адважваючыся ступіць на свой двор, потым павярнуўся і павольна пайшоў па вуліцы далей — у канец, туды, дзе праз дзве хаты цьмяна і шырака рудзеў бярэзнік.

У бярэзніку было сцішана і глуха. Пахла свежым, падталым снегам, мокрай бяростай. Мірон ішоў уцэлае, пакідаючы за сабой глыбокія сляды, часта прыпыняўся, каб падзівіцца то на адну, то на другую бярозку, нешта шавяліў губамі. Потым зусім стаў — ля крывой высокенькай бярозкі, пакратаў рукой цёплую крухмальнаслізкую кару. Скалануў бярозку — абцерусіў усяго сябе. Пастаяў, услухоўваючыся ў шэлест асядаючых сняжынак, у ранішнюю затоенасць, што панавала кругом, і раптам засмяяўся ледзь чутным дзіцячым смехам. Высмаркаўся, пахлопаў бярозку па ствале, быццам пашкадаваў: «Нічога, нічога...» — і павярнуў назад, у пасёлак.

Падыходзячы да свайго двара, раптам насцярожыўся, а пасля наддаў кроку: убачыў, што глухая сцяна сянец нешта надта чорная, нібы абвугленая.

«О-о-о, тут, мусіць, сам пажар пабываў»,— падумаў, спяшаючыся ў сад.

Ніз сцяны агонь зусім не крануў, але вышэй усе бярвенні былі як аблупленыя, патрэсканыя, непрыгожа рабрыстыя. Рог страхі таксама быў чорны і закруглены.

«Мусіць, ад стажка загарэлася,— рашыў Мірон, правёўшы рукой па бервяну, адчуваючы пад пальцамі падатлівую крохкасць сухога, мылкага вугалю.— Канешне, ад стажка. Калі б агонь ішоў знутры — гамон быў бы хаце. Калі б ён выбіўся знутры — было б тут усё і хаце, і хляву».

Ён вярнуўся ў двор і ўпэўнена штурхануў дзверы сянец, у цемнаце лёгка злавіў клямку на дзвярах у хату, зайшоў.

У хаце было душна і кісла. Мірон агледзеўся — у

нядужым паўзмроку ля сцяны ўбачыў ложак, перад ім другі, меншы, канапу.

— Хто там? — пачуўся з ложка сынаў голас, і ўслед за гэтым зачырванеўся агеньчык — сын курыў у пасцелі.

— Я...

Было некалькі хвілін нялоўкай цішыні, потым сын пагупнуў нагамі на падлогу — пачаў нацягваць штаны. Падышоў да парога, запаліў святло.

— А-а-а, гэта ты, тата... Праходзь, распранайся,— мяккім, расслабленым голасам сказаў Мірону, насцярожліва пазіраючы на яго.

Мірон адчуў, што тут яго ўжо даўным-даўно перасталі чакаць.

— Ды-т, я з двара... Снег трэба атрапаць, бо наслядджу,— адказаў, дастаючы з кішэні кажуха рукавіцу і змахваючы ёю снег з валёнак.

— Вунь жа венік стаіць,— сын кіўнуў у качарэжнік і павярнуўся ў бок ложка. — Аня, уставай! Тата прыехаў.

На пасцелі ўзняла круглы, прыемны твар, а потым і села, задраўшы рукі за галаву, скручваючы ў тоўсты жмук растрапаныя за ноч валасы, жанчына.

— Добры дзень, нявестачка,— адчуваючы нейкую няёмкасць, пaздароўкаўся Мірон за руку, падступіўшы да ложка, і адразу ж адвярнуўся: улавіў у выразе блакітнай кашулі белыя поўныя грудзі.

Нявестка прывіталася, кіўнула Петраку:

— Падай адзежу.

Мірон здзеў кажух, шапку, павесіў на крук у парозе, прысеў на слон. Пятрок ужо абуўся і ў споднай кашулі з расхрыстанай грудзінай таксама прысеў. Цяпер ужо курылі абодва мужчыны, густа дымячы, перакідваючыся нязначнымі словамі, звычайнымі ў выпадках, калі людзі даўно не бачыліся і сустрэча вялікай радасці не прынесла. Мірон адчуваў сябе вінавата, быццам чужы ў гэтай хаце. Сын таксама не мог натрапіць на тую душэўную раўнавагу, якая давала б і ўпэўненасці, і шчырасці.

Тады, калі яны засталіся з маці ўдваіх, і асабліва тады, калі маці памерла, ён быў вельмі злосны на бацьку і думаў, што выганіць яго адразу — хай толькі заявіцца. А цяпер уся злосць прайшла, быццам час размыў яе, пакінуўшы мутны непрыемны асадак. Пятрок не разумеў бацькавых уцёкаў тады, не разумеў і цяпер.

«Сталы чалавек, дачок замуж адправіў і раптам кідае жонку, сям'ю і ідзе немаведама куды. А цяпер вярнууся. Палахаў, палахаў, ды нідзе дзеўся, вярнууся,— думаў Пятрок, седзячы на слоне.— Тады дык нічога слухаць не хацеў. Закруціла нешта ў мазгах, кроў зайграла. На маладое пацягнула. А цяпер што?.. Ці зноў проста так, паказацца на некалькі дзён? І вінаваціцца. Можа, баіцца, што не прымем...»

Адна Аня паводзіла сябе так, быццам усё ішло так, як трэба. Яна то сама ўстравала ў гаворку мужчын, то слухала іх, забываючыся на работу, якую толькі што рабіла, то выходзіла з хаты, пакідаючы іх адных, усім сваім выглядам і паводзінамі паказваючы, што з'яўленне Мірона, якога ўсе лічылі ледзь не прапаўшым, ёй прыемнае і радаснае.

— Ці то Грыпіна выехала куды, ці як?.. Сымоніха, кажу,— спытаў Мірон у сына.— Я ішоў цераз тэй пасёлак, бачыў яе дворышча. Астаўся адзін хляўчук з голымі латамі...

— Сын забраў. У Салігорск.

— А ля яе хто гэта хароміну пабудаваў? Пад бляхай, на камені.

— Косцік Татарынаў.

— Маладзец. А Калядка — зноў жа некуды з'ехаў?

— Гэты пад Мінск. Там дом купіў — з садам, агародам, і цяпер не шманае.

— Бач ты. Дзе і грошы набраў?

— Набраў. Столькі год брыгадзірам быў. Цягнуў жа ўсё.— Пятрок устаў, укінуў акурак у печ. Там ужо ваўсю гарэлі дровы, ірдзяна-чорныя пасмы лізалі чалеснік.— Што нацягнуў, што сэканоміў. Ён з тых, што не прап'юць, не прагуляюць...

— Гэты не прап'е,— падхапіў Мірон.— Не-е-е, не прап'е... І на Матрунчыным дворышчы нехта будуецца.

— Міша Гаўрылаў. Матрунка памерла. Тым жа летам, што і мама. А хату дачка прадала.

— Бач ты, як усё перамянілася за гэтыя гады,— ціха, як для сябе, сказаў Мірон. Напамінак пра Ганну, пра яе смерць пацягнуў за сабой нешта прыкрае і балючае. Гэта прыкрае і балючае было і ў іхнім жыцці з Ганнай у апошнія гады — сварлівым і нярадасным, і ў тым, што ён сышоў з дому, збег ад гэтага жыцця, кінуўшы яе адну з сынам, і ў тым, што цяпер ужо яе няма, яна памерла,

а сам ён вярнуўся, быццам чакаў, каб яна памерла, быццам чакаў яе смерці.

— Хіба мала было іх, гадоў гэтых. За гэты час магло ўсё прахам пайсці,— нахмурыў бровы Пятрок.

— Гадоў было шмат,— працяжна адказаў Мірон, не звяртаючы ўвагі на сынаву злосць. Ён думаў пра тое, што прапала, знікла недзе, быццам яе і не было ніколі, радасць, якой жыў усе гэтыя гады, якую чуў у сабе заўсёды, калі ўспамінаў свой дом, і дзяцей, і Слабаду...

Колькі бяссонных начэй было за гэты час, колькі думак перабыло ў галаве, і пра сябе, і пра жыццё, і пра тое, што ніколі яно не было ў яго добрым, і што цяпер, пад старасць, застаўся ён адзінокі і непрытульны, як бадзяжка, у якога няма ні дома, ні радні, ні радзімы. І ясным, саграваючым праменьчыкам усе гэтыя гады грэла заўсёды радасная думка пра Слабаду, пра дом свой, пра дзяцей і яшчэ пра нешта, глыбока прытоенае не толькі ад людзей, але і ад сябе,— пра ўсё тое, што было заўсёды яго і заўсёды з ім... А во прыйшоў дамоў, загаварыў з сынам, і быццам надламалася гэта радасць, быццам прыцьмеў агеньчык...

Потым Пятрок пайшоў паіць карову, а Мірон застаўся з нявесткай. Яму лягчэй было з ёй, чым з сынам, вальней. Ён бачыў, што яна з цікаўнасцю і дабратой пазірае на яго, і яму здавалася, што яна на яго баку, яму хацелася, каб яна была на яго баку. Ён добра ведаў Аніну маці, слабадскую ваенную ўдаву,— спакойную, разважлівую, ведаў і Аню — яшчэ дзеўчанём з тонкімі пасіверанымі лыткамі, і ў думках хваліў Петрака за тое, што той не шукаў жонку далёка, а ўзяў сваю, слабадскую.

Аня весела і ахвотна расказвала пра сябе, пра Петрака, пра Слабаду і слабаджан, пра тое, як летась чуць не згарэлі.

— З-за вырвуса гэтага, Жэніка,— Аня кіўнула галавой на меншы ложак, дзе, звесіўшы галоўку з падушкі, спаў хлапец.

— Дык гэта ён падпаліў стажок? — нібы ўзрадаваўся Мірон.

— А няўжо ж. Добра, што пад абед было і не ўгарэлася як трэба. Выкаціў бы агонь увесь канец. Восень сухая, а ў кожнага ж на двары стажок — у каго сена, у каго — салома.

— Эйч яго, вісуса,— пакруціў галавой Мірон, пры-

пыняючыся ля ложка. Ён ажывіўся, быццам адагрэўся ў цяпле, быццам цяпло хаты надало яму рухавасці і ўпэўненасці, і з прыемнасцю ўзіраўся ў ружовы ад сну твар унука з кропелькамі поту на верхняй губцы, на яго вялікае чырвонае вуха. «Вялікае, як у сабакі»,— радасна думаў Мірон, ходзячы па хаце.

Гэта была яго хата. Усё ў ёй было як быццам тое, што пры ім, і ўсё — не тое. Тыя вокны, дзверы, печ, крукі ў сцяне яго — з яліны, смаляна-чырвоныя, высlізганыя. Але сын атынкаваў хату, пабяліў. Выкінуў старыя ложкі — паставіў новыя. Заместа сланоў — крэслы, тэлевізар, а побач з крукам, на які Мірон павесіў свой кажух, шырокая вешалка пад белай прасцінай. І Мірону раптам засаднела ў грудзях, падумалася, што ад яго, Міронавага, жыцця тут засталося вельмі мала. І Мірон адчуў сябе чужым у сваёй хаце. Тыя восем год, калі яго не было тут, зрабілі ягоную хату чужой яму. Тут ідзе сваё жыццё, і калі ён надумае застацца, яму трэба будзе прывыкаць да яго, падпарадкоўвацца яму. Атрымліваецца, ужо не сын жыве ў яго хаце, а ён, Мірон, убіўся ў сынаву сям'ю. Трэба будзе да ўсяго прывыкаць. І да нявесткі. І да ўнука. І яшчэ шмат да чаго.

Мірон хадзіў па хаце, кратаў пальцамі ўсё, што трапляла пад рукі, і думаў, думаў...

Вось тут, між акном і сталом, стаяла швейная машына. Старэнькі «Зінгер». На ёй ён шыў боты — прышываў перады да халяў, саюзкі... Некалі, перад вайной, ён выменяў яе за цялушку. Цяпер машыны няма. Мусіць, прадалі ці выставілі ў сенцы. І да гэтага трэба будзе прывыкнуць. І ложка няма, на якім Мірон спаў. Мусіць, выкінулі. І да гэтага трэба будзе прывыкнуць...

Мірон стаяў ля стала, перабіраў фотакарткі, скіданыя ў кардонную каробку з-пад цукерак. Пятрок-школьнік — з недаўменна выпучанымі вачыма. Пятрок-салдат, Пятрок ля трактара, Пятрок на сваім вяселлі — з добрымі асалавелымі вачыма — адна рука на плячы ў Ані, другая — з чаркай. Аніны фотакарткі...

І раптам Міронава рука тарганулася: на фотакартачцы была Ганна. Адна, у труне, з гладкім матавым ілбом, заплюснутымі вачыма. Мірону стала цяжка дыхаць. І дрэнна жылі яны, і біліся, было, і сварыліся, і што ні нагаворвалі адно другому ў злосці, а ўбачыў яе — сцішаную, добрую, з васковымі маршчыністымі рукамі на

грудзях, і падкаціўся камяк пад горла, здушыла грудзі. Якім правым ні лічыць сябе чалавек, якімі высокімі, далёкімі ад зямных клопатаў і трывог ні бываюць яго думкі і справы, сустрэўшыся твар у твар са смерцю, ён раптам адкрывае для сябе, што ўсе яго нават самыя высокія і вялікія думкі і справы — нішто ў параўнанні з чалавекам, да якога прыйшла гэта халодная і незразумелая смерць. Сустрэўшыся з ёй, людзі раптам пачынаюць шкадаваць аб тым, якія несправядлівыя і неразумныя яны бываюць нават да самых блізкіх, як мала радасці і дабра даюць ім і якія ўсе роўныя перад ёй, смерцю.

Такія ці амаль што такія думкі цясніліся ў Міронавай галаве, калі ён трымаў у руках фотакартку, на якой была знята яго жонка Ганна перад адпраўкай у апошнюю дарогу. Ён стаяў і думаў: «Ты даруй мне, Ганна, што я такі, нічога не паробіш. Ды і ты шмат калі няправая была. І да мяне няправая, і да Алены. Ну, хай я ёй дровы прывозіў, хай перакрыў хлеў, дык што з таго... Ты разумная была і дурная. Разумная, бо шмат аб чым здагадвалася, дурная, бо не хацела нічога разумець. Ты здагадвалася, што Алена падабалася мне. Гэта праўда. Я любіў яе ўсе свае гады. Я помніў яе. Я і цябе любіў, але не так, як яе, і ты гэта адчувала, але не хацела разумець. Ты была маці маіх дзяцей, і я любіў цябе, як маці. Калі я быў з табой, я любіў цябе, а калі заставаўся адзін, я любіў Алену. Але я быў чэсны з табой і чэсны з ёю. Адзін раз я быў нячэсны з табой, і ты ведала пра гэта. Гэта было вясной сорак сёмага года, калі я пасеяў на сотках пшаніцу і яна ўзышла вельмі рэдкая. Ты кляла курэй, што яны павыбіралі зярняты. Куры тут былі невінаватыя. Кілаграмы з чатыры пшаніцы я не пасеяў, адсыпаў і вечарам занёс Алене. У яе таксама былі дзеці, і яны сядзелі на крапіве і снытцы. Во ў гэты раз я быў нячэсны з табой, бо я ўсю ноч прабыў у Алены, а не на полі, ля трактара. І пра пшаніцу, і пра гэта я расказаў табе, хоць і ведаў, што ты будзеш хадзіць па пасёлку і ўсім будзеш жаліцца пра тое, што твой мужык скруціўся, што ён апошнюю скібку хлеба адбірае ў родных дзяцей і нясе палюбоўніцы. Алена не была маёй палюбоўніцай. Ты ведала, што Аленін Хведар не вярнуўся з вайны, і што ў яе на шыі двое дзяцей, і што яны не мелі і той скібкі хлеба, якая была ў нашых. Больш я ніколі не быў нячэсны з табой. У нас былі свае дзеці, іх трэба было

гадаваць, і ў Алены былі свае, і ёй таксама трэба было іх гадаваць. І пайшоў я са Слабады не злосны на цябе, бо я разумеў цябе, разумеў, што ты хворая і таму капрызная і насцярожаная. Але ты надта часта нядобра ўспаміналa і ўскідвала мне на вочы тое, пра што я сам расказаў табе ў сорак сёмым годзе. Ты няправая была, Ганна... Не трэба быць такой злоснай, Ганна, нават калі ты хворая і збіраешся паміраць. Усе памруць. І во, я вярнуўся дамоў і кажу табе, што смерці тваёй я ніколі не хацеў і не вінен у ёй. Вінны я ў тым толькі, што не прыгледзеў твае апошнія дні і не я пахаваў цябе. У гэтым я вінен, і ніхто віну гэту ў мяне забраць не зможа!..»

Мірон паклаў фотакартку назад у каробку, пастаяў трохі ля стала, прыгнуўшы галаву, а калі падышоў у парог, пад печ, Ані падалося, што вейкі яго былі мокрыя. Аня нахіліла галаву ніжэй над драчкай: яна канчала драць бульбу.

Прачнуўся Жэнік і доўга пазіраў на незнаёмага дзеда, які хадзіў па хаце. Ніхто не глядзеў у Жэнеў бок, і ён папрасіўся:

— М-а-а-а-ма!..

— Ну, уставай скарэй, адзявайся,— сказала маці, пагрымваючы скавародамі.

— Ма-а-ма! — зноў зацягнуў Жэнік.— Я хачу...

— А гора маё! Ці ж цябе вучыць, як гэта робіцца. Адзень што-небудзь, ўзбуй валёнкі ды бяжы ў сенцы.

— Дзедзя, а ведаеш, што ў мяне ё? — спытаў Жэнік у дзеда, вярнуўшыся з сянец. Яны стаялі адзін перад адным пасярод хаты. Мірон пазіраў на тонкія, як палачкі, Жэнікавы ногі, на задраны падолік кашулі, з-пад якога выглядаў стручок мужчынскай годнасці, на круглыя наіўныя вачаняты і адтапыраныя вушы і не ўтрымаўся ад смеху.

— Не-а, не ведаю, унучак, не ведаю,— адказаў Жэніку, [redacted] сам радаваўся: бач, прызнаў дзеда, адразу прызнаў.

— Канешне, адкуль табе ведаць. У мяне ё машына.— Жэнік нырнуў пад ложак і вывалак адтуль машыну з сінім фанерным кузавам і чырвонай кабінай.

— У-у, гэта штука! На ёй можна куды хоч ехаць,— пахваліў дзед машыну і сам перайшоў на Жэнікаў таямнічы тон: — А ведаеш, што я табе прынёс?

— Не, не ведаю.

Дзед дастаў з кішэні свайго кажуха маленькую серабрыста-рыжую вавёрку, разгладзіў яе поўсць. Была вавёрка як жывая: натапыраныя вушкі з чорнымі настручненымі мяцёлачкамі на канцах, бліщчэлі чорныя зярняты вачэй, пушысты хвосцік тырчаў дужкай. Жэнік прыціснуў звярка да грудзей, падбег да маці:

— Мама, мама, паглянь, што ў мяне?..

Прайшло няшмат часу, і Жэнік ужо ёрзаў па дзедавых каленях, тармасіў яго за бараду:

— Дзедзя, а ты мне боты зашыеш? А то ў іх снег налазіць, а да валёнкаў канькі не прывязваюцца...

— Зашыю, а як жа. Зашыю. Вось толькі паснедаем.

І зноў Мірону было прыемна думаць, што Жэнік ведае пра тое, што дзед боты шые... Значыць, пра яго гаварылі тут, успаміналі...

Пасля прыйшоў і Пятрок, прынёс з сянец затуманеную пляшку, і ўсе яны сядзелі за сталом. На стале стаялі дранікі, печанае сала і міска мёду. «Бач ты, не забыўся, што дранікі з мёдам я люблю лепей усякіх бліноў»,— цёпла думаў пра сына Мірон і ўсміхаўся сваімі яснымі зеленаватымі вачыма. А калі Мірона добра захарашыла, ён падміргнуў Петраку, кіўнуў на Жэніка, на яго вушы. Мірон намякаў на тое, што ўнук ідзе па дзеду. У яго таксама вушы вялікія, як лапці.

Пятрок засмяяўся:

— А як жа. Булойчыкава насенне: вушы, як у лакатара. Ды хоць бы шапку насіць вучыўся. Нацягне на галаву, пазагінае іх. Будзе аблавухі, як сабака.

— Ніякі не сабака,— запярэчыў Жэнік.— Во мне дзедзя боты сёння зашые, і я падвяжу канькі.

— Паходзіш і ў валенцах, жыў будзеш. Не паспеў дзедзя ў хату, як ты яму работу.

— Сам жа купіў, а цяпер — «жыў будзеш»... Не трэба было купляць,— умяшалася Аня.

— Ат, пра што гаворка,— махнуў рукой Мірон.— Во зараз вылезем з-за стала і пагляджу я гэтыя боты. Там жа начынне якое засталося?

— А няўжо ж! Усё яно ёсць, як было,— на гары, у сундуку. І машына стаіць у сенцах, пад пасцілкай.— Сын прымоўк, весела пазіраючы на бацьку.— Дык хай бы расказаў, тата, як ты быў гэтыя гады, ці знайшоў тое, што шукаў, чаго са Слабады збег?

— Усяк быў, сынок. І сыты быў, і галодны.— Свет-

лячкі Міронавых вачэй быццам паменшалі, зацягнуліся туманам.— Хацеў вольным чалавекам пабыць. Думаў, сыду з дому і забудуся на ўсё. Ты ж ведаеш, як мы з маці апошнія гады жылі. Як кот з сабакам — ні душы, ні ласкі. Ну і пайшоў я. І было спачатку так, як я і хацеў,— і лёгка, і спакойна, і ніхто не скаліць зубы з цябе, і ніхто не піліць цябе. Сам сабе начальнік. А пасля... Пасля... Ведаеш, вольны чалавек тады, калі ў душы ў яго спакойна. А калі душу чарвяк точыць — якая гэта воля? І там жа, дзе быў я, і лес, і луг, і ўсё як быццам такое, як тут,— усё ж яна, Беларусь наша, а надыдзе вясна — душа месца не знаходзіць. Выбегу досвіткам у лес, а бачу беразнячок гэты наш. І ўспамінаецца: ты тка шчэ спіш, а зязюля ўжо сваё «ку-ку» зачынае. «Ку-ку» ды «ку-ку», і ўжо ляжаць неяк няёмка, уставаць карціць. А ступіш за вароты — тут і салавей табе, і дрозд, і шпакі ўсякія. Выйдзеш у бярэзнік — і ўжо грыбы. Кругом куста аббег, і на тка, паўкаша... Пажыў я, паглядзеў на ўсё і пачаў думаць, як бы гэта назад, дамоў. Няма лепшых гасцей, як дома...

Пасля снедання Пятрок завёў трактар і паехаў — нехта папрасіў дабавіць з лесу прычэп дроў. Мірон залез на гару. Перакладваў начынне — старыя, паточаныя шашалем правілы, лапу, малаток, рашпіль, калодкі ўсіх памераў. Знайшоў маленькія, якраз на Жэнікавы боты. Як не да абеду праседзеў, згорбіўшыся на слончыку, пакуль сяк-так падправіў боты,— ціхі, маўклівы, з нейкай сваёй, затоенай думкай. Па абедзе надзеў кажух і выйшаў на вуліцу.

На дварэ было адліжна, нізка насядала шыферна-шэрае неба. Дарога пасярод вуліцы была добра растоптана, і Мірон пайшоў па ёй на пасёлак — туды, кудой ішоў раніцай. Сляды яго цяпер губляліся сярод чужых слядоў.

Уся Слабада ўжо ведала, што Мірон вярнуўся, але на вуліцы Мірону ніхто не сустрэўся, і ён быў рады гэтаму. Ён завярнуў у Аленін двор, доўга абіваў дзеркачом валёнкі ад снегу, пакуль рашыўся зайсці ў хату.

Алена сядзела ля акна, вязала рукаўку. Забыўшыся апусціць на прыпол рукі з пруткамі, яна доўга і няўцямна пазірала на Мірона, быццам пазнавала і не пазнавала яго, і ў яе паглядзе Мірон улавіў і здзіўленне, і радасць, і яшчэ нешта — даўняе і роднае. Быццам ён даўно ўжо

быў гаспадар гэтай хаты і нечага выходзіў на двор — ці то дроў прынесці, ці вады,— а гэта вярнуўся.

— Я ж табе казаў, што ты дарма тады ад мяне ўцякала,— сказаў Мірон свае старыя словы і паспрабаваў засмяяцца. Смеху не выйшла, і словы былі сказаны занадта ціха.

— Цябе, Міронка, мусіць, нішто не пераменіць,— адказала Алена і загарэлася, зачырванелася тварам.— Ну дык чаго стаіш ля парога? Ці ў хаце няма на што сесці?

...Праз нейкі час з коміна Аленінай хаты паплыў асцярожны сівы дымок — відаць было, што расклалі на комінку і гарэлі сухія дрэўкі.

А ноччу зноў выпаў снег — прыцярушыў, падраўняў дарогу. І зноў здавалася, што ўся Слабада з канца ў канец заліта сінькай, і зноў ніводзін след не значыў свежы снег.

Толькі ранічкай, калі зусім павіднела, можна было ўбачыць, што з Аленінага двара пад калодзеж і назад вёў акуратны — пяты ўкучу, наскі ўроскід — ланцужок-«елачка».

Так у Слабадзе ўмеў хадзіць толькі адзін чалавек.

*1969*

## ПОЗНІЯ ЯБЛЫКІ

Некалі пасёлак цягнуўся на кіламетр, а мо і болей, і хаты стаялі так густа, як тое маглі дазволіць шэсцьдзесят сотак гародаў. Як і па ўсёй Беларусі, вайна і тут пракацілася жалезным каткам, мужчын павыбіла, а хаты, дзякаваць Богу, пакінула. Адно толькі школа згарэла.

Усё гэта было даўно, паўста гадоў таму, а мы ехалі цяпер. Пачатак вясны, праз тры дні Раданіца, і мы хацелі пабываць на родных магілках, прыбраць іх. Уся дарога засталася за плячыма, і вось апошні пасёлак перад могілкамі, правільней, тое, што ад яго засталося: некалькі хат на адлегласці пеўневага крыку адна ад адной, тамсям парадзелыя сады, здзічэлыя кусты бэзу і сліў. Нават

старажылу гэтых мясцін цяжка было ўгадаць, чый двор ацалеў, а ад чыйго і знаку не стала. Час злізаў прыкметы, што паказваюць на сядзібу і характар гаспадара яе, — хто ён і адкуль, рабацяшчы ці так сабе, самасейка, як у нас некалі казалі, «чылы». Такі можа век пражыць і палку ў зямлю не ўторкне, вярбіну тую, што вырастае на самай чэрствай няўдобіцы, не кажучы ўжо, каб вынянчыць яблыню ці грушу.

А Людчын сад стаяў, як і некалі, у гады майго далёкага дзяцінства. Так падалося мне на першае вока, праз шкло машыны, і я ўзрадаваўся, што час — не гаспадар над гэтым дворышчам, і папрасіў, каб спынілі машыну.

Перайшоў нядаўна засланую асфальтам дарогу і па слізкай, набраклай вясенняй вільгаццю сцежцы, што віляла паўз сад, пайшоў да Людчынай хаты. Пасля таго як растаў снег, па сцежцы, відаць, яшчэ не ступала ні адна нага — узбухлае пабурэлае лісце, шэрая зляжалая трава. Але не, і ў гэтым садзе нашмат паменела і груш, і яблынь. Куст бэзу пад вокнамі хаты шырока разросся, заняўшы маладымі парасткамі ўсё ўкруга сябе, прашываючы прамымі вострымі стрэлкамі нават убітую, як ток, зямлю на сцежцы.

Замка на дзвярах не было, і я зайшоў у сярэдзіну хаты — калідорчык, першая палавіна, другая. Холад і сырасць сведчылі, што тут даўно ніхто не жыў. На нефарбаванай засмечанай падлозе голы драўляны ложак з высокай спінкай, шпараваны дашчаны стол на точаных ножках, лаўка паўз сцяну. На прыпечку невялікі чорны чыгунок, як намёк на нядаўнюю прысутнасць чалавечага жыцця. Усё тое, што я некалі бачыў і ведаў, і ўсё такое халоднае і чужое. Адно, чаго не было тут раней, — гэта партрэты членаў Палітбюро ЦК КПСС апошняй фармацыі. Не надта вялікія, у простых лакавых рамках, яшчэ нядаўна яны віселі па ўсіх калгасных клубах. Цяпер яны стаялі на вокнах, упрытык адзін да аднаго, тварамі на двор і закрывалі ніжнюю палову ўсіх вокнаў. Брэжнеў, Кунаеў, Андропаў, Грышын — усе аднолькава спакойныя і аднолькава бясстрасныя. Спачатку я падумаў, што нейкі вясёлы аматар сабраўся стварыць мясцовы музей. Пасля зразумеў, што гаспадары даўно пакінулі гэтую хату, тут жылі другія, і па ўсім, часовыя людзі і замест фіранак, каб не ўсё відно было з двара, абставілі вокны

партрэтамі, зноў жа, за непатрэбнасцю, некім выкінутымі.

Я ведаў гэту хату зусім іншай. Там, дзе цяпер ляжаў малады тлуста-чорны асфальт, тады ішла звычайная вясковая дарога, абапал якой стаялі хаты. Гэта была дарога праз пасёлак, вуліца, і гэта была мая дарога ў школу.

Нібыта толькі ўчора я церабіўся па ёй, перакінуўшы цераз плячук лейчыну зрэбнай торбачкі з букваром і некалькімі аркушыкамі тоўстай калянай паперы, якую бацька прывёз «з раёна», выпрасіўшы ў нейкай канторы «для майго школьніка» пад пісьмо і арыфметыку.

Школа была на гэтым пасёлку і стаяла па гэты ж бок, што і Людчын сад, толькі трохі далей. Прасторная будыніна, збудаваная на гладкі вугал, пасярод яе печгаргара, шэсць ці сем высокіх вокнаў з павыбіванымі шыбамі, праз якія — і дождж і вецер...

Пасля таго як дзяцей перапісалі, мужчыны збілі з абчасаных жэрдак сталы-крынджолы і лаўкі. Жэрдкі абчэсваліся збольшага, сядзець на іх было мулка, але яшчэ горай было пісаць: ручкі і алоўкі правальваліся ў шчыліны, чарніліцы куляліся, залваючы паперу і кніжкі.

Да ўсіх гэтых бедаў, калі іх можна так назваць, была ў мяне і свая асабістая: на вачах усяго класа рашаць ля дошкі задачкі. Рашаў я іх лёгка, можна сказаць, з ходу, але рашэнне трэба было запісаць на дошцы. Гора было ў тым, што ў класе я быў самы малы, а пад дошку было прыстасавана ці то сядзенне нейкай шыкоўнай, аблітай чорным лакам даваеннай лаўкі, ці то адламанае века старога панскага раяля. Гэтая вузкая дошка была прыбіта не так і высока, але майго скупога росту хапала толькі на тое, каб дацягнуцца да яе ніжняга беражка. Калі запісаць нешта вышэй, трэба было падстаўляць маленькі слончык, які спецыяльна для мяне прынесла аднекуль настаўніца. Асцярожна пераступаючы, я ішоў разам са слончыкам уздоўж дошкі. Слончык часта куляўся, я ляцеў на падлогу, уставаў, перастаўляў яго далей, цягнуўся рукой угору і... вясёлая пацеха для ўсіх працягвалася.

Гэта калі гаварыць пра школу. А жылі мы на другім пасёлку, кіламетры за два. Восенню ці вясной прабегчы іх разам з усімі было проста і весела, іншае зімой, па плыўкім снезе, ды яшчэ калі ты, як круцёлка, перахрышчаны з галавы пад пахі суконнай матчынай хуст-

кай. Аднойчы я так знясіліўся на завірушнай дарозе, што на апошнюю гурбу перад самай школай сілы ўжо не засталося. Гурба была высокая, снег сыпкі, мяла мяцеліца, і чым болей шабуршыўся я, каб адолець яе, тым меней сілы заставалася. Зусім блізка — во, працягні руку! — былі вокны школы, за шыбамі відаць былі галовы дзяцей, там ішло прывычнае жыццё, а ты тут хоць плач. Відаць, гэтым бы ўсё і скончылася, калі б мае роспачныя намаганні не ўбачыла ў акно настаўніца. Яна выскачыла на двор у адной сукенцы, прыкрыўшы плечы вязанай белай хусткай, выскубнула мяне са снегу, прыціснула да грудзей і пабегла назад.

Я аж захліпнуўся ад радасці вызвалення і таго цёплага і такога свойскага духу, што ішоў ад настаўніцы, яе валасоў, яе маладога цела. Відаць, гэта быў той таямнічы **дух жанчыны,** які кідае мужчын на розныя адчайныя ўчынкі. Вядома, я тады не мог зразумець гэтага, але адчуць нешта адчуў.

Прычыніўшы за сабой дзверы, настаўніца паставіла мяне на падлогу, развязала маміну хустку, расшпіліла і зняла світку. Я стаяў перад усімі, як балванчык, лыпаючы вачыма і хапаючы ротам сыраватае паветра збольшага абагрэтай хаты, хаваючы ў душы тайну, да якой нечакана прычыніўся.

І зноў я плятуся ў школу адзін — ці то праспаў, ці карову выганяў на пашу і запазніўся. Выйшаў у канец пасёлка і бачу, як далёка наперадзе ў кусты каля мосціка ўцягваюцца маленькія, нібы мурашкі, постаці маіх школьных суседзяў-аднасельцаў. Лічы, што яны ўжо ў школе, а ты хоць разарвіся — не дагоніш і на першы ўрок спознішся. На плячы ўсё тая ж палатняная торбачка, у ёй буквар і пагабляваная дошчачка пад мел: аловак і паперу ўчора, калі ўсім класам прыбіралі на школьным двары і паскідалі ў кучу ўсе торбачкі, нехта ўкраў.

Але жыццё саткана не толькі з адных непрыемнасцей. Раптам чую, як недзе ў мяне за спіной набягае тупат конскіх капытоў. Не азіраючыся, саступаю з дарогі і тут над самым вухам чую здаровае мужчынскае «тпру-у!». Побач спыняецца двухколка-брычка са скураным сядзеннем, на якім, шырока расставіўшы ногі ў хромавых ботах, сядзіць па-гарадскому апрануты мужчына з чор-

нымі вусікамі на чыста паголеным твары. Раменныя лейцы туга напяты ў руках, вочы весела іграюць.

— Залазь, паехалі!

Такой удачы і ў казках не бывае. Я хапаюся за прыступку, дужая рука падчэплівае мяне за каўнер, ускідвае на пухкае сядзенне, і сыты конь лёгка тупаціць па сухой дарозе, даганяючы маіх сяброў. А вось яны і самі, пасталі і дзівяцца: хто гэта шпарыць на такім прыгожым рысаку? Аж гэта я са сваёй зрэбнай торбачкай і гонарам на ўсё сяло пад'язджаю пад самыя вокны школы.

Добра абагрэць усю вялізную школьную будыніну зімой было проста немагчыма. Але калі ў печы гарэла і страляла, то здавалася, што страляніна гэта ад цяпла — таго, што ёсць, ці таго, што будзе, і на душы было ўтульней. Можа, таму ў печ і падкладвалі ўвесь час — і на ўроках, і на перапынках. Тым болей што нарэзаныя круглякі ляжалі тут жа, у запечку, каб не выкалупваць іх недзе з-пад снегу. І калун — залізаны і вызублены на цвіках і суччы бяздомны тапор — заўсёды ляжаў пры дрывах. Трэба было толькі ўзяць яго, разбіць два-тры круглячкі, і ўсё — ёсць агонь!

З гэтым калуном звязана свая сумная гісторыя.

Звычайна дровы рыхтавалі на перапынку. Нехта адзін калоў, а большасць стаяла паўкругам, разявіўшы раты. Так было і тым разам. Перапынак скончыўся, настаўніца сказала садзіцца, і ўсе заспяшаліся. Толя Яцкевіч стаяў ззаду за мной і, падганяючы мяне, піхнуў у плечы: «Хутчэй!» Піхнуў не моцна, але я ўжо сам памкнуўся ісці, і гэтага ягонага штуршка хапіла, каб я з нагі баўтануў галавой наперад, пад ускінуты калун. Выратавала мяне тое, што калун быў тупы і ляцеў уніз болей па волі ўласнага цяжару, чым пад сілай кволых рук. Удару я нават і не пачуў. Проста стала горача ў галаве і бліснула ўваччу.

Я нават і не ўпаў, схапіўся рукой за галаву і пайшоў за парту. Так і праседзеў палову ўрока, час ад часу адымаючы руку, каб паглядзець, ці ідзе кроў. Кроў ішла толькі спачатку, потым перастала, адно мяккім туманам то наступала, то адступала млявасць.

Нехта ўсё-такі сказаў настаўніцы пра тое, што здарылася. Яна агледзела рану, не ўбачыла нічога страшнага, але з урокаў мяне адпусціла. Як я дабраўся дамоў, не ведаю. У памяці засталіся толькі вялізныя перапало-

ханыя маміны вочы, калі я, бездапаможны і абвялы, паказаўся на парозе. Знайшлі бацьку, ён запрог нейкага каня і пагнаў у бальніцу.

Доктар выстрыг валасы ўкруга раны, нечым яе прамыў, змазаў, прысыпаў парашком, заматаў галаву, не шкадуючы марлі. Працэдура была не такая балючая, як надакучліва марудная.

— Лічы, хлопец, што ты другі раз на свет нарадзіўся,— сказаў доктар.— Чэрап рассечаны, але, дзякаваць Богу, плява цэлая.

Чэрап чэрапам, але дадому я вяртаўся, як герой. З тыдзень пракачаўся ў пасцелі, пакуль рану зацягнула струпам, і зноў пайшоў у школу, і зноў чамусьці адзін.

Бралася вясна, цяплела, па злізаных сонцам ледзяных каляінах беглі ручаі. Я не спяшаўся, ішоў нага за нагу, прагна ўзіраючыся ў навакольны свет, быццам бачыў усё гэта першы раз. Зайшоў у школу ў сярэдзіне ўрока і здзівіўся насцярожанай цішыні, якой сустрэў мяне клас. Стаяў ля парога, не адважваючыся прайсці наперад, а ўсе пазіралі на мяне. Першая схамянулася настаўніца, падбегла і, прысеўшы на калена, дапамагла мне здзець світку. Яе твар быў блізка ад майго, і я ўбачыў у яе вачах слёзы...

Мне здавалася, што гэта яна ад радасці, што зноў убачыла свайго вучня. Мусіць, яно было і так, але было і іншае, пра што я даведаўся пазней. На другі дзень пасля таго няшчаснага здарэння ў школу прыходзіў мой бацька. Ён распытваў, як усё было, а адыходзячы, прыгразіў настаўніцы: «Калі, не дай бог, што стане з хлопцам, тады...» — і пастукаў костачкамі пальцаў па стале.

Усё абышлося, «хлопец» вучыўся добра, задачкі рашаў гэтак жа спрытна, як і раней, а вузкая чорная дошка на сцяне была заменена квадратнай, і слончык ужо быў непатрэбны...

Дык вось, Людчына хата. Яна вылучалася з усіх вясковых хат. Дах са шчыльна падагнанай гонты, са шляхетна заламанымі з абодвух канцоў вільчыкамі, ды і ўся яна была такая ўтульная, зграбная, усё ў ёй было да толку, што вокны ў фігурыстых ліштвах, што дзверы на адну і дзве палавінкі. Два акантаваныя слупкі высокага ганка падтрымлівалі выгнуты дугой паддашак, падшыты шалёўкай. Адсюль дзверы вялі ў вузкі калідорчык, які

дзяліў хату на дзве палавіны: сенцы і чыстую, зноў жа з двух пакояў.

Шмат пазней я даведаўся, што Людка з мужам пераехалі на пасёлак з-за лесу, з хутара, калі пачалася калектывізацыя. Там у іх была добрая гаспадарка, млын, некалькі парак коней. Сюды пераехалі яны ледзь не першыя, але ад раскулачвання не ўратаваліся. І млын, і коні, і каровы, і пабудовы адышлі пад калгас, а самога гаспадара саслалі. Відаць, разумны быў чалавек, шмат што бачыў наперад ці, можа, прадчуваў, што так спяшаўся абжыцца на новым месцы, нібыта хто падганяў у карак: і хату выштукаваў да апошняй філёнкі, і хлеў скідаў, і садок насадзіў.

Садок стаў садам, узняўся, разроссся, затуляючы хату ад вуліцы, ад ветру. Яблыні былі розныя, болей антонаўкі, і грушы розныя, але паўз вуліцу расло некалькі дзічак, відаць, гаспадар не паспеў прышчапіць нешта культурнае. Яно і дзічкі смачныя, асабліва позняй восенню, калі самі асыпаюцца ці калі атрэсці ды пакласці ў салому, а потым дзён праз колькі дастаць.

Людка жанчына была высокая, чарнавалосая, з прадаўгаватым вузкім тварам. Звалі яе не Іваніха, па імю мужа, як звычайна звалі ў нас замужніх жанок, не па прозвішчы — Гушчыха, а па-дзявочы далікатна — Людка. Ва ўсім ёсць свая праўда, была яна, відаць, і тут, хаця мы тады не шукалі яе: у нас былі свае клопаты і задачы. Памятаецца яе сумны, як у Багародзіцы, позірк, якім яна сустракала нас, згаладалую за школьны дзень малечу, калі мы, як восеньскія шпакі, рассыпаліся па краі яе саду, выкалупваючы з паклычанай травы маленькія прадаўгаватыя, як жалуды, грушы-ападкі. Звычайна мы стараліся рабіць гэта, калі яе самой не было відаць паблізу, і не столькі ад страху, колькі па нейкай неасэнсаванай унутранай далікатнасці.

У час адной такой аперацыі яна заспела нас знячэўку: паказалася не з двара, а з вуліцы — вярталася з калгаснай працы. Адступаць не было куды, і мы, збіўшыся ў купку, насцярожана, як ваўчаняты, пазіралі на яе. Але яна здаля заўсміхалася нам, а падышоўшы, сказала ціхім, быццам вінаватым голасам:

— Чаго папужаліся? Збірайце, калі там ёсціка што... Ды, мусіць, парасяты і птушкі павызбіралі ўсё.

І гэты яе спакойны голас, і яе вочы падбадзёрылі нас,

і мы кінуліся назад пад ігрушы. Яна пайшла далей, але пад кустом бэзу, што рос каля хаты, прыпынілася, азірнулася на нас. Я ўсё яшчэ пазіраў ёй услед, і нашы позіркі сустрэліся. Нейкі час мы моўчкі глядзелі так — яна на мяне, я — на яе. Чамусьці мне падалося, што яна мелася, хацела нешта сказаць, і зусім не тое, што сказала:

— Пайшліце са мной,— і павярнула да ганка.

І мы рушылі за ёй услед. Узышлі на ганак, зайшлі ў калідорчык. Яна адчыніла дзверы ў сенцы. У нас аж дух заняло ад таго, што мы ўбачылі. Там на падлозе ляжала высозная гара яблыкаў. Не кучка, не нейкія два-тры кашы, а цэлая гара. Антонаўкі — бурштынава-крамяныя, цвёрдыя, налітыя сокам. Гара гэта ўздымалася вышэй ложка, засланага посцілкай у чорна-белую клетку, і цякла пад ложак, абдымаючы яго ножкі.

— Бярыце,— сказала Людка, кіўнуўшы на яблыкі, а сама пайшла ў другую палову хаты. Як я зразумеў пазней, пайшла, каб мы не саромеліся ўзяць столькі, колькі хацелі. Але мы схапілі па яблыку і выскачылі на двор.

Не ведаю чаму, але той дзень стаў для мяне нейкай мяжой. Я перастаў запыняцца каля Людчыных груш, калі мае равеснікі кідаліся пад іх, як галодныя парасяты да карыта. Чамусьці мне здавалася, што я зноў сустрэнуся з тым незразумелым запытальным позіркам і што мне трэба будзе даваць адказ на нейкія пытанні, а што адказаць, я не ведаў.

Наўскасяк ад Людчынай хаты, праз дарогу, быў другі двор і другая хата, памечаная, акрамя ўсяго іншага, адметным знакам — глыбока ўрослым у зямлю вялізным пляскатым каменем. Ні кароў, ні свіней у гэтым двары не трымалі, ды і хлява людскага не было, каб гадаваць што жывое, і кожнае лета трава густой шчоткай укрывала падворак. І гэты камень, як самой прыродай кінуты вартаўнік, пільнаваў праход у вечна расчыненыя вароты, зробленыя для таго, каб чужая скаціна не хацела завярнуць сюды. Хаця скаціне не загадаеш, упрэцца і ў зачыненыя вароты, а ў адчыненыя — як сам Бог загадаў.

Жыла ў гэтым двары Камісарыха — невысокая, ёмкая ў стане і клубах жанчына — не пастаіць, не пасядзіць на адным месцы, не Камісарыха — сам камісар з рашуча, раз і назаўсёды вычасаным тварам. Звалі яе Соняй. Мужык яе камісарыў яшчэ ў рэвалюцыю і пасля

рэвалюцыі, у дваццатыя гады. Старэйшыя вяскоўцы памяталі, як ён некалькі разоў прыязджаў на «эмцы», але ўсё бягом, усё спехам, па ўсім, быў вялікая шышка, бо і жыў у Мінску, толькі сям'ю чамусьці не забіраў туды. Апошні раз яго бачылі ў вёсцы праз некалькі дзён пасля пачатку вайны. Ён заскочыў на палутарцы і ўсяго на некалькі хвілін: было не да растарэквання, немец на пяты наступаў. Пасля камісар партызаніў на Смаленшчыне, забраў туды і жонку, бо заставацца ёй тут было рызыкоўна; там недзе і галаву зложыў, а Камісарыха пад канец вайны вярнулася.

Пра двор гэты, можа, і няварта было б столькі гаварыць, тым болей што цяпер ад яго застаўся толькі адзін пляскаты камень, абсыпаны па краях сухім бадыллём. Можна было б, каб не адна акалічнасць.

І Людка, і Соня насілі адно прозвішча — Гушча, і мужыкі іхнія мелі аднолькавыя імёны, абодва Іваны,— па ўсім, нейкая далёкая радня, з адной мясцовасці. Праўда, адзін болей шастаў па свеце, камісарыў, а другі ваяваў на зямлі, за што і загрымеў невядома куды. Як пойдзе на звод, адно чапляецца за другое там, дзе і зачапіцца няма чаму.

І Людка, і Соня ўхітрыліся не толькі абрадзіцца адным летам і нарадзіць сыноў, але і назваць іх па-вясковаму розна, а па метрыках, лічы, адным імем: Людка свайго — Уладзікам, Соня — Валодзем. Людчын быў чарнявы, з упартым насупленым позіркам, Сонін — светлы, віхрасты.

Хлопцы раслі, бегалі па адных сцежках, разам пайшлі ў школу. Краіна будавала «светлую сацыялістычную яву», юнакі спявалі «Если завтра война, если завтра в поход...», вучыліся ездзіць на конях, здавалі на «варашылаўскіх стралкоў», кожны марыў уабрацца ў камандзірскую форму.

Абодва — Уладзік і Валодзя — паступалі ў лётнае вучылішча, але тут дарогі іх разышліся: Уладзіка прынялі, а Валодзю забракавалі па здароўі: не вытрымаў лётчыцкіх нагрузак.

А тут неўзабаве вайна. Людка атрымала ад Уладзіка пісьмо, у якім ён пісаў, што іхнюю вучобу прыспешваюць і выпускаюць раней пары: трэба біць ненавісных фашыстаў.

Валодзю прызвалі, калі ўжо немцы на сваіх танках і

танкетках ваўсю кацілі па нашай зямлі. Ён таксама прыслаў трохкутнічак са словамі, што яго прыпісалі да артылерыйскай часці, абмундзіравалі і накіроўваюць у бок перадавой.

Гэта і было тое ўсё, што ведалі пра сваіх сыноў жанчыны праз усю вайну. А калі фронт пакаціўся назад, людзі пачалі шукаць свой свайго, ці ёсць хто жывы, а не — то дзе хто паклаў галаву. Пісалі і Людка з Соняй, але пра хлопцаў нічога пэўнага дабіцца не маглі. Заставалася адно — чакаць і спадзявацца.

Жыццё між тым ішло сваім ходам. Людка разам з бабамі і мужыкамі хадзіла «на брыгаду». Соня працавала паштаркай: нехта са старых камісаравых сяброў успомніў пра ўдаву. Паштарская служба хоць і не надта грашавітая, але давала права не бегчы кожны дзень на калгасны двор і не свяціць вачыма, чакаючы, што загадае, куды пашле брыгадзір. Сабралася, сінюю торбу цераз плячо і пайшла — ці ў сельсавет, ці на пошту, ці так куды — каму якая справа.

Першай прыйшла вестка пра Уладзіка. У казённай паперцы, якую прынесла Соня, было надрукавана на машынцы, што Гушча Уладзіслаў Іванавіч вылецеў на выкананне баявога задання і на базу не вярнуўся, а таму лічыцца без весткі прапаўшым. Далей была прыпіска, што пры з'яўленні новых матэрыялаў ваенны камісарыят паведаміць дадаткова.

Пасля знайшоўся і Валодзя. Не сам знайшоўся жывыздаровы, а зноў жа прыйшлі дакументы, што ён загінуў, «совершив геройский поступок», і што за гэта яму прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза. З гэтай навіной і пляшкай віна, мінуўшы сваю хату, Соня і зайшла да Людкі. Які «пастyпак» ён «савяршыў», як гэта, дзе і калі было, Соня не ведала, але ёй сказалі, што яна мае права на пенсію за сына-героя.

Сядзелі жанчыны за сталом, пілі віно, успаміналі бедных хлопцаў, плакалі. Людцы ж не-не ды і ўспамінаўся нядаўні візіт у яе хату афіцэра ў капітанскіх пагонах.

Завітаў ён пад вечар, нібыта добра ведаў, калі яна вернецца з поля, і чакаў за вуглом.

Людка аж спалохалася, убачыўшы яго ў праёме дзвярэй. Колькі гадоў мінула, а яна адразу пазнала яго. Гэта ён, толькі не адзін і тады без пагонаў, забіраў яе Івана. Яна падумала яшчэ, што ад лёсу не ўцячэш, хаця, можа,

чалавек мае што сказаць пра Уладзіка, а можа, і пра Івана новае што ведае.

Госць чэпкім вокам аббег хату — чыста выскабленыя сцены з абразамі пад вышываным кужэльным ручніком, дзве рамкі з фотакарткамі, ложак, куфар, плеценую этажэрку з Уладзікавымі кніжкамі,— усё гэта так, быццам пералічваў ці правяраў, ці ўсё на месцы. Здаецца, застаўся задаволены, прайшоў далей, да канапы ля стала, сеў, сумку камандзірскую паклаў на скацерку перад сабой. Людка прысела на зэдліку напроці, а вочы — то на чалавека, то на яго сумку. Ёй здавалася, што чалавек зараз адшпіліць раменьчык і дастане з сумкі лісток паперы. Яна не ведала, што на ім будзе напісана, адно ведала, што нічога добрага.

Але чалавек сумку адшпільваць не стаў, спытаў вялым, нібы launched пeратомленым голасам:

— Калі вы апошні раз атрымлівалі якія-небудзь весткі ад сына?

Калі атрымлівала... На самым пачатку вайны, калі немцы яшчэ не дайшлі сюды, адно-аднюсенькае пісямко, во і ўсе звесткі. А пасля ўжо, не так даўно, прыйшоў лісцік, што сын прапаў без вестак. Як прапаў, дзе прапаў — адзін Бог ведае.

Людка ўзяла з этажэркі бляшаную скрынку, паклала той лісцік перад капітанам. Ён і ў рукі яго не ўзяў, адно кінуў вокам.

— То, можа, у раён прыйшоў які знак пра яго, можа, нешта праяснілася? — спытала Людка.

— У нас нічога не праяснілася. Мы думалі, можа, што-небудзь новенькае ёсць у вас? Можа, пісьмо хто-небудзь перадаў ці, можа, заходзіў хто-небудзь?

— Хай бы і зайшоў хто-небудзь, хай бы і сказаў, дык не — нікога і нічога. Толькі вы вот надумаліся прыйсці. Колькі гадоў не прыходзілі, а тут прыйшлі. Я думала, можа, што добрае прыйшлі сказаць пра сына ці пра мужа, пра Івана. Вы ж тады ноччу разам забіралі яго.

Чалавеку не спадабаліся гэтыя яе словы, ён неяк зябка павёў плячыма, але сказаў стрымана:

— Да нас дайшоў сігнал, быццам вы атрымалі ці то пісьмо, ці пасылку. Вось мы і падумалі: хто ж прышле пасылку, калі не свой. Там прапаў без вестак, а тут, можа, аб'явіўся...

— О, калі б гэта так, хай бы гэта так... Пасылка, і

праўда, была, толькі з Ташкента. У вайну тут хавалася яўрэйская сям'я, Мордусы, яны цэленькае лета пражылі ў мяне, колькі, бедныя, нагараваліся, страху нацярпеліся. Яны з-за вайны, а я з-за іх. Дык вось успомнілі. Вунь дзе яны цяпер, а напісалі і пасылачку прыслалі.

Людка прынесла з сянец скрынку ад пасылкі, паставіла перад чалавекам. Ён пакруціў яе ў руках, запісаў адрас, устаў, развітаўся і пайшоў. Яго галава мільганула за акном на дварэ, потым за другім — ад вуліцы, потым і на вуліцы яго не стала відаць, а Людка ўсё сядзела перад пустой скрынкай. Думала пра яго прыход. Ёй чамусьці здавалася, што гэты ягоны прыход не проста так, гэта нейкі знак, што неўзабаве нешта павінна праясніцца. Не можа яна ўвесь век жыць у гэтым страшным няведанні, у пастаянным душэўным напружанні: дзе яе мужык і што з ім, і чаму ад яго ні ліста, ні вестачкі, і што здарылася з Уладзікам, чаму ён «прапаў без вестак», і як гэта прапаў, што ні сляда, ні знаку?

І цяпер, седзячы разам з Соняй за сталом, Людка думала пра тое, як жыццё ўраўноўвае ўсіх, нібы стрыжэ пад адну шчотку, не пакідаючы нічога лішняга, і вінаватыя, выходзіць, ва ўсім бабы. Былі мужыкі, былі сыны, а цяпер нікога няма, засталіся толькі яны — адны за ўсіх і адны са сваімі бедамі.

Шмат чалавечых тайнаў і гора тояць сцены кожнай хаты, і мала каму адкрываюцца яны ва ўсёй сапраўднай бездані. Яе не ведае ніхто, а можа, нікому і ведаць не трэба, хай кожны саўладае са сваім. Так і Людчына хата. Шмат чаго не ведаў бы і я, калі б не яшчэ адзін выпадак.

А было гэта так. Мы з Генем, суседам праз вуліцу, праводзілі Антося і Аліка, нашых блізкіх сяброў, на чыгуначную станцыю. Хлопцы былі старэйшыя за нас гады на тры і пасля чатырох класаў здалі дакументы ў рамеснае вучылішча. Адтуль прыйшло паведамленне, што яны залічаны і могуць прыязджаць вучыцца. І вось, закінуўшы свае фанерныя куфэркі на калёсы, яны ад'язджалі, а мы з Генем іх праводзілі.

Мы ўчатырох ішлі па сухой дарозе, а паперадзе качаліся калёсы з куфэркамі; канём правіў Алікаў бацька, дзядзька Віця.

Дзядзька Віця па натуры быў чалавек маўклівы, зацiснуты ў сябе і толькі на добрым падпітку ды пры добрай кампаніі, сярод сваіх, мог раптам раскрыцца не-

чаканай вясёлай гранню, пра якую дзеці не ведалі і ведаць ім было забаронена. Падахвочаны голасам гармоніка і настойлівымі просьбамі, ён мог раптам выйсці на сярэдзіну хаты і, асцярожна прытупваючы пакалечанай правай нагой, праспяваць свайго знакамітага «Жураўля». «Журавель» — ад прыпеву «Журавель мой, журавель, журавельчык малады...». Усё астатняе ў гэтых прыпеўках была такая брыдкая рыфмаваная лаянка, што жанчыны адразу ўцякалі з хаты. Гаварылі, што ў вайну, у час нейкага свята раптам прыехалі немцы-нарыхтоўшчыкі. Іх падключылі да агульнага вяселля, і нехта, падкуплены туманам алкагольнага сваяцтва, сказаў нарыхтоўшчыкам пра гэтыя здольнасці дзядзькі Віці. Як ні ўпіраўся ён, давялося «Жураўля» праспяваць. Унтэр, ці хто б там ні быў за старшага, слухаў усю гэтую самадзейнасць, яму перакладалі, наколькі можна было перакласці ўсю тую лаянку, замешаную на трох-чатырох нецэнзурных словах. Калі дзядзька Віця скончыў і чакаў пахвалы, ён раптам загадаў яму здзець штаны і ўлупіць пятнаццаць шомпалаў.

Дык вось, дзядзька Віця сядзеў на калёсах, весела падганяў каня, а мы, трохі адстаўшы, ішлі следам. І неспакойна было на душы, і сумна. Хлопцы ехалі ў новы невядомы свет, у горад, там ім будзе добра — хіба ж можа быць дрэнна ў горадзе? — а мы застаёмся тут, са ўсім сваім звыклым, вясковым. Але, мусіць, і гэта было не галоўнае. Недзе ў душы мы адчувалі, што адбываецца нешта важнае, што ў самой аснове мяняе наша жыццё, дзеліць яго непрыкметнай мяжой на дзве палавіны, у адной з іх — мы, сяло і ўсё звыклае і знаёмае, у другой — нашы сябры, горад і поўная невядомасць.

За сялом хлопцы паселі на калёсы, дзядзька Віця ўзмахнуў лейцамі, конік ускінуў задам і няспешным трушком павёз іх у новае жыццё.

Мы павярнулі дадому. Ішлі паўз зачыненую школу, паўз Людчын сад і агарод. У адной з баразён на самай сцежцы ледзь не наступілі на невялічкі жоўты гарбуз. Дзіва, што яго не раздушылі ні калёсы, ні каровы! Мы рашылі, што яго ўсё роўна нехта раздушыць, то трэба ўзяць і паглядзець, можа, семкі выспелі, дык выбраць і высушыць.

Гарбуз быў мяккі, семкі пустыя, мы кінулі яго пасярод двара, дзе разбілі, і хвілін праз дваццаць яго з'елі б

свінні, не пакінуўшы і следу. Але тут ліха падагнала сястру, заступніцу праўды і справядлівасці. «Навошта зглумілі гарбуз?» — «Ды не зглумілі, ён усё роўна быў зглумлены, да таго ж пусты, ды і гарбуз увогуле не наш, а Людчын». Гэта «не наш» і дало мне зразумець, што наша забаўка дорага мне абыдзецца. Мне, бо Гені ўжо на двары не было.

Так яно і сталася. Сястра сказала бацьку, што я ў Людкі «ўкраў» гарбуз.

Такая ацэнка майго ўчынку мне ніколі і ў голаў не прыйшла б. Я не краў, а проста ўзяў, тым болей што ён ляжаў на дарозе, ды і які гэта гарбуз — і маленькі, і мяккі, і семкі-сікаўкі, ды і не адзін я быў, мы бралі з Генем...

Бацька ўсё расцаніў па-свойму. Павёў у гарод, на грады, загадаў выбраць такі гарбуз, які я «ўкраў», і мы разам з ім панясём яго Людцы.

О, божачка! Я дзесяць разоў пашкадаваў, што ўбачыў той няшчасны гарбуз, хай бы ён лепей згніў ці яго калёсы раздушылі ці яшчэ што.

Дзень быў нядзельны, бацька недзе далучыўся да чаркі, і жаданне правесці выхаваўчую акцыю стала для яго нейкай вышэйшай ідэяй. Дарэмна я спрабаваў даказаць, што там быў маленькі гарбуз, ён прымусіў выбраць самы вялікі, узяць у рукі і павёў мяне па сяле.

На вуліцы было шмат людзей. Мужчыны загаворвалі з бацькам, пыталіся хто закурыць, хто прыкурыць, ён ахвотна спыняўся. Узнікала заканамернае пытанне: «Куды ідзяце, а тым болей з гарбузом у руках?» І бацька расказваў пра тое, як сын — ківок на мяне — украў у Людкі гарбуз, і вось ён вядзе мяне, каб вярнуць украдзенае гаспадыні.

Спачатку я спрабаваў расказаць, як гэта было папраўдзе, але бацька цыкнуў на мяне, і я пакорліва выслухоўваў разам з чарговымі сустрэчнымі, як я «ўкраў» у Людкі гарбуз, а цяпер вось мы нясём, каб... і г. д. і г. д. Выслухоўваў і ўсё ніжэй і ніжэй апускаў галаву. І сам пачынаў адчуваць, што тое, што я ўчыніў, гэта не нейкі дзіцячы жарт, непаразуменне, а нешта такое страшнае, чаму няма і не можа быць ніякага даравання і што патрабуе самай страшнай кары. Чым далей мы ішлі і чым болей людзей сустракалася па дарозе, гэтае адчуванне набірала ўсё большую сілу. Мне здавалася,

што я вялікі злачынца, што на мне вісіць вялікі грэх і я ўжо ніколі не змагу замаліць яго. І чым далей мы ішлі, тым больш важкім рабіўся гарбуз. Яго сухая цвёрдая шкарлупка пякла рукі, нібыта то не гарбуз быў, а разагрэты ў лазні камень. Я не бачыў дарогі, хоць і пазіраў у зямлю, слёзы засцілі вочы.

Нарэшце мы паварочваем на ўтравелую сцежку, што праз сад вядзе да Людчынай хаты. Я маліў Бога, каб хоць Людка была на двары ці на градах ці каля хлява: тады хутчэй бы ўсё гэта скончылася. Я ўвесь гэты час адчуваў на сабе той незразумелы яе позірк і мучыўся: што я на яго адкажу? Але мой Бог і тут быў далёка: Людкі на дварэ не было.

Мы падымаемся на ганак, заходзім у чыста вымыты калідорчык, тут густа пахне мятай і яшчэ нейкімі травамі. Бацька стукае ў дзверы, адчыняе іх, прапускае мяне з гарбузом, потым пераступае парог сам, дае «дзіндобры».

У хаце дзіўны паўзмрок, хоць праз расчыненыя дзверы з другой палавіны ўрываецца густое вечаровае сонца. Яго промні б'юць у два акны, коса рассякаюць пакой.

Па левы бок печ, ля печы сама гаспадыня. На ёй саматканая суконная спадніца ў чорна-зялёную буйную клетку, белы фартух, цёмная паркалёвая кофта з закасанымі па локаць рукавамі. Занятая сваім клопатам, яна, мусіць, і не пачула, калі мы зайшлі, ды і наогул прыход наш быў для яе вялікай неспадзяванкай. Яна толькі што дастала з печы вялізны чыгун з паранымі кіёўкамі, адцадзіла, скінула скавараду, і ён стаіць на падлозе, сыходзячы свежай парай. Нейкі час Людка пазірае на нас, спрабуючы дайсці да толку, адкуль мы тут і чаго, потым спахопліваецца, не ведаючы, што рабіць з анучай у мокрых руках. Няёмкасць сітуацыі разумее і бацька, і ўся тая весялосць, з якой ён ішоў усю дарогу, упэўненасць у нейкай вышэйшай праваце пачынаюць некуды адступаць і блякнуць.

Першая бярэ сябе ў рукі Людка.

— Праходзьце, праходзьце, чаго ж пасталі ў парозе,— гаворыць яна, выціраючы рукі анучай, яны ў яе чырвоныя, набраклыя ад гарачай вады.

Бацька топчацца на месцы, але Людка ўжо камандуе, кідае анучу на зэдлік, паказвае рукой у другі пакой:

— Праходзьце!

Відаць, бацька не чакаў такога павароту, ён ужо нібыта гатовы павярнуцца і пайсці назад, але сустрэўшы запытальны Людчын позірк, паказвае вачыма на мяне. Толькі цяпер Людка бачыць у маіх руках гарбуз. Яна нічога не разумее і пераводзіць вочы з мяне на бацьку.

— Ну,— зноў, як на вуліцы, павышае голас бацька.

Я маўчу.

Я гляджу ў кут, там палічка, на ёй свечка, а над свечкай нахіленыя на хату абразы, вялікі па цэнтры, два меншыя па баках, усе пад адным, вышытым чырвонымі крыжыкамі і аробленым карункамі ручніком. На адным канцы яго вышытая дзяўчына, яна нагнулася над калодзежам, бярэ ваду, на другім словы: «На Бога упавай і пра людзей не забывай». Вось ён і Бог.

— Ну?! — павышае голас бацька. Яго вочы свідруюць мяне, прыціскаюць да падлогі, патрабуючы не меней як самапавешання. І я засоўваю галаву ў гэтую самім сабе звязаную пятлю.

— Мы з Генем праводзілі хлопцаў на станцыю, а на самай каляіне ля вашых градаў ляжаў гарбуз, і мы ўзялі яго...

— Не ўзялі, а ўкралі,— трохі мякчэй папраўляе бацька.

— Узялі, а як тата гаворыць, укралі гарбуз, разбілі яго, ён быў пусты і зялёны, і я прынёс такі ж назад, толькі большы...

Што ж, самае цяжкае зроблена, цяпер застаецца чакаць прысуду. І я чакаю яго, угнуўшы галаву, нібы падстаўляючы яе пад абух: біце, толькі хутчэй. Праходзіць некалькі пакутлівых хвілін, і раптам раздаецца жаласлівае, як памінальныя спеўкі:

— А дзетачка ты мая, гэта каб столькі... з-за гэтага,— Людка ківае на гарбуз, падымае вочы на бацьку, неўразумела паціскае плячыма.

— Не-е,— спрабуе весці сваё бацька, але Людка ўжо не слухае яго, бярэ мяне за руку, паварочвае да дзвярэй:

— Занясі, хлопчык, за сенцы, выкінь яго і прыходзь сюды.

Я выходжу з хаты, заварочваю за вугал і спыняюся, уражаны: там пад сцяной ляжаць наваленыя адзін на адзін гарбузы — не пяць, не дваццаць, а высозная куча крутабокіх, спелых, не тое што пазногаць — нажа не ўваб'еш. Я гляджу на гэтую кучу, пасля кідаю што ёсць

сілы свой гарбуз у сцяну і з помслівым задавальненнем бачу, як ён расколваецца і з расколіны бяжыць маладая жоўтая жыжка.

Вяртаюся ў хату. Бацька ўжо ў другой палавіне, сядзіць на канапе за сталом і чытае нейкія пісьмы. Адарваў вочы ад паперы, перавёў на Людку, спрабуючы нешта ўразумець.

— Вось ужо колькі пішу, і ніадкуль ні слова путнага. Прапаў і прапаў, як іголка ў стозе сена.

— Што ж тут путнага скажаш, калі нічога яснага няма. Вайна, мільёны адтуль і адтуль.

— Калі ішоў, мільёнаў не было. Быў ён адзін, быццам без яго ні вучылішча, ні арміі, ні дзяржавы не было б. А цяпер мільёны. У мяне ж ён адзін, адзін на ўвесь белы свет.

— Адзін, гэта праўда,— ціхім, нейкім вінаватым голасам гаворыць бацька. Я пазнаю і не пазнаю яго. Толькі што ішоў круты, смелы, упэўнены, а тут такі ціхі, нібы вінаваты... Што з ім?

— Скажы, Люда, а пра Івана... таксама нічога? — вінаватасць не прападае, чапляе за душу.

— І пра Івана. Як забралі, так і ўсё, як камень у ваду. Я ж тады і ў раён, і ў энкавэдэ. «Нічога невядома. Як што будзе — ізвясцім». Вось і ізвяшчаюць. Праўда, не так даўно заходзіў іхні, той, што арыштоўваў. Як убачыла яго, у мяне і душа асела. Думаю, ну, яшчэ бяда нейкая. Ажно не. Пацікавіўся пасылачкай і пайшоў.— Людка стаяла перад сталом, склаўшы рукі пад грудзьмі, нібы чакала нечага: ці прысуду, ці памілавання. А можа, ужо даўно ведала гэты прысуд і скарылася. — Пасылачка, яго цікавіла пасылачка,— паўтарыла задумана, жаласна ўсміхнулася.— Я што падумала, Паўла. Ты бываеш у раёне, да цябе заязджаюць з раёна. Можа, хай бы ты паспрабаваў, можа, пасобіў бы чым. Б'юся, як аб сцяну, і ўсё глуха. Хоць бы якая яснасць, хоць бы якое што...

Бацька маўчаў, раздумваў. Ён і праўда часта бываў у раёне. Якраз пракладвалі шашу на Бабруйск, а ён быў дарожным майстрам, і кожны дзень, асядлаўшы веласіпед, ехаў туды.

— Паспрабаваць я паспрабую, а пасобіць... Што я магу пасобіць?.. Там усё за сямю пячацямі, а хто я для тых пячацяў?

— Не.кажы, ты мужчына, і ты іх часта бачыш, і яны ў цябе бываюць.

— Бываюць нават часцей, чым трэба. Добра, я зайду ў энкавэдэ, у ваенкамат, я спытаю, але хто я для іх? Чужы чалавек. А што, калі падысці з другога боку. — Ён устаў, сабраўся ісці, але пісьмы трымаў у руках.

— З якога боку? — устрапянулася Людка.

— Ты жывеш адна. А што, калі я каго-небудзь пераначаваць прывяду?

— Як «прывяду»? — насцярожылася Людка, выпрасталася, ускінула галаву.

— Ну, так... Ты праўду гаворыш, праз дзень, праз два хто-небудзь ды стукаецца да мяне — то з фінаддзела, то з земаддзела, то яшчэ адкуль. А ў мяне поўная хата, і я вяду начаваць то да Міколы, то да Агея, то... У цябе дзве хаты, ёсць дзе пакласці. Яны заплоцяць, не за так. А галоўнае, можна будзе пагаварыць...

— Ну што ты, Паўла... Як гэта я пушчу чужога мужыка. Не... Яшчэ бабу, ды і то. А мужыка... Не...— І тут Людка ўгледзела мяне, нібыта ўзрадавалася. Падышла, прытуліла, пагладзіла па галаве.— Вось яго б я пусціла. Ён такі... ён такі падобны на Уладзіка, калі той яшчэ ў школу бегаў, у тую, незгарэлую. Мой ты хлопчык, ён столькі папакутваў сёння з гэтым няшчасным гарбузом, а мы тут сваё.— Яна выйшла ў першую палавіну і зараз жа вярнулася. У руках у яе былі тры жоўценькія, нібы налітыя малаком, кіёўкі.

— На, вазьмі, даражэнькі, вазьмі,— Людка працягнула іх мне.

Такога я ніяк не чакаў. Стаяў, уталопіўшыся ў падлогу. Кіёўкі былі надта апетытныя, мне хацелася іх узяць, але ўвесь сённяшні дзень нібы не даваў мне права на іх.

— Ну, бяры,— дазволіў бацька.— Бяры, толькі болей...

— О, божачка,— узмалілася Людка.— У мяне летась за ноч нехта паздымаў са страхі ўсе, мажа, штук пяцьдзесят, а можа, і болей. А гэта выпаўзла нешта на дарогу. Еш, я табе яшчэ дам.

— Хопіць гэтага. І нечага вушы развешваць. Марш дамоў!

«Марш дык марш». Мне і самому не надта карцела тырчаць з імі ў хаце, тым болей што рукі прыемна грэлі

спакусныя духмяныя кіёўкі. І я шмарганууў на двор — тут мяне і бачылі.

І вось я зноў у той жа хаце, праз столькі гадоў.

Я ўжо сабраўся выходзіць і раптам зачапіўся вачыма за палічку на покуці. Некалі там стаяла свечка, а над ёй, трошкі нахіленыя наперад, віселі тры абразы: вялікі па цэнтры, два меншыя па баках, усе пад адным вышытым чырвонымі крыжыкамі і абробленым карункамі ручніком. На адным канцы ручніка была вышыта дзяўчына, якая брала ваду з калодзежа, на другім — словы: «На Бога упавай і пра людзей не забывай». Можна было ўявіць, як познім калядным вечарам, калі за акном шорстка і чорна шамацеў па шыбах снежны вецер, Людка запальвала свечку, і асцярожнае трапяткое святло кідала водсветы на лікі Маці Божай, Ісуса Хрыста і святога Міколы. Горна склаўшы рукі і ўскінуўшы вочы, яна стаяла на каленях, малілася. Прасіла Маці Божую заступіцца за яе мужа Івана, за сына Уладзіка. Калі ёсць дзе жывыя, а калі не — каб ім добра было там, на небе, а тут, дома, на зямлі, яна справіцца сама.

Гэтая карціна — светлыя абразы на покуці, запаленая свечка і Людка на каленях — імгненнай ценню мільганула ў мяне перад вачыма, як бачанае ў далёкім кінафільме... Перада мной жа была пачарнелая дашчаная палічка, а на ёй невялічкі блакноцік — з тых, што любяць школьнікі, каб запісваць свае тайны, якія не павінна бачыць ні вока бацькоў, ні настаўніцкае.

Я ўзяў блакноцік у руку. Матылёк у трывожную жоўта-карычнева-чырвоную гаму раскінуў крылы на ўсю пад цэлафанавай плеўкай каляную вокладку. Ён нагадваў жывы самалёт, які планіраваў над полем-скацеркай, разбітым на карычневыя шашачкі.

Адгарнуў вокладку, запісы пачыналіся адразу ж на вокладцы.

«1949 год

Грамніцы былі 15 лютага.

Благавешчанне было ў нядзелю.

Саракі былі 22 сакавіка.

Галодны Юр'я — 6 мая».

Пасля некалькі лісцікаў было вырвана, запісы пачыналіся з мая, кожны дзень з новага радка, дзе слова, дзе два, дзе болей. Я прысеў на лаўку да стала. Не ведаю,

што прымусіла мяне затрымацца. І я пачаў чытаць. І чым далей чытаў, тым болей адчуваў нейкае хваляванне. Усё гэта былі сухія голыя запісы, якога даўняга часу, але яны так кранаді мяне.

«Май. Люда.

1. Выхадны.
2. Грузіла авёс і гной.
3. Даіла за Чарціху.
4. Накопвала гной.
5. Прасушвалі бульбу і накопвалі гной.
6. Грузіла гной на сваю брыгаду і на Малахоўшчыну.
7. Грузіла гной на сваю брыгаду і на Малахоўшчыну.
8. Даіла за Чарціху.
9. Выхадны.
10. Рэзалі мяшэчкі і грузіла ячмень.
11. Грузіла авёс, лубін на сеялку на Малахоўшчыну».

Чым далей чытаў я, тым страшней было чытаць. Грузіла, грузіла, грузіла... Даіла, даіла, даіла... За Чарціху, за Амэлю, за Насцю... Узважвалі бычкоў, мыла хату Соні. І як вынік — 27 выхадаў.

Потым чэрвень, потым ліпень. «Даіла за Амэлю, прыбірала ў свірне, збірала пагрэбкі, палола бручку, вяселле (Наташа)... Важыла Сяргеевых бычкоў, важыла Сенькавых цялушак... Прадала казу: перастала даіцца. Даіла за Жэню кароў. Адбівала ў капцах бульбу. Зарабіла С. Г. з Соняй, яна пільнавала. Не ўдалася. Болей не буду».

«С.» я расшыфраваў як «самагонку», «Г.» — «гнала».

«...Грузіла бручку да абеду, пасля абеду хавалі Анюту. Лячыла Соню і хадзіла на пошту. Рабіла ў свірне ў другую змену. Грузіла брыкет і лапкі».

«Канец года. За год 300 выхадаў. З іх 106 фермы».

І зноў цэлы год:

«Рабіла ў свірне, накідала гной, даіла за Чарціху, грузіла бычкоў і ўгнаенне, даіла за Амэлю, даіла за Маню...»

І апошні запіс: «31. Рабіла ў свірне»...

Я гартаў блакноцік старонку за старонкай, чытаў гэтыя старанна выпісаныя радкі, і мне рабілася страшна. Я раптам адчуў, як у мяне пачало шумець у скронях, і шум гэты хвалямі наплываў на мяне, раскачваў, і ўжо раскачвалася не толькі галава мая, раскачваўся ўвесь я, раскачвалася лаўка, на якой я сядзеў, раскачвалася хата з вокнамі, застаўленымі стандартнымі партрэтамі.

Каб неяк супакоіцца, я заплюшчыў вочы. Пасядзеў так некалькі хвілін, устаў, засунуў блакноцік у кішэню. Мне хацелася хутчэй адсюль, хутчэй, хутчэй, хутчэй.

Па той жа слізкай набраклай сцежцы я вяртаюся да машыны. Мне не хочацца азірацца. Не хочацца, каб з вокнаў услед за мной паварочвалі свае спакойна-бясстрасныя позіркі члены колішняга Палітбюро. Не хочацца яшчэ раз убачыць падгнілыя і скасабочаныя слупкі некалі фацэтнага, любоўна выштукаванага ганка. Ды і маленькае акенца ў франтоне, заткнутае нейкай старызнай. І сам сад. Цяпер ён такі стары, чорны, непрыкаяны. Відаць, такое адчуванне бывае ў чалавека, якога вялі на расстрэл, а пасля, у апошнюю хвіліну, сказалі: «Ідзі, мы цябе адпускаем». І чалавек гэты ідзе, увесь час чуючы за спіной ствол карабіна і палец на курку, палец, які можа не націснуць, а можа і націснуць.

Не хочацца азірацца, бо мне вядома большае...

Той восенню быў вялікі ўраджай на яблыкі. Галіны не трымалі цяжару налітых сокам пладоў, і калі гаспадар празяваў і спазніўся з падпорамі ці не дайшлі рукі да іх, то раніцай мог падзівіцца і на беднае разадранае дрэўца. Цяжка глядзець на знявечанае, хай і самой прыродай і ад яе ж залішняй шчодрасці. Шмат такіх пакалечаных дрэўцаў было тым летам у маладых садах.

Людчын сад быў у самай сіле, ён вытрымаў і вецер, і ўраджай, і прыемна было глядзець на яго, як на дзіва.

Было шмат ападу, але што апад, калі на галлі, як цацкі на навагодняй ёлцы, свецяцца бела-жоўта-ружовым водсветам яны самыя — антонаўкі, чыстыя, крамяныя, важкія. Падганяй машыну са скрынкамі, здымай, раскладвай і вязі — хоць на выстаўку, хоць на кірмаш.

— Нарэшце дачакалася Людка. За адзін сад можна карову купіць,— гаварылі суседзі, не без зайздрасці кідаючы позірк на такое багатае дзіва.

Людка хадзіла па садзе, збірала апад, насіла кашы — не далёка куды, ссыпала тут жа пад яблыняй, каб можна было, калі хто захоча, узяць з кучы сабе. Але не гэта было багацце — багацце было ўгары на дрэвах, над галавой.

Нехта падказаў ці, можа, сама Людка папрасіла, але прыехаў нарыхтоўшчык з машынай і забраў увесь апад,

зрабіўшы ці не тры ходкі. Дамовіўся ўзяць і ўвесь астатні ўраджай, той, над галавой, калі яго добра зняць і раскласці па скрынках. Ён і скрынак прывёз, і Людка пачала акуратна абіраць яблыкі і раскладваць у скрынкі — радок на радок, шар да шара.

Часу ў яе было няшмат, падаспелі бульба і буракі — і свае, і калгасныя,— трэба было ўсюды паспець. Яна паціху і паспявала — скрынак у сенцах і летняй хаце ўсё большала, расла гара побач, на падлозе, гэтакіх жа прыгожых, налітых сокам, але тых, што самі шпокаліся з дрэва ці выслізгвалі з рук, калі Людка абірала яблыню.

Ніпто не робіць чалавека такім прыгожым, як адчуванне вартасці зробленага ім самім. «Вось я, вось усё маё, вось што я магу, а можа, магу яшчэ болей...» Людка здымала яблыкі, брала ў рукі гэтыя слізкія, матава-празрыстыя, нібы налітыя расплаўленым сонцам шары, і твар яе свяціўся гэтым расплаўленым святлом і святлом, што ішло з неба, той парой чыстага, празрыстага, рэзка-прахладнага, аж шчыпала ў ноздрах,— ці то ад прахалоды, ці то ад гэтых ядраных вострых асенніх пахаў.

Такім днём, якраз калі Людка стаяла на табурэце пад яблыняй, да яе і завіталі двое — хлапец і дзяўчына, ці дзевяцікласнікі, ці васьмікласнікі — рослыя, стройныя, прыгожыя, з тых следапытаў, што шукаюць магілы загінуўшых воінаў ці дзе хто ваяваў.

Людка злезла з табурэткі, зайшлі ў хату, селі за стол. Людка дастала са скрынкі свае старанна звязаныя ў хусцінку паперы, дасталі са свайго партфеля свае сшыткі і паперы «следапыты»... Елі яблыкі, са смачным хрустам адкусваючы маладымі зубамі крохкую мякаць. Людка з нейкім радасным пачуццём пазірала на іх светлыя твары, на прыгожыя здаровыя зубы, адчуваючы, як нешта забыта-даўняе мацярынскае ажывае ў грудзях, закіпаючы пад сэрцам трывожнымі слязьмі.

— Скажыце, як звалі вашага сына? Уладзімір ці Уладзіслаў? — спыталі яны.

— Уладзік, а як жа. Уладзік. А па метрыках — Уладзіслаў. Валодзя ці Уладзімір — гэта Сонін, ці як у нас яе звалі проста — Камісарышын.

— Уладзік вучыўся на лётчыка? — працягваў распытваць хлапец.

— Божа, як даўно гэта было. А ўжо ж, надта Уладзіку хацелася навучыцца лётаць. Ён то і Валодзік хацеў на

лётчыка, толькі не прайшоў камісію, а пасля ўжо з дому прызвалі ў армію, там і знайшоў магілу, яму героя далі, а мой Уладзік... і па сённяшні дзень невядома, дзе яго костачкі закапаны, калі закапаны. А во і яго фотакартка, адну толькі і прыслаў, прыйшла перад самай вайной.— Людка дастала з пакуначка фотакартку хлапца ў лётчыцкім шлеме з доўгімі вушамі, у скураных пальчатках па самыя локці.— Адну яе і паспеў прыслаць...

Хлапец асцярожна ўзяў у рукі пажаўцелую фотакартку — яна патрэскалася па краях, пазагіналіся беражкі яе,— доўга пазіраў, потым перадаў дзяўчыне, і яна асцярожна ўзяла яе і таксама доўга ўзіралася, пераводзіла вочы з фота на Людку, потым назад, і Людка бачыла, што ёй цяжка што-небудзь сказаць, бо на вачах у дзяўчыны накруціліся слёзы. Людка рашыла зрабіць ёй лягчэй, дапамагчы, забрала картачку з маладых рук, дакрануўшыся да іх сваёй шурпатай, але мяккай рукой.

— Ну што ты, дачушка, не трэба. Яму ўсё роўна не паможаш, мне таксама... Не трэба.— І пачала завязваць назад у хусцінку дакументы і фотакартку.

— Ну, а я табе што казаў? Так яно і ёсць,— прагаварыў хлопец да дзяўчыны, і яна кіўнула галавой, скрозь слёзы пазіраючы на Людку.

— Ведаеце, чаму мы прыйшлі да вас. Разбіраючы архівы ваенкамата для музея Славы, мы знайшлі вось гэтую старую тэлефанаграму.— Хлапец працягнуў Людцы невялічкую паперчыну, на якой быў чарнілам напісаны тэкст: «Владиславу Ивановичу Гуще, за героический поступок... присвоено звание Героя Советского Союза...» — Дык вось... мы рыхтуем экспазіцыю пра нашых слаўных землякоў, трэба ўсё правільна афарміць. Мы ведаем, у сяле, бывае, і так завуць чалавека, і так, чалавек мае па некалькі імёнаў, але ж гэта музей, гэта ж гісторыя.

Людка ўзяла ў рукі пажаўцелы лісток з выцвілымі словамі, прачытала раз, другі, паклала яго на стол, зноў узяла ў рукі паперчыну, паглядзела на гасцей, заматала галавой:

— Не, няпраўда. Не, гэтага не можа быць... Сама Соня, яна пошту насіла, два гады як памерла. Яна сама казала, што яе Валодзю далі героя, сама пісьмы прыносіла, пенсію атрымлівала за Валодзю. Не, гэта няпраўда. Уладзіслаў, Уладзік — гэта адно, а Валодзя...— Яна гля-

дзела то на хлапца, то на дзяўчыну, то на кавалачак паперы, які ўсё яшчэ трымала ў руках.— Праўда, пенсію яна заўсёды брала ў раёне, усім прысылалі ў сельсавет, а ёй давалі ў раёне. І віно яна заўсёды адтуль прыносіла.

Людка ўстала, падышла да акна, дзе было болей святла, прачытала яшчэ раз, задумалася, узяўшыся рукой за бараду, вярнулася назад да стала, нібы спахапілася:

— Дык што гэта я... Вы ж з дарогі, вы ж есці хочаце, а я вам яблыкі. Я зараз,— памкнулася ісці ў другую хату, але затрымалася.

— І колькі гэта,— яна паказала на паперку,— праляжала ў вас?

— Не ў нас,— удакладніў хлопец,— у ваенкамацкіх паперах. А колькі... паглядзіце, там і дата ёсць, унізе...

— А-а, праўда... тры... восем... сорак пяць... гэта сорак пяты год... Ага. Дык што ж гэта я... я зараз... есці вам зраблю...

Але госці ўжо ўсталі.

— Не, нічога не трэба. У нас тут яшчэ клопат ёсць, ды мы і з дому нядаўна...

— Ну, тады вазьміце яблычкаў, я вам зараз выберу... хаця што выберу, выбірайце самі, а лепей пойдзем пад яблыні, сарвіце, якія вам прыглянуцца. Самі сабе...— яна гаварыла і гаварыла, нібы нешта не давала ёй спыніцца. Заўсёды спакойная і ўраўнаважаная, раптам стала зусім інакшай — паспешлівай, узбуджанай, парывістай.

Госці разумелі яе і стараліся пакінуць адну. Хлапец сабраў паперы, запхнуў іх у партфель і цяпер пазіраў на паперку з тэлефанаграмай, якую гаспадыня трымала ў руках. Яна ўбачыла яго позірк, зразумела, што ён хоча ад яе, апярэдзіла:

— Можна, хай яна, тэлеграма гэта, пабудзе ў мяне? А пасля я вам аддам яе. Ці, можа, вы самі заедзеце, ці я прывязу. Я хачу паказаць яе... Хай пабудзе, га?

Хлапец зірнуў на дзяўчыну, яна кіўнула галавой, і ён пагадзіўся:

— Добра, я тут буду праз некалькі дзён і забягу да вас.

Яны выйшлі з хаты. Людка правяла іх пад яблыню, якую яшчэ не пачынала абіраць, пачала зрываць самыя вялікія, самыя прыгожыя яблыкі і соваць у партфель хлапцу, а пасля, калі партфель быў поўны, пабегла ў хату, знайшла нейкую торбачку і пачала рваць яблыкі

ў яе, напоўніла яе і перадала дзяўчыне, хоць тая ўпіралася як магла. Правяла іх на вуліцу і доўга стаяла, пазіраючы ўслед. Яны дайшлі да канца пасёлка, азірнуліся, Людка ўсё яшчэ стаяла, і яны памахалі ёй. І калі яны звярнулі з вуліцы і іх не стала відаць, павярнулася і павольна пайшла назад у хату. Зірнула на табурэтку, на якой стаяла, абіраючы яблыкі, але ў хату не забрала, хоць надыходзіў вечар, а нанач яна ніколі не пакідала ў садзе нічога лішняга.

У хаце яна доўга сядзела за сталом, з-за якога нядаўна ўсталі госці.

Далёка за сялом заходзіла сонца, і яго барвовы водсвет трывожным чырвовым колерам афарбоўваў печ, сцены, стол і ўсё, што было ў хаце. Адно ён не закрануў яе белага твару.

Узяла ў рукі сынаву фотакартку, правяла па ёй рукой, нібы на ёй былі нейкія парушынкі, доўга пазірала на яе, і было падобна гэта на гаворку двух жывых людзей, маўклівая гаворка вачэй: яна — яму, ён — ёй.

Назаўтра яна выйшла ў сад з самай раніцы. За дзень ababрала апошнюю яблыню, папераносіла ў сенцы апад, хаця які гэта быў апад? Нават сарваўшыся з галіны, яблыкі падалі ў траву — у садзе даўно не касілі — і зусім не біліся. Ды і зрываліся самыя важкія, самыя спелыя. Цяпер яны высокай пірамідай ляжалі на падлозе ў сенцах.

Потым бачылі, як яна ішла на рэчку з начоўкамі пад пахай — несла нешта мыць. Пасля таго яе ніхто не бачыў.

Калі б не стары Антось, да яе, можа, яшчэ дзён колькі ніхто і не зайшоў бы. А Антося прывёў голас казы. Ішоў па вуліцы і чуе: у Людкі бляе каза. Не на двары, не ў садзе, дзе яе звычайна навязвала Людка, а ў хляве. Антось ужо прайшоў быў далей па вуліцы, але гэты голас прымусіў вярнуцца і зайсці ў двор. Каза і праўда падавала голас з хлява. У хлеў Антось не пайшоў, а адчыніў дзверы ў хату. Яны былі не замкнёныя. Падаў голас — ніхто не азваўся. Зайшоў у чыстую хату — там таксама нікога. Адчыніў дзверы ў халодную палавіну і ўбачыў Людчыны чаравікі з высокімі халяўкамі. Яны былі старанна зашнураваны і былі на Людчыных нагах. Вышэй была сама Людка — уся ў чорным, і ад белай шыі, з-пад барады, ішоў шэры вераўчаны пасак, перакінуты цераз

крук. Некалі на гэтым круку летам вісела калыска. А ўнізе, пад нагамі і так блізка, што здавалася, быццам Людка стаіць на іх, ляжала гара буйных антонавак.

Антось выйшаў на двор, адчыніў дзверы ў хлеў, даў казе травы (нажатая, яна ляжала ладнай кучкай ля шулы), потым пайшоў на сяло сказаць, каб збіраліся бабы і ішлі прыгледзець Людку. Сам жа паклікаў суседа, і ўдвух, падставіўшы ўслон, яны знялі Людку з крука. Ніяк не маглі ўразумець, як яна так умудрылася: ні табурэткі, ні ўслона паблізу не было, і яблыкі пад ёй ляжалі акуратнай кучкай.

У хаце ўсё было вымыта і прыбрана. Стол засланы чыстым белым абрусам, а на ім сынава фотакартка і лісток з тэлефонаграмай.

## Біяграфічная даведка

Кудравец Анатоль Паўлавіч нарадзіўся 1 студзеня 1936 года ў вёсцы Аколіца Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці.

Нарадзіўся ў сям'і калгаснікаў. У 1951 годзе Анатоль Кудравец пасля сямігодкі паступіў у Слуцкае педвучылішча, якое скончыў у 1955 годзе. У кастрычніку 1955 года прызваны ў Савецкую Армію. Пасля вяртання з арміі, у 1958 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі БДУ. Скончыў універсітэт у 1963 годзе, працаваў рэдактарам літаратурна-драматычных перадач Беларускага радыё, літсупрацоўнікам газеты «Літаратура і мастацтва», у часопісах «Маладосць», «Нёман».

Упершыню ў друку Анатоль Кудравец заявіў пра сябе ў 1960 годзе цыклам кароткіх апавяданняў пра жыццё калгаснай вёскі. У тым жа годзе яго мініяцюры змясціў часопіс «Маладосць». Першая кніга апавяданняў «На зялёнай дарозе» выйшла з друку ў 1968 годзе. Творчасці пісьменніка ўласцівы глыбокі псіхалагізм, уменне праз побыт, непаспешлівае разгортванне падзей перадаць унутраны драматызм чалавечых характараў, лёс людзей на важных гістарычных этапах развіцця краіны.

Прыкметнай з'явай беларускай прозы стаў раман «Сачыненне на вольную тэму», у якім створаны маштабны, каларытны вобраз селяніна, сумленнага, шчырага працаўніка і абаронцы роднай зямлі. Анатоль Кудравец — аўтар сцэнарыя тэлефільма «Восеньскія яблыкі». На кінастудыі «Беларусьфільм» экранізавана яго аповесць «Раданіца». Выступае як перакладчык. Творы Анатоля Кудраўца перакладаліся на многія мовы.

Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, Ганаровымі Граматамі Вярхоўнага Савета БССР. У 1979 годзе ў складзе дэлегацыі Беларускай ССР прымаў удзел у рабоце XXXIV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

# ЗМЕСТ



**Апавяданні**




*Літаратурна-мастацкае выданне*

**КУДРАВЕЦ Анатоль Паўлавіч**

**ПОЗНІЯ ЯБЛЫКІ**

Раман, аповесць, апавяданні

Рэдактар Г. В. Роліч
Мастак А. І. Цароў
Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт
Тэхнічны рэдактар Л. В. Сторажава
Карэктар Я. А. Бебель
Аператары Н. П. Драп, В. В. Казырыцкая, Я. А. Бажэнава

Набор і вёрстка выкананы на камп'ютэрнай тэхніцы дзяржаўнага выдавецтва «Мастацкая літаратура». Падп. да друку 16.03.99. Фармат $84x100^{1}/_{32}$. Папера афс. № 1. Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 24,18. Ум. фарб.-адб. 24,77. Ул.-выд. арк. 27,69. Тыраж 3000 экз. Зак. 2602.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 19.11.97. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат ВПП імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Кудравец А. П.**

К 88 Познія яблыкі: Раман, аповесць, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1999.—494 с.— (Беларуская проза XX стагоддзя).

ISBN 985-02-0171-1.

Кнігу выбраных твораў Анатоля Кудраўца складаюць раман «Сачыненне на вольную тэму», аповесць «Радаціца» і апавяданні.

Раман, адзначаны ў 1986 годзе Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Якуба Коласа, прыйшоўся да душы патрабавальнаму чытачу. Апавяданні пашыраюць галерэю нацыянальных характараў, якія аўтар даследуе ў драматычных, часам трагічных акалічнасцях нашага жыцця.

**УДК 882.6-31**
**ББК 84(4Бен)6-4**